УДК 811.166.3’28(082)

Пяты выпуск выдання «Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні» прысвечаны пытанням дыялектнай лексікаграфіі і тэкстаграфіі. Значная частка прац у зборніку – гэта апрацаваныя архіўныя, а таксама этнаграфічныя лексічныя матэрыялы са спадчыны беларускіх народных гаворак XIX–XXI стст. Сучасная мясцовая беларуская гаворка ў форме тэкстаў з розных рэгіёнаў Беларусі прадстаўлена абмежавана. У тэкстаграфічную частку кнігі ўключаны галоўным чынам запісы з дзяржаўнага беларуска-расійскага, беларуска-польскага і беларуска-латышскага памежжа.

Інфармацыйна-даведачны блок матэрыялаў уключае паказальнік слоў, спісы скарачэнняў і іншыя звесткі.

Зборнік робіць важны ўклад у рэалізацыю фундаментальнага праекта «Зводны слоўнік беларускіх народных гаворак» і з’яўляецца запатрабаваным сярод лінгвістаў, этнографаў, гісторыкаў, а таксама ўсіх, хто займаецца родным словам.

Навуковыя рэдактары:
В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч



Рэцэнзенты:
доктар філалагічных навук Т. В. Валодзіна,
доктар філалагічных навук В. Д. Старычонак

# ПРАДМОВА

Зборнік “Беларуская дыялекталогія” (вып. 5), як і папярэднія публікацыі ў галіне дыялекталагічных даследаванняў, падрыхтаваны да друку супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі. У дадзеным выданні захоўваюцца традыцыі папярэдніх выпускаў. У сувязі са святкаваннем 90-годдзя вядомага беларускага дыялектолага, знакамітага лінгвагеографа А. А. Крывіцкага ў кнігу ўключана адна з яго даследчых работ – апытальнік для збірання матэрыялаў для “Лінгвістычнага атласа Еўропы”. Гэта зроблена асэнсавана, нягледзячы на тое, што да юбілею вучонага быў падрыхтаваны зборнік выбраных навуковых прац[1]. Названы апытальнік мае спецыяльны характар, ён дагэтуль не друкаваўся як асобная публікацыя і адрасуецца найперш даследчыкам у галіне лінгвістычнай геаграфіі.

Структура дадзенага зборніка нічым істотна не адрозніваецца ад ранейшых кніг. Праўда, у выпуску заўважаецца непрапарцыянальнае размеркаванне матэрыялаў. Яно ў многім, аднак, не выпадковае і абумоўлена неабходнасцю знаёмства навуковай грамадскасці з папярэднімі вынікамі працы, якая праводзіцца ў аддзеле па рэалізацыі маштабнага навукова-даследчага праекта “Зводны слоўнік беларускіх народных гаворак”. У сувязі з чым у лексікаграфічнай частцы кнігі змяшчаюцца словазборы, складзеныя шляхам выбаркі абазначальных лексічных сродкаў з кнігі “Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Цэнтральная зона” (2009), а таксама з тэкстаў, расшыфраваных і падрыхтаваных да друку па выніках дыялекталагічнай экспедыцыі ў Рэчыцкі раён Гомельскай вобласці. Уключаны сюды і іншыя невялікія лексічныя падборкі. Дастаткова багата прэзентаваны апрацаваныя архіўныя матэрыялы. Гэта найперш матэрыялы з моўнай спадчыны Я. Драздовіча. Для пятага выпуску былі падрыхтаваны “Пінскія падрыхтоўчыя матэрыялы: групы тэматычна звязаных і аднакарэнных лексем”. Дадзеныя матэрыялы дастаткова асцярожна можна назваць лексічнай базай звестак да ідэаграфічнага слоўніка, калі не браць да ведама дадатак, уключаны аўтарам у склад тэматычных груп слоў. Гэта лексічныя адзінкі, якія з тэматычнымі намінацыямі звязаны агульным коранем. У слоўніку аб'яднаны розныя групы абазначальных сродкаў, запісаных аўтарам у двух рэгіёнах Беларусі, – на Дзісеншчыне і Піншчыне. У аснову лексіка-семантычнай дыферэнцыяцыі і сістэматызацыі аўтарскіх матэрыялаў былі пакладзены прынцыпы адлюстравання абазначальных сродкаў, прынятыя да папярэдне падрыхтаваных у аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі тэматычных слоўнікаў[2]. Улічаны таксама прынцыпы групоўкі і адлюстравання абазначальных сродкаў, увасобленых у “Лексічным атласе беларускіх народных гаворак” (1993–1998).

Адметную частку раздзела па прэзентацыі архіўнай моўнай спадчыны складае словазбор, вядомы ў навуковых крыніцах па вывучэнні беларускай лексічнай спадчыны пад назвай “А. В. Ярушевич. Русско-белорусский словарь”. У дадзеным выпуску друкуюцца матэрыялы на літары А–Д. Знаёмства з іх зместам дазволіць адказаць на многія пытанні, датычныя асаблівасцей і характару дадзенага лексічнага каталогу, у тым ліку, чаму словазбор, складзены напачатку XX ст., нягледзячы на яго высокую сацыяльную запатрабаванасць, не быў у свой час надрукаваны.

---

[1] Крывіцкі А. А. Выбраныя працы. Мінск: Беларус. навука, 2017. 676 с.

[2] Жывёльны свет: тэмат. слоўн. Мінск: Беларус. навука, 1999. 239 с.; Раслінны свет: тэмат. слоўн. Мінск: Беларус. навука, 2001. 655 с.; Чалавек: тэмат. слоўн. Мінск: Беларус. навука, 2006. 573 с.; Сельская гаспадарка: тэмат. слоўн. Мінск: Беларус. навука, 2010. 527 с.

Вялікую каштоўнасць мае таксама слоўнік, выбарка матэрыялаў для якога праводзілася з этнаграфічных і фальклорных крыніц. Па сутнасці, гэта першы вопыт такой абагульняючай слоўнікавай працы. Наяўныя лексічныя падборкі, якія часам змяшчаліся ў асобных фальклорна-этнаграфічных выданнях, выконвалі, як правіла, ролю тлумачальных лексічных дадаткаў па раскрыцці значэння асобных слоў.

Усе словазборы ў аўтарскіх артыкулах упарадкаваны алфавітна, за выключэннем, зразумела, выпадкаў, калі рэестр фарміраваўся з улікам тыпу слоўніка. Граматычныя і іншыя паказчыкі, якія ўказваюцца пры загаловачных словах, з'яўляюцца агульнапрынятымі ў сучаснай слоўнікавай практыцы. Скарачэнні і іншыя даведачна-інфармацыйныя матэрыялы, ужытыя пры афармленні слоўнікавых артыкулаў або наогул выкарыстаныя ў зборніку, уніфікаваны і не адрозніваюцца ад тых, што выкарыстоўваліся ў ранейшых выданнях зборніка.

Адметная па месцы ў лексічнай сістэме мовы група слоў, якія абазначаюць родавыя прозвішчы людзей, іх мянушкі, прэзентуецца багатымі на антрапанімічныя звесткі матэрыяламі з Брэстчыны.

Раздзел "Анамастыка" тэматычна неаднастайны. Пэўная яго частка – гэта тапанімічныя слоўнічкі з перавагай у іх мікратапомімаў. Яны складзеныя на аснове матэрыялаў, сабраных студэнтамі ў час дыялекталагічнай практыкі з тэрыторыі сярэднебеларускіх гаворак. Такія падборкі надзвычай важныя не толькі як крыніца для папаўнення інфармацыйнай базы анамастычнага банку, яны карысныя для раскрыцця гісторыі складвання цэнтральных гаворак Беларусі з улікам месца і ролі дадзеных гаворак у нацыянальным моватворчым працэсе. Змяшчаюцца тут і некаторыя іншыя анамастычныя групы слоў. Адметнай сярод іх з'яўляецца падборка заанімічных найменняў, сабраных даследчыкамі на тэрыторыі Гродзеншчыны.

Раздзел "Навуковыя даследаванні" традыцыйна сціслы, яго складаюць матэрыялы рознага тэматычнага зместу. Частка іх – гэта намінацыйныя сродкі пэўных тэматычных груп слоў, якія вывучаюцца з пазіцый іх арэальнай лакалізацыі. Іншыя публікацыі прысвячаюцца як пытанням дыялектнага сінтаксісу на этапе станаўлення беларускай літаратурнай мовы, так і праблемам функцыянавання беларускіх гаворак на Беласточчыне.

У раздзеле "Тэксты з беларускіх гаворак" падаюцца галоўным чынам матэрыялы не з тэрыторыі гаворак беларускай нацыянальнай мовы, а з іх этнагенетычнага абшару. Сёння гэта памежныя з сучаснай Беларуссю гаворкі Пскоўшчыны, Беласточчыны, а таксама Латгаліі. Тэксты з беларускіх гаворак Падляшша[1] і Пскоўшчыны[2] з'яўляюцца вынікам працы сумесных дыялекталагічных экспедыцый беларускіх навукоўцаў з расійскімі і польскімі моваведамі. Тэксты з Латгаліі запісаны і падрыхтаваны да друку польскім беларусістам М. Янковякам. Усе запісы гукавога матэрыялу і іх расшыфраваныя тэкставыя адпаведнікі з беларускай этнамоўнай прасторы маюць надзвычай вялікую каштоўнасць для нацыянальнай навукі і культуры. Але, калі тэксты з беларускіх гаворак сучаснай Польшчы і Латгаліі, ужо добра вядомы ў лінгвістычных навуковых колах дзякуючы публікацыям польскіх даследчыкаў[3], то сучасныя запісы з прасторы лакалізацыі паўднёвай групы пскоўскіх гаворак дагэтуль запісваліся выключна расійскімі даследчыкамі[4]. Беларускія дыялектолагі ў рэгіёне памежных віцебска-пскоўскіх гаворак робяць запісы ўпершыню

[1] Наведванне кантактнай беларуска-польскай зоны адбылося ў рамках рэалізацыі сумеснага навукова-даследчага праекта "Даследаванні ў галіне дыялекталогіі і лексікаграфіі беларускай і польскай моў". Дадзены праект выконваецца сумесна Інстытутам славістыкі ПАН і Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі.

[2] Абследаванне тэрыторыі Пскоўшчыны праводзіцца міжнародным калектывам вучоных, супрацоўнікаў Інстытута лінгвістычных даследаванняў РАН і Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа, у сувязі з выкананнем навукова-даследчага праекта "Лінгвістычны ландшафт руска-беларускага пагранічча: сучасны стан і гістарычная рэтраспектыва". Гэта міжнародная навукова-даследчая праца ажыццяўляецца дзякуючы фінансавай падтрымцы БРФФД (№ Г16Р-034).

[3] Гл., напрыклад: Янковяк Міраслаў. Беларускія гаворкі ў Краслаўскім раёне Латвіі: сацыялінгвістычнае дасьледаваньне. Беласток: Беларус. гіст. т-ва; Вільня: Ін-т беларусістыкі, 2012. С. 198–222; Kulturowo-językowe dziedzictwo Podlasia / pod red. Niny Barszewskiej, Mikałaja Chaustowicza, Mikołaja Timoszuka. Warszawa: Sowa Sp. zo.o, 2016. Т. 1–3.

[4] Народные сказки Псковского края: монография: в 2 ч. / под ред. Н. В. Большаковой, Г. И. Площук; сост.: Н. В. Большакова [и др.]. Псков: ЛОГОС, 2016. Ч. 1: Тексты. Комментарии. Исследования. Аудиоприложение. 618 с.; ч. 2: Указатели. Справочные материалы. Нотное приложение. 144 с.; Великая Отечественная война в зеркале народной речи и фольклора: Тексты. Исследования. Аудиоприложение / под общ. ред. Н. В. Большаковой, Г. И. Площук; сост.: Н. В. Большакова [и др.]. Псков: ЛОГОС, 2016. 322 с. (у выданне ўключаны таксама тэксты з розных раёнаў Віцебскай вобласці).

пасля працяглага, звыш 80-гадовага перапынку. Якраз у пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя асобныя раёны паўднёвай Пскоўшчыны былі экспедыцыйна абследаваны П. А. Бузуком[1]. З улікам сказанага новыя запісы з паўднёвага арэала гаворак Пскоўшчыны і Віцебшчыны, якія рэпрэзентуюць асобную, паўночную падгрупу гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы, з'яўляюцца надзвычай актуальнымі як у плане сістэмна-структурнага апісання іх сучаснага стану, так і выяўлення ў іх характару развіцця канвергентна-дывергентных працэсаў. Тэматычна тэксты маюць розны змест, але значная частка іх скіравана на назапашванне супастаўляльнага лексічнага матэрыялу для стварэння суадносных корпусаў абазначальных сродкаў з кантактнай віцебска-пскоўскай моўнай зоны. Тэксты з мэтай іх даступнасці ўсім зацікаўленым чытачам падаюцца ў спрошчанай арфаграфічна адаптацыйнай форме. У іх адлюстроўваецца аўтарскае ўспрыняцце і перадача мясцовай гаворкі.

Новы выпуск дыялекталагічнага зборніка з'яўляецца найперш багатай базай навуковай інфармацыі, запатрабаванай як пры правядзенні разнастайных аналітычных лінгвістычных даследаванняў, так і пры выкананні міждысцыплінарных і іншых даследчых праектаў. Думаецца, што ён таксама знойдзе сваё прымяненне і ў іншых сацыяльна-культурных сферах нашага жыцця.

*В. М. Курцова*

[1] Бузук П. А. Да характарыстыкі паўночнабеларускіх дыялектаў: Гутаркі Невельскага і Вяліжскага паветаў. Мінск, 1926. 15 с. *Яго ж.* Бузук П. А. Спроба лінгвістычнае геаграфіі Беларусі. Ч. I: Фанетыка і марфалогія. Вып. 1: Гаворкі Цэнтральнай і Усходняй Беларусі і суседніх мясцовасцей Украіны і Велікарусі ў першай чвэрці XX в. Мінск, 1928.

# З ЛЕКСІКІ НАРОДНЫХ ГАВОРАК

*Антон Бубала*

## АДМЫСЛОВЫЯ СЛОЎЦЫ З ГАВОРКІ ВЕРХНЯДЗВІНСКАГА РАЁНА

Гаворкі Верхнядзвінскага раёна на лінгвістычным ландшафце беларускай мовы займаюць ускраіннае памежнае становішча. Яны мяжуюць з сучаснымі рускімі (пскоўскімі) і латышскімі гаворкамі. Мясцовыя гаворкі Дрысеншчыны (былая гістарычная назва Верхнядзвінскага раёна) паводле навуковага лінгвагеаграфічнага падзелу ўваходзяць у склад паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы, яго полацка-мінскай групы. Складам сваіх поліструктурных асаблівасцей полацка-мінскія гаворкі мала чым адрозніваюцца ад сярэднебеларускіх гаворак. Гэта цвёрдаэрыя, акаючыя гаворкі, аднак аканне мае тут некаторыя спецыфічныя рысы. Дыялектнае аблічча верхнядзвінскіх гаворак у адрозненне ад сярэднебеларускіх характарызуецца і тым, што на структурна-сістэмным узроўні тут захоўваюцца асаблівасці, якія сведчаць пра гістарычныя сувязі дадзеных гаворак з пскоўскімі, у прыватнасці з іх паўднёвай групай. Адметнасці, абумоўленыя этнагенетычнымі асаблівасцямі складвання і гісторыяй развіцця мясцовых гаворак, іх тэрытарыяльнае становішча адлюстроўваюцца ў сродках моўнага забеспячэння маўлення жыхароў раёна.

Склалася так, што спецыяльнае навуковае апісанне мясцовых гаворак[1] у беларускім нацыянальным мовазнаўстве было праведзены фактычна ў 40-я гады мінулага стагоддзя, у час, калі збіраліся матэрыялы для дыялекталагічнага атласа беларускай мовы. Мэтавае абследаванне гэтых гаворак ажыццяўлялася і пры збіранні матэрыялаў для лексічнага атласа. У 2017 г. у сувязі з рэалізацыяй навукова-даследчага праекта “Лінгвістычны ландшафт руска-беларускага пагранічча: сучасны стан і гістарычная рэтраспектыва” ў раёне ўпершыню пасля працяглага перапынку праводзілася дыялекталагічная экспедыцыя, падчас якой рабіліся запісы гаворкі мясцовых насельнікаў. Пры правядзенні экспедыцыі адбылася наша сустрэча з Антонам Бубалам, супрацоўнікам мясцовага краязнаўчага музея г. Верхнядзвінска, вельмі цікавым чалавекам, захопленым гісторыяй свайго краю, лёсам яго жыхароў, чалавекам, не абыякавым да багаццяў мясцовай дыялектнай мовы. Вынікам той памятнай сустрэчы з’яўляецца прапанаваная ніжэй падборка слоў з Верхнядзвінскага раёна.

У словазборы цалкам захоўваецца аўтарскі тэкст запісу. З навуковага пункту гледжання дадзеныя запісы нельга лічыць ні ўласна адаптаванымі да літаратурнай мовы, ні мясцовымі дыялектнымі, паколькі фанетычныя асаблівасці гаворкі перадаюцца няпоўнасцю і непаслядоўна. Аднак і ў такім выглядзе, улічваючы адсутнасць дыялектных матэрыялаў з тэрыторыі Верхнядзвінскага раёна, яны надзвычай важныя сваім лексічным складам.

**А́БАДЫ** *мн.* Пачастунак з выпіўкай пасля забою свінні (шырока адзначаецца ў в. Сар’я). *Гой! Учо́ра а́бады спраўля́лі ў Гірдзюко́ў – дык аж сёння ўспаміна́еццa. Алé ж і парсюк быў – пудо́ў на два́ццаць!*

**АБЕ́ЧКА** *жс.* 1. Абечак; драўляная аснова (вобад) у рэшаце. *Рэ́шата – у мяшо́к. Абе́чка зма́жаш тро́ху чым ёсць – сало́дкім там ці смята́най мазанéш, вот му́хі і налéзуць. А тады́ мяшо́к – хоп! Мух тых страсéш, рэ́шата скóранька вы́цягнеш, а тады́ з мяшко́м тым на двор – ды аб ву́гал ско́лькі разо́ў, а ку́ры ўжо зна́юць – збягу́цца, і зваць не на́да!* 2. Матавіла для змотвання пражы.

**АБЛО́Й** *м.* Ападкі ў выглядзе дробных кавалкаў лёду. *Дзе́ткі, сяго́дня на двор – ні-ні! Абло́й зра́ння ліе́ць. Саба́ка вун па снéзе хо́чаць бе́гчы, ды ва́ліцца!*

**АТЛО́Й** *м.* 1. Запруда перад млыном. 2. Назва мясціны, дзе некалі была запруда. *На Атло́і ране́й ду́жа ры́ба лавілася. А ціпе́р вот сéна ко́сюць.*

**АТО́КА** *жс.* Старыца; старое перасохлае рэчышча (у пойме Дрысы). *Бо́ркавіцкія ўсе на ато́ках ры́бу ло́вюць – што та́я Дры́са!*

**БА́ЙНЯ** *жс.* Лазня. *І хто ж гéта сяго́дня ба́йню ла́дзіў? Ду́жа ж фа́йная ба́енька!*

[1] Гл.: Гайдукевич И. М. Говоры Дриссенского района Витебской области: автореф. ... дис. канд. филол. наук. Минск, 1954. 14 с.

**ВАЎЧО́К** *м.* Бычок-падкаменшчык (рыба). *Ну́тка, ма́льцы, бяры́це відэ́льцы – ды на рэ́чку! Ваўчко́ў ды курмялёў нако́ліце – дык вам і жа́ранка бу́дзіць.*

**ВУЛЬ-ВУЛЬ** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць авечак. *Вуль-вуль-вуль! А ву́ліньκі мае́, вы ж у по́лі нае́ліся!*

**ВЫ́ЛІВАК** *м.* Вылівак; яйка, знесенае без шкарлупіны. *Му́сі, ге́ту ку́рыцу рэ́заць на́да. Апя́ць вы́лівак знясла́!*

**ВЫЛІНҐА́ЦЦА** *незак.* Выстаўляцца. *Апя́ць жа Гэ́лька вылінґаецца! Глянь – кімсы накруціла – і яна́ ўжо не така́я, як усе́. І ўшчо з ру́скага ціўкаіць!*

**ҐУ́ҐЕЛЬ** *м.* Бабка; страва з дранай бульбы. *Ах ей, ба́бкі, не ляніцеся! Кацёл ґу́ґелю пастаўце – дык усім на дзень хваціць. Скварачкі з цыбу́лькай не жале́йце ды са смята́нкай падава́йце.*

**ДУБІ́ЦА** *ж.* Човен з выдзеўбанага бервяна. *А ў нас на Лісічанскім во́зеры ня ло́дка, а дубіца была́. Са́мі вы́дзеўбалі – што там за навука! На рэ́чку ж з ей не пале́зеш, не ўпра́вісся на быстраках.*

**ЖЭ́ҐІНІ** *мн.* Азярод для сушкі бобу. *А мой ужо́ і жэ́ґіні паста́віў. То́лькі ўпіра́йся ба́ба – бо́бу ж вун ско́лькі насе́ялі!*

**ЗАБЛЕ́ДЫШ** *м.* Разбэшчаны, зладзеяваты юнак, мужчына. *У-у, паглядзіце: апяць ге́нан забле́дыш паўзе́ць, так і глядзі, што-ні́будзь сціўрыць!*

**ЗАЖА́ЦЦА** *зак.* Моцна стаміцца жнучы. *Ох, цяжанька было́ жаць! Я так зажа́лася, што ўжо і не цямлю ні́чо́га.*

**ЗБЯЁДАЦЬ** *зак.* Змарнаваць. *Ай-яй-яй! Таку́ю красату́ збяёдаў! Яму́ што не дай – усё, як у кало́дзісь кі́нуў. Вядо́ма – не сваім трудо́м здабы́та.*

**КАЗА́** *ж.* Галец (рыба). *Э-э! Казу́ ты рукой ці відэ́льцам ня зло́віш. Ду́жа ж яна́ вёрткая. Во, глядзі: стаіць-стаіць, а тады́ жыг – і нет яе́! Але́ каб і злавіў – дык нашто́, яе́ не ядуць.*

**КАКЕ́РКІ** *мн.* Заплечча. *От, мой ма́лый лю́біць, каб яго́ на каке́ркі ўзялі. Тады́ ўжо сядзіць ды паганя́іць: – Но-о!* ◊ УЗЯ́ЦЬ НА КАКЕ́РКІ. Пасадзіць на шыю.

**КАКО́РА** *ж.* Тоўсты блін з дранай бульбы на ўсю патэльню. *Вядо́ма ж, како́рыну лягчэ́й, чым ты́я дра́нікі, спя́чы. Вот і сяго́дня ў мі́не како́ра – на ўсю патэ́ліну!*

**КАКО́РЫНА** *ж.* Тое ж.

**КА́КТА** *ж.* Лыжка-лапатка (ад лат. kakts, вузкаўжывальнае). – *Ма́ма! А чаго́ ге́та ка́кты бо́лі ні ў ко́га нет! – А дык, дзе́ткі, ге́та ж яна́ ў нас з Ла́твіі. Як нас з ла́гера на ху́тар узялі, дык по́слі яна́ з на́мі і дадо́му пае́хала.*

**КАЛАТУ́ХА** *ж.* Калатуша; яечня з цэлымі жаўткамі і пакладзенымі на паверхню крупінкамі крухмалу. *Сяго́дня по́зненька, дык мы калату́ху зла́дзім. Дзе́ткі ж любяць, каб яшчэ́ і з во́чкамі.*

**КАМЫ́** *мн.* Малочная (забеленая малаком) страва, пры прыгатаванні якой у кіпень кладуць шарыкі з цёртай бульбы. *Мае́ рабя́ты і без мі́не камы́ зва́руць. Вун ужо́ і аго́нь за ву́ліцай расклалі. А як вада́ закіпіць, дык яны́ сра́зу і камы́ кача́юць ды ў кацёл кіда́юць. Успе́юць – іх жа ў мяне́ як тых камо́ў, не злічы́ць!*

**КАНЕ́ЎНІК** *м.* Вялікі воўк "з грывай". *Э не, бра́тка! Кане́ўнік табе́ – ня про́сты воўк. У яго́ ж гры́ва, ды й сам такі́й бальшы́й – што яму́ каня́ завалі́ць!*

**КАСАПЛЁТКА** *ж.* Каснік, стужка для валасоў. – *Ма́ма, у Гіле́ны такія касаплёткі красі́выя! – Ай, дзе́тка, ты ў мі́не і з ге́тымі краси́вая. Іх жа табе́ хрэ́сная падары́ла!*

**КІДА́НІКІ** *мн.* Малочная (забеленая малаком) страва, пры прыгатаванні якой у кіпень лыжкай кідаюць густаватае цеста. *Бяры́це лы́жкі ды кіда́йце ў кацёл, то́лькі не абпы́рскайцеся. І во, глядзіце, якое це́ста на кіда́нікі ро́біцца: не густо́е і ня жы́дкае.*

**КІЛУ́Н** *м.* 1. Непакладаны вяпрук. *Сёлета ў Чапука́ кілу́н кі́нутый. Але́ які́й там кілу́н – кілушо́к.* 2. эмац.-ацэн. Пра разбэшчанага, распуснага мужчыну-валацугу. *Ае́й, Мальві́на з бру́хам хо́дзіць. Му́сі, Юзю́к, кілу́н ге́нан, падстро́іў!*

**КІ́ШКА** *ж.* Крывянка, крывавая каўбаса; пры яе прыгатаванні ў кроў дадавалі крупы. – *Ма́ма, а кі́шка ско́ра спячэ́цца? – Ужо́ спякла́ся, дзе́ткі. Сяго́дня ў нас сма́шная – крывя́ная.*

**КЛІ́МПЫ** *мн.* Малочная (забеленая малаком) страва, прыгатаваная з самаробнай высокагатунковай лапшы [лапша рабілася з яек і мукі, наразалася шырокімі палоскамі]. *Ого́! Клі́мпы, мо́жа, то́лькі ў нас. Ба́бка на́ша ў Ла́твіі навучы́лася. Ды й што там вучы́цца! Гла́ўнае, каб яйко́ ды, мо́жа, ма́сла тро́ху. Як там – яна́ ж не ка́жаць. Сікрэ́т. Раскача́й це́ста то́нenька, а тады́ наразай так шыро́канька.*

**КУ́КЕРКІ** *мн.* ◊ НА КУ́КЕРКІ. Сагнуўшы ногі ў каленях. *І ге́нан бэ́йбус, як ма́лый, пад стол на ку́керках пале́з.*

**КУКСЬ-КУКСЬ** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць свінчо. *Куксь-куксь! Во які́й агуро́чак да мяне́ бяжы́ць!*

**КУЛЬША́** *ж.* Клуб, тазабедраны сустаў. *Куды́ ўжо мне на гаро́д! Во – і па́льцы як гра́блі, і кульша́ так балі́ць – ні сагну́цца, ні вы́прастацца!*

**КУРАЯ́** *ж.* Асоба, жывёліна з невыразнымі палавымі прыкметамі; гермафрадыт. *Вун, глядзіце: курая́. У свіне́й ге́та нярэ́дка быва́іць. Але́ ж і ў людзе́й такса́ма. У бальні́цы заве́ць мі́не адзі́н раз ба́бка: "Хадзі́, чартка́ табе́ пакажу́!" Аж там ні ма́льчык, ні дзе́вачка – курая́.*

**КЯТУ́РКА** *ж.* Прарэх, шырынка ў мужчынскіх штанах. *Зашпілі кяту́рку, а то струк гуса́к атарве́ць!*

**МАЖДЖА́ЛЬ** *ж.* Вялікая, звычайна шырокая, забалочаная паляна сярод лесу, прыдатная для сенакосу. *Сёлета ў Лі́паўскай мажджа́лі трава́ ні́чо́га. З кра́ю дык саўсі́м до́брая, а да цэ́нтры мо́жна тро́ху і асакі́ прыхваці́ць. А на́ша мажджа́ль ужо́ ня ко́сіцца – лаза́ ды бало́та.*

**МАКА́НКА** *ж.* Мачанка (страва). *У нас ка́ждае ра́нне мака́нка. Усе́ лю́бюць, каб са́ла вы́жарылася, а тады́ йшчо смята́нкі. Рэ́шата бліно́ў змало́цюць!*

**МАЛІМО́НКА** *ж.* Пераборлівая, капрызуля, фарсуха (пра дзяўчыну, жанчыну). *Аго́! Да ге́тай малімо́нкі так не пад'е́дзіш. Во нагару́ецца, хто яе́ за́муж во́зьміць!*

**МА́РЫ** *мн.* Драбіны з высокай абрашоткай для сена. *Усе́ ма́ры пазапрага́лі. Садзі́цеся, то́лькі но́гі ў калёсы не пусці́це!*

**МАЧО́НІК** *м.* Грыб-млечнік. *А я ж мачо́нікі за ўсё ле́пі люблю: і кра́сныя, і зялёныя, а са́ма ле́пі сі́венькія. Іх і атва́рываць не на́да, сыры́мі салю.*

**НАГДО́ЕНЬ** *прысл.* Напярэдадні. *Нагдо́ень пашла́ ў я́гады ды заблудзі́лася каля Мо́край Імша́ры.*

**ПО́СІК** *м.* Кавалак сала з падбрушша парсюка, які выкарыстоўваўся для змазкі ботаў. *Ці вы́разалі ж, ма́льцы, по́сік, а то ўжо ста́рый ссо́хся.*

**ПРО́ГРЫЗЬ** *ж.* Пупочная грыжа. *Ай, у Мі́лічкі ж про́грызь. Ге́та ў бе́днай з абарва́ніны.*

**ПРО́РВА** *ж.* Назва старыцы; месца выкарыстоўваецца як сенакос.

**ПРЫСЛО́Н** *м.* Назва схілу рачной пясчанай даліны. *Сяго́дня выганя́йце каро́ў на Прысло́н. Там на со́нцы дзе ў пясо́чку но́жкі пагрэ́еце, а то раса́ ду́жа ж сцюдзёная.*

**ПУ́ЙКА** *м.* Хлопец (з лат.). – *Эй, пу́йка! Куды́ так прыфранці́ўся? – Я табе́ ня пу́йка, я ма́лец! – Ай, які́й з цябе́ ма́лец? Пу́йка!*

**ПУК** *м.* Лісты шчаўя са сцяблінай з суквеццем. *По́йдзем у кіслі́цу на Шыро́кія Шнуры́. Там пукі́ до́брыя – ам-ам!*

**ПУР** *м.* Мера аб'ёму сыпучых рэчываў вагой ад двух да двух з паловай пудоў.

**ПУ́РА** *ж.* Тое ж. □ *Радзі́, Бо́жа, з пу́ры (з пу́ра) га́рнец!*

**ПЯЦЕ́ЛЬКА** (піце́лька) *ж.* 1. Жаночы орган. *Ажані́ўся Петрачо́к, узя́ў Даміцэ́льку, пасадзі́ў на прыпічо́к, вы́кусіў піце́льку!* (прыпеўка). 2. *эмац.-ацэн.* Пра распусную, лёгкіх паводзін жанчыну, дзяўчыну. *Апя́ць ге́на піце́лька паплі́ла́ся па чужы́х дварах!*

**РАБЛЁНКА** *ж.* Вязаная хустка з вузялкамі. *А ге́та ж зіма́ была́. А я дзяце́й пахвата́ла, а сама́ то́лькі раблёнкай абхіну́лася ды на бо́сыя но́гі рызі́навікі ўссу́нула – і так уцяка́ць. А круго́м ужо́ ўсё гары́ць...*

**РАЗЖАҐЕ́РЫЦЦА** *зак.* Раскірэчыцца, расставіць ногі. *Ох, цяжанька было́ жаць! Іду́ дадо́му, а тут і Адо́льфа як ухажо́р прыстро́іўся, не́шта гаво́рыць. А я так зажа́лася, што ўжо і не ця́млю ні́чо́га. А даўне́й жа пад спадні́цу ні́чо́га не надзява́лі. Дык я ста́ла пасяро́д даро́гі, разжа(ы)ґе́рылася і сцу. А ён на мі́не: "Во, ё..!"*

**РАЎҐЕ́НЯ** *ж.* Саладуха; саладжавая вадкая страва з жытняй мукі. – *Ма́ма! А раўге́ню ты зла́дзіш? – Зла́джу, дзе́ткі, то́лькі ж на́да жы́тнюю муку́ засаладзі́ць.*

**СЕ́НДЗЕЛЬ** *м.* Сядун. *Ге́нан се́ндзель кілава́тый саўсі́м ашале́ў. Як дро́вы вёз, дык конь у ву́лцы ні́як са́ні са сне́гу ня вы́цягніць. А ён яму́ р-раз – ды тапаро́м па лбе! Забі́ў здыхляка́ бе́днага.*

**СЕРАВУ́ХА** *ж.* Прамая кішка. *І серавуху накра́паем, бу́дзіць вам кілбаса́ партна́я.*

**СЕ́РАН** *м.* Шарпак; цвёрды верхні пласт снегу пасля адлігі. *Во се́ран дзіржа́ў! Я і на кані́, і на жыгуля́х напраму́ю цераз Гаёк па по́лі е́здзіў!*

**СІР** *м.* Жуйка ліловага колеру з яловай смалы [слова прынесена ў мясцовы слоўнік былымі вязнямі Поўначы]. *Пашлі́ ў Бо́жый Садо́к, сір бу́дзем жува́ць. Там смала́ до́брая. Спі́рва́ жуе́ш ды сплёвываеш, а тады́ ўжо така́я сірэ́невая палуча́ецца, дык жуй, паку́ль пашчэ́нкі забаля́ць. Ду́жа сір пале́зный зуба́м.*

**СТАГІ́Р** *м.* Азярод з двух А-падобных драбін для сушкі гароху, сена. *Ідзі́це, ма́льцы, саста́ўце стагі́р ды паскла́дайце се́на. А то дождж не дасць на по́жні вы́сушыць.*

**СТУПЯ́К** *м. эмац.-ацэн.* Пра вельмі ўпартага натурыстага чалавека. *У-у, ге́тат ступя́к! Як уле́зіць яму́ што ў мазгаўню́ дурну́ю, дык хуць плач перад ім – усё на сваі́м, зара́за ўпі́рыстая!*

**СЦЯМБУ́Р** *м.* Сцябло. *Ай, які́й там сенако́с – адны́ сцембуры́. І конь зу́бы сто́чыць!*

**СЫ́КСТА** *ж.* Пранырлівая жанчына [з латгальскіх гаворак, хоць у іх слова выкарыстоўваецца ў іншым значэнні]. *Глядзі́це, ужо́ адку́ль-не адку́ль сы́кста ге́на паўзе́ць. Мо́жа, дзе спекулі́равала.*

**СЫ́РНІК** *м.* Торбачка, клінок, які выкарыстоўваецца для сцякання сыроваткі ці для сушкі тварагу (сыру). *Вазьмі́це на рэ́чку, дзе́ткі, сы́рнік. Папало́шчыце, а тады́ й рыбы́ ім нало́віце. То́лькі шэ́рак павыкі́двайце, іх за ўсё бо́лі нале́зіць. А іх жа не ядуць – го́ркія.*

**ТУРЧО́К** *м.* Мядзведка (жывёлінка). – *Дзя́дзя Ві́ця, а што ге́та за пту́шка свяргочаць? – Ге́та, ма́льцы, турчо́к. Іх у нас тут пачці́ што нет. Але́ калі́ пападзе́цца, пакажу́ вам. Ге́та ня пту́шка. Стра́шны-ый!*

**ЦУКУ́ТКА** *ж.* Ласкавая падзыўная назва для парася. *Цуку́тка ты мой! Дажыда́іць мі́не і не ві́шчыць, як вун ге́нан пурзэ́ль.*

**ШКІ́РА** *выкл.* Выгук, якім падганяюць авечак. *Шкі́ра, ваўка́ на вас нет! А ўсё ге́на зэ́лька стара́я звбдзіць у шко́ду. Зарэ́ж яе́, ба́цька, сяго́дня ж!*

**ЮСЬ** *выкл.* Выгук, якім падганяюць свіней. *А юсь, памаўза́! Каб ты спруцяне́ла, во́уча мя́са!*

*Л. П. Кунцэвіч*

## ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК ДЫЯЛЕКТНАЙ ЛЕКСІКІ

(з *тэкстаў, апублікаваных у "Хрэстаматыі па беларускай дыялекталогіі. Цэнтральная зона" (Мінск, 2009) (працяг)*

**АБМЕ́ЦІ** *мн.* Амецце. *Абме́ці там не́кіе былі́, каню́ дава́лі гэ́тые абме́ці – там дзе-нідзе́ каласо́к.* Шчуч.

**АБМЕ́ЦІЦА** *ж.* Мука, што сабіралі, вымятаючы млын пасля памолу. *А што мы е́лі? Ну та́та там ужэ́ мукі́ не́йкай, абме́ціцы, што абміта́я, вады́ і паме́ся, печ вы́тапя і ў печ укі́ня гэ́тага, як зва́лі, праcна́к.* Лаг.

**АБРА́ТНЯ** *прысл.* Зноў. *Тады́ падыма́ем лён і абра́тня ў снапы́ вя́жым.* Бярэз.

**АБУ́ТКА** *ж.* Абутак. *Гэ́то като́рая бага́тчая ўжэ круціла но́сам. Кры́шку ле́пша адзе́та да на нага́х абу́тка ле́пша была́.* Зэльв.

**АБХІНА́ЦЬ** *незак.* Абіваць, змятаць (венікам ад снегу). *А мы такіе, у мяце́лі. А ма́ма мяне́ абхіна́ець гальнікóм.* Віл.

**АГАДА́ЦЬ** *зак.* Набыць, прыдбаць. *Старэ́йшые ў ла́пцях танцава́лі, а мы ўжо не. Ужэ́ хто баці́начкі, хто та́пачкі агада́ім.* Бярэз.

**АГЛАШЭ́ННЕ** *н.* Абвяшчэнне пра вяселле. *Я пашла́ на аглашэ́нне (ране́й ішчэ́, паку́ль да вясе́льля), дак ба́цюшка пыта́е ў мяне́ малі́тву, а я ні ве́даю. А ён ка́жэ: "Няго́ ж цябе́ твая́ ба́ба ні вы́ўчыла?"* Навагр.

**АГО́ЎТАЦЦА** *зак.* Сцішыцца, супакоіцца. *Як гэ́та аго́ўталась усё, прышлі́ мы ў сваé ха́ты, так і ста́лі жыць.* Круп.

**АГРАБА́ЦЬ** *незак.* Абматычваць. *Сусе́тка аграба́ла карто́флі, бая́ласа, каб ні паме́рзьлі.* Ваўк.

**АДДО́РВАЦЬ** *незак.* Дарыць у адказ таму, хто табе падарыў. *Аддо́рваць – у нас няма́ мо́ды тако́й.* Валож.

**АДЗІНАЛІ́ЧАСТВА** *н.* Аднаасобніцтва. *Як былі́ ў адзіналі́частве, то дзяржа́лі й па чаты́ры каро́ве і гаве́ц пятна́ццаць штук ме́лі, і сьві́не ме́лі – усё дзяржа́лі, бо трэ́ба было́ зе́млю ўгно́йваць.* Ваўк.

**АДЗІНАЛІ́ЧНІК** *м.* Аднаасобнік. *Шчэ адзіналі́чнікі былі́, то п'яць лет мы былі́ ў адзіналі́частве.* Ваўк.

**АДНАЛІ́ЧНЫ** *прым.* Аднаасобны. *Адналі́чныя ўсе гаспада́ркі ў Арха́нгельск – дубы́ пілава́ць.* Карэл.

**АКТА́Р** *м.* Гектар. *І жа́лі, і дава́лі два акта́ры, трэ́ба было́ сярпо́м жы́та вы́жаць, акта́р лёну вы́рваць.* Навагр.

**АМЭНІ́СТА** *ж.* Амністыя. *То ўжэ амэні́ста як вы́шла, узбуры́лася вайна́, і яго́ вы́пусьцілі.* Ваўк.

**АПА́ЛУШКІ** *мн.* Начовачкі. *А журавін апа́лушкі – начо́вачкі малы́е – насыпа́ю, узьле́зу на ха́ту, паста́ўлю іх, ні накрыва́ю, нічо́га, каб яны́ дасьпе́лі.* Уздз.

**АПКАЗЫТА́ЦЬ** *зак.* Абсекчы галлё. *Ты ба́чыла: э́то ж, ка́жэ, усю́ бярэ́зіну апказыта́ў: сякéраю сек, пі́лкай рэ́заў. І яна́ ж во вы́сахне.* Навагр.

**АПО́ЛЕЦ** *м.* Вялікі кавалак (сала). *Збан малака́ панясу́ць, апо́лец са́ла, сыр, свой тваро́х быў.* Навагр.

**АПО́ХНУЦЬ** *зак.* Апухнуць. *Сама́ я пчалаво́д. Гаспада́р мой ня хо́чыць. Яго́ уку́сіць за нагу́, дак ён апо́хнець увéсь.* Круп.

**АПТУ́ЛІЦЦА** *зак.* Акрыцца, захінуцца. *Пагна́ла я аве́чкі, не́йкай пасьці́лкай апту́лілася.* Віл.

**АПУСТАВА́ЦЬ** *зак.* Спустошыць. *Апустава́лі дзірэ́ўню, а дзірэ́ўня ні бу́дзе дава́ць, пагі́бне го́рат.* Ваўк.

**АПУСТЫ́ШЫЦЬ** *зак.* Згвалтаваць. *І ты ве́даеш, ён мяне́ апусты́шыў на тэ́й ла́вачцы.* Круп.

**АРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Нарадзіць. *А ма́ма ні зна́ла нічо́га, ні каза́ла нічаво́ ей, пака́ і ні арадзіла. Арадзіла ш до́ма. Тры дзэ́ўкі я арадзіла.* Круп.

**АРГІ́НЯ** *ж.* Вяргіня. *Аргі́ні расту́ць.* Навагр.

**АРКЕ́СТРА** *ж.* Аркестр. *У нас у сялé была́ арке́стра. Е́зьдзілі, вясе́ллі гра́лі, усё. У ле́се рабі́лі маёўку, то́жэ арке́стра гра́ла.* Нясв.

**АСАВІ́К** *м.* Ababак. *А грыбы́: баравікі і асавікі́, і краснагало́вікі, і лісі́цы, апе́нькі, падаро́жнікі і падбяро́завікі.* Карэл.

**АСІ́ЛІЦЬ** *зак.* Абапнуць, ахінуць. *Мы ж, быва́ло, дзе́ці ў калы́сачку ды на по́ле но́сім і там паста́віш тры кало́чкі, паве́сіш, асі́лім радзю́шку, а са́мі ірвём, ці жнем, ці капа́ем.* Зэльв.

**АСЛАБАЖДА́ЦЬ** *незак.* Вызваляць. *На фро́нці былі́, як пашо́ў, – Польшч аслабажда́ў усю́.* Круп.

**АТГУЛЯ́ЦЬ** *зак.* Перабрадзіць. *Самаго́нку гна́лі з бу́льбы. Зірно́ дабаўля́лася мо́латае. Е́та зава́рвалася камня́мі. Атгуля́ла – тады́ гані.* Лаг.

**АТДЗЯ́Л** *м.* Клас. *Да шко́лы мяне́ та́то ні пусьці́ў. Анно́ два атдзя́лы ўсяго́ схадзіла і ўсё.* Ваўк.

**АТПЕ́РЦІ** *зак.* Адкрыць. *Рас атпе́рла дзьве́ры. Грук-грук – я ўста́ла, атпе́рла дзьве́ры, стаіць малады́ вуса́ты мушчы́на с ахо́тнічым ружо́м.* Навагр.

**АТПУ́СК** *м.* Адпачынак, водпуск. *Дачка́ была́ на свой шчот адзі́н атпу́ск узя́ўшы, тады́ ма́лася вы́йсьці на рабо́ту.* Віл.

**АТПУСКА́ЦЬ** *незак.* Нараджаць. *Ра́ньшэ ш або́рты ні рабі́лі. Што Бох даў, то й усіх атпуска́лі.* Віл.

**АТСО́ЛЬВАЦЦА** *зак.* Выліваццa, выцякаць з сотаў. *Ужэ́ тады́ бярэ́ш цэ́бар такі, но́чвы і выбіра́еш мёд* (соты). *Атсо́льваецца ён, тады́ заклада́еш у ба́нкі, вязе́ш про́даць на база́р.* Нясв.

**АТХІНУ́ЦЦА** *зак.* Адлучыцца. *Заве́душча як атхіне́цца, я чо́рным хо́дам пайду́ пад акно́, пагляджу́, што яны́ ро́бяць, гэ́тыя дзе́ці.* Валож.

**АЎКАГО́Р** *м.* Алкаголь. *Ты гэ́так зрабі: аўкаго́ру купі, бальса́на на машы́нку, і мёду купі, кап то́лько тако́го, праўдзі́ваго. І э́то ўсё пазьліва́й у сло́ічак і накры́й харашэ́нько.* Зэльв.

**АЦЯМНЕ́ЦЬ** *зак.* Сцямнець. *Прыеха́лі мы ўве́чары, тады́ ўжэ і ацямне́ла. Цёмна ш, куды́ я пайду́. Ацямне́ла.* Віл.

**БАБО́К** *м.* Бабоўнік (расліна). *Бабо́к до́брэ і ат ка́шлю і ат жалу́тка.* Зэльв.

**БАКНАВЕ́ННЫ** *прым.* Звычайны. *У нас са́мы бакнаве́нны ру́скі язы́к.* Круп.

**БАЛЕ́Я** *ж.* Нізкая пасудзіна для мыцця бялізны. *Цяпе́рака і жале́зныя такія начо́ўкі есьць, ве́лькія, а даўне́й не было́ гэ́тых жале́зных, дык во, гэ́такія во, называ́ліся бале́і, мы́лі.* Карэл.

**БАЛЬСА́Н, БАЛЬША́Н** *м.* Альяс. *У ха́це бальса́н есьць, канапе́лькі.* Навагр. *Трэ́бо аўкаго́ру і гэ́таго бальса́ну на машы́нку перакруці́ць, і мёд.* Зэльв. *У ха́це ў мяне́ то́лькі бальша́н і красо́тка.* Зэльв.

**БАРАЗЬНІ́ЦЬ** *незак.* Абганяць (пра бульбу). *Ужэ́ карто́шка ў бу́бліках, яе́ трэ́ба баразьні́ць.* Шчуч.

**БАРО́К** *м.* Касцеруга (расліна). *Баро́к – карчы́сты ко́рэнь такі. Ён як пырэ́й пахо́жы, у яго́ то́лько ко́рэнь такі распасьцёрты, за зе́млю на́дта бярэ́цца.* Зэльв. *Трэ́ба карто́плю пало́ць. Баро́к ве́лькі, трэ́ба га́чку браць, а так ні вы́рваць.* Зэльв.

**БЕЛЯЧКІ́** *мн.* Буякі (расліна і яе ягады). *У бало́це, у купе́шках такі́х, белячкі́ расту́ць.* Навагр.

**БІ́ЛО** *н.* Спінка ў ложку. *Вінто́ўку сваю на бі́ло паве́сіў.* Карэл.

**БЛАГАВЕ́ШЧА** *н.* Благавешчанне (свята). *Гэ́та было́ на Благаве́шча, а Благаве́шча сёмага апрэ́ля.* Віл.

**БЛАЗНАВА́ТЫ** *прым.* Невялікі, малы. *Да гэ́таго малацілі цапа́мі. Брат быў шчэ блазнава́ты – ні мох. І ўсе та́то адзі́н.* Ваўк.

**БЛІНЧУ́К** *м.* Блінчык. *Блінчукі такіе мале́нькія ў нас ала́дкамі называ́юць, трапяту́шкі, ці як на іх яшчэ́ па-наву́чнаму гаво́раць.* Стаўб.

**БО́ЛЬНІЦА** *ж.* Бальніца. *Цяпе́р жа бо́льніца ле́ча ру́жу. Ру́жа – тако́я кра́снае це́ла ў нары́вы.* Лаг.

**БО́НДА** *ж.* Печыва з бульбы і мукі з рознымі прыправамі. *Ма́ма бо́нды пякла́. Надзярэ́м карто́шкі, калі́ мука́ есьць, то мукі́ патсы́плюць. У бо́нды ні́чо́га ні дабаўля́лі: соль, це́ста, карто́шка і ўсё. Адно́ са́лам сьве́рху вы́мажуць.* Зэльв.

**БРАКАВА́ЦЬ** *незак.* Не хапаць. *Са́ла бракава́ло таксамо, бо як анно́ на гот зако́леш, то ні мо́жэш цэ́лы гот пражы́ць на са́ле ў каго́ сям'я́.* Ваўк.

**БРАЦЕ́НЬНІК** *м.* Стрыечны брат. *А браце́ньнік, дзе хрэ́сьбіны, во так жыве́ць.* Круп.

**БРУШНІ́ЦЫ** *мн.* Брусніцы. *А брушні́ц ско́лька ў ле́се было́! От за По́льшчаю дарагіе былі́ брушні́цы!* Навагр.

**БРЫ́ЖЫКІ** *мн.* Вузкая палоска тканіны, сабраная ў зборкі. *А уцюга́ ш ні было́, дак я ша́пачку вы́мыю і тады́ гэ́тые, бры́жыкі зва́лі, мо́крые разгла́джу і паве́шу. Вы́сахнуць, дак як адзе́неш, дак пы́шненька ў гало́ўцэ.* Віл.

**БУ́БЛІК** *м.* Бутон. *Ужэ́ карто́шка ў бу́бліках, яе́ трэ́ба баразьні́ць.* Шчуч.

**БУГО́НЯ** *ж.* Сувой (?), губка (?). *Я палатно́ сваё прынясла́, прынясла́ два́ццаць дзьве бугоні. У мяне́ было́ палатно́ то́нენька.* Нясв.

**БУ́ЛАШКА** *ж.* Балон (?). *Хва́рбачка была́ ў такіх бу́лашках. Тады́ яе́ разьве́ў, прыго́жа рабілі, яку́ю хо́чаш хва́рбу.* Віл.

**БУМАЗЕ́Я** *ж.* Фланель. *Я ста́нікі шы́ла з бумазе́і. Як цяпе́р, мо́жна і сі́ццавые.* Лаг.

**БУРНЭ́ЛЬКА, БРЫНЭ́ЛЬКА** *ж.* Гарлянка (расліна). *Э́то бурнэ́лька, гарля́нка яе́ называ́юць.* Зэльв. *А брынэ́льку вы зна́еце? У нас тут тако́е лячэ́бнае ме́сто, тут усё ё, што хо́чаш.* Зэльв.

**БЫ́ДЛА** *н.* Рагатая жывёла. *У нас на ху́тары семна́ццаць штук бы́дла было́ – ста́до.* Навагр.

**БЯДРА́ВЫ** *прым.* У клубе; сцегнавы. *Злама́ла ў бядрэ́, бядра́ваю шэ́йку э́та заву́ць.* Віл.

**БЯРВЯ́К** *м.* Баравік. *І грыбо́ў усяля́кіх: бярвякі́, казьлякі́, махавікі́ і падасі́навікі. Бярвякі́ – са́мые до́брые.* Віл.

**ВАЛАВА́ТЫ** *прым.* Падобны да вала. *Як у каро́вы грубы́я но́гі, то яна́ ўжо малака́ дава́ць не бу́дзе, яна́ валава́тая ўжо бу́дзе. Гэ́та каро́ва, як вол.* Валож.

**ВА́ЛЕН, ВА́ЛЕНЬ** *м.* Вэлюм, вянок. *Ва́лен сва́ха зьніма́е і кладзе́ на дру́шкі, каб за́муш ішлі́.* Ваўк. *Бе́лы ва́лень быў у мяне́, пла́цьце длі́ннае бе́лае.* Нясв.

**ВА́ЛЕНЦЫ** *мн.* Валёнкі. *Яму́ кажу́х зьдзе́лі, ва́ленцы зьдзе́лі.* Круп.

**ВАЛО́КІ** *мн.* Аборы да лапцей. *А йшчэ́ такія вало́кі называ́ліся... Ла́пці ты́я абу́е і вало́камі тут абкру́ціць гэ́ту но́гу.* Карэл.

**ВАЛЬЦАВА́ЦЬ** *незак.* Пытляваць. *Як ста́лі ле́пей жыць, ужэ́ пшані́ца пашла́, тады́ ўжэ пачалі́ вазі́ць вальцава́ць. Вальцава́лі, была́ мука́ харо́шая.* Шчуч.

**ВАНГО́Р** *м.* Вугор (рыба). *Нясе́ стары́, во на руку́ таўшчыні́, акруці́ўшы ванго́ра гэ́таго. Я кажу́: ма́ма, дальбо́г, ба́цька га́да валачэ́.* Навагр.

**ВАРАВІ́НА** *ж.* Пахатная зямля (?). *А на по́лі, на варавіне, дак ён, ажэ́ўнік, сі́ні.* Навагр.

**ВАСІ́ЛЬКА** *м.* Васілёк (расліна). *У збо́жжы найдзе́ш васі́льку – э́та ат пярэ́палаху, ат спу́гу.* Шчуч.

**ВЕ́ДЗЬМА** *ж.* Расліна (якая?). *Э́то ве́дзьмай мы называ́ем. Расьце́-расьце́, пато́м така́я мяцёлачка зь яго́ вы́расьце.* Зэльв.

**ВЕ́ЛЬКІ** *прым.* Вялікі. *Як я была́ мала́я, дый расьці́лі лён, ён ня быў такі ве́лькі. Ён сякі быў такі́, рос.* Карэл.

**ВЕРАЛЬЯ́НКА** *ж.* Валяр'янка. *Веральянка рэ́сла, яна́ ш ні ўсю́ды. Там рэ́чка цякла́ і та́мака расла́ каля рэ́чкі э́та веральянка.* Навагр.

**ВІХЛА́** *ж.* Вярба, лаза. *Мне ўжо за во́сімсят гадоў, але́ я бы́страя, як віхла́.* Стаўб.

**ВІЦІНА́Р** *м.* Ветэран. *А мужы́к то́жэ быў віціна́р вайны́.* Навагр.

**ВЛАШЧЫ́ЦА** *ж.* Клоп. *Влашчы́цы ў сьцёнах былі, крава́ці дзеравя́нныя былі, ля́там – куса́юцца.* Карэл.

**ВО́ДРА** *ж.* Адзёр (хвароба). *Брат забалéў на во́дру, і васпалéне патпа́ло, і ўмёр.* Ваўк.

**ВО́ЖКІ** *толькі мн.* Лейцы. *Нéшта дзя́дзю Васілю пло́ха, во́шкі пусьціў.* Круп.

**ВО́ПУХ** *м.* Пухліна. *Суэ́джвайце малако́, бо мо́жаце памéрць, по́йдзе во́пух во сюды́.* Нясв.

**ВО́СЕЦЬ** *ж.* Памяшканне для сушкі снапоў. *А на канцы́ дзярэ́ўні во́сець іхняя, дзе лён мнуць, ён нас завядзé ў гэ́ту во́сець... і ў сукéначкі напхáе нам і сквáрак, і каўбасы́, і бліно́ў, і сы́ра сўшанага.* Стаўб.

**ВО́СЬКА** *ж.* Навой, на які накручваецца палатно ў кроснах. *Ён лёг на во́ську, а вінто́ўку сваю на біло – даўнéй дзеравя́нныя ж крава́ці былі – на біло павéсіў.* Карэл.

**ВУЗЛА́К** *м.* Гуз, гузак. *На назé так вузла́к на па́льцу. Ат рабо́ты ат цяжо́лай.* Круп. ВУЗЛАЧО́К *памянш. Гэ́ты вузлачо́к быў віско́кі такі, то́ненькі. Тады́ мне гаво́руць: ай éта грызь.* Круп.

**ВЫ́БЕРНІЦЫ** *мн.* Мужчынскія асобіны канапель. *Выбіра́лі кано́плі. Есьць жэ вéлька стрэ́лка зялёна сь семяна́мі, а като́рые ўжэ выбіра́лі, як яны́ во такіе вы́растуць, ты́е былі бас семяна́. Вы́берніцы называ́ліся.* Навагр.

**ВЫБІРА́НЦЫ** *мн.* Жаночыя асобіны канапель. *Кано́плі як растўць, есь сьцёбель ні такі, яны́ ні ро́ўные. Выбіра́лі, выбіра́нцы зва́лі. Вéтачкі такіе, у іх семяна́.* Віл.

**ВЫ́ДЗЕЛ** *м.* Надзел. *Ко́ньмі разо́рвалі карто́флю. Мéралі на кускé. Вы́дзел быў, на вы́дзелы капа́лі.* Нясв.

**ВЫКРУНТЭ́СЫ** *мн.* Выкрутасы; упрыгожанні. *Ра́ньшы ш, канéшна, карава́й пяклі. Бальшы́ быў, з выкрунтэ́самі.* Круп.

**ВЫ́ПЛАТ** *м.* Крэдыт. *Машы́ну я ўзяла́ на вы́плат. Машы́на "Сінгер" сто́іла тры́ста...* Нясв.

**ВЫ́РАБАТКА** *ж.* Норма. *Хадзілі да па́на на рабо́ту. А як вы́рабатку дасьць, вы́рабіш вы́рабатку і два зло́тых палўчыш.* Нясв.

**ВЫ́РАБЛЕНЫ** *прым.* Зношаны, спрацаваны. *Мой арганізм ужэ́ вы́раблены з мало́га. Е́сьлі я паляжу́, то ўжэ бу́ду ляжа́ць і ні ўстану.* Ваўк.

**ВЫ́СКІЛЬЗЬНУЦЦА** *зак.* Выскальзнуць. *А як не ляціць, тады́ ўжо сам як бу́хнеш у э́ту, каб іна́ атсéла, тады́ гэ́ты капніцель вы́скільзьніцца.* Бярэз.

**ВЫ́ТРУСІЦЬ** *зак.* Вытрасці. *А на́да ж крыць кры́шу. Выкала́чаем сноп, кру́цім яго́, вы́трусім да ро́ўненька кап завяза́ць.* Круп.

**ВЫРАБЛЯ́ЦЬ** *незак.* Афармляць, дабівацца. *Пачала́ пэ́нсію вырабля́ць, ко́лькі яна́ хадзіла, каб яку́ю по́мач далі.* Ваўк.

**ВЫЧЫТА́ЦЬ** *незак.* Галасіць з прычытаннем. *Завезáла мне ма́ма глаза́, я до́ма ляжу́, а ўжэ ма́ма вычыта́е: ах ты мая́ дачу́шка... Ма́ма ста́ла вычыта́ць, пла́каць і атпусьцілі та́ту.* Ваўк.

**ГА́ДАЎСТВА** *н. зб.* Гадзюкі. *А мілые маé, а га́даўства было́ у гэ́тум бало́це, ні расказа́ць. Гэ́та кана́ўка прако́пана, а яны́ там плыву́ць, анно́: ш-ш-ш.* Навагр.

**ГАЛО́ЎКА** *ж.* Качан. *Капу́ста кісла была́ зімо́ю, ква́сілі гало́ўкамі. Ма́ма срэ́дненькіе гало́вачкі выбіра́ла.* Шчуч.

**ГАЛЬНІ́К** *м.* Дзяркач, галень. *А мы такіе, у мяцёлі. А ма́ма мяне́ абхіна́ець гальніко́м...* Віл.

**ГАМАНІ́ЦЬ** *незак.* Гаварыць. *Я ра́да, што гамо́ніць са мно́ю, і я гаманю́.* Круп.

**ГАНГРЫ́НА** *ж.* Гангрэна. *Сямна́ццаць лет прабалéў, нарэ́шце ста́ла гангры́на, аднялі но́гу.* Шчуч.

**ГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Вадзіць у бакі. *Ужэ́, вéдаеце, не магу́ ні́чо́га дзéлаць. Ганя́е, як устану, ганя́е, каб не трыма́лася за што, дык упа́ла.* Нясв.

**ГАРА́** *ж.* Прастора паміж столлю і страхой хаты; гарышча. *Ткáла – ящчэ́ палавікі вунь тка́ныя, такія во ў цьвяты́, прыняла́ на гару́.* Карэл.

**ГАРБУШО́К** *м.* Горбік. *Ой, у мяне́ во, до́ктар, нéйкі гарбушо́к.* Круп.

**ГАРНУ́ШАК** *м.* Маленькі гаршчок. *Збано́чкі гліня́ные былі, вазілі лю́дзі з По́разава. Там ляпілі гарну́шкі такіе пука́тые, кру́гленькіе.* Ваўк.

**ГАРЧЫЯ́** *ж.* Гаркота (у агародніне). *Капу́сту зальéш і памішáй, памішáй ло́шкай, па́лачку ўтыркáй і ка́жны дзень мішáй, каб гарчыя́ схадзіла.* Лаг.

**ГАРШКАЛЁП** *м.* Ганчар. *Гаршкі рабілі і міскі. Шмат такіх было́. На іх каза́лі гаршкалёпы.* Карэл.

**ҐАРШЧЭ́ЧНІК** *м.* Вілкі. *У памялёшніку стая́ць гаршчэ́чнікі, чапяля́, качарга́.* Навагр.

**ГА́ЧКА** *ж.* 1. Матыка. *Як дачка́ прыяжджа́ла, пашла́, узяла́ ту́ю га́чку, як мы называ́ем, маты́ку. Пашла́, усё сьсéкла, вы́рвала чы́сьценька.* Карэл. 2. Матыка з зубамі. *Карто́шку капа́лі ўсё ўрэ́мя, лю́дзі прасілі. Га́чкамі тада́ капа́лі. Ло́шадзь плуга́мі выпа́хвала і пато́м га́чкамі грэ́балі гэ́тые бо́разны.* Ваўк.

**ГЕ́ТА** *ж.* Яўрэйскае гета. *Тады́ ў Багда́нава у паязда́ і ў Лі́ду у гéту, там жыды́. Ра́зам і нас у гéту.* Валож.

**ГНЯЗЬДЗЕ́ЙКО** *н.* Гняздзечка. *Я іх і шкаду́ю, яны́, бéдненькія, яéчак нанясу́ць і там гняздзéйка зро́бяць...* Карэл.

**ГРАЧА́НКА** *ж.* Расліна (?). *У карто́плі грача́нка дзе е, дро́бненькіе лісьцікі, на бяро́зку пахо́жа.* Зэльв.

**ГРУ́БКА** *ж.* Невялікая пакаёвая печ для абагрэву. *Печ вéлькая – ужо́ печ, а пéчка – гэ́та ўжо малéнькая, што ў той ха́це стаіць. Некато́рыя гру́бкай зва́лі, а мы – па-прасьця́цкі – пéчка.* Карэл.

**ГРУДО́ЧАК** *м.* Узгорак. *Сюды́ прыяжджа́ў ён да ро́днай сястры́. Вон там на грудо́чку жыла́.* Навагр.

**ГРУТ** *м.* Куча. *Мáма пашлá ў балóта ў журавíны на Узьвíжанне, як зьмéі хавáюцца, дык кáжыць: падыйдý – грут ляжы́ць, скруцíўшы, атыйдýся, плю́ну – ішчó грут ляжы́ць.* Круп.

**ГРЫБ** *м.* ○ **ПРАЎДЗІ́ВЫ ГРЫБ.** Баравік. *Як ураджáйны гот, то ў лéсе й лісíцы, й праўдзíвые грыбы́, й сураве́жачкі.* Навагр. *Як есь праўдзíвые, то бярэ́м тóлькі праўдзíвые, а гэ́тых не. Іх і сушы́лі, і адвáрым, і квас ізвáрыш.* Нясв.

**ГРЫЗЬ** *м.* Жаўлак, гуз. *Гэ́ты вузлачóк быў вісóкі такí, тóненькі. Тады́ мне гавóруць: ай éта грызь.* Круп.

**ГРЭ́МНУЦЬ** *зак.* Грымнуць, упасці. *Ні знáю, як я ляцéла, ня пóмню нічóга. Нáда ж стаікá грэ́мнуць.* Круп.

**ГУЗУ́Р, ГУЖУ́Р** *м.* Ніжняя частка снапа. *Гужурóм сюды́ да сьцéнкі, гузурóм сюды́, каласáмі сюды́, і радзю́шкаю засьцéле, і ўсе так спáлі.* Навагр.

**ГУЛЯ́ЦЬ** *незак.* Брадзіць. *У бітóн дрóжджы. Яны́ гуля́юць.* Лаг.

**ГУЛЯ́ЦЬ** *незак.* Танцаваць. *Я крóмі пóлькі й вáльса бóльшы ні гуля́ла. Гуля́лі нéйкую карóбачку.* Круп.

**ГУРТАПРА́Ў** *м.* Галоўны пастух. *Бáцька яé гуртапрáвам у нáс. Гуртапрáў – гэ́та катóры упраўля́е гэ́тым гуртóм усíм, карóвамі.* Бярэз.

**ГУРЦЫ́** *мн.* Агуркі. *Ён давáў нам машы́ны, і мы вазíлі ты́я гурцы́ прóдаць.* Карэл.

**ДА́ЙЖА** *часц.* Нават. *Брáлі ўсё, што ні пупáла. Быó э́та, што вы́бралі ўсё, дáйжа, па-прóстаму сказáць, і ні быó ні накры́цца, нічóга, усё пубрáлі ў нас.* Круп.

**ДАРМÓВЫ** *прым.* Дарэмны, дармавы. *Алé ш усё кáжуць, што ў вёсцы дóбра, што усё дармóвае.* Валож.

**ДАСЬЦІЖНЫ́** *прым.* Гаспадарлівы, прабіўны. *У дзярэ́ўні мы найлéпей жылí. Бáцько хоць не багáты, а дасьціжны́ быў.* Зэльв.

**ДВАЮ́РНЫ** *прым.* Дваюрадны, стрыечны. *Прыежджáюць рóдные: сістрá, траю́рные, дваю́рные, знаёмые.* Лаг.

**ДВÓЙКА** *ліч.* Двое. *Двóйка дзéтак нажылá.* Бярэз.

**ДЗЕ́ДЫ** *мн.* Дзяды; дзень памінання нябожчыкаў. *Дзéды ў нас казáлі: вот тады́ і тады́ Дзéды, сёньня Рáдаўніца, кáжа, сёньня трэ́ба Дзéды дзéлаць – гэ́та ўжо яéшню сьпячэ́ш, каўбасý звáрыш, капýсту трэ́ба ш, каб быá абязáцельна.* Карэл.

**ДЗЕ́ЛЬВЕ** *прысл.* Дзе-небудзь. *Стáнеш у кутóчку, дзéльве закíнеш у кутóчак, а ўжо дамóў ідзéш, адзéніш.* Бярэз.

**ДЗЕРАВЯ́НІКІ** *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Ацéц кóжы сам вырабáтывал і дзéлал нам такíе дзеравя́нікі. Былí дáжа красíвые: дзеравя́шка бальшáя такáя, абабíта кругóм – нóгу ўсýнуў і пашóў.* Шчуч.

**ДЗЕРАВЯ́ШКІ** *мн.* Драўляны абутак. *Я дзеравя́шкамі нóгі выкрýчвала, хóдзячы, як мне быó пятнáццэць гот.* Навагр.

**ДЗЕСЯ́ТКА** *ж.* Малая ўкладка снапоў на полі. *Жы́то перавя́слом вязáлі, снапы́ стаўля́лі ў дзеся́ткі такíе, каб янó патсóхло.* Ваўк. *Жы́то жáлі ўрýчную сярпóм, везáлі, стáвілі такíе кýчачкі, дзеся́ткі звáлі.* Ваўк.

**ДЗЕШАВЫ́** *прым.* Танны. *Ну, канéшна, малакó дзешавóя у калхóзу.* Круп.

**ДЗЯ́ЛКА** *ж.* Участак зямлі, сенажаці. *Тры́ццаць два гóда трактары́стам прарабíў у калхóзі, а я ў магазíні рабíла – усё дзя́лкі брáлі, і лён, і тýю сьвяклý, усё брáлі, усё.* Карэл.

**ДЗЯРЖА́ЦЬ** *незак.* Трымаць гаспадарку. *Сваё ўсё ўдóма: і яéчка тóе, і як хто сíлы мáе – і сьвíньня дзяржы́ць, і карóўку дзяржы́ць.* Карэл.

**ДЗЯРУ́ГА** *ж.* Саматканая посцілка. *У мяне́ і цяпéр дзярýгі дзьве ёсць яшчэ́ ткáныя.* Карэл.

**ДЗЯРУ́ЖКА** *ж.* Тое ж. *На калёсы дзярýжкі мáма харóшые пазасьцілáла. Вы́шлі с цэ́ркві, то назáт на салóме прыéхалі, паздымáлі, пакрáлі дзярýжкі.* Нясв.

**ДОС** *прысл.* Досыць. *Пражы́ў чалавéк дзевянóста гадóў і дос.* Круп.

**ДРА́БЧЫКІ** *мн.* Дубчыкі. *Мáма як хвацíла э́тую бярóзку, вы́рвала, як пачалá мяне́ сьцёбаць. Усё ліцó пасéкла, усé плéчы пасéкла – вядóма дрáбчыкі. Дрáбчыкі тóненькія, як секанé!* Стаўб.

**ДРÓМНЕНЬКІ** *прым.* Дробненькі, мелкі. *Панцáк – э́то бальшáя крупá, і дрóмненьку рабíлі.* Ваўк.

**ДРУЖБА́НТ** *м.* Шафер; дружка маладога на вяселлі. *Мне вясéле прáвілі, былí і дрýшкі і дружбáнты.* Ваўк. *Над малады́мі дружбáнты дзéржаць купалá – карóну.* Ваўк.

**ДРУ́ЖКА** *ж.* Шаферка; дружка маладой на вяселлі. *На кóнях дрýшкі і дружбáнты.* Ваўк.

**ДРУШКÓМ** *прысл.* Трушком. *Дык пакá даéхалі мы друшкóм ад магістрáлі, дык ужó "Скóра пóмашч" стаíць.* Круп.

**ДУРЭ́Ц** *м.* Блёкат (расліна). *А гэ́то дурэ́ц, і бывáюць з гэ́тых званóчкаў такíе я́гаткі. Як зьясí, – зрáзу памрэ́ш.* Зэльв.

**ДУ́ТКА** *ж.* Трубка. *Чыгýн бальшы́, а тады́ навéрх йшчэ чыгýн ізь дзíркай, а туды́ дýтку такýю.* Круп.

**ДЫМЫ́** *мн.* Узор у форме квадрата на саматканцы. *І прóстые ткáлі дымы́, неперабíрáные, панажóў на чатыры-шэсьць палóтны.* Мядз.

**ДЭ́ЛІ** *мн.* Перамёрзлая бульба, якую збіралі вясной. *Мы, прáўда, ні галадáлі, ні éлі, ні сабíрáлі э́тые дэ́лі. У сістры́ маéй быó мнóга дзяцéй, то тáя сабíрáла і канюшы́нку, э́ты клевярóк, і дэ́лі э́тыя.* Бярэз.

**ЁУНЯ** *ж.* Асець. *Нáда ёўню тапíць, вы́сушыць зярнó.* Круп.

**ЖУРАЎЛІ́НЫ** *мн.* Журавіны. *А ўвóсень – жураўлíны, касьцянíцы, ажэ́ўнік, дзе па лéсе рос высóкі, дак ён чóрны, блішчýсты.* Навагр.

**ЖЫВІНА́** *ж.* Свойская жывёла. *Яны́ дзержа́лі мно́го каро́ў, жывіны́ мно́го дзіржа́лі.* Ваўк.

**ЖЫТНЁЎКА** *ж.* Жытняя мука. *Во́зьмеш жытнёўкі, разьвядзёш с са́харам дро́жжы, разбаўта́еш, і яна́ вы́хадзіцца тады́.* Ваўк.

**ЖЫ́ЦІЛЬ** *м.* Жыхар. *Я не зусім пастая́нны жы́ціль.* Нясв.

**ЗАБО́РАЧКІ** *мн.* Зборкі. *Андаракі́ шы́лі ў скла́дачкі, у забо́рачкі шы́лі.* Бярэз.

**ЗА́БЛАЦЬ** *ж.* Мулінэ; тонкія шарсцяныя ніткі. *Вышыва́ла, ніткі бы́лі такія – за́блаць называ́лісь.* Лаг.

**ЗАБУ́РЫЦЦА** *зак.* Знаходзіцца ў стадыі малочнай спеласці. *Быва́ла, не забу́рыцца шчэ жы́та, а ўжо ма́ма пашла́, на гарэ́ дзе-не́будзь снапо́к нажне́ць.* Круп.

**ЗАВІ́ЎКА** *ж.* Скрутак. *Хло́пца ма́ма радзіла на по́лі, лён пало́ла. У фарту́х, у заві́ўку закруці́ла, завяза́ла, і ўсё.* Стаўб.

**ЗАГАВЕ́НЬНЯ** *н.* Апошні дзень перад пастом, калі ядуць скаромнае. *Ма́сьленіца – гэ́та пасле́дняя нядзе́ля, калі мя́са яду́ць. На пост загаве́ньня.* Круп.

**ЗАЙСЦІ́** *зак.* Выйсці замуж. *Ну й до́бра, што ты зайшла́, а так бы ж ты не пайшла́ за мяне́ – і мне нядо́бра, і табе́ нядо́бра.* Круп.

**ЗАКВЕ́ЧАНЫ** *прым.* Упрыгожаны кветкамі. *На сва́дзьбе ко́ні заквéчаныя, шалястуны́, ку́бачкі такія, звано́чкі, са́ні, дру́шкі.* Ваўк.

**ЗАКЛАДНЫ́Е** *мн.* Складчына. *Пяюць, заклад-ны́е рабілі (склада́ліся, а тады́ выпіва́лі ра́зам).* Мядз.

**ЗАЛУВІ́ЦА** *ж.* Залоўка. *Памага́юць мне залувіцы дзе́ці. Залувіца памярла́, а іх пакі́нула йшчэ малы́х.* Зэльв.

**ЗАМАЛЬДО́ЎВАЦЬ** *незак.* Даносіць, паведамляць, дакладваць. *А парці́зана́ў яшчэ́ бо́лей баялі́ся. Сасе́да на́шага прызна́лі, што хадзіў на пастару́нак замальдо́ўваць. Хто там по́йдзе, нашто́ мальдава́ць? Тут як кры́са сядзіш.* Стаўб.

**ЗА́СЫНАЧКА** *ж.* Засланка. *А тады́ печ засо́ўваіш, за́сыначкай закры́іш, каб запёкся хлеп, каб жо́ўценькі быў.* Бярэз.

**ЗА́ЎШЭ** *прысл.* Заўсёды. *А як я ўжэ за́муж астала́ся, то ўжэ мужы́к мой за́ўшэ вазі́ў у лух лён мачы́ць. На вёсцы каза́лі, што я найле́пша гаспады́ня, бо ў мене́ за́ўшэ німа́ зе́лья, за́ўшэ вы́палано.* Ваўк.

**ЗАШЧЫКАЦЕ́ЦЬ** *зак.* Зашыпець. *Процітанкавая грана́та дліннаяa, я ду́маў, э́та раке́та – пушчу́. Кры́шку аткруці́ў, а да кры́шкі про́ват такі́ красі́вінькі быў прыпо́ены, турзяну́ў... Зашчыкаце́ла, я кі́нуў – як га́хнула.* Ваўк.

**ЗБОР** *м.* ○ ПАМО́ЛЬНЫ ЗБОР. Частка мукі, якую аддавалі за памол. *Вот ты ме́ліш прыме́рна мяшо́к, то там кілагра́м ці два атсупа́лася. Гэ́та ў памо́льны збор, за рабо́ту.* Лаг.

**ЗБЫТКАВА́ЦЬ** *незак.* Здзекавацца. *Я то ту́ю ха́ту папакра́сіла, а ён усё зь мяне́ збыткава́ў, яму́ ні нара́віцца, я па тры разы́, паку́ль пакра́сіла.* Зэльв.

**ЗВЫ́КЛЯ** *прысл.* Звычайна. *Усё было́ як звы́кля.* Стаўб.

**ЗДАННЁ** *н.* Здань, прывід. *Зданьнё – зда́сца мёртвы чалаве́к.* Бярэз.

**ЗЁЛЕЙКА** *н. зб.* Прыправы. *Як капа́ем, я хава́ю тры такіе кілба́сы. А яна́ сма́чна, з зёлейкам. Там і пе́рчык, лі́сьцік мя́ты, укроп, кмен, часны́к, усё па́хне.* Нясв.

**ЗЕЛЯНІ́ЧКА** *ж.* Зялёнка (грыб). *Уво́сень – зеляні́чкі расту́ць, лупячкі, сіня́чкі.* Навагр.

**ЗЕ́МЛІЦЬ** *незак.* Культываваць. *Спрыжыно́ўка – гэ́та тако́е вот, як папа́р зе́мляць.* Уздз.

**ЗЁЛА** *мн.* Зёлкі, лекавыя травы. *Зёлаў я мно́га зна́ю, якія і ат чаго́.* Шчуч.

**ЗЛАМА́ЦЬ** *зак.* Пацерці. *А быва́ла, сто́лька э́тага лёну памі́на́еш, а ён жэ цьвярды́. Ста́ршые ўжэ чы́сьцяць яго́, як самне́ш, а злама́ць малады́х паста́вяць.* Віл.

**ЗМАРНАВА́ЦЦА** *зак.* Прапасці. *Мая́ дачка́ цяпе́р пячэ́ ўсё. У яе́ ні́чо́га ні змарну́ецца. Дзе яко́е малако́ перакі́шшы, дзе што аста́ўшыся.* Шчуч.

**ЗНАЙСЦІ́СЯ** *зак.* Нарадзіцца. *А ў ма́мы яшчэ́ знайшла́ся дзяўчы́нка. Дак трэ́ба ж і е́тай глядзе́ць.* Віл.

**ЗРА́ВЕЛЬ** *м.* Ізраіль. *Ён манцёр, яўрэ́ям быў. Ён і ціпе́р яўрэ́й, кане́шна, куды́ ж ён дзе́нiцца. Пато́м уе́халі яны́ ў Зра́вель.* Ваўк.

**ЗУБІ́ЦЬ** *незак.* Вастрыць, насякаючы зуб'е. *І перад ле́та ён нам нато́чаў ты́я сярпы́, зубі́ў называ́лася. Зубі́ў ён не́чым, было́ тако́е прыспасабле́ньне.* Шчуч.

**ЗУБЫ́** *мн.*, **ЗУБ** *м.* Расткі. *Яна́ ро́сьціць жы́та, памо́чыць яго́ цэ́лае кары́та, яно́ ўжо пу́сьціць во такія зубы́, тады́ сы́пле на печ.* Стаўб.

**ЗЬДЗЕЦЬ** *зак.* Скінуць, зняць. *Яму́ кажу́х зьдзе́лі, ва́ленцы зьдзе́лі.* Круп.

**ЗЬДЗЕ́ЛЬНІЦА** *ж.* Майстрыха. *І сусе́тка ні ме́ней пячэ́ за мяне́. Та то́жа харо́шая зьдзе́льніца.* Лаг.

**ІКО́НА** *ж.* ○ ПАНО́СНЫЯ ІКО́НЫ. Іконы, якія носяць у час царкоўнага шэсця. *Там ба́цюшка, там пано́сныя іко́ны. Са Слабады́ бяру́ць іко́ну і нясу́ць у Каралёўцы на пра́зьнік ужо́, на Мі́колу. Тады́ ўжо на Дзівя́тніка каралёўцы адно́сяць і́хную іко́ну і са сваеі́ іду́ць.* Віл.

**ІМХО́ВІК** *м.* Махавік (грыб). *Баравіке́, асі́навікі, падбяро́завікі, імхо́вікі, лісіцы – уся́кіе грыбэ́ тут расту́ць.* Слон.

**ІРВА́ЦЬ** *незак.* Падрываць. *У нас ірва́лі парці́заны жале́зную даро́гу, во як руко́й пада́ць.* Круп.

**ІРЖЫ́СКО** *н.* Іржышча. *Кармо́ў ні дава́лі нам, мы хадзі́лі да іржы́ско жа́лі сярпа́мі, хадзі́лі ўжэ ба́бы, бо ні было́ ні жне́йкаў, ні камба́йнаў.* Ваўк.

**ІСПО́Т** *м.* Падніз. *Я пад іспо́т, пат сяньні́к ле́гла, а та́та наве́рсе.* Стаўб.

**КАЗЯКÍ** *мн.* Агульная назва ўсіх ядомых грыбоў, акрамя баравікоў. *У нас казякóў мнóга. Некатóрые бярýць і другіе, валнýшкі насóльваюць, грузды́, а я ні бярý.* Зэльв.

**КАЛАПНÍ** *мн.* Каноплі (расліна). *Калапні ў гарóдзе сéялі.* Мядз.

**КАЛАТÓВАЧКА** *ж.* Мешалка. *Вадá закіпіць – мукý сыпяць. Калатóвачка такáя с ражкáмі. Ёй пакалóцюць-пакалóцюць, забéліць, пасёрбаем і кладзéмся.* Круп.

**КАЛАЦÍЦЬ** *незак.* Збіваць масла. *Былі бóйкі такіе, як дзéшкі, дзеравя́ные. І сьмятáну калацілі там, у гэ́туй бóйцы. І зьбівáлася мáсла.* Ваўк.

**КАЛÉЙКА** *ж.* Чарга (пасвіць кароў). *Сёньня калéйка, дачкá атпрáшываецца з рабóты і пагнáлі. Бес карóвы нямá як жыць.* Ваўк.

**КАЛМАЦÍЦЦА** *незак.* Шчыра працаваць, дбаючы пра ўсё, турбуючыся. *Памагáлі бацькáм, лён сéялі, рвáлі, слáлі. Усё так во калмацíліся.* Ваўк.

**КАЛУБÉЛЬ** *ж.* Калыска. *Капáць картóфлі трэ́ба, мáма мене́ пакíне ў калубéлі, а я плáчу.* Ваўк.

**КÁННА** *ж.* Бітон. *Якія даўнéй свáдзьбы былі? Э́та ні цяпéр. Трэ́ба кáнны тры-чаты́ры вóткі.* Віл.

**КАНÓПНЫ** *прым.* Канапляны. *Алé як бракавáло лёну, то дабаўлялі й канóпнаго.* Ваўк.

**КАНТАВÁЦЕНЬКІ** *прым.* Квадратненькі. *На табé піражóк, бяры́ с сабóю. Такí с цэ́лай бля́шкі, кантавáценькі такí быў.* Шчуч.

**КАНЮ́Х** *м.* Конюх. *А тады́, во такí пацáн – ужó рабóтай. Ужó ён і канюх, ён і пастух, ужó ўсё.* Віл.

**КАПÁЧКА** *ж.* Матыка, капаніца. *А капáчка былá зусíм нáкша: такóе як сірдзéчка пахóжа, як сірдзéчка нарысóвана, карацéйшы чаранóк.* Шчуч.

**КАПÉЦ** *м.* Стос. *А кругóм сьцен такія капцы́ адзіялаў паскладáныя.* Бярэз.

**КАПЦАНЫ́** *мн.* Брудныя. *Даўнéй не жылі так лю́дзі, кéпы былі, капцаны́. Задры́паныя нéйкія і бáбы тэ́я былі.* Нясв.

**КАРАСÍНА** *ж.* Керасін. *Трэ́ба карасíны мнóга, а дзе ты бýдзеш браць карасíну.* Віл.

**КАРАЎЛÓДАК** *м.* Самапрадка, калаўрот. *Караўлóдак – вот стаіць ён на чатырóх нóжках.* Шчуч.

**КАРАШКÍ** *мн.* Пожня, якую давалі касіць пасля таго, як сажнуць жыта. *Трэ было́ жы́та жаць уручнýю і за э́тыя карашкí. А карóву карміць як было́?* Валож.

**КАРВÁЦЬ** *ж.* Ложак. *Перайшлі, дак дáжа мéбелі ніякóй. Карвáць аднá паспáць.* Уздз. *Стол так тут стаіць і карвáць тут, за дóскамі.* Круп.

**КАРÓВА** *ж.*, **КАРАВЫ́** *мн.* Каровы. *І нарэ́шце мяне́ забрáлі ўжэ на фéрму, караві́ даіла.* Шчуч.

**КАРЫ́ТА** *ж.* Балея. *А я, бывáла, прынясý, палажý кары́ту э́ту, што купáюць, палажý дзіця́ пат кары́ту.* Зэльв.

**КАСЬЦÉР** *м.* Амецце; адходы пры малацьбе. *Э́та лён дванáццаць-пітнáццаць сóтак брáлі. А плацілі капéйкі. Стáвілі пáлачку. Тады́, што выхадзíла на трудадзéнь, давáлі касьцéр які.* Круп.

**КАСЬЦЁР** *м.* Стос. *Блінóў напякý касьцёр, усякія пяклá: калí дрáныя, калí с аннаé мукí ржаны́я пяклí.* Уздз.

**КАШЭ́ЛЬ** *м.* Кош. *Патóм ужэ́ надýмалі яны́ садзíць гнездавы́м спóсабам уручнýю. Мы ўжэ бярэ́м хвартухí, накíдáем картóплі, бо с кашалямі цяшко былó.* Ваўк.

**КЛЁНЧЫКІ** *мн.* Каленцы. *Мы на клёнчыках да гэ́тага стáршага, клёнчым, прóсім ды плáчым.* Стаўб.

**КЛЕШНЯКÍ** *мн.* Кляшчы. *Дзьве пáлкі пастáвім, ёльнікам накры́ем. А там клешнякóў, за кáркам кусáюцца.* Ваўк.

**КЛÓЧА** *н. зб.* Пачаскі, пачассе. *Мяшкí ткáлі з льнянóго клóча.* Ваўк.

**КЛЫБÁТЫ** *прым.* Кульгавы. *Ён клыбáты быў, нéкі наклы́бваў.* Шчуч.

**КÓЗЬЛІКІ** *мн.* Ветраніца (расліна). *А веснавы́е [кветкі] бéленькіе у нас кóзьлікамі называ́юць.* Зэльв.

**КÓМІНА** *ж.* Комін. *Каля вáшай кóміны бацян круціўся.* Віл.

**КÓРАП** *м.* Кораб. *Бóчку кадýшкай называлі, а як на зярнó, то э́та ўжо кóрап.* Зэльв.

**КÓСЬЦЕЛ** *м.* Касцёл. *На вясéльлі ў нас прóсьценька былó. Мы éздзілі вянчáцца ў кóсьцел.* Стаўб.

**КÓТЛІНА** *ж.* Сядзіба, селішча. *Дáжа прыязджáлі от нядáўно на гэ́тую Гасьцíлаву кóтліну.* Карэл.

**КРАСНАГАЛÓВІК** *м.* Падасінавік. *А грыбы́: баравікí і асавікí, і краснагалóвікі, і лісíцы, апéнькі, падарóжнікі і падбярóзавікі.* Карэл.

**КРАСÓТКА** *ж.* Аганёк (расліна). *У хáце ў мяне́ тóлькі бальшáн і красóтка.* Зэльв.

**КРУГАЛЁК** *м.* Кругляк. *Дрóвы кругалькáмі. А пасéч – прашý, каб пасéклі – тóжа плаціць нáда.* Лаг.

**КРЎГЛЫ** *прым.* Сплашны. *Мы ў лясý былі, там зімлянкі. Там крýглы быў лес.* Круп.

**КРУЧÓК** *м.* Чацвярцінка, якая змяшчае 250 мл гарэлкі. *На тáнцах хлóпцы мýзыку закáзывалі, а дзяўчáтам трэ́ба пачаставáць музыкáнта. Нясьлí ядý, самагóнку, кры́шку, па кручкý. Чакýшка – гэ́та кручóк.* Зэльв.

**КРЫ́ВІ** *мн.* Месячныя. *Кры́ві ідýць-ідýць у жэ́ншчыны, дык вот вучы́ла мяне́ бáбушка лéчыць.* Круп.

**КРЫ́ШАЧКА** *прысл.* Вельмі мала. *Зямлí ў нас кры́шачка-кры́шачка былó, а шасьцёра дзяцéй.* Карэл.

**КРЭСТ** *м.* Крыж. *З вéчара да дванáццаці часóў мушчы́ны стаўлялі красты́ ў дзярэ́ўнях, а бáбы прáлі і ткáлі рушнікé і вéшалі на э́тыя красты́ – і э́то ўсё каб за ноч зрабілі.* Зэльв.

**КУЖÓЎНЫ** *прым.* Кужэльны, зроблены з кужалю. *Насíлі ж рубáшкі кужóўныя, ткáлі, сáмі насíлі кужóўныя, сы льна.* Зэльв.

**КУМЛЯЧО́К** *м.* Кавалачак. *А тады́ на другі рас ужэ́, як хо́чэш, то кумлячо́к пакіну, так як на катле́т гэ́таго це́ста, і ў стака́нчык, і яно́ стаіць да друго́го ра́зу.* Ваўк.

**КУМУСО́К** *м.* (?). *Вот улiе́ш вады́ ў дзе́шку, кіпяткý, а тады́ сы́піш жы́та й зра́зу ці мукý, гу́ста разьме́шаеш. А тады́ кумусо́к йшчэ пагрэ́еш, ну й наво́дзіш тады́.* Круп.

**КУНА́ЦІНЬКІ** *прым.* Галінасты, лапушысты. *Ён вы́капаў я́мку і жэ́рдачкамі такімі залажы́ў мо́ху і панасілі зь зямлёй, накапалі во такіх во е́лачак куна́цінькіх, і пасадзілі.* Лаг.

**КУНУ́ЦЦА** *зак.* Перакуліцца. *Раз запро́х ён і не ўсьпеў яшчэ́ ле́йцы перакі́нуць, штоп се́сьці на вос, яна́ папаніслася, пато́м куну́лася – калясо́ зьляцела.* Уздз.

**КУПА́ЛАЧКА** *ж.* Купальнік (расліна). *І ўжо дзе́ўка бярэ́ гэ́тыя купа́лачкі і як ідзе́ць – ране́й насілі ку́клы – і пат ку́клу патса́дзя гэ́ту купа́лачку і лажы́цца спаць. Калі яна́ за ноч распу́сьціцца, купа́лачка, – у гэ́тым гадý по́йдзе за́муш.* Лаг.

**КУПЕ́ШКА** *ж.* Купіна. *Вясно́й у апрэ́лі ме́сяцы трэ́ба было́ э́тые ўсе купе́шкі разрабіць, трэ́ба было́ вы́разаць яго́, дзе ўжэ э́тые ка́рты адмяралі.* Навагр.

**ЛАМАНО́СЫ** *прым.* З паламаным носам. *Гуля́ю я, дык на мяне́: гэ́та ж ламано́сага дачка́.* Лаг.

**ЛАМА́НСЫ** *мн.* Крохкае печыва, прыгатаванае з мукі на вадзе. *Ламансы – гэ́та такі то́ненькі блін, пячэ́цца з мукі і вады́. Без нічо́га, по́сны.* Зэльв.

**ЛА́ННА** *прысл.* Досыць многа, ладнавата. *Калхо́зы э́тые начыналіся, а зямлі ў нас было́ ла́нна.* Ваўк.

**ЛАПАТУ́ХА** *ж.* Зазубіна. *Трэ́ба ўмець кляпа́ць, бо лапату́ху ўго́ніш, каса́ тады́ не хо́ча касіць.* Шчуч.

**ЛА́ЎКА** *ж.* Магазін. *А тады́ шчэ, как пашла́ я на пе́ньсію с саве́та, рабо́тала палтара́ го́да – ла́ўка на дамý.* Бярэз.

**ЛАЦЬВЕ́Й** *прысл.* Лепш. *Тады́ ш лацьве́й было́ жыць.* Круп. *Ямý, дзе́ду, лацьве́й: ні хварэ́ў, ні дакучáў.* Круп. *Лацьве́й малады́м, а ста́рась ні дай бох.* Віл.

**ЛЕ́ЧЫЦЬ** *незак.* Лячыць. *Я мала́я была́, дык ско́лькі ле́чыла, тады́, як падрасла́, то́жа ле́чыла.* Круп.

**ЛЕ́ШКА** *ж.* Града, градка. *Ой, ле́шак ён насадзіў, і памага́е мне. Тут кала ха́ты капа́ю, дзе́ці прые́дуць – па́шуць, карто́шкі ле́шку паса́дзюць.* Круп. *Се́ялі лён, німно́го. Ле́шак чаты́ры, п'яць.* Ваўк.

**ЛІВО́РВАР** *м.* Рэвальвер. *Та́ту скінулі, сяньнік паднялі і мяне́ дасталі. І ліво́рвара ў гру́дзі.* Стаўб.

**ЛІ́ПІНА** *ж.* Ліпа. *А як ба на́ша ліпіна загарэ́лася, уся́ б дзярэ́ўня вы́каціла.* Круп.

**ЛІЦЫТА́ЦЫЯ** *ж.* Канфіскацыя. *Вы́бралі с по́граба ўсе карто́флі, была́ цялу́шка, павалілі на воз, забра́лі. Э́то ліцыта́цыя за пада́ткі.* Ваўк.

**ЛО́ГАМ** *прысл.* Лежма. *Панапіва́ліся, дык у садý ло́гам ляжа́лі.* Круп.

**ЛО́ЖКО** *н.* Ложак. *Ло́жко – тако́е кары́то зро́бленае, а тут гэ́дакія во біла. Дык у то́е ло́жко сало́мы накладзём, яко́й дзяру́жкай, падсьці́лкай яко́й засьце́лем – гэ́дак кача́ліся во.* Карэл.

**ЛУ́БАЧКА** *ж.* Лубянка; карзінка. *І ў майго́ сьвёкра лу́бачку ту́ю, што із бу́лкай, ізь мя́сам, салда́ты ўкра́лі. Усё вы́клалі, а лу́бачку прынясьлі, на калёса пастанавілі.* Круп.

**ЛУКО́ШКА** *н.* Кош, лубянка. □ *Жыцьцё пражы́ць – ні луко́шка шшыць.* Лаг.

**ЛУПАВІ́НЫ** *мн.* Вонкавая абалонка плода, семя, стручка. *Се́мя з канапе́ль не́калі таўклі, яно́ малако́ палуча́ецца бе́лае, як лупавіны вы́цадзіш.* Зэльв.

**ЛУ́ПКА** *ж.* Лубянка. *А ба́цька наш лу́пкі плёў с сало́мы. Надзярэ́ць з гэ́тай лазы́ дубцы́ і плёў, а мяне́ заста́віў гэ́ту сало́му, гэ́тае ўсе пе́р'е адбіра́ць, каб яна́ была́ чы́сьцянькая.* Віл.

**ЛУПСА́Н** *м.* Пластык. *Сабра́ліся дзе́ці ды ўзялі парасьцягалі ўсе во́кны. З лупса́на во́кны. Усё так павыразалі.* Круп.

**ЛУПЯЧО́К** *м.* Масляк (грыб). *Уво́сень – зеля́нічкі растýць, лупячкі, сінячкі.* Навагр.

**ЛУ́СКА** *ж.* Шалупінне цыбулі. *Пірагі пячо́м, тады́ гэ́тыя яе́чкі ў лу́сцы ва́рым, чырво́ненькія яны́.* Карэл.

**ЛУ́СТА** *ж.* Ежа, якую давалі пастуху на Сёмуху. *А на Сёмуху ўжэ даю́ць, як называ́лася ў нас, лу́сту, лу́сту даю́ць пастухý. Выно́сіць аспады́ня ўжэ лу́сту – хле́ба, сыр та́мака пало́жаны, са́ла кусо́чак.* Шчуч.

**ЛЮБО́ВЫ** *прым.* Нятлусты (пра мяса). *Кілба́снае са́ла абраза́ем, любо́вае, рэ́жам, прыпра́вы. Кілба́сы ро́бім.* Мядз.

**ЛЮЦЫТАВА́ЦЬ, ЛІЦЫТАВА́ЦЬ** *зак.* Канфіскаваць, забраць. *У калхо́з зе́млю забра́лі ўсю, усё люцытавалі ў ба́цька: забра́лі каня́, во́за, са́ні, плу́га, бо́рану – усё абабра́лі. Пада́ткі ні вы́плаціш, ні дасі ра́ды, тады́ ліцыту́юць.* Ваўк.

**ЛЯГАНЕ́** *мн.* Лёгкія. *Як зако́лем кабана́, пячо́нкі, ляганé пава́рым, мя́са, са́ла дабаві́цца, тады́ скры́шыцца, прыпра́вы ўзло́жыш, у трыбу́х упхне́ш.* Мядз.

**ЛЯННЫ́** *прым.* Ільняны. *Усё ж лянно́е, і спаньніцы, і наве́рх усё з лянно́га.* Віл.

**ЛЯСКЕ́** *мн.* Выгнутыя палкі ў вертыкальным плятні. *І ляске́ абніма́лі, і гало́шы ча́рас кры́шу кі́далі – у які бок ля́жа гало́ш, туды́ за́муш по́йдзеш.* Карэл.

**МАДЛІ́ЦЦА** *незак.* Маліцца. *Я век мадлю́ся за ўсіх уну́каў і пра́ўнукаў сваіх.* Зэльв.

**МА́ІНА** *ж.* Галінкі клёну, ліпы, якія прыносілі для ўпрыгожвання хаты перад Тройцай. *Што ў ха́ту насілі – ма́іна, бярэ́зіна, а вот жа вярба́ – гэ́та не. Ма́іна і бярэ́зінка.* Карэл.

**МАКАЦЁРЧЫК** *м.* Гліняная пасудзіна, у якой труць мак. *Былі і макацёрчыкі гліня́ныя. Паста́віш малако́, яно́ сьці́сьне.* Лаг.

**МАЛАДУ́ХА** *ж.* Нявеста, маладая. *Шкаф прывéзьлі з адзéжай мой, а рáзам з маладýхай вязýць падýшкі зьвязаныя.* Бярэз.

**МАЛО́ЧШЫ** *прым.* Маладзейшы. *Жанчы́нка, мілая, вы сáмая малóчшая тут, аставáйціся ў магазін.* Карэл.

**МАЛЕ́НКІ** *прым.* Вельмі малы. *Э́та малéнка кóска, нам дóсыць тут, э́та шасцёрка.* Шчуч.

**МАНЁШ** *м.* Падман, хлусня. *Тады́ яны́ ўжэ пірідзявáліся ў éту ваéнную адзéжу. Пакáзвалі, што яны́ ўжэ сь цюрмы́ йдуць, óбшчым манёш дзéлалі.* Віл.

**МАРКО́ШКА** *ж.* Морква. *І маркóшку на цёрачку нацярэ́ш.* Лаг.

**МАРНАВА́ЦЦА** *незак.* Псавацца, прападаць. *І жы́та ссыпáлі ў бóчкі, карабы́ такіе былі плéценые. І ў том збóжа ні марнавáласо, ні цьвіло́.* Ваўк. *Мякіна былá. Тóжа ні марнавáлася гэ́та мякіна, кармілі сьвіне мякінаю.* Шчуч.

**МАСЬЛЯ́К** *м.* Мачанне, прыгатаванае з тоўчаных канапель. *З канóпляў масьля́к таўклі. Сéмя патсýшаць у пéчы на бля́шцэ, на патэ́лях.* Віл.

**МАТЛАШЫ́ЦЬ** *незак.* Турбавацца наведваючыся. *Вайнá кóнчылася, а чорт ягó вéдае, яшчэ́ ж партызáны дóўга матлашы́лі людзéй.* Стаўб.

**МАХО́ТАЧКА** *ж.* Невялічкі гаршчок. *Малéнькі такі гарлáчык быў, éта называ́лась ні гаршóчык, а махóтачка. У махóтачках дзéлалі óчынь укýсную бáпку.* Лаг.

**МАЦЯЖА́НКА** *ж.* Мацярдушка (расліна). *Мацяжáнка, па-рýску чабрэ́ц.* Шчуч.

**МАЧАНІ́ЧНІК** *м.* Талакнянка (расліна). *У чóрнае тóжа крáсілі. Мачанíчнік такі быў на балóці, капáлі мачанíчнік э́ты, крáсілі. Чóрняныкі цьвет.* Лаг.

**МЛІН** *м.* Млын. *Млін быў у нас нідалéко. Малóлі ў млінé, а як ні былó калі, то былі такія жóрна, там малóлі.* Ваўк.

**МНЯК** *м.* Мянтуз. *Тут усякa былá ры́ба: і карасé, і платвá, і шчýка, акуні, мнякі такіе во, як вуж. І сéткаю, і рукáмі лавілі.* Ваўк.

**МО́ГІЛЦЫ** *мн.* Магілкі. *Гэ́такая есць сыбóта, і ўжо ідзём і прáвім і мóгілцы, і ўсё.* Карэл.

**МО́ЛАНЫ** *прым.* Молаты. *Пéрцам абсы́пала мóланым, каб гáдасьць не садзілась.* Бярэз.

**МРЭЦ** *м.* Нябожчык. *Тагó, хто памрэ́ (мрэц), абы́чно дзержáлі тры дня. На трэ́ці дзень трэ́ба хараніць.* Ваўк.

**МУСО́ВА** *прысл.* Неабходна. *Быў вéцер, марóс, хóлат, а мусóва былó пільнавáць гэ́тые ўчáсткі. І гэ́ты тáто дастáў запалéне мазгóў і ўмéр.* Ваўк.

**МЫ́ТКІ** *мн.* Манаткі, рэчы. *Як варóчалася з Гермáніі, мы́ткаў набрáла, а тут ужэ́ ў Лóўжы ўсё адабрáлі, савéцкіе салдáты ці хто там, усé ты́е лахманы́.* Зэльв.

**МЯ́ЛЬНІЦА** *ж.* Церніца. *Вун і мя́льніцы на гарэ́, і ставы́, і ніты́, і вітýшкі, і стайнó – усé ёсь, алé ніхтó ўжэ ні тчэ, агóнь злóжыць.* Віл.

**МЯНЬЦІ́ЦЬ** *незак.* Біць, лупцаваць. *Каля́ска ўгары́, хлóпец пат каля́скаю, а янá ягó выця́гвае, мéньціць па жóпе.* Нясв.

**МЯНЬЦЯ́** *ж.* Мянташка. *Брусóчак гэ́ты – мяньця́. І вот стаў, ачы́сьціў травóй касý, каб чы́сьценька, а тады́ яé во так о мяньцёю.* Шчуч.

**МЯРЦЬВЕ́ЛЫ** *прым.* Здранцвелы. *Я ў калгáсе дая́ркай былá. Цяпéр ні чýствую рук, мярцьвéлые пáльцы. А нóгі ў рызіне, цяпéр яны́ ў мянé мярцьвéлые, ня чýствую іх.* Мядз.

**НА́БРЫДЗЬ** *ж.* Наеджыя людзі. *Цяпéр тут і нáбрыдзі éтай наéхала, не рабóтаюць, і грáдкі ні зьдзéлаіць.* Круп.

**НАВА́Й** *м.* Пярэдні валік у кроснах, на які намотваецца аснова, ці задні, на які намотваецца палатно. *Тады́ такі навáй, такáя галавá во ў тым навáі, такіе дзíркі, а тут такіе качýлкі.* Віл.

**НА́ГІ** *прым.* Голы. *Нáгіе, у дзеравя́шках хадзілі.* Навагр.

**НАГРАЖДА́ЦЬ** *незак.* Узнагароджваць. *А ён такі ўжо быў механізáтар залаты́ ў калхóзі – скóлькі ягó ўсё награждáлі на Сьвíцязі!* Карэл.

**НАДЗЁЖНІЧАК** *м.* Кавалак палатна, якім накрывалі дзяжу. *Картóшкі ў міскі ні сы́палі, а ў такі надзёжнічак, палатня́ны такі, ткáны. Рассцілáецца на стол, насыпáецца.* Стаўб.

**НАДЗІВА́НЬНЕ** *н.* Адзежа, адзенне. *Надзівáньня у менé дýжа мнóга ўсякага, алé ня хóчыцца надзівáцца.* Круп.

**НАКЛАДА́ЦЬ** *незак.* Абкладаць падаткам. *Да вайны́ пасьлéдняе врэ́мя былі налóгі бальшы́я, мя́са накладáлі, малакó накладáлі.* Круп.

**НАКЛАДА́ЦЬ** *незак.* Раскласці, распаліць (касцёр). *Гуля́лі дóбра Купáлу. Маладзёш сабірáецца к лéсу, к жы́ту, накладáюць цяплó, ігрáюць, танцýюць.* Круп.

**НАЛА́ДЗІЦЬ** *зак.* Нагатаваць. *Бывáла, і на ўсянóшную пóйдзім, бýлак напячóм і ўсягó налáдзім – і паéхалі сьвяціць.* Круп.

**НАЛІВА́НКА** *ж.* Крывянка. *С крыві, як закóлюць кабанá, налівáнкі рабілі.* Уздз.

**НАЛЯГНУ́ЦЦА** *зак.* Прылегчы. *Во са мнóй во так разгавáрвала і на канáпку налягнýлася, рýкі паклáла і захраплá. І ўсё, і кóнчылася.* Бярэз.

**НАТАПТА́ЦЬ** *зак.* Набіць, напхаць. *Я і ціпéр каўбýх натаптáла. Каўбýх вы́шкрабла, накрышы́ла мя́са, пасаліла, прапрáвы і гэ́тай плéвачкай зашы́ла.* Бярэз.

**НАТА́РЫЦЬ** *зак.* Нацерці (на тарцы). *Часáмі ў кагó мукі брак, дабаўля́юць картóшкі, буракóў натáраць, патаўкýць і дабаўля́юць* (у хлеб). Ваўк.

**НАЎРО́ШНЕ** *прысл.* Знарок, наўмысна. *А шáфер éхаў і абярнýў вазóк, і вот жысь мая абярнýлася. На кані, наўрóшне, ён не нéхаця, а наўрóшне.* Бярэз.

**НА ХАПУ́** *прысл.* Похапкам, на хаду, адразу. *Вот жа на хапý і ня ўздýмаеш, што ўмéеш.* Круп.

**НАШЫТРУ́ЛІЦЬ** *зак.* Нашатраваць; ачысціць ад абалонкі. *Катóрые багáтые былі, некатóрые*

*памнóгу зямлі мéлі, нашытрýляць жыта і сітны пяклі хлеп сáмі.* Віл.

**НЕВÉЛЬКЕНЬКІ** *прым.* Невялічкі; малы ростам. *Іх трох тут. Два такіх невéлькеньких, а той – высóкі.* Шчуч.

**НЕМАГУ́ЧЫ** *прым.* Хваравіты, слабы, нямоглы. *А сёлета ўжо я стáла немагýчая, прадалі ўвóсень карóву, а кабаны шчэ дзяржý, кýры.* Валож.

**НÉМЕЦ** *м.*, **НЯМЦЭ́** *мн.* Немец, фашыст. *Нямцэ́, бóжа мой, былі гáдкіе людзі, стралялі людзéй, а паліцáі шчэ гóршые за нямцóў.* Уздз.

**НЕСТА́ЧЫНА** *ж.* Нястача. *Прыéхалі мы тудá, трэ́ба наймáць кварціру, а мы ў такóй нестáчыне жывóм.* Уздз.

**НІЎРО́ДА** *ж.* Неўраджай. *Ідзé ў вóдарасьлі, і цьвіцé абрáтно другім рáзам, гэ́то як ніўрóда ямý* [пра лён]. Ваўк.

**НІШЧЭ́ПАНЫ** *прым.* Непрывіты, дзікі. *О там во расьцé мы называем рóза. Алé э́то ні рóза, нішчэ́пана янá. Харóша.* Навагр.

**НО́ЧВЫ** *мн.* Начоўкі. *Купáліся ў нóчвах, дзеравяные нóчвы рабілі і ў нóчвах купáліся.* Шчуч.

**ПАВІЛО́Н** *м.* Павільён. *А на выстаўцы пакáзалі карóў, сьвінéй. Як даіць, як там што – рáзныя там павілóны гэ́тыя.* Бярэз.

**ПАВЫРО́БЛІВАЦЦА** *зак.* Выпрацавацца. *Бáчыце, якія во рýкі. Павырóблівалась.* Карэл.

**ПАВЯРХО́ЎНЫ** *прым.* Рабочы, які працаваў не ў шахце, а наверсе. *Паўлітра балáнды гэ́тай, чатырыста грам хлéба іскýсцьвеннага, двáццаць грам маргарыны. Гэ́та павярхóўным, а шахцёрам шэсьсóт грам хлéба.* Валож.

**ПАДА́ЦЦА** *зак.* Паехаць. *Дóчка яé кóжнае лéта éдзе туды аддыхáць. Вот падалáся ўжэ.* Уздз.

**ПАДБЯРЭ́ЗЬНІЧАК** *м.* Абабак. *Брáлі апéнькі, краснагалóвікі, падбярэ́зьнічкі, махавічкé.* Нясв.

**ПАДЛІ́ПАВІК** *м.* Баравік са светлай шапачкай. *А ёсь і падліпавічкі. Дык яны ўжо ні такіе чóрнянькіе, нéйкіе бы сіверенькіе, бы рудзéнькіе.* Віл.

**ПАДМУРО́ЎКА** *ж.* Фундамент. *Стáлі гóспіталь рабіць. І ат падмурóўкі як зачалá – пакýль і ні кóнчылі.* Нясв.

**ПАДНО́ЖНІК** *м.* Палавік. *Тады ш і палацéнцы, і мяхі – усё ткáнае. Ці пад нóгі якіе паднóжнікі – усё ткáнае, а цяпéр кóўдры ды дарóшкі.* Мядз.

**ПАДУЗО́РКІ** *мн.*, **ПАДУЗО́РАК** *м.* Падузорнікі. *Кóўдры харóшые ткáла, вязáла падузóркі.* Уздз.

**ПАЕДЫНКО́ВЫ** *прым.* Адзіночны. *Забрáлі канá, сáні паедынкóвыя былі, плýга – усё забрáлі.* Ваўк.

**ПАЗАПЛО́ЦЦЮ** *прысл.* Пад плотам. *Канóплі пазаплóцьцю і цяпéр расьлі, алé як стáлі працеставáць, то паўкідáла.* Зэльв.

**ПАЗÉМКІ** *мн.* Суніцы. *Бывáло, у Пýдзіне за клáдбішча пóйдзем – сініцы, чарніцы самó сабóй, маліна, пазéмкі...* Навагр.

**ПАКАРЧЭ́ЦЬ** *зак.* Пакрывіцца, павыкручвацца. *А цяпéр, відзіце, якія маé рýкі: пакруціла, пакарчэ́лі.* Валож.

**ПАКО́Й** *м.* Панская усадзьба. *Ліст-клён хадзілі аш у Крывічы да пакóя зьбірáлі.* Мядз.

**ПА́ЛАЧКА** *ж.* Трудадзень. *А палýчка ў калхóзе былá – пáлачка. Робім, рóбім за пáлачкі.* Віл.

**ПАЛÉННЫ** *прым.* Драўляны. *У жóрны малóлі мукý, а патóм у дзéшкі палéнные, вéйкі такіе, надзéжнічак, і ўчыніш э́ты хлеп нáнач. А тады ўжо лапáта такáя палéнная, і туды ягó на лапáтку э́ту.* Бярэз.

**ПАЛІДЗÉЦЬ** *зак.* Пагледзець. *Ну, ёсьць такéя людзі урэ́дные, чóрныя, палідзяць на цябé – тады хóладна, трасéць цябé.* Круп.

**ПАЛО́ЙНІЧЭК** *м.* Палонік. *Я́ек, малакá, на скавараду нальéш палóйнічэк. Гэ́ткіх блінкóў напячóм, а тады парэ́жам, парэ́жам, як цяпéр лапшá.* Мядз.

**ПАЛУ́ЦІНКА** *ж.* Цемя (?). *Нежывéнькі быў, лéдзьва янá ягó тхадзіла. І стýкала янá ягó, і адзін укóл увялá, і другі у палýцінку. Я ўсё кажý: палýцінка мякенька.* Нясв.

**ПАМЯЛÉШНІК** *м.* Качарэжнік. *У памялéшніку стаяць гаршчэ́чнікі, чапяля, качаргá.* Навагр.

**ПА́МЯТНІК** *м.* Нататнік, дзённік. *Ён прыслáў тры пáмятнікі, такіе грýбые, у мінé ляжáць на шáфе. Напісана ад пéршага дня, як ягó злавілі.* Ваўк.

**ПАНЦА́К** *м.* Пярлоўка (крупы). *Панцáк – э́то бальшáя крупá, і дрóмненьку рабілі.* Ваўк. *А куцця – гэ́то Дзéды, як Дзéды, панцáк і гарóх сыплюць, гэ́дакая куцця густáя.* Карэл.

**ПАПАВАЛТЭ́ЖЫЦЬ** *зак.* Паздзекавацца, змардаваць. *А мáцеру ён тóжа папавалтэ́жыў. Скóлька янá ні начавáла ўдóма, скóлька зь дзяцьмі пацягáлася!* Зэльв.

**ПАПА́СЫВАЦЦА** *незак.* Частавацца. *І патóм да дзьвенáццаці часóў, пакýль ідзéць абéдня, папáсываюцца. Ну як папáсываюцца? Ва ўсіх трэ́ба, кап калбáска былá, і сáлца, і сухарóў панапікáюць, і бýлак нарэ́жуць.* Лаг.

**ПАПРАДУ́ХІ** *мн.* Попрадкі, вячоркі. *Былі папрадýхі: прáлі. Тады й хлóпцы прыхадзілі да гэ́тых дзяўчáт.* Валож.

**ПАСО́БІЦЬ** *зак.* Дапамагчы. *Січáс пасóблю трóшку сястрэ́ і пайдзём.* Круп.

**ПАСО́ЛЯ** *ж.* Фасоля. *Цяпéр і цыбýльку пасадзіла, і гарóху, і пасóлі.* Навагр.

**ПАСПО́РВАЦЬ** *зак.* Заараць. *Тут жэ нéкалі былі мéжы, яны ж былі вéчные, іх ніхтó ні чапáў. Паспóрвалі савéты, як прышлі, усé чысто мéжы.* Навагр.

**ПАТРА́ВА** *ж.* Страва. *Былі на Калядах і іншые патрáвы, хто што прыдýмае.* Стаўб.

**ПАТРЭ́П'Е** *н.* Атрэп'е. *А гэ́та во ўжо, што во чэ́шаш, – патрэ́п'е, – і гэ́та тóжа прáлі. Гэ́та ўжо хужэ́шо ткáлі, шылі дзярýгі.* Бярэз.

**ПАТТАПЛЯ́ЦЬ** *незак.* Распальваць. *А ýтрам паттапляю печ, мяшý э́тые бýлкі.* Лаг.

**ПАТШПА́РАК** *м.* Падростак. *Я ўжэ падрóс, патшпáрак.* Ваўк.

**ПАТЭ́ЛЯ** *ж.* Скаварада, патэльня. *Се́мя патсу́шаць у пе́чы на бля́шцэ, на патэ́лях.* Віл.

**ПАФТАРЭ́НЬНЕ** *н.* Ваенныя зборы. *Хаце́лі хрэ́сьбіны спра́віць, ні было́ калі́, на́да было́ яму́ на пафтарэ́ньне ісьці. Ён пашо́ў на пафтарэ́ньне, а я цэ́лы гот анна́.* Віл.

**ПАЧО́СТКА** *ж.* Частаванне. *Шчэ як е́хаў у По́льшчу, паклі́каў на пачо́стку і дзя́куваў, каза́ў: вы вы́лечылі мне глаза́, памагло́ малако́.* Нясв.

**ПАЯСА́ТЫ** *прым.* Паласаты. *Дзе́ткі, яго́ галава́, як у вужа́. Ні́дзе ні лускі́ ні́ма, і хвост шылахво́сты, як у ры́бкі, шчэ расхо́дзіцца ві́лачкаю. Дак яка́я ж е́та ры́ба: пад чэ́равам-то пояса́тая.* Навагр.

**ПЕРАБІРА́НКА** *ж.* Даматканая посцілка з узорамі. *Перабіра́нкі каза́лі на іх. І харо́шыя у́зоры такі́я.* Карэл.

**ПЕРАКСЬЦІ́ЦЦА** *зак.* Перахрысціцца. *А цяпе́р іны́ ня у́ме́юць пераксьці́цца, ня то́лькі малі́цца.* Круп.

**ПЕРАПА́САНЫ** *прым.* Перапаясаны. *Парціза́ны прыхо́дзілі, як я по́мню, перапа́саные былі́ патро́намі.* Ваўк.

**ПЕ́РЫЦЬ** *незак.* Малаціць цэпам. *Жы́то ваза́мі звозі́лі ў гу́мна. Малаці́лі ўручну́ю. Цэ́лу зі́му та́то пе́рыць э́тым – паўтара́ пале́на зва́лі.* Ваўк.

**ПІ́ЛЯ** *ж.* Лесапілка. *Сельсаве́т нам вы́пісаў дзе́рава, вазі́лі на пі́лю, рэ́залі до́шкі.* Уздз.

**ПІЯ́ЦЬ** *незак.* Спяваць. *Валачо́бнікі не́йкія, бува́ла, хадзі́лі. Ігра́лі на скры́пачку і пе́сьні піа́лі пад вакно́м.* Круп.

**ПЛАСКО́НЬНІ** *мн.* Мужчынскія асобіны канапель. *А шчэ пласко́ньні ў нас зва́лі. У іх сяме́ньня ні́ма, яна́ така́я шылава́тая. Яны́ на вяро́ўке то́лькі, сабе́ ні йшлі́.* Віл.

**ПЛАЦЭ́НТ** *м.* Плацэнта. *Яна́ то́жэ паме́рла, яна́ кро́ўю сьцяка́ла. Дзе ж вы ба́чылі – у яе́ ні плацэ́нт ні адышо́ў, ніч́ога.* Стаўб.

**ПЛЕСКУНЭ́** *мн.* Палавікі. *Я й перабіра́нкі ўме́ла ткаць, і во э́тые плескунэ́, што не́калі ткалі.* Навагр.

**ПЛО́ЦІНА** *ж.* Штыкецiна. *На Ко́ляды варажы́ць хадзі́лі. Плот лі́чаць – вы́йдзеш за́муж ці не вы́йдзеш. Вы́йдзеш ці не вы́йдзеш, як ужо́ там пло́ціна пака́жа.* Карэл.

**ПЛЯ́ХІ** *мн.* [**ПЛЯ́ХА** *ж.* (?), **ПЛЯХ** (?) *м.*] Кавалкі. *Ідзе́ ўжо выража пля́хі мя́са з лапа́ткі.* Стаўб.

**ПЛЯЦ** *м.* Участак. *Мы жылі́ яшчэ́ на кварці́ры два гады́, а хаце́лі будава́цца, но нам пля́ца, дзе мы хаце́лі, не да́лі.* Валож.

**ПО́ДРУП** *м.* Першы вянок зруба. *По́друп – э́та ніз дае́тца. Вот ні́жняе брэўно́ гніёт, зна́чыт, по́друп даём, два венка́, тры венка́.* Круп.

**ПОЛЬШЧ** *ж.* Польшча. *У некато́рых у іх быў про́пуск у По́льшч, яны́ павыяжджа́лі туды́.* Уздз. *Ста́лі пі́саць на По́льшч, тады́ ўжэ палаві́на вёскі вые́хало на По́льшч. Запі́свалі, хто хо́ча.* Ваўк.

**ПОРТ** *м.* Ільняная тканіна. *Бяры́, дачу́шка, нош і скрабі́ э́ту пялю́шку, порт э́ты скрабі́, каб прысы́паць дзіця́.* Навагр.

**ПО́СЬЛЯЧЫ** *прысл.* Пазней, после. *А по́сьлячы ўжо пакапа́лі кана́ўкі і тарпу́ ш капа́лі тут.* Навагр.

**ПО́ХНУЦЬ** *незак.* Пухнуць. *Се́дзіш – рука́ по́хнець, страх. А наза́ўтрэ зноў ідзе́ш.* Віл.

**ПО́ЦЯГАМ** *прысл.* Цягам. *Застаўля́лі іх цяга́ць по́цягам ваду́ бо́чкамі, запрага́лі іх.* Уздз.

**ПРА́ВІЦЦА** *незак.* Папраўляцца, выздараўлівацць. *Ба́цька прыве́з мёду. Усё, дачу́шка, пра́ўся, а то асіро́ціш э́та дзіця́.* Нясв.

**ПРА́НІК** *м.* Прылада для выбівання бялізны і абівання лёну. *Такі́я былі́ пра́нікі, аббіва́лі гэ́тым пра́нікам, а тады́ яго́ сла́лі, у рэ́чцы мачы́лі.* Карэл.

**ПРАПЛЁХАЦЦА** *зак.* Прамыцца. *У ме́сяц раз праплёхаешся, ма́ці цага́н вады́ нагрэ́е ды тро́хі абмы́е-абмы́е нам гало́вы, ды ўсё.* Карэл.

**ПРАРО́БІЦЬ** *зак.* Прапрацаваць, прарабіць. *На фе́рме прапро́біла, то на палявво́дстве ро́біла, тады́ брыгадзі́рам двана́ццаць гадо́ў прапро́біла на сьвінафе́рме.* Бярэз. *У магазі́не я два́ццаць чаты́ры гады́ прапро́біла.* Круп.

**ПРАСАКНУ́ЦЬ** *зак.* Прапароць. *Ідзі́, паразі́т, бо ві́лкамі як дам, прасакну́ ві́лко́м і лявро́рвар табе́ не памо́жа.* Стаўб.

**ПРАСЬВЯТЛЕ́НЕ** *н.* Рэнтген. *Паста́вілі яго́ на прасьвятле́не і сказа́лі яму́, што я́зва жалу́дка.* Ваўк.

**ПРАСЬНІ́ЦА** *ж.* Прасніца. *Прасьні́цы такі́е і на прасьні́цах сядзя́ць, тут караўло́ты.* Віл.

**ПРАЎДЗІ́ВІК** *м.* Баравік. *Грыбы́ ўся́кіе: і праўдзі́вікі, і масьля́чкі, і апя́тка. Праўдзі́вікі ў нас расьлі́ ве́льмі.* Ваўк.

**ПРО́ДАЦЬ** *незак.* Прадаваць. *Про́далі, на база́р вазі́лі цабра́мі, ко́шыкамі. Седзімо́ і про́даем.* Навагр. *Там вясы́ даю́ць табе́, аплаці́, бяры́ вясы́ і про́дай. Машы́ну сы́ну купі́лі за ты́я гурцы́.* Карэл.

**ПРО́СА** *ж.* Проса. *Про́су са́мі таўклі́, грэ́чку се́ялі.* Нясв.

**ПРО́СЬЛЕ** *прыназ.* Пасля. *У том ро́ку было́ ве́лька сі́ла грыбо́ў, вазі́лі і вазі́ліваза́мі. Але́ про́сьле то́го ўсе меньш і меньш і ціпе́р нет.* Ваўк.

**ПРО́ЎДЫ.** *часц.* Так, праўда, сапраўды. *Про́ўды, дзя́лкі дава́лі, а по́сьлячы ўжэ мы яго́ вазі́лі ў гу́мна, а цэ́лу зі́му ўжэ мало́цяць.* Навагр.

**ПРУЖМЕ́НЬ** *м.* Прыгуменне. *Мой па́па навяза́ў цялё ў іх на пружме́нь, гэ́та ж ні іхні быў пружме́нь, а калхо́зны, але́ напро́ціў іх ха́ты.* Уздз.

**ПРУС** *м.* Прусак (насякомае). *Малы́я тады́ бая́ліся – як прус у шчэ́лку ле́зіш, як уба́чыш каго́.* Бярэз.

**ПРУ́СЫ** *мн.* Прусія. *Па вайне́ два́ццаць другі́ ро́чнік забіра́лі малады́х на Пру́сы. Мушчы́наў, хло́пцаў і дзяў́ча́т паатпраўля́лі на Пру́сы.* Ваўк.

**ПРЫВА́РАК** *м.* Крупы, бабовыя, мука. *Гаро́х і вары́лі і сьвіня́м паткі́двалі. Прыва́рак раби́лі: аве́с, гаро́х.* Зэльв.

**ПРЫВО́ЖАЦЬ** *незак.* Прывозіць. *Яны́ прыво́жалі бачэ́начак гарэ́лкі, бачэ́начак дубо́вы, я іх абвіза́ла палаце́нцам.* Бярэз.

**ПРЫЁМЧЫК** *м.* Прыёмнік. *Яго́ ко́жны гот награждáлі, і ён як купі́ў каро́ву, яму́ нагрaдзі́лі не́йкі прыёмчык – ён на плячо́ і да мяне́.* Карэл.

**ПРЫІ́МЧАВЫ** *прым.* Хлебасольны. *Лю́дзі до́брыя, прыі́мчавыя. У ха́ту пры́дзіш, калі́ ён есьць, дык – душа́ вон – ён цябе́ пасо́дзя.* Бярэз.

**ПРЫМА́Ч** *м.* Прымак. *Зало́ўка – му́жава сястра́, і быў прыма́ч у зало́ўкі. Дык яны́ жылі плóха.* Круп.

**ПРЫСТРА́ПАЦЬ** *зак.* Прыгатаваць. *Лю́дзі прышлі́ ў ха́ту, па ру́мачкі, разьдзялі́лі э́та ўсё, што там прыстра́палі – мя́са мо якóе, агурэ́ц, капу́ста. Памяну́лі ба́цька.* Зэльв.

**ПРЫХО́ДЖАЦЬ** *незак.* Прыходзіць. *Ка́жуць жа ш, вот як памрэ́ць, то прыхо́джаіць ён, хо́дзіць па ха́це.* Круп. *Не́мцы паéдуць, ну а парціза́ны ізно́ў прыхо́джаюць.* Бярэз.

**ПРЫЦЬВІ́ЧЫЦЬ** *зак.* Прымусіць. *Яна́ ка́жа: каб мне ране́й гэ́та хто зрабі́ў, я ў Мі́нску жыла́ б у кварці́ры. Чаму́ мяне́ ране́й гэ́дак ніхто́ ні прыцьві́чыў?* Валож.

**ПЫ́ЖЫК** *м.* Грыб (рыжык?). *І грыбо́ў тады́ было́: і шчы́рыя, і асо́вікі, і кабы́лкі, і казьля́чкі, пы́жыкі гэ́тые былі́ – харо́шые грыпкі́.* Ваўк.

**ПЫЛАТА́** *ж.* Пыл. *Такі́е былі́ це́рніцы называ́ліса, і трэм яго́ ўручну́ю, трапа́ем і чэ́шам – гэ́та ўсё ў пылаце́ было́.* Ваўк.

**ПЫ́ШКІ** *мн.* Перамёрзлая бульба, якая засталася на полі. *Пасьля вайны́, як го́лад быў, я пы́шкі зьбіра́ла. Мы э́тые пы́шкі зьбіра́лі, э́ту карто́шку чо́рную, мы́лі яе́ і з э́тага крахма́лу пяклі бліны́. Яны́ чо́рные, але́ ўку́сные былі́.* Уздз.

**ПЯ́РЫЦЬ** *незак.* Біць пранікам (бялізну). *Бялі́ць трэ́ба ж было́ палатно́ гэ́та: уначáле ў ваду́, тады́ пра́нікам бі́лі. Пойдзеш з ма́май пя́рыць, а не так пя́рыш, злуе́цца.* Валож.

**РАДЗЮ́ШКА** *ж.* 1. Дзяруга; пакрывала з грубых нітак. *Радзю́шка ткáна, пад нізо́м распасьці́ра́лі кудзе́лю, а суко́нна, э́та калю́ча – паве́рсе.* Навагр. 2. Капа. *Радзю́шка – як сёні адзія́дло. Радзю́шкі тка́ныя былі́, а сёні ка́пай завýць куплёну.* Зэльв.

**РАДКА́ВЫ** *прым.* Рэдкі. *Жы́та ні было́ густо́е ду́жа, ні пацьсіва́лі ўдабрэ́ньнямі, дык яно́ радка́вая.* Бярэз.

**РАДО́ЎКА** *ж.* Чарга пасвіць кароў. *Насі́лі ш мы яго́, пра́ўнука, на плячáх, на рука́х, як радо́ўку гані́лі, гадава́лі ш мы яго́ ат трох да пяці́ гадо́чкаў.* Навагр.

**РАЖО́Н** *м.* Дзяржанне. *Печ вымета́лі памяло́м с са́сны: ла́пкі зьвя́жуца, а гэ́тымі ве́ткамі на ражо́н дліны усáджваеца, і печ падмяце́ца дачыстá.* Ваўк.

**РАЗЛУЧЫ́ЦЦА** *зак.* Скасаваць шлюб. *Дачка́ разлучы́лась, і адна́ жыве́.* Бярэз.

**РАЗРАБЛЯ́ЦЬ** *незак.* Рабіць прыгодным для пасеву. *Трэ́ба было́ бало́то разрабля́ць.* Навагр.

**РАЗРУ́ШЫЦЦА** *зак.* Расшавяліцца. *Як паляжу́, то зусі́м ні магу́ на́ват перайсьці́ церас ха́ту, а пато́м, як разру́шуся, хаджу́ і му́шу рабі́ць.* Ваўк.

**РАЗЬНЕ́ЧАНЫ** *дзеепрым.* Зруйнаваны, разабраны. *Церымо́к не быў разьне́чаны, а цяпе́рака яго́ зусі́м разьне́цілі.* Валож.

**РАЗЭ́ТАЧАК** *м.* Разок. *З му́жам мы ні разэ́тачку ні пасвары́ліся.* Уздз.

**РА́НІТЫ** *прым.* Ранены. *У ако́пах сядзе́ў, быў ра́ніты, зямлёй зары́ты быў.* Круп.

**РАПІ́Й** *м.* Лопух (расліна). *Е́сьлі нага́ ці сустáвы баля́ць – э́та рапі́й, такі ло́пух прікла́дваюць.* Шчуч.

**РАСКАЦІ́ЦЬ** *зак.* Раскатаць. *Це́ста крэ́пка заме́сім, раско́цім кача́лкай.*Круп.

**РАСКРУЦІ́ЦЦА** *зак.* Развесціся, рызысціся. *А ўжо сын яго́ жані́ўся, і не́шта – чорт іх ве́дае – раскруці́ліся.* Уздз.

**РАШЧАПІ́ЦЬ** *зак.* Разбіць. *До́бра, што я ране́й упа́ла, а то там і халадзі́льнік стаі́ць, то і гала́ву рашчапі́ла б.* Круп.

**РАШЧЫ́НКА** *ж.* Рошчына. *Вазьме́ дзяжу́, рашчы́ніць: ваду́ ульé цёпленькай, мукі́, раскало́ціць гэ́ту рашчы́нку, і яна́ кі́сьніць.* Мядз.

**РО́БІЦЬ** *незак.* Рабіць, працаваць. *Ён жа свáдзьбу ро́бе, і я бу́ду ро́біць. Пайшла́ к дзірэ́ктару, а я даяркай ро́біла.* Бярэз.

**РО́БНАСЬЦЬ** *ж.* Страх. *По́сьле сьме́рці му́жа но́ччу як бы стол абярну́ўся ды крэ́пка сту́кнуў. Ро́бнасьць не́йкая, што адзі́н у ха́це.* Круп.

**РО́ВІСЬНІЦЫ** *мн.* Равесніцы, аднагодкі. *Твая́ ба́ба была́ сьвятáя, малі́лася бо́гу. Яе́ яшчэ́ ро́вісьніцы жывýць, а яна́ памярла́.* Зэльв.

**РОК** *м.* Год. *Як і́нны рок уро́дзіць ён* [лён], *то валакно́ харо́шэ, а і́нны рок як ні ўро́дзіць, то валакна́ німá.* Ваўк.

**РО́СЬЛІКІ** *мн.* Солад. *Гарэ́лку гна́лі. Расьці́лі ро́сьлікі, тады́ тро́шкі са́хару, бу́льбы. Ро́сьлікі мало́лі на жо́рны, тады́ забаўта́лі ў дзе́шку, а тады́ гна́лі ў ле́сі.* Бярэз.

**РОЎЛО́ВЫ** *прым.* Лаўровы. *Сыро́е мя́са, прыпра́вы: пе́рцу, роўло́вы ліст, каля́ндру і зьміша́лі-зьміша́лі, соль.* Бярэз.

**РУБЛЯ́НЫ** *прым.* Высечаны, зроблены з дрэва. *Така́я лапа́та зро́бляна рубля́ная, як на бу́лку хле́ба. Тады́ кладзе́цца на э́ту бу́лка, загла́дзіш ро́ўненька – і ў печ.* Віл.

**РУДНЕ́НЬКІ** *прым.* Рыжа-карычневы. *А крахма́лам ма́залі, каб блішчэ́ла скары́начка. А жо́ўценька зро́біцца, рудне́нька такáя, кары́чневая.* Мядз.

**РУДЫ́** *прым.* Тое ж. *Намо́чвалі палатно́: яно́ ж рудо́е было́.* Карэл.

**РУ́ЖА** *ж.* Рожа; скураное захворванне. *Ма́ма мая́ ана́ людзе́й лячы́ла, іна́ ру́жу замаўля́ла.* Лаг.

**РУКА́ТЫ** *прым.* Умелы, майстравы. *Мужы́к рука́ты быў. Сам усё-усё рабі́ў: і сталы́, і шкафы́, і ко́йкі.* Мядз.

**РЫСАЧО́К** *м.* След на скуры ад раны ў выглядзе паласы або рубца. *Вот у мяне́ во аткýль і во аткýль рысачо́к – мы такія снапы́ ве́лькія-ве́лькія кідáлі. Я тут во як надушы́ла былá, дык як скапілася мне ад касьці тут рваць.* Карэл.

**РЭДЗЬ** *ж.* Столка. *Такýю пасьцілку да ў дзьве рэ́дзі, і тады́ накрывáцца спаць.* Бярэз.

**РЭ́ХВА** *ж.* Жалезны абруч, які надзяецца на драўляную калодку кола. *Каўбáсы вісяць, такíе крýгленькие, на рэ́хвах. Рэ́хвы – гэ́та што на калёсы насáджваюць, дак я туды́ пазало́жваю калкí і ве́шала.* Нясв.

**САБІ́ЛЫ** *мн.* (?). *На ве́чар усё прыбірáюць, мы́юць у хáтах, сабíлы гэ́тыя ро́бяць, скаме́ячку прынясýць яшчэ́ пастáвяць.* Стаўб.

**САВЯ́К** *м.* Падасінавік. *У грыбы́ хадзілі, лес нідалéко. У савякí, праўдзíвікі, сыраéшкі, масьлякí, грýзьдзі.* Ваўк. *Зьбірáю чашчэ́вікі (цяпе́р усé гаво́раць бáбачкі), савякé, сураве́шкі.* Навагр. САВЯЧО́К *памянш.-ласк. Бывáюць грыбэ́, а бывáюць бáпкі, савячкí чырво́ненькие, сураве́жкі, лісíцы.* Зэльв.

**САГА́Н, ЦАГА́Н** *м.* Чыгун. *Вáрым сагáн карто́шкі, сы́пім гэ́ту мукý ў гарáчае, ме́сім, тады́ вадо́й.* Валож. *Янá набрáла сагáн жáру і занясла туды́.* Ваўк. *Мáці цагáн вады́ ў пе́чы нагрэ́е, кіпяткý, і тады́ бярэ́ кýбачак і ў ты́я шчы́ліны, і ў шчы́ліны, дзе ты́я влашчы́цы.* Карэл.

**САДКУ́ЛЬ** *прысл.* Адкуль-небудзь. *А як по́йдзе дошч, ды йдзеш садкýль, дык гэ́ты лáпаць з нагí звáльваецца і раскісáе – сырэ́ц.* Карэл.

**САЛАВЕ́ШКІ** *мн.* Салаўкі. *Ці яго́ вы́вязьлі, ці ён памёр, а яе́ вы́вязьлі на е́тыя Салаве́шкі, як мы называ́лі.* Стаўб.

**САМА́** *займ.* Адна. *А я жыву самá, хазя́йства німá, то́лькі кýры дзяржý.* Стаўб.

**СА́МЫЯ, САМЫ́Е** *займ.* Самі. *А людзі вы́шлі ўсе цапо́м, пастáлі і ні даюць: мы самы́е сажнём.* Ваўк. *Мы сáмыя пастáвілі сабо́р, тамý што бáцюшку ця́шко.* Ваўк. *Тады́ пяклí сáмыя хлеб, а цяпе́р жа купля́ем гато́вую, усё гато́вую.* Бярэз. САМЕ́НЬКІЕ *эмац.-ацэн. Мы саме́нькіе то́жэ былі запісáные, але́ дзе́вер ні захацéў хáту прадавáць, і мы асталíса.* Ваўк.

**САРАКВА́ША** *ж.* Сыракваша. *Малако́ сыкíсьне, тады́ яго́ ў печ. Е́та саракваша.* Лаг.

**САРВА́ТКА** *ж.* Сыроватка. *Дзьве каро́ве было́, сарвáткі мно́га. Сарвáтку тро́ху сьвíньням лілí, а тро́ху ш і е́лі.* Круп.

**СЕНАВА́ЦЬ** *незак.* Нарыхтоўваць сена. *Мушчы́ны касілі, касілі, а бáбы сенавáлі, граблí, упяро́т стагí кідáлі.* Карэл.

**СЕ́ДАЛА** *н.* Крэсла. *Прые́хаў, прынёс буты́лку і мне се́дала купíў. А то́е се́дала дараго́е, ні прасто́е, патамý што зь не́йкімі то́рбамі.* Уздз.

**СЕ́КЧЫ** *незак.* Матычыць, капанічыць. *Во мая́ сасе́тка аднá жыве́ць, йінá капанíцу бярэ́ць і сячэ́ць – і сьвя́та ні глядзíць, ці сьвя́та, ці ні сьвя́та.* Круп.

**СІВУКІ́** *мн.* Кулакі (?), лаянка, брыдкія словы. *Прыйшлá, а тáмака жы́та пасе́іна, каро́вы у жы́це, ні дасьць рáды сагнáць. На мяне́ сь сівукáмі.* Лаг.

**СІНІ́ЦЫ** *мн.* Буякі. *Бывáло, у Пýдзіне за клáдбішча по́йдзем – сіні́цы, чарні́цы само́ сабо́й, малíна, пазе́мкі...* Навагр.

**СКАБЛІ́ЦЬ** *незак.* Чысціць. *Во зáўтра Йван, я бýду сьвіткавáць, дзе́лаць нічо́га ня бýду. Дáйжа вот карто́шкі скаблíць, я дýмаю, што нямо́жна – нажо́м жа рэ́жым.* Круп.

**СКА́БЫ** *мн.* Рэбры. *Каро́ву купля́ць, трэ́ба глядзе́ць, каб вальля́к быў такí грубы́, каб скáбы рэ́ткія былí – кап тры пáльцы клáліся, кап хвост до́ўгі быў.* Валож. *Кілбáсы рабілі зь мя́са, яко́е абрэ́зваецца са скáбаў.* Ваўк.

**СКАРАВАДА́, СКАЎРАДА́, СКРЫВАДА́** *ж.* Скаварада. *Як скаравóды стáлі, мы на скаравóды клáлі і ў печ.* Бярэз. *Мой Бары́с, сын, прывёс два баравікí по́льскіе, дык я цэ́лую скаўрадý нажáрыла.* Круп. *Вот закіпе́ла йна – скаўрадо́й накры́лі, стаíць да абе́да.* Лаг. *Тады́ такíя прыгáркі ў той скрывадзе́ ўкýсныя былí.* Валож.

**СКАРАВО́ТКА** *ж.* 1. Скаварада. *А тады́, як стáлі скараво́ткі, на скараво́ткі клáлі хлеп.* Бярэз. 2. Невялікая патэльня. *Скараво́ткі мáленькіе на гаршчэ́чкі купля́ліся. Гэ́тые гаршчэ́чкі накрывáеш.* Нясв.

**СКВАРЭ́ШАНЬКА** *ж.* Шпакоўня. *А стары́ мой як жыў, лю́біў пастáвіць скварэ́шаньку птýшачкам, каб яны́ вяліся.* Карэл.

**СКВА́СІЦЬ** *зак.* Адтапіць. *Малако́ сквáсіш – тваро́г дзе́лаіш. У глíняных гарлачáх.* Лаг.

**СКРУЛЁК** *м.* Некалькі жмень ільновалакна, звязаных куклай. *Там ён (лён) і ляжы́ць, там, мо́жа, мы́шы то́чаць. У скрульках, як мя́лі, чáсам яго́...* Мядз.

**СКРЫЛ** *м.* Скрыль. *Як звáрыцца трыбушо́к, кладýць на такýю до́ску, такі кружо́к, наве́рх другí кáмень ілí кірпíч пало́жаць. Ой, скры́ламі рэ́жаш, такí харо́шы!* Стаўб.

**СКУЛАМЭ́СІЦЬ** *зак.* Змяшаць, скруціць. *Лён рукáмі брáлі – такí лён красíвы. А што ціпе́р? Пашлá э́та брáлка, во так скуламэ́сіла, ні цаны́ німá, нічо́га.* Круп.

**СЛОЙ** *м.* Слоік. *Я закатáла мя́са чаты́ры слаí.* Нясв.

**СЛО́НЕЙКА, СЛО́ЎНЕЙКА** *н. ласк.* Сонейка. *І янá (гáдзіна) ужо́ ад рэ́чкі вы́паўзла на пaмо́ст, у другíя дзве́ры, і ляжы́ць на сло́нейку.* Навагр. *Вы́шлі да абе́да, а ужо́ сло́ўнейка во так во апусьцíлася, і яшчэ́ невядо́ма, дзе той Шчýчын. Сло́ўнейка захо́дзіць, а мы то́лькі ў тýю Тур'ю папáлі.* Шчуч.

**СЛУ́ПЧЫК** *м.* Драўляны помнік у выглядзе слупка. *Бáцько паéхаў, ужо́ адно́ слýпчык стая́ў па ём – памёр ён.* Карэл.

**СМАШНЫ́** *прым.* Смачны. *Гэ́тыя сыры́ смашны́я, усё сваё было́. І макаро́ны рабілі смашны́е зь я́ек, з крахмáлу.* Мядз.

**СМЕ́РТАЧКА** *ж.* Смерць. *Каля нашага магазіна во с этай Каменкі шафёр забіў на сьмертачку нашага ўнука.* Навагр.

**СО́ЛЯ** *ж.* Соль. *Крышу капусту, тады с соляй пяратру.* Шчуч.

**СПАМІ́НКІ** *мн.* Памінкі. *Чатыры разы ў гот Дзяды – спамінкі нябожчыкаў: Масленые, Траецкіе і ўвосень Дзьмітраўскіе і Раданіца – чэцьвера.* Бярэз.

**СПАСО́БАВАЦЬ** *незак.* Спрыяць. *Прыбор такі ест, шпрыц, і лякарства такая, што ні дае гнісьці ні яблыку, нічэму. Дак разьве чалавеку яно спасобуе?* Стаўб.

**СПЕ́НЯ** *ж.* Шалупінне, шалуха. *Каноплі ў ступу, натаўкуць таўкачом, мы тады патром у місе, яно як малако, белае-белае. Тады гэту спеню, гэтую шалуху вон. Матка напячэ бліноў, намачаюць іх і паставяць у печ.* Віл.

**СПРЫНЖЫНО́ЎКА** *ж.* Культыватар. *Яны былі ні зь беднай сям'і. У іх была гэтая, што жыта чысьціць, – арфа, была і спрынжыноўка, была і бараноўка.* Уздз.

**СПУ́ДНІ** *прым.* Ніжні. *Цяжка малоць аднаму, трэба ўдваіх. Адзін камень ляжыць нанізу, эта спутні камень, а навярху другі, круглые такіе камні.* Шчуч.

**ССУ́ЧВАЦЬ** *незак.* Ссукваць. *Ну дак мы, бывала й тата, рабілі кручкі дзеравянные, і маталі, ссучвалі, а тады ў тры столкі вілі вяроўкі.* Мядз.

**СТА́ВІЦЬ** *незак.* Надзяваць. *Бацюшка бярэ кальцо, ставіць маладому, патом утарое кальцо ставіць ёй [маладой] на палец.* Ваўк.

**СТАІКА́** *прысл.* Стоячы. *Ні знаю, як я ляцела, ня помню нічога. Нада ж стаіка грэмнуць.* Круп.

**СТАЙНО́** *н.* Прыстасаванне для трапання лёну. *І ставы, і ніты, і вітушкі, і стайно – усё ёсь, але ніхто ўжэ ні тчэ, агонь зложыць.* Віл.

**СТА́НІК** *м.* Ліфчык. *Усё шылі самі, і станікі шылі.* Лаг.

**СТАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Спраўляць, рабіць. *Я сама і свадзьбы стаўляла дочкам, і хрысьціны.* Валож.

**СТРАЖНІ́ЦА** *м.* Пагранічнік. *Праўда, і нашы стражніцы нас не пускалі, кажуць: як вас украдуць, будзе вайна цераз вас.* Стаўб.

**СТРА́ЖНІЦА** *ж.* Будынак для каравула. *У нас тут у срадзіне вёскі стражніца была, там стаяў такі велькі дом, жылі салдаты.* Стаўб.

**СТРАМАТА́** *ж.* Сорам. *Хацела утапіцца, якая страмата.* Круп.

**СТРУГА́** *ж.* Затока. *Зразу палатно ў стругу – на лугу такое – гэтак чарнілі, а тады ў магазіне краску ужо куплялі.* Бярэз.

**СТУПЕ́НЬ** *м.* Ступня. *А тады кручок паленны, і на кручок плялі, які ступень (якая ношка ў каго) і кругом пляцеш і пляцеш, а тады к пяце вузей, а к носіку трошкі шырэй.* Бярэз.

**СУКО́НКА** *ж.* Суконная ануча. *У лапцях зімой хадзілі, там якія хто суконкі... дзе парвецца, абувалі. Суконкі – с сукна, ш шэрсці.* Бярэз.

**СУРАВЕ́ЖАЧКА** *ж.* Сыраежка. *Як урадлівы гот, то ў лесе й лісіцы, й праўдзівые грыбы, й суравежачкі.* Навагр.

**СУЧКІ́** *мн.* Бакавыя парасткі, пасынкі, флянсы. *Харошые цьвяты: сучкі у каго-небудзь брали і садзілі. Сучкі – іх калі у ваду, калі у зямлю.* Круп.

**СХАРО́НЕНЫ** *дзеепрым.* Пахаваны. *Адзін сын дзе-то там, у Расіі, а другі схаронены, с сорак втарога года.* Віл.

**СХРОН** *м.* Бункер, бамбасховішча. *У вайну тут была. Хаваліся ў схронах, беглі, сходзілі сь сяла.* Нясв.

**СЦІНА́ЦЬ** *незак.* Зразаць. *Тут самалёта німецкага зьбілі, над лесам. Ён сьцінаў вярхі перш, усю сасну сьцінаў.* Ваўк.

**СЦЫКРАВА́ЦЦА** *зак.* Зацукравацца. *Стаіць мёд у гліняных збанке, сцыкруецца, дык нажом калупаць трэба.* Нясв.

**СЫ́РАВАТКА** *ж.* Сыроватка. *Сыраватку адзьдзельна зьліваеш, а ета – тварог. С сыраваткі бліны пяклі.* Лаг.

**СЫЧА́С** *прысл.* Цяпер. *Гэта рука сычас баліць, ат сэрца і рука.* Круп.

**СЬВЕ́РАН** *м.* Свіран. *Дастае эты ключ, адмыкае куфар свой, куфар стаіць у сьверні.* Стаўб.

**СЬВЁКІР** *м.* Свёкар. *Ідзець мой сьвёкір – я яшчэ ні знала, што ён будзе мой сьвёкір.* Лаг.

**СЬВЯ́ТЫ** *мн.* ○ ВЯЛІ́К СЬВЯ́ТЫ. Вялікдзень. *А як на Вялікдзень, то ходзяць пад вокнамі, на Паску. Я і хадзіла. На Вялік Сьвяты.* Карэл.

**СЬМІЦЬЦЁ** *н.* Смецце. *Сьміцьця у хаці да трэцяй завяскі у веніка, да трэцяй завяскі у кутку сьміцьця.* Лаг.

**СЬП'Я́НІЦЦА** *зак.* Спіцца. *Сын шчэ есьць, сьп'яніўся, ён п'яніца пярвушчы.* Стаўб.

**СЬЦІХАМІ́РЫЦЦА** *зак.* Супакоіцца, сцішыцца. *Тады ўжо сьціхамірылася, і прыехалі мы ўсе.* Круп.

**СЯДЫ́-НІСЯДЫ́** *прысл.* Сяды-тады. *Сяды-нісяды да нас етые хлопцы прыходзілі.* Віл.

**СЯСТРУ́ШКА** *ж.* Дваюрадная сястра. *Ішоў у армію, дык к сусецце, к сяструшцы маей, зайшоў.* Круп.

**СЯЎНЯ́** *ж.* Плеценая пасудзіна для ручной сяўбы. *Яек якіх штук дваццаць пасьвянцаць, кумпяк зварыць матка, калбас – усяго. Цэлу такую сяўню (такіе сеўні былі, што сеюць жыта) яна на пояс і цягнець.* Віл.

**ТАЛАЧЫ́ЦЬ** *незак.* Трэсці, пужаць. *Я пятнаццаць гот ваяваў, а ты, паразіт, прыйшоў міне шчэ й талачыць.* Стаўб.

**ТАЛЬ** *ж.* Тонкая пража. *Кужаль – эта ўжэ прадзём таль, эта ўжэ прадзём тоненько.* Зэльв.

**ТАРКА́Н** *м.* Таракан. *А прусоў – тарканы чорныя, страх быў божы!* Лаг.

**ТАРПА́** *ж.* Торф. *Рэзалі тарпу, клалі такіе хаткі – штаблé – і іх закупілвалі, завот нейкі.* Навагр.

**ТАЎЧА́К** *м.* Таўкач. *Е́сьлі капу́ста зялёная, по́зьняя, яе́ пераціра́й, сваі́м со́кам каб яна́ была́, вады́ не на́да, сваі́м со́кам сьперва́ ўцяры́, цяры́ рука́мі, таўчы́ таўчако́м.* Лаг.

**ТРАПА́НІК** *м.* Дошка, на якую клалі жменю лёну пры трапанні. *Такія былі́ во трапа́нікі, до́ска гэ́такая, трэ́пля такія во, гэ́такія былі́.* Карэл.

**ТРАПА́ШКА** *ж.* Тое ж. *І тады́ на той трапа́шцы трэ́плямі.* Карэл.

**ТРАПЯТУ́ШКА** *ж.* Аладка з цёртай бульбы. *Блінчукі́ такіе мале́нькія ў нас ала́дкамі называ́юць, трапяту́шкі, ці як на іх яшчэ́ па-навучному гаво́раць.* Стаўб.

**ТРАЯ́К** *м.* Тры формы для выпечкі хлеба, змацаваныя разам. *Пато́м я бра́ла ты́е траякі і ста́віла ў пе́чку. За дзень э́то я чыты́ры то́ны адпяка́ла хле́ба, але́ і ка́ждаго траяка́ па паўтара́ кілагра́ма было́ кала той пячы́.* Зэльв.

**ТРУСІ́ЧКІ** *мн.* Трусікі. *Хоць бры́дко гаварыць, але́ ні было́ ні трусо́ў, ні шарава́раў, а цяпе́рака і трусі́чкі, і шмусі́чкі – усё на све́це.* Карэл.

**ТРЭ́БЛО** *прысл.* Трэба было. *Яшчэ́ палтара́ трэ́бло служы́ць яму́ ў марака́х.* Бярэз.

**ТРЭЙЧА́К** *м.* Сноп саломы, звязаны з трох кулёў. *Усхадзілася бу́ра, вы́рвало трэйчака́ і на на́шэ гумно́, і ста́ло гарэ́ць.* Ваўк.

**ТРЭ́ПЛЯ** *ж.* Прылада, якой трэплюць лён; трапальня. *Трэ́пля такія во, гэ́такія былі́.* Карэл.

**ТРЭ́ПЫ** *мн.* Драўляны абутак. *Дзеравя́шкі не́йкія, трэ́пы рабілі, дзерав́янны.* Карэл.

**ТУЖУ́РКА** *ж.* Форменная або дамашняя куртка. *Я ў тужу́рцэ, адзе́ўшыся, дык сама́ ж ні така́я ўжэ саўсім то́ненькая.* Віл.

**ТУ́ТКА** *прысл.* Тут. *Анна́ дачка́ жыве́ць ту́тка.* Круп.

**ТУ́ХНУЦЬ** *незак.* Сохнуць. *Налама́лі кляно́, бярэ́зіну, утыка́лі тут, у во́кна ста́вілі. І сядзя́ць яны́, пака́ як пачну́ць ту́хнуць, тады́ сы́пяцца.* Нясв.

**ТЫ́ЛЬНЫ** *прым.* Задні. *А ўжэ гэ́тые лапа́ткі пярэ́дніе і ты́льные то́жэ засо́львалі.* Ваўк.

**ТЫ́ЛЯ** *прысл.* Столькі, вельмі многа, шмат. *Сваé ты́ля зямлі́ блі́ско, наўкругá вёскі ха́ты... А со́ткі ш нам далí за пятна́ццаць кіло́метраў.* Шчуч.

**ТЫНЁНКА** *ж.* Прылада для апрацоўкі трасты льну. *Ой, і жа́лі рука́мі, і лён бра́лі, дзе́ткі, і лён мя́лі тынёнкамі.* Бярэз.

**УВІНУ́ЦЦА** *зак.* Справіцца, паспець, сумець. *Ужэ́ вы́слалі п у со́рак пе́ршум, дак не́шта ні ўвіну́ліся вы́слаць, ні прышлі́ ваго́ны.* Мядз.

**УДАЛЕ́НЬНЕ** *н.* Ціск. *Палажы́лі яго́ на стол, ужэ́ рабі́ць апара́цыю не́ку – трэ́ба ўстаўля́ць капро́наву тру́бачку не́ку, ста́ло удале́ньне па́даць, і ні зрабі́лі.* Навагр.

**УДВАЁХ** *прысл.* Удвух. *Жані́х і сват удваёх у сва́ты прыхо́дзілі, бо́лей ніко́га не было́.* Валож.

**УКЛЕ́НЧЫЦЬ** *зак.* Стаць на калені. *Захаце́ў малака́, пашо́ў укле́нчыў, надаі́ў.* Ваўк. *І кле́нчылі, на калéнях капа́лі, во так про́ста ўклéнчым: я з адно́й стараны́, ма́ма з друго́й, а ў рука́х такіе капа́чкі.* Шчуч.

**УКРА́СІЦЬ** *зак.* Пафарбаваць. *На́да ш напра́ць, на́да ш вы́ткаць, вы́бяліць, укра́сіць у яку́ю хва́рбу.* Віл.

**УЛЕ́ТА** *прысл.* Летам. *Вот уле́та дзьве каро́вы пасо́м, уво́сень прывядо́м адну́, ве́дама ж, чэ́цьвера дзяце́й было́.* Бярэз.

**УНІСЬЦЯГА́ЦЬ** *незак.* Выцягваць. *Ано́, му́сі, унісьцяга́е гэ́ту грась, цяпе́р ёго́ ні віда́ць, э́тай шыпу́чкі. Ана́ шыпіць і ра́ну ачышча́е, і заго́іцца рас-два.* Зэльв.

**УНО́Ў** *прысл.* Занава. *Станаві́цеся, усё ўноў начына́йце.* Круп.

**УПЯРО́Д** *прысл.* Раней. *Упяро́д дзе́ўкі ўпрыго́жвалі калясо́. Цяпе́р хо́дзяць – сра́зу ў цюке́ на машы́ну ды паве́зьлі, а ўпяро́т жа ш то ўручну́ю рабілі: стаге́ кі́далі ўсё.* Карэл.

**УРАДЖЭ́НЯ** *н.* Нараджэння. *Я тут нарадзі́лася, з два́ццаць друго́га ўраджэ́ня.* Ваўк.

**УРА́НЬНІ** *прысл.* Раніцай. *Учыні́лі, ён за ноч падышо́ў, ура́ньні ўста́лі, замясі́лі яго́, печ вы́палілі, вы́гарнулі, на скаваро́ды пасадзі́лі, паста́вілі ў печ.* Бярэз.

**УРАСКІ́Д** *прысл.* Спосаб ворыва ў загоны з разорай між імі. *А е́сьлі о́сенею, хоць мы вы́капаем карто́шку, ужэ́ трэ́ба было́, як палага́ецца, трэ́ба на зі́му разгара́ць, гэ́та называ́ецца ўраскі́т. Ужэ́ тады́ начына́ецца ні сь сярэ́дзіны, а з аднаго́ бо́ку і з друго́га бо́ку, круго́м хо́дзіць.* Шчуч.

**УСКАЛЕ́ЙКА** *ж.* Вузкакалейка. *Палі́лі людзе́й там. Была́ така́я печ зьдзе́лана бальша́я, як кірпі́чны заво́т, труба́ гэ́ткая была́, на ускале́йкі кі́далі людзе́й і чэ́рас печ прахадзі́ла – по́пел сы́паўся.* Круп.

**УСКО́ЧЫЦЬ** *зак.* Выскачыць, выйсці. *Я то́жа ўско́чыла за́муш хараша́. Уско́чыла, а там была́ зало́ўка за́мужам, яе́ дачка́ была́, а сьвікры́ві ні было́, сьвёкар быў.* Круп.

**УСЮ́ДАХ** *прысл.* Усюды. *У гасьці́ніцу пасялі́лі. Было́ нас чаты́ры чалаве́кі, вазі́лі нас усю́дах, пака́залі.* Бярэз. *Ціпе́р усё ча́сьнікі, ча́сьнікі е́тые. Бо́жа, усю́дах ча́сьнікі.* Уздз.

**УТАРО́Й** *ліч.* Другі. *Мужы́к быў, утаро́й, усю жы́зьню на гэ́тым... на фе́рме, я так на брыга́ду хадзі́ла.* Карэл.

**ФАКТО́ВЫ** *прым.* Паважаны, заслужаны. *Гэ́та цяпе́р шафяро́ў, бугалцяро́ў усякіх. А тады́ шафёр – факто́вы чалаве́к шчыта́ўся.* Валож.

**ФУ́ТАР** *м.* Хутар. *Жылі́ на фу́тары, а с фу́тара выхо́дзіць на даро́гу далекава́та.* Уздз.

**ХАДАКІ́** *мн.* Лапці, пашытыя са скуры. *Кагда́та былі́ хадакі́, шчэ я, по́мню, насі́ла хадакі́.* Шчуч.

**ХАДЗЯ́ЙКА** *ж.* Гаспадыня. *Ба́цька быў пры По́льшчы памо́чнікам во́йта, а ма́ма была́ хадзя́йкай.* Стаўб.

**ХАЗЯ́ЙЛІВЫ** *прым.* Гаспадарлівы. *Ён і цяпе́р ёсь хазя́йлівы.* Круп.

**ХВО́ШКА** *ж.* Хвошч. *Рвáлі бярóску, лебядý, хвóшкі (то на балóце).* Зэльв.

**ХРАШЧЫ́** *мн.* Грузды. *Храшчы́ шчэ ў нас салілі. Абвáрвалі, перш вымáчвалі, сóлі сы́палі, заты́м яны́ стаялі і стаялі дóўга.* Ваўк.

**ХРЭСТ** *м.* Крыж. *Сьпілавáлі ўсё-такі хрэст. Дзе дзвéры былі, усю́ды храсты́ пастáўляе. Е мел і пастаўляе хрэ́сьцікі.* Нясв.

**ЦАБЭ́РЦЫ** *мн.* Невялікія цэбрыкі. *Сáло салілі і мяса салілі ў такіх дзеравяных цабэ́рцах.* Ваўк.

**ЦАЛКО́М** *прысл.* Цэлы, не парэзаны. *Кумпякí і лапáткі клáлі ў пасýду і засóльвалі. Цалкóм салілі.* Ваўк.

**ЦАПІ́ДЛА** *н.* Цапільна. *Малацілі зімóю. Такíе цапэ́, длініщчае такáя во пéршая, чаранóк, а ўжэ тут, што прыцапля́лася, тут цапíдла было́. Э́та было́ длíнна, а другóе, што прыцапля́лася, было́ карацéйша, мóжа з мэ́тар.* Шчуч.

**ЦАПО́М** *прысл.* У рад, шчыльна. *Прыéхалі ўжэ жнеяркаю жаць нáша збóжа, а людзі вы́шлі ўсе, цапóм пастáлі і ні даюць.* Ваўк.

**ЦАЎЁ** *н.* Ручка, чаранок. *Буханку на лупáту дзеравя́нную, з цаўём. Час пастаіць, два – хлеб гатóвы.* Лаг.

**ЦЕЛЕНЦІ́НА** *ж.* Цяляціна. *Мя́со, усялякіе калбáсы, і целенцíна, і сьвінíна – усё ў нас было́.* Шчуч.

**ЦІКАВА́ЦЬ** *незак.* Пільнаваць, высочваць. *І жóнку ён біў, бо сам любíўся з другóй, а янá цікавáла.* Мядз.

**ЦІ́СНУЦЦА** *незак.* Старацца, хацець. *Ранéй і дзéці цíснуліся рабóтаць.* Круп.

**ЦО́КНУЦЬ** *зак.* Цмокнуць, пацалаваць. *І пры́дзе – цóкне, і атхóдзе – цóкне. Такáя, што лáстаўка, такáя харóшая.* Круп.

**ЦЫБУЛЁЎНІК** *м.* Шалупінне з цыбулі. *Яéчкі фарбавáлі крáскай, цыбулёўнікам бóльшую часць.* Бярэз.

**ЦЫНДА́ЛЕВЫ** *прым.* Сацінавы (?). *І чóрненькіе рубáшкі вышывáла. Купляла – э́та называ́лася, былá нéйкая блíскýшчая – цындáлевая (тканіна), сацін пасьля вайны́.* Лаг.

**ЦЭ́ЛНЫ** *прым.* Увесь; поўны дзень. *Вéдама ж, я цэ́лнымі днямí на фéрме.* Уздз.

**ЦЭ́ПАЦЬ** *незак.* Чапляць. *Знáеш, у цібé рібёнак, нам нáда лю́льку цэ́паць на саснý, а рібёнак, як заплáчэт, дак нам нет спасéнья і цебé ўб'юць.* Віл.

**ЦЭ́ЎКА** *ж.* Цэўка; прылада для намотвання нітак. *Станóвіш цэ́ўку ў каляўрóт, там зьнімáеш катýшкі, а цэ́ўку накрýчываеш.* Лаг.

**ЦЯПЕ́РАШКА** *прысл.* Цяпер. *А цяпéрашка ўжо гурцы́ як садзíлі мнóго...* Карэл.

**ЧАМБАРЭ́Ц** *м.* Чабор (расліна). *Чамбарэ́ц дóббрэ ат кáшлю.* Зэльв.

**ЧАРО́ВЫ** *мн.* Кішкі. *Бярóм тóнкіе, а то і тóўстые чарóвы і тады́ гэ́та напіхáем.* Мядз.

**ЧА́ЎРАЦЬ** *незак.* Чахнуць, чэзнуць. *І гэ́так пятнáццаць лет чáўраў і нарэ́шці, дайшлó, што ўжэ аслáп, ужэ́ ніяк ні мог.* Ваўк.

**ЧАЦЬВЯРТА́К** *м.* Чацвёртая частка зямельнага надзелу. *Зямлі ў нас пасьля вайны́ мáло былó. Чацьвяртáк называ́лі. Два брáта дзялілі тот учáстак, гактáра тры.* Зэльв.

**ЧАШЧЭ́ВІК** *м.* Абабак (грыб). *Грыбы́ я зьбірáю гэ́дакіе, катóрые ем: баравікé (у нас ні гаворацць баравікé, а праўдзíвы грып), чашчэ́вікі (цяпéр усé гавóрацць бáбачкі), савякé, суравéшкі.* Навагр.

**ЧВА́РТЫ** *ліч.* Чацвёрты. *Дзяўчы́не было́ тры гады́, чвáрты, а хлапцý – трэ́ці год.* Валож.

**ЧВЫРО́К** *м.* Жвір. *Я каструлькі пайдý на вýліцу чвыркóм павышарóўваю, памы́ю.* Нясв.

**ЧЎІ** *мн.* Чуні, гумавы абутак. *Чýі нападáбіе як галóшы, тóлькі вастранóсыя былí. Тады́ былí яны́ гáдкія, гэ́тыя чýі, цьвёрдыя.* Карэл.

**ЧУЖБІ́НА** *ж.* Жыхары з чужых вёсак. *Хлóпцы мýзыку брáлі, а дзяўчáты хáту. І чужбíна прыхадзíла.* Віл.

**ШАЙМО́РЫ** *мн.* Перамёрзлая бульба, якую збіралі вясной. *Шаймóры éлі. Э́та бýльба гнілáя, катóрая на зімý астаéцца і перагнівáе.* Лаг.

**ШАЛЬЦЯСО́Н** *м.* Сальцісон. *Кíшкі тóўстыя, катóрыя ўжо вы́дзеленыя, гэ́тыя напíхáе, гэ́та шальцясóн.* Стаўб.

**ШАЛЯСТУНЫ́** *мн.* Шамкі, бомы, званочкі. *Кóні заквéчаныя, шалястуны́, кýбачкі такíя, званóчкі, сáні, дрýшкі.* Ваўк.

**ШАМКІ́** *мн.* Званочкі, бомы. *Шамкí такíе былі збанíстые.* Нясв.

**ШАРАВА́РКА** *ж.* Прызначаная грамадская праца, якую выконвалі старэйшыя насельнікі вёскі. *Нéкалі назначáлі старэ́йшым шараварку. Лес спускáць, дарóгі стрóілі, канáвы капáлі каля дарóгаў, брук клáлі, камéньне вазíлі – гэ́то шаравáрка былá.* Зэльв.

**ШАРАЧО́К** *м.* Саматканы матэрыял у палоску ці клетачку. *Дошч як пайдзé, а ён, шарачóк э́ты, такí жóсткі стáне, парэ́жа лы́ткі, тóлькі кроў сьвíшча з гэ́тых лы́ткаў.* Шчуч.

**ШАРПА́ЦЕНЬКІ** *прым.* Шурпаценькі. *Былí такíе палівáныя, дык яны́ блíшчáстыя, а ўжо так глíняная – шарпáценькая.* Карэл.

**ШАШО́К** *м.* Тхор. *Кýры былí, дак і тых шашóк паéў.* Віл.

**ШКАРЛУХА́** *ж.* Шалупінне з цыбулі. *Крáсіць яйкі нáда ў шкарлухé. Я шкарлухý э́ту ранéй пастáўлю, йінá намóкне, я пакіпячý.* Лаг.

**ШПЛАЎ** *м.* Сплаў. *А вайнóй, як шплáвам дрэ́ва ішло́ аттýль, цягáлі во на гэ́ту хáту, там яшчэ́ рубíлі.* Віл.

**ШТА́БЕЛЬ** *м.*, **ШТАБЛЕ́** *мн.* Штабель; спосаб укладкі торфу. *Рэ́залі тарпý, клáлі такíе хáткі – штаблé – і іх закýплівалі, завóт нéйкі.* Навагр.

**ШУГАВА́ЦЬ** *незак.* Расці, буяць. *Ды ня рóдзіць, ня рóдзіць нічавó: аднó мéста, мóжэ, шэ́йдзісят гадóў ужó, травá шугýець і ўсё.* Віл.

**ШЧАКЕ́Т** *м.* Штыкет. *А у брáта там кусты́ ў канцы́ нáшага шчакéту, у ягó там сéтка.* Круп.

**ШЧАПІ́ЦЬ** *зак.* Сшыць абы-як. *Сукéнка штáпільная былá. Штáпель такí бéленькі і цьвятóчкі такíе малéнькія па ім. Былá ў нас жанчы́на, ну шчапіла там як, і ўсё.* Круп.

**ШЧЫКАТУ́Р** *м.* Тынкоўшчык. *Дзéвяць гадóў рабóтала матары́сткай і дзéвяць гадóў шчыкатýрам-малярóм.* Лаг.

**ШЧЫКАТУ́РЫЦЬ** *незак.* Тынкаваць. *Нараблю раствóра, а тады́ ідý шчыкатýрыць, каб навучы́лі.* Лаг.

**ШЧЫ́ПЕР** *м.* Пер'е цыбулі. *Я кусóчык невéлькі сáла зьем з лýкавіцай, шчы́перам якíм ці агурцóм – наéўшыся і дóбра.* Шчуч.

**ШЧЫРА́К** *м.* Баравік з чорнай галоўкай. *Шчыракí на барý растýць, шáпачкі цвёрдые.* Віл. **ШЧЫРАЧО́К** *памянш.-ласк. І есь шчырачкі, такí чóрнянькі зьвéрху, сáмые дóбрые.* Віл.

**ШЧЫТАВО́Д** *м.* Рахункавод. *Двáццаць два гады́ ў сільсавéце шчытавóдам-касірам былá, пéрвая па ўчóту па раёну.* Бярэз.

**ШЧЫ́ТАНЫ** *прым.* Лічаны. *Тут шчы́таныя хáты.* Круп.

**ШЫДЭ́ЛКА** *н.* (?), **ШЫДЭ́ЛАК** *м.* Кручок для вязання. *Зубкé рабíла, шыдэ́лкам гэ́та рабíць гарýнкі, зубы́.* Нясв. *Карýнкі дзéлалі шыдэ́лкам.* Бярэз.

**ЯЁР** *м.* Аер (расліна). *Тóлькі бярóскі стáвілі і яшчэ́ яéр пасыпáлі, ужó рэ́залі намéлка і пасыпáлі – гэ́то ўжо прáзьнік.* Карэл.

**ЯЛІ́НЕЦ** *м.* Ядловец. *А каравáй ужó пяклí із мукí, ялíнцу ў лéсі атлóмюць, у сярэ́дзінку ты́кнуць, а кругóм цьвятóчкамі. Гэ́та гэ́такі каравáй.* Бярэз.

*Л. В. Леванцэвіч*

## ЛЕКСІКА З ГАВОРАК БРЭСЦКА-ПІНСКАГА ПАЛЕССЯ

**ГРЫБ** *м.* ○ СПРАВЭДЛЫ́ВЫ ГРЫБ. Баравік. *Назбыврав справэдлывых грыбів.* Асіпавічы Драг.

**ЗАМЁТ** *м.* Агароджанае жэрдкамі месца, прызначанае для ўтрымання свойскай жывёлы. *Иды выпусты скотыну в замёт.* Луцэвічы Кобр.

**ЗА́ПІК** *м.* Насціл з дошак паміж сцяной і печчу, прыстасаваны для спання дзіцяці. *Малэі дітэ зроду спалэ у запіку.* Павіцце Кобр.

**ЗАПЫ́ЧОК** *м.* Тое ж. *За пічкай запычок малы.* Вярховічы Кам.

**ЗА́ТУЛКА** *ж.* Фартух. *Такех хорошых затулок, ек у Повітэ нідэ не робелэ.* Павіцце Кобр.

**ЗБАН** *м.* Невялікая ёмістастасць для збірання і захавання ягад, якую плялі з прутоў асобных відаў лазы і арэха. *Назбырала цілы збан ягод.* Моталь Іван.

**КА́ВКНУТЫ** *зак.* Вельмі хутка з'есці. *Кавкнула йіжу і пошла на гулыцю.* Асіпавічы Драг.

**КАПЛУ́Н** *м.* Страва з хлеба, цыбулі і скварак. *Каплун йесты будыш? Я то ны.* Вярховічы Кам.

**КА́РТЫШКІ** *мн.* Шкарпэткі. *Картышкі то надела, а воны розные.* Асіпавічы Драг.

**КВА́РТА** *ж.* Посуд для захоўвання і спажывання напояў, халодных або гарачых; вялікая, тоўстая, шкляная, металічная або керамічная шклянка з ручкай на бакавой паверхні. *Маты налыла в кварту свіжуго мулука.* Лукава Малар. *Батько попросэв Васю прінэстэ ёму кварту холоднэй водэ.* Павіцце Кобр.

**КЕ́НДЮХ** *м.* Вялікі жывот. *Ну в тэбэ і кендюх вэрос.* Каленкавічы Кам.

**КІТА́ЙКА** *ж.* Каляровая стужка. *Ой хорошэ кітайке в нас булэ.* Павіцце Кобр.

**КЛЫ́ШАВЫ** *прым.* Кульгавы. *Дід Саша клышавы.* Гайкоўка Кобр.

**КЛЮКА́Ч** *м.* Чалавек з вялікім носам. *Жыў у нас Діма клюкáч.* Гайкоўка Кобр.

**КО́ВЗАТЫСЬ** *незак.* Коўзацца; бегаць па лёдзе, слізгаючы нагамі. *Взяв санкы і пошов ковзатысь.* Асіпавічы Драг.

**КОЛОШМА́Ч** *м.* Неахайна, без густу апрануты чалавек. *Шо гэто за колошмáч пошоў.* Гайкоўка Кобр.

**КОЛЫ́ДКА** *ж.* Кашалёк. *А колыдка вже пустая.* Асіпавічы Драг.

**КОПАНЫ́ЦЯ** *ж.* Капаніца, матыка. *Быры копаныцю в рукы і пошлі.* Моталь Іван.

**КОПА́НЬКА** *ж.* Від дзяжы, у якой рашчынялі цеста для булак. *Занысы копаньку на гору.* Вярховічы Кам.

**КОПАНЬКІ́** *мн.* Спецыяльны посуд для ачышчэння круп ад шалупіння. *Прынысэ з сынь копанькі, будым грэчку палаты.* Каленкавічы Кам.

**КОПЕ́ЦА** *ж.* Копка, невялікі стажок. *Дід косэв траву, а ввечора сів отдохнутэ і подумав: "Ну, копеца будэ!".* Павіцце Кобр.

**КОРДУ́ПЛІК** *м.* Чалавек невялікага росту. *Вітя кордýплік.* Гайкоўка Кобр.

**КОТУ́Х** *м.* Куратнік. *Трэба курыцю загнаты в котух.* Асіпавічы Драг.

**КОТЯХЫ́** *мн.* Суквецце вольхі, бярозы. *Вже і на бэрозы котяхы.* Асіпавічы Драг.

**КО́ЦЫК** *м.* Коц; коўдра. Коўдра, якою накрываюцца. *Хорошы такей коцык.* Павіцце Кобр.

**КРУТЭ́ЛЬ** *м.* Вітка; жмут сена. *Згріблэ сіно, і осталося зробетэ крутэля.* Павіцце Кобр.

**КУ́ЗЛЫ** *мн.* Вілы. *Взяв кабана на кузлы.* Асіпавічы Драг.

**КУЛЫ́К** *м.* Куль; салома для даху. *Вже і кулыком крышу накрылы.* Асіпавічы Драг.

**КУЛЭМЭ́НЯ** *ж.* Дрывотня; агульная назва крытага неацяпляльнага памяшкання для захавання дроў. *Брат складував нарубляны чуркы в кулэмэню.* Лукава Малар.

**КУНО́ЗДРЫКЫ** *мн.* Цыбульная расліна сямейства Амарылісавых з белымі кветкамі, якія распускаюцца адразу пасля раставання снегу. *Ны вспів сніг рустаты, а вжэ всёй ліс в кунуздрыках.* Лукава Малар.

**КУСЬКЕ́** *мн.* Сельскагаспадарчая прылада з некалькімі доўгімі зубамі на доўгім дзержаку; від вілаў. *Куськаме подавалэ сіно Васі, якей стоев на вешках.* Павіцце Кобр.

**КЫ́ВА** *ж.* Грыжа. *В его кыва од крыку.* Асіпавічы Драг.

**ЛА́ВКА** *ж.* Магазін, крама. *Трэба схудыты ду лавкы, там трэба шоб вжэ хліб прывызлы.* Лукава Малар.

**ЛА́ВКА** *ж.* Доўгая шырокая дошка для сядзення, пакладзеная на ножкі, звычайна прыстаўленая да сцяны на вуліцы. *Вэчёраме бабе ек посядають на лавку, то говорать аж до того, ек начінае тёмнітэ, тоді тыко розыходяца.* Павіцце Кобр.

**ЛА́ГВІЦЯ** *ж.* Драўляная скрыня для захавання і засолкі сала. *Свіжэ сало поклалэ в лагвіцу, якая стоела в коморі.* Павіцце Кобр.

**ЛА́НТУХ** *м.* Гультай, абібок. *Твій батько настояшчы лантух.* Каленкавічы Кам.

**ЛАПСЫРДА́К** *м.* Доўгі сурдут у польскіх яўрэяў. *Маты купыла батьку новы лапсырдак, бо вжэ ны було в чом худыты на роботу.* Лукава Малар. *Вчора Стах выйшов на вулыцю ў лапсырдаку.* Луцэвічы Кобр. *Вчёра Онэско вейшов на вуліцу в такем смішным лапсэрдаку, шо дівчета шэ довго над ім сміелыся.* Павіцце Кобр.

**ЛАТУ́ХА** *ж.* Верхняе адзенне з сукна. *Дід достав со скрені старую латуху. Латуха – то піджак з сукна, шэ і з ву́саме.* Павіцце Кобр.

**ЛА́ХЕ** *мн.* Лахманы, рыззё. *Шо тэ тут свої лахе пороскідала.* Павіцце Кобр.

**ЛЁХ** *м.* Пограб; падземнае памяшканне для захоўвання прадуктаў. *Трэба залізты в лёх, а то шось сулёных огуркув захотілось.* Лукава Малар.

**ЛІ́ТНЫК** *м.* Летняя спадніца. *Ткалэ в нас літныке.* Павіцце Кобр.

**ЛУ́БКА** *ж.* 1. Сплеценая з саломы ёмістасць для яек, збожжа. *В цітому годове меше добралыся до лубке і прогрезлэ в ей велэку дэрку.* Павіцце Кобр. 2. Ручная сявалка, зробленая з лубу. *Пырыробы лубку, бо гэта вжэ нычога.* Моталь Іван.

**ЛУЧЕ́НА** *ж.* Сухая, звычайна доўгая сасновая трэска, якой асвятлялі сялянскія хаты; лучына. *Нарубатэ лученэ траба було ек можно більш, бо вона вельме добре ростоплее грубе.* Павіцце Кобр. *Там, в кошыку, коло котла лыжыть лучына, вона прызначана для того, шоб добрэ ростоплялася груба.* Лукава Малар.

**МАЗА́К** *м.* Вельмі брудны, неахайны чалавек. *У нашым сылі жывэ Васыль-мазак.* Вярховічы Кам.

**МАЗЁПА** *агульн.* Распешчанае дзіця. *Ну ты і мазёпа.* Гайкоўка Кобр.

**МАКА́ТКА** *ж.* Малюнак на шкле, дрэве, тканіне для аздаблення пакоя, хаты. *Тыко в богатых хатах вісылэ на стінах макатке.* Павіцце Кобр.

**МАЛЭ́ЦЬ** *м.* Хлопец у перыяд паміж маленствам і сталасцю; падлетак. *Ото той Наталочкын малэць вымахав, шо ажно ны пузнаты.* Лукава Малар.

**МАНЫНА́РКА** *ж.* Пінжак; частка мужчынскага касцюма ў выглядзе курткі з адкладным каўняром, якая спераду зашпільваецца на гузікі. *Міша на весілле хотів купетэ собі новую манынарку, алэ ж нэ хватэло гроші.* Павіцце Кобр.

**МАХІ́НА** *агульн. эмац.-ацэн.* Пра чалавека высокага росту. *Ну і Аліна махіна.* Гайкоўка Кобр.

**МАЦУ́К** *м.* Моцнае велікоднае яйка. *Выбірай собі мацука.* Асіпавічы Драг.

**МІДНІ́ЦА** *ж.* Вялікая эмаліраваная міска на 8–10 літраў. *Сёдня вышла повна мідніца тыста.* Каленкавічы Кам.

**МНЮХЫ́** *мн.* Тоўчаная бульба. *Такых мнюхув, як моя маты, ны вміе варыты ныхто.* Лукава Малар.

**МУ́ЛЯТЭ** *незак.* Муляць; выклікаць боль трэннем (звычайна пра абутак). *Треба сапожке купетэ, бо стареі вжэ муляють.* Павіцце Кобр.

**НАБОЖНЭ́ЦЭ** *мн.* Набожнікі; ручнікі для ўпрыгожвання абразоў. *Баба Маня вешыла вельме хороше набожнэцэ на образэ.* Павіцце Кобр.

**НА́ВІСКА** *ж.* Сумка на плечы. *Навіска була з двух половен.* Павіцце Кобр.

**НАДІВА́НКА** *ж.* Крывянка; від каўбасы, галоўным складнікам якой з'яўляецца цялячая або свіная кроў. *Коло пэчы маты налывала в кышкы надіванку.* Лукава Малар.

**НА́МЭТКА** *ж.* Доўгі вузкі кавалак палатна, якім накрывалі нябожчыка. *Неколі всэ булі бабы ткалі спецыяльно такі мацер'ял тонэнькі, бэлілі бело-бело, накрывалі, казалі, намэткі гэто.* Сакалова Бяроз.

**НАРЕ́ХАТЫСЬ** *зак.* Стаміцца ад цяжкай працы. *Ой, як я сёдня нарехалася.* Каленкавічы Кам.

**ОБЛОВУ́ХА** *ж.* Традыцыйная мужчынская шапка-вушанка з аўчыны або заечага, лісінага, вавёрчынага ці трусінага футра, абцягнутая зверху цёмным сукном. *Знов тэ насунув свою обловуху?* Павіцце Кобр.

**ОБО́РА** *ж.* Абора; вяровачка з пянькі, лёну ці раменны пасак для замацавання лапця і анучы. *Завтра я буду робетэ новеі оборе, бо старей вжэ геть пурвалыся.* Павіцце Кобр.

**ОНУ́ЧНЫК** *м.* Анучнік; чалавек, які займаўся зборам старой вопраткі (часта ў абмен на пэўны тавар). *Сёння по сылі знов онучнык іздыв.* Луцэвічы Кобр.

**ОПІ́ВЗЫНА** *ж.* Апоўзіны; тое, чым прыціскалі сена ў стозе. *Под вечор згріблэ сіно і пріложэлэ опівзэнаме, шоб вітёр нэ роздув.* Павіцце Кобр.

**ОСТРОВА́** *мн.* Участак, які вылучаецца чым-н. на мясцовасці, напрыклад, сухое месца сярод балота, невялікі лес сярод поля. *В тому рокове ме садэлэ бульбу аж в островах.* Павіцце Кобр.

**ОСЭ́ЛЬЦЯ** *ж.* Луг. *Баба Оксінька з двура з прутом выганяла гусэй на осэльцю.* Лукава Малар.

**ОЧО́МАТЫСЬ** *зак.* Ачуняць. *Упав, алэ ж вже очомався.* Асіпавічы Драг.

**ПАЛА́ТЫ** *незак.* Ачышчаць крупы ад шалупін шляхам лёгкага падкідвання ўверх. *Трэба крупу опалаты.* Каленкавічы Кам.

**ПАЛЮХІ́** *мн.* Страва з варанай нацёртай бульбы. *Баба зробэла внукам палюхі.* Каленкавічы Кам.

**ПАМПУ́ХА** *ж. эмац.-ацэн.* Пра тоўстага, поўнага, чараватага чалавека. *Ой то Ваня і пампуха.* Гайкоўка Кобр.

**ПЕ́ЛЭТЭСЬ** *незак.* Уходжвацца; рабіць усё па хатняй гаспадарцы. *Вэчора нада ітэ пелэтэсь.* Павіцце Кобр.

**ПІ́ВНЫК** *м.* ◊ ПІ́ВНЫК ЧЫРВО́НЫ. Агонь над вадаёмам. *По краям озыра полыхав півнык чырвоны.* Лукава Малар.

**ПЛАТ** *м.* Святочны, вытканы ўзорам настольнік. *Нысы плат, накрываты на стол будым.* Луцэвічы Кобр.

**ПЛЯ́ЦКІ** *мн.* Бліны, прыгатаваныя з запаранай мукі. *Зымовымы вэчорамы маты пыкла пляцкі.* Вярховічы Кам.

**ПОВА́Л** *м.* Столь. *Трэба покрасыты повал.* Асіпавічы Драг.

**ПОДПІ́Ч** *м.* Падпечак. *На зыму мы бульбу засыпаімо в подпічок.* Луцэвічы Кобр.

**ПОЛО́ВНЫК** *м.* Апалонік; вялікая лыжка з доўгай ручкай, прызначаная для разлівання супу і іншай вадкай ежы. *Прынысы мні половныка, а то ныма чым борща наліты.* Лукава Малар.

**ПОЛУ́ШКІ** *мн.* Карыта для свіней. *В полушкі вылыв йіжу для свінэй.* Асіпавічы Драг.

**ПОПЭРЭ́К** *м.* Паясніца. *Каля пічы грылы попэрэк.* Вярховічы Кам.

**ПРЕ́СВЯТО** *н.* Невялікае свята; прысвятак. *У нас на пресвято завждэ в цэркві звонять.* Павіцце Кобр.

**ПРЫПА́САЧ** *м.* Падпасак; памочнік пастуха. *Вася помагаў батькам пасвыты кароў і буў як прыпа́сач.* Гайкоўка Кобр.

**ПРЫЧЭ́ПА** *ж.* Жанчына, якая жыве з мужчынай без шлюбу. *Галя жывэ з Іваном ужэ год як та прычэпа.* Гайкоўка Кобр.

**ПУ́ЛЯТЫ** *незак.* Падымаць цяжкія прадметы, рэчы. *Пуляты мышкі з картоплямы.* Каленкавічы Кам.

**ПУ́ШКА** *ж.* Скрыня для чаго-н. *Зноў ты цяныш свою пушку за одэжэй.* Луцэвічы Кобр.

**РАБРЕ́НА** *ж.* Лесвіца, драбіны; збудаванне ў выглядзе рада прыступак для пад'ёму і спуску. *Сёння Толік і Вітя пойдуть робетэ новую рабрену, бо старая зламалася.* Павіцце Кобр.

**РА́ЖКА** *ж.* Бочка з дрэва, найчасцей з дубу. *Постав ражку на стыл.* Вярховічы Кам.

**РЕ́ХТЫК** *прысл.* Падобна, зусім. *Рехтык Міхалочка.* Павіцце Кобр.

**РУ́МЗА** *агульн.* Плакса; той, хто часта плача без уважлівай прычыны. *Чого ты, румза, плачыш?* Гайкоўка Кобр.

**РЫЗ** *м.* Невялікае ўзвышша ў выглядзе круглай або авальнай формы, якое знаходзіцца ў вёсцы каля возера. *На рызовы баба рвала лікарны травы.* Лукава Малар.

**СА́БКА** *ж.* Капаніца, матыка. Моталь Іван.

**САВО́К** *м.* Сявенька; саламяны ці плецены з лазы кошык, выкарыстоўваўся пры сяўбе ўручную.

**СВІТЫ́НА** *ж.* Лёгкае паліто з драпу. *Возьму зара світыну і піду на гулыцю.* Вярховічы Кам.

**СВЫ́НКА** *ж.* Труба (дымавая), комін. *Трэба залізты на хату і подывытысь но на свынку, а то шося тягы в пычі ныма.* Лукава Малар.

**СВЫ́РОН** *м.* Свіран; дапаможнае ў гаспадарцы памяшканне. Луцэвічы Кобр.

**СВЫРО́НОК** *м.* Свіран; дапаможнае ў гаспадарцы памяшканне. *Іды сходы в свыронок прынысы огурків.* Луцэвічы Кобр.

**СІ́ЎКА** *ж.* Сявенька; саламяны ці плецены з лазы кошык, выкарыстоўваўся пры сяўбе ўручную. *Хутко высна, трэба вжэ сіўку з вышок доставаты.* Моталь Іван.

**СКІ́НДА** *ж.* Убор незамужніх дзяўчат. *Вжэ хутко Настя скенэ скінду, бо літом у еі весілле.* Павіцце Кобр.

**СКРЫ́НКА** *ж.* Выраб з лыку, прызначаўся для захавання мукі, зерня. *Вжэ мукы мало в скрынке.* Моталь Іван.

**СПУСТ** *м.* Ручны гэбаль. *Піду попрацую спустом.* Луцэвічы Кобр.

**СТРАЙХО́ДЫ** *мн.* Непрамакальныя (звычайна гумовыя) чахлы для абутку. *Сусід в страйходах і з торбыю за спыныю збырав куров на пашу.* Лукава Малар.

**СТРІ́ПЧІК** *м.* Бабка, дзесяць снапоў. *Баба вежала жэто і зложэла в стріпчіке.* Павіцце Кобр.

**СТРУГАНЫ́** *мн.* Дранікі, бульбяныя аладкі. *Батько попросыв в матэра, шоб тая натэрла струганув.* Лукава Малар.

**СТЫ́ЙКА** *ж.* Стойка; драўлянае прыстасаванне, куды ставілі гадавалых дзяцей (від сучасных хадункоў). *Каля стыйке ставлялэ малэх ділэй.* Павіцце Кобр.

**СЦЯНЫ́ВКА** *ж.* Від печкі, якая размяшчалася каля сцяны. *На сцяныўкі сушылі лахі.* Вярховічы Кам.

**СЫВЭ́НЬКА** *ж.* Сявенька; саламяны ці плецены з лазы кошык, выкарыстоўваўся пры сяўбе ўручную *Быры сывэньку і пошлы за зырном.* Луцэвічы Кобр.

**СЫНЕ́НКА** *ж.* Падушка, набітая сенам. *Спаты буду на сыненцы.* Асіпавічы Драг.

**СЭРМЕ́ГА** *ж.* Сярмяга; верхняя мужчынская і жаночая вопратка белага ці шэрага колеру з даматканага сукна. *У тітке Валі в скрені шэ довго лэжела сэрмега еі бабе, яку тая зробела, ек була шэ дівкой.* Павіцце Кобр.

**СЮРПА́** *ж.* Гарачы суп, звараны са свежай рыбы. *Сёння наловым рыбы і зварым сюрпы.* Лукава Малар.

**ТАРТА́К** *м.* Бабка; страва з бульбы са скваркамі, запечаная ў чыгунку. *Іды по картоплі, будэмо робыты тартак.* Вярховічы Кам.

**ТОВКА́Ч** *м.* Галоўка чароту. *Во, вже назбірав товкачів.* Асіпавічы Драг.

**ТОВСТУ́ХІ** *мн.* Восеньскія жоўтага колеру грыбы (таўстухі?). *Йездыв на тоўстыхі, назбырав кошык.* Вярховічы Кам.

**ТОКМАЧІ́** *мн.* Бульбяное пюрэ. *Ох і добрі токмачі!* Павіцце Кобр.

**ТУЖУ́РКА** *ж.* Балоневая куртка. *Дайтэ мні мо тужурку, коб воны ны зналы, шо я брав.* Вярховічы Кам.

**ТУК** *м.* Нутраное сала; здор. *Ото ут гэтыі свыні туку осталося, шо ны знаю шо з йім зрубыты.* Лукава Малар.

**ТУМА́К** *м. экспр.* Разумова абмежаваны чалавек. *Саша тумак.* Гайкоўка Кобр.

**ТЭРНІ́ВКА** *ж.* Лёгкая хустачка. *Тэрнівочку завяжэ.* Павіцце Кобр.

**ХОЛОМЭ́ІТЫ** *незак.* Абгаворваць. *Як зэйдуцця, то холомэят і холомэят.* Каленкавічы Кам.

**ЦЫБА́ТЫЙ** *прым.* Даўганогі (пра чалавека). *Якась вона цыбата.* Павіцце Кобр.

**ЦЫ́ЛЫКІ** *мн.* Бульба, звараная цэлай. *Смачны сёння выйшлы цылыкы.* Моталь Іван.

**ЦЫ́ХА** *ж.* Коўдра, якой накрываюцца. *Бырэ цыху на скрэні і накрывайся.* Павіцце Кобр.

**ЦЭ́БРІК** *м.* 1. Драўляны посуд, у якім замочвалі адзенне для прання. *В цэбріку замочовалэ одэжу.* Павіцце Кобр. 2. Драўлянае карыта для свіней. *Ходэмо поможэш мні почыстыты цэбрык свыням.* Луцэвічы Кобр. 3. Драўляная бочка, дзе захоўвалася зімою ежа, напрыклад, мяса, сала. *У цэбрыку мныго містя, і сала довго лежаты будэ.* Вярховічы Кам.

**ЧВАЛОВА́ТЫ** *незак.* Пакідаць сляды на вымытай падлозе. *Взев прышов і начваловав мны тут.* Каленкавічы Кам.

**ЧВЭ́НДЫТЫ** *незак.* Многа курыць. *Дед, кіко можня чвэндыты?* Каленкавічы Кам.

**ЧЫБЫРЕ́КАТЫСЬ** *незак.* Караскацца, узбірацца. *Кудэ тэ чыбырекайішся?* Каленкавічы Кам.

**ЧЫРЫПЯ́НКА** *ж.* Абпаленая гліняная міска для супу (чорная). *Нысы свою чырыпянку, істы будэмо.* Луцэвічы Кобр.

**ШВЭ́НДАТЫ** *незак.* Швэндацца, сноўдацца. *Шо тэ швэндайіш пырыдо мною?* Каленкавічы Кам.

**ШКАПЭ́ЦЬ** *м.* Капец; выкапаная ў зямлі яма, дзе зімой захоўвалі бульбу. *Копалы картоплі, возылы і туды сыпалы.* Вярховічы Кам.

**ШЛЁПНАГА́** *ж.* Мянушка жанчыны, якая заўсёды шлёпае нагамі. *Праз хату ад нас жыве Шлёпнага.* Вярховічы Кам.

**ШЛУ́ННЕ** *н.* Параскіданыя па пакоі рэчы. *Ану позбырай сітэ шлунне.* Каленкавічы Кам.

**ШМУ́ЛЯННЕ** *н.* Працяглы працэс рэзання дроў ручной пілой. *А тэ всё шмуляйіш сёе полыно?* Каленкавічы Кам.

**ШМУ́ТТЕ** *н. зб.* Шмаццё; непатрэбнае старое адзенне, анучы. *Забырай своё шмутте.* Каленкавічы Кам.

**ШТАХЭ́Т** *м.* Агароджа з дошак, планак, сеткі; штыкетнік. *Коло штахэта в гэтом гуду нарусло мныго буракув.* Лукава Малар.

**ШЫМБЫРОВА́ТЫ** *незак.* Транжырыць; траціць шмат грошай. *А вонэ всё шымбыруют, скіль і грошы бырут?* Каленкавічы Кам.

*Т. М. Трухан*

## З ГАВОРКІ РЭЧЫЦКАГА РАЁНА

Пададзеная лексіка выбрана з тэкстаў дыялектнага маўлення, запісаных падчас экспедыцыі ў Рэчыцкі раён Гомельскай вобласці ў 2017 г. Тэксты занатоўваліся ў вёсках Горваль, Каравацічы, Азершчына, Холмеч, Паравалока.

**АЛЁС** *м.* Зарослая хмызняком нізкая мясціна. *Перабра́ліся да́лей у алёс, то́жэ ні вады́, ніч́ога.* Горваль.

**АПША́РЫЦЬ** *зак.* Агледзець, абшукаць. *Не́мцы пераско́чылі, двары́ апша́рылі – ніко́га німа́, і да́лей пае́халі.* Каравацічы.

**АСТАНО́ЎКА** *ж.* Прыпынак. *Яны́ жы́лі о тут, дзе астано́ўка, сра́зу тут іх ха́та была́.* Горваль.

**АСЬЦЮКІ́** *мн.* Асцюкі. *Аве́с ма́тка натаўчэ́ ў сту́пе, да ўжэ с ты́мі асьцюка́мі сьпячэ́ хле́ба, і е́лі.* Каравацічы.

**АТВЕ́ТКІ** *толькі мн.* Наведванне жанчыны, якая нарадзіла дзіця; адведкі. *Радзі́ла, тады́ ж сваіх бага́та было́, усе́ бле́скія прыхо́дзілі на атве́ткі.* Каравацічы.

**АШЧЭ́** *прысл.* Яшчэ. *Ужэ́ той хлеб сьпяко́м, ашчэ́ ж і парціза́ны хадзілі. Уно́чы ідўць, чу́юць за́пах хле́ба, захо́дзяць і про́сяць.* Каравацічы.

**БА́ЛКА** *ж.* Прадаўгаватая канава, роў. *Усе́ сьця́гвалі сапагі́ с хрыцаў, і я сьця́гвала. А пато́м прышлі́ дадо́му, я ў ба́лцы мы́ла іх, выпала́сківала, і пато́м тут ні́ткамі пазашыва́ла. Э́та так хадзі́лі.* Азершчына.

**ВАСПАЛЕ́ННЕ** *н.* Запаленне. *У ма́цяры двухсторо́нне васпале́нне. Яна́ ў со́рак чацьвёртым паме́рла ў зямля́нке.* Горваль.

**ВНІМА́ННЕ** *н.* Увага. *Усе́ на мяне́ вніма́нне абраці́лі.* Горваль.

**ВО́ДНІКІ** *мн.* Маладыя хлопцы, якія чысцілі раку. *Ту́така ж рака́, і ты́е чарпа́лкі яе́ чы́сьцілі, і е́тых во́днікаў малады́х по́ўна.* Горваль.

**ВЯРШЫ́ЦЬ** *незак.* Рабіць верх, верхнюю частку чаго-н.; завяршаць. *Я і сама́ з мужыко́м вяршы́ла стагі́, ні ў калхо́зе, а до́ма. Ён бярэ́ з во́за, круго́м кладзе́, то́пчэ, аббіва́е граблямі, а я да ве́рху.* Холмеч.

**ВЯСЁЛАСЬЦЬ** *ж.* Весялосць. *Цяпе́р ка́жуць го́рэ, ма́ла гро́шэй палуча́юць, а мы ж рабі́лі, і рабі́лі шчэ і зь вясёласьцю. І на по́ле ідо́м пяём, і с по́ля ідо́м с таго́ каксагі́зу, пяём.* Каравацічы.

**ГАЛАСІ́ЦЬ** *незак.* Голасна плакаць; галасіць. *Дак я зале́зла на печ і галашу́, кажу́ на ма́тку: я ў пе́рвы клас ні пайду́, я ўсё зна́ю.* Каравацічы.

**ГРАБЕ́ЛКА** *ж.* Грабло з саўком для збірання ягад (пераважна чарніц). *Я зьбіра́ла сто́лько я́гад за дзень, што ме́сяц на́да було́ на фе́рме робі́ць, ні рука́мі, грабе́лкай.* Холмеч.

**ГРАЧНЁВЫ** *прым.* Грэцкі. *Грачнёвую ка́шу вары́лі, жыр э́ты, асо́бяно с кі́шак, астае́цца ж.* Горваль.

**ДАБРЭ́ННА** *прысл.* Вельмі добра. *І дзе́вачка ву́чыцца дабрэ́нна.* Холмеч.

**ДАКАЗА́ЦЬ** *зак.* Падказаць, данесці. *Не́мцы ішлі́, яму́ перада́лі, дак ён у туале́т схава́ўся. Усёта́кі хто́-та даказа́ў, і яго́ забра́лі.* Горваль.

**ДАМО́ЎКА** *ж.* Дом, хата. *Ба́цька да Го́мля дае́хаў, а тут ішчэ́ хронт, дак ужэ́ с хро́нта дахо́дзіў да дамо́ўкі.* Каравацічы.

**ДЗЯ́ННА** *ж.* Дзядзькава жонка. *То́лько мая́ цётка, дачка́ дзя́нны, пашла́ да палучы́лі якую́сь капе́йку, астальны́е атказа́ліся ат э́таго ўсяго́.* Холмеч.

**ДО́НЬКА** *ж.* Дачушка. *До́нька ў мяне́ адна́ на "Крыста́ле"* [назва прадпрыемства] *рабо́тае, адна́ ў бальні́цы там рабо́тае, а сыно́к у Рэ́чыцы жыве́, у няфця́нікаў рабо́тае.* Горваль.

**ЖАКЕ́ТАЧКА** *ж. памянш.-ласк.* Верхняе кароткае жаночае адзенне; жакетка. *Я ўжэ пе́рвы год здала́ каксагі́з, дак купі́ў мне ба́цька за ты́е гро́шы жаке́тачку.* Каравацічы.

**ЗУБЦЫ́** *мн.* Карункі прасціны, ручніка. *Сама́ вышыва́ла, во про́стыня, к ёй зубцы́ прышы́ты, а там гахтава́нне.* Пераралока.

**ЗЬДЗЯВА́ЦЦА** *незак.* Мучыць, катаваць каго-н.; здзекавацца. *Ба́цька раска́зваў: мы ўце́клі, сабра́ліся тры чалаве́кі, ішлі́, ішлі́, куды́ ўце́клі, са́мі ні зна́ям. А тады́ на даро́зе іх палава́лі, і зноў у ла́гер, дак ужэ́ ве́льмі зьдзява́лісь пасьля́ таго́.* Каравацічы.

**ЗЬНЕ́ХТУВАЦЬ** *зак.* Зняславіць. *У ме́ньшага сы́на німа́ жо́нкі, была́, дак зьне́хтувала. Другі́е лу́тшые, панара́вілась.* Холмеч.

**ЗЯРНО́** *н.* Зерне. *А зака́пывалі зярно́ ў бо́чкі, ужэ́ хава́лі зярно́, да вайны́ шчэ. Дак ў каго́ аста́лася, а ў каго́ хадзі́лі са штыха́мі, да пазабіра́лі не́мцы.* Азершчына.

**ІЗЬДЗЕ́КАВАЦЦА** *незак.* Мучыць каго-н.; здзекавацца. *Так іздзе́каваліся! Я ж ні краў, я зарабо́таў сваі́м трудо́м, заклада́лі па́льцы ў дзьве́ры да ці́снулі, атла́мвалі па́льцы.* Азершчына.

**ІНСУЛЬНУ́ЦЬ** *зак.* Перанесці інсульт. *Два гады́, як дзе́да німа́, інсу́льт, ляжа́ў. Дзе́сець гадо́ў с інсу́льтам быў. Яго́ пе́рвы раз інсульну́ла, дак ён шчэ тро́хі атышо́ў, шчэ па двару́ хадзі́ў, а пасьле́днія тры гады́ – с крава́ці ні зла́зіў.* Каравацічы.

**КАКСАГІ́З** *м.* Шматгадовая травяністая расліна роду Адуванчык сямейства Астравыя, каўчуканос; кок-сагыз. *Па паўгекта́ра нам дава́лі э́тага каксагі́зу, на́да ж было́ яго́ сьцерабі́ць, да ўво́сень паго́ды німа́.* Каравацічы.

**КАЛЫ́СКА** *ж.* Плецены або драўляны дзіцячы ложак, падвешаны на вяроўках да столі, які можна калыхаць; калыска. *А мая́ ма́тка вот раска́звала: як яны́ былі́ малы́е шчэ, і ў ма́ткі шчэ браты́ былі́, дак ба́ба глядзе́ла, тры браты́, тры калы́скі ў ха́це ві́сіць.* Каравацічы.

**КАНАПЛЯ́НІК** *м.* Верабей. *Кало́ду яны́ адрэ́залі, с аднаго́ бо́ку і з друго́га. Там во́сы ўстро́яцца, туды́ ж канапля́нік ні ўле́зе, а во́сы ўле́зуць да чмялі́.* Холмеч.

**КАНХРАНТА́ЦЫЯ** *ж.* Падатак. *Парці́за́ны ні забі́ралі, а не́мцы – уся́к было́, забі́ралі і каро́ў, і наклада́лі канхракта́цыю на то́й хлеб.* Каравацічы.

**КАПАНІ́ЦА** *ж.* Матыка, капаніца. *Дзень рабо́талі с капані́цай на по́лі, і́лі з гра́блямі ці зь ві́лкамі на лугу́ з се́нам.* Горваль.

**КАРАВА́ЦЬ** *ж.* Ложак. *Я ўжэ ні лажы́лася на карава́ць, да на печ.* Горваль.

**КА́ША** *ж.* Густая страва з прасяных круп, звараных на вадзе або малацэ; каша. *Сама́ ба́пка ка́шу вары́ла, ка́шу зва́рыць, прыбярэ́ там канхве́тамі, а кум ужэ́ купля́е, гро́шы дае́, паб'е́. Купля́юць ту́ю ўжэ ка́шу, паку́ль хто бо́лей гро́шэй пало́жыць, той і паб'е́ ту́ю ка́шу. Ка́шу ту́ю па стала́х – і е́лі.* Каравацічы.

**КВАРЦІРАВА́ЦЬ** *незак.* Часова жыць у каго-н.; кватараваць. *У нас кварціірава́ла ўчы́цельніца А́нна Ніки́фараўна.* Каравацічы.

**КІ́ПЕТАК** *м.* Кіпень, вар. *Ва́льшчыкі прыяжджа́лі, у ба́цькі там ў дварэ́ кі́петак грэ́лі, чыгуны́, ма́чае ў э́ты кі́петак і кача́е. Рабо́та цяжо́лая ва́лянкі скача́ць.* Пераралока.

**КЛА́ДБІШЧЭ** *н.* Могілкі. *Тут ву́ліца была́, і за той ву́ліцай паўз кла́дбішчэ, шчэ адна́ ву́ліца была́.* Горваль.

**КЛЫ́ЧЫЦЬ** *незак.* Рабаваць, забіваць. *Пашо́ў, да шчэ паказа́ў, які́мі нажа́мі людзе́й клы́чаць.* Холмеч.

**КО́МІНАК** *м.* Бакавая частка печы каля коміна. *На ко́мінак кухва́йку падлажу́, задрамлю́, і падыму́ся. І так, ні спа́ўшы, хадзілі.* Горваль.

**КОНЬ** *м.* Конь. *У нас жа ту́така мост быў, із-за ракі ко́нямі, ці я́рмалка, ці што, е́халі.* Горваль.

**КО́ЎБІК** *м.* Начынены вантробамі ці мясам свіны страўнік. *Ішчэ́ мя́са тро́хі прывару́, да мя́са туды́ даба́ўлю ў ко́ўбік, і са́ла з галавы́ дро́бна накрышу́, то́лькі цыбу́лю, часна́к ні крышы́ла.* Холмеч.

**КРУ́ЦІКІ** *мн.* Маленькія палачкі, галінкі, вецце. *Вы́капаеш я́мачку, вада́ по́йдзе, там жэ ра́зных э́тых кру́цікаў, дак накі́неш што-не́будзь, набярэ́ш, цэ́дзіш.* Горваль.

**КРЫШЫ́ЦЬ** *незак.* Ламаць, круціць. *Бе́дные ўжэ яўрэ́йкі э́тые і ру́кі ламалі, і туды́-сюды́ крышы́лі.* Горваль.

**КУРЭ́НЬ** *м.*, **КУРАНІ́** *мн.* Будан для часовага жылля; курэнь. *І там сядзе́лі ў бало́це, там на́шые курані́ былі. Тады́ дава́й пале́нне е́тэ зьбіра́ць, ужэ́ курэ́нь такі́ майстрава́лі, тако́е от жыллё дзе́лалі.* Азершчына.

**ЛА́ДНЫ** *прым.* Падрослы, пасталелы. *Я ўжэ ла́дна была́, гадо́ў мо́жа пятна́ццаць ці шасна́ццаць.* Горваль.

**ЛО́ПАЦЬ** *незак.* Моцна стукаць (пра дождж). *Шала́шык во так напне́ш, сядзіш у ём, а дож ло́пае, а мы той каксагі́з цярэ́бім.* Каравацічы.

**ЛЯ́ДА** *н.* Высечаны ўчастак лесу. *Хадзілі, ля́да капа́лі, да вот такі́мі плі́тамі, лапа́тамі атсяка́лі, тады́ так атвяра́чывалі, атвяра́чывалі.* Азершчына.

**МАЖА́РЫ** *мн.* Мадзьяры. *Пато́м прые́халі не́мцы, ні не́мцы, а мажа́ры такі́е, сі́ва така́я адзёжа, ні сі́ва така́я, а кары́чневага цьве́ту, шыня́лі такі́е, каза́лі мажа́ры.* Азершчына.

**МАКАРО́Н** *м.* Макарона. *По́рах – э́та як длі́нны макаро́н, жо́ўцянькі, жо́ўцянькі. А мы ж ні зна́лі, што э́та тако́е.* Азершчына.

**МАКУ́ХА** *ж.* Рэшткі льнянога семя пасля выціскання з яго алею; макуха. *Льняно́е се́мя было́, напрэдумля́лі сваё маслабо́йкі, і ці́снулі ма́сла с таго́ се́мя. Ужэ́ дзе які́ мушчы́нка зьдзе́лае маслабо́йку, дак усе́ к яму́ нясу́ць. І маку́ха ўжэ ішла́ ў хлеб тады́.* Каравацічы.

**МАЛАТА́РКА** *ж.* Машына для абмалоту сельскагаспадарчых культур; малатарня. *Як то́лькі прашла́ вайна́, мы ж малата́ркай малаці́лі, э́тые снапкі́ паразьвя́зваем, да малаці́лі на малата́рку на ту́ю.* Горваль.

**МАСЬЦЯРСКА́Я** *ж.* Майстэрня. *Была́ да вайны́ бальні́ца бальша́я там на ху́тары, была́ амбалато́рыя тут, была́ сапо́жна масьцярска́я, была́ шве́йная масьцярска́я ў нас.* Горваль.

**МАЦЮКА́ЦЬ** *незак.* Лаяцца матам. *У нявесткі сільна ла́скі німа́, ну і ні абі́дзіць, яна́ мяне́ яшчэ́ ні ра́зу ні мацюка́ла.* Холмеч.

**НАРУБА́ЦЬ** *зак.* Насячы. *Глядзі́, ско́лька яна́ сухасто́ю наруба́ла, я яе́ січа́с ту́така ў́б'ю.* Горваль.

**НАСТО́ЙЧЫВЫ** *прым.* Настойлівы. *Я была́ насто́йчыва, баява́я.* Горваль.

**НАЎПРО́ЦІ** *прысл.* Насупраць. *У адну́ ха́ту во тут во, як канча́ецца пасьле́дня ха́та, наўпро́ці бальні́цы на́шай.* Горваль.

**НІ́ЗКА** *ж.* Нанізаныя на нітку грыбы і пад.; нізка. *Грыбы́ ўся́кіе: і бе́лые, і сырае́шкі, і апе́нькі, і лісі́чкі, і падбяро́завікі – уся́кіе расту́ць, як год. Бе́лые сушы́лі, да харо́шанькіе на ні́зкі ніза́ла, штоб прада́ць, да дзе́цям што́-та купі́ць, ко́хтачку яку́ю.* Каравацічы.

**ПАВЕ́ТРЫЦЬ** *зак.* Правеяць. *Намалаці́ць, паве́трыць і здаць семяно́ ў калхо́з.* Каравацічы.

**ПАДЛА́ПІЦЬ** *зак.* Падлатаць. *Адна́ пано́швае, тады́ другая́, падла́плю, патстро́ю, да так вот і жылі́.* Каравацічы.

**ПАДНАРАСЬЦІ́ЦЬ** *зак.* Вырасціць. *Бу́льбы ўво́сень паднарасьці́лі, бу́льбы тае́ хто ў кацялка́х, хто ў жале́зных такі́х, гі́льзы былі́, яны́ жо́ўтые такі́е. Агню́ нало́жым, садзі́мся, і ўжэ бу́льбу ту́ю ва́рым.* Азершчына.

**ПА́ЗЬБІШЧЭ** *н.* Паша. *Вы́гналі на па́зьбішчэ ў том гаду́ каро́ўку, а там пасе́ялі ўдабрэ́нне, і на́ша схваці́ла таго́ ўдабрэ́ння, і ні спасьлі.* Каравацічы.

**ПАЛАЦЕ́НЦА** *н.* Ручнік. *Палаце́нцы ткалі льняны́е, цяпе́рашніе ні дака́жуць. Ты́е, хоць і пама́жуцца, яны́ так высьці́рваюцца до́брэ.* Каравацічы.

**ПАЛЕ́ТКА** *ж.* Участак поля; палетак. *Ра́ньшэ ж мно́га было́ каро́ў, па ле́су па́сьцілі. Ішлі́ два пастухі́, а пазьне́й ужэ́ пале́тку адво́дзілі.* Каравацічы.

**ПАЛЯМБІ́ЦА** *ж.* Паляндвіца. *Палямбі́цы то́жэ вы́сальвалі, у ма́рлю закру́чвалі, ту́га перавя́звалі і ве́шалі, і яна́ со́хла.* Горваль.

**ПАМЕ́РЦІ** *зак.* Памерці. *Ба́цька паме́р, яна́ ні дала́ па́льца апкруці́ць.* Горваль.

**ПАМІНА́ЦЬ** *незак.* Узгадваць, успамінаць. *А к му́жу така́я патхваці́лася бале́зь, ні хо́чу да́жэ паміна́ць, і ён малады́ паме́р.* Холмеч.

**ПАПЯЛІ́ШЧЭ** *н.* Папялішча. *Пагарэ́ла ўсё, німа́ нідзе́ нічо́га. Прые́халі на папалі́шчэ.* Азершчына.

**ПАПЯРО́К** *прысл.* Упоперак. *Шко́ла была́ яўрэ́йская на э́ту сто́рану, а на́ша – папяро́к.* Горваль.

**ПАСЦІ́ЛКА** *ж.*, **ПАСЦІ́ЛКІ** *мн.* Посцілка. *Пра́нікі былі́ такі́е, сваё пасьці́лкі на́да было́ не́сьці, разасла́ць, плёнак жэ ні было́. Пасьці́лкі бе́лые тка́лі з лёну.* Каравацічы.

**ПЕКА́РНЯ** *ж.* Пякарня. *А ў іх ішчэ́, у не́мцаў, пека́рня была́ ў лясьні́частве. Ужэ́ ўсе ўбра́ліся, а яго́ сто́ражам аста́вілі на э́тай пека́рні.* Каравацічы.

**ПЕ́КЦІ** *незак.* Пячы. *Дак я по́мню: прыве́зьлі мукі́ аўся́най бе́ленькай, хлеб такі́ пе́клі, ро́слы быў, пі́рагі, но го́ркі быў, е́сьці німо́жна.* Каравацічы.

**ПІСА́РНЯ** *ж.* Хата, у якой жылі нямецкія пісары. *У сто́пачцы мы жылі́, не́мцы вы́гналі с ха́ты, а ў ха́це была́ не́ка пі́сарня не́мцаў.* Каравацічы.

**ПІСАРЧЎК** *м.* Пісар. *А быў чэхаславáк у э́тай хáце пісарчукóм, дак ён вы́йдзе і кáжэ: мáтка, скóра Стáліну капýт, Гітлеру капýт і вайнé капýт.* Каравацічы.

**ПЛАН** *м.* Пляц, надзел, участак зямлі. *Вáнька вы́касіў, штоб ужэ́ травá на план ні пáдала.* Горваль.

**ПЛО́СКУНІ** *мн.* Плоскуні. *Плóскуні, як бярóм канóплі, аддзéльна, дадóму забірáлі. З ягó вéльмі крэ́пкае былó ўсё. Шчэ е і цяпéр канапля́ные пóсьцілкі бéлые, што сьпім.* Каравацічы.

**ПОД** *м.* Чарэнь у печы. *Хлеб падóйдзе, пéклі на падý. Печ напáліш, жар вы́грабеш, вéнікам, мятлóй ці памялóм вы́мяцеш э́ты под.* Горваль.

**ПРА́НІК** *м.* Пранік. *Рукáмі вы́браць – э́та ярундá, а малацілі ж прáнікамі.* Каравацічы.

**ПРЫГА́РКІ** *мн.* Прыгаркі. *Вары́лі бýльбу, прыгáркі ты́е бярóм і ядзім.* Азершчына.

**ПРЫ́ЗБА** *ж.* Прызба. *Нéмцы аглéдзялі тýю шáпку, нас усіх на пры́збу пастáвілі пад пулям'ёт, а ўжэ сáмі шукáюць тагó парцізáна.* Каравацічы.

**ПРЫЮЦІ́ЦЬ** *зак.* Даць прытулак. *Так я дабéгла да лéсу, прыюціў стáры дзед Халя́ўка.* Каравацічы.

**ПЎТНЫ** *прым.* Талковы. *Зáмуж больш ні пашлá, каб хто пýтны, а то адны́ алкагóлікі.* Холмеч.

**РАЗГАВЕ́ЦЦА** *зак.* Пачаць есці скаромнае пасля паста. *Дзень Пáскі сьвяткавáлі, ужэ́ разгавéюцца, і ўсе на вýліцу выхóдзяць, умéсьце зьбірáюцца бáбы, цэ́лая кýча, шчэ прыдýмаюць і пляшку якýю прынéсьці.* Каравацічы.

**РА́ННЕ** *прысл.* Ранкам, раніцай. *Я ўсё пóмню, нічóга ні забываю. Я малюся Бóгу рáнне і ўвéчары.* Азершчына.

**РАСКУЛА́ЧКА** *ж.* Раскулачванне. *А як началáся раскулáчка, усіх сынóў раскулáчылі, і майгó дзéда. Адзін мой дзед астáўся, а тых – я ні знáю тóлкам дзе.* Холмеч.

**САЛАТО́ПКА** *ж.* Памяшканне, у якім тапілася сала. *Да вайны́ булá салатóпка, ні давáлі смаліць, нáда былó кóжу лупіць. А так салóмаю смалілі.* Горваль.

**САРА́Й** *м.* Хлеў. *Тут шкóлу разьбірáлі, дак ён ішчэ́ жэ́сьці навазіў, дак дзе вон і сарáй пакры́ты, і ўсё.* Горваль.

**САЎСІ́М** *прысл.* Зусім. *Плахíе ў мянé сёлета ўсхóды. І агýрчыкі ні ідýць саўсім.* Горваль.

**САША́** *ж.* Шаша. *А сам ужэ́ на сашý пабéг туды́. І ён ужэ́ сказáў, што на пякáрні мóжна хлéба ўзяць.* Каравацічы.

**СЕЛЬЦІСО́Н, САЛЦІСО́Н** *м.* Сальцісон. *Вантрóбы: лёхкае, пячóнку, селязёнку, сéрцэ, пóчкі атвáрвалі, дзéлалі сельцісóн сáмі.* Горваль. *Салцісóн абязáцельна дзéлалі. Лёхка, пячóнка, патрахí э́тые, сéрцэ – іх атвары́ць, да парэ́заць, парэ́заць, да ў жалýдак. Я і цяпéр шчэ пякý і крыўя́нку, і салцісóн.* Каравацічы.

**СЕМЯНО́** *н.* Насенне. *Ішчэ́ сабірáлі семянó каксагізу, то ўжэ за семянó, за той кілагрáм, давáлі трóшкі грóшэй.* Каравацічы.

**СІ́ЛЬНА** *прысл.* Вельмі. *Грыбóў сільна былó ў лéсе багáта.* Азершчына.

**СКРО́БНІ** *мн.* Паношаны абутак. *Ужэ́ і мáццы такія скрóбні дастáла, і самá ўжэ насíла. Адзёжы ж ні былó, нічóга.* Азершчына.

**СЛЁЗЫ** *мн.* ◊ СЬЛЯЗА́МІ ЗАСЫПА́ЦЦА. Моцна плакаць. *А цяпéр гляджý, як дачкá бéдна аднá, а я ні магý вы́йці, ёй нічы́м памагчы́, сьлязáмі засыпáюся, жáлка яé, бéдна – éдзе такý дарóгу.* Горваль.

**СТРА́ДА** *ж.* Пакута. *Дак як бéглі, дзіця́ вадзíчкі хацéла, дак вóзьме э́та хазя́йка гразі э́тай, да сюды́ во нацíсьне ў рукý, да ёй дась, дзіця́ п'е. Э́та такóе стрáды я бáчыла!* Азершчына.

**СТРА́ШКА** *прысл.* Страшна. *Ён быў у плянý, дак прышóў із плéну, на ягó стрáшка былó глядзéць.* Азершчына.

**СТРА́ШКІ** *прым.* Страшны. *На дзьвярáх стая́ў бáцька, абрóслы, адзёжа – трáпка на трáпцы, змýчаны, стрáшкі такі.* Азершчына.

**СЦЯ́КНУЦЬ** *зак.* Сцячы. *Дачкá з Гóмеля кефір мне прывóзіць, да кладзé ў маразілаўку. Ён замярзáе, янá ягó сычáс у трáпачку і павéсіць над вядзéрцам. Янó самó па сабé сьця́кне, і сырóк мя́канькі, аж ды́ша.* Горваль.

**СЦЯМНЕ́ЦЦА** *зак.* Сцямнець. *Мы ўжэ стáлі éхаць, сцямнéлася.* Горваль.

**СЬВІНА́РКА** *ж.* Свінарнік. *На сьвінáрцэ рабóтала год.* Холмеч.

**СЬЛІ́ВЕНЬ** *м.* Слівень (паўзун). *Сьлівень – э́та сáмы страх! Ні дай Бог, ён укýсіць, ужэ́ ні адзін дóктар не атратýе. Ён такі жóўцянькі, жóўцянькі, як зóлата, ён блíскучы, жóўты.* Горваль.

**ТА́МАКА** *прысл.* Там. *І такýю бальшýю шкóлу пастрóіў, дак мы тáмака ўжэ вучы́ліся.* Горваль.

**ТАЎКА́ЧКА** *ж.* Таўкач. *Вары́лі ж бýльбу, кацёл быў такí, жэ́ншчына вары́ла, от гаравáла тóжэ. Нáда ж кацёл той патаўкцí. Такáя здарóвая таўкáчка булá.* Пераваліока.

**ТЎТАКА** *прысл.* Тут. *Мы там жылі ля ракі. Мы там прадáлі, а éту хáтку тут купілі. Тýтака рáдзі сéна. Тут жэ ў нас балóта.* Горваль.

**УЖЫВА́ЦЬ** *незак.* Выжываць. *А éсьці ж хóчацца, апéнькі ўжэ расьлі, дак тýю апéньку наніжаш на дубéц, на агні пакрýціш і зьясі, вот і атраўлéння ні былó, ужывáлі.* Каравацічы.

**УДО́ЛЬ** *прысл.* Уздоўж. *А я за ягó хадзіла, ён мне ўказáнне давáў: запішы́, скóлька людзéй рабóтала, памéрай удóль і папярóк і запішы́.* Холмеч.

**УДРАЖНІ́ЦЬ** *зак.* Уцвяліць, удражніць. *А ўдражні нас, дак і мы бýдам урэ́дныя.* Каравацічы.

**УЗІ́МКУ** *прысл.* Зімой. *Прыéдам у лес узімку, а дзед Мáрка такі шалáш надзéлае, агню накладзé, вéтак налóжыць.* Каравацічы.

**УМЕ́СЬЦЕ** *прысл.* Разам. *Дак я хадзіла ўме́сьце с е́тымі мушчы́намі, аткáпывалі хры́цаў.* Азершчына.

**УРА́ННЕ** *прысл.* Ранкам, раніцой. *Тады́ дзе́лалі заквáску, учынялі нáнач, ішчэ́ ж бу́льбы зьдзярэ́ш, каб той хлеб быў смашне́йшы. Ужэ́ заме́сіш ўрáнне, янó падóйдзе, і напякóм.* Каравацічы.

**УСКО́РАСЬЦІ** *прысл.* Скора, хутка. *І сышóй дзед пад гóру, і дóўга ні быў. Ягó там падабрáлі, і ўскóрасьці ён паме́р.* Горваль.

**УЦЕ́РА** *ж.* Страта. *Ну а я іду́ ўсьлед, заграбáю э́та се́на, штоб ні былó ўце́ры, а ты́е кідаюць – адзін на стагу́, а ты́е падаю́ць.* Холмеч.

**УЦІ́ХУЮ** *прысл.* Уціхую. *Янá с суддзе́й пагавары́ла ўцíхую.* Горваль.

**УЧА́СТВАВАЦЬ** *незак.* Удзельнічаць. *Клуб харóшы ў нас быў, я ўсё врэ́мя ўчáствавала, у хор бе́гала.* Горваль.

**УЧЫ́ЦЦА** *незак.* Вучыцца. *У мяне́ сястрá зь імі ўчы́лася.* Горваль.

**ЦЕ́ЛЬБУХІ** *мн.* Унутраныя органы жывёлы. *Це́льбухі э́тые напіхáлі. Крывя́нкі дзе́лалі. Грачнёвую кáшу вары́лі, жыр э́ты, асóбяно с кíшак, астае́цца ж. Кíшкі мы́лі і з ýксусам, і с сóллю пераціралі, штоб яны́ сьве́тленькія былі. У кроў тады́ ўжэ мукí ўсы́плеш, кáшы э́тай, як на блíны́, і налівáю. Сóду дабаўлялі, соль.* Горваль.

**ЦЕ́РНІЦА** *ж.* Церніца. *Ужэ́ калхóз малóціць тýю канаплю, а шчэ цэ́лымі вазáмі прывóзілі ў кáжын двор. І це́рлі, це́рніцы такíе, што труць. Да здавáлі ўжэ тóе ў калхóз паце́ртае.* Каравацічы.

**ЦЭ́РКВА** *ж.* Царква. *Цэ́рква былá, харóша цэ́рква. Ні палілі цэ́ркву, цэ́ркву ўжэ сваé разабрáлі.* Горваль.

**ЦЯПЕ́РАКА** *прысл.* Цяпер. *Кантóра былá тут у нас, а іхна хáта во так во былá, дзе цяпе́рака Рáйка былá тут, дак янá ўжэ памёрла.* Горваль.

**ХРЭ́ЗЬБІНЫ** *толькі мн.* Пачастунак пасля хрышчэння, хрэсьбіны. *Ужэ гарэ́лачкі вы́ганіш, і хрэ́зьбіны спраўлям. Дзіця́ хрысьцілі, усíх на хрэ́зьбіны звáлі. Прыяжджáў бáцюшка, тут былá хáта такáя вялíка. І кум, і кумá былá, і бáпку брáлі, там цётка ці хто.* Каравацічы.

**ШАМАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Утвараць шум. *Штó-та шамаціць, я ду́мала, што э́то сасе́д, аглядáюся, а там воўк стаіць.* Холмеч.

**ШАСЕ́ЙКА** *ж.* Шаша. *У нас жэ тут шасе́йка і дзярэ́ўня, а туды́ – лес.* Каравацічы.

**ШАХ'ЁР** *м.* Шафёр. *Сын захаце́ў шах'ёрам быць.* Каравацічы.

**ША́ХНУЦЬ** *зак.* З сілай выліць. *У нас сасе́тка Ду́нька Давідзе́нкава кíслага малакá бáнку шáхнула.* Горваль.

**ШКРЭ́БЦІ** *незак.* Скрэбці. *Пасмалілі кабанá, а тады́ гарáчай вадóй мы́лі, шкрэ́блі, вычышчáлі. Нажáмі шкрэ́блі. Памы́юць, пашкрабу́ць, і дзе нідажáрылася, ішчэ́ паджáруць.* Каравацічы.

**ШПУЛЯ́ЦЬ** *незак.* Біць. *Яны́ ягó і прыклáдамі, і нóсцам шпулялі, пагналі на калхóскі двор.* Горваль.

**ШУ́ФЛЯ** *ж.* Шуфель. *Набірáлі шу́фляю тóю, а тады́ ўжэ наве́рне, да награбе́ ў бачóк, дзе́ліць, кáждай жэ сьвінáрцэ нáда вы́дзяліць.* Холмеч.

**ШЧА́ВЕЛЬ** *м.* Шчаўе. *Шчáвеля рвáлі, я́гаду якýю, землянíка, чарнíка былá. Там ужэ́ грыбы́ лісíчкі.* Горваль.

**ЯЗДО́ВЫ** *прым.* Той, хто едзе на кані верхам або кіруе запрэжкай; яздок. *Тады́ атпраўляюць тры мушчы́ны і жэ́ншчыну, і яздóвы, канём зачэ́пвае э́ту капу́ і цягне к стóгу.* Холмеч.

## *З АРХІЎНАЙ МОЎНАЙ СПАДЧЫНЫ*

*Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова*

### СЛОВАЗБОР З ФАЛЬКЛОРНА-ЭТНАГРАФІЧНЫХ КРЫНІЦ

Адной з важных крыніц Зводнага слоўніка беларускіх народных гаворак з'яўляюцца этнаграфічныя матэрыялы вядомых беларускіх этнографаў, фалькларыстаў і публіцыстаў – такіх як А. Сержпутоўскі, К. Машынскі, М. Федароўскі, П. Шпілеўскі, Ч. Пяткевіч, А. Кіркор[1] і інш. Прапанаваны словазбор якраз і складаюць лексемы, выбраныя з розных фальклорна-этнаграфічных крыніц, у якіх адлюстроўваюцца набыткі матэрыяльнай і духоўнай спадчыны беларускага народа, абазначаныя адпаведнымі сродкамі намінацыі. Каб выбраць з наяўных крыніц лексіку для ўключэння яе ў Зводны слоўнік беларускіх народных гаворак, неабходна было цалкам перачытаць, перагледзець усе працы, падрыхтаваныя вышэйзгаданымі і іншымі даследчыкамі. Асноўнымі тэматычнымі групамі лексікі, зафіксаванай у фальклорна-этнаграфічных

[1] Гл. у канцы слоўніка спіс некаторых крыніц, з якіх выпісваліся абазначальныя сродкі, уключаныя ў дадзеную лексічную падборку.

крыніцах, з'яўляецца лексіка, звязаная з духоўнай і матэрыяльнай культурай беларусаў: са старажытнымі абрадамі, народнымі традыцыямі і звычаямі, рамёствамі беларусаў і іх побытам. З выданняў выпісваліся словы, якія ўжо адзначаны ў дыялектных лексікаграфічных працах, але ўвага найперш была скіравана на тыя найменні, якія не зафіксаваны ў дыялектных словазборах або, калі і ўключаны, то з іншым значэннем. Увядзенне гэтых матэрыялаў у Зводны слоўнік дазволіць пашырыць яго рэестр, удакладніць значэнні некаторых лексем, папоўніць слоўнік цікавымі і змястоўнымі ілюстрацыямі. Сярод многіх крыніц па адлюстраванні матэрыяльнай і духоўнай спадчыны беларусаў унікальнымі з'яўляюцца матэрыялы, змешчаныя ў выданнях А. К. Сержпутоўскага "Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета" (Мінск, 2000) і "Казкі і расказы беларусаў-палешукоў" (Мінск, 1999). Выбраныя з іх, а таксама з іншых публікацый лексічныя адзінкі прапануюцца чытачам. Каштоўнасць гэтых матэрыялаў заключаецца ў высокай якасці запісаў, зробленых А. К. Сержпутоўскім, у імкненні захаваць усе адценні беларускай народнай гаворкі, што садзейнічала і будзе садзейнічаць вывучэнню дыялектных асаблівасцей мовы беларусаў-палешукоў.

**АБ** *прыназ.* 1. У час, пад, перад. *Як то́льki аб по́ўначы* (паўно́чы?), *разбудзіла сваю дачку́, дала́ ёй вёдры ў ру́кі, навучы́ла, як чаго́ прасíць, да й пасла́ла ў лес к кало́дзезю. І прыхо́дзюць аб ета ўрэ́мя к яму́ лю́дзі прасíць хле́ба.* 2. Дзеля чаго, чаму (пра мэту прыходу). *Тады́ пан гаво́ра: "Аб чом вы прышлі ка мне?"* (Хрэстаматыя 1962).

**АБАЛО́НКА** *ж.* Шкло ў акне, шыбіна. *От зло́дзей но́чу пашо́ў на мо́гліцы, вы́капаў ту́ю ба́бу, прынёс к бага́таму пад вакно́, пабра́скаў у абало́нку да й ка́жэ, зменíўшы го́лас: "Адда́й бе́днаму бра́ту каро́вы й валы́, бо я на том сьве́ці не ма́ю супако́ю".* (Сержпутоўскі, Машыньскі).

**АБАРАЦЕ́НЬ** *м.* Пярэварацень, ваўкалак. *Дагада́ліся тагды́ ма́тка й дачка́, што той га́рны хло́пец быў не хто другí, як абараце́нь.* (Сержпутоўскі).

**АБДЗЕ́ЛЬВАННЕ** *н.* ○ АБДЗЕ́ЛЬВАННЕ КАРАВА́ЕМ. Абрад абдзельвання караваем усіх удзельнікаў вяселля пасля адорвання маладых. (Федароўскі).

**АБЕ́РДЗІНА** *ж.* Смалістая драўніна. (Машыньскі).

**АБІЖДА́ЦЬ** *незак.* Крыўдзіць. *Яны́ гаво́руць: "Мы зна́ем, што яны́ сто́юць, мы ня хо́чэм цябе́ абіжда́ць!"* (Хрэстаматыя 1962).

**АБРАДЗÍНІЦЦА** *зак.* Нарадзіць дзіця. *Абра́дуваўся каро́ль, беражэ́ ён жо́нку, бы во́ко, да чака́е, паку́ль пры́дзе той час, што яна́ абрадзíніцца.* (Сержпутоўскі).

**АБРО́ТКА** *ж.* Аброць. АБРО́ТАЧКА *памянш.* *У карчме́ не быў, а каня́ прапíў, / Прапíў каня́ ды й абро́тачку* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**АБУ́РЫНЫ** *мн.* Зерне, змяцёнае з каласамі і мякінай. (Машыньскі).

**АБШЫВА́НКА** *ж.* Лодка, збітая з дошак. (Машыньскі).

**АБЫЧА́Й** *м.* Звычай. *У ваднО́м ме́йсцы быў абыча́й – дабіва́ць стары́х людзе́й, каб ены́ дарэ́мно не е́лі хле́ба, калí не мо́гуць рабíць.* (Сержпутоўскі).

**АБЯЗУ́МЕЦЬ** *зак.* Пазбавіцца розуму. *То ж як я – дак каралеўскаю доч абязу́міў: яна́ рубахі на сабе́ рве да есць, людзе́й есць.* (Хрэстаматыя 1962).

**АГÍДНУЦЬ** *зак.* Абрыднуць. *Кíнуў той па́рабак па́на – агíдло яму́ глядзе́ць, што ўсе ро́біцца не на кары́сь, а на пака́з.* (Сержпутоўскі).

**АГЛЕ́ДЗІНЫ** *мн.* Праверка кашулі маладой пасля шлюбнай ночы. (Машыньскі).

**АДВЕ́ДЗІНЫ** *мн.* Наведванне дачкі бацькамі разам з вясельнымі гасцямі з боку маладой у нядзелю праз тыдзень пасля вяселля. (Машыньскі).

**АДЗЁНАК** *м.* Насціл разам з накіданым на яго сенам. (Машыньскі).

**АДЗЁР** *м.* Падмосткі пад вуллі, што ўстанаўліваюцца на дрэве. *Паўзла́зілі жыды́ на адзёр і ле́глі спаць, а Іва́нчык адкíнуў астро́гу да й пашо́ў к агню́. Спяць жыды́ на адры́, ра́ды, што бло́хі не куса́юць.* (Сержпутоўскі).

**АДМАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Адгаворваць. *Як ні адмаўля́лі багатыры́, а кавальчу́к упёрса да такí адзíн паеха́ў про́сто.* (Сержпутоўскі). 2. Адказваць. *"Хадзе́м", – адмаўля́е жо́нка.* (Сержпутоўскі).

**АДНЭ́ЙКО** *прысл.* Аднойчы, адзін раз. *Пача́ў ён распыто́ўваць людзе́й, а ты́е ка́жуць, што па́перэць цьвіце́ то́лькі аднэ́йко ў рок на Купа́ло.* (Сержпутоўскі).

**АДО́РВАННЕ** *н.* ○ АДО́РВАННЕ МАЛАДЫ́Х. Абрад адорвання бацькамі і раднёй маладых грашыма, жывёлай, палатном, адзеннем і інш. у час вяселля. (Федароўскі).

**АДРЫ́НА** *ж.* Пуня. (Машыньскі).

**АЗЯРО́Д** *м.* Азярод. (Машыньскі).

**АКАЛО́Т** *м.* Зерне, вымалачанае са свежых снапоў. (Машыньскі).

**АКАМО́Н** *м.* Эканом. *Ён на другí год ужэ́ наймае сабе́ акамо́на да й дае́ яму́ по́ўную ўла́ду рабíць, што зхо́чэ й як зна́е.* (Сержпутоўскі).

**АКО́ЛУШКА** *ж.* Аколушка (танец). (Федароўскі).

**АКРА́ЙКА** *ж.* Пояс. (Машыньскі).

**АЛЁС, ВАЛЁС, ОЛЁС** *м.* 1. Зарослыя хмызняком нізкія мясціны. *Нямá чагó рабíць, пашóў ён далéй да й хацéў прайцí праз алёс. Уздрáчыліса валы́ да й пабéглі ў валёс.* (Сержпутоўскі). 2. Багністы алешнік. (Машыньскі).

**АЛЬКÉРЫК** *м.* Каморка. *Пан улёз у алькéрык і велéў падáць сабé вы́піць да закусíць.* (Сержпутоўскі).

**АМЫ́ЛКА** *ж.* Памылка. *Пазнáў той чалавéк сваю амы́лку да й пашóў гаравáць да працавáць. Убáчыў Бог ты́е дýмкі Салімóна й зрабíў так, што той пазнáў сваю амы́лку.* (Сержпутоўскі).

**АНДАРÁК** *м.* Спадніца з саматканага сукна ў каляровую клетку. (Машыньскі, Федароўскі).

**АНЯ́Л** *м.* Анёл. *А вéдамо, як чалавéк рóдзіцца, Бог пасылáе ямý анялá. Прылецéў анял к той жанчы́не.* (Сержпутоўскі).

**АПАЛÁЦЬ** *зак.* Ачысціць зерне з дапамогай начовак. (Машыньскі).

**АПАРВÁЦЬ** *зак.* Уварваць, прыдбаць. *От ён раз дзесь апарвáў шмат асьмакóў.* (Сержпутоўскі).

**АПÓРКІ** *мн.* Паношаны абутак без халяў. *Пайдý скакáць – Дóма нéчага кусáць: / Сухары́ ды кóркі, / На нагáх апóркі.* (БНТ. Прыпеўкі). АПÓРАЧКІ *памянш. Бáцька дóма рабатáе, / Сын у Піцеры жывé, / Бáцька грóшы дажыдáе, / Сын ў апóрачках ідзé.* (БНТ. Прыпеўкі).

**АПÓЎЗІНЫ** *мн.* Ссечаныя і звязаныя паміж сабой маладыя дрэўцы, якімі прыцiскаюць зверху стог. (Машыньскі).

**АПРАСТÁЦЬ** *зак.* 1. Прыбраць, ачысціць. *От багатыры́ зьлéзьлі з кóней да хацéлі апрастáць дарóгу; узеліса яны́ за адзíн кáмень, алé не мóгуць ягó й крэнýць.* 2. Апаражніць. *Накíнуліса галóдные стралéц да рыбáк, дак чуць не ўсю тóрбу апрастáлі ў стáрца.* (Сержпутоўскі).

**АПРАТÁЦЬ** *незак.* Апранаць. *І пачынáе* [жонка] *апратáць на себé лéпшае плáцьце.* (Сержпутоўскі).

**АПÝДАЛО** *н.* Пудзіла, чучала. *Стаíць апýдало, целепáецца ат вéтру да пужáе не то што птýшак, алé й людзéй.* (Сержпутоўскі).

**АРАБÍНА, ОРОБÍНА** *ж.* Рабіна (дрэва і ягады). (Машыньскі).

**АРАЦÍЯ, РАЦЕЯ** *ж.* Віншаванне, віншавальная прамова. *Éхаў цераз рэ́ку / А на тым бакý / За плот зачапíўся / І арацíі забы́ўся. Стáршая дзéўка віншýіць хлеб-соль, гэ́та знáчыць: янá кладзéць вянóк на хлеб-соль і гавóрыць рацею [нацíск?].* (Хрэстаматыя 1962).

**АРÓЎ** *м.* Арол (птушка). (Машыньскі).

**АСЕЛÉНЕЦ** *м.* Селядзец. *Абарвé дзе грóшэй, так зáраз да карчмы́ да й крычы́ць: Эй, Шлёмка, гарэ́лкі да аселéнец.* (Сержпутоўскі).

**АСÉТНЫ** *прым.* Высушаны ў восеці (пра жыта). (Машыньскі).

**АСІЯ́ЦЬ** *незак.* Ззяць. *Так із éстыя ры́бы стáла асíяць.* (Хрэстаматыя 1962).

**АСКІРЗÁЦЦА** *незак.* Агрызацца. *Вадá, бач, табé памаглá, бо як ты наберэ́ш у рот вады́, та й не мажэ́ш аскірзáтца, а маўчы́ш, як жэ кáжуць, бы вады́ ў рот набрáўшы.* (Сержпутоўскі).

**АСНÓ** *н.* Вострая палка. *Пачáў ён парóць аснóм валóў, а ты́е як рванýць, воз абернýўса, гаршкí пасы́паліса бы гарóх, а валы́ праламáлі лёд да й увя́злі ў гразí па сáмые рóгі.* (Сержпутоўскі).

**АСТРÓВА** *ж.* Прылада пчаляроў: ссечаная верхавіна дрэва з каротка абрубленымі галінамі, па якой узлазяць на дрэвы. (Машыньскі).

**АСТРÓГА** *ж.* Зрубленае дрэва з абрэзанымі не да канца галінамі (сукамі), якое выкарыстоўваецца як лесвіца. *Паўзлáзілі жыды́ на адзёр і лéглі спаць, а Івáнчык адкíнуў астрóгу да й пашóў к агню. Спяць жыды́ на адры́, рáды, што блóхі не кусáюць.* (Сержпутоўскі).

**АСÝШАК** *м.*, **АСÝШКІ** *мн.* Сухар, сухая скарынка. *Цяжко былó ямý служы́ць, цяжко глядзéць у чужы́ рот да чакáць, пакýль і ямý дадýць асýшак хлéба. Дастáў бéдны з кáйстры пéчаную картóплю да асýшкі хлéба, даў багатырý, а той накíнуўса на тóе, бы галóдны воўк.* (Сержпутоўскі).

**АСЦÁ** *ж.* Празмернае выдзяленне сліны пры нястраўнасці і іншых хваробах страўніка. *Ось штось сьлíну гóніць. Мáбыць, асцá, – кáжа ён.* (Сержпутоўскі).

**АСЬМАКÍ** *мн.* Грошы. *Гаравáў да працавáў крýглы год, дак і меў кавáлак хлéба да й асьмакí на бедý. Дастáў мужы́к з страхí сваé асьмакí да й пасéяў там жэ ў вагарóдзе. Пашóў дож, прыплескáло ты́е грóшы да вы́мыло, дак яны́ й блíшчáць.* (Сержпутоўскі).

**АСЬМÍНА** *ж.* 1. Мера вагі роўная 48 кг. *Дай ты мне асмíну жы́та, а сабé вазьмí маю пшанíцу.* 2. Пасудзіна пэўнай умяшчальнасці. (Хрэстаматыя 1962).

**АТАМÁН** *м.* Старшы смалакур. (Машыньскі).

**АТÁРЫЦА** *ж.* Невялікі ўчастак зямлі. *І пачáў разýмны сын цягнýць сабé з гаспадáркі дабрó да завóдзіць атáрыцу.* (Сержпутоўскі).

**АТСАДЗÍЦЬ** *зак.* Адбіць. *Земля́ былá яшчэ́ мя́ккая, от ён тóлькі трóхі атсадзíў азáдак.* (Сержпутоўскі).

**АТУБАВÁЦЦА, АТАЎБАВÁЦЦА** *зак.* Атабарыцца; асесці. *Пашлá прачýтка, што ў пáна ў пакóях атубавáўса чорт да й не дае панóм жыць. Не дóўго яны́ éхалі на сваíх кóлах, як убáчылі, што лес пачáў радзéць, пачалí трапля́цца прагáліны, паля́нкі да паля́, дак яны́ атаўбавáліса там і пачалí разрабля́ць пóле.* (Сержпутоўскі).

**АТХÝТАЦЬ** *зак.* Адчыніць, адкрыць. *Чýіць: нéхта ў вакнó стýкаіцця, атхýтала інá вакнó, глядзíць.* (Хрэстаматыя 1962).

**АЎЧÁР** *м.* Авечы пастух. *Ой, мáмачка, што рабíць, / Не хóча аўчáр любíць* (з песні). АЎЧÁРЫЧАК *памянш.-ласк. Яшчэ́ кóрань не скíпéў, / Аўчáрычак прыляцéў* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**АЎЧЫ́НКА** *ж.* □ *Не стóіць аўчы́нка вы́дзелкі.* (Машыньскі).

**АХВІЦЫ́НА** *ж.* Флігель пры панскім доме, прызначаны для кіраўніка (аканома) і іншых асоб. *Ат пакóяў заняла́са ахвіцы́на, ат ахвіцы́ны пекáрня, ат пекáрні канюшня, вазóўня, абóра, свіран да гумнó рáзам з адры́наю.* (Сержпутоўскі).

**АХВЯ́РА** *ж.* Ахвяра; прынашэнне ў дар бажаству. (Машыньскі).

**АХÓТА** *ж.* Паляванне. (Машыньскі).

**АЧА́ЙКА, ЯЧЭ́ЙКА** *ж.* Ячэя ў сотах. (Машыньскі).

**АЧЭ́ПІНЫ** *мн.* Абрад зняцця з галавы маладой вянка і надзявання чапца. (Федароўскі).

**БА́БА** *ж.* 1. Бабка-павітуха. ○ ПУПОРЭ́ЗНА БА́БА. 2. Родная бабуля. (Машыньскі).

**БАБЁР** *м.* □ *Усé бабры́ – дабры́, тóлькі адна́ вы́дра ліхáя.* (Машыньскі).

**БАБІ́НЕЦ** *м.* Месца ў царкве, дзе ў час набажэнства стаяць жанчыны. *А бéдны, вéдамо, у сваём дзірáвом лапіклу сарóмееіца людзéй у цэ́ркві, дак стаіць у кутóчку бабінца да шчы́ро мóліцца Бóгу.* (Сержпутоўскі).

**БА́БІЦЬ** *незак.* Прымаць роды, перавязваць пупавіну. *Сышлíса бáбы, даюць ёй ратýнак да бáбяць дзіця́.* (Сержпутоўскі).

**БА́БКА** *ж.* Бабка-павітуха. (Машыньскі).

**БА́БКА** *ж.* Ёрш (рыба). (Машыньскі).

**БАБÓЎНІК** *м.* Капытнік (расліна). (Машыньскі).

**БАБРАВІ́НА** *ж.* Месца, дзе жывуць бабры. *Ось і вербá, а там куст лазы́. Тут калóдзісік, рáдам бабравíна.* (Сержпутоўскі).

**БАГА́ТНІК** *м.* Багач; старадаўняе земляробчае свята, якое спраўлялі пасля заканчэння жніва (паводле хрысціянскай традыцыі, яно адзначалася 8 верасня па ст. ст.). *Гэ́то былó на Рóха, а перад Багáтнікам ён цягáў з балóта атáву да вéльмі спацéў, а тут пад грудкóм булá крыніца, а ў ёй вадá чы́стая, бы сьлезá, алé халóдная, бáццэ лёд.* (Сержпутоўскі).

**БАГА́ЦЬКО** *прысл.* Многа, багата. *Тут табé грыбы́ й ягады, веснóю птýшкі нанесýць яéц, хоць ты ў кош грабí, а ўселя́кае жыўёлы так багáцько, што хаць у хлеў заганя́й. Багáцько пахватáў ён людзéй да й паéў іх. Вéдамо, к багáтай панéнтцэ заўжды́ нахóдзітца багáцько жаніхóў.* (Сержпутоўскі).

**БАГÓН** *м.* Багун (расліна). (Машыньскі).

**БАЛАБÓНЫ** *мн.* Бульба. *Ой, прыéхаў я ў сваты́, / Казáлі мне сéсці. / Навары́лі балабóнаў / З мундзірáмі éсці* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**БАЛВА́Н** *м.* Пудзіла на агародзе. (Машыньскі).

**БАЛÓНЬЕ, БОЛÓНЬЕ** *н.* 1. Водмель, парослая травой. 2. Паша каля рэчкі. (Машыньскі).

**БА́ЛЬКІ** *мн.* Бэлькі. (Машыньскі).

**БА́НЬКА** *ж.* Металічнае колца, якім прымацоўваюць касу да касся. (Машыньскі).

**БА́НЯ** *ж.* Баня. БА́НЮШКА *памянш.-ласк.* *Камáр дрóвушкі рубíў, / Мýха бáнюшку тапíла, / Гніда шчóлак шчалачы́ла, / А вош пáрылася.* БА́НІЧКА *памянш.-ласк.* *Мы́шка бáнічку тапíла, / Блахá пáрылася, / З пóлкі ўдáрылася.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**БАРАБÓЛЯ** *ж.* Бульба. *Прыéхаў я да дзяўчы́ны, / Казáлі мне сéсці, / Пастáвілі барабóлю / З мундзірáмі éсці* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**БАРАЗЁННЫ** *прым.* Правы вол ва ўпражцы. (Машыньскі).

**БАРА́Н** *м.* Баран. БАРА́НЬКА *памянш.-ласк.* *Авéчка Гапечка, / А барáнька Рамáнька, / Свíнка Аксы́нка, / А парсючóк Максíмка.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**БАРКА́Н** *м.* 1. Паркан, плот. 2. Пра незаконна народжанае дзіця; байструк. (Машыньскі).

**БАРКАНЧУ́К** *м.* Незаконна народжанае дзіця; байструк. (Машыньскі).

**БАРУ́КАЦЦА** *незак.* Дужацца, бораццца. *Так заўжды́ мéсяц дзьве недзéлькі расьцé да набірáецца сíлы, а дзьве недзéлькі барýкаецца з чóртом.* (Сержпутоўскі).

**БАРУ́СІК! БАРУ́СІК!** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць барана. (Машыньскі).

**БАРЫ́ЛАК** *м.* Бочачка з двума днамі. (Федароўскі).

**БАРЫ́ЛКА** *ж.* Бочачка з двума днамі. *Ой, хóчацца, хóчацца, / Што з бары́лкі тóчыцца, / З бары́лкі ў ратóк, / Каб не балéў жыватóк* (з песні). (Федароўскі). БАРЫ́ЛАЧКА *памянш.* *Далá хлéба скары́начку, / Цыбýлі пяры́начку, / А вады́ бары́лачку* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**БАРЫ́Ш** *м.* Гарэлка ў якасці выкупу за маладую. (Федароўскі).

**БАЎТУ́ХА** *ж.* Рыбалоўная прылада з сеткі на жэрдках з калкамі. (Машыньскі).

**БА́ЦЦЭ** *часц.* Быццам, нібы. *Кругóм сад, бáццэ ў раю. От дáрам прапáў дзень, бáццэ сьвíне зьéлі.* (Сержпутоўскі).

**БАЯ́Р'Е** *мн.* Дружына маладога, якая ідзе выкупліваць нявесту. *Уцякáй, Мары́сько, уцякáй, / Чэраз акóначко умыкáй, / Альбó дзе ў кутóчак схавáйся, / Бо ўжэ ідýць бая́р'е, не дáйся* (з песні). (Федароўскі, Машыньскі).

**БЕЛУ́Н** *м.* Бог неба; бацька Перуна; старац з белай доўгай барадой, у белым адзенні. (Кіркор).

**БЕЛЬ** *ж.* Балота, паросла падвеем. (Машыньскі).

**БЕЛЮ́ХА** *ж.* Заяц белы. (Машыньскі).

**БÉРАСЦЕНЬ** *м.* Брэст-Літоўск. (Кіркор).

**БЕРАСЦЯ́НКІ** *мн.* Паплаўкі з бяросты. (Машыньскі).

**БÉРВА** *ж.* Кладка з бярвення, памост праз балота. *Насíлу перабрáўса ён цераз грэ́блю да цераз брод па бéрвам і клáдкам...* (Сержпутоўскі).

**БЕРÉСЦЬЕ** *н.* Брэст-Літоўск. (Кіркор).

**БЕРЗА́Н** *м.* Рыба (?). (Кіркор).

**БЕРÓСТА** *ж.* Бяроста. (Машыньскі).

**БЕСÉДА** *ж.* Дружына князя-маладога. (Машыньскі).

**БЕ́ЎКА** *ж.* Вавёрка. (Машыньскі).

**БЛАГАВЕ́ШЧАННЕ** *н.* Дабравешчанне, Благавешчанне (свята адзначаецца 25 сакавіка па ст. ст.). *Тут ужэ́ блізко Благаве́шчанне, а го́ры ро́ўно з харо́мамі.* (Сержпутоўскі).

**БЛІ́СКА** *ж.* Маланка. (Машыньскі).

**БЛІСКАВІ́ЦА** *ж.* Тое ж. *Попаліла бліскавіца орэ́хі.* (Машыньскі).

**БЛІ́СКАЎКА** *ж.* Тое ж. (Машыньскі).

**БОГ** *м.* Бог. *Бог даўне́й хадзіў па зямлі ў вы́глядзе ста́рца. Адно́йчы ён папрасіў міласціну ў ба́бы, і та́я дала́ яму́ млін, папярэ́дне падцёршы ім дзіця́. За гэ́та Бог скара́ў людзе́й. Даўне́й жы́та было́ як суцэ́льны ко́лас, і буйно́е, як боб, зе́рне ўтвара́лася на ўсім сцябле́. Бог пакінуў вяршкі (каласкі) то́лькі таму́, што пашкадава́ў ката́ і саба́ку.* (Машыньскі).

**БОГА́Ч** *м.* Агонь. *Грех на него́ каза́ці ого́нь, у нас ка́жуць бога́ч, бо як зовіне́цца, то бога́то ўзьме чого́. Его́ трэ́ба шанова́ці так усё ро́ўна, як Бо́га.* (Машыньскі).

**БО́ЙКА** *ж.* Драўляная пасудзіна для збівання масла. (Машыньскі).

**БОЛО́ТО** *н.* Балота. *Як боло́то сьні́цца, то хво́рэсьць (тоска).* (Машыньскі).

**БОР** *м.* Сасновы лес. *Шчу́тка росце́ на бору́.* (Машыньскі).

**БОРО́ДАЧНІК** *м.* Чыстацел (расліна?). (Машыньскі).

**БОРО́ДКА** *ж.* Жменя каласоў, якую звязвалі пры заканчэнні жніва. (Машыньскі).

**БОРЦЬ, БАРЦЬ** *ж.* 1. Дрэва з дуплом, дзе жывуць пчолы. (Кіркор). 2. Выдзеўбанае ў сасне дупло для пчол. (Машыньскі).

**БРА́ЦЕЙКО** *м.* Браточак. (Федароўскі).

**БРАЦІ́ХА** *ж.* Жонка брата. (Федароўскі).

**БРА́ЧЧЫК** *м.* Братчык; член царкоўнага брацтва. *Перш улёз у ха́ту ста́раста, за ста́растаю пасу́нулі бра́ччыкі, нарэ́шце папха́ўся сам гаспада́р.* (Сержпутоўскі).

**БРО́ЦЬКІ** *прысл.* Уброд. *Трэ было́ Я́нку пера́йці рэ́ку бро́цькі.* (Сержпутоўскі).

**БРУШНІ́ЦА** *ж.* Брусніцы (кусцікі і ягады). (Машыньскі).

**БРЫ́НДЗА** *ж.* Падсолены неадціснуты тварог. (Машыньскі).

**БРЫ́НСКІ** *прым.* ◊ БРЫ́НСКІ ЛЕС. Далёкае невядомае месца. *Увідзяў ён кавёр, узяў разасла́ў яго́, сеў на яго́ і ка́жа: "Кавёр мой любы, нясі мяне́ на бры́нскі лес у пусты́ню!"* (Хрэстаматыя 1962).

**БРЫЖ** *м.* Вузкая палоска тканіны, сабраная ў зборку. (Федароўскі).

**БУК** *м.* Бык. *Бук як б'е́цца, то чолове́к добіва́ецца до жэ́ншчыны* (сон). (Машыньскі).

**БУЛГА́НЧЫК** *м.* Палатка, будан. *Прышлі ў лес, напя́лі булга́нчык і ста́лі жыць.* (Хрэстаматыя 1962).

**БУЛО́ЎКА** *ж.* Булава. *Скува́лі було́ўку у дзве́сьця пудо́ў.* (Хрэстаматыя 1962).

**БУ́КСА** *ж.* 1. Утулка ў коле. 2. Калодка ў коле. (Машыньскі).

**БУ́СЕЛ** *м.* Бусел (птушка). *Бу́сел быў калі́сьці чалаве́кам, які разно́сіў жаб, вужо́ў у мяшку́, але́ з цікаўнасці заглянуў у мех, то жа́бы і га́ды паўцяка́лі. Яму́ Бог загада́ў збіра́ць іх, ператвары́ўшы чалаве́ка ў пту́шку.* (Машыньскі).

**БУ́СЛІННІК** *м.* Бусельнік (расліна). (Машыньскі).

**БУ́СЬКА** *м.* Бусел. *Хадзіў бу́ська па бало́ту, / Ён шука́ў сабе́ рабо́ту.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**БУСЬКО́** *н.* Тое ж. *Хо́дзяць з тае́ пары́ па бало́це бо́сые, з чырво́нымі нага́мі, у бе́лых саро́чках і чо́рных світах буські да й збіра́юць усякую не́чысь.* (Сержпутоўскі).

**БУ́СЬЛЕНІЦА** *ж.* Гняздо бусла. (Машыньскі).

**БУ́ЦІК! БУ́ЦІК!** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць бычка. (Машыньскі).

**БУЦЯ́Н** *м.* Бусел. *Буця́н ме́ле, буця́н ме́ле, / А крук засыпа́е, / А варо́бчык, до́бры хло́пчык, муку́ абіра́е* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**БУЯ́К** *м.* Бык. (Машыньскі).

**БУЯНЕ́Ц** *м.* Буячнік (кусцікі). (Машыньскі).

**БУЯ́ЧНІК** *м.* Тое ж. (Машыньскі).

**БЫВА́ЛЯШНІ** *прым.* Былы, даўнейшы. *Быва́ляшніе паны́ не на́шым ро́ўня: такіе пушные да гро́зные, што ты й не падступі́са, ба́ццэ наравістая кабы́ла.* (Сержпутоўскі).

**БЫ́ДЛО** *н.* Рагатая жывёла. *Не хачу́, не хачу́, / За пастуха́ не пайду́, / Бо пасту́х бы́дло пасе́, / За хвост каро́вы трасе́* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**БЫЧО́К** *м.* Бычок. БЫ́СЬКА *ласк. Ах бы́ська мой, бы́сінька, / Залатая твая лы́сінка!* БЫ́СІНЬКА *ласк. Ах ты, бы́сінька, бычо́к, / Задзяры́ цябе́ ваўчо́к.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**БЯРО́ЗАВІК** *м.* Бярозавы сок. (Машыньскі).

**БЯСЕ́ДА** *ж.* Збор гасцей (сватоў) з пачастункам. (Федароўскі).

**ВАДА́, ВОДА́** *ж.* Вада. □ *Не плюй у во́ду, бо давядзе́цца напі́цца. Чы́ста вода́ – шча́сце; нечы́ста – беда́.* (Машыньскі).

**ВАДЗЯНІ́К** *м.* Міфічная істота – вадзяны дух. (Кіркор).

**ВАДО́ХРЫШЧЭ** *н.* Вадохрышча. *То́лькі на Вадо́хрышчэ, як павыганяюць чарце́й з вады́, та ены́ таўку́тца ў паве́тры.* (Сержпутоўскі).

**ВА́ЖКО** *прысл.* Цяжка. *Ой, не, мой ро́дненькі, ля себе́ ва́жко жыць, так ва́жко, што лепш паме́рці. Мне не ва́жко, – адмаўляе яна́, – бо куды́ вам, мужчы́нам, да нас, жано́к.* (Сержпутоўскі).

**ВАЗНІ́ЦА** *м.* Кіроўца воза, на якім сядзелі маладыя, едучы да шлюбу. (Федароўскі).

**ВАЗО́ЎНЯ** *ж.* Памяшканне для захоўвання воза, санак і прылад працы. (Машыньскі).

**ВАЛАСНЯ́** *ж.* Вуда, зробленая з валасоў конскага хваста. (Машыньскі).

**ВАЛАЧА́ШЧЫСА** *прым.* Які валочыцца; валацуга, бадзяга. *Быў сабе́ адзін валача́шчыса па́ра-*

*бак, не маў сваé дамóўкі, а ўсё парабкавáў.* (Сержпутоўскі).

**ВАЛАЧÓЎНІКІ, ВАЛАЧÓБНІКІ** *мн.* Валачобнікі. (Кіркор).

**ВАЛÉЙ** *прысл.* Лепш. *"Татýлінька, ні пайдý за Паліцу, валéй, утаплюсь ліба удаўлюсьй, – а ён як затýкаў, дак я пашлá і галасíла цэ́лаю нóцку. Ай, калí б мяне́ гéта пярýн забíў, валéй ба, я век ня відзíў гéта свéту бóськага, валéй ба мяне́ гéта мáтка ні радзíла, валéй ба я гéта век гарéлкі ня піў..."* (Хрэстаматыя 1962).

**ВАЛÍЗА** *ж.* Сумка. *От кале сáмае карчóмкі адвезáласа валíза, й пан згубíў папéры й грóшы.* (Сержпутоўскі).

**ВАПРЎК** *м.* Кабан, вяпрук. *А ў папá былó вéльмі велізных да драпéжных пяць вапрукóў.* (Сержпутоўскі).

**ВАРÓНІЧЫ** *прым.* Варонін. *Аднá кáжа: – Піражóк, / А другáя: – Кóка / З варóніча вóка.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ВАРÓЦІ** *мн.* Вароты. *Хóдзіць катóк па варóцях / У чырвóненькіх чабóцях.* ВАРÓЦЯЧКІ *памянш.* *А мой дамóк я́сны / – Варóцячкі крáсны.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ВАРЎНКІ** *мн.* Умовы. *Тóлькі той згаджáецца на тых варýнках, каб Прáўда вы́калаў сабé апóшняе вóко.* (Сержпутоўскі).

**ВАРЭ́НЬКА** *ж.* Торба, сумка. *Па немалýм чáсе крýпнік звары́ўса, тагды́ ён прынёс дзве лóжкі, дастáў з варэ́нькі бóхан хлéба й кáжэ: "Садзíса, бýдам вячэ́раць".* (Сержпутоўскі).

**ВАСТРÓГ** *м.* Турма, астрог. *Убáчыў тут поп, што ў дамавíне сабáка, а не чалавéк, закрычáў і кáжэ, што за гэ́такі абмáн сашлé да Сібéру ці згнóіць у вастрóзе.* (Сержпутоўскі).

**ВАЎЧКÍ, ВОЎЧКÍ** *мн.* Чарада (расліна). (Машыньскі).

**ВАШЫ́ЦА** *ж.* Вош (насякомае). *Зашумéла вашы́ца. Закрычэ́ла блашы́ца: / – Гукніце-ка папá, запéчнага клапá; / Прычасціце вашы́цу, / Прычасціце блашы́цу.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ВÉДЗЬМА** *ж.* Ведзьма. *Вéдзьма завіткí завівáе, "ця́гне спур з жы́та, з карóў млíко". У купáльскую ноч вéдзьмы на стýпах ляця́ць у Кіеў на "Асія́ньскую гóру".* (Машыньскі).

**ВЕДЎН, ВІДЎН** *м.* Мак-самасейка. *Мак-відýн узыхóдзіць на другí год пасля мáку сéянага і рассявáецца пасля сам. Ягó свéнцяць на Спáса.* (Машыньскі).

**ВЁЗЕЛЬ** *м.* Дзяцеліна (расліна). *Узелáса лазá на балóце, бы вёзель.* (Сержпутоўскі).

**ВÉКО** *н.* Накрыўка труны. *От ён вы́вернуў з аднаé магíлы велізны кáмень, прынёс ягó да як ýдарыць па трунé, дак вéко й атчынíласо.* (Сержпутоўскі, Кіркор).

**ВЕЛÍКДЗЕНЬ** *м.* Вялікдзень. *Не я б'ю, вербá б'е, за ты́дзень – Велíкдзень.* (Машыньскі).

**ВÉЛЕС** *м.* Бог статкаў, апякун пастухоў. (Кіркор).

**ВЕНÉЦ** *м.* Вянчанне. (Машыньскі).

**ВÉНО** *н.* Свойская жывёла і птушка, атрыманая маладой у пасаг. (Машыньскі).

**ВЕРБАЛÓЗ** *м.* Вербалоз (расліна). (Машыньскі).

**ВÉРЧЫК** *м.* Скрутак лыка ці лазовай кары. (Машыньскі).

**ВÉРША** *ж.* Стаўная лавушка, сплеценая з дубцоў лазы ў выглядзе венцера для лоўлі рыбы. (Кіркор).

**ВЕСЁЎКА, ВЕСЮ́ЎКА** *ж.* Вясёлка. *Гóспадзі, Гóспадзі, зноў весёўка вóду бярэ́, зноў бýдзе дождж.* (Машыньскі).

**ВÉСЬКІ** *прым.* Вясковы. *Алé от напры́кралі емý вéськіе маладзíцы й давáй ён адусю́ль прывóзіць рóзных панéнак.* (Сержпутоўскі).

**ВÉТЛІНА** *ж.* Іва (расліна). (Машыньскі).

**ВЕХА** *ж.* Камета. (Машыньскі).

**ВЕХÁ** *ж.* Амяла (расліна). (Машыньскі).

**ВЕЧОРЫ́** *мн.* ○ СВЕТЫ́Е ВЕЧОРЫ́. Зімовы святочны перыяд у Каляды. *Ой, цераз садóк да й дарóжанька, / Святы́ вéчор, / Ой, тудэ́ю шла Бóжая Мáці, / Да й зустрачáе тры каля́днічкі* (з песні). (Машыньскі, Кіркор).

**ВÉШАЧКА** *ж.* Галінка. *Бáба бярэ́ць міску, сы́піць ў яé авёс, нальéць тудá жэ вады́, вы́ламіць з нóвага вéніка вéшачку, і гэ́тай вéшачкай памешáіць авёс з вадóй íлі мур, і заты́м мáжэць кумóў, катóрые брасáюць ей за то дзéньгі.* (Хрэстаматыя 1962).

**ВÉШНА** *прысл.* Ніколі. *Украўшы сыкылá, занёс ягó у такóе мéста, што ніхтó ягó вéшна знайцí ня мóг.* (Хрэстаматыя 1962).

**ВÉЯЦЬ** *незак.* ◊ ВÉЯЦЬ ПАШНЮ. Ачышчаць зерне. (Машыньскі).

**ВІДЭ́ЛКО** *н.* Люстэрка. *А жóнка седзіць сабé да глядзíцца ў відэ́лко, ці гóжая.* (Сержпутоўскі).

**ВІНАТÓВЫ** *прым.* Янотавы. *Узя́ў і вінатóвую шýбу атдáў éтаму нагóму.* (Хрэстаматыя 1962).

**ВІС** *м.* Трава, якая засталася на зіму нераскошанай. (Машыньскі).

**ВІТ** *м.* Трава, якая засталася на зіму нераскошанай. (Машыньскі).

**ВІХÓР** *м.* Віхор. *Леціць віхóр – чóртава свáдзьба.* (Машыньскі).

**ВОЗ** *м.* Нагружаная павозка. (Машыньскі).

**ВÓЖКІ** *мн.* Лейцы. (Машыньскі).

**ВÓКО, ÓКО** *н.* Трохкутнае заглыбленне ў борці з дзвюма ці трыма лёткамі для пчол. *У ягó сягóлета ні адны́ пчóлкі не сéлі, бо, мáбыць, хтось сáлам óка памáзаў.* (Машыньскі).

**ВÓЛАК** *м.* Невялікі невад. (Машыньскі).

**ВОЛОСОЗÁР, ОЛОСОЗÁР** *м.* Плеяда (група зорак). (Машыньскі).

**ВОЛОЧÓННЫЕ** *мн.* Валачобнікі. (Машыньскі).

**ВÓРАК** *м.* Мяшок. *Як прадáм жы́та вóрак, / Яшчэ́ вы́п'ем і ў аўтóрак* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ВÓРЧЫК** *м.* Каромысел у вупражы. (Машыньскі).

**ВОСКРЕСЕ́НЬЕ** *н.* ○ ВЕ́РБНОЕ ВОСКРЕСЕ́НЬЕ. Нядзеля за тыдзень да Вялікадня, калі асвячаюць вярбу. (Кіркор). ○ СВЕ́ТЛО-ХРИСТО́ВО ВОСКРЕСЕ́НЬЕ. Вялікдзень. (Кіркор).

**ВО́ТЧЫНА** *ж.* Бортніцтва. (Машыньскі).

**ВО́ТЧЫЧ** *м.* Бортнік. (Машыньскі).

**ВОЎ** *м.* Вол. *Воў сівый як сніцца да й ко́ле рога́мі – до́брэ: чолове́к добіва́еццa.* (Машыньскі).

**ВОЎК** [ўоўк] *м.* Воўк. *Ўоўк сніцца – недо́брэ: неду́га. Калі воўк даро́гу перабе́г, то гэ́та на шча́сце. Пра чалаве́ка, яко́му шанцу́е, ка́жуць: "Яму́ воўк даро́гу перабе́г".* (Машыньскі).

**ВОЎКОЎНЯ́** *ж.* Лавушка на ваўкоў, сплеценая з лазы (у выглядзе спіралі). (Машыньскі).

**ВО́ЎНЯНКА** *ж.* Ваўнянка (грыб). (Машыньскі).

**ВО́ЧЫ, АЧЫ́** *мн.* ○ УРАЧЛІ́ВЫЯ ВО́ЧЫ. *Калі́ ма́ці, шкаду́ючы дзіця́, до́ўга ко́рміць яго́ грудзя́мі, або́, адлучы́ўшы ад грудзе́й, зноў пачынае яго́ карміць і́мі, то такі чалаве́к бу́дзе мець урачлі́выя во́чы, ад по́гляду які́х паміра́юць і людзі, і сво́йская жывёла.* (Машыньскі). *От і астала́са с тае́ пары́ пра́ўда на сьве́це без ачо́ў і ніхто́га яна́ не ба́чыць.* (Сержпутоўскі).

**ВО́ШЫ** *мн.* Вошы. *Во́шы сня́цца – до́брэ: гро́шы, бага́цтво.* (Машыньскі).

**ВСЕНО́ШЧНАЯ** *ж.* Усяночная. (Машыньскі).

**ВУЖ** [ўуж] *м.* Вуж. *Ўуж як уку́сіць за від ці за ру́ку – не́хто непрэме́нно ў роду́ помрэ́.* (Машыньскі).

**ВУЖА́ЧКІ** *мн.* Неядомыя грыбы. (Машыньскі).

**ВУЖО́ВІКІ** *мн.* Тое ж. (Машыньскі).

**ВУРКАТА́** *ж.* Вуркатанне. *На като́чка вуркатá, / На дзіця́тка дрыматá.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ВЫ́АЧУНЯЦЬ** *зак.* Ачуняць. *От і про́сіцца ён, каб яго́ паве́зьлі на то́е ме́йсцэ, то мо ён і вы́ачуняе.* (Сержпутоўскі).

**ВЫ́ВОРОТ** *м.* Выварацень. (Машыньскі).

**ВЫ́ЖАЛ** *м.* Сабака. *Уба́чыў пан, што гэ́то ве́льмі харо́шы вы́жал да й прыста́ў к старо́му: прада́й да прада́й.* (Сержпутоўскі).

**ВЫ́ЖАР** *м.* Яма, дзе выгараў торф. *Пабе́гла вада́ ў я́мы, от і зрабі́ліса там вы́жары, пе́лі да такая тхля́ня, што й не прале́зці.* (Сержпутоўскі, Машыньскі).

**ВЫКЛІКА́ННЕ** *н.* ○ ВЫКЛІКА́ННЕ ДАЖДЖУ́. Каб выклікаць дождж, трэба сыпаць свянцоны мак у студню. (Машыньскі).

**ВЫ́ПЕТРАЦЬ, ВЫ́ПЯТРАЦЬ** *зак.* Высахнуць, змарнець. *Гаўя́до яшчэ́ да Каля́д вы́петрало бы шчэ́пкі да павычэ́свало ўсю шэрсць. Ду́маў, ду́маў чорт, што тут зрабі́ць, вы́пятраў як суха́р, ніхо́го ні мажэ́ пара́дзіць з заця́тым чалаве́кам.* (Сержпутоўскі).

**ВЫ́ПЛІШЧЫЦЦА** *зак.* Выціснуцца, выйсці. *Зірну́ў той чалаве́к, што ўсе мо́ляцца, што на яго́ не зве́рнуць ува́гі, дак ён бо́кам, бо́кам паўз сьце́ну да й вы́плішчыўса ці́хенько з цэ́ркві.* (Сержпутоўскі).

**ВЫ́СКАЦЬ** *ж.* 1. Выварацень. *Ужэ́ такі́ до́брэ прагалада́ўса пан, утамі́ўса, ла́зячы цераз вы́скаці да каладзьё. Узбі́ўса на вы́скаць, чуць галавы́ не скруці́ў. Ба́чыць поп, аж пустэ́льнік зрабі́ў сабе́ лагво́ пад вы́скацью й захіста́ў тро́хі гальём да беро́стаю.* 2. Праваліна. *Гдзе сту́пяць, дак там зро́біцца така́я вы́скаць або́ во́зера, што й да тых час ешчэ́ мо́жна ба́чыць іх у ле́се. Кудэ́ю чорт цёг дуб'ё, там да тых час ешчэ́ е равы́ да вы́скаці.* (Сержпутоўскі).

**ВЯДЗЬМА́Р** *м.* Чараўнік. *Вядзьма́р мо́жа, як і ве́дзьма, адбіра́ць малако́ ў каро́ў, здыма́ць спор са збо́жжа, рабі́ць зало́мы.* (Машыньскі).

**ВЯНО́К** *м.* ○ РУЦВЯ́НЫ ВЯНО́К. Вянок, звіты з руты, які надзяюць нявесце на галаву. (Федароўскі).

**ВЯРХНЯ́К** *м.* Верхні камень млына. (Машыньскі).

**ВЯРХНЯ́К** *м.* Левы сашнік у сахі. (Машыньскі).

**ВЯРЭ́Я** *ж.* Шула. *Вярэ́я й мая ўсё тачо́ная, / Усё тачо́ная, пазлачо́ная* (з песні). ВЯРЭ́ЕЧКА *памянш.-ласк.* *А к до́му прыйшла́ – пашатну́лася, / За вярэ́ечку захваці́лася* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ВЯСЕ́ЛЛЕ** *н.* Вяселле. ВЯСЕ́ЛЕЧКО *эмац.-ацэн.* *Развіва́еццa, развіва́еццa / Да ў горо́дзе зе́лечко, / Зачына́еццa, зачына́еццa / У Мары́сьці вясе́лечко* (з песні). (Федароўскі).

**ВЯСЕ́ЛЬНЫ** *прым.* ○ ВЯСЕ́ЛЬНАЯ ДРУЖЫ́НА. Усе удзельнікі вяселля. (Федароўскі). ○ ВЯСЕ́ЛЬНАЯ СВА́ДЗЬБА. Дружына маладога, у склад якой уваходзяць *прасаты*, маршалак, заводчык, музыка, сваха, дружка, каравайніцы. (Федароўскі). ○ ВЯСЕ́ЛЬНЫ ПАЯ́ЗД. Маладыя з удзельнікамі вяселля. (Машыньскі).

**ВЯТРА́К** *м.* Ветраны млын. (Машыньскі).

**ГА́ЛО** *н.* Балота. (Машыньскі).

**ГАЙНО́** *н.* Амяла (расліна). (Машыньскі).

**ГАЙСЬЦЁР** *м.* Чорны бусел. (Машыньскі).

**ГАЛАШЧО́К** *м.* Замерзлая незаснежаная зямля. (Машыньскі).

**ГАЛАШЭ́ННЕ** *н.* Галашэнне па пакойніку. *Галашэ́нне – гэ́то ні пе́сьня, што пані́маеш яе́, а гэ́то – як до.* (Машыньскі, Кіркор). ○ ПАХА̀ВА́ЛЬНЫЯ ГАЛАШЭ́ННІ. (Машыньскі).

**ГАМО́НІШЧА** *н.* Урочышча. *Ідзі́, – гаво́ра, – у такі́м-та гамо́нішчы стаі́ць лі́па дупліна́тая.* (Хрэстаматыя 1962).

**ГАРА́** *ж.* Прастора паміж столлю і страхой хаты; гарышча. (Машыньскі).

**ГАРАПА́ШНІК** *м.* Гаротнік. *Цепе́р я спако́йно памру́, бо ба́чу, што мае́ сыны́ ні стральцы́, ні рыбакі́, а гарапа́шнікі гаспадары́, як і я сам.* (Сержпутоўскі).

**ГАРА́ПНІК** *м.* Раменная пуга. (Машыньскі).

**ГАРБУЗЕ́ННЕ** *н.* Гарбузнік. *Ой, уцяка́ў каза́чанька / Цераз тры гаро́ды, / Ублы́таўся ў гарбузе́нні, / Нарабі́ў нам шко́ды* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ГА́РДНЫ** *прым.* Фанабэрысты, ганарысты. *Тут валы́ як закруцілі, дак і зачапілі за ка́мень: вось злама́ласа, воз пахіліўса, га́рдны ка́мень шусь далоў да так рэ́знуўса аб той ка́мень, што аж печаніцы ў яго́ трэ́снулі.* (Сержпутоўскі).

**ГАРНУ́ШАК** *м.* Маленькі гаршчок. ГАРНУ́ШАЧАК *памянш.-ласк. Прынясла́ абе́дацi ў мале́нькім гарну́шачку. / У мале́нькім гарну́шачку / Хле́ба гарбу́шачку* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ГАРО́Х** *м.* Гарох. ГАРАШО́К *памянш.-ласк. А пасе́яў гарашо́к / На шыро́кай ні́ўцы: / Не ўрадзіў гарашо́к – / Адны́ лапа́тачкі.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ГАРЭ́Х** *м.* Куст арэшніку. *Пахава́йце ў цёмным ле́се / Пры зялёненькім гарэ́се. / Бу́дуць гарэ́хі шчыпа́ць / І камара́ ўспаміна́ць.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ГАСПО́ДА** *ж.* Дом, жыллё гаспадара. *Пара́ мне пано́чку, е́хаць да гаспо́ды, бо яшчэ́ хто лес пакра́дзе. Забра́ў той чалаве́к гро́шы ў кашэ́ль, натро́с ігру́ш наве́рх і папе́р да гаспо́ды.* (Сержпутоўскі).

**ГАТ** *м.* Плот, сплецены рыбакамі з калочкаў, аплеценых лазой і перакінуты ўпоперак цячэння. (Машыньскі).

**ГА́ЎКА** *ж.* Галка (птушка). (Машыньскі).

**ГАЎЯ́ДО** *н.* Буйная рагатая жывёла. *Не хапіло ў людзе́й гаўя́ду се́на, бо ле́цячко было́ каро́ткае да тако́е гара́чае, што ўсё вы́гарало.* (Сержпутоўскі). *Але́ ні́чого не пара́дзяць – гаўя́до раве́ гало́днае да хапа́е сьнег.* (Сержпутоўскі).

**ГЛАДЫ́ШКА** *ж.* Збанок без ручкі; гарлач. (Машыньскі).

**ГЛІ́СНІК** *м.* Піжма (расліна). (Машыньскі).

**ГЛУ́ПАСЬ** *ж.* 1. Поўнач. *Паку́ль яны́ даехалі, дак ужэ́, пе́ўне, была́ са́мая глу́пась.* 2. Поўнач, калі выходзіць усялякая нечысць. *У млы́не, ве́дамо, заўсю́ды чэ́рці жыву́ць, а ў гэ́тум іх так мно́го ўплю́нуласо, што, быва́ло, у глу́пась ніхто́ не сме́ў і блі́зко падыці к млы́ну. От раз ужэ́ моо* [можа] *у са́мую глу́пась вы́шаў Се́мко з карчмы́, падышо́ў кале дарo̗гі к крыжу́, спатыкну́ўса да й су́нуўса ў кана́ву. Зарэ́заў гэ́то ён казла́, аберну́ўса ў казлі́ную шку́ру, прыла́дзіў і ро́гі да й пашо́ў у са́мую глу́пась к бе́днаму пад вакно́.* (Сержпутоўскі).

**ГЛУШЭ́Ц** *м.* Глушэц (птушка). (Машыньскі).

**ГЛЯК, ГЛЁК** *м.* Гляк; гліняная шарападобная пасудзіна з вузкім горлам. □ *На вяку́ даве́дзецца вары́ць і ў гляку́.* (Машыньскі).

**ГНІЛЕ́Ц** *м.* Хвароба пчол, якая здараецца з-за празмернай вільгаці. (Машыньскі).

**ГНІЛУ́ХА** *ж.* Трэці тыдзень месяца. (Машыньскі).

**ГОДО́ВАНКА** *ж.* Удачаронае дзіця. (Машыньскі).

**ГОДОВА́НІК** *м.* Усынаўлёнае дзіця. (Машыньскі).

**ГО́ЖЫ** *прым.* Прыгожы. *Былі ў ба́цькі да ў ма́ткі тры дачкі: дзьве ўда́лые да старэ́нные, а трэ́йцяя, хаць го́жая, як ма́каў цьвет, але́ така́я ленівая да сварлі́вая, што мо тако́е й сьвет не ба́чыў.* (Сержпутоўскі).

**ГО́ЛУБ** *м.* Голуб. *Го́луб як прылеціць – сваты́* (сон). (Машыньскі).

**ГО́НІ, ГО́НЫ, ГАНЫ́** *мн.* Старая мера ворнай зямлі, поле каля пяцідзесяці-ста метраў даўжынёй; гоні. [Змей] *леціць, разя́віўшы го́рло, а хвост ця́гнецца мо на тро́е гано́ў.* (Сержпутоўскі, Машыньскі). ○ БАБРО́ВЫЯ ГО́НЫ. (Кіркор).

**ГО́РНО** *прысл.* Крыўдна. *Го́рно па́рабку. Ён стара́ецца лепш, як сабе́, пне́цца су сіх сіл, а папу́ не ўго́дзіш. Го́рно ма́церы, што дзе́ці пла́чуць, е́сці хо́чуць, але́ як пачу́ла яна́, што гаспада́р вы́бавіў ат сме́рці чалаве́ка, дак яна́ хаць гало́дная, але́ ра́дасная ле́гла спаць.* (Сержпутоўскі).

**ГОРЧА́К** *м.* Драсён (расліна). (Машыньскі).

**ГО́РШЧЫК** *м.* Гаршчок. (Машыньскі).

**ГРАБУШО́К** *м.* Грабеньчык. ГРАБУШЭ́ЧАК *памянш.-ласк. А ку́рачка, рабашэ́чка! / Пазы́ч жа мне грабушэ́чка!* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ГРА́ДКА** *ж.* Града, узвышэнне сярод балота. (Машыньскі).

**ГРАМНІ́ЦА** *ж.* Грамнічная свечка. (Кіркор).

**ГРО́ШЫ** *мн.* Грошы. □ *Купі́ў бы сяло́, да гро́шай гало́.* (Машыньскі).

**ГРУНГА́Ч** *м.* Крумкач, груган. *Аж вот прые́хаў грунга́ч, / А з ім бацья́н. / Жо́раў арганісты / І со́кал бы́стры* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ГРУ́ЦА** *ж.* 1. Пярловыя (ячныя) крупы. (Машыньскі). 2. Суп з тоўчаных ячных круп. (Кіркор).

**ГРЫБ** *м.* Баравік. (Машыньскі).

**ГРЫВА́Ч** *м.* Значэнне (?). (Машыньскі).

**ГРЫ́КА** *ж.* Грэчка. *Хоць ячме́ню жме́ню, / Хоць гаро́ху тро́ху, / Гры́кі чараві́кі, / Я́рыцы паўмя́ліцы, / А пшаніцы рукаві́цы.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ГРЭХ** *м.* Грэх; парушэнне рэлігійных канонаў. (Машыньскі).

**ГУ́БКА** *ж.* Губа (на бярозе). (Машыньскі).

**ГУ́БЫ** *мн.* Грыбы. (Кіркор).

**ГУГУ́Н** *м.* Удод (птушка). (Машыньскі).

**ГУЖ** *м.* Раменьчык. (Машыньскі).

**ГУ́ЖВА** *ж.* Завязкі, што ўмацоўваюць зубы бараны паміж прутамі. (Машыньскі).

**ГУМНО́** *н.* Сельскагаспадарчы будынак з пляцоўкай для малацьбы. (Машыньскі).

**ГУСА́РНІЦЫ** *мн.* Дзяўчаты, якія вырабляюць розныя фігуркі (гускі) для каравая. *На́шы гуса́рніцы нялю́дскі, нялю́дскі, / Намясі́лі ў гу́сках усё клю́цкі, усё клю́цкі* (з песні). (Федароўскі).

**ГУ́СКІ** *мн.* Гарлачык белы (расліна). (Машыньскі).

**ГУ́СКІ** *мн.* Фігуркі розных формаў, якімі ўпрыгожваюць каравай. *Не турбу́йцеся вы гу́скамі, гу́скамі, / Бо такія гу́скі, як мы са́мі, як мы са́мі. / Мы самыя, як у садо́чку кве́тачкі: / Да такія на́шы гу́сачкі, гу́сачкі* (з песні) (Федароўскі). ГУ́САЧКІ, ГУ́САНЬКІ *памянш.-ласк. Сабіра́йся з па́нам Бо́гам / І з сваім бе́лым піро́гам – / Гу́сачкамі пры-*

*біра́ны / І карава́ем назва́ны* (з песні). *Малады́я дзэ́ванькі / Гу́санькаў наляпілі / Бе́лымі ру́чанькамі, / Зло́тымі пярсцёнкамі* (з песні). (Федароўскі).

**ГУ́СЯ** *ж.* Гусь. *Мая́ гу́ся ваду́ му́ця* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ГУ́ЧКІ** *мн.* Загоншчыкі звяроў на паляванні. (Машыньскі).

**ГЫ́ЛЯ! ГЫ́ЛЯ!** *выкл.* Выгукі, якімі адганяюць гусей. (Машыньскі).

**ДАБРАХО́Т** *м.* Лясны дух, які, па народным павер'і, выводзіць на дарогу тых, хто заблудзіўся. *Го́ніць Дабрахо́т ваўко́ў, мо́жа іх штук со́рак.* (Хрэстаматыя 1962).

**ДАВАЛЬДРЭ́К** *м.* (?). *Рабі́ў ён каўба́сы з давальдрэ́ку, вужо́вую я́ешню, верашча́ку з мышы́ных хвасто́ў, каша́чых вантро́б да жабя́чых клюшаня́к.* (Сержпутоўскі).

**ДАВЕ́ДЗІНЫ** *мн.* У чацвер перад вяселлем *дружко* (шафер) ад імя маладога ўручае дружцы чаравікі, у якія маладая абуваецца, выязджаючы да шлюбу. (Федароўскі).

**ДАВЕ́ДКІ** *мн.* Папярэдні прыход свахі і маці маладога да нявесты перад сватаннем. (Федароўскі).

**ДАЖЫ́НКІ** *мн.* Свята ў дзень заканчэння жніва. (Кіркор, Машыньскі).

**ДАЙНІ́ЦА** *ж.* Даёнка. (Машыньскі).

**ДАМАВА́ЦЬ** *незак.* Гаспадарыць. *А паёхаў сын Даніла на вайну́ ваява́ць, / А пакі́нуў Кацяры́ну ў сваім даму́ дамава́ць.* (Хрэстаматыя 1962).

**ДАМАВЕ́РКА** *ж.* Ключніца. *Ніда́лёка Кацяры́ны дамаве́рка стаіць.* (Хрэстаматыя 1962).

**ДАМАВІ́К, ДОМОВІ́К** *м.* Дамавік; дух дома. (Кіркор, Машыньскі).

**ДАМАВЫ́** *м.* Тое ж. *Усю́ды ў двара́х і вёсках у ста́йнях ве́шаюць забі́тых саро́к, каб но́ччу ко́ней не заёжджывалі дамавы́я.* (Машыньскі).

**ДАМО́ЎКА** *ж.* 1. Хата. *Ве́дамо, дзіця́ не мажэ́ ўпра́віцца ў дамо́ўцы, не то́, каб яшчэ́ дагле́дзяць гаспада́рку.* 2. Гаспадарка. *Зірне́ш на двор – там свінка скрыгі́чэ, ку́рыца кудахчэ, кот мя́ўкае – дамо́ўка бы ў людзе́й.* (Сержпутоўскі).

**ДЗЕВА́ННА, ДЫВА́ННА** *ж.* Дзіванна (расліна). (Машыньскі).

**ДЗЕ́ВЕР** *м.* Брат мужа. (Федароўскі).

**ДЗЕ́ВІЧЫ** *прым.* ○ ДЗЕ́ВІЧЫ ВЕ́ЧАР. Збор сяброўак маладой перад вяселлем. (Федароўскі).

**ДЗЕДЗІ́НЕЦ** *м.* Двор. *Сышлі́са ены́ на дзедзі́нец, седзя́ць паку́рваюць сабе́ лю́лькі да гамо́няць аб том, аб сём. Кі́нула яго́ раз кавалі́ха на дзедзі́нцы, дак чуць яго́ сьвіне не зьелі.* (Сержпутоўскі).

**ДЗЕРАЗА́** *ж.* Дзераза (расліна). (Машыньскі).

**ДЗЕРАЎЛЯ́КІ** *мн.* Дрэвы. *А тут захадзі́ласа вялі́кая бу́ра, лес раве́ бы звер. Ве́цер ло́міць дзераўля́кі, бы ба́ба кастры́цу.* (Сержпутоўскі).

**ДЗЕРУ́ГА** *ж.* Тоўстае палатно. (Машыньскі).

**ДЗЕСЬВІ́ЦЕЛНО** *прысл.* Сапраўды. *Ху́тко не́маль уся́ вёска загавары́ла, што сьвяты́ чалавек дзесьві́целно сьвяты́, бо зноў хо́дзіць у цэ́ркву.* (Сержпутоўскі).

**ДЗЕЦЮ́К** *м.* Малады перад шлюбам. (Федароўскі).

**ДЗІСЯ́ТУХА** *ж.* Радаўніца; дзень памінання продкаў. *Але́ от пе́рад дзеся́тухаю вы́ладзіла Мацру́на свайго́ Се́мка ў бало́то рабі́ць се́но.* (Сержпутоўскі).

**ДЗІЦЯ́** *н.* Дзіця. ДЗЕ́ЦІТКА *памянш.-ласк. Баю́-баю, дзе́цітка. / Пасп́і, дзе́цітка, пасп́і, / Ў Бо́га шча́сця папрасі.* ДЗІЦЯ́ТКА *памянш.-ласк. Лю́лі-лю́лі, люляшу́, / Я дзіця́тка калышу́т.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ДЗІЯ́ВОЎ** *м.* Злы дух. (Машыньскі).

**ДЗЯДЗІ́ШЧА** *экспр.* Дзед. *Ах ты, стары́ дзядзі́шча, / Дрэ́нная твая́ душы́шча* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ДЗЯДУГА́** *экспр.* Тое ж. *Ой ты, стары́ дзядуга́, / Ты схілі́ўся, як дуга́* (з песні).

**ДЗЯДЫ́, ДЗЕДЫ́** *мн.* Дзяды; дзень, у які памінаюць нябожчыкаў. *У нас дзедо́ў шану́юць, у нас дзеды́ ўпамі́наюць до́брэ.* (Машыньскі, Кіркор).

**ДЗЯЖА́** *ж.* Дзяжа, у якой рашчынялі каравай. (Федароўскі).

**ДЗЯ́ННА** *ж.* Дзядзіна. *А ве́дамо, скажы́ жо́нцы, та яна́ – куме́, кума́ – сусе́дцы, сусе́дка – дзя́нне, а там усе́ як у бу́бен б'юць.* (Сержпутоўскі).

**ДЗЯРКА́Ч, ДЗЯРГА́Ч** *м.* Драч, дзяркач (птушка). Дзяркач крычыць: "*Бач, бач! – дзярка́ч ідзе́ць, вала́ вядзе́ць*", а перапёлка яму адказвае: "*От, бяда́. От, вядзе́ць. Няма́ хлява́. Няма́ дзе дзець*". (Машыньскі). *Сядзі́ць дзярга́ч на паро́зе, / Сядзі́ць на паро́зе, / Пуга́ч, пуга́ч, упі́ўшыся, / Ляжы́ць на маро́зе* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ДЗЯ́ТЛОВІНА** *ж.* Дзяцеліна (расліна). (Машыньскі).

**ДЗЯ́ЦЕЎ** *м.* Дзяцел (птушка). (Машыньскі).

**ДОЛ** *м.* Магіла. *Лі́сы дол капа́юць / І му́ху хава́юць.* (БНТ. Дзіцячы фальклор). ДАЛО́К *ласк. Як вы́везла за сяло́, / Ста́ла мі́ла, весяло́. / А як у дало́к спуска́ла, / То рука́мі спляска́ла* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ДО́ЛЬМЕНЫ** *мн.* Грабніцы, зробленыя з каменных пліт. (Кіркор).

**ДОМОВІ́НА** *ж.* Дамавіна. (Машыньскі).

**ДО́ННЫ** *прым.* ◊ СКРОЗЬ ДО́ННУЮ ПРАВАЛІ́ЦЦА. Знікнуць, схавацца. *Я сказа́ла гэ́та ба́ба, так і падзе́лася ніві́сь [націск?] куды́ як скрозь до́нную правалі́лась.* (Хрэстаматыя 1962).

**ДО́СЬВЕТКІ** *прысл.* Да світання. *Але́ ўстае́ па́рабак до́сьветкі, пне жы́лы да мало́ціць.* (Сержпутоўскі).

**ДО́ЎЖНІК** *м.* Праём у борці, праз які выдзёўбвалі дупло, а потым выбіралі мёд. (Машыньскі).

**ДО́ЎЖЭНЬ** *м.* Вузкая прадаўгаватая дошка, якой закрываюць адтуліну ў калодачным вуллі. *Вы́нялі ены́ з ву́лья снед і до́ўжэнь, аж шаршні́*

*як высыплюць з вўлья да пачнўць іх кусаць.* (Сержпутоўскі).

**ДРАМА́** *ж.* Дрымота. *А й сон з драмой / Лўгам ішоў. / А й сон драмы / Ды пытаецца.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ДРАМУ́ШКІ, ДРЭМУ́ШКІ** *мн.* 1. Печыва ў выглядзе дробных пальчыкаў. 2. Абрадавае печыва, што падаецца на вяселлі. (Машыньскі).

**ДРАНЬ** *ж.* Дранка; матэрыял, якім крылі дах. (Кіркор).

**ДРАХБА** *ж.* Ламачча, лом. *Як мы іх прагналі, занялі мы жывоціну і пагналі па балоту, па кічах, па драхбе [націск ?] такой, што і Божа упасі, пакуль аж дагналі да рэчкі Чарвяткі.* (Хрэстаматыя 1962).

**ДРА́ЦВІНА** *ж.* Дратва. *Вось табе, шэўчык, за тое: / Не сучы драцвіну ўтрое, / А сучы драцвіну ўраз, / Каб былі чаравічкі ў час* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ДРАЦЬ** *незак.* ◊ ДРАЦЬ ПЧО́ЛЫ. Выразаць соты з чужых вулляў. (Машыньскі).

**ДРО́БЯЗГ** *ж.* Свойская жывёла: авечкі, козы. *Пагнала я толькі на лугі дробязг: авец, коз. Дробязг ходзіць, а я сяджу ў кічах, аж чую гамоняць.* (Хрэстаматыя 1962).

**ДРУ́ЖБА** *ж.* Дружына князя-маладога. (Машыньскі).

**ДРУЖБА́НТЫ** *мн.* Шаферы. *Да не ўважайце, дружбанты, / Што кароткія падаркі: Сястра – мала, матка – стара / Да падаркаў не прала* (з песні). (Машыньскі).

**ДРУ́ЖКА** *ж.* Шаферка. *Наша дружка Варэня / Украла ў суседа курэня, / Пад цыцкаю задушыла, / Перад дружком палажыла* (з песні). ДРУ́ЖАНЬКА *ласк.* *Зялёны барвіначку / Па гародзе паслаўся, / Млоды чашнік, млоды чашнік / Да дружанькі кланяўся* (з песні). (Федароўскі). *У старшага дружка / Паршывая ручка; / З кішэні не выймае, / Дружак не вітае.* (Машыньскі). ○ СТА́РШАЯ ДРУ́ЖКА. Старшая шаферка. (Федароўскі).

**ДРУЖКО́** *м.* 1. Сват на вяселлі, якога маладая абвязвае кужэльным рушніком. (Федароўскі). 2. Шафер. (Машыньскі).

**ДРУ́ЖНЯ** *ж.* Дружына князя-маладога. (Машыньскі).

**ДРУЖЫ́НА** *ж.* Сваякі і сябры жаніха або нявесты, якія ўдзельнічаюць у вясельным абрадзе. (Федароўскі).

**ДРЫМО́ТА, ДРАМАТА́** *ж.* Дрымота. *На каточка вурката, / На дзіцятка драмата. Ходзіць сон каля акон, / А дрымота каля плота.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ДРЭ́МКІ** *мн.* Тое ж. *Ай, люлі-люлі, / Сонкі, дрэмкі ў вочыца / Да здароўейка ў плечыца. / На каточка вурката, / На дзіцятка дрымата.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ДУДА́** *ж.* Муцянка. (Кіркор).

**ДУ́ДКА** *ж.* Дудка. ◊ СКРУЦІ́ЦЬ ДУ́ДКУ. (Машыньскі).

**ДУША́** *ж.* Душа. *Душа тая бу дымок, бу душок. Калі хто памрэ, а над яго роднымі лятае і шчабеча птушка, то лічыцца, што гэта душа памерлага.* (Машыньскі).

**ДУ́ШКА** *ж.* Насечка на бярозе з устаўленым клінам, з якой цячэ сок. (Машыньскі).

**ДЫ́РСА** *ж.* Гірса (расліна). (Машыньскі).

**Д'ЯМА́НТ** *м.* Дыямент. *За тое яна даравала яму залатую табакерку з д'ямантам.* (Сержпутоўскі).

**Д'ЯМАНТО́ВЫ** *прым.* Дыяментавы. *От убралі яе ў золато й дарагое адзенне. Апрыч таго Салімон павязаў на шыю д'ямантовые пацеркі, якіх яшчэ ніхто не бачыў.* (Сержпутоўскі).

**ЕДЫНА́ЧКА** *ж.* Адзіная, адна ў бацькоў. *Людзі кажуць, што едыначка, та курва ці лайдачка.* (Сержпутоўскі).

**ЖА́БЕР** *м.* Жабнік (расліна). (Машыньскі).

**ЖАВАРО́НАК, ЖА́ЙВОРОНОК** *м.* 1. Жаваранак (птушка). (Машыньскі). Падлятаючы ўгору, трымае звычайна ў лапцы пруток ці галінку і доўга паўтарае: *"Пайду Бога біць! Пайду Бога біць!"*. Пруток выпадае з лапкі, і тады ён кідаецца ўніз за ім з крыкам: *"Кій упаў! Кій упаў!"* (Машыньскі).

**ЖАК** *м.* Венцер; рыбалоўная прылада. (Машыньскі).

**ЖАР** *м.* Гарачае вуголле. (Машыньскі).

**ЖАРАБІ́ЦА** *ж.* Жаробка. *Калі ён саўладае з маею наравістаю жарабіцаю, та мо саўладае й з гэтаю ўпартаю дзеўкаю.* (Сержпутоўскі).

**ЖЛУ́КТА** *ж.* Пасудзіна для запарвання бялізны, кадушка. (Машыньскі).

**ЖМЕ́НЯ** *ж.* Мера лёну, канапель. (Машыньскі).

**ЖО́ДНЫ** *прым.* Ніякі, ніводзін. *Ні сонейко не блісне, ні расліна не калыхнецца, німа жоднае прыкметы, куды йці. Яны бажыцца, яны хрысьціцца, што жодных роспісак не давалі.* (Сержпутоўскі).

**ЖО́ЛУД** *м.* Жолуд. *Жолуд берэш под дубом – смерць.* (Машыньскі).

**ЖО́РАЎ** *м.* Журавель (птушка). *Калі пралятаючага жорава прывітаць словамі: "Здароў буў, пан весёлый", то ён адкажа: "Нехай жэ, штоб ты весела була на весь год".* (Машыньскі).

**ЖО́РВАНА** *мн.* Жорны. (Машыньскі).

**ЖО́РНА** *мн.* Тое ж. *А ў мельніка хата чорна, / А ў хаце стаяць жорна. / Жорна будуць пытляваць, / А я буду цалаваць* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ЖУ́МРЫЦЬ** *незак.* Прагна есці. *Накінуўса на тое, бы галодны воўк: жумрыць, аж за вушамі трашчыць.* (Сержпутоўскі).

**ЖУ́ПІЦЬ** *незак.* Гаварыць, размаўляць. *Е й такіе станцаі, што галавамі ў самае небо ўпіраютца да з Богам жупяць.* (Сержпутоўскі).

**ЖУР** *м.* Аўсяны кісель. *Ой ты, жур, ты, жур, ты пажуркаваты! Ты ж казак маладой, да прыдуркаваты!* (з песні). (Машыньскі).

**ЖУРАВІ́НЫ** *мн.* Журавіны (кусцікі і ягады). (Машыньскі).

**ЖЫВІ́НА** *ж.* Жывёла. (Федароўскі).

**ЖЫДО́К** *м.* Верхаводка (рыба). (Машыньскі).

**ЖЫ́ЖАЛЬ** *м.* Бог агню. (Кіркор).

**ЖЫ́ТКА** *ж.* Жыццё. *Але́ Бог кры́лаў не даў, а веле́ў усю жы́тку ла́зіць у гразі́ чо́рным да цём-ным.* (Сержпутоўскі).

**ЖЫ́ТО** *н.* Жыта. *Жы́то сніш – до́брэ: у дру́жбы жы́тка до́бра.* (Машыньскі).

**ЖЫ́ЦЕНЬ** *м.* Бог восені. (Кіркор).

**ЖЫ́ЧКА** *ж.* Чырвоная стужка для валасоў. (Федароўскі).

**ЗАБРАТО́ВАЦЬ** *незак.* Забрытваць, надзяваць аброць. *Стаў ён забрато́ваць каня́, а не́йкі чалаве́к падышо́ў к яму́ да і не дае́.* (Хрэстаматыя 1962).

**ЗАБРЫ́НДАЦЦА** *зак.* Запэцкацца, забрудзіцца. *Зірну́ла ба́ба, што ён увє́сь забры́ндаўся, да й дагада́ласа, што пе́ўне хадзі́ў у цэ́ркаў.* (Сержпутоўскі).

**ЗАВІВА́ЛО** *н.* Намітка, якой накрывалі маладых, калі везлі іх ноччу да маладога. *Вы́бегла мура́шачка / З дубо́вай да кало́дачкі; / Вынесла завіва́ла / То́нкее да бяле́нькее, / Ад слёз макрэ́нькее, / К папе́ру раўне́нькее* ( з песні) (Машыньскі).

**ЗАВІВА́ЛЬНІЦА** *ж.* Жанчына, якая надзяе маладой чапец. *Заві́ва́льніца – шэ́льма, / Маю ко́сачку ісце́рла; / Ісце́рла, замя́ла, / Пад чэ́пчык захава́ла* (з песні). (Машыньскі).

**ЗАВІТКІ́** *мн.* 1. Зламаныя і звязаныя ў пук сцяблы жыта, лёну з мэтай наклікаць бяду на гаспадара поля. *Ён і завіткі́ вырыва́ў, і ад уся́кіх хваро́б вылє́чваў, і адрабля́ў, як каму́ што ліхо́е ўдзе́яно, і ваўко́ў насыла́ў, і малако́ ў каро́ў адбіра́ў.* (Сержпутоўскі). 2. Заві́тка *ж.* Залом у жыце, каноплях ці лёне. *Праклінаю́ць непрыя́целя, зало́мваючы заві́тку у яго́ жы́це.* (Машыньскі).

**ЗАВО́ДЧЫК** *м.* Брат маладой, які абводзіў яе вакол стала ў час вяселля. (Федароўскі).

**ЗАГАВО́Р** *м.* ЗАГАВО́Р АД ПАЖА́РУ. Намалявацъ у паветры кіем кола і сказаць: “*Свеце́ Кузьма́, свеце́ Барам [націск?], пакры́й тума́нам, дро́бным дажджо́м і е́ты аго́нь све́чкаю дапалі́*”. (Машыньскі).

**ЗАГАВО́РВАННЕ** *н.* ЗАГАВО́РВАННЕ РО́Ю. Каб рой не паляцеў далей, трэба сціснуць руку ў кулак і аббегчы тры разы дрэва, на якое ён сеў, і сказаць: “*Як е́тыя па́льцы да маей дало́ні не прыста́нуць, так е́тые ме́цішча ні ўста́нуць*”. (Машыньскі).

**ЗАГНЕ́Т** м. Прыпечак, загнетак. *Ўся́кую рабо́ту ўме́ю, / Каля пе́чы жыво́т грэ́ю, / З-пад загне́ту ваду́ бяру́, / На загне́це штаны́ пяру́.* (БНТ. Прыпеўкі).

**ЗА́ГОВІНЫ** *мн.* Апошні дзень перад постам, калі ядуць скаромнае. (Машыньскі).

**ЗАГОВО́РЫ** *мн.* Замовы; дабрадзейныя чары. (Машыньскі).

**ЗАЖЫ́НКІ** *мн.* Свята ў дзень пачатку жніва. (Машыньскі).

**ЗАЗДОРО́ЎНЭ** *н.* Малебен па нябожчыку праз 6 тыдняў. *Ко́жны чалаве́к тры дні пасля сме́рці наве́двае жывы́х. Ча́ста гэ́та ро́біць на працягу́ 6 ты́дняў, аж да таго́ ча́су, паку́ль адбу́дзецца мале́бен, які́ заву́ць заздоро́ўнэ. За яго́ святару́ пла́цяць палатно́м і даюць рубля́ грашы́ма.* (Машыньскі).

**ЗАЗЕ́РЫЦЬ** *зак.* Падгледзець, убачыць. *Калі́ я гука́ў з Зо́сяй, зазе́раў ге́та пага́ный Палі́ца і па́ньскаму каню́ нагу́ атсе́к.* (Хрэстаматыя 1962).

**ЗАЙ** *м.* Заяц. *Захаце́лася ко́зліку / Ў лес пагуля́ці, / Шэ́рых за́яў павіда́ці.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ЗАКАРБАВА́ЦЬ** *зак.* Адзначыць, зрабіць паметку. *Прыду́мае да й згато́віць яку́ю-не́будзь но́вую патра́ўку да й закарбу́е сабе́ на кіе́чку.* (Сержпутоўскі).

**ЗАКЛА́ДЗІНЫ** *мн.* Закладванне грошай пад покуць пры будаўніцтве новай хаты. (Машыньскі).

**ЗАКО́СНІКІ** *мн.* Шаферы (на вяселлі). (Кіркор).

**ЗАКРЫ́ЛІНЫ** *мн.* Дошкі ў канцы (знізу) страхі, якія прытрымліваюць салому. (Машыньскі).

**ЗА́ЛАМКА** *ж.* Зламаныя і звязаныя ў пук сцяблы жыта, лёну з мэтай наклікаць бяду на гаспадара поля. *От той чалаве́к пайшо́ў у сваé жы́то й зрабі́ў там за́ламку. Цераз недзе́лю, а моо* [можа] *й дзве прыхо́дзіць к таму́ ведзьмару́ й про́сіць, каб ён вы́рваў ту́ю за́ламку.* (Сержпутоўскі).

**ЗАЛВІ́ЦА** *ж.* Залоўка, сястра мужа. (Федароўскі).

**ЗАЛЁТЫ** *мн.* Сваты; абрад сватання. *Запрага́йце шэсць пар ко́ні / І паезд шыро́кі, / Я пае́ду у залёты / Да па́ні саро́кі.* (БНТ. Дзіцячы фальклор, Федароўскі).

**ЗАЛІ́ЦЬ** *зак.* Запарыць у лузе (попеле) бялізну. (Машыньскі).

**ЗАЛЫГА́ЦЬ** *зак.* Запрэгчы, звязаць разам (пра валоў). *Цепе́р, – ка́жэ, – залыга́й па́ру вало́ў, прывежы́ да рагача́ да й ары́.* (Сержпутоўскі).

**ЗАЛЫ́СВАЦЬ** *незак.* Рабіць зарубкі на дрэве. *Ідзе́ чалаве́к у лес да ўсе залы́свае дзераўля́кі ці заўя́звае ку́клы, каб зрабі́ць прыкме́ту, кудо́ю верну́цца наза́д. Але́ палешу́к ідзе́ сабе́ па ле́се да ўсе залы́свае сакéркаю дзераўля́кі.* (Сержпутоўскі).

**ЗАМСЬЦІ́ЦЦА** *зак.* Адпомсціць. *От і наду́малі яны́ замсьці́цца.* (Сержпутоўскі).

**ЗА́ПАВЕДЗЬ** *ж.* Абвяшчэнне ў царкве або касцёле аб вяселлі. (Федароўскі).

**ЗАПАДНЯ́** *ж.* Лавушка на ваўкоў, сплеценая з лазы (у выглядзе спіралі). (Машыньскі).

**ЗАПІВА́ННЕ** *н.* Бяседа, дзе прысутнічаюць найбліжэйшыя сваякі нявесты, у час якой сват падае дзяўчыне чарку гарэлкі, у якую ўкінута некалькі сярэбраных манет. Дзяўчына ў знак згоды прыхіляе чарку да вуснаў. (Федароўскі).

**ЗАПО́ІНЫ** *мн.* Заручыны. *Калі́ бацькі́ дзе́ўкі прыма́юць сватo ́ў, то клі́чуць дачку́, а калі́ жані́х ёй падаба́ецца, тады́ бацькі́ даю́ць зго́ду пачына́ць запо́іны.* (Машыньскі). *Зару́чыны і запо́іны / Бог нам даў, Бог нам даў. / Не заві́дуйце, до́брые лю́дзі, / Бу́дэ і вам, бу́дэ і вам* (з песні). (Федароўскі, Кіркор).

**ЗА́ПУСКІ, ЗАПУ́СКІ** *мн.* Апошні дзень перад пастом, калі ядуць скаромнае. *Люлі-люлі, калышу́, / Ку́піць ба́цька барышу́, / А ма́ці закýскі / На святы́ запу́скі.* (БНТ. Дзіцячы фальклор, Машыньскі).

**ЗА́ПУСТЫ** *мн.* Тое ж. (Машыньскі).

**ЗА́ПЫТЫ** *мн.* Збор моладзі на святкі, дзе пытаюцца ў абранай дзяўчыны, ці можна прыйсці ў сваты. (Федароўскі).

**ЗА́РОСЛЬ** *ж.* Водная расліннасць. (Машыньскі).

**ЗАРУЧО́НЫЯ** *мн.* Малады з маладой пасля заручын (запоін). (Федароўскі).

**ЗАРУ́ЧЫНЫ** *мн.* Заручыны. (Федароўскі).

**ЗАСІ́ЛІЦЦА** *зак.* Павесіцца. *От была́ там адна́ маладáя ўдава́-бездзéтуха да такáя пагáная бáба, што яé гаспадáр не вы́трымаў да й засíліўса.* (Сержпутоўскі).

**ЗАСКА́РЖЫЦЬ** *зак.* Падаць скаргу. *Немá чагó рабíць, заскáржыў той пáхцяр на Івáньчыка ў суд.* (Сержпутоўскі).

**ЗАСЛО́Н** *м.* Невялікая лаўка. (Машыньскі).

**ЗАТУ́КАЦЬ** *зак.* Запужаць каго-н. пагрозамі, лаянкай або крыкам. *"Татýлінька, ні пайду́ за Палíцу, валéй, утаплю́сь ліба удаўлю́сьй", – а ён як затýкаў, дак я пашлá і галасíла цэ́лаю нóцку.* (Хрэстаматыя 1962).

**ЗАЦЯ́ЦЬ** *зак.* Закласці. *Жылí ў аднóй вёсцы пóмеж два мужыкí, адзін вéльмі багáты, а другí такí бéдны, што немá за што й рук зацяць.* (Сержпутоўскі).

**ЗАШЧО́ЎБЛЕНЫ** *прым.* Загароджаны абы-як (пра ручай). (Машыньскі).

**ЗА́ЯЦ** *м.* Заяц. *Калі зáяц перабéг дарóгу – чакáй няшчáсця.* (Машыньскі).

**ЗВА́ДКА** *ж.* Сварка. *І пашлá паміж братáмі звáдка.* (Сержпутоўскі).

**ЗВУДЧЭНЯ́ТА** *мн.* Пасынкі паміж сабой. (Машыньскі).

**ЗВУСА** *прысл.* Галопам (?). *Тóльки ось éдуць лю́дзі да й кáжуць, што сустрэ́лі такóго чалавéка, алé што ён цепéр ужэ́ вéльмі далéко, бо гнаў каня́ звуса [націск?].* (Сержпутоўскі).

**ЗВЯЗ** *м.* Апошні вянок у зрубе, які кладзецца на бэлькі. (Машыньскі).

**ЗГО́НІНЫ** *мн.* Каласы, змеценыя пасля абмалоту. (Машыньскі).

**ЗГРЭ́БНЫ** *прым.* Грубы (пра палатно). (Машыньскі).

**ЗГУРАВА́ЦЬ** *зак.* Угаварыць, падбухторыць (?) *Бáчыць ён, што лю́дзі завіхáюцца, старáюцца сабé больш зрабíць і што ў іх усягó мнóго, от і хóчэчча ямý, каб пáрабак згуравáў людзéй і нарабíў больш, як свой семенін.* (Сержпутоўскі).

**ЗДО́ЛНО** *прысл.* Лоўка. *Бары́с і не пачýў, як той здóлно залéз у тóрбу.* (Сержпутоўскі).

**ЗДО́ЛЬНІК** *м.* Памочнік, саўдзельнік. *"Пóмні, сынóк, гэ́та, што я табé гываpý: нікóлі с пáным не дружы́, жóнцы прáўды не кажы́ і чужы́х дзяцéй за здóльнікаў не бяры́".* (Хрэстаматыя 1962).

**ЗДЫ́РДЗІТЦА** *зак. экспр.* Памерці. *А тут ешчэ́ ўбíласо багатырý ў гóлаў, што бýдзе з егó багáцьем, як ён здыpдзітца.* (Сержпутоўскі).

**ЗЕ́ЛНАЯ** *ж.* Першая Прачыстая (28 жніўня). *Як пры́дзе Спас да Зéлная, дак і несýць у цэ́ркву сьвецíць збóжэ да малíцца Бóгу, каб паслáў лéпшы зраджáй.* (Сержпутоўскі).

**ЗЛІ́ЎКІ** *мн.* Частаванне суседак на трэці дзень пасля хрэсьбін. *На трэ́ці дзень пасля хрэ́сьбін склікáюць сусéдак* (толькі жанчын) *і лáдзяць злíўкі. На злíўках купáюць парадзíху і дзіця́, вадý вылівáюць пад печ ці ў такóе мéсца, кýды ні сóнца, ні мéсяц ні заглядвáюць.* (Машыньскі).

**ЗЛЫГА́Ч** *м.* Вяроўка. *От разýмны даé ямý злыгáч прывезáць карóву, каб янá не ламáла плóту да не лéзла ў вагарóд.* (Сержпутоўскі).

**ЗМА́РЛЫ** *прым.* Памерлы, нябожчык. *Пóтым вы́капаў на мóгліцах я́му, прынёс туды́ трунý да й пазвáў папá хавáць змáрлаго.* (Сержпутоўскі).

**ЗМІТРЭ́НЖЫЦЦА** *зак.* Здохнуць. *То звер нападзé да зарэ́жэ сáмае лéпшае гаўя́до, то янó самó змітрэ́нжыцца.* (Сержпутоўскі).

**ЗО́РА** *ж.* ○ ПОЛУНО́ЧНА ЗО́РА. Венера (нябесная планета). ○ ВЕЧЭ́РНЯ ЗО́РА. Тое ж. ○ РА́ННЯ ЗО́РЯ. Тое ж. ○ СВЕ́ТОВА ЗО́РА. Тое ж. ○ ЗО́РА З ХВОСТО́М. Камета. (Машыньскі).

**ЗО́РКА** *ж.* ○ ВЕЧЭ́РНЯЯ ЗО́РКА. Венера (нябесная планета). (Машыньскі).

**ЗОРНІ́ЦА** *ж.* Венера (нябесная планета). (Машыньскі).

**ЗРАДЖА́Й** *м.* Ураджай. *Згадзíўса бéдны брат і спрэ́су астáўса слепы́м, затóе жóнка й дзéткі вы́жылі, дачакáўшы нóваго зраджáю.* (Сержпутоўскі).

**ЗРАДЖА́ЙНЫ** *прым.* Урадлівы; які добра родзіць. *Землí як вóко схвáціць, а земля́ дóбрая, зраджáйная, от здаéцца, пасадзí дзіця́, дак і тóе вы́расьце.* (Сержпутоўскі).

**ЗРЭКУЗАВА́ЦЬ** *зак.* Зганьбаваць, зняславіць (?). *Нéмаль зрэкузавáла ўсíх хлóпцаў ва ўсéй акрýзе.* (Сержпутоўскі).

**ЗУБ** *м.* Зуб. *Як упадзé зуб напéрадзі і кроў ідзé, то нéхто мóцно крэ́ўны ўмрэ. А як у куткý, і кроў не ідзé, то нéхто ў роднí умрэ́.* (Машыньскі).

**ЗУ́БЛЕНКА** *ж.* Галавешка. *Узя́ў мужы́к лíпаўку й зýбленку, й пашлí ены́ з цыганóм у лес падглядáць пчóлы. Тóльки ён падаткнýў зýбленку, як загары́тца страхá.* (Сержпутоўскі).

**ЗЭ́МСТА** *ж.* Шкода. *І пачалí яны́ рабíць панóм зэ́мсту: та свíран спáляць ці гумнó, та карóў загóняць у такýю тхлань, што яны́ там і пагíнуць, та свінéй патóпяць...* (Сержпутоўскі).

**ЗЮ́ЗЯ** *м.* Бог зімы. (Кіркор).

**ЗЯЗЮ́ЛЯ, ЗЕВЗЮ́ЛЯ, ЗЕЎЗЮ́ЛЯ** *ж.* Зязюля. *Зязюля нéкалі былá жанчы́най і мéла мýжа, алé схавáла ягó пад мост і пайшлá да Бóга прасíць другóга. Бог, аднáк, другóга не даў і загадáў шукáць пéршага. З тагó чáсу янá шукáе, клíчучы: "Якýбе! Якýбе!".* (Машыньскі). *Не паслýхала старóго, азір-*

*нўласа на ўёску дзеўка, дак зеўзюлей стала да й праз цэло жыцце не стракае шчасьця, бо не ўе сабе гнязьдзечка.* (Сержпутоўскі).

**ЗЯРО́ШКА** *ж.* Зернетка. *Што ў той лыжкі? / – Макава зярошка. / А дзе тая зярошка? / – Пятўх склявау.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ІЛЛЯ́** *м.* ○ СВЯТЫ́ ІЛЛЯ́. Ільля-прарок. *Гэта не Бог б'е перунамі, а Святы Ілля. Пан Бог цярплівы, а ўжо яго слугі не такія цярплівыя.* (Машыньскі).

**І́МПАТ** *м.* Пах, дух. *Свежаму чалавеку нельга падыці блізко к агароду, такі адтуль верне смурод, такі ліхі імпат ідзе ад таго Змея.* (Сержпутоўскі).

**ІСТО́ПКА, СЦЁПКА, СЬЦЁБКА** *ж.* 1. Будынак для захоўвання гародніны; стопка. ІСТО́ПАЧКА *памянш.* *У істопачкі сядзела, / Канапелькі церла, / Як сказалі – міла здалі, / Ледзь я не памерла.* (БНТ. Прыпеўкі, Машыньскі). 2. Цёплая камора. (Машыньскі).

**КАБЕ́РАЦ** *м.* ○ ШЛЮ́БНЫ КАБЕ́РАЦ. Дыванок, які сцелюць маладым пад ногі ў час вянчання. (Федароўскі).

**КАБУ́СЬ! КАБУ́СЬ!** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць кабана. (Машыньскі).

**КАВАЛЬЧУ́К** *м.* Сын каваля. *Узяў кавальчук тую булаву, пакруціў яе адною рукою да як шыбануў угору, дак яна невядамо дзе й дзелася.* (Сержпутоўскі).

**КА́ДЗІЦЬ** *незак.* Махаць кадзілам. *Нарэшце ўзяў поп чарапок з жарам, насыпаў туды ладуну да й пачаў кадзіць.* (Сержпутоўскі).

**КАДУ́К** *м.* Нячысцік, чорт. *Каб цябе кадук парваў, / Як ты мой хвартух падраў* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**КАЖУ́Х** *м.* Кажух. (Кіркор).

**КАЗА́** *ж.* 1. Вышэйшая істота, якая спрыяе ўраджаю; багіня Грамаўніца. *Гдзе коза стопою, / Там жыто купою, / Гдзе коза рогом, / Там жыто стогом; Гдзе коза ходзіць, / Там жыто родзіць.* (Кіркор). *Дзе каза нагою, / Там жыто капою; / Дзе каза рогам, / Там жыта стогам* (з песні). (Машыньскі). 2. Каза – адзін з персанажаў калядоўшчыкаў.

**КАЗА́К** *м.* Казак (танец). (Федароўскі).

**КАЗАЧЫ́НА** *ж.* Кажух, пашыты ў зборкі. (Машыньскі).

**КАЗЁЛ** *м.* Казёл. КАЗЕ́ЛЬКА *памянш.-ласк.* *Быў у бабушкі казелька, / Быў у бабушкі Мацейка, / Ён на стаенцы стаяў, / Муку, рож паядаў.* КО́ЗЛІК *памянш.-ласк.* *Захацелася козліку / Ў лес пагуляці, / Шэрых заяў павідаці.* КАЗЯЛЁЦ *памянш.-ласк.* *Як пайшоў казялец / Па чысту полю гуляць.* КАЗЮЛЕНЬКА, КАЗЕ́ЛІНЬКА *памянш.-ласк.* *Дзе ж быў, казюленька? / – На рабоце, матуленька. / – Пакажы, казелінька, / Павітай, казелінька, / Як хлопчыкі скачуць?* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**КА́ЙСТРА** *ж.* Торба (звычайна палатняная). *От атрэзаў ён у зьмея язык да й палажыў яго сабе ў кайстру.* КА́ЙСТРАЧКА *памянш.* *Палажыў горшчык у кайстрачку да й ва ўсю ноч пусціўса хучэй да гасподы, дарам, што ногі балелі.* (Сержпутоўскі, Машыньскі).

**КАЙСТРЫ́ЦА** *ж.* Кастрыца. (Машыньскі).

**КАЛАДЗЯ́НЫ** *прым.* Драўляны, з калод. *От уз'ехалі яны на грэблю да на каладзяны мост, дак драбінкі скачуць, бы здатны хлопец казачка.* (Сержпутоўскі).

**КАЛАСАВА́ЦЬ** *незак.* Змятаць мятлою каласы пасля абмалоту. (Машыньскі).

**КАЛАТО́ЎКА** *ж.* Кіёчак з перакрыжаванымі планачкамі ў бойцы. (Машыньскі).

**КАЛА́Ч** *м.* Круглы абаранак. (Машыньскі).

**КАЛЁСА, КОЛІ́СА** *мн.* Павозка. (Машыньскі).

**КАЛЁСНІК** *м.* Майстар, які вырабляе колы, калёсы. (Машыньскі).

**КАЛІ́НКА, КУЛІ́НКА** *ж.* Губа, што расце на збуцвелых дубовых калодах і пнях (першы год). (Машыньскі).

**КАЛІТА́** *ж.* Каліта, сумка. (Машыньскі).

**КАЛО́ДЗІЦА** *ж.* Калодзежны зруб. *Вады не напіўся. / – Чаму не напіўся? – Калодзіцы няма. / – А дзе ж тая калодзіца? / – Чэрві патачылі.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**КАЛО́ПНІ** *мн.* 1. Каноплі. *А жыта – карыта, / А ячменю – жменю, / Аўса – паўкаўша, / Калапень – з чарапень.* КАЛАПЕ́НЬКІ *памянш.-ласк.* *Мае калапенькі / Яны зялененькі.* (БНТ. Дзіцячы фальклор). 2. Жаночыя асобіны канапель. *Каноплі.* (Кіркор).

**КАЛУБЕ́ЛЬ** *ж.* Калыска. *Апсік, апсік, коця, / Не спі на рабоце. / Выспіся ў калубелі / На мякканькай пасцелі.* КАЛУБЕ́ЛЬКА *памянш.-ласк.* *Палажу ў калубельку на мяккую пасцельку.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**КАЛЮ́ГА** *ж.* Лужына. *От падышлі ены к цэркві, абмылі ў калюзе трохі гразь, паадзеваліса да й улезлі ў цэркаў.* (Сержпутоўскі, Машыньскі).

**КАЛЯДА́** *ж.* Каляды (Кіркор).

**КАЛЯ́ДКІ** *мн.* 1. Каляды. (Кіркор). 2. Песні, што спяваюць калядоўшчыкі. (Машыньскі).

**КАЛЯ́ДЫ** *мн.* Каляды. *Мо яшчэ да Каляд стравілі не то, што сено, але ўсю заваляшчую салому.* (Сержпутоўскі).

**КАМА́Р** *м.* Камар. КАМА́РЫК *памянш.-ласк.* *Скуль узяліся шуры-буры, / Узялі таго камарыка з дуба здулі.* КАМАРЫ́НКА *памянш.-ласк.* *Муха з хаты вылятала, / Камарынку ратавала.* КАМАРО́ЧАК, КАМА́РЫЧАК *памянш.-ласк.* *Камарочак жа ты мой, / Родны брацітка ты мой. / Ды ўпаў жа камарычак з высокосці, / Да пабіў жа, да пацёр сваё косці.* КАМАРЫ́ШЧА *павел.* *Адкуль узяўся буйны вецер, / Ён дубішчу заваліў, / Камарышчу разабіў.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**КАМЕ́ЛЬ** *м.* Ніжні канец ссечанага дрэва. (Машыньскі).

**КАМЕНІ́ЦА** *ж.* Касцяніцы (кусцікі і ягады). (Машыньскі).

**КАМЕ́ЧА** *н. зб.* Каменне. *А я яму́ пасце́ль сла́ла: / Адзін радо́чак каме́чаў / Другі радо́чак пале́чаў* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**КАМЫ́** *мн.* Тоўчаная бульба з макам. (Машыньскі).

**КАНУ́Н** *м.* Памінальная страва – сыта з мёду або цукру. (Машыньскі).

**КАНЧА́ТЫ** *прым.* Востраканечны. *Кі́нуў зладзейчу́к то́рбу, вы́хапіў канча́ты нож да й кі́нуўся на папо́ваго па́рабка.* (Сержпутоўскі).

**КА́НЯ** *ж.* Ка́ня (птушка). *Калі ка́ня крычы́ць, гэ́та зна́чыць, што яна́ піць про́сіць: піць, піць.* □ *Жджэ, як ка́ня дажджу́.* Машыньскі).

**КАПА́** *ж.* Даўнейшая адзінка лічэння, роўная шасцідзесяці. *Ма́быць, ве́льмі даўно́, бо от ужэ́ мне больш капы́ гадо́ў, а я ешчэ́ без парто́к бе́гаў, як, быва́ло, мой дзед ся́дзе на со́нейку да й ка́жэ нам ка́зкі.* (Сержпутоўскі).

**КАПІ́ЦЬ** *незак.* Складаць сена ў копы. (Машыньскі).

**КАПО́ТА** *ж.* Жакет, фуфайка. (Кіркор).

**КАПТО́Р** *м.* Жаночы галаўны ўбор. (Кіркор).

**КАРАВА́Й, КОРОВА́Й** *м.* 1. Каравай, вясельны пірог. *Сусе́дкі вы мае́, / Прыхіліцеся да мяне́, / Да маяго́ дзіцу́ці, / Карава́й рашчыня́ці* (з песні). (Федароўскі). *Убярэ́м карава́й гу́скамі дро́бненькімі, / Гу́скамі дро́бненькімі, ру́чкамі бе́ленькімі* (з песні). (Федароўскі). *Ой, у пе́чы карава́й гі́ча, / Карава́йнічак клі́ча: "Карава́йначкі, мае́ ма́тачкі, / Ці ж вы мёду напі́ліса, / Што вы ж мяне́ забу́ліса?"* (з песні) (Машыньскі). 2. Вясельны пірог круглай формы. (Кіркор). ○ СТА́РШЫ КАРАВА́Й. Найбольшы каравай з дванаццаці, якія пяклі на вяселле; яго пякла старшая каравайніца. *Як на не́бе зо́рачкі, / Так мае́ карава́йчыкі, / Памі́ж імі ме́сяц я́сны, / Памі́ж малы́мі карава́й ста́ршы* (з песні). (Федароўскі).

**КАРАВА́ЙНІЦА, КОРОВА́ЙНІЦА** *ж.* Жанчына, якая пячэ вясельны пірог – каравай. *На́шы карава́йніцы з ме́ста, / Ой, яны́ пакра́лі це́ста, / А як ста́лі танцава́ці, Ста́ло це́сто выпада́ці* (з песні). (Федароўскі). *За каладо́й, за дубо́ваю / Там ляжа́лі ро́гі, / Там ста́ршая карава́йніца / Задра́ла но́гі. / Да затым ана́ задзіра́ла, / Што па по́ўнуй выпіва́ла* (з песні). (Машыньскі). КАРАВА́ЙНАЧКА *ласк.* *Карава́ічу, карава́ічу, / Карава́йнычак клі́ча: Ой, дзе яны да падзе́лісе, / Ці на меду́ да папі́лісе, / Ці на леду́ да пабі́лісе, / Аб карава́ю да забы́лісе?* (з песні). (Федароўскі). ○ СТА́РШАЯ КАРАВА́ЙНІЦА. Жанчына, якая кіруе выпечкай каравая. *Ста́ршая карава́йніца паехала ў лес па дро́ва, / Да тупо́ю да саке́раю, / Да слепо́ю да кабы́лаю, / За пень зачапі́лася, / На каладу прабі́лася* (з песні). (Федароўскі). *А ты сва́це-ма́ршалачку, / З ста́ршаю карава́йначкаю, / З на́шаю пара́дначкаю, / Вы ра́дзьце кала карава́я* (з песні). (Федароўскі).

**КАРАВА́ЙЧЫКІ** *мн.* Невялікія караваі, якія пякліся да вяселля. *Да стая́ла со́санка кі́лька лет, / Да зрубалі её на загне́т. / Каб наш загне́цік ясён быў, / Каб наш карава́йчык красён быў* (з песні). (Федароўскі).

**КАРО́БА** *ж.* Вялікі караб. *А жы́та – кары́та, / А ячме́ню – жме́ню, / Аўса́ – паўкаўша́, / Калапе́нь – з чарапе́нь / Ды бо́бу – каро́бу.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**КАРО́ВА** *ж.* Карова. *На Шчадрэ́ц хо́дзяць да каро́ў з пірагом. Ува́жліва аглядаюць, як ляжы́ць ко́жная каро́ва: като́рая рагамі на по́ўнач – аце́ліцца но́ччу, като́рая на ўсход – то ра́ніцай.* (Машыньскі).

**КАРО́ЛЬ** *м.* ○ КАРО́ЛЬ ВУЖО́Ў. Старшы вуж. *Каро́ль вужо́ў – ста́ршы вуж. Кра́скі на нём харо́шые, як поясо́к ра́бый.* (Машыньскі).

**КАРТО́ПЛІ** *мн.* Бульба. (Машыньскі).

**КАСА́** *ж.* Селязёнка (унутраны орган). (Машыньскі).

**КАСНІКІ́** *мн.* Стужкі, ленты. (Машыньскі).

**КАССЕ́** *н.* Дзяржанне для касы. (Машыньскі).

**КАТА́НКА** *ж.* Кабат, безрукаўка. *Я ў мату́лькі адна́ дачу́шка была́, / Мне мату́лька ды ката́нку дала́* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**КАЎ** *м.* Кал. *Каў сні́цца – до́брэ: гро́шы, бага́цтво.* (Машыньскі).

**КАЎТА́ЦЬ** *незак.* Глытаць. *Як пры́дзе гаспада́р у ха́ту, ты набяры́ его́ ў рот, не каўта́й, а так і дзяржы́ ў ро́це, та гаспада́р не бу́дзе не то́лько біць, але́ й зневажа́ць.* (Сержпутоўскі).

**КА́ЧА** *ж.* Качка. *Мая ка́ча ла́дна ска́ча* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**КАЧА́ЛКА** *ж.* Прылада для качання бялізны. (Машыньскі).

**КАЧА́ЦЬ** *незак.* Разгладжваць (качаць) бялізну. (Машыньскі).

**КАЧО́БРЫК** *м.* Лава, сядзенне ў вазку (?) *Веле́ў ён ху́рману супыні́ць ко́ней, злез з качо́брыка, падышо́ў к Сымо́ну, разьвеза́ў мех да й ка́жэ... Пасадзі́ў іх купе́ц на свой качо́брык да й пау́ёз да гаспо́ды.* (Сержпутоўскі).

**КА́ША** *ж.* Каша (на хрэсьбінах). *Ба́бка ад сябе́ выстаўля́е сало́дкую пшо́нную ка́шу. Гаршчо́к з ка́шай разбіва́юць, здыма́юць верх з ка́шы і ўтыка́юць у яго́ гро́шы для парадзі́хі.* (Машыньскі).

**КАША́РА** *ж.* Абгароджанае месца для стойла жывёлы. (Машыньскі).

**КАШЭ́ЛЬ** *м.* Кош. (Машыньскі).

**КВАШНЯ́** *ж.* Хлебная дзежка. *На пе́чы квашня́, ая-я́й, / За квашнёй дзіця́, оё-ё́й* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**КВЕ́ТКА** *ж.* Вялікі пук зелені з аўса, рабіны, руты і яліны, прывязаны да дрэўка, які затыкаюць за каўнер вывернутага кажуха вясельнаму старасту. (Федароўскі).

**КВЯ́ТЫ** *мн.* Кветкі. (Машыньскі).

**КІНДЗЮ́К** *м.* Страўнік кабана. (Машыньскі).

**КІРДЗЮ́К** *м.* Яшчур. *Кі́дае ў го́рло адзін за адны́м сухі́е ершы́, бы ў про́рву, мо ат таго́ ў цебе́ й кірдзю́к на язы́цэ.* (Сержпутоўскі).

**КІСЕ́ЛЬ** *м.* Кісель. КІСЕ́ЛІК *ласк. Мой міле́нькі захварэ́ў, / Кісе́ліку захацэ́ў. / Ой, ра́на-раню́сенька / Кісе́ліку захацэ́ў* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**КІ́ЦІ! КІ́ЦІ!** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць ката. (Машыньскі).

**КІ́ЧА** *жс.* Купіна. *Дро́бязг хо́дзіць, а я сяджу ў кі́чах [націск?], аж чу́ю гамо́няць.* (Хрэстаматыя 1962).

**КІ́ШКІ** *мн.* Кішкі. *Як з чолове́ка кі́шкі ўпаду́ць – умрэ́ не́хто з ро́ду.* (Машыньскі).

**КІШЭ́НЬКА, КІШО́НКА** *жс.* Кішэнь. *А ў ката́нцы кішо́нка была́, / А ў кішо́нцы машо́нка была́* (з песні). *Яна́ гры́бчыка схапі́ла / І ў кішэ́ньку палажы́ла* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**КІЯХІ́** *мн.* Шышкі рагозу. (Машыньскі).

**КЛУ́НА** *жс.* Сельскагаспадарчы будынак з пляцоўкай для малацьбы. (Машыньскі).

**КЛЮЧ** *м.* Крыніца. (Машыньскі).

**КЛЮЧВО́ЙТ** *м.* Кіраўнік некалькіх фальваркаў, ці, інакш, ключа. *От сабра́ў ключво́йт сваі́х пахо́лкаў да яшчэ́ й пан пасла́ў сваю дво́рню на памо́гу.* (Сержпутоўскі).

**КЛЮЧЫ́НА** *жс.* Кроква. (Машыньскі).

**КЛЯВЕ́Ц** *м.* Спецыяльны малаток. *Каса́ тупа́ – тачы́ць бу́дзем, / Жо́нка глупа́ – вучы́ць бу́дзем. / Касу́ кляўцо́м, кляўцо́м, / Жо́нку дубцо́м, дубцо́м* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**КЛЯ́ЧА** *жс.* Бакавая палка ў рыбалоўнай сеці. (Машыньскі).

**КЛЯШНІКІ́** *мн.* Вяроўкі, за якія цягнуць невад. (Машыньскі).

**КНЯГІ́НЯ** *м.* Маладая перад шлюбам. (Машыньскі).

**КНЯЗЁК** *м.* Малы хлопец, што трымаў вянец над князем (маладым). (Машыньскі).

**КНЯЗЬ** *м.* Малады перад шлюбам. *Завіва́ўначка ска́ча, / Завіва́ўнага хо́ча. / Хо́ча ана́ паўзалато́га / Ад князя́ маладо́га* (з песні). (Машыньскі).

**КОЗЛІ́НЫ** *мн.* Прыстасаванне для прыцісканнясаломы на вільчыку. (Машыньскі).

**КО́КА** *н.* Яйка. *Адна́ ка́жа: – Піражо́к, / А друга́я: – Ко́ка / З варо́ніча во́ка.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**КО́ЛЬЧЫКІ** *мн.* Завушніцы. *Мае́ ру́чачкі бяле́нькія, / А ко́льчыкі залаце́нькія. / Мае́ ру́чкі памара́юцца, / А ко́льчыкі палама́юцца* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**КОЛЯДОВА́ЦЬ** *незак.* Калядаваць; хадзіць па дварах, спяваючы калядныя песні. *Хо́дзіць, пахо́дзіць ме́сяц па не́бу, / Святы́ ве́чор, шчо́дры ве́чор! / Заве́, пазаве́ зо́ры з сабо́ю. / – Хадзе́це, зо́ры, калядава́ці, / Калядава́ці, Бо́га шука́ці.* (Машыньскі).

**КО́МЛЯ** *жс.* Рыбалоўная прылада з сеткі на жэрдках з калкамі. (Машыньскі).

**КОНЬ** *м.* Конь. *Калі́ конь, што стаі́ць у адры́не, спаце́лы, а гры́ва ў яго́ зблы́таная, гэ́та азнача́е, што ліхі́й на ім е́здзіў.* (Машыньскі).

**КО́ПАНКА** *жс.* Сажалка. (Машыньскі).

**КО́РБА** *жс.* Вал з ручкай у розных прыладах. *От ён, каа, пашо́ў раз на Купа́ло ў лес шука́ць здо́тнаго дзе́рава на ко́рбы ля пра́сьніцы віць веро́ўкі.* (Сержпутоўскі).

**КОРО́БКА** *жс.* Круглая рыбалоўная стаўная лавушка на ўюноў. (Машыньскі).

**КОРОВА́ЦЬ** *жс.* Ложак. (Машыньскі).

**КОС** *м.* Чорны дрозд (птушка). (Машыньскі).

**КО́СЦЕЛ** *м.* Касцёл. *Дагада́ласа яна́, што зладзе́і пашлі, каб но́чу абакра́сці ко́сцел.* (Сержпутоўскі).

**КОСЦЕРО́ВА** *жс.* Брыца, курынае проса (расліна). (Машыньскі).

**КОСЬ! КОСЬ!** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць каня. (Машыньскі).

**КОТ** *м.* Кот. КО́ТКА *жс. памянш.-ласк. Пабе́г ко́тка пад пе́чку, / Да знайшо́ў ко́тка перапе́чку.* КАТО́К *памянш.-ласк. Трэ́ба ў катка́ ла́пці садра́ці / І дзіця́ці аддаці.* КАТО́ЧАК *памянш.-ласк. На като́чка вуркатá, / На дзіця́тка дрыматá.* КО́ТАЙКА *памянш.-ласк. Ой, ко́тайка-ко́тайка, нашто́ зрабі́ў шко́дайку?* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**КО́ЦЯ** *м.* Тое ж. *Пайшо́ў ко́ця па пло́це / У шэ́ранькай капо́це.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**КОШ** *м.* Сплеценая з лазы канічная стаўная лавушка на рыбу з устаўным канічным уваходам з дзіркай. (Машыньскі).

**КРА́ЖАЦЬ** *незак.* Рассякаць на часткі зваленае дрэва. (Машыньскі).

**КРАСА́** *жс.* Гарэлка, падфарбаваная ў чырвоны колер, якую пасылаюць бацькам маладой як знак яе цнатлівасці. (Федароўскі).

**КРАШЧЭ́НЬЕ** *н.* Вадохрышча. *Свято́е Крашчэ́нне во́ду красі́ла, / Свято́е Васі́лле развесялі́ла* (з песні). (Машыньскі).

**КРО́ЎНЫЯ** *мн.* Прадзеды, дзяды, бацькі, дзеці, унукі, браты, сёстры. ○ МО́ЦНО КРО́ЎНЫЕ. Бацькі з дзецьмі і дзеці паміж сабой. (Машыньскі).

**КРУЦЁЛКА** *жс.* Круцёлка (танец). (Федароўскі).

**КРУШЫ́НА** *жс.* Крушына (дрэва і ягады). (Машыньскі).

**КРЫВА́ВЕЦ** *м.* Крываўнік (расліна). (Машыньскі).

**КРЫВІЧЫ́** *мн.* Усходнеславянскае племяннoе аб'яднанне ў 6–10 стст., якое займала тэрыторыю ў вярхоўях Заходняй Дзвіны, Дняпра і Волгі. (Кіркор).

**КРЫ́ГА** *жс.* Рыбалоўная снасць з драўлянай асновай – палазамі. (Машыньскі).

**КРЫНІ́ЦА** *жс.* Крыніца. (Машыньскі).

**КРЫ́ША** *жс.* Дах. (Машыньскі).

**КСЁ! КСЁ!** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць вала. (Машыньскі).

**КУБЕ́ЛЬЦЭ** *н. памянш.* Гняздзечка. *Ты завезі́ іх у хмы́знік, – ву́чыць той, – дзе мно́го ялоўцу, пасечы́ з яго́ ве́так, зрабі́ кубе́льцэ да й седзі́, по́куль вы́седзіш. Ла́зіў на дзераўля́кі да спо́рваў кубе́льца.* (Сержпутоўскі).

**КУ́ДАСА, КУДА́СА** *ж.* Мяцеліца, завіруха. *Кожын дзень такая кудаса, што хоць з печы не лезь. На двор нельга паказаць нос. От выдаўса такі ліхі дзень, што, як кажуць людзі, нават сабаку не выганіш з хаты, такая там кудаса.* (Сержпутоўскі).

**КУЖЭ́ЛЬНЫ** *прым.* Ільняны. (Федароўскі).

**КУЗЮ́МКА** *ж.* Карабок з бяросты. (Машыньскі).

**КУ́ЗЯ! КУ́ЗЯ!** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць жарабя. (Машыньскі).

**КУ́КАЎКА** *ж.* Кукаўка (танец). (Федароўскі).

**КУКО́ША** *ж.* Курыца-наседка (?). *Дзве кукошы, дзве кукошы жыта малацілі, / А кукушкі па дзве ношкі у млын валачылі* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**КУКУ́ЛЬ** *м.* Куколь (расліна). (Машыньскі).

**КУЛАМЕ́СА** *ж.* Нешта нясмачнае (?). *Тры дні печы не тапіла / І абедаць не варыла. / Наварыла куламесы, / Паставіла мужу есці* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**КУЛІ́ДА** *ж.* Бохан (хлеба). (Машыньскі).

**КУЛІ́ДКА** *ж.* Тое ж. (Машыньскі).

**КУЛІ́К** *м.* Кулік (птушка). □ *З аднаго балота кулік.* (Машыньскі).

**КУЛІ́К, КУЛІ́Г** *м.* Раз'езды пераапранутых, у масках людзей да суседзяў. (Кіркор).

**КУЛЬ** *м.* Сноп. (Машыньскі).

**КУЛЬБА́КА** *ж.* Выгнутая мыліца, што ахоплівае шыю вала знутры запрэжкі. (Машыньскі).

**КУПАВА́ЦЬ** *незак.* Купляць. *І пачалі яны купаваць сабе гасцінцы: хто шапку, хто чобаты, хто люльку ці што другое... Зарабіў той многа грошэй, наглядзеўса, якая карысь з лесу, да й пачаў сам купаваць пушчы. Збожжэ зтухло ў засеку, дак ніхто яго не хацеў купаваць.* (Сержпутоўскі).

**КУПА́ЛО, КУПА́ЙЛО** *м.* Старажытнае свята Купалле. *Па немалум часе прыходзіць Купало. Ведамо, ночу на Купало повен лес уселякае нечысці.* (Сержпутоўскі). *На Купайла, на Івана / Трасцу ведзьма паймала* (з песні). (Машыньскі).

**КУПА́ЎНЫ** *прым.* ○ ІВА́Н КУПА́ЎНЫ. Іван Купала. (Машыньскі).

**КУПЕ́ЛЬ** *ж.* ○ ПЕ́РШАЯ КУПЕ́ЛЬ. Першае купанне дзіцяці пасля нараджэння. *Першая купель робіцца ў начоўвачках, маці кідае ў ваду грошы, а бабка – 8 вугалькоў і дзявятым – драбок ад печы (печынка) з ямкі, дзе захоўваецца агонь* [жар]. (Машыньскі).

**КУ́РА** *ж.* Курыца. КУРАНЕ́НЬКА *ласк. Ой, схацела баба ўраж жа / Ды разбагацеці. / Пасадзіла кураненьку, / Каб вывела дзеці* (з песні). КУРА́ЧАТКА *ласк. Пасадзіла курачатку, / Каб вывела дзеці* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**КУРАПА́ТВА** *ж.* Курапатка. *Два каплуны (каплун 'пакладаны певень'), два каплуны солад малацілі, Курапатва і цяцер да млына насілі* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**КУ́РКА** *ж.* Бугай (птушка). (Машыньскі).

**КУ́РКА** *ж.* Лазянка (птушка). (Машыньскі).

**КУ́РКІ** *мн.* Плеяды (зоркі). (Машыньскі).

**КУ́РНІК** *м.* Хата з курнай печчу. *Бачыце, тагды ва ўсём селе толькі ў мене была чыстая хата з комінам, а другіе седзелі ешчэ ў курніках.* (Сержпутоўскі).

**КУРНІ́ЦА** *ж.* Курная хата. (Машыньскі).

**КУРЭ́НЬ** *м.* Шалаш. (Машыньскі).

**КУСТ** *м.* Свята на другі дзень Тройцы. *Павядзём Куста под гай зелёненькій* (з песні). (Кіркор).

**КУТ** *м.* Покуць. Самых шаноўных гасцей пасадзіць за сталом на куце. (Машыньскі).

**КУ́ТНІЦА** *ж.* Тоўстая кішка. (Машыньскі).

**КУЦЦЯ́** *ж.* ○ ГАЛО́ДНАЯ КУЦЦЯ́. Посная куцця. (Машыньскі).

**ЛА́ВІЦА** *ж.* Лава. *Яна праліцу пад лавіцу, / Верацёна пад круваць.* ЛА́ВУШКА *памянш. Я ўскочыў на лавушку, / Ухапіў булавушку.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ЛА́ДА** *ж.* Багіня вясны. *Благослові, маці / Ой, Лада, маці! Весну заклікаці.* (Кіркор).

**ЛАДЗЬБІ́НЫ** *мн.* Частаванне ў час выбірання мёду з вулля. *Суседава па бяседах, / Па хрэсьбінах, па ладзьбінах, / Мая дурна, як сініца, / Ў кампанію не гадзіцца* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ЛАЗЬБЕНЬ** *м.* Кораб з ліпавага лубу, у які складаюць выразаныя з борці соты. (Машыньскі).

**ЛАЙНО́** *н.* Адзежына, рэч з тканіны. *Бало нема за што выпіць, бо ўжэ апошняе лайно прапіў, а напавер жыды не даюць...*(Сержпутоўскі).

**ЛАНДА́Р** *м.* Карчмар. *От той раскірака накупіў сабе ў кромках, што яму было патрэбно, потым зайшоў у карчму, купіў дзве пляшкі гарэлкі да й кажэ ландару: "Нехай яны пабудуць у цебе, пакуль я зайду".* (Сержпутоўскі).

**ЛАНТУ́Х, ЛАПТУ́Х** *м.* Вялікі жывот. *А што баба лапочэ, дак што яе слухаць, думае той чалавек, абы быў абед, каб лантух наледаваць. Думаю, ось матулька дась якое-небудзь бульбы лаптух наледаваць.* (Сержпутоўскі).

**ЛАПА́ТА** *ж.* ○ ХЛЕ́БНАЯ ЛАПА́ТА. *Як надыходзіць грамавая хмара, то выкідваюць на двор хлебную лапату, значыць, хлебам яе сустракаюць, бо баяцца.* (Машыньскі).

**ЛАПА́ТКІ** *мн.* Тонкі, з неразвітымі зернямі струк гароху. ЛАПАТО́ЧКІ *памянш. Шчэ гарошак не паспеў, / Толькі лапаточкі, / Патаптала чаравічкі, / Самыя спадочкі* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ЛА́ПАЦЬ** *м.* Лапаць. ЛАПЦЁНАК *памянш. Шоў бай па сцяне, / Нёс сямёра лапцей: / І сабе, і жане, / І дзіцёнку па лапцёнку. / Ці баіць, ці не?* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ЛАПІ́КЛО** *н.* Лапік, кавалак. *Збудаваў сабе Палешук будынак, ускарпаў палянку землі, расчысціў лапікло сынажаці да й зажыў добрым хаджайнам.* (Сержпутоўскі).

**ЛАПІ́ПЛО** *н.* Лахманы, лахмоцце. *Ідзе сабе багатыр кале сваіх палацаў, ідзе засмуцоны, што*

***нема́ на све́це ўжэ ле́пшаго дабра́, аж от акура́т су́нетца насустрэ́к чо́рны, або́рваны ў лапі́клу бе́дны чалаве́к, су́нетца да пае́ пе́сні. Апрану́ў ён наве́рх сваё лапі́кло, але́ не́льга закры́ць саро́чку. А ў бе́днаго ўсе яго́ бага́цьце гэ́то то́е лапі́кло, што на ём, да ў кішэ́ні тры гро́шы валя́юцца.*** (Сержпутоўскі).

**ЛА́СКА** *жс.* Ласка (жывёлінка). ***Калі́ ла́ска перабяжы́ць праз каро́ву, то бу́дзе кроў у малацэ́. Ла́ску не́льга забіва́ць.*** (Машыньскі).

**ЛА́СТАЎКА** *жс.* Ластаўка (птушка). [Ластаўка хутка паўтарае]: ***"Паеха́ў мужы́к на ні́ўку, узя́ў хле́ба скары́нку, а як е́дзе, так і скрыпі́ць".*** ЛА́СТАВАЧКА *памянш.-ласк.* ***Ла́ставачкі зіму́юць у вадзе́, счапі́ўшыся ў ланцу́г ла́пка за ла́пку.*** (Машыньскі).

**ЛА́ТА** *жс.* Лата, лаціна. (Машыньскі).

**ЛАТУ́ШКА** *жс.* Гліняная або драўляная міска. ***Прапі́ў мужы́к сі́ты, / Прапі́ў і рашо́ты, / Мужыко́ва жо́нка – мі́скі і лату́шкі / І ўсе хлапату́шкі*** (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ЛАШО́НАК** *м.* Жарабя. ***Прапі́ў чума́к каня́, / Чумако́ва жо́нка кабы́лу й лашо́нка*** (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ЛЕ́ЗВА** *н.* Пад'ёмнае прыстасаванне ў пчаляроў. (Машыньскі).

**ЛЕЖАЯ́** *жс.* Кароткая вяроўка. (Машыньскі).

**ЛЕЛЯ́К** *м.* Ястраб (птушка). (Машыньскі).

**ЛЕСО́К** *м.* Лісцёвы лес. (Машыньскі).

**ЛЕСОВЫ́** *прым.* Лясны дух. ***Е лесовы́е, што зверамі́ заве́дуюць.*** (Машыньскі).

**ЛЁД** *м.* Лёд. ***Лёд як сні́цца, як по лёду хо́дзіш – смерць у сяле́.*** (Машыньскі).

**ЛЁЛЯ, ЛЯ́ЛЯ** *жс.* Багіня вясны. (Кіркор).

**ЛЁХ** *м.* Нара, падземны ход. ***Тым ча́сам зьмей вы́лез з лёху жырава́ць да якра́з тра́піў туды́, дзе была́ кабы́лка.*** (Сержпутоўскі).

**ЛІМА́К** *м.* Ільма (расліна). (Машыньскі).

**ЛІХІ́Й** *м.* Злы дух. ***Калі́ на крэшчэ́нье све́нцяць ваду́, то ліхі́й за вербу́ хапа́ецца, калі́ ж на Велі́кдзень ужо́ і верба́ пасвянцо́ная, тады́ ідзе́ ў палі́ жы́та круці́ць.*** (Машыньскі).

**ЛОЗЯ́НКА** *жс.* Бугай (птушка). ***Калі́ лозя́нка падае́ го́лас, то ка́жуць, што гэ́та чорт крычы́ць.*** (Машыньскі).

**ЛУКНО́** *н.* Даўнейшая мера ёмкасці мёду і плеценая карзінка для яго. ***Ка́ждые сто челове́к обя́заны бы́лі пріносі́ть в дань два лукна́ ме́ду.*** (Кіркор).

**ЛУ́ННІКІ** *мн.* Сведкі пры маладых, якія едуць у царкву (брат маладога і брат маладой). (Машыньскі).

**ЛУ́ЧНІК** *м.* Прыстасаванне для асвятлення хаты з дапамогай лучыны. (Кіркор).

**ЛЫКНУ́ЦЬ** *зак.* Глынуць. ***І не дзі́во, чаму́ наш брат гарапа́шнік ро́біць, ро́біць, як чо́рны вол, клапаці́цца, клапаці́цца, а як ужэ́ не́льга больш вы́трымаць, дак і лыкне́ жыво́й вады́ да й забу́дзе сваю́ го́ркую жы́тку.*** (Сержпутоўскі).

**ЛЫ́ЧКО** *н.* Колца, скрутачак. ***Дай мне, мату́лька, кусо́чак са́ла, каб табе́ жы́тка ле́пшая ста́ла, дай яе́чак да лы́чко каўба́с, та й бу́дзе з нас.*** (Сержпутоўскі).

**ЛЮБІ́СНІК** *м.* Любіста (расліна). ***Хіба́ хо́чэш любі́снік вары́ць да хло́пцаў паіць, каб цебе́ кахалі. Ла́зіў на дзераўля́кі да спо́рваў кубе́льца.*** (Сержпутоўскі).

**ЛЯ́ДА, ЛЯ́ДО** *н.* 1. Высечаны ўчастак лесу. ЛЯ́ДЦА *памянш.* ***Распашу́ я ля́дца, тпру ды но! / Распашу́ другое́, / Пасе́ю я рэ́пку*** (з песні). (БНТ. Жарт. песні). 2. Сасновы лес. (Машыньскі).

**ЛЯДАВА́ЦЬ** *незак.* Напаўняць, ладаваць. ***Ужэ́ трэ́ба гатава́ць ручнікі́ да лядава́ць ку́бел, бо не за гара́мі пры́дуць і сваты́, а дзе́ўка не то́, каб што, але́ і ла́ткі сабе́ не зала́піць.*** (Сержпутоўскі).

**ЛЯКСАВА́НЫ** *прым.* Наваксаваны. ***Ускочы́ў пан у сваі́х ляксава́ных бо́тах на кратаве́не да й правалі́ўса па са́мые ко́стачкі.*** (Сержпутоўскі).

**ЛЯ́ЛЬНІК** *м.* Свята ў гонар багіні вясны Лялі, якое святкуюць 22 красавіка. (Кіркор).

**ЛЯМЁШКА** *жс.* Страва з грэцкай або жытняй моцна падпражанай мукі, залітай вадой. (Машыньскі).

**ЛЯСНІ́К** *м. міф.* Міфічная істота – лясны дух. (Кіркор).

**ЛЯШЧЫ́НА** *жс.* Арэшнік. (Машыньскі).

**МАГАЛЕ́ЙКА** *жс.* Суконная сумачка для дробязей (?). ***А Сто́пак тым ча́сам даста́ў капшу́к, напха́ў у лю́льку цюцю́ну, вы́няў з магале́йкі гу́бку й краменец, узя́ў цага́ло й дава́й краса́ць аго́нь.*** (Сержпутоўскі).

**МАГЕ́РКА** *жс.* Галаўны ўбор (белы калпак або нізкая шляпа без палёў). (Кіркор).

**МАГІ́ЛКА** *жс.* Магілка. ***Калі́ прахо́дзіш мі́ма само́тнай магі́лкі пры даро́зе, абавязко́ва трэ́ба кі́нуць на яе́ галі́нку. Зямлю́ кі́даць не трэ́ба, бо нябо́жчыку і так ця́жка пад зямлёй.*** (Машыньскі).

**МА́ЖА** *жс.* Паўкош з лубу, які ставяць на калёсы. (Машыньскі).

**МАЗЬНІ́ЦА** *жс.* Драўляная пасудзіна, у якой захоўваюць смалу. (Машыньскі).

**МАЙНА́** *жс.* Майнік (расліна). (Машыньскі).

**МАКАЦЁР** *м.* Макацёр. (Машыньскі).

**МАКО́ЎКА** *жс.* Белы гарлачык (кветка). (Машыньскі).

**МАКО́ЎКА** *жс.* Плод маку. МАКО́ВАЧКА *памянш.* ***Бе́лы мае́ мако́вачкі, / Залаты́я гало́вачкі, / Сто́йце вы так, / Як зе́лен мак.*** (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**МАКУ́ХА** *жс.* Жамерыны; рэшткі выціснутага семені. (Машыньскі).

**МАЛАДА́Я, МОЛОДА́Я** *жс.* Нявеста ў час вяселля. (Машыньскі, Федароўскі).

**МАЛАДУ́ХА** *жс.* 1. Маладая, нявеста. 2. Маладая пасля вяселля. (Федароўскі).

**МАЛАДЫ́, МОЛОДЫ́** *м.* Жаніх у час вяселля. ***Наш, наш корава́й ў́ушэй! Наш молоды́й кра́шэй!*** (з песні). (Машыньскі, Федароўскі).

**МАЛА́НКА** *жс.* Маланка; чорнае нутро ў пустым арэху. (Машыньскі).

**МАЛІ́ТВА** *ж.* Малітва. (Машыньскі).

**МАНЬКУ́ТА** *ж.* Чучала, падобнае на птушку (для прыманьвання цецерукоў). (Кіркор).

**МАРА́** *ж.* Здань, пудзіла. *Ба́чыць Бог, што чорт прэ́тца сле́дам, як та́я мара́, ба́чыць, да ўсе маўчы́ць.* (Сержпутоўскі).

**МАРША́ЛАК** *м.* Маршалак; той хто кіруе вяселлем. (Федароўскі). ○ МЕ́НЬШЫЙ МАРША́ЛОК. Малы хлопец, што трымаў вянец над князем. (Машыньскі).

**МАРША́ЛКІ, МАРША́ЎКІ** *мн.* Дружкі маладога, якія суправаджаюць яго на вяселлі. *Тады́ аж така́я завіру́ха, як марша́ўкі іду́ць, Бо́жэ муй! Не дзівіце, марша́лкі, / Да на мае́ пада́ркі. / Да не сама́ ж я пра́ла, / Да не сама́ ж я тка́ла; / Сястры́ца пра́ла, / Мая́ ма́тка тка́ла, / А я маладзе́нька, / Да бе́ла бяліла, / Марша́лкі дары́ла* (з песні). (Машыньскі).

**МА́СЛЯНІЦА** *ж.* Масленіца. (Кіркор).

**МА́ТАЧНІК** *м.* Маленькая клетачка, у якую саджаюць пчаліную матку. (Машыньскі).

**МА́ТКА** *ж.* Самка ў пчол. (Машыньскі).

**МА́ТКІ** *мн.* Жаночыя асобіны канапель. (Машыньскі).

**МАСЬЛЮ́К** *м.* Масляк (грыб). (Машыньскі).

**МАЦЁРА** *ж.* Паросная свіння. (Машыньскі).

**МАШНА́** *ж.* Мяшочак для захавання грошай; кашалёк. *Дзе́ўка схапіла убо́ры да й гро́шы з машно́й і пабе́гла дамо́ў ня аглядаючыся, аж пра вёдры забы́ла.* (Хрэстаматыя 1962).

**МАШО́НКА** *ж.* Тое ж. *Палёз яшчэ́ чорт ў кало́дзезь ды й цягніць машо́нку паўне́хунькую залаты́х і сірабра́нных гро́шай.* (Хрэстаматыя 1962). *А ў машо́нцы капе́йка была́, / Я, мало́да, разгуля́лася* (з песні). МАШО́НАЧКА *памянш.* *Машо́начка раскіда́лася, / Капе́ечка пацяра́лася* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**МЕДЗЬВЕДЗЮ́К** *м.* Медзведзяня. *От ены́ паве́сілі свае́ клу́нкі на аднаго́ маладо́га медзьве́дзя, маладзіца се́ла на медзьве́дзіцу, а хло́пец на другого медзьведзюка́ да й пае́халі.* (Сержпутоўскі).

**МЕ́СЯЦ** *м.* Месяц. (Машыньскі).

**МЕ́СЯЦ** *м.* Абрадавае вясельнае печыва ў выглядзе месяца, якое пякуць разам з караваем у маладой і ў маладога і якім потым стукаюцца на вяселлі. (Машыньскі).

**МЕТЛІ́ЦА** *ж.* Мятліца (расліна). (Машыньскі).

**МЕХАНО́Ш** *м.* Чалавек, які носіць мех з валачобным. (Кіркор).

**МІКО́ЛА** *м.* ○ ВЕ́ШНІ МІКО́ЛА. Веснавы Мікола; свята народна-царкоўнага календара, якое святкуюць у маі. *Пазіра́е ён пааба́пал даро́гі, ці нема́ дзе якіх-не́будзь я́гад, але́ нема́, бо спра́ва была́ кале́ Міко́лы Ве́шняго. Вы́браў сабе́ са́мую го́жую дзе́ўку, а на ве́шняго Міко́лу ены́ й пабра́ліса.* (Сержпутоўскі).

**МІКО́ЛЬНІК** *м.* Баравік, што вырастае ў маі (каля дня св. Мікалая). (Машыньскі).

**МІ́ЛТА** *ж.* Страва, прыгатаваная з тоўчанага на муку аўса. (Машыньскі).

**МІ́СТО** *н.* Паслед. *Мі́сто зако́пваюць пад паро́гам ці пад пры́печкам з бо́ку по́ля, кі́нуўшы туды́ гро́шык, капе́йку.* (Машыньскі).

**МЛЕ́ЧКА** *н. ласк.* Малако. *А нашто́ мле́чка? / – Сырцы́ ляпіці. А нашто́ сырцы́? / – Пастухо́ў карміці.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**МЛЕ́ЧНЫ** *прым.* ○ МЛЕ́ЧНЫ ШЛЯХ. Сузор'е. *Мле́чны шлях – доро́га, што пта́шкі лецяць на по́рэй, на за́ход, на цёплые во́ды.* (Машыньскі).

**МЛІНЦЫ́** *мн.* Бліны. (Машыньскі).

**МО́ГІЎКІ** *мн.* Могілкі. (Машыньскі).

**МО́ГЛІЦЫ** *мн.* Тое ж. *От як пахава́лі Салімо́на дачку́, засы́палі землёю да ўсе разышліса з мо́гліц.* (Сержпутоўскі).

**МО́РА** *ж.* Здань нячыстай сілы. (Кіркор).

**МОРА́НА** *ж.* Багіня смерці. (Кіркор).

**МОХ** *м.* Балота. (Машыньскі).

**МУЖЫ́К** *м.* □ *Мужы́к дурны́й як варо́на, а хі́трый як чорт.* (Машыньскі).

**МУЗЫ́КА** *м.* Скрыпач на вяселлі. (Федароўскі).

**МУКА́** *ж.* ○ МАРЫМО́НЦКА МУКА́. Пшанічная мука. *У бе́дных карава́й пяку́ць з аржано́й мукі, а ў бага́тых – з марымо́нцкай.* (Машыньскі).

**МУР** *м.* Штучна прыгатаванае пахучае рэчыва, якое ўжывалася ў рэлігійных абрадах. *Ба́ба бярэ́ць мі́ску, сы́піць ў яе́ аве́с, нальецць туда́ жэ вады́, вы́ламіць з но́вага ве́ніка ве́шачку, і гэ́тай ве́шачкай памеша́іць аве́с з вадо́й і́лі мур, і заты́м ма́жэць кумо́ў, като́рые браса́юць ей за то дзе́ньгі.* (Хрэстаматыя 1962).

**МУРО́Г** *м.* Мяккая трава. (Машыньскі).

**МЯ́ЛІЧКА** *ж.* Глыбокая міска. (Федароўскі).

**М'Я́СО** *н.* Мяса. *М'я́со ці са́ло есць – не́хто ў роду́ помрэ́* (сон). (Машыньскі).

**МЯЦЕ́ЛІЦА** *ж.* Назва танца. (Кіркор).

**НАЖЭ́НДЗЕ** *н. зб.* Нажы, іншыя прылады. *От пагасцява́ў там Кава́ль до́ўгі час, нау́чы́ў сусе́дзей, як кава́ць зале́зо да рабіць уселя́кае нажэ́ндзе.* (Сержпутоўскі).

**НАКО́Т** *м.* Насціл з бярвення. (Машыньскі).

**НАКРО́П** *м.* Раствор, якім апырскваюць борць знутры для заваблівання пчол. (Машыньскі).

**НАЛАДАВА́ЦЬ, НАЛЯДАВА́ЦЬ** *зак.* 1. Накласці, напоўніць. *Налядава́ў ён то́рбу гро́шэй, як пане́сці, да й пашо́ў да гаспо́ды. Налядава́ў по́ўнае гумно́, што й да Каляды́ не змалаці́ць.* 2. Напоўніць, набіць ежай. *А Петро́ заўжды́ лю́біў наладава́ць свой трыбу́х.* (Сержпутоўскі).

**НА́ЛПА** *ж.* Малпа. *Бе́лы ру́ські цар заваява́ў які́есь чужо́е ца́рство, але́ там усе́ чо́рные лю́дзі, ара́пы ці што, а моо* [можа] *то й саўсім не лю́дзі, а на́лпы ці яко́е лі́хо.* (Сержпутоўскі).

**НАМАСТЫ́Р** *м.* Манастыр. *Не дзі́во не зграшы́ць у намасты́ры, дзе няма́шака граху́, а от ты ў жы́цццы не саграшы́, дзе грахі́ на ко́жнум кро́ку – як ступі́ў, та й саграшы́ў.* (Сержпутоўскі).

**НАМАЎЛЁНЫ** *прым.* Нагавораны (вынік благога слова). *Хвароба можа быць намаўлёна.* (Машыньскі).

**НАМІТКА, НАМЕТКА** *ж.* Доўгі вузкі кавалак палатна, звычайна з каймой ці вышыўкай; намітка. *Догадайся Ганулька, / Чого маці пошла ў клець? / Чы по горэлку, чы по мэд, / Чы по намэтку, чы по чэпэц?* (з песні) (Федароўскі, Кіркор, Машыньскі).

**НАНЫЦЬ** *зак.* Упасці. *Во, йна ліцела-ліцела, алі тыкі ны Няпроўській мос і нанила.* (Хрэстаматыя 1962).

**НАПРАНУЦЬ** *зак.* Апрануць. *Ён тагды напрануў яе сваёй адзежай, яна ўстала і папрасіла часавых, штоб ёй прыняслі яе адзежу.* (Хрэстаматыя 1962).

**НАПРЫКРАЦЬ** *зак.* Апрыкраць, надаесці. *Ты ўжэ напрыкраў мне гарэй горкае рэцькі.* (Сержпутоўскі).

**НАПРЭГЧЫ** *зак.* Напячы, напрэгчы. *Напрагла гаспадыня на скаварадзе сала, палажыла туды цэлае лычко каўбас да й падае на стол.* (Сержпутоўскі).

**НАПЫРСК** *м.* Раствор, якім апырскваюць борць знутры для заваблівання пчол. (Машыньскі).

**НАРОГ** *м.* Жалезны наканечнік для рагаціны. (Машыньскі).

**НАСОЎ** *м.* Кашуля, якую апранаюць на вопратку для засцярогі яе ад дажджу ці снегу. *Як жа мне за цябе іцці, калі у мяне хусткі ні белага, ні насава нету.* (Хрэстаматыя 1962).

**НАСТОЛЬНІК** *м.* Абрус. (Машыньскі).

**НАСТОЛЬНІЦА** *ж.* Тое ж. (Машыньскі).

**НАСУСТРЭК** *прысл.* Насустрач. *От едзе ён шляхам, а насустрэк увесь шлях заняло войсько.* (Сержпутоўскі).

**НАТВОР** *м.* Раствор, якім апырскваюць борць знутры для заваблівання пчол. (Машыньскі).

**НАЎХРАСТ** *прысл.* Накрыж. *Далі яны яму сто карбаванцаў, ён зацясаў кол з другога канца, у пярэлятка выстрыг воўны, наўхраст завіў у кол і стаў.* (Хрэстаматыя 1962).

**НАЦЯГІЧ** *м.* Прыстасаванне для нацягвання абручоў. (Машыньскі).

**НАЧАЛЬНІК** *м.* Сват маладой. (Федароўскі).

**НАЧЭНІНА** *ж.* Пасудзіна. *Гэтакая начэніна. Да яна сто рублёў варта.* (Сержпутоўскі).

**НЕБОЖЧЫК** *м.* Нябожчык. *Схаваць небожчыка.* (Машыньскі).

**НЕКРУЦКІ** *прым.* Рэкруцкі. *Як чула мая доля, / Што не быць малодцу дому / Быць малодцу ў няволі, / Ў некруцкім ў наборы, / Ў салдацкім ў прыборы.* (Хрэстаматыя 1962).

**НЕЛАПЫ** *прым.* 1. Немалы, ладны. *Вырас ужэ хлапчук нелапы, але не ходзіць да толькі поўзае.* 2. Дробны, бедны. *Гараваў, працаваў, а жыў сьцісло, дак і меў сабе нелапую гаспадарку да й асьмакоў на патрэбу.* (Сержпутоўскі).

**НЕЛЕНЬ** *м.* Дуб, які не скідае лісце на зіму. (Машыньскі).

**НЕМАЛЬ** *прысл.* Амаль. *Абхадзілі яны немаль усю вёску, ніхто не прымае нанач.* (Сержпутоўскі).

**НЕНДЗА** *ж.* Нястача, нуда. *Праўда як ні стараўса, як ні гараваў, а ўсе ж жыў у велікуй нендзы й беднаце.* (Сержпутоўскі).

**НЕРАТ** *м.* Сплеценая з лазы снасць на ўюноў. □ *Улез у нерат, і ні ўзад, ні ўперад.* (Машыньскі).

**НЕТРЫ** *мн.* Непраходныя зараслі на балоце. (Машыньскі).

**НЕЧЫСТЫ** *прым.* ◊ НЕЧЫСТА СІЛА. Злы дух. (Машыньскі).

**НІЦЫПАР** *м.* Люцыфер (?). *Ото ж, каб мне дастаць гэстага насеня, – нарабіў бы я мудрэй Бога, нарабіў бы так, што сам Ніцыпар пазавідуваў бы.* (Сержпутоўскі).

**НОЧ** *ж.* ◊ ОРАБІНОВА НОЧ. Цёмная і страшная ноч, якая бывае раз у год у Спасаўку. (Машыньскі). ○ ВЯЛІКАЯ НОЧ. Ноч перад Вялікаднем. (Кіркор).

**НУДЗЬГА** *ж. зб.* Заедзь. *Так да вечара й усюсеньку ноч правісеў пан на хвоі, чуць его нудзьга не з'ела, пакуль дворня нашла.* (Сержпутоўскі).

**НУЗДЭЧКА** *ж.* Святочная аброць з цуглямі. (Машыньскі).

**НЯВЕСТКА** *ж.* Жонка сына. *Бо як яна маго Ясенька гадавала, / То яна много доўгіх ночанькаў не спала. / Цяпер я ёй маладзенькая, адслужуся, / Няхай тое знае, што ў яе нявестка Марыся* (з песні). (Федароўскі).

**НЯВЕСТУХНА** *ласк.* Тое ж. *Шкадуй, свякрухна, / Сваё нявестухны, / Бо ў цябе адненькая, / Бо ў цябе адненькая* (з песні). (Федароўскі).

**НЯВЕХНА, НЯВІХНО, НЕВЕХНА** *ж.* Нявестка. *Не будзь ты, нявіхно, у мяне скваплівa, / Да будзь ты, нявіхно, у мяне шчаслівa. Ой, у лесе, ў лесе мядзведзь рыкае, / Да на цябе, нявехна, свёкар зікае* (з песні). (Машыньскі). *Дак ось гэстую невехну мой сын узяў тагды так штучно, так штучно, што просто сьмех і людзям казаць.* (Сержпутоўскі). НЯВЕХНАЧКА *ласк.* *Е ў мяне нявехначка: / Сонца не зайдзе – ляжа, / Сонца ўзойдзе – ўстане, / Ўстане і паснедае* (з песні). (Машыньскі).

**ОБАК** *прысл.* Побач. *Дзед ведзе бычка за павадок, а ведзьмар ідзе обак.* (Сержпутоўскі).

**ОВЕЧЭЧКІ** *мн.* Раллявая канюшына (расліна). (Машыньскі).

**ОГІР** *м.* Жарабок. *Ехаў пан на огіру, от Грышкава кабылка як учула огіра, так заюрыла і пабегла, а за ею паперліса й усе коні.* (Сержпутоўскі).

**ОГНІШЧЭ** *н.* Вогнішча. (Машыньскі).

**ОГОНЬ** *м.* Агонь. *Огонь – непрыятносць* (сон). (Машыньскі).

**ОДЗЁР** *м.* Памост на высокай сасне пад вулей. (Машыньскі).

**ОЖАГ** *м.* Кіёк, якім мяшаюць вуголле ў печы. *Баба схапіла вілы, а чорт ожаг.* (Сержпутоўскі).

**ОЙЧАНЬКАВА** *прым.* Бацькава. (Федароўскі).

**ОКО** *н.* Вочка ў сетцы. (Машыньскі).

**ОСТРОМЎС** *м.* Ёрш-насар (рыба). (Машыньскі).

**ÓСЦІ** *мн.* Восці; прылада з вострымі жалезнымі прутамі для лоўлі рыбы. (Кіркор).

**ОЧЕПІ́НЫ** *мн.* Павязванне на галаву маладой наметкі. (Кіркор).

**ÓЧЭП** *м.* Шост, да якога прымацоўваецца вядро (у студні з жураўлём). (Машыньскі).

**ПААПРА́ТАЦЬ** *зак.* Паапранаць, надзець. *Паапра́талі лю́дзі ле́пшую адзе́жу да й пашлі пад цэ́ркаў.* (Сержпутоўскі).

**ПАБЛАГАТА́ЦЬ** *зак.* Памаліцца. *Як во́дзіцца, поп е́здзіў па малі́тве. От зайшо́ў ён у вадну́ ха́ту, паблагата́ў тро́хі да й се́ў на ла́ву каля стала́, каб крыху́ пагрэ́цца, бо на двары́ быў вялікі траску́н, і поп такі́ до́брэ праме́рз.* (Сержпутоўскі).

**ПАБРА́ЦЦА** *зак.* Пажаніцца. *Ху́тко вы́сватаў ён сабе́ са́мую го́жую дзе́ўку, а за недо́ўгім ча́сам яны́ й пабра́ліса. Яны́ то́лькі яшчэ́ неда́ўно пабра́ліса, як гаспада́р пашо́ў у лес пушча́ць дзе́рава да знена́цку паслізну́ўса кала пня да й папа́ў пад кало́ду.* (Сержпутоўскі).

**ПА́ВА** *ж.* Паўлін. *Хо́дзіць па́ва па таку́ / У чырво́ным калпаку́.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ПАВАДЭ́НЦА** *ж.* Завядзёнка, традыцыя. *Ба́чыце, цепе́р у нас така́я павадэ́нца, што паку́ль ця́гнетца весе́лье, малады́ й малада́я трэ́йко кла́няютца ко́жнаму, каго́ сустрэ́нуць.* (Сержпутоўскі).

**ПАВЕ́СМА** *н.* Мера льновалакна. ПАВЕ́СМАНЬКА *памянш. Не хадзі на таржо́к ты да ме́станька, / Не купля́й ты лянку́ ні паве́сманька.* (БНТ. Дзіцячы фальклор, Машыньскі).

**ПА́ВУЦЬ** *ж.* Павуцінне. *То́лькі ён запалі́ў па́вуць, а по́лам'е як шыбане́, як пабежы́ць, як зо́ймецца адра́зу ўся страха́ да пацеру́ха, дак ён насі́лу вы́бег з гумна́.* (Сержпутоўскі).

**ПАВЯСО́К** *м.* Пояс. *Няма́ло, няма́ло / Бе́лых ру́чак змучы́ла, / Пукі́ яна́ на сва́дзьбу / Павяско́ў угатава́ла* (з песні). (Федароўскі).

**ПАГО́НІЧ** *м.* Пастух (?). *Мой паго́ніч малады́ / Пагна́ў валы́ да вады́* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ПАГРЭ́БІЦА** *ж.* Склеп, невялікі склеп. *Як уна́дзіўся той верабе́й / За пагрэ́біцу лята́ць, З кра́снай дзе́віцай гуля́ць.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ПАДА́РАК** *м.* Доўгі кавалак палатна. *Ой, ра́дуйся, наш каро́лічку, ра́дуйся, / На́ша маладу́ха для цябе́ дары́ нясе́; / Нясе́ пада́рак до́ўгі, то́ненькі і бяле́нькі, / Пры баку́ з ею ідзе́ Я́сенько маладзе́нькі* (з песні). ПАДА́РАЧАК *памянш.-ласк. Ра́дуйся, ранда́рачка, / Нясе́мо табе́ пада́рачка / То́нкаго і бяле́нькаго, / Ад слёзак макрэ́нькаго* (з песні). (Федароўскі).

**ПАДВО́Й** *м.* Пяньковая вяроўка, якая злучае плаху з рагачом у сасе. (Машыньскі).

**ПАДГІ́НДЗІЦЦА** *зак.* Зрабіцца худым, тонкім. *От прахо́дзіць недзе́ля, друга́я, й пачало́ з ксендзо́ў спада́ць са́ла, а церэз недзе́ль пяць ены́ падгі́ндзіліса як харты́.* (Сержпутоўскі).

**ПАДГІ́НДЗІЦЬ** *зак.* Падціснуць. *Немá чаго́ рабі́ць, падгі́ндзіў чорт хвост і пауё́ў іх да гаспо́ды.* (Сержпутоўскі).

**ПАДГЭ́ЙСЦЕР** *м.* Падгерац. (Машыньскі).

**ПАДДРУ́ЖЫ** *м.* Памочнік свата (?). (Федароўскі).

**ПАДЗІ́ВАК** *м.* Хвароба "з дрэнных вачэй", урокі. (Машыньскі).

**ПАДЗІРКО́ВЫ** *прым.* Вытканае з канапель або дрэннага лёну (пра палатно). (Машыньскі).

**ПАДЗІ́ЎЛЁНЫ** *прым.* Вынік падзіву ці пахвалы. *Хваро́ба мо́жа быць падзі́ўлёна.* (Машыньскі).

**ПАДКУ́РЫ** *мн.* Прыстасаванне, якое перашкаджае мядзведзю ўзабрацца на дрэва, на якім стаіць вулей. (Кіркор).

**ПАДМЕ́ЛЬШЧЫК** *м.* Памочнік млынара (?) *Млына́р не даў. Набе́глі, набе́глі падме́льшчыкі, / Пабі́лі, пабі́лі / Мне пле́чыкі.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ПАДПЕ́ЧЧЭ** *н.* Падпечак. (Машыньскі).

**ПАДУ́ШАЧКІ** *мн.* Падушачкі (танец). *Паду́шачкі, паду́шачкі, / Да ўсё пухавы́я, / Мало́дачкі, мало́дачкі, / Да ўсё малады́я* (з песні; гэту песню пяюць, танцуючы) (Федароўскі).

**ПАДШПА́РАК** *м.* Малы хлапчук. *Я чуў яшчэ́ ат свайго́ дзе́да, калі я ешчэ́ быў малы́м падшпа́ркам, а ён ужэ́ тагды́ сго́рбіўса, змо́ршчыўса бы по́рхаўка.* (Сержпутоўскі).

**ПАДЫМА́ННЕ** *н.* ○ ПАДЫМА́ННЕ МАЛАДЫ́Х. Абрад падымання маладых пасля шлюбнай ночы. (Федароўскі).

**ПАД'Ю́ДЖВАЦЬ** *незак.* Падбухторваць, падбіваць на што-н. *Але́ гэ́то, ма́быць, чорт от так і пад'ю́джвае, от так і шэ́пчэ ў ву́шы – задаві́ гэ́стаго га́да, та Бог ве́ку прыбава́віць.* (Сержпутоўскі).

**ПАЖА́РКІ** *мн.* Агульная назва грыбоў, што растуць на выпаленых месцах. (Машыньскі).

**ПАЖУ́ПІЦЬ** *зак.* Пагаварыць, параіцца, распытаць. *А сыны́, ужэ́ барада́тые, ча́сто прыхо́дзяць к старэ́нькаму ба́цьку пажу́піць пра хаджа́йство да папыта́ць staро́го: калі́ й гдзе што се́яць, як лепш абрабля́ць по́ле, як дагляда́ць гаўя́дко.* (Сержпутоўскі).

**ПАЗДЗЕ́РКІ** *мн.* Кароткае валакно лёну, якое выпадае разам з кастрыцай пры трапанні. (Машыньскі).

**ПАКІ́ДЗІШЧЭ** *н.* Той, каго ўсе пакінулі, адракліся. *Ніхто́ з ім не зна́ўса, ніхто́ не зваў к сабе́ ў го́сці, ве́дамо, пакі́дзішчэ. Ве́дамо, кале́ка зро́ду, яка́я ра́дасьць бацька́м.* (Сержпутоўскі).

**ПАКО́С** *м.* 1. Пракос. (Машыньскі). 2. Пако́сы *мн.* Сенажаць. (Машыньскі).

**ПАКРО́ВЫ** *мн.* Восеньскае свята ў народнацаркоўным календары (адзначаецца 1 кастрычніка па ст. ст.). *На Пакро́вы ўжэ ста́ла зусі́м зіма́.* (Сержпутоўскі).

**ПАЛА́НАЧКІ** *мн.* Ночвы. (Машыньскі).

**ПАЛЕШУКІ́** *мн.* Жыхары Пінскага Палесся. (Кіркор).

**ПАЛІ́ЦА** *ж.* Насценная полка. (Машыньскі).

**ПАЛО́Г** *м.* Цяга, прага да чаго-н. *От, ка́жуць, быў у нас такі́ адзі́н чалавéк, што ён не меў пало́гу да гарэ́лкі й не любі́ў яé піць ко́жын дзень, а то́лькі прыма́ў тагды́, як душа́ з цéла вылáзіла да пра́гласа ра́дасці да лéпшаго жыцьця́.* (Сержпутоўскі).

**ПАЛУ́ЙКА** *ж.* Качан капусты, разрэзаны папалам. (Машыньскі).

**ПАЛЫСКАВА́ЦЦА** *незак.* Ільсніцца, блішчаць. *Аж ба́чыць, седзі́ць там камéнная страла́, уся́ чо́рная да гла́дкая, аж палыску́ецца. Паслу́хаў Мікóла й зрабі́ў так, што жанчы́на меня́ецца ко́жную часі́ну, як на со́нейку палыску́ецца й мяня́ецца гадзю́ка.* (Сержпутоўскі).

**ПАМА́ГІРЫ** *мн.* Пяньковыя вяроўкі. (Машыньскі).

**ПАМО́ГА** *ж.* Помач, дапамога. *От сабра́ў ключво́йт сваі́х пахо́лкаў да яшчэ́ й пан пасла́ў сваю́ дво́рню на памо́гу.* (Сержпутоўскі).

**ПАМО́РАК** *м.* Мор. *Быў вялі́кі памо́рак на людзéй і на гаўя́до. Лю́дзі мéрлі як му́хі.* (Сержпутоўскі).

**ПАНПУ́ШКІ** *мн.* Дробныя булачкі. (Машыньскі).

**ПАПЕ́РАДЗЕ** *прысл.* Наперадзе. *Усё брат папéрадзі.* (Хрэстаматыя 1962).

**ПАПЕРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Апярэдзіць, быць першым. *Ня мо́жа ён папярадзі́ць бра́та ні ў чом.* (Хрэстаматыя 1962).

**ПАПЛІ́СКА** *ж.* Палка. *Тым ча́сам на весéлы хло́пцы захадзі́ліся кала Па́ўла-Петра́ да й пачалі́ лупцава́ць іх паплі́скамі. На гэ́ты раз ду́рэнь ка́жэ, што ба́цько агрэ́ў яго́ паплі́скаю.* (Сержпутоўскі).

**ПАРА́Г** *м.* Пруток, на якім смажаць сала над кастром. (Машыньскі).

**ПАРА́НКУ** *прысл.* Раніцай. *Пара́нку пав'ёў ведзьма́р дзéда й бычка́ ў лес напаі́ць вадо́ю з свянцо́нае крыні́цы.* (Сержпутоўскі).

**ПАРАСЕ́ЛЬКА** *ж.* Высокае пясчанае месца ў лесе. *Тым ча́сам Асі́лак вы́шаў на парасéльку, накла́ў агню́, седзі́ць сабé да на ражэ́ньчыку печэ́ са́ло.* (Сержпутоўскі).

**ПАРАСО́ЛІК** *м.* Парасон. *Е́дзе па́ні го́лая, у чом ма́ці радзі́ла, то́лькі парасо́лікам закрыва́ецца.* (Сержпутоўскі).

**ПАРІ́ЛО** *н.* Вятроўнік (расліна). (Машыньскі).

**ПАРНЯ́** *ж.* Памяшканне з печчу, дзе гнуць абады, дугі. (Машыньскі).

**ПАРО́ЛІЦА** *ж.* Вострая драўляная лапатка, якой выразаюць соты. (Машыньскі).

**ПА́РОСЬЛЯ** *ж.* Зараслі. (Машыньскі).

**ПАРО́ША** *ж.* Снег, які толькі што выпаў. *Рэ́жуць палазы́ зéмлю бы паро́шу, жарабі́ца несé, лецíць бы мала́нка.* (Сержпутоўскі).

**ПАСА́Д** *м.* Пасад; месца (звычайна дзяжа, пакрытая кажухом), куды садзілі нявесту. *Станаві́ся, радзі́начка, уся́ у рад. / Ідзé на́ша Ма́нячка на паса́д* (з песні). (Машыньскі). *Паста́ньце, бая́р'е, усéнько ў рад, / Бу́дзе ісці́ Мары́ська на паса́д* (з песні). (Федароўскі).

**ПА́СКА** *ж.* Велікодны пірог. (Машыньскі).

**ПАСКО́НЬ** *ж.* Мужчынскія асобіны канапель. (Кіркор).

**ПАСЛАНЦЫ́** *мн.* Сват, дружка і музыкант, якія едуць за бацькамі маладой на другі дзень вяселля. (Федароўскі).

**ПАСЛА́ЎКА** *ж.* Плётка, чуткі, погаласка. *Калі́ ко́сіш, дык касі / Зялёную тра́ўку, / Калі любі́ш, дык любі́, / Не пуска́й пасла́ўку.* (БНТ. Прыпеўкі).

**ПАСМЕ́ШНЫ** *прым.* Вынік насмешак. *Хваро́ба мо́жа быць пасмéшна.* (Машыньскі).

**ПАСТАЛЫ́** *мн.* Лапці. (Машыньскі).

**ПАСТА́ННЕ** *н.* Крысы вопраткі. *Ён я́йцы ты́я забра́ў у паста́ньня, а цяцéру – пат паху́.* (Хрэстаматыя 1962).

**ПАСТО́ЛЬЦЫ** *мн.* Лапці. *Сядзéў ко́цік на сто́льцы, / Паплёў ко́шцы пасто́льцы.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ПАСТО́ЯЛКА** *ж.* Малако, якое пастаяла некалькі гадзін пасля даення. (Кіркор).

**ПАСТЫРЧА́К** *м.* Тое, што выдаецца, вытыркаецца і за якое можна зачапіцца; палка. *Укі́нуў маска́ль мерцьвеца́ ў во́ду да й папхну́ў яго́ на дно пастырчако́м.* (Сержпутоўскі).

**ПАСЬВЕ́Т** *м.* Жалезная рашотка, якая прымацоўваецца кручкамі да шырокага канца лучніка. (Кіркор).

**ПАСЬЦЕ́ЛЬНІЦА** *ж.* Жанчына, якая сцеле пасцель для маладых. (Машыньскі).

**ПАТАПЦЫ́** *мн.* Цура (страва). *Вы́пілі па адно́й-друго́й ча́рцы гарэ́лкі, закусі́лі салóдкімі патапца́мі да кану́ном...* (Сержпутоўскі).

**ПАТРА́ЎКА** *ж.* Страва. *У ко́жнуй ста́нцаі панастáўлено сталóў, а на іх ро́зных патра́вак, што аж не прыду́маць, чаго́ там не было́.* (Сержпутоўскі).

**ПАЎЦЕ́НЕ** *н.* Павуціннe. *Гары́ць сабé ці́хенько паўцéне, а салóма хоць бы што – от як у вадзé. Абсмалі́ў бага́ч у гумнé ўсе паўцéне, заткну́ў зу́бленку ў стоўп да й пашо́ў сабé ў ха́ту.* (Сержпутоўскі).

**ПАХО́ЛАК** *м.* Парабак, сялянскі хлопец. *От сабра́ў ключво́йт сваі́х пахо́лкаў да яшчэ́ й пан пасла́ў сваю́ дво́рню на памо́гу.* (Сержпутоўскі).

**ПАЧВЕ́РА** *ж.* Пачвара. *Стóяло то́лькі зірну́ць на яго́, як ужэ́ чалавéка бра́ў смех, така́я то была́ пачвéра, а не бо́жае стварэ́нне.* (Сержпутоўскі).

**ПАЧО́СТКА** *ж.* Частаванне. *Хто людзéй паглядзéць ці сабé паказа́ць або́ сустрэ́ць сябро́ў да знаёмых і пазва́ць іх к сабé на пачо́стку.* (Сержпутоўскі).

**ПАЧЫ́НАК, ПАЧЫНО́К** *м.* Вялікае верацяно з пражай. *Як была́ малада́ – / Да рабо́ты пры́тка: / За тры́ гады́ пачыно́к, / За сем нядзéль ні́тка.*

(прыпеўка). *За што мяне́ мужы́к біў, / За якія ўчы́нкі? / Ці я яму́ не напра́ла / За год тры пачы́нкі?* (БНТ. Прыпеўкі, Машыньскі).

**ПАШНЯ́** *ж.* Праца пчол. (Машыньскі).

**ПЕВУ́Н** *м.* Певень. *От ён злавіў на ву́ліцы певуна́, запха́ў его́ за па́зуху да й панёс на карма́ш. Да пачалі тут дзецюкі́ шуткава́ць да сьмея́цца, што Міќіта хо́чэ быць над ба́бамі, бы певу́н над ку́рамі.* (Сержпутоўскі).

**ПЕЛЬ** *ж.* Палонка. (Сержпутоўскі).

**ПЕЛЯНА́** *ж.* Прыпол. *Выпраўля́ла мяне́ ма́ці па бе́лую глі́ну / А я ёй прынясла́ ў пеляне́ дзяці́ну* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ПЕРАПЕ́Ч** *ж.* Перапечка. *От намалаціў ён грэ́чкі, намало́ў, і напекла́ ба́ба све́жых перапе́ч по́ўну печ.* (Сержпутоўскі).

**ПЕРАПЕ́ЧА** *ж.* Вялікая булка. (Машыньскі).

**ПЕРАПЛО́Т** *м.* Азярод. (Машыньскі).

**ПЕРАПО́Й** *м.* Перад выездам да маладой сват сыпле ў новы кубак зерне аўса, налівае піва і, прыгубіўшы, падае бацькам маладога, ад якіх гэты кубак тройчы пераходзіць з рук у рукі па застоллі. (Федароўскі).

**ПЕРАПРО́СІНЫ** *мн.* Вечар, у які малады з маладой ходзяць па хатах і просяць прабачэння, калі некага чым-небудзь пакрыўдзілі. (Федароўскі).

**ПЕРАПЯЛУ́ХА** *ж.* Перапёлка. *Сава́ на по́куце / Скры́ва паглядае, / А перапялу́ха / Ха́ту замята́е.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ПЕРЕЛА́І** *мн.* Аблавы (на звяроў). (Кіркор).

**ПЕРЭЗО́Ў, ПЭРЭЗО́Ў** *м.* Гасціны ў хроснага бацькі пасля вяселля. *У каго́ ж гэ́тый перазо́ў, / К яму́ Гаспо́дзь Бог перайшо́ў / З Ю́р'ямі, з Мікала́ямі / І з усімі святы́мі* (з песні). (Машыньскі).

**ПЕРЭМО́Т** *м.* Пяньковая вяроўка, якая злучае плаху з рагачом у сасе. (Машыньскі).

**ПЕРЭПО́Й** *м.* Абдорванне маладых на вяселлі. (Машыньскі).

**ПЕТРЭ́ЦЬ** *незак.* Марнець, знясільвацца. *Ве́дамо, пано́м ча́су мно́го, а што лю́дзі да́рам петрэ́юць, дак ім кло́папату ма́ло.* (Сержпутоўскі).

**ПЕЧ** *ж.* Печ. *Печ абва́ліцца – пако́йнік у ха́ці, печа́ль* (сон). (Машыньскі).

**ПЕЧУРЫ́ЦА** *ж.* Шампіньён. (Машыньскі).

**ПІВА́К** *м.* П'яніца. *Ой, расцвіла́ ру́жа край акна́, / Ме́ла я му́жа, / Ме́ла я му́жа, / Ме́ла я му́жа півака́* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ПІПУХНА** *ж.* Люлька для курэння. *Хо́манька! Мяне́ і тату́ля уцо́ра пазва́ў і ка́жаць: "Ге́та, дацу́хна, да́й-ка мне піпухну [націск?]". – Запалі́ў жа ён... пык, пык.* (Хрэстаматыя 1962).

**ПІСКЛЯ́ТЫ** *мн.* Кураняты. ПІСКЛЯ́ТКІ *памянш. Мая́ ку́рачка-златапёрачка / Па двару́ хо́дзіць / Да піскля́так во́дзіць* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ПЛА́ЦЦЕ** *н.* Адзёжа, вопратка. (Машыньскі).

**ПЛАЎ** *м.* Багна, прыкрытая зверху дзярністай расліннасцю. (Машыньскі).

**ПЛА́ХА** *ж.* Палавіна кругляка. (Машыньскі).

**ПЛЕЦЬ** *ж.* Пад'ёмнае прыстасаванне ў пчаляроў, сплеценае з тонкіх вяровачак. (Машыньскі).

**ПЛІ́ШЧЫЦЬ** *незак.* З цяжкасцю валачы, цягнуць. *Назьбіра́ў ён грыбо́ў по́вен кашэ́ль, так што дзед чуць плі́шчыць. Накла́ў ён дабра́ по́ўную ка́йстру да чуць плі́шчыць на загуме́чэ, дзе яго́ чака́лі тава́рышы.* (Сержпутоўскі).

**ПЛО́ЙМА** *ж.* Навала. *Ены́ бы пло́йма ўсю́ды нахо́дзяць людзе́й і адбіра́юць у іх што запарву́ць.* (Сержпутоўскі).

**ПЛО́СКУНІ** *мн.* Мужчынскія асобіны канапель. (Машыньскі).

**ПЛУ́ЦЬЕ** *н.* Агароджа, вязаная з жэрдак ці плеценая з хворасту. (Машыньскі).

**ПЛЫТ, ПЛУТ** *м.* Плыт. (Машыньскі).

**ПЛЮ́ШНІК** *м.* Аер (расліна). (Машыньскі).

**ПЛЯ́ГА** *ж.* 1. Кара, няшчасце, пасланае лёсам. *Бак от так, куды́ ён ні пры́дзе, на каго́ ні зірне́, ко́жын ма́е сваю пля́гу, што яго́ грызе́.* 2. Бяда, ліха. *Яко́е то́лькі пля́гі нема́ на людзе́й.* 3. Нечысць (?). *Хаце́ў ён сарва́ць той цьвет, да то́лькі працегну́ў ру́ку, дак ось, мае́ вы каха́ненькіе, да атку́ль то́е ўзело́со, яко́е то́лькі пля́гі на его́ ні кі́нуласо.* 4. Лухта, невядома што. *От узя́ў ён з семі́ каlóдзісяў вады́, налі́ў яе́ ў пля́шку, насы́паў туды́ по́пелу, напха́ў вуглёў да й яшчэ́ яко́есь пля́гі да й пача́ў шапта́ць.* (Сержпутоўскі).

**ПЛЯ́СТАР** *м.* Кавалак мёду (у сотах). *Узя́ў пустэ́льнік у медзьведзе́й з лубка́ пля́стар мёду й часту́е папа́. Тым ча́сам медзьве́дзіца падышла́ к са́маму дуплю́, прыцягла́ маладзі́цы на лубку́ све́жых пля́страў мёду, палажы́ла, а сама́ паўзко́м папаўзла́ наза́д.* (Сержпутоўскі).

**ПО́ВАЛАЧ** *ж.* Пацяруха; дробнае сена. *Лю́дзі згрэба́юць по́валач і скла́даюць у рэ́дзгіны, каб прыне́сьці дамо́ў хаць аха́пачак. Валы́ гало́дные, аж снег хапа́юць да лі́жуць на ву́ліцы по́валач.* (Сержпутоўскі).

**ПО́ВАРАТКА** *ж.* Паварот. *Ось пад'ежджáе яна́ к ле́су, ба́чыць збо́ку – по́варатка. Зверну́ла яна́ на по́варатку да й паехала ле́сам.* (Сержпутоўскі).

**ПО́ГРЭБ** *м.* Склеп. (Машыньскі).

**ПОД** *м.* Ніжняя паверхня печы. (Машыньскі).

**ПО́ДБІЎ** *м.* Подбіўка (?), падбухторванне (?). (Машыньскі).

**ПОДРУ́ЧНЫЙ** *прым.* Левы вол ва ўпражцы. (Машыньскі).

**ПО́ДСКРАБАК** *м.* Маленькая булачка хлеба з рэшткаў цеста. *Пашкадава́ла яна́ дава́ць той по́дскабак, атрэ́зала ат яго́ акра́ец, да ба́чыць, што ён ве́льмо гара́чы, ве́дамо, то́лькі з пе́чы.* (Сержпутоўскі).

**ПО́ДЦЕЛАК** *м.* Цялушка. *І бы́ў у яго́* [багача] *по́дцялак, і ён сем год не цялі́ўся.* (Хрэстаматыя 1962).

**ПОЖА́Р** *м.* Пажар. *Пожа́р – бо́йка, смерць* (сон). (Машыньскі).

**ПО́ЖНЯ** *ж.* Іржышча. (Машыньскі).

**ПОЗВА́ННІКІ** *мн.* Удзельнікі вяселля. (Машыньскі).

**ПОКО́ЙНІК** *м.* Нябожчык. (Машыньскі).

**ПО́КУЦЬ** *ж.* Кут хаты з абразамі. (Машыньскі).

**ПО́ЛІЦА** *ж.* Левая дошчачка ў сахі. (Машыньскі).

**ПО́ЛОГАВЫ** *прым.* ○ ПО́ЛОГАВАЯ КУМА́. Парадзіха. *По́логавая кума́ пірапіва́ець к ста́ршай куме́, като́рая пад хрэ́ст несла́, та ей атпева́ець, кладзе́ць ей у ча́рку сяра́бряныя дзе́ньгі і пра́нікі ілі цуке́ркі, на ча́рцэ.* (Хрэстаматыя 1962).

**ПОЛЦЬ** *ж.* Вялікі кавалак сала. *А на тым банке́це камара́ забілі, / Чтэ́ры по́лці з камара́ саланіны злупілі* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ПО́МІНКІ** *мн.* Памінкі. *По́мінкі па нябо́жчыках спраўля́юць пяць разо́ў.* (Машыньскі).

**ПО́ПЛАЎ** *м.* Заліўны луг. (Машыньскі).

**ПОРОДЗІ́ЛЬЯ** *ж.* Парадзіха; цяжарная жанчына падчас родаў. (Машыньскі).

**ПОСА́Г** *м.* Грошы, атрыманыя маладой. *У на́шом селе́ не даюць поса́гі; по іншых сёлах даюць.* (Машыньскі).

**ПОСЁСТРА** *ж.* Прыяцелька. (Машыньскі).

**ПО́СКРАБАК** *м.* Маленькая булачка хлеба з рэшткаў цеста. *На сталé лежы́ць велізны бо́хан хле́ба, але́ жанчы́на пашкадава́ла до́браго хле́ба, а паскрабла́ ў дзежы́ да й пасадзіла ў печ по́скрабак, каб яго́ аддаць ста́рцом.* (Сержпутоўскі).

**ПОСТ** *м.* ○ ВЯЛІ́КІ ПОСТ. Пост перад Вялікаднем. (Кіркор).

**ПО́ЎЗІНА** *ж.* 1. Палка, хлудзіна, апоўзіна. *Вы́ганіць кабы́лу Гры́шка по́ўзінаю за плот – стаіць і не варухне́тца, та ён перацягне яе́ по́ўзінаю альбо́ чым папа́ло, плюне да й по́йдзе да гаспо́ды.* (Сержпутоўскі). 2. *зб.* Жэрдкі для замацавання саламянай страхі. (Машыньскі).

**ПО́ХОРОНЫ** *мн.* Пахаванне. (Машыньскі).

**ПРАДА́НЕ** *н.* Продаж. *Абступілі яго́ маскале́, закуры́лі саба́чыя но́жкі, гамо́няць да распыто́ўваюць, куды́ ён е́дзе й што везе́ на прада́не. Пашо́ў адзін чалаве́к на карма́ш. Нема́ ў его́ нічо́го на прада́не.* (Сержпутоўскі).

**ПРАЗВЕ́СЦІ** *зак.* Нарабіць, утварыць. *Адзін гаво́ра: "Вот я як празвеў ся́ньні! Што брат бра́ту во́чы павыку́луваў!"* (Хрэстаматыя 1962).

**ПРА́ЛІЦА** *ж.* Прасніца. *Яна́ пра́ліцу пад ла́віцу, / Верацёна пад крава́ць.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ПРАПЛІ́ШЧЫЦЦА** *зак.* Праціснуцца, прадрацца. *Пабе́гла мы́шка, ве́дамо, ена́ ўсю́дых зна́йдзе шчы́ліну да й праплішчытца. То́лькі ён праплі́шчыўся праз гушчэ́чу да вы́лез на прага́ліну – зірне́, аж там стаіць на за́дніх ла́пах велізазны, бы вол, медзьве́дзь.* (Сержпутоўскі).

**ПРАСА́ТЫ** *прым.* Хлопец, які ходзіць па хатах і апавяшчае, што ў суботу распачнецца вяселле і што маладыя запрашаюць усіх. (Федароўскі).

**ПРАСКУ́РА** *ж.* Булачка для касцельнага абраду. *Поп мяне́ ў алта́р кліча, / За па́зуху праску́ру ты́ча* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ПРАСТАЛЫ́ТКА** *ж.* З голымі нагамі. *Як жэ я пайду́ ў чараві́ках без панчо́х. Гэ́то ж мене́ дзе́ўкі засьмею́ць, ска́жуць, яка́ясь прастальы́тка.* (Сержптоўскі).

**ПРАЦЬ** *незак.* Перыць (адзенне). (Машыньскі).

**ПРАЧУ́ТКА** *ж.* Погаласка, чутка. *Так мале́нькая прачу́тка хо́дзіць з ха́ты ў ха́ту да ўсё расьце́, усё харашэ́е, і дату́ль яна́ гуля́е, паку́ль ка́зкаю ста́не. Пашла́ прачу́тка, што ў па́на ў пако́ях атубава́ўса чорт да й не дае́ пано́м жыць.* (Сержпутоўскі).

**ПРА́ШКІ** *мн.* 1. Глупства, хлусня. *А мо, – ду́мае, – гэ́то ўсе пра́шкі. Пра́шкі, Бог даў зе́млю й лес на ўсіх до́лю.* 2. Дарэмна. *Нарэ́шце даў яму́ до́хтар яко́гось зе́лья да й паехаў у двор к хво́руй пане́нцы. Дак от наза́ўтрэ бы рука́мі зняў. Пра́шкі лю́дзі ба́юць, што дохтурэ́ не памага́юць.* 3. Як бы не так. *Пра́шкі! Ат ліхо́е сі́лы не схава́ешса, мой мі́лы.* (Сержпутоўскі).

**ПРО́ЛУБКА** *ж.* Палонка. *Як пайду́ я па ваду́ / І старо́га павяду́. / У про́лубку галаво́й – / Пагуля́ю удаво́й.* (БНТ. Прыпеўкі).

**ПРО́СВІРНЯ** *ж.* Жанчына, якая выпякае праскуркі. (Машыньскі).

**ПРО́СКУРКІ** *мн.* Маленькія булачкі для касцельнага абраду. (Машыньскі).

**ПРОСЯ́НІК** *м.* Верабей (птушка). (Машыньскі).

**ПРО́ШЧА** *ж.* Багамолле. *Уба́чылі лю́дзі той цуд, памаліліса тут яны́ Бо́гу да й паста́вілі там крыж. І да тых час е там про́шча. Уся́кую пе́ршую недзе́льку зьбіра́юцца туды́ лю́дзі да мо́ляцца Бо́гу. Хадзіла яна́ па про́шчам, дава́ла на хвалу́ Бо́жую.* (Сержпутоўскі).

**ПРУГМЕ́НЬ** *м.* Панадворак, прыгуменне. *Вы́пусьціў то́лькі на пругме́нь папасьціса да замару́дзіў у ха́ці от як лю́льку закуры́ць, по́тым зірну́ў на пругме́нь, аж кабы́лы й нема́.* (Сержпутоўскі).

**ПРЫГРЭ́БІЦА** *ж.* Невялікі склеп. (Машыньскі).

**ПРЫГУМЕ́ЧЭ** *н.* Прыгуменне; прыбудова да гумна. *То́лько ена́ вы́шла, усхапіўса Гры́шка з пала́, зірну́ў у вакно́, ажно́ Матру́на пашла́ не ў су́тачкі, а на прыгуме́чэ.* (Сержпутоўскі).

**ПРЫДА́НАЕ, ПРІДА́НОЕ** *н.* Пасаг маладой. (Машыньскі, Федароўскі).

**ПРЫДА́НКІ** *мн.* Вясельныя госці з боку маладой. *Да прыда́нкі бяздо́мкі, / Што не е́дуць дамо́ўкі! / Ці дамо́вак не ма́юць, / Што ж аны́ не выяжджа́юць?* (з песні). (Машыньскі).

**ПРЫДА́НСКІ** *прым.* ○ ПРЫДА́НСКАЯ ВЯЧЭ́РА. Прыпасы, якімі частуюць бацькі маладой гасцей маладога. (Федароўскі).

**ПРЫДА́НЫЯ** *мн.* Вясельныя госці з боку маладой. *Прыда́ныя да каха́ныя, / Ва́шы ж вазы́ муля́ваныя, / Ва́шы ло́шадзі вабра́ныя, / Ва́шы ко́ні пахаджа́ныя* (з песні). (Машыньскі).

**ПРЫДА́НЬЕ, ПРЫДА́НЕ** *н. зб.* 1. Вясельныя госці з боку маладой. (Машыньскі). 2. Удзельнікі вяселля, якія суправаджаюць маладую. *Чыé то прыда́не блудзíло, / У чы́стом пóлю дорóжоньку згубíло? / Сюды́, сюды́, прыда́нечко, до сэлá / То сюдá-мо молодэ́нька везёна.* (Федароўскі).

**ПРЫДУ́ХА** *ж.* Замор; недахоп паветра. (Машыньскі).

**ПРЫЖМÓ** *н.* Пастронкі, якімі ярмо прымацоўваецца да рагача ў сасе. (Машыньскі).

**ПРЫЗАСЫ́ПАЦЬ** *зак.* Пакрыцца. *Што мая пасцéль бéла пы́лам прызасы́пала.* (Хрэстаматыя 1962).

**ПРЫКЛА́ДЗІНЫ** *мн.* Упарадкаванне магілы праз некаторы час пасля пахавання (замена крыжа, абкладванне магілкі ). (Кіркор).

**ПРЫЛÓМ** *м.* Паламаныя бурай ствалы дрэў. (Машыньскі).

**ПРЫ́МХІ** *мн.* Забабоны. *Чагó яны́ не рабíлі, якíх пры́мхаў не спраўля́лі, якíх зéльёў бáба не пілá, якíх варажбíтоў не прасíла.* (Сержпутоўскі).

**ПРЫПА́ДКІ** *мн.* Прыгоды, здарэнні. *От на другí дзень сабрáліса сыны́ ў хáту, сéлі вечэ́раць да й пачáлі раскáзваць, якíе з íмі за дзéнь былí прыпáдкі.* (Сержпутоўскі).

**ПРЫПÓЛОК** *м.* Правая, вузейшая дошчачка ў сахі. (Машыньскі).

**ПРЫРÓВАК** *м.* Затока. (Машыньскі).

**ПРЫ́САК** *м.* Гарачы попел. (Машыньскі).

**ПРЫСЛÓН** *м.* Месца, якое добра асвятляецца сонцам. ПРЫСЛÓНЧЫК *ласк.* *Рыжы чóрнага пытáў: / – Чым барадý фарбавáў? / – На прыслóнчыку ляжáў, / Ўгóру барадý трымáў.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ПРЫСТРЭ́К** *м.* Сурокі. *Быў здарóў, а тут рáптам пачáў качáцца жыватóм. Перш дýмалі, што гэ́то прыстрэ́к, што на другí дзень самó прóйдзе.* (Сержпутоўскі).

**ПРЫСТРЭ́ЧНЫ** *прым.* Вынік нешчаслівай сустрэчы. *Хварóба мóжа быць прыстрэ́чна.* (Машыньскі).

**ПРЭ́ГЧЫСЯ** *незак.* Высільвацца, старацца; моцна жадаць чаго-н. *Пражэ́цца Мекíннік, каб мець больш дабрá, так пражэ́цца, што й стрáхаў не баíцца, бо не мажэ́ вы́трымаць – такáя апанавáла ягó хцíвась.* (Сержпутоўскі).

**ПТАШЭ́ЧЫ** *прым.* Птушыны. *Пóтым енá пачалá насíць пташэ́чые я́йца.* (Сержпутоўскі).

**ПУГА́Ч** *м.* Філін. *Засталáся савá з пугачóм у хáце, / Танцавáла, па-францýзску íм казáла йгрáці* (з песні). (БНТ. Жарт. песні, Машыньскі).

**ПУДПУ́ДНІЦА** *ж.* Перапёлка (птушка). (Машыньскі).

**ПУ́КАЦЦА** *незак.* Лопацца, трэскацца. *Грызé ён чóрта, аж на ём шкýра пýкаецца.* (Сержпутоўскі).

**ПШÓНА** *ж.* Пшаніца. *Я не самá прáла / Кумá памагáла. / Далá кумé мíску пшóны / І тры кускí сáла* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ПШÓНКА** *ж.* Проса. *Мая мáці ні з хýда, ні з дабрá / Застáвіла пшóнку палóць* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ПШУ́ННЫ** *прым.* Прасяны (пра крупы). (Машыньскі).

**ПШЭ́ЙКА! ПШЭ́ЙКА!** *Выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць карову. (Машыньскі).

**ПЫ́СКА** *ж.* Рот. *Дак не тóлькі лю́дзі, а то кажы́, што й паны́ да яўрэ́і паразяўля́лі пы́скі да й дзівяцца, як гэ́то мужы́к éздзіць на гэ́стаком кані.* (Сержпутоўскі).

**ПЫТА́ЛІЦА** *ж.* Патыліца. *Стаíць поп пад дзéравам да чэ́шэ пытáліцу.* (Сержпутоўскі).

**ПЯВУ́Н** *м.* Певень. *Пакýль мýху прыбрáлі, / Певуны́ ўжо спявáлі.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ПЯРУ́Н** *м.* Гром. *Бог і святы́ Ілля́ перунáмі ў злы́я дýхі б'ю́ць.* (Машыньскі).

**ПЯРЭ́ВАРАЦЕНЬ** *м.* Вывернутае з зямлі дрэва. *А трэ́цьцій кáжа: "Агá, а калí б ён тут быў, да éта чуў, да зацясáў кол пярэ́варацянь з другóга кáнца, да с пярэ́лятка с чóрнага баранá с-пад прáвыя пахí вóўны настры́г, да забíў нáўхраст, да як тóлькі ты павéрняш, калí б ён кíнаў кол, то б і ірвáць закáяўся!"* (Хрэстаматыя 1962).

**ПЯРЭ́ЙМА** *прысл.* ◊ НА ПЯРЭ́ЙМА. Насустрач. *Ажнó ягó Кацяры́на на пярэ́йма вы́шла, / Сынкá ягó малéнькага на рукáх вы́нісла.* (Хрэстаматыя 1962).

**ПЯРЭ́ЛЕТАК** *м.* Гадавалая жывёла. *Далí яны́ ямý сто карбавáнцаў, ён зацясáў кол з другóга канцá, у пярэ́лятка вы́стрыг вóўны, нáўхраст завíў кол і стáў.* (Хрэстаматыя 1962).

**ПЯТУ́Х** *м.* Пятух (танец). (Федароўскі).

**РА́ДАЎНІЦА, РА́ДУНІЦА, РА́ДОВНІЦА** *ж.* 1. Памінкі праз год пасля смерці. (Кіркор). 2. Радаўніца. *На Рáдовніцу дзеды́ прáвяць.* (Машыньскі, Кіркор).

**РАГАТÓЎКА** *ж.* Канфедэратка (мужчынская шапка). (Машыньскі).

**РАГАЦЕ́НЬКА** *ж.* Трохзубыя вілкі з грушавага дрэва, абвітыя чырвонай ніткаю і аблепленыя цестам, якія ўтыкалі ў сярэдзіну каравая. (Федароўскі).

**РАГА́ЦІНА** *ж.* Паляўнічая прылада (дубіна з вострым абсмаленым канцом). (Машыньскі).

**РА́ДЗІЦЦА** *незак.* Раіцца. *Яны́ з жанóй рáдзюцца: як нам, гавóрыць, прáзьнічак прабы́ць?* (Хрэстаматыя 1962).

**РАДНÓ** *н.* Посцілка. (Федароўскі).

**РАДÓЎКА** *ж.* Радоўка (грыб). (Машыньскі).

**РА́ЖКА** *ж.* Цэбар. *Ці бóбу карóбу, / Ці грэ́чынкі рáжку / Малéнькай на кáшку.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**РАЖÓН** *м.* Пруток, на якім смажаць сала над кастром. (Машыньскі).

**РАЗБРІ́КІ** *мн.* Летні кірмаш. *Гéта калí былí нáшы разбрíкі [націск?], тагды́ я мшу бóськую атслýхаў, свéцку Бóгу пастáвіў, ніцóх ня пíў, ня éў і чакáў на кірмашý Зóсю...* (Хрэстаматыя 1962).

**РАЗВАРУ́ХА** *ж.* Заваруха, калатнеча. *І зрабі́ўса там велікі мецёж. Пашла́ така́я развару́ха, што ніко́му жыця́ нема́.* (Сержпутоўскі).

**РАЗГА́РЫ** *мн.* Свята, якое адзначаецца ў наступны пасля Тройцы тыдзень. *На Тро́йцу мы вянкі́ вілі, / На Разга́ры развіва́ем.* (Кіркор).

**РАЗГО́Н** *м.* ○ РАЗГО́Н ХМАР. Дажджавыя хмары можна разагнаць кіем, якім прыбілі жабу. (Машыньскі).

**РАЗДАБА́РВАЦЬ** *незак.* Размаўляць, гаварыць. *Сядзя́ць лю́дзі ў сьвя́то, от бы мы, раздаба́рваюць сабе́ аж да змро́ку.* (Сержпутоўскі).

**РАЗМА́Й** *м.* Прываротнае зелле. *Бяжы́, до́нька, да га́ю, / Шука́й зе́лля разма́ю. / Я разма́ю не зна́ю, / Хоць у людзе́й спыта́ю* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**РАЗШАЛО́ПАЦЬ, РАСШАЛО́ПАЦЬ** *зак.* Зразумець, раскумекаць, разабрацца. *То́лькі ось чу́е ён, што ўсе ў вадзі́н го́лас жа́ляцца да бедую́ць, але́ ніяк ён не разшало́пае, чаго́. Хаце́ў ужэ́ ён верну́тца да гаспо́ды, але́ заблудзі́ўса й не расшало́пае, куды́ йці.* (Сержпутоўскі).

**РАНДА́Р** *м.* Карчмар. *Бе́дны быў там поп, бе́дны й ранда́р, бо калі нема́ дахо́ду папу́, та нема́ й рандару́. Але́ ранда́р быў ве́льмі хі́тры жыд.* (Сержпутоўскі).

**РАПАРАВА́ЦЬ** *незак.* Рамантаваць, наладжваць. *А тым ча́сам Я́нка ўсё часце́й і часце́й пачалі зваць у дво́р та то́е, та сёе рапарава́ць ці перарабля́ць.* (Сержпутоўскі).

**РАСКО́Л** *м.* 1. Хуліган, разбойнік. *Не пазна́лі яны́, што гэ́то сын, бо ду́малі, што той ужэ́ даўно́ загі́б ці згніў у вастро́зе: яны́ до́брэ ве́далі, які́ ён быў раско́л да зло́дзей.* 2. Сектант. *Пашлі́ на́шы лю́дзі ў зарабо́ткі дзесь ве́льмі дале́ко да й папа́лі там раско́лаў.* (Сержпутоўскі).

**РАСПЛЕ́ЦІНЫ** *мн.* Здыманне з галавы вянка і расплятанне касы маладой. (Машыньскі).

**РАСТАНЦЫ́** *мн.* Скрыжаванне дарог. *От то́лькі вы́ехалі яны́ з двара́, аж на растанцо́х стаі́ць крыж. Ідзе́ ён да йдзе, аж ба́чыць – вісі́ць на пло́це кале растанцо́ў бе́лая бы снег мушчы́ньская саро́чка. Яшчэ́ й да тых час на растанцо́х ляжы́ць велі́зазны ка́мень.* (Сержпутоўскі).

**РАЎНЯ́** *ж.* Хто роўны з кім-н. па нейкіх прыкметах. *А гаспада́р на сваём агаро́дзе раўня́ ваяво́дзе. Напі́ўса ён яшчэ́ тае́ вады́, дак і чу́ецца, што яму́ німá раўні́ на ўсём сьве́ці.* (Сержпутоўскі).

**РЕ́ЧЫШЧЭ** *н.* Затока, рукаў ракі. (Машыньскі).

**РО́ГУЗ** *м.* Рагоз (расліна). (Машыньскі).

**РО́ЖА** *ж.* Ружа. *А ме́ньшая, кату́рую любі́ў каралевіч, про́сіць прывезьці́ ёй замо́рськую кве́тку ро́жы.* (Сержпутоўскі).

**РОЖЭСТВО́, РУЖАСТВО́, РОЗТВО́** *н.* Каляды. *Ой, на Ружаство́, да й на пе́ршы дзень. / Святы́ ве́чор, да ж на пе́ршы дзень. / Прышлі́ ж го́станькі да ж каля́днічкі / Калядава́ці, ра́на пыта́ці* (з песні). (Машыньскі).

**РО́ЗЫГРЫ** *мн.* Апошні дзень Тройцы. *Руса́ўкі напа́лі на чалаве́ка, што е́хаў на во́зе ў дзень Ро́зыграў. Чалаве́к абве́ў сябе́ тро́йчы тапаро́м, а по́тым кі́нуў яго́ ў іх напра́мку, тады́ ўцяклі́.* (Машыньскі).

**РОЙ** *м.* Рой. *Рой сні́цца – смерць.* (Машыньскі).

**РОЎ** *м.* Затока. (Машыньскі).

**РУСА́ЎКА** *ж.* Русалка. *Руса́ўкі жыву́ць на паля́х у жы́це, у вадзе́, а найчасце́й у гая́х. Руса́ўкі на тро́ечнай недзе́лі гра́юць.* (Машыньскі).

**РУСА́ЎНЫ** *прым.* ○ РУСА́ЎНА НЯДЗЕ́ЛЯ. Тыдзень перад Тройцай – Русальны тыдзень. (Машыньскі).

**РУЧА́ЙКА** *ж.* Няпоўнае верацяно напрадзенай пражы. (Машыньскі).

**РЫ́БА** *ж.* Рыба. *Як сні́цца жо́нцы, што ло́віць жывую ры́бу, то обере́менее.* (Машыньскі).

**РЫБІ́ТВА** *ж.* Чайка (птушка). (Машыньскі).

**РЫЖО́К** *м.* Рыжык. (Машыньскі).

**РЫ́МАР** *м.* Майстар, які вырабляе вупраж. *Ой хаце́ла ж мяне́ маць / За Ры́мара за́муж даць* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**РЫ́НДА** *ж.* Пра неахайнага чалавека. *Ой, сядзі́ць ры́нда да на пе́чы, / Як прышлі́ ж к ры́ндзе тры жаніхі́, / Ой, узялі́ ж ры́нду тады́ варухі́. / Пабе́гла ры́нда па сусе́дках* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**РЫ́ХВА** *ж.* Жалезнае колца, рэхва. (Машыньскі).

**РЭЗ** *м.* Паласа зямлі, надзел, загон. *То́лькі падышо́ў к свайму́ рэ́зу, аж ба́чыць – у яго́ аўсе́ пасу́цца ко́ні.* (Сержпутоўскі).

**РЭЗА́К** *м.* Асака (расліна). (Машыньскі).

**РЭ́КУЗ** *м.* Ганьба, адмова (?). *Дзе́ўка ко́жнаму хло́пцу дае́ рэ́кузь.* (Сержпутоўскі).

**РЭ́МЕЗ** *м.* Рэмез (птушка). (Машыньскі).

**РЭШУ́ТКА** *ж.* Рашэтнік (грыб). (Машыньскі).

**САБА́КА** *м.* Сабака. *Саба́ка як ла́шчыцца – шча́сце* (сон). (Машыньскі).

**САДЗІ́ЦЬ** *незак.* Бегчы, імчаць. *Са́дзіць рага́ль про́ста на яго́, са́дзіць, аж зямля́ сто́гне, да то́лькі рага́мі але́шнік ло́міць.* (Сержпутоўскі).

**СА́ЖАЎКА** *ж.* Сажалка. (Машыньскі).

**САКАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Прапасці, згінуць. *Дры́гаў паву́к, дры́гаў, аж у по́яс вы́граб я́му да й сакале́ў.* (Сержпутоўскі).

**САКО́ЛЛІ** *прым.* Сакаліны. *Вы́шла, што сако́льле мя́са е́ла кума́ во́йціха.* (Хрэстаматыя 1962).

**САЛАВЕ́Й** *м.* Салавей. *Салаве́й пачына́е спява́ць, як то́лькі Хрыста́ з крыжа́ зды́ймуць. Як то́лькі Хрыста́ здо́ймуць, то он і засві́шчэ.* Спеў салаўя пераказваюць словамі: *цы-ган, цы-ган, сала пёк, пёк, пёк, кап, кап, кап, кап, цюррр...* (Машыньскі).

**САМАСЕ́Й** *м.* Байструк; незаконна народжанае дзіця. (Машыньскі).

**САМЕ́Ц** *м.* Частка сеткі за матнёй. (Машыньскі).

**САПСЕ́ЦЬ** *зак.* Састарыцца, стаць нямоглым. *Пра́ўда, – ка́жэ саба́ка, – бо паку́ль я быў малады́ й*

*до́брэ служы́ў сваймý хаджáіну, датýль ён сяк-так ешчэ́ мене́ карміў і трымáў у дамóўцэ, а от як я сапсéў да занегóж, дак ён і прагнáў мене́ з ачóў.* (Сержпутоўскі).

**САРАМАЦЕ́НЕ** *н.* Патаемныя часткі цела. *Стаíць гóлая, у чом мáці радзíла, тóлькі кóсамі закры́ла сарамацéне. Чамý ж ты, шанýючы гэ́стага дзенькá светóго й я́снаго сóнейка, не пацалавáў еé ў сарамацéне? Сераўнó ж цéло.* (Сержпутоўскі).

**САРАЧНЯ́** *ж.* Сорак штук чаго-н. *От гэ́стым і жывíласа тáя бáба ўжэ пéўне гадóў з сарачню́.* (Сержпутоўскі).

**САРО́КА** *ж.* Сарока (птушка). *Даўнéйшы фýрман з Дарашэ́віцкага дварá заўсёды сарóк у стáйні вéшаў, каб нóччу дамавíк на кóнях не éздзіў.* (Машыньскі).

**САТАНА́** *м.* Ахоўнік кладаў. (Кіркор).

**САТНІ́** *мн.* Сачні, праснакі. *Бáба сатнёў напяклá, / Самá пайшлá ў пагóст. / – Ах ты, бáцюшка папóк! / Адламí-ка сатня́, / Памянí-тка казлá.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**САТНУ́ЦЬ** *зак.* Ссячы. *Ухвацíў Кавáль Багаты́р сваю сакéру да як махнýў, дак адрáзу сатнýў сем дубóў і гóлаў змéю.* (Сержпутоўскі).

**САХА́** *ж.* Саха; сельскагаспадарчая прылада для ворыва. (Машыньскі).

**СВАВО́ЛЯ** *ж.* Свавольства, разбэшчанасць. *Прызнаю́ся вам, лю́дзі, / Вам, лю́дзі. / Што за сваю свавóлю, свавóлю, / Папáлася ў нявóлю, / Ў нявóлю* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**СВА́НЬКА** *ж.* 1. Свацця. *Наша свáнька Гану́ся / Да ў пазы́чанум кажýсі. / Нáша свáнька падпілá, / Да ў салóмі спаць леглá* (з песні) (Федароўскі). СВА́НЕЧКА *ласк. Свáнечко, парáдначко, адпусцíся, / За кілíшак Бóжае мóцы бяры́ся* (з песні). (Федароўскі). 2. Маці нявесты ў адносінах да маці жаніха. *Свáнька свáньцы пакланíлася, / Каб маíм дзéцем не глумíлася* (з песні). (Федароўскі).

**СВАТ** *м.* Сват; хто сватае каго-небудзь, удзельнічае ў сватанні. *У нáшага свáта ўсе дóбра вялóса, / І старэ́і малэ́е, ўсё ў бóкі ўзялóса. / Як у нáшага свáта ўсю́ды рóўна, / І старóму, і малóму пагуля́ці вóльна.* (Машыньскі). *А ты, свáце, баламýце, / Мнóго п'еш, мнóго п'еш, / А ты, свáце, баламýце, / Усéнько лжэш, усéнько лжэш!* (з песні). (Федароўскі). ○ СТА́РШЫ СВАТ. Хросны бацька маладога. (Машыньскі).

**СВАТЫ́** *мн.* 1. Абрад сватання; прыезд маладога са сваім сватам у дом маладой. *У сваты́ ідýць тры чалавéкі: хрóсны бáцька, рóдны бáцька і дзядýля жанíхá.* (Машыньскі). *Наéхалі сваты́ / З галóдного крáю. / Як сéлі, свіню́ з'éлі. / На столé ні кры́шэчкі, / А под столóм ні кóстэчкі* (з песні). (Федароўскі). 2. Бацькі маладых паміж сабою. (Федароўскі).

**СВА́ХА** *ж.* 1. На вяселлі родзічка з боку маладой у адносінах да родзічаў маладога, і наадварот. СВА́ШАЧКА *ласк. Ой, у лýзі салавéйка гнездó ўе. / Ці ўсім свáшачкам мéста е? / А катóрай нямá, дак масцíце / Да ўсíх свáшачак садзíце.* (Машыньскі). 2. Маці мужа ў адносінах да маці ці бацькі жонкі або маці жонкі ў адносінах да маці ці бацькі мужа. *Свáха свáсі укланíласа, / Штоб з магó дзіця́тка не глумíласа, / Штоб клáла спáці на змяркáннейку, / Штоб пабуджáла на снядáннейко.* (Машыньскі). ○ СТА́РША СВА́ХА. Хросная маці маладога (маладой). *Стáршая свáха ўсю нóчку не спáла, / Сарóчку латáла, на вясéлле хватáла* (з песні). (Машыньскі, Федароўскі).

**СВЕНЦО́НАЕ** *н.* Свянцонае. (Кіркор).

**СВЕ́ТАК** *м.* Досвітак. *Тым чáсам, пакýль ён з калóдзезя ды ў калóдзезь лáзіў, пóўнач даўнó прайшлá, на свéтак забірáць стáла.* (Хрэстаматыя 1962).

**СВЕЦЕ́ЛЬНІЦА** *ж.* Сястра маладога, якая трымала свечкі падчас вянчання. (Машыньскі).

**СВЁКАР, СВЮ́КАР** *м.* Свёкар. *У свёкра на дварэ́ імглóю упáла, / У нóвые сéні пчалóю ўлецéла, / У свёкра за сталóм пáняю сéла* (з песні). (Федароўскі). *Й а на сíнюм мóры шчýка-ры́ба й іграе, / Й а свёкар нявéхну да перапівáе* (з песні). *Аднá бядá – свякрóўка ліхáя, / А другáя бядá – свю́кар найлішэ́йшы* (з песні). (Машыньскі).

**СВЁКАРКАВА** *прым.* Свёкрава. *Ой, не плач, Мары́сько, ой, не плач, / У óйчанькавай хáтцы ты не плач, / А тагды́ сíльненько заплáчаш, / Як свёкаркаву забáчыш* (з песні). (Федароўскі).

**СВІННЯ́, СВІНЯ́** *ж.* Свіння. *Чóрна свіня́ – недóбрэ: ці смерць, ці недýга.* □ *Не да парася́т, калí свíнню смáляць.* (Машыньскі).

**СВІРО́НАК** *м.* Свіран. (Машыньскі).

**СВІЦЯЗЯ́НКА** *ж.* Русалка з возера Свіцязь. (Кіркор).

**СВЯКРА́ТКА** *ж.* Свякроў. *Да свякрáтка нявíхну / У варóт устрачáе / Да дóлю пытáе: / "Ці шчаслíва нявíхна? / Ці ўрадлíва нявíхна?"* (з песні). (Машыньскі).

**СВЯКРО́ЎКА** *ж.* Тое ж. *Да вы́несь, свякрóўка, нóву дзяжý: / Вязóм табé нявíхну-дзербазý. / Да вы́несь, свякрóўка, лапáту: / Вязóм табé курапáту* (з песні). (Машыньскі).

**СВЯКРУ́ХА** *ж.* Тое ж. *Я мядзвéдзю саладзíн падкíну, / Сваю свякрýху пяры́наю накры́ю. / Няхáй мядзвéдзь саладзíнкі смóкча, / А мая́ свекрýха у перы́нах квóкча* (з песні). (Федароўскі).

**СВЯ́ТКІ** *мн.* ○ ЗЯЛЁНЫЯ СВЯ́ТКІ. Тройца. *Падчáс Зялёных свя́так асцерагáліся хадзíць у лес. Мóжна былó пачýць спéвы русáвак, якíя завáблівалі людзéй, а звáбленых русáўкі замýчвалі насмéрць.* (Машыньскі, Кіркор).

**СЕЛЕДО́РШЫ** *прым.* Сярэдні. *На другí дзень трэ йцí селедóршаму брáту. Селедóршая дачкá прóсіць прывéзьці ёй такíя гýсьлі, каб яны́ сáмі грáлі.* (Сержпутоўскі).

**СЕЛЯ́ВА** *ж.* Сялява (рыба). (Кіркор).

**СЕ́НА** *н.* Сена. СЕ́НАЧКА *ласк. Нашто́ тáя кóска? / – Сéначка касíці.* СЕ́НЦА, СЯНЦО́ *ласк.*

*Нашто тóе сéнца? / – Карóўкі карміці. / А нашто кóска / – Сянцó косіць?* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**СЕРА́К** *м.* Заяц шэры. (Машыньскі).

**СЕРПАНО́К** *м.* Намітка (галаўны ўбор замужніх жанчын). (Машыньскі).

**СЕРПОРЭ́З** *м.* Крываўнік (расліна). (Машыньскі).

**СЕЦЬ** *ж.* ○ ПЛАЎЎЧА СЕЦЬ. Рыбалоўная сець, якая складаецца з трох палотнаў, накладзеных адно на другое, як старонкі кнігі. (Машыньскі).

**СІВОКРА́КА** *м.* Сіваваронка (птушка). (Машыньскі).

**СІКУ́Н** *м.* Парушэнец (расліна). (Машыньскі).

**СІ́ТНІК** *м.* Сітнік (расліна). (Машыньскі).

**СКАВАРАДА́** *ж.* Патэльня. СКАВАРАДЗЁНКА *памянш. Прапіў мужык чапялу́, / Прапіў скавaрадзёнку, / Мужыкóва жóнка – / Ла́пці і абóры / І ўсе свае забóры* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**СКАВАРО́ДНІК** *м.* Праснак, спечаны на скаварадзе. (Кіркор).

**СКАЛО́ЦІНЫ** *мн.* Маслёнка. (Кіркор).

**СКАЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Вылятаць у разведку (пра пчол). (Машыньскі).

**СКАМАРО́ХІ** *мн.* Скамарохі. (Кіркор).

**СКАРЭ́ДА** *агульн.* Скнара, скупянда. *Ён быў такі скарэ́да, што не то, каб другім, але́ й сам сабе́ шкадава́ў давóлі наéсьціса.* (Сержпутоўскі).

**СКА́ЦЕРКА** *ж.* Абрус. (Машыньскі).

**СКЛЕП** *м.* Дамавіна. (Машыньскі).

**СКЛО́КА** *ж.* Смерч, ураган. *То нахóпітца склóка да й пакру́ціць, палóміць усé збóжэ.* (Сержпутоўскі).

**СКО́МШЫЦЬ** *зак.* Скамячыць. *Дык ён, гэ́тый ма́лец, як абсту́пюць яны́ ягó, дык ён скóмшыць камóк зямлі́ абы́ снéгу зімóй, катóраму дасць – на мéсьці й дух вон.* (Хрэстаматыя 1962).

**СКОТ** *м.* Буйная рагатая жывёла. (Машыньскі).

**СКРАМПАВА́ЦЬ** *зак.* Звязаць, скруціць. *Тут маскалі́ напа́лі на егó, скрампава́лі верóўкамі й веду́ць к пана́м.* (Сержпутоўскі).

**СКРЫ́ПЕЛЬ** *м.* 1. Губа (на дубовых вываратнях). 2. Губа, што расце на збуцвелых калодах і пнях, якая ўжо стала цвёрдай. (Машыньскі).

**СЛЕ́ПАТ** *м.* Дзікія пчолы. *І людзі карыста́лі: лавілі ўселя́кага звéра, бра́лі ў дуплена́тых дзераўля́ках ат сьлéпата мёд і воск. Тра́піў ён у дзéраве слéпат, паглядзéў, што пчóлы збіра́юць мёд на патрэ́бу людзям да воск на хвалу́ Бóжую. Людзі хадзі́лі ў лес шука́ць слéпата да зьбіра́ць салóдзенькі мядóк.* (Сержпутоўскі).

**СЛІМАЗА́РНЫ** *прым.* Невялікі, убогі, варты жалю. *Але́ ён, як і другіе мужыкі́, меў сабе́ якýюсь слімаза́рную гаспада́рку й на́ват найшóў сабе́ жóнку.* (Сержпутоўскі).

**СЛУКА́** *ж.* Слонка (птушка). (Машыньскі).

**СЛУЧЫ́ЗНА** *ж.* Случчына. *У ягó былó мнóго маёнткаў па ўсёй Случы́зне.* (Сержпутоўскі).

**СЛЫКАТА́ЦЬ** *незак.* Казытаць. *Хлапчу́к ціхенько забра́ўса к па́ні пад сукнó да й дава́й там слыката́ць.* (Сержпутоўскі).

**СМА́РШЧЫКІ** *мн.* Смаржкі (грыбы). (Машыньскі).

**СМЕЦЮ́Х** *м.* Аўсянка (птушка). (Машыньскі).

**СМО́ЛНО** *прысл.* Назойліва, нахабна. *Пача́ў тут пан смóлно прыстава́ць да таé дзéўчыны та грóзьбаю, та прóсьбаю.* (Сержпутоўскі).

**СНЕГ** *м.* Снег. *Снег як сніцца, як по снéгу хóдзіш – смерць у селі́.* (Машыньскі).

**СНІГУ́Р** *м.* Снягір (птушка). (Машыньскі).

**СНЕТ** *м.* Верхняя накрыўка борці. (Машыньскі).

**СОБАКА́РНІК** *м.* Чарада (расліна). (Машыньскі).

**СО́КОЎ** *м.* Сокал. *Сóкоў сніцца – дабіва́юцца жаніхі́.* (Машыньскі).

**СО́ЛАММЕ** *н.* Чэлюсць печы. (Машыньскі).

**СОН** *м.* Сон. СО́НЧЫК *ласк. Хадзі́ў катóк па капу́сце, / Насі́ў сóнчык ў бéлай ху́сце, / Усім сóнчык прадава́ў, / А табé, Зóсю, дарма́ даў.* СО́НЕЧКА *ласк. Ой, сóнечку-галубóчку, / Прыспі́ маю Гану́лечку.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**СО́НЦА, СО́ЎНЦЭ, СО́НЦЭ** *н.* Сонца. *Як тоска́ чоловéку і сóнцэ сніцца, то та́я тоска́ зы́йдзе.* (Машыньскі). СО́НЕЙКА, СО́ЎНЕНЬКО *ласк. Сóнейка, сóнца, / Вы́гляні ў акóнца.* СО́ЎНУШКА *ласк. Сóўнушка-я́друшка, / Вы́гляні, вы́гляні!* (БНТ. Дзіцячы фальклор, Машыньскі).

**СО́ПКІ** *мн.* Магільныя курганы. (Кіркор).

**СО́ПУХА** *ж.* Адна з назваў багіні Лады. *А хадзі́лі дзéцюшкі Бóгу помолі́цься, / Стоўб абніма́лі, печ цалава́лі, / Перад Сóпухай крыжóм ляжа́лі* (з песні). (Кіркор).

**СОРОКОПУ́Т** *м.* Птушка (?) (Машыньскі).

**СОХА́** *ж.* Слуп з развілкай у калодзежным жураўлі. (Машыньскі).

**СО́Я** *ж.* Сойка (птушка). (Машыньскі).

**СПА́ДКІ** *мн.* Спадчына. *Але́ ось памёр стары́ ба́цько, й пачалі́ браты́ дзелі́ць спа́дкі.* (Сержпутоўскі).

**СПА́ТКІ** *незак.* Спаць (у звароце да дзіцяці). *Ба́ю-ба́енькі-ба́ю, / Мі́шку спа́ткі палажу́.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**СПАДНЯ́К** *м.* Ніжні камень млына. (Машыньскі).

**СПАДНЯ́К** *м.* Правы сашнік, больш вузкі і востры. (Машыньскі).

**СПЕРАЗА́ЦЬ** *зак.* Аперазаць, сцебануць, ударыць. *Дзе ба́ба пачасту́е кавенёю або мéшалкаю, дзе гаспада́р сперажэ́ пу́гаю абó сьвíсне цэ́пам, а яму́ хаць бы што – сьлепіцаю лéзе ў вóчы.* (Сержпутоўскі).

**СПОД** *м.* Ніжняя частка якога-н. прадмета; падэшва. СПАДО́ЧАК *памянш.-ласк. Патапта́ла чараві́чкі, / Са́мыя спадóчкі* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**СПО́ДНІ** *прым.* Ніжні. *От пазва́ў ён ма́йстра, аглéдзяў той дай вы́каваў у млын спóдні ка́мень з тагó вялі́зазнага ка́меня, што да́рам валя́ўся на шляху́.* (Сержпутоўскі).

**СПО́ЛІК** *м.* Драўляны чарпак, якім выліваюць ваду з чоўнаў. (Машыньскі).

**СПО́НКА** *ж.* Запанка. *А жо́нка стаіць над ім кру́кам, во́чы блішча́ць, бы спо́нкі, стаіць і аж дрыжы́ць, така́я яе́ бярэ́ ціка́васьць.* (Сержпутоўскі).

**СПОЎ** *м.* Драўляны чарпак, якім выліваюць ваду з чоўнаў. (Машыньскі).

**СПРАКАНА́ЦЦА** *зак.* Пераканацца. *До́брэ ста-ро́му хлусіць да плёткі насіць, бо як тут дагада́цца, калі́ не́льга спракана́цца.* (Сержпутоўскі).

**СПРО́СІНЫ** *мн.* Маладая з дру́жкамі і малады з дружка́мі запрашаюць сваякоў і суседзяў на вяселле. (Федароўскі).

**СПЯТРА́ЦЬ** *зак.* Высахнуць, змізарнець. *Спятра́ў за ты́е дні, але́ нарэ́шце дагада́ўса, што без гро́шэй харо́шэй.* (Сержпутоўскі).

**СРЭ́БЛО** *н.* Срэбра. *Поп схапі́ў з яго́ лайно́ да й дава́й разрыва́ць рука́мі ла́ткі да разгрыза́ць зуба́мі. Разгры́з, а срэ́бло аттуль так і пасы́паласо.* (Сержпутоўскі).

**СТАВІ́ЧЫК** *м.* Прыстасаванне ў станінах на ставах (?). *Я малёнькі хло́пчык / Узлёз на ставі́чык, / У ду́дачку йгра́ю / Хрыста́ забаўля́ю.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**СТА́РАЦ** *м.* Старац, жабрак. *У на́с старцо́ў гледзя́ць: страшэ́нно да́раць.* (Машыньскі).

**СТАРО́ГА** *ж.* Варта. *А сыч у паро́зе / Стаіць на старо́зе, / Сыч упі́ўся, павалі́ўся, / Лёг спаць у даро́зе.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**СТАРЫЧЫ́ШЧА** *м. экспр.* Стары муж. *А ў мяне́, маладо́е, стары́ старычы́шча, / Не пуска́е мяне́ на йгры́шча* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**СТАЎ** *м.* Сажалка. *А ён, калі не нап'е́цца, дак ці што ўпечэ́, ці па́ньскім ко́ням хвасты́ паабрэ́звае, ці во́ду з става́ вы́пусьціць, або́ ўдзерэ́ яшчэ́ яку́ю-не́будзь шту́ку, што й смех лю́дзям сказа́ць.* (Сержпутоўскі).

**СТОЛ** *м.* Стол. ○ СТОЛ (стуў) ГОРЯ́ЧЫЙ. Памінкі адразу пасля пахавання. (Машыньскі).

**СТО́ЛЯ** *ж.* Столь. (Машыньскі).

**СТРАЛЁЦ**, **СТРЕЛЁЦ** *м.* Паляўнічы. *Цяга́ецца стралёц, аж у яго́ жы́лы рву́цца, а прыбы́тку німа́ ніякаго.* (Сержпутоўскі). □ *У стральца́ дым густы́, але́ абе́д пусты́.* (Машыньскі).

**СТРІ́ЧАНЬЕ** *н.* Грамніцы, Стрэчанне. (Машыньскі).

**СТРУЖЫ́НА** *ж.* Ажына (кусцікі і ягады). (Машыньскі).

**СТРЫ́ГА** *ж.* Чараўніца высокага росту з распушчанымі валасамі і зялёнымі вачыма. (Кіркор).

**СТРЫНА́ДКА** *ж.* Пліска (птушка). *Прыляцелі стрына́дкі, / Пасе́лі на гра́дкі* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**СТРЭХА́** *ж.* Страха. (Машыньскі).

**СТУ́ДЗЕНЬ** *м.* Халадзец (страва). (Машыньскі).

**СТУ́ПА-АЛЕ́ЙНІЦА** *ж.* Драўляная калода на тонкіх ножках, у якой у сярэдзіне выдзеўбана наскрозь варонкападобная выемка. (Машыньскі).

**СУ́БАР** *м.* Сумесь аўса, грэчкі, ячменю і жыта, змеленых разам з шалупіннем. (Кіркор).

**СУБО́ТА** *ж.* ○ КРА́СНА СУБО́ТА. Субота перад Вялікаднем, калі фарбуюць яйкі. ○ ВЯЛІ́КА СУБО́ТА. Тое ж. (Машыньскі).

**СУ́ВАРАТЫ** *мн.* Балота, зараслае кустамі. *Ба́чыць, што яго́ вы́кінулі за плот, як сцёрву, от ён ціхенько й папо́ўз у су́вараты. Там, ма́быць, адле́жаўса й саўсім ускара́бкаўса. От Хрысто́с прыўе́ў таго́ чалаве́ка ў су́вараты, паказа́ў яму́ рага́ч да й зрабі́ў з яго́ сохý.* (Сержпутоўскі).

**СУЖО́НКО** *м.* Суджаны. *Кацíўсе крышта́ль па сенажа́ці, / Заду́маў сужо́нко дзёваньку ўзя́ці. / Ой, ты, дзёванько, ой ты, лілёя, / Мае сэ́рданько да цібе́ млёя* (з песні). (Федароўскі).

**СУЗДРО́М** *прысл.* Зусім, цалкам. *Суздро́м аша-лёла ба́ба.* (Сержпутоўскі).

**СУКО́НКІ** *мн.* Анучы з сукна. (Машыньскі).

**СУПАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Адпачыць. *Ішо́ў па свёце Хрысто́с з Па́ўлам-Пятро́м, до́ўго яны́ хадзілі, патамі́ліса й шука́лі, дзе б ім супачы́ць.* (Сержпутоўскі).

**СУПО́НІЦА** *ж.* Кашуля, пашытая з тонкага палатна, якой маладая адорвае свякруху і свёкра. (Федароўскі).

**СУРО́МЕЦ** *м.* Раменьчык з сырамятнай скуры. *Вы́цяг венгёрац з кішэ́ні суро́мяц, прывезя́ў ім к жэ́рдачцы па́ньскіе ру́кі, заткну́ў па́ну ве́хцям го́рло, узя́ў хварасці́ну да й ка́жэ: "Што гэ́то, па́не, беро́за ці лаза́?* (Сержпутоўскі).

**СУ́СЛІЦЬ** *незак.* Слініць, змочваць слінаю. *Седзімо́ мы, а ба́ба су́сліць зрэ́бе да ка́жэ ка́зкі, каб мы не заснулі.* (Сержпутоўскі).

**СУ́ТАЧКІ** *мн.* Вузкі праход паміж сценамі сумежных будынкаў. *Не трэ́ба табе́ ні дроў, ні пе́чы... вары́ сабе́ гу́гель хаць у су́тачках.* (Сержпутоўскі).

**СУСТРЭ́К** *м.* Сустрэча. *От тагды́ князь Каха́нко прые́хаў к ёй на сустрэ́к верхо́м на лосю́.* (Сержпутоўскі).

**СУХАРЭ́Ц** *м.* Сухар. *Ой, не бярэ́ прымачэ́ньку / З бо́хана цало́га. / Адно́ бярэ́ на палі́цы / Сухарца́ цвіло́га* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**СУ́ШНЯ** *ж.* Сушня; памяшканне для сушкі лёну. (Машыньскі).

**СЦЯБЛО́** *н.* Журавель (у студні). (Федароўскі).

**СЫ́РНІКІ** *мн.* Варэнікі з творагам. (Кіркор).

**СЫРАВА́ДКА** *ж.* Сыроватка. *Не́шта мая́ каса́ ту́па, / Му́сіць мая́ жо́нка ску́па. / Навары́ла сырава́дкі, / Прынясла́ палу́днаваці* (з песні). СЫРАВА́ТАЧКА *ласк.* *Прынясла́ мне абе́даці / Ды го́лай сырава́тачкі / І то ло́жку забы́лася. / Яна́ па ло́жку вярну́лася – / Сырава́тачка абярну́лася* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**СЫРАДО́Й** *м.* Свежавыдаенае малако. (Машыньскі).

**СЫРЦЫ́** *мн. ласк.* Сыры́ *мн.*, сыр *адз.* *А нашто́ мле́чка? / – Сырцы́ ляпіці. / А нашто́ сырцы́? / – Пас-*

*тухоў карміці.* СЫ́РЧЫКІ, СЫРО́ЧКІ *Нашто́ то мало́чка? / – Сы́рчыкі рабіці. / Нашто́ ты́е сыро́чкі? / – Хло́пчыкаў карміці.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**СЫТА́** *ж.* Падсалоджаная мёдам вада. (Машыньскі).

**СЫ́ТКА** *ж.* Пліска (птушка). (Машыньскі).

**СЬВЯТО́К** *м.* Невялікае свята. *А тут нахапі́ўса якісь сьвято́к; не то, каб ужэ́ яко́е велікае сьвя́то, але́ ўсе ж сьвято́к. Быў якісь сьвято́к, але́ які́, от запа́мятаваў ве́чным пра́вам. Ну, але́ ўсе ро́ўно. Сьвято́к дак сьвято́к.* (Сержпутоўскі).

**СЬЛЕ́ПАТ, СЬЛЕ́ПЯТ** *м.* Рой (сям'я) дзікіх пчол. (Машыньскі).

**СЬЦЕ́ЛЬНІК** *м.* Пласт сотаў з мёдам. (Машыньскі).

**СЬЦІ́СЛО** *прысл.* Сціпла, ашчадна. *Гарава́ў, працава́ў, а жыў сьці́сло...* (Сержпутоўскі).

**СЯРМЯ́ГА** *ж.* Верхняе адзенне з шэрага сукна. □ *Сва́я сярмя́жка не ця́жка.* (Машыньскі, Кіркор).

**СЯРЭ́ДЗІНА** *ж.* Паясніца, крыж. СЕРАДЗІ́НКА *ласк. Я палю, палю – не по́ліцца, / Серадзінка мая́ ло́міцца* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**СЯСТРО́НКА** *ж.* Дваюрадная сястра. (Федароўскі).

**ТАЛАКНО́, ТОЛОКМО́** *н.* Страва, прыгатаваная з тоўчанага на муку аўса. (Машыньскі).

**ТАПО́Р** *м.* □ *Знайшо́ў тапо́р пад ла́ваю.* (Машыньскі).

**ТАРЖО́К** *м. ласк.* Месца гандлю; базар, рынак. *Не хадзі на таржо́к ты да ме́станька, / Не купля́й ты лянку́ ні паве́сманька.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ТАРТА́К** *м.* Конны млын. (Машыньскі).

**ТВО́РЫЦЬ** *незак.* Напырскваць унутры пустой борці растворам, які служыць для заваблівання раёў. *Ой, у бору́ сосна́ то́нкая і ўсо́ка, / А на той жэ сосне́ там муй ба́цько тво́рыць* (з песні). (Машыньскі).

**ТНУЦЬ** *незак.* Іграць, утвараць гукі, датыкаючыся да струн (?). *Чаму́ ж мне не пець, / Чаму́ ж не гудзе́ць? Му́шка на ваке́нцы / Ў цымба́лкі тнець* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ТОВА́Р** *м.* Буйная рагатая жывёла. (Машыньскі).

**ТОРП** *м.* Застаронак у гумне. *Лю́дзі, – ка́жэ, – усе́ памалаці́лі, а ў нас стаі́ць у то́рпе.* (Сержпутоўскі).

**ТО́ЎСТАЯ** *ж.* Цяжарная. *Застала́са маладзі́ца ўдаво́ю да яшчэ́ й то́ўстая. От і ка́жэ яна́ каралю́, што нарэ́шце ста́ла то́ўстаю.* (Сержпутоўскі).

**ТРАКТАВА́ЦЦА** *незак.* Частавацца. *А ў той пе́чы – до́брыя рэ́чы: / Стра́ўкі гату́юцца, / І го́сьці тракту́ются.* (Хрэстаматыя 1962).

**ТРА́НЦЫ** *мн.* Лахманы. *Надаело Пятру́ хадзі́ць у тра́нцах, а мо́жэ, яго́ й во́шы заелі, от і пазарыўса ён на чы́стае пла́це да й укра́ў сабе́ адну́ саро́чку.* (Сержпутоўскі).

**ТРАПА́ЛА** *н.* Трапашка; доўгая тонкая лапатка, якой трэплюць лён. (Машыньскі).

**ТРАСКУ́Н** *м.* Моцны мароз. *Не было́ ні адна́е адлі́гі, трыма́е траску́н.* (Сержпутоўскі).

**ТРАЯНЫ́** *мн.* Драўляныя вілы з трыма сукамі на канцы. (Машыньскі).

**ТРО́ЕЧНЫ** *прым.* ○ ТРО́ЕЧНАЯ НЕДЗЕ́ЛЯ. Русальны тыдзень. *На ўсей тро́ечной недзе́лі немо́жно купа́цца, бо непрэме́нно уто́не: руса́ўкі ухо́пяць.* (Машыньскі).

**ТРО́ЙЦА** (Труйца) *ж.* Тройца. *Тру́йца па цэ́ркві хадзі́ла, / Спа́са за ру́чку вадзі́ла. / Прачы́стая Ма́ці, / Прыдзі к на́шай ха́ці / Вясе́лле зачына́ці.* (Машыньскі).

**ТРО́НЦІЦЬ** *незак.* Трохі, няўлоўна пахнуць. *Чу́е жо́нка, што ад яго́ штось тро́нціць, бы ат па́ні, хо́чэцца ёй даве́дацца, што там тако́е ён рабі́ў.* (Сержпутоўскі).

**ТРУНА́** *ж.* Дамавіна. (Машыньскі).

**ТРУ́НАК** *м.* Напой. *Лепш неха́й пан дась мне мужы́цкаго тру́нку, бо куды́ мне, лапцю́жніку, па́ньская гарба́та.* (Сержпутоўскі).

**ТРЫСНЁГ** *м.* Чарот (расліна). (Машыньскі).

**ТРЭ́ЙКО** *прысл.* Тройчы. *Зняў чорт свой капелю́шык і махну́ў ім трэ́йко. Наш Іва́ньчык пакруці́ў трэ́йко сваею кучо́мкаю, дак і вы́раслі ў яго́ кры́ла. Трэ́йко патхо́дзілі к сваі́м гу́мнам, але́ не пазнава́лі сваё будо́ўлі і зноў варо́чаліса ў лес.* (Сержпутоўскі).

**ТУ́РКАЎКА** *ж.* Дзікі голуб (птушка). (Машыньскі).

**ТХАРЫ́НА** *ж.* Мясо тхара. *Ра́но й ве́чар ко́жнаго дня абку́рвалі гаўя́до тхары́наю: пало́жаць на ўго́льле су́шанае тхары́ны да й патку́рваюць гаўя́до. Круго́м расхо́дзітца такі́ смуро́д, што аж нос зрыва́е.* (Сержпутоўскі).

**ТХЛАНЬ** *ж.* Балота; непралазны гушчар. *Тут недале́ко ў не́тры й тхла́ні седзе́ў змей. Ба́чыце, яка́я тут не́тра, яка́я тхлань: цэ́лы ты́дзень ідзі́, та кра́ю не дацягнеша.* (Сержпутоўскі).

**ТЫН** *м.* Тын, плот з дошак. (Машыньскі).

**ТЭ́НЧА** *ж.* Вясёлка. *Спусці́ліса два ане́лы па тэ́нчы на зе́млю й падхо́дзяць к маскалю́.* (Сержпутоўскі).

**Ў́БЛЕДОК** *м.* Байструк. (Машыньскі).

**УГІБА́ЦЬ** *зак.* Прыбраць да рук, забраць. *А, гэ́то той са́мы Петро́, што ат Хрыста́ атро́кса. Дак ба́чыш яго́, як угіба́ў ат ра́я ключы́, дак ніко́го й не пуска́е.* (Сержпутоўскі).

**УДЗІ́ЛІШЧЭ** *н.* Вудзільна. (Машыньскі).

**Ў́ДКА** *ж.* Вуда. (Машыньскі).

**УДРУ́ГАЕ** (ўдру́гае) *прысл.* Другі раз. *Ду́маў, ду́маў чалаве́к да й наду́маўса жані́цца ўдру́гае.* (Сержпутоўскі).

**УЗВІ́ЖКІ** (Ўзві́жкі) *мн.* Узвіжанне; каляндарнацаркоўнае свята. *Усе́ вужы́ збіра́юцца на Ўзві́жкі ў гурты́ і ідуць у зямлю́.* (Машыньскі).

**УЗВО́ЛАК** *м.* Узгорак, узвышша. *Ўзашла́ я на ўзво́лак... гляджу́... аж францу́зы кала на́шай скаці́ны.* (Хрэстаматыя 1962).

**Ў́ЗГАЛАВЕНЬ** *м.* Вузгалаўе (у возе). (Машыньскі).

**УЗДРА́ЧЫЦЦА** *зак. экспр.* Пачаць моцна рыкаць, падняць голас (пра жывёлу). *Напа́лі на вало́ў овады́ да здракі, уздра́чыліса валы́ да й пабе́глі ў вале́с.* (Сержпутоўскі).

**УЗДУ́ЦЬ** *зак.* Разадзьмуць. *А ў ха́це ма́чыха ждзець вады́ ня даждзе́цца, са зло́сці ажно́ спаць ня лажы́цца, уста́ла ды й ўзду́ла лучы́ну.* (Хрэстаматыя 1962).

**УЗЬВІ́ЖАНЕ** *н.* Восеньскае свята ў народнацаркоўным календары (адзначаецца 14 верасня па ст. ст.). *Пе́ршы снег вы́паў ско́ро по́сле Узьвіжаня да так і аста́ўса лежа́ць.* (Сержпутоўскі).

**УКЛА́ДЗІНЫ** *мн.* Абрад укладвання маладых у першую шлюбную ноч. (Федароўскі).

**УКЛЕЯ́** *ж.* Верхаводка (рыба). (Кіркор).

**УКЛО́Н** *м.* Паклон. *Як прые́хаў верабе́йка, / Сту́кнуў чабата́мі, / Вы́скачыла саро́чанька / З нізкімі ўклана́мі.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**УЛА́ЗІНЫ** *мн.* Уваходзіны, наваселле. (Машыньскі).

**УЛА́С** *м.* Свята ў народна-царкоўным календары. *Ужэ́ на Ула́са лю́дзі пазьдзіра́лі стрэ́хі на корм.* (Сержпутоўскі).

**УЛАСЫ́** (ўласы́) *мн.* Валасы. *Мы дава́йце-ка, рабя́ты, / Ў валася́нку ігра́ць: / Хто пацягнець, / Да не дацягнець, / Таго́ за ўласы́ бу́дзем драць.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**УМАЛЕ́ННЕ** *н.* Недахоп, нястача. *Прізна́цца, хле́ба умале́ньня, купля́ць не́зышта, но́выга вы́жыда́ць няско́ра, шчэ далёка пе́сня, а дзяцей карміць на́да.* (Хрэстаматыя 1962).

**УПЛІ́ШЧЫЦЦА** *зак.* Уціснуцца. *Паку́ль яна́ атчыня́ла дзве́ры, купе́ц і ўплі́шчыўса ў печ.* (Сержпутоўскі).

**УРВІ́С** *м.* Вырвас, вырадак. *І вы́рас з яго́ такі́ ўрвіс да зло́дзей, што то́лькі ў сьве́це пашука́ць.* (Сержпутоўскі).

**УРО́К** *м.* Хвароба "з дрэнных вачэй", урокі. (Машыньскі).

**УРЭ́КНУЦЬ** *зак.* Урачы, здзівіць. (Машыньскі).

**УСЛО́Н** *м.* Невялікая лаўка. (Машыньскі).

**УТРЭ́ЙКІ** *прысл.* Трэці раз. *От і ўтрэ́йкі прыхо́дзіць маладзіца к дзе́дку па во́ду.* (Сержпутоўскі).

**УЧКУ́Р** *м.* Рэмень, аборка, матуз. *А ўсё ж чума́к прачумакава́ўся: / Згубі́ў штаны́, учку́р абарва́ўся* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**УШНЯКІ́** *мн.* Каробка, якая трымае дзверы. (Машыньскі).

**ХАДЖА́ЙКА** *ж.* Гаспадыня. *Неха́й ужэ́ падрасьце́ сын да жэ́ніцца, та й бу́дзе ў нас хаджа́йка, а я й так дабу́ду ве́ку.* ХАДЖА́ЯЧКА *ласк.* *Дай, хаджа́ячка, круп, каб здаро́ва была́, як дуб.* (Сержпутоўскі).

**ХАЛА́ТА** *ж.* Хвала табе. *Хала́та Го́спадзі, яна́ прішла́ на кірма́ш...* (Хрэстаматыя 1962).

**ХАЛО́ДНІК, ХОЛОДНІ́К** *м.* Студзень, халадзец (страва). (Машыньскі).

**ХАРО́ШЭЙ** *прысл.* Лепш. *Нарэ́шце дагада́ўса, што без гро́шэй харо́шэй.* (Сержпутоўскі).

**ХАРУІ́МСЬКІ** *прым.* Херувімскі. *Памаўча́ў тро́хі той па́рабак, паглядзе́ў у вакно́, да як уба́чыў, што на дворы́ зляце́ліса анёлы да пачалі пець харуі́мськіе пе́сьні, дак і дагада́ўса, што Бог прасьці́ў яму́.* (Сержпутоўскі).

**ХА́ТА** *ж.* Хата. *Ро́біць ха́ту но́вую – поко́йнік* (сон). (Машыньскі).

**ХАЎТУ́РЫ, ХАЎТЫ́РЫ** *мн.* Абрад пахавання пакойніка. (Кіркор).

**ХЛА́ЎНІК** *м.* Міфічная істота – земляны дух. (Кіркор).

**ХО́НДЗЯ** *ж.* Малярыя. *Перш падышла́ хо́ндзя, ці як жэ ка́жуць – тра́сца, зелёная, худа́я, от бы та́я жыдо́ўка, што ану́чы збіра́е.* (Сержпутоўскі).

**ХО́РМА** *ж.* Фурма (?); чугунная труба (?), пячная труба (?). *Дава́й бе́дны пыта́ць у людзе́й, гдзе багаты́р, а ты́е ка́жуць, што, ма́быць, чорт на хо́рму ўхапі́ў, бо ён быў у гаспо́дзе да ра́птам чорт ве́дае куды́ дзе́ўса.* (Сержпутоўскі).

**ХОРО́МІНА** *ж.* Хата. (Машыньскі).

**ХРУШЧЭ́ЛЬ** *м.* Драч (?; птушка). *Ляці́ць до́ўгі журавель, / За ім ча́пля і хрушчэ́ль. / І па́ні страна́тка, / Яна́ яму́ ма́тка.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ХРЭ́СЬБІНЫ** *мн.* Хрэсьбіны. *На хрэ́сьбінах быва́юць ро́дныя і знаёмыя. Кума́ тут до́рыць ма́ці хрышчо́ніка на́мітку, кум – гро́шы; ад ма́ці ўзае́мна падару́нкі ку́мам – на́міткі.* (Машыньскі).

**ХРЭ́ШЧЫК** *м.* Крыжык. (Федароўскі).

**ХУДО́БА** *ж.* Буйная рагатая жывёла. (Машыньскі).

**ХУНДУШО́ВЫ** *прым.* Які перададзены на агульнае карыстанне. *Хундушо́вая земля́ – адзін песо́к жо́ўценькі бы зо́лато.* (Сержпутоўскі).

**ХУРТО́ВІНА** *ж.* Хвароба. *Ото́ кажы́, й хурто́віны на яго́ нема́...* (Сержпутоўскі).

**ЦАГА́ЛО** *н.* Прылада (якая?). *Даста́ў ён з магале́йкі крамене́ц да гу́бку й хаце́ў выкраса́ць агню́, мац за по́яс – цага́ла нема́. По́чапка цэ́лая й пеце́лька завя́зана, як была́, а цага́ло чорт ухапі́ў.* (Сержпутоўскі).

**ЦЕ! ЦЕ! ЦЕ!** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць гусей. (Машыньскі).

**ЦЕ́ЛЕ** *н.* Цяля. *Мае́ це́ле хвасто́м ме́ле, / Мой індык шулды́-булды́* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ЦЕЛЕ́Ш** *м.* Калода. (Машыньскі).

**ЦЕ́СЛЯ** *м.* Цясляр. *Наня́ў ён це́сьлю да й пача́ў з ім выбіра́ць ме́сто. Це́сьля аснава́ў ха́ту так, што ка́мень якра́з заста́ўса на по́куці пад вугло́м.* (Сержпутоўскі). *Прыйшлі́ це́слі з тапара́мі, / Камару́ труну́ збудава́лі* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ЦЕСЦЬ** *м.* Цесць. *Не ляка́йса це́сцю; / Не ў мно́зе твой зяць е́дзе: / Чэ́твера да пя́цера / Да ўсіх дзявя́цера, / А дзеся́тая се́стра, / Што све́чачкі не́сла* (з песні). (Машыньскі).

**ЦЕЦЯРУ́К** *м.* Цецярук. *Цецярук гаворыць: "Твой пáрабак у маягó пáрабка ўкраў тапаррóк. Няхáй твой пáрабак маямý пáрабку аддáсь тапаррóк. Ці чýеш? Пашóў бы да дварá, да нямá кухара".* (Машыньскі).

**ЦЕ́ШЧА, ЧЭ́ШЧА** *ж.* Цешча. (Федароўскі). *Чэ́шча зяця ждáла, / Кýнамі весь двур слáла, / Кýнамі, бабрáмі, чóрнымі сабалямі* (з песні). (Машыньскі).

**ЦЁЦЯ** *ж.* Багіня лета. (Кіркор).

**ЦІП! ЦІП! ЦІП!** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць курэй. (Машыньскі).

**ЦІПЕ́Ц** *м.* Сівец (расліна). (Машыньскі).

**ЦУ́РБАЛКА** *ж.* Ляшчынавы кіёк, якім закручваюць канцы перавясла, звязваючы сноп. (Машыньскі).

**ЦУ́РКА** *ж.* Тое ж. (Машыньскі).

**ЦЫБУ́К** *м.* Муштук. *Тóлькі люлька ды цыбýк, / А сам гóлы, як барсýк* (з песні). ЦЫБУЧО́К *памянш. За трýбачку – капéечку, / За цыбучóк – грóшык* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ЦЫГА́НКА** *ж.* Вялікая іголка. (Машыньскі).

**ЦЫГА́НКА** *ж.* Цыганка. *Цыгáнка чóрна – смерць* (сон). (Машыньскі).

**ЦЫ́ГАЦЬ** *незак.* Хадзіць. *Бáло цы́гае ён па пóлі бы бýсел да зьбірáе калась́ы па йржы́шчы.* (Сержпутоўскі).

**ЦЫГЛА́ТЫ** *прым.* Высокі, вялікі. *Ён вы́скачыў з-пад кустá да за ім, алé кудьí там дагнáць гэ́стакую цыглáтую махíну.* (Сержпутоўскі).

**ЦЫ́ГЛЫ** *мн.* Ногі. *Сам поп скідáў нагавíцы, падбірáў пóлы да й месíў гразь гóлымі цы́гламі па сáмы пóяс.* (Сержпутоўскі).

**ЦЫРКУ́Н** *м.* Цвыркун. *Скакáў цыркýн па сцянé, / Зламáў нóжку – ох-це мне!* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ЦЫ́ЦАЛЬНІК** *м.* Спецыяльны ручнік, палатно, якое выкарыстоўвалася для выцірання (?). *Тут ён цы́цальнікам уцёр трóхі мóрду да й прамóвіў слóво, да такóе слóво, што аж пах пашóў.* (Сержпутоўскі).

**ЦЭПІ́ЛЬНА, ЦЭПІ́ЎНА** *н.* Кій у рост чалавека з ляшчыны. (Машыньскі).

**ЦЮ! ЦЮ!** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць сабаку. (Машыньскі).

**ЧАПКАВА́ЦЬ** *незак.* Здымаць шапку перад кім-н. *Паны́-рáды называюць разбóйнікаў сваíмі братáмі, чапкýюць перад íмі й даюць ім маёнткі. А вéдамо, у гаспадáрцы заўжды́ мáе быць прыгóда, дак нічóго й не парáдзіш, калі немáшака здáтнаго чалавéка, хоць седзí да й плач ці бежы́ к тамý палешукý, чапкýй да прасí, каб памóг.* (Сержпутоўскі).

**ЧАРАВА́ТАЯ** *прым.* Цяжарная. *Павéрыла бáба, што енá чаравáтая й рáда, бы на свет нарадзíласа.* (Сержпутоўскі).

**ЧАРАПЕ́НЬ** *м.* Гаршковы чарапок (?). *Стáлі сакатáці, / А што éсці дáці? / Ці жы́та карьíта, / Ці ячмéню жмéню, / Ці гарóху трóху, / Ці канапéль чарапéнь, / Ці аўсá з пóўнага каўшá?* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ЧАРАЎНІ́К** *м.* Чараўнік. (Кіркор).

**ЧАРНАРУ́СЫ** *мн.* Жыхары Гродзенскай губерні, якія апраналіся ва ўсё чорнае (і мужчыны, і жанчыны). (Кіркор).

**ЧАЦВЕ́Р** *м.* ○ ЗАЧА́ТНЫ ЧАЦВЕ́Р. Дзень, у які рашчыняецца цеста на каравай. (Федароўскі).

**ЧАЧО́ТКА** *ж.* Нараст на бярозе. (Машыньскі).

**ЧАЧО́ТКА** *ж.* Чачотка (птушка горная канаплянка ці жаўтанос). *Пазнéй прыляцéлі чачóткі, / Былí яны́ ямý рóдныя цёткі* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ЧА́ШКІ** *мн.* Засечкі на дрэве, дзе няма сукоў. (Машыньскі).

**ЧА́ШНІК** *м.* Шафер. *Наш чáшнік – небарáк, / Украў у свáнечкі андарáк, / Свáнька тóе пазнáла, / Свой андарáк зыскáла* (з песні). (Федароўскі).

**ЧВАЛІ́ЦЬ** *незак.* Цкаваць. *Абазлíўса пан і давáй ягó чвалíць сабáкамі.* (Сержпутоўскі).

**ЧЕРЕМЫ́ЧКІ** *мн.* ○ ЗУЗУ́ЛІНЫ ЧЕРЕМЫ́ЧКІ. Ландыш. (Кіркор).

**ЧКО! ЧКО!** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць свінню. (Машыньскі).

**ЧО́БАТЫ, ЧО́БОТЫ, ЧАБО́ТЫ, ЧАБО́ЦІ** *мн.* Боты. *Ці ўсё ж ты́я чабóты, / Што зяць даў, / Да за ты́я чабóты / Дачкý ўзяў* (з песні). *Чóбаты, чóбаты вы маé, / Нарабíлі клóпату вы мне* (з песні). (БНТ. Жарт. песні, Машыньскі). *Да сéлі-ўпáлі на варóцях / У чырвóненькіх чабóцях.* ЧАБО́ЦІКІ *памянш. Ой, што нáшаму Івáнку прынéслі? / – Крáсныя чабóцікі / Па сáмыя жывóцікі.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ЧОРНО́СТУП** *м.* След на гразі і паляванне па ім. (Машыньскі).

**ЧО́РТАЎ** *прым.* ○ ЧО́РТАВА СВА́ДЗЬБА. Лясны ўраган, які паламаў многа дрэў. (Кіркор).

**ЧУ! ЧУ! ЧУ!** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць авечак. (Машыньскі).

**ЧУР** *м.* Бог, які ахоўвае межы пазямельных уладанняў. *Чур табé на язы́к.* (Кіркор)[1].

**ЧЭ́РВА** *ж. зб.* Чэрві. *А дзе тáя калóда? – Чэ́рва патачы́ла. А дзе тáя чэ́рва? – Кýры паклявáлі.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ЧЭРМЕНЬ** *м.* Пупырнік, цэпкаплоднік (расліна?) (Машыньскі).

**ЧЭРЭВА́ТА** *прым.* Цяжарная. *Вяснóй аж да Благовéшчэньня зямля́ чэрэвáта, нéльга яé турбавáць.* (Машыньскі).

**ЧЭРЭ́Н** *м.* Дно печы. (Машыньскі).

**ЧЭСЦЬ** *ж.* Пачастунак, частаванне. *Печ ягó – мулявáная, / Чэсць у ягó – да й кахáная. / Ой, есць*

---

[1] Прыклад, выкарыстаны А. Кіркорам для раскрыцця значэння слова, падаецца неператканаўчым. Выраз, у складзе якога ўжываецца лексема *чур*, блізкі ці тоесны да фраземы *ціпýн ... на язык* 'нядобрае пажаданне'.

*што ж нам éсці! Ой, есць што ж нам піці.* (Машыньскі).

**ШАБÉТА** *ж.* Каліта з грашыма, крэмнем і трутам. (Кіркор).

**ШАЛАПАВÁТЫ** *прым.* Дурнаваты. *Мáбыць, ён, бáцюшко, якісь шалапавáты ці не ў сваём вумé. Ужэ́ пагавóрвалі сусéдзі, што ён якісь шалапавáты, бо жыве́ не так, як людзі.* (Сержпутоўскі).

**ШАЛЁЎКА** *ж.* Тонкая дошчачка. (Машыньскі).

**ШАЛЫГНУ́ЦЬ** *зак.* Сігануць. *Тым чáсам кум, мáбыць, дагадáўса, шалыгну́ў шырóкім крóкам да й загарадзіў яму́ дарóгу.* (Сержпутоўскі).

**ШАЛЯЖÓК** *м.* Шэлег; даўнейшая грашовая адзінка. *Стáлі сакатáці, / Што дзіця́ці дáці. / Аднá кáжа: / – Шаляжóк. А другáя: / – Піражóк. / Кóці, кóці лáпкі, / Паéдзеш да бáбкі, / Бáбка дасць піражóк, / А дзяду́ня шаляжóк.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ШАНÓК** *ж.* Мера збожжа. (Федароўскі).

**ШÁПАР** *м.* Значэнне (?). *Бéгаў ён бéгаў, круціўса бы ўюн у рэ́шаці, нарэ́шце прычапіўса шáпарам у багáтаго купцá на ру́ме.* (Сержпутоўскі).

**ШАРЛАТÁН** *м.* Шарлатан (танец). (Федароўскі).

**ШАРШÁТКА** *ж.* Вялікая іголка. (Машыньскі).

**ШАТРАВÁЦЬ** *незак.* Ачышчаць зерне ад абалонак перад тым, як малоць на муку або пускаць на крупы. *За мéльніка зáмуж пайду́, / Мéльнік мéле і шатру́е, / Абéрнецца, пацалу́е* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ШÁТЫ** *мн.* Адзенне, убранне. "*Отó ж мая́ дачу́хна яшчэ́ не такія дастáне шáты*", – *кáжэ янá да й пасылáе сваю дачку́ ў той млын малóць збóжэ.* (Сержпутоўскі).

**ШВÓРАНЬ** *м.* Шворан. (Машыньскі).

**ШКАЛÓНДЗА** *ж.* Тоўстая вэнджаная каўбаса, зробленая з вантробаў, крыві, мяса. (Кіркор).

**ШКВАРЭ́Ц** *м.* Шпак (птушка). (Машыньскі).

**ШЛЯХТУ́Н** *м.* Шляхціц. *Жыў кале тагó селá адзін шляхту́н.* (Сержпутоўскі).

**ШЛЯХТУНÉЦ** *м.* Малы шляхціц. *Жыве́ шляхтунéц у двары́, адуку́етца рáзам з пáньскімі дзéцьмі.* (Сержпутоўскі).

**ШМÁЛЕЦ** *м.* Салёнае свіное сала. (Кіркор).

**ШÓЛУДЗІ** *мн.* Перхаць. *Паку́ль ён седзéў у карчóмцы да шынкавáў гарэ́лку, дак шóлудзі нікóлі не зхóдзілі з ягó мазгаўні.* (Сержпутоўскі).

**ШТАНДÁРЫ** *мн.* Апорныя слупы ў будынку. (Машыньскі).

**ШТАНЫ́** *мн.* Штаны. ШТÓНЧЫКІ *памянш. Як саўю́ я ніточку / Дзіця́тку на світачку, / Астану́цца кóнчыкі / Дзіця́тку на штóнчыкі.* ШТÓНІКІ *памянш. Маладзічка дабрá / Яму́ штóнікі далá.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ШУМÉТНІК** *м.* Сметнік. ШУМÉТНІЧАК *памянш. Да скакáў верабéй па шумéтнічку, / Да збірáў верабéй усю сямéечку.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ШУ́МКА** *ж.* Дробны гной. (Машыньскі).

**ШУ́РКА** *ж.* Укладка дроў у лесе. (Машыньскі).

**ШУФЛЯ́ДКА** *ж.* Шуфлядка (танец). (Федароўскі).

**ШЧАДРÓЎКІ** *мн.* Песні, што спяваюць калядоўшчыкі. (Машыньскі).

**ШЧАЛАЧЫ́ЦЬ** *незак.* Рабіць шчолак – раствор для мыцця бялізны. *Камáр дрóвушкі рубіў, / Му́ха бáнюшку тапíла, / Гнíда шчóлак шчалачы́ла, / А вош пáрылася.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ШЧАМÉЛЬ** *м.* Чмель. *А шчамéль мёд даé і гасцéй прымáе* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ШЧАНЬ** *ж.* Дубовая бочка. (Машыньскі).

**ШЧÓДРЫК** *м.* Багатая куцця. (Машыньскі).

**ШЧУР** *м.* Пацук. *А шчуры́ з тхарóм / Абабéглі дварóм, / Абабéглі каля́ хáты / Да і стáлі танцавáць.* (БНТ. Дзіцячы фальклор).

**ШЧУ́РАЧКІ** *мн.* Бурбалкі. *Мéсцо былó такóе пагáнае, што й дна не дастáць, утапіўса самóрак у гразі, што й шчу́рачкі не пашлí.* (Сержпутоўскі).

**ШЧЫГÉЛЬ** *м.* Шчыгол (птушка). *Шчыгéль вылятáе, / Жаніцеся мáе* (з песні). ШЧЫ́ГЛІК *памянш.-ласк. Шчы́глік невялíкі грамаду́ збірáе, / Сам не хóча адзін жыць, жаніцеся мáе* (з песні). ШЧАГÉЛЬКА *памянш.-ласк. Шчагéлька, ты ду́му ду́маеш, / Сам не хóчаш жыці, / Жаніцеся мáеш* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ШЧЫК** *м.* ◊ ЗРУБÁЦЬ ШЧЫК. Зразаць верхавіну борцевай сасны. (Машыньскі).

**ШЧЫ́ТНІК** *м.* Насякомае (клоп-ванючка?) *Шчы́тнік малéнькі / Сам ду́маў, / Сам ду́маў, / Жаніціся мáе* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ШЧЭДРЭ́Ц** *м.* Багатая куцця. (Машыньскі).

**ШЫНКАВÁЦЬ** *незак.* Піць гарэлку, гуляць. *Паку́ль ён седзéў у карчóмцы да шынкавáў гарэ́лку, дак шóлудзі нікóлі не зхóдзілі з ягó мазгаўні.* (Сержпутоўскі).

**Ю́РЭЙ, Ю́Р'Я** *м.* Веснавое свята ў народнацаркоўным календары (адзначаецца 23 красавіка па ст. ст.). *Янá яшчэ́ навары́ла чырвóных яéц, каб іці на мóгліцы, а бáчыце, Ю́рэй быў якрáз на Рáдуніцу.* □ *Трэ каб да Ю́р'я былó і ў ду́рня* [сена]. (Сержпутоўскі).

**Я́БЛЫКА** *н.* Яблык. *Як сніцца жóнцы, што я́блыка ўкрáдзе, то зацяжáрыць.* (Машыньскі).

**ЯГЛЫ** *мн.* Прасяныя крупы. (Машыньскі).

**ЯЗ** *м.* Плот, сплецены рыбакамі з калочкаў, аплеценых лазой, і перакінуты ўпоперак цячэння. (Машыньскі).

**Я́ЙЦА** *мн.* Яйкі. *Я́йца як сняцца, то недóбрэ: бая́чка збóбіцца.* (Машыньскі).

**Я́ЛАВІЦА** *ж.* Ялаўка; не пабеганая карова. *От раз гэ́стая раскірáка паўéў у мéсто на кірмáш прадавáць я́лавіцу.* (Сержпутоўскі).

**Я́МКА** *ж.* Пячурка; месца, куды выграбаюць жар з печы. (Машыньскі).

**Я́НГОЛ** *м.* Анёл. *Калí ідзé дождж і сóнца свéціць, то я́нгола гуля́юць.* (Машыньскі).

**Я́ПА** *ж.* Нараст на бярозе. (Машыньскі).

**Я́РМАЛАК, ЯРМÓЛАК** *м.* Кірмаш. *Паéдзем мы, жóначка, на я́рмалак гуля́ць, / Бу́дзем мы,*

*жо́начка, хазя́йства нажыва́ць* (з песні). *Старо́га за бараду́ / На ярмо́лак павяду́* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**ЯРО́М** *м.* Вупраж на вала; ярмо. *Ве́дамо, марко́тно ко́жын дзень ат са́мых пе́ўнёў да аж да змро́ку цягну́ць яро́м бы вол, што табе́ аж во́чы выпіра́е.* (Сержпутоўскі).

**ЯРЫ́ЛА** *м.* Бог урадлівасці; сын багіні Лады і Дажбога. (Кіркор).

**Я́САЧКА** *ж.*, **Я́САЧКІ** *мн.* Невялікая булачка. *Ой, жо́начкі, маі кра́сачкі, / Папячы́це нам я́сачкі; / На́шы ру́чкі забуле́лі, / Карава́ю да захаце́лі* (з песні). (Машыньскі).

**ЯТВЯ́ГІ** *мн.* Адно са старажытных заходнябалцкіх плямён, якое да 13 ст. насяляла тэрыторыю паміж Нёманам і вярхоўямі ракі Нараў. (Кіркор).

**ЯТРО́ЎКА** *ж.* Жонка мужавага брата. (Федароўскі).

**ЯЎЁРКА** *ж.* Вавёрка. *Сустрэ́не яўёрку, як яна́ грызе́ арэ́шкі, падо́йдзе к ёй бліжэ́й, а та́я задзерэ́ хвост, пабежы́ць угору па дзе́раве да то́лькі цмок-цмок-цмок.* (Сержпутоўскі).

**Я́ЧАННЕ** *н.* Ячменішча. *Па я́чанні, па ячме́нні-шчу / Хо́дзіць го́луб і з галу́бачкай* (з песні). (БНТ. Жарт. песні).

**Я́ЧНЫ** *прым.* Ячменны. (Машыньскі).

**Спіс асобных скарачэнняў**

БНТ. Дзіцячы фальклор – Беларуская народная творчасць. Дзіцячы фальклор / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; рэд. К. П. Кабашнікаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1972. – 736 с. з нот. – (Беларус. нар. творчасць).

БНТ. Жарт. песні – Беларуская народная творчасць. Жартоўныя песні / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; рэд. А. С. Фядосік, Г. І. Цітовіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1974. – 814 с. – (Беларус. нар. творчасць).

БНТ. Прыпеўкі – Беларуская народная творчасць. Прыпеўкі / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; уклад. тэкстаў, уступ. арт. і камент. І. К. Цішчанкі; муз. частка Л. М. Фёдарава; рэдкал. А. С. Фядосік (гал. рэд) [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 432 с. – (Беларус. нар. творчасць).

Кіркор – Киркор, А. Живописная Россия. Литовское и белорусское Полесье / А. Киркор. – Минск: БелЭн, 1994. – 550 с.

Машыньскі – Машынскі, К. Усходняе Палессе / уклад., прадм., камент. У. Васілевіча; пер. Л. Салавей / К. Машынскі. – Мінск: Беларус. навука, 2014. – 528 с.

Сержпутоўскі – Сержпутоўскі, А. К. Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў / А. К. Сержпутоўскі; маст. В. Р. Мішчанка. – Мінск: Універсітэцкае, 1999. – 191 с. – (Повязь вякоў); *Яго ж.* Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета / А. К. Сержпутоўскі; маст. В. Р. Мішчанка. – Мінск: Універсітэцкае, 2000. – 270 с. – (Повязь вякоў); *Яго ж.* Сержпутоўскі А. К. Русальная нядзеля. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў / А. К. Сержпутоўскі; склад., уступ. арт., пасласлоўе, навук. рэд., літ. апрац. У. К. Касько. – Мінск: Вышэйш. шк., 2009. – 478 с.

Федароўскі – Федароўскі М. Люд беларускі. Вяселле / М. Федароўскі; уклад., прадм., пер. І. У. Саламевіч. – Мінск: Полымя, 1991. – 142 с.

## *З АРХІЎНАЙ МОЎНАЙ СПАДЧЫНЫ*

*І. У. Галуза*

## "ПІНСКІЯ ПАДРЫХТОЎЧЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ" Я. ДРАЗДОВІЧА: СКЛАД І АДМЕТНАСЦІ ЎПАРАДКАВАННЯ

У 1926 г. Язэп Нарцызавіч Драздовіч быў накіраваны Беларускім навуковым таварыствам у Вільні на Палессе "для збору этнаграфічнага і лінгвістычнага матэрыялу сярод палешукоў" [12, с. 79]. У выніку экспедыцыі былі падрыхтаваны "*сшыт картак слоўнікавага матэр'ялу палешуцка-пінчуцкай вымовы (Піншчына)*"[1] [6, л. 4]. Для ілюстрацыі значэнняў лексем Я. Драздовіч стварыў і графічную калекцыю аб'ёмам каля ста адзінак "*этнаграфічна-краязнаўчага значэньня (Пінскае Палесьсе)*" [6, л. 4], з якіх на дадзены момант адшукана толькі 15 [1, л. 2–17]. Таксама была запісана "*копа (60) народных вясельных песень Палесься, з перакладам з мясцовай вымовы на беларускую агульную вымову (Піншчына)*" [6, л. 4], сшыткі-чыставікі з якімі дагэтуль не знойдзены.

[1] Захавана аўтарская арфаграфія, пунктуацыя прыведзена ў адпаведнасць з сучаснымі нормамі.

“Краёвы слоўнік Піншчыны” і “Пінскія словазборы” Я. Драздовіча [4, 5, 7] былі апрацаваны згодна з патрабаваннямі сучаснай лексікаграфіі і надрукаваны на старонках выдання “Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні” [9, 10], разам з гэтым быў апісаны іх лексічны склад, будова слоўнікавага артыкула, граматычныя і стылістычныя паметы, асаблівасці тлумачальнай часткі і афармлення дзісенскіх адпаведнікаў, лінгвістычны пашпарт і інш. [8; 10, с. 133–134].

Захаваліся таксама і “Пінскія падрыхтоўчыя матэрыялы” (умоўная назва, дадзеная пры апрацоўцы), ці чарнавікі, якія дэманструюць тое, як вялася праца Я. Драздовіча па збіранні дыялектнага матэрыялу, і, магчыма, сведчаць пра задачу складальніка стварыць поўны слоўнік палескага рэгіёна, па аналогіі з “Беларускім слоўнікам” на аснове дзісенскай гаворкі [3, л. 20–28]. Але Язэпу Нарцызавічу не ўдалося завяршыць экспедыцыю, таму, улічваючы яшчэ і патрабаванні тагачаснай лексікаграфіі па стварэнні краёвых слоўнікаў, ён уклаў на аснове чарнавых запісаў разнастайныя па тэматыцы дыферэнцыйныя слоўнікі невялікіх памераў.

### Змест рукапісу

“Пінскія падрыхтоўчыя матэрыялы” [2] маюць загаловак “Піншчына” з удакладненнем: “Лета 1926 г. Язэп Драздовіч з Дзісеншчыны”. Яны ўяўляюць сабой 5 змацаваных ніткай вучнёўскіх сшыткаў прыблізна па 20 лістоў (16, 16, 21, 16 і 14 лістоў у кожным з іх адпаведна запоўнена). Звычайна матэрыял падаецца ў выглядзе табліцы: у крайнім левым слупку чорным чарнілам прыводзяцца дзісенскія лексемы, а ў наступных пяці слупках (што размяжоўваюць асобныя пінскія вёскі), насупраць адпаведных адзінак, складальнікам фіксуюцца (сінім або простым алоўкам з разнастайнымі падкрэсліваннямі чырвоным алоўкам) пінскія паралелі.

Па характары запісу – выверанья, прыгожа запісаныя дзісенскія і вельмі часта слаба чытэльныя пінскія лексемы, да таго з рознымі пазнакамі, сімваламі, скарачэннямі – можна меркаваць пра сур’ёзную карпатлівую падрыхтоўчую працу Я. Драздовіча. Верагодней за ўсё, перад экспедыцыяй на Палессе Язэп Нарцызавіч склаў рэестр лексем, што неабходна было праверыць на існаванне і фанетычныя / граматычныя / марфемныя і іншыя асаблівасці, і такім чынам вёў лінгвістычнае даследаванне. Мяркуем, што ён хацеў як мага шырэй ахапіць розныя пласты лексікі для ўкладання будучага краёвага слоўніка Піншчыны.

Сімвал “<”, які пастаўляўся пасля ўказання лексемы ў першай калонцы з пінскімі адзінкамі ў далейшых калонках, намі быў расшыфраваны як пазнака паўтору. І пры афармленні матэрыялаў пасля такіх слоў лінгвістычны пашпарт уключае ўсе вёскі, дзе насупраць быў такі сімвал, напрыклад:

**ДУБ** *м*., **ДУБЫ́** *мн*. (Дзісеншч.). ***Дуб*** *м*., ***дубы́*** *мн*. (Азарычы, Дубнавічы, Марочна, Парэчча, Сернікі).

Сімвал “–“, верагодней за ўсё, абазначае адсутнасць пэўнай лексемы ў вёсцы. У выпадках, калі Язэпу Нарцызавічу не ўдалося зафіксаваць пінскі адпаведнік (пачуць, праверыць у канкрэтнай вёсцы), то ячэйкі ў табліцы пакідаліся пустымі. Таму пры падрыхтоўцы матэрыялаў сімвал “–“ апускаўся і ўказваліся ў зоне лінгвістычнага пашпарта толькі тыя вёскі, насупраць якіх была пазначана лексема або пастаўлена памета “<”.

У першым сшытку матэрыял змяшчаецца ў выглядзе табліцы (прадстаўлены пяць населеных пунктаў Піншчыны: м. Сернікі, вёскі Парэчча, Азарычы, Дубнавічы, Марочна[1]), у якой сабраны назвы дзікарослых дрэў і кустарнікаў [2, л. 2–7], пладовых дрэў і кустарнікаў [2, л. 7–8], сельскагаспадарчых раслін [2, л. 9–14] і інш.; таксама падаюцца назвы балотных і іншых раслін, сабраныя ў вёсцы Марочна, з тлумачэннем або без [2, л. 14–17].

На другім сшытку ўказана прозвішча збіральніка (Я. Драздовіч). У гэтым сшытку ўтрымліваецца матэрыял па анатоміі чалавека, прычым ён сістэматызаваны ў наступныя блокі з падзагалоўкамі: “галава і твар” [2, л. 19–20], “вока” [2, л. 20], “тулава” [2, л. 20–21], “рука” [2, л. 21], “пальцы” [2, л. 21], “нага” [2, л. 22], “нутро, нутравіньне” [2, л. 22–23], “скура і волас” [2, л. 23],

[1] Сяло Сернікі і Марочнае Зарэчненскага раёна Ровенскай вобласці (Украіна), вёскі Парэчча, Азарычы, Дубнавічы Пінскага раёна Брэсцкай вобласці.

"косьці" [2, л. 23–24], "губа" [2, л. 24]. Матэрыял згрупаваны па чатырох пінскіх вёсках: м. Сернікі, в. Парэчча, Азарычы, Дубнавічы [2, л. 19–20, 23–25] або м. Сернікі, Пагост[1], Азарычы і Дубнавічы [2, л. 20–23].

Таксама ў другім сшытку занатаваны "Песьні Палесься" ("Народныя Песьні на Піншчыне"), сабраныя ў вёсках Малое Марочна і Дубчыцы[2] Я. Драздовічам [2, л. 26–34].

Трэці сшытак мае назву "Па зэолёгіі" [2, л. 35], таксама змяшчае прозвішча збіральніка (Я. Драздовіч). Матэрыял згрупаваны ў выглядзе табліцы і аформлены ў наступныя блокі, часткова з аўтарскімі падзагалоўкамі: "хатняя жывёла" [2, л. 36–39], дзікія жывёлы [2, л. 39–42] і "птушкі" [2, л. 42–47], "рыбы" [2, л. 47–48], "гады" [2, л. 48–49], земнаводныя [2, л. 49–50], насякомыя і пад. [2, л. 50–53], "хваробныя мікробы" (хваробы чалавека) [2, л. 53], "анатамічныя асаблівасьці у жывёл" [2, л. 54–55]. Пераважна ахоплены пяць вёсак: Сернікі, Парэчча, Азарычы, Дубнавічы, Марочна [2, л. 36–53], адзінкава тры вёскі: Сернікі, Парэчча, Марочна [2, л. 53] і чатыры: Сернікі, Парэчча, Дубнавічы, Марочна [2, л. 54–55].

Таксама прыведзены выклічнікі, сабраныя ў вёсках Азарычы і Дубнавічы для "вабіньня" і "гону" свойскіх жывёл (каня, каровы, авечкі, свінні,ката, курэй і сабакі) [2, л. 55], і пералічаны "масьці" свойскіх жывёл і птушак (каня, каровы, авечкі, свінні, сабакі, птушак) без указання дакладнага лінгвістычнага пашпарта [2, л. 55].

Чацвёрты сшытак (таксама з прозвішчам складальніка), хоць і носіць назву "Словы – да рысункаў" [2, л. 57], аднак утрымлівае разнародную інфармацыю. Самае важнае, што тут ужо знаходзяцца матэрыялы, што запісваліся, на наш погляд, непасрэдна пры працы з інфармантамі (магчыма, некаторыя матэрыялы аформлены і ў час працы). Пра гэта сведчыць і не зусім ахайны почырк, і запіс лексем толькі па адной вёсцы.

Верагодней за ўсё, на л. 58 [2] пералічаны тыя рэаліі, да якіх Язэп Нарцызавіч хацеў падрыхтаваць (ці падрыхтаваў) малюнкі. Лексемы аб'яднаны ў блокі, прычым спачатку падаецца агульная назва, напрыклад: "расьліны", "поле", "вопратка" (і абутак), "судны", "буд. матэр." (розныя паняцці з будаўніцтва), "каса", "хамут", "плуг", "кузьня", "рыдлёўка", "калёсы", "кросны", тыпы агароджаў і інш., а потым або словы адной лексіка-семантычнай групы, або назвы састаўных частак і пад. Адзначым, што запіс зроблены ў два слупкі, прычым першай пазначаецца пінская лексема, а праз працяжнік – дзісенскі адпаведнік.

Далей [2, л. 59] сінім алоўкам падаюцца ў дзве калонкі праз працяжнік не ўпарадкаваныя тэматычна лексемы (першая пінская), зафіксаваныя ў в. Дубнавічы. На лістах 59–60 [2] ручкай чорнага колеру прыводзяцца падборкі лексем (спачатку дзісенская), сабраныя ў в. Лозічы ("гм. [гміна] Лемешэвіцка")[3], часткова з аўтарскімі падзагалоўкамі: "малатарня", "цэп", лапаты, рыбалоўныя прылады. Незгрупаваныя пінскія лексемы (пераважна з дзісенскімі адпаведнікамі) з вёсак Пінкавічы[4], Парэчча і Лаша (Гарадзеншчына)[5] указаны чорнай ручкай на лісце 60 [2].

Наступны матэрыял, "запісаны ад Пётры Кононовіча Саўчука" [2, л. 61], не мае падзагалоўкаў, размешчаны ў тры слупкі, дзе ў першым – дзісенская лексема (чорным чарнілам), у другім – з в. Марочна (сінім алоўкам), у трэцім – чорным чарнілам прастаўлены плюсы, мінусы і зрэдку падаецца Я. Драздовічам пераклад адзінкавых слоў на рускую мову [2, л. 61–66]. Што абазначаюць прыведзеныя сімвалы, расшыфраваць не ўдалося, таму яны былі апушчаны пры апрацоўцы. Рускія адпаведнікі ці тлумачэнні захаваны і ў апрацаваным матэрыяле: яны ўказаны па-беларуску ў якасці дэфініцый. Дадзеная падборка з Марочна змяшчае назвы астранамічных аб'ектаў, метэаралагічных з'яў, асаблівасцей рэльефу, грунтоў, выкапней і інш., а таксама назвы сельскагаспадарчых пабудоў, частак зруба хаты, прадметаў побыту і інш. Адзначым, што тэматычныя блокі аддзяляюцца адзін ад другога або пустымі радкамі, або гарызантальнай рысай, або вылу-

[1] Вёска ў Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобласці.
[2] Сяло ў Зарэчненскім раёне Ровенскай вобласці (Украіна).
[3] Вёска ў Пінскім раёне Брэсцкай вобласці.
[4] Вёска ў Пінскім раёне Брэсцкай вобласці.
[5] Вёска Лаша Гродзенскага раёна Гродзенскай вобласці.

чэннем падзагалоўка пэўнай тэматычнай групы, напрыклад: "пагода", "агонь", "гара", "грунт, земля", "камень", "металы", "мінералы", "хата" і многія іншыя.

Па тым жа прынцыпе (у тры калонкі, але ўжо без намаляванай табліцы) зафіксаваны матэрыял з в. Семяховічы [2, л. 67–71], запісаны ад Якуба Наломіцкага. Матэрыял значна больш сістэматызаваны тэматычна, пра што сведчаць наступныя падзагалоўкі: "муж. адзежа", "шапка", "падпіразкі", "жаночая адзежа (вопратка)", "бялізна (бельля)", "дадаткі", "абутак", "тканіна", "ежа мучная", "ежа зернавая", "ежа з гародніны", "ежа мясная", "ежа малочная", "ежа зборная", "рамяслы", "палурамёслы" і інш. Да таго ж змешчаны і такія лексічныя групы, як прадметы побыту, святы, паселішчы і іх часткі, назвы чалавека па роднасці і сваяцтве, танцы і інш. Запіс па в. Семяховічы зроблены чорным чарнілам.

Пяты сшытак мае назву "Запісь", таксама падпісаны Я. Драздовічам [2, л. 74]. На л. 75 [2] занатаваны лексемы, разнастайныя па тэматыцы, але якія адрозніваюцца па форме ад дзісенскіх, з тлумачэннем і ў асобных выпадках – з прыкладамі на рэестравую пінскую лексему. Запіс зроблены ў м. Сернікі, вёсках Пінкавічы, Іванчыцы[1] сінім алоўкам, чарнілам і з чырвонымі падкрэсліваннямі.

На наступных лістах вытрымліваецца, у прынцыпе, тая ж табліца на тры ўмоўныя калонкі: сінім алоўкам падаецца дзісенская лексема, яе пінскі варыянт (без указання канкрэтнай вёскі) і адпаведнік або (часцей) сімвал "<" з вёскі Дубнавічы [2, л. 77–81]. Называюцца прадметы кухоннага ўжытку, прадметы побыту, назвы чалавека па роднасці і сваяцтве, эмацыянальны стан чалавека, некаторыя групы лексем маюць аўтарскі загаловак, напрыклад: "печ", "жорны", "кросны" і інш.

Далей спосаб фіксацыі матэрыялу змяняецца: указваецца вёска, потым падаюцца пінскія лексемы адной тэматычнай групы і іх дзісенскі адпаведнік або тлумачэнне на дзісенскай гаворцы. Так, пераважна прадметы побыту зафіксаваны ў в. Дубнавічы [2, л. 83], метэаралагічныя з'явы і назвы раслін, характарыстыкі чалавека, назвы некаторых страў, святы і інш. – у в. Лозічы [2, л. 84–85], назвы водных і балотных раслін – у вёсках Качановічы[2], Пінкавічы і Купяцічы[3] [2, л. 86–88]. Запіс зроблены сінім і простым алоўкамі.

Варта адзначыць, што ў многіх сшытках прысутнічаюць і ўрыўкавыя запісы асобных слоў [напрыклад, л. 56, л. 60 адв., 72, 73, 89 адв. і інш.].

У "Падрыхтоўчых матэрыялах" Я. Драздовіча ўтрымліваюцца таксама і яго занатоўкі адносна вымовы ў асобных палескіх вёсках, напрыклад: "У вёсца Калоднае[4] беларуская мова такая ж самая, як і у Наваградзкім павеце" [2, л. 2]. Таксама Язэп Нарцызавіч зафіксаваў свае назірані над "палесскай мовай", абапіраючыся на ўласныя назіранні, у прыватнасці, мяжу дыялектаў, ці "лінію разслаеньня вымовы", г. зн. мяжу дыялектаў: "вёск[і] Алішанка, Твярдоўка, Буса, Тышкавічы, Абрыў, Сакалоўка, Гарадзішча, Дубнавічы[5]", а таксама "вескі, гаворучыя на чысьцейшай (ад лініі разслаеньня) палесскай вымове, з дзеканьнем: вёск[і] Азарычы, Кралевічы, Амельная, Клінск (?), Клетная, м. Лагішын, в. Турная, Сьвятая Воля[6]" [2, л. 73].

---

[1] Сяло ў Зарэчненскім раёне Ровенскай вобласці (Украіна).

[2] Вёска ў Пінскім раёне Брэсцкай вобласці.

[3] Вёска ў Пінскім раёне Брэсцкай вобласці.

[4] Вёска ў Столінскім раёне Брэсцкай вобласці.

[5] Вёскі Брэсцкай вобласці: Альшанка, Дубнавічы, Сакалоўка, Цвярдоўка (Пінскі раён), Аброва, Буса, Тышкавічы (Іванаўскі раён), Гарадзішча (Камянецкі раён).

По геаграфічным палажэнні вёскі больш правільна было б размясціць у наступным парадку: Дубнавічы, Цвярдоўка, Альшанка, Сакалоўка, Аброва, Буса, Тышкавічы, Гарадзішча.

[6] Вёскі Амельна Рагачоўскага раёна, Клінск Калінкавіцкага раёна (Гомельская вобласць), Каралевічы Глыбоцкага раёна (Віцебская вобласць), гарадскі пасёлак Лагішын Пінскага раёна, вёскі Азарычы і Клетная Пінскага раёна, аграгарадок Святая Воля Івацэвіцкага раёна, вёска Турная Кобрынскага раёна (Брэсцкая вобласць).

По геаграфічным палажэнні населеныя пункты больш правільна было б пералічваць у такім парадку: Амельна, Клінск, Каралевічы, Лагішын, Азарычы, Клетная, Святая Воля, Турная.

## Адметнасці ўпарадкавання матэрыялаў: тэматычны даведнік

**1.** Лексемы ў "Пінскіх падрыхтоўчых матэрыялах" упарадкаваны пераважна па тэматычным прынцыпе, унутры раздзелаў алфавітны парадак складальнікам звычайна не вытрымліваецца. Пры гэтым значная колькасць матэрыялаў не аб'яднана па змесце, таму словы адной лексіка-семантычнай групы могуць прыводзіцца ў розных сшытках і розных падборках. Да вялікай колькасці слоў Я. Драздовічам прыводзяцца рады аднакарэнных.

Пасля апрацоўкі "Падрыхтоўчыя матэрыялы" афармлены як *дзісенска-пінскі дыялектны тэматычны слоўнік з элементамі гнездавання.* Унутры тэматычных блокаў лексемы размяшчаюцца па алфавіце; аднакарэнныя і сэнсава звязаныя словы, што адносяцца да рэестравых, у межах гнязда таксама фіксуюцца ў алфавітным парадку, напрыклад:

**СЬЛІ́ВА** *ж.*, **СЬЛІ́ВЫ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Слы́ва*** *ж.* (Сернікі); ***слы́ўка*** *ж.* (Дубнавічы, Парэчча); ***слы́ўня*** *ж.* (Марочна); ***сьлі́ва*** *ж.* (Азарычы).

**Сьлівіна́** *ж.* (Дзісеншч.). ***Слывіна*** *ж.* (Сернікі).

**Сьлі́ўка** *ж.* (Дзісеншч.). ***Слы́ўка*** *ж.* (Парэчча, Сернікі).

**Сьлі́ўнік** *м.*; **сьліўня́к** *м.* (Дзісеншч.). ***Слыўкі*** *мн.* (Парэчча).

**ТО́ПАЛЬ** *м.*, **ТО́ФІЛЬ** *м.* (Дзісеншч.). ***Потопо́ль*** *м.* (Марочна); ***тополь*** *м.* (Азарычы, Дубнавічы); ***тополь*** *м.*, ***тополі*** *мн.* (Парэчча, Сернікі).

**Тафлінка** *ж.* (Дзісеншч.). ***Тополіна*** *ж.* (Парэчча).

**То́паль бе́лы** (Дзісеншч.). ***Вісо́кор*** *м.* (Марочна); ***сокор*** *м.* (Марочна).

**То́фліна** *ж.* (Дзісеншч.).

**Ясокар** *м.* (Дзісеншч.). ***Сокор*** *м.* (Піншчына).

Як бачна, дзісенскія і пінскія адпаведнікі падаюцца адрознымі спосабамі – звычайным тлустым і тлустым курсівам. Фанетычныя варыянты і формы адзіночнага і множнага ліку (пры фіксацыі Я. Драздовічам) прыводзяцца праз коску, граматычныя, словаўтваральныя і лексічныя варыянты – праз коску з кропкай. Націск у тых лексемах, дзе яго не ўказаў складальнік, пры апрацоўцы не пазначаўся. Граматычныя паметы ў Язэпа Нарцызавіча (як і ва ўсіх іншых матэрыялах) адсутнічаюць, таму да кожнай рэестравай лексемы і яе адпаведнікаў былі дададзены агульнапрынятыя пазнакі. Стылістычныя паметы ў дадзеных падборках у складальніка адсутнічаюць. Лінгвістычны пашпарт цалкам пераносіўся са сшыткаў; калі назва вёскі не ўказвалася, то ў дужках пазначалася назва рэгіёна – Піншчына.

**2.** Назвы тэматычных блокаў былі запазычаны са слоўнікаў "Жывёльны свет", "Раслінны свет", "Чалавек" і "Сельская гаспадарка" [11–15]. Такім чынам атрымалася 8 раздзелаў:

1) раслінны свет: лясныя, садовыя і паркавыя дрэвы, дзікія і культурныя кустарнікі, лугавыя і палявыя травяністыя расліны, лясныя травяністыя расліны, водныя і балотныя травяністыя расліны, сельскагаспадарчыя травяністыя расліны, назвы груп раслін;

2) жывёльны свет: назвы прадстаўнікоў жывёльнага свету (дзікая і свойская жывёла, дзікія і свойскія птушкі, паўзуны і земнаводныя, рыба і рак, насякомыя і ніжэйшыя) і іх характарыстыка (назвы покрыва цела ў жывых істот, назвы частак цела і органаў розных жывых істот, масці свойскай жывёлы);

3) чалавек: назвы чалавека па роднасці і сваяцтве, па месцы пражывання, паводле прафесійнага занятку, паводле традыцыйных сельскагаспадарчых заняткаў, паводле традыцыйных вераванняў; назвы частак цела чалавека і яго органаў, назвы хвароб чалавека; характарыстыка чалавека па знешнім выглядзе і ўнутраным стане, па паводзінах, паводле адносін да працы, эмацыянальны стан чалавека;

4) сельская гаспадарка: назвы сельскагаспадарчых прылад працы, іх частак, прыстасаванняў, спадарожнага начыння; назвы сельскагаспадарчых і вытворчых пабудоў (агульныя назвы гаспадарчых будынкаў, назвы пабудоў гуменнага комплексу, бытавых сельскагаспадарчых пабудоў, пабудоў для ўтрымання свойскай жывёлы і птушкі, рознае); назвы воза, саней, іх частак, збруі; нарыхтоўка ўраджаю;

5) побыт: а) матэрыяльная культура: назвы паселішчаў і іх частак, хата і яе часткі, часткі зруба, агароджа, прадметы побыту, прадметы кухоннага ўжытку, печ і яе часткі, тканіны, адзенне (жаночая адзежа, мужчынская адзежа і яе асобныя часткі, бялізна і яе асобныя часткі, дадаткі: іншыя рэчы гардэробу і ўпрыгожанні, абутак, рыбалоўныя прылады, ежа (з гародніны, зернавая, малочная, мучная, мясная, зборная); б) духоўная культура: дні народна-царкоўнага календара, абрады, назвы міфічных істот, танцы;

6) астраномія, метэаралогія: астранамічныя аб'екты, метэаралагічныя з'явы і звязаныя з імі паняцці;

7) рэльеф, геалогія: асаблівасці рэльефу, грунт і яго складнікі, выкапні, металы, сплавы;

8) рознае, агульнаўжывальная лексіка.

Улічваючы змест і характар падачы матэрыялаў, пасля апрацоўкі была ўдакладнена для друку назва матэрыялаў – "Пінскія падрыхтоўчыя матэрыялы: групы тэматычна звязаных і аднакарэнных лексем".

**Асаблівасці лексічнага матэрыялу: рэестравыя лексемы і адпаведнікі**

Пасля пераразмяшчэння лексем, выключэння адзінак, якія паўтараюцца, агульная колькасць слоўнікавых артыкулаў складае амаль 990, аднак калі ўлічваць аднакарэнныя і іншыя лексемы, што падаюцца ў гнёздах, як асобныя артыкулы, то колькасць павялічыцца да 1765 адзінак. Пры гэтым, калі мець на ўвазе фанетычныя, граматычныя, словаўтваральныя і, самае важнае, лексічныя варыянты як пінскіх, так і дзісенскіх лексем, то агульная колькасць зафіксаваных адзінак складае больш за 4245.

**1.** У 98 выпадках рэестравая дзісенская лексема (або адзін з прыведзеных у радзе варыянтаў рэестравай лексемы) і ў 63 рэестравая пінская адзінка ўяўляюць сабой складаныя назвы, пераважна гэта словазлучэнні, пабудаваныя па мадэлі "прыметнік + назоўнік": *ка́рл.[ікавая] бяро́зка, плашнягóвая травá, лáстаўка падстрэ́шная, раздваёны капы́т, падстаўнóе крэ́сла, гр.[унт] скалі́сты* і інш. У 20 выпадках (з іх 6 – пінскія) гэта два (адзінкава тры) назоўнікі: *маток ц[ыбу]лі, ка́рыта р.[акі], згон зімы́, под нутрá пéчы*; *опылóўка дрэ́ва, стыбэ́льле вік, сноп бóбу.* Яшчэ 7 загаловачных лексем (з іх 3 – пінскія) – спалучэнні двух назоўнікаў з прыназоўнікамі: *шáпка з казыркóм, сьнег з вéтрам, раздавáньне ад цеплá, ткані́на з рызьзя́*; *стрыхá з прычу́лком, стрыхá з пацíятамі.* Пяць пінскіх рэестравых адзінак пададзены ў выглядзе прыназоўнікава-назоўнікавых спалучэнняў: *под бровóй, за шчэкóй, под ру́ку, коло мэзы́нца, пуд горóю.*

**2.** У пераважнай большасці выпадкаў у якасці загаловачнай лексемы прыводзіцца адзін дзісенскі адпаведнік (91%). У некаторых выпадках у якасці рэестравых было зафіксавана дзве і больш дзісенскіх адзінак: у 132 выпадках – дзве, у 17 – тры, у 2 – чатыры і адзінкава – па дзевяць і адзінаццаць, напрыклад:

**БАЛО́ТНЫ КАСА́Ч**; **КІЁ́ЎКІ** *мн.*; **КІЁ́ЎКА** *ж.*; **КІЁ́ЎКІ** *мн.*; **КІЁ́ЎНІК** *м.*; **МЯЧЭ́ЎНІК** *м.*; **ПЛАШНЯГО́ВАЯ ТРАВА́**; **ПЛАШНЯ́К** *м.*; **ПЛО́СКАЯ СІ́ТА**; **ПУ́ХАЎКІ** *мн.*; **РАЗАВУ́С** *м.* (Дзісеншч.)...[1]

У такіх радах падаюцца звычайна сінанімічныя лексемы (больш за 42%), словаўтваральныя варыянты (амаль 37%), менш указваецца граматычных (амаль 7%), фанетычных (6%) і фанетыка-словаўтваральных варыянтаў (2%):

**КНІ́ГАЎКА** *ж.*, **КНІ́ГАЎКІ** *мн.*; **МАЛЫ́Ш** *м.*; **РЫБАЛО́Ў** *м.* (Дзісеншч.)...

**ВАЗАВЕ́НЬКА** *ж.*; **ВАЗО́ЎНЯ** *ж.* (Дзісеншч.)...

**Пры́плеч** *ж.*; **прыплéчча** *н.* (Дзісеншч.).

**ПЬЯ́ЎКА** *ж.*; **П'Я́ЎКА** *ж.*, **П'Я́ЎКІ** *мн.* (Дзісеншч.)...

**ЖЭРСТЕЛЬ, ЖЭРСЬЦЕЛЬ** *ж.*; **ЖАРСТЛІНА** *ж.* (Дзісеншч.)...

У асобных радах (6% выпадкаў) прыводзяцца словаўтваральныя варыянты і сінонімы:

**ВАРАВЕ́НЬКА** *ж.*; **ВАРЫЎНЯ́** *ж.*; **КУ́ХНЯ** *ж.* (Дзісеншч.)...

[1] Шматкроп'е абазначае, што слоўнікавы артыкул прыводзіцца не цалкам, а толькі часткова, з мэтай праілюстраваць названую канкрэтную асаблівасць.

Адзначым, што каля 305 дзісенскіх лексем пададзены складальнікам без пінскага адпаведніка (гэта каля 17% ад агульнай колькасці). Магчыма, Язэп Нарцызавіч не паспеў праверыць іх наяўнасць і асаблівасці вымаўлення на Палессі (*алéшына, малíнка, руччэ́й, спуск, янтáр*), таксама магчыма, што частка гэтых дыялектных слоў была невядома палешукам або ўяўляе сабой безэквівалентную дзісенскую лексіку ў дачыненні да іх гаворак: *раўгéня, рýлі, саладýха, камы́; завóркі, зáмалаткі; пáрась, вапеньніца; бярэ́сьціна, йíльма, сухадрэ́ўка; аўсяніца, жы́цень, чарнýхі, капýсьнішча, маркóвіны; маргель; малісаўка, шалахвóсьцік* і інш.

**3.** У якасці адпаведнікаў звычайна падаецца адна пінская адзінка (каля 64%), радзей дзве (больш за 19%), тры (каля 9%), чатыры (амаль 5%), пяць, шэсць і сем (па 1%) лексем, адзінкава – па 8 і 14:

**КАЗЁЛЬКА** *ж.*, **КАЗЁЛЬКІ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Кобылькі*** *мн.* (Парэчча, Сернікі); ***кóзьлік*** *м.* (Азарычы); ***кóнык*** *м.* (Дубнавічы); ***скачóк лугавы́*** (Марочна); ***сьвершчóк*** *м.* (Марочна); ***сьвіргýн*** *м.* (Марочна); ***цюцік*** *м.* (Парэчча).

Адзначым, што яшчэ ў 55 выпадках пінскія словы (у асобных выпадках гэта рад з двух ці трох лексічных сінонімаў) зафіксаваны як рэестравыя, без дзісенскага адпаведніка. Безумоўна, гэта безэквівалентная пінская лексіка (у адносінах да дзісенскай): *какарýзька, кабнык, рáло, остры́ўнык, дубрóўка; кóўбык, ціпýрка; молодýха* і *панéнка* (пра мурашак); *цыбэ́ль, шарыхвост* і многія іншыя.

Большасць пінскіх адзінак з'яўляецца лексічнымі адпаведнікамі да дзісенскіх (амаль 29%) або іх фанетычнымі варыянтамі (практычна 32%):

**СÝЧКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Волчкі*** *мн.* (Піншчына).

**ЦÍНА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Жя́бур*** *м.* (Качановічы; Піншчына).

**АГРЭ́СТ** *м.* (Дзісеншч.). ***А́груст*** *м.* (Сернікі); ***я́грост*** *м.* (Азарычы, Дубнавічы, Марочна); ***я́груст*** *м.* (Парэчча).

**ЖУРАВÍНЫ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Журахвіні*** *мн.* (Азарычы); ***журахвíны*** *мн.* (Марочна); ***журахвы́ны*** *мн.* (Дубнавічы).

Значна менш прыведзена адпаведнікаў, што адрозніваюцца толькі словаўтваральнымі афіксамі (прыблізна 8%) або граматычнымі паказчыкамі (менш за 1%):

**Вéрбачка** *ж.* (Дзісеншч.). ***Вэрбы́нка*** *ж.* (Парэчча, Сернікі).

**Затóка** *ж.* (Дзісеншч.). ***Затóк*** *м.* Заліў. (Марочна).

Колькасць лексем, якія зафіксаваны Я. Драздовічам як аднолькавыя па гучанні і сэнсавай характарыстыцы ў дзісенскай і пінскай гаворках, складае крыху менш за 14%:

**ЗАВÉСА** *ж.*, **ЗАВÉСЫ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Завíсы*** *мн.* (Марочна).

Улічваючы тое, што да дзісенскай лексемы можа ўказвацца ад 1 да 14 пінскіх, то ў адным радзе пінскіх лексем могуць прыводзіцца фанетычныя варыянты (30,4%) і сінонімы (амаль 17,5%):

**КРОП** *м.* (Дзісеншч.). ***А́ўкры́п*** *м.* (Парэчча); ***крéэп*** *м.* (Азарычы); ***окрóп*** *м.* (Сернікі); ***окрýп*** *м.* (Дубнавічы); ***окрэ́п*** *м.* (Сернікі); ***укрóп*** *м.* (Сернікі).

**ПЛОТ** *м.* (Дзісеншч.). ***Загорода*** *ж.* (Піншчына); ***плыт*** *м.* (Сернікі); ***прóсла*** *н.* (Іванчыцы).

Значна менш прадстаўлена граматычных (12,7%), словаўтваральных (11,4%), фанетыка-словаўтваральных варыянтаў пінскіх лексем (9,7%), фанетычных варыянтаў і лексічных сінонімаў (6,7%) і інш. (11,6%), напрыклад:

**АСВÁ** *ж.*, **ВÓСВЫ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Осá*** *ж.* (Азарычы, Дубнавічы, Марочна); ***осá*** *ж.*, ***осы*** *мн.* (Парэчча, Сернікі).

**Шашóчак** *м.*, **шашóчкі** *мн.* (Дзісеншч.). ***Тхороня́*** *н.*, ***тхороня́та*** *мн.* (Парэчча); ***тхорýк*** *м.*, ***тхорукí*** *мн.* (Сернікі).

**САЧЫ́ЎКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Сачы́ўка*** *ж.* (Азарычы); ***сочовы́ца*** *ж.* (Парэчча, Сернікі); ***сочэвы́ца*** *ж.* (Марочна).

**Падбрýшша** *н.* (Дзісеншч.). ***Жывóт*** *м.* (Азарычы, Дубнавічы); ***подбрушша*** *н.* (Азарычы); ***чэ́рово*** *н.* (Сернікі); ***чэ́рэво*** *н.* (Азарычы, Дубнавічы, Парэчча).

**ВАРÓНА** *ж.*, **ВАРÓНЫ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Вóрон*** *м.* (Парэчча, Сернікі); ***ворóна*** *ж.* (Дубнавічы, Марочна); ***вороня́к*** *м.* (Азарычы).

## Тлумачальная частка

**1.** Невялікая частка дзісенскіх і пінскіх лексем (або некаторыя з іх у радзе варыянтаў), а менавіта 108 (6,1% ад агульнай колькасці рэестравых), суправаджаецца азначэннямі. Пераважна гэта кароткае ўдакладненне праз слова ці словазлучэнне (58 выпадкаў):

**Курга́н** *м.* (Дзісеншч.). ***Курга́н м.***; ***курганы́ мн.*** Прыродныя купіны на балотах. (Марочна).

**ПЬЯ́ЎКА** *ж.* ... ***п'явы́ца чо́рная***. Некрывасосная п'яўка. (Марочна)...

Часта сустракаюцца і невялікія апісальныя тлумачэнні з узгадваннем асобных звестак і ўяўленняў пра прадмет (41 выпадак):

**КАЎТУ́Н** *м.* (Дзісеншч.). ***Коўту́н м.*** Хвароба, што пачынаецца з сіняга вадзяного пухірка, які перарастае ў язву. (Марочна).

**ПУЗІНЬ** *м.* Хворaст [галінкі, дубцы] на стрэхах і стажках супраць развейвання дзіркі ветрам. (Дубнавічы).

Толькі 7 лексем (*жэрстэлы́на*, *лучэ́й*, ~~*плашня́к*~~, *рогу́з*, *рэбрэ́й*, *рэ́мізь*, *тонконы́г*) суправаджаюцца разгорнутымі азначэннямі энцыклапедычнага тыпу, якія, з мэтай захавання адметнасці слоўніка, пакідаліся ў нязначна перапрацаваным выглядзе:

**БАЛО́ТНЫ КАСА́Ч** ... (Дзісеншч.). ... ***рогу́з м.*** Высокая балотная расліна сямейства касачоў; высокія круглыя дуды-сцёблы маюць форму кіёў і заканчваюцца шышкамі з пуху, што падобны на артылерыйскі протар для чысткі руль; калі расціснуць даспелую шышку-пухоўку, то яна разляціцца ў паветра пухам; карэнне р.[огуза] ежна для людзей у сырым выглядзе, з высушанага лісця – "мячоў" – плятуць рагожы, уюць вяроўкі, путы, вяжуць аброці і г. д. (Качановічы, Купяцічы, Пінкавічы).

У двух выпадках аўтарскае тлумачэнне было апушчана і заменена на пазнаку *"тое ж"* па прычыне паўтору пры пераліку абсалютных лексічных сінонімаў-адпаведнікаў:

**БАЛО́ТНЫ КАСА́Ч** ... (Дзісеншч.). ... ***лэ́пах м.*** З сямейства касачоў; жоўты колер ліліі і агуркавастыя плады; высушаны, ідзе скаціне на корм. (Піншчына); ***мечына́ ж.*** Тое ж. (Піншчына); ***плэ́шнік м.*** Тое ж. (Качановічы).

Акрамя гэтага, яшчэ да чатырох адзінак (*дзя́дзя*, *ма́ма*, *та́та*, *[укусі́ць]*) было дададзена азначэнне, улічваючы кантэкст і асаблівасці ўжывання:

[**Укусі́ць**] *зак.*; [**ушчамі́ць**] *зак.* [Укусіць (пра мурашку)]. (Дзісеншч.). *Уку́сець.* (Дзісеншч.). *Ушчэ́мець.* (Дзісеншч.). ***Ускімі́ць зак.*** (Азарычы).

**Та́та** *м.* [Ужываецца як зваротак]. (Дзісеншч.). ***Ба́тю м.*** (Піншчына).

Называючы масці коней, кароў, авец, свіней, сабак і птушак, Я. Драздовіч паўтараў многія прыметнікі (*бе́лы*, *лы́сы*, *паджа́ры*, *рабы́*, *руды́*, *ры́жы*, *сі́вы*, *чо́рны*, *шэ́ры*) адносна да кожнай жывёлы. Пры апрацоўцы ўсе такія адзінкі (іх 27) былі аднастайна аформлены і сталі суправаджацца азначэннямі:

**ЛЫ́СЫ** *прым.* Масьць кароў, коней, сабак. *Лы́сая. Лы́сы.* (Дзісеншч.). ***Лы́сы прым.*** *Лы́са. Лы́сы.* (Азарычы, Сернікі).

**ПЕРАПЯЛІ́СТЫ** *прым.* Масьць сьвіней. *Перапялі́стая.* (Дзісеншч.). ***Пэры́сты прым.*** *Пэры́ста.* (Азарычы, Сернікі).

Такім чынам, пасля апрацоўкі 139 лексем маюць азначэнне.

**2.** У матэрыялах Я. Драздовіча не было зафіксавана мнагазначных слоў, але, маючы на ўвазе той факт, што асобныя адзінкі паўтараюцца ў некалькіх падобных па змесце падборках, што змешчаны ў розных сшытках і з рознымі сэнсавымі характарыстыкамі, то было вылучана тры такія лексемы:

**БАЛО́ТНЫ КАСА́Ч** ... (Дзісеншч.). ***Лучэ́й м.*** 1. Кармавая балотная трава сямейства касачоў; цвіце жоўтым цюльпанавастым колерам, плады маюць форму агуркавастай шышкі. (Качановічы, Купяцічы, Пінкавічы). 2. Малакармавая балотная трава сямейства пырэйных, расце па луках балотных рэк (Піншчына)...

**ПАДЖА́РЫ** *прым.* 1. Масьць авец. *Паджа́рая. Паджа́ры.* (Дзісеншч.). ***Поджарысты** прым. Поджарыста.* (Азарычы, Сернікі). 2. Масьць сабак. (Дзісеншч.). ***Поджа́ры** прым.* (Азарычы, Сернікі).

**РЫ́ЖЫ** *прым.* 1. Масьць кароў. *Ры́жая.* (Дзісеншч.). ***Гнеды** прым. Гнеда.* (Азарычы, Сернікі). 2. Масьць коней. (Дзісеншч.). ***Ры́жы** прым.* (Азарычы, Сернікі).

## Ілюстрацыйны матэрыял

У "Падрыхтоўчых матэрыялах" Я. Драздовіч толькі да дзвюх пінскіх лексем дадае прыклад:

**Галёнка** *ж.*, **галёнкі** *мн.* (Дзісеншч.). ***Го́лень** ж.* (Пагост, Парэчча, Сернікі); ***го́лень** ж.*, ***го́лені** мн.* (Азарычы). *У голіні.* (Сернікі).

**Лік** *м.*; **твар** *м.* (Дзісеншч.). ***Від** м.* (Азарычы); ***ліцо́** н.* (Парэчча, Сернікі); ***лыцо́** н.* (Пагост); ***твар** м.* (Азарычы, Дубнавічы, Пагост, Парэчча, Сернікі). *На твару́.* (Сернікі).

Пры гэтым 31 адзінка (маюцца на ўвазе як дзісенскія, так і пінскія) пададзена не ў пачатковай форме (або ў складзе сказа): *блы́скае*; *залыло́; замглілася*; *затліло*; ~~*затужы́ўса*~~; *зачума́жыло*; *зачума́зылоса*; *ле́пшая*; *нахма́рылося*; *нехары́зная, нехары́зна*; *погоды́лыса*; *позадува́ло*; *по́йдзем, по́йдземце*; *пуйдэмо*; *помо́ршчылоса*; *помыры́лыса*; *пэрэсо́хло*; *ро́бім, робі́мо*; *тле́е*; *уку́сець*; *у пологу́*; *ушчэ́мець*; *ходзі́мото*; *хоры́йша*; *А калі ж я магла́ гэ́та зрабіць? Не было ча́су*; *Ве́льмы па́лыць*; *Дай тобі, Бо́жа, гора́зное сча́сьце, гора́зное здаро́ўе!; Око́ч я гэ́то зробы́ла?*; *Пачала́ся ку́даса*; *Пойчаса йітымэта. Нэ йтымэтэ.* Пасля апрацоўкі такія словаўжыванні перанесены ў зону ілюстрацыі, а ўзноўленая пачатковая форма падаецца ў квадратных дужках (або без іх, калі ў сказе лексема ўжыта ў пачатковай форме):

**АБЛО́ЖНІЦА** *ж.*; **АБЛО́ЖНЫ ДОЖДЖ** (Дзісеншч.). [***Зачума́жыць***] *зак. Зачума́жыло.* (Марочна).

**ЙІСЬЦІ́** *незак.* (Дзісеншч.). ***Йітымэта**, **йітымэтэ** незак. Пойчаса йітымэта. Нэ йтымэтэ.* (Дубнавічы).

Акрамя таго, яшчэ 32 дзісенскія і пінскія лексемы, што называюць масці свойскай жывёлы (пераважна прыметнікі ў форме жаночага роду), пасля ўпарадкавання рэестравых лексем, што паўтараюцца, былі афармлены як прыклады:

**БЕЛАБРУ́ХІ** *прым.* Масьць кароў. *Белабру́хая.* (Дзісеншч.). ~~***Білы***~~ *прым.* ~~*Білая*~~. (Азарычы, Сернікі).

**СІ́ВЫ** *прым.* Масьць авец, кароў, коней, птушак, сабак, сьвіней. *Сівая. Сівы.* (Дзісеншч.). ***Сі́вы** прым. Сі́ва* (толькі пра птушак). (Азарычы, Сернікі); ***сы́вы** прым. Сы́ва.* (Азарычы, Сернікі). *Сы́вы.* (Сернікі). *Сы́вый* (толькі пра каня). (Азарычы).

Падсумоўваючы заўважым, што ў апрацаваным варыянце падрыхтоўчых матэрыялаў 65 лексем суправаджаюцца ілюстрацыямі.

Неабходнасць апрацаваць "Пінскія падрыхтоўчыя матэрыялы" і даць іх для карыстання, вывучэння і даследаванняў шырокаму колу чытачаў выклікана тым, што Язэп Нарцызавіч зафіксаваў нашмат больш цікавых і адметных адзінак, чым даслаў у 1926 г. на падрыхтаваных картках у Інстытут беларускай культуры.

"Пінскія матэрыялы" ўяўляюць сабой двухдыялектны тэматычны даведнік па заалогіі, батаніцы, астраноміі і геалогіі, сельскагаспадарчай дзейнасці і побыце чалавека, яго анатоміі; утрымліваюць як шырокараспаўсюджаную, так і вузкарэгіянальную лексіку, у тым ліку дзісенскую і пінскую безэквівалентную. У апрацаваным выглядзе яны, разам з "Краёвым слоўнікам Піншчыны" і "Пінскімі словазборамі", даюць дастаткова поўны агляд тагачаснага стану палескіх гаворак. Гэтаму спрыяе і падрабязны лінгвістычны пашпарт пры кожным словаўжыванні. Важна адзначыць, што тлумачальная частка пры пераважнай колькасці лексем адсутнічае, што робіць слоўнік больш кампактным і накіраваным на выяўленне фанетычных, акцэнталагічных, граматычных, словаўтваральных і сінанімічных асаблівасцей гаворак. Грунтоўныя азначэнні

## [ЕЖА]

### Ежа з гародніны

**АНЕ́ЛЬСКАЯ КА́ШКА** (Дзісеншч.)

**БАЦЬВІНА** *ж.*, **БАЦЬВІ́НЬНЕ** *н.* (Дзісеншч.). ***Ботвúньне*** *н.* (Семяховічы).

**БУЛЁН** *м.* (Дзісеншч.). ***Крышанú*** *мн.* (Семяховічы).

**БУЛЬБІНАЯ КА́ША, БУЛЬБЯ́НКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Картаплян.***[***ая***] ***к.***[***аша***] (Семяховічы), ***таўканú*** *мн.* (Семяховічы).

**БУРАКІ́** *мн.* (Дзісеншч.). ***Буракí*** *мн.* (Семяховічы).

**ГАРБУ́З** *м.* (Дзісеншч.). ***Гарбу́з*** *м.* (Семяховічы).

**ЙІЛЬНЯНУ́ХА** *ж.*, **ЛЯНУ́ХА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Лэнúвая капу́ста*** (Семяховічы).

**КАПУ́СТА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Капу́ста*** *ж.* (Семяховічы).

### Ежа зернавая

**БОБ** *м.* (Дзісеншч.). ***Бо͡уб*** *м.* (Семяховічы).

**КАМЫ́** *мн.* (Дзісеншч.).

**КА́ША** *ж.* (Дзісеншч.). ***Ка́ша*** *ж.* (Семяховічы).

**КРУПЕ́НІ** *мн.*, **КРУПНІ́К** *м.* (Дзісеншч.). ***Кру́пнык*** *м.* (Семяховічы).

**КУЦЬЦЯ́** *ж.* (Дзісеншч.). ***Кутьтя́*** *ж.* (Семяховічы).

**ПЭРЛО́ЎКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Кутьтя́*** *ж.* (Семяховічы).

**САЧЫ́ЎКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Сочывúца*** *ж.* (Семяховічы).

### Ежа малочная

**БРЫ́ЗЛАЕ МЛЕ́КА** (Дзісеншч.).

**МАЛАКО́** *н.* (Дзісеншч.). ***Молоко́*** *н.* (Семяховічы).

**МА́СЛА** *н.* (Дзісеншч.). ***Ма́сла*** *н.* (Семяховічы).

**МАСЬЛЯ́НКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Масля́нка*** *ж.* (Семяховічы).

**ПАДСЬМЕТА́НЬНЕ** *н.* (Дзісеншч.). ***Мытана́*** *ж.* (Семяховічы).

**СЫР** *м.* (Дзісеншч.). ***Сыр*** *м.* (Семяховічы).

**СЫРАВА́ТКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Сы́ровотка*** *ж.* (Семяховічы).

**СЫРАКВА́ША** *ж.* (Дзісеншч.). ***Кíслае м.***[***олоко́***] (Семяховічы).

**СЫРАПО́НЯ** *ж.* (Дзісеншч.).

**СЫ́РНІК** *м.*, **СЫ́РНІКІ** *мн.* (Дзісеншч.).

**СЬМІТА́НА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Мытана́*** *ж.* (Семяховічы).

**ТВАРАЖЫ́НА** *ж.* (Дзісеншч.).

**ТВО́РАГ** *м.* (Дзісеншч.). ***Творо́г*** *м.* (Семяховічы).

### Ежа мучная

**АБАРА́НАК** *м.* (Дзісеншч.). ***Кала́ч*** *м.* (Семяховічы).

**АЛА́ДАК** *м.* (Дзісеншч.). ***Ола́док*** *м.* (Семяховічы).

**БА́БКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Ба́бка*** *ж.* (Семяховічы).

**БЛІН** *м.* (Дзісеншч.). ***Блынэ́ц*** *м.* (Семяховічы).

**БО́ХАН** *м.*, **БУ́ЛКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Бохонэ́ц*** *м.* (Семяховічы).

**ГРАЧА́НІКІ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Грыча́ныкі*** *мн.* (Семяховічы).

**ГРЫБО́К** *м.* (Дзісеншч.). ***Ба́бка*** *ж.* (Семяховічы).

**ЗАЦІ́РКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***За́тырка*** *ж.* (Семяховічы), ***по́лыўка*** *ж.* (Семяховічы).

**Прэ́сн.**[**ая**] **заці́рка** (Дзісеншч.). ***По́лыўка*** *ж.* (Лозічы).

**КАКО́РА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Варэ́нык*** *м.* (Семяховічы).

**КАЛАТУ́ХА** *ж.* (Дзісеншч.).

**КАРАВА́Й** *м.* (Дзісеншч.). ***Корова́й*** *м.* (Семяховічы).

**КІСЕ́ЛЬ** *м.* (Дзісеншч.). ***Кісе́ль*** *м.* (Семяховічы).

**КЛЁЦКА** *ж.*, **КЛЁЦКІ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Галу́шкі мн.***, ***клёцкі*** *мн.* (Семяховічы).

**КРЫЖО́ЎКА** *ж.* (Дзісеншч.).

**ЛАПУ́Н** *м.* (Дзісеншч.).

**МАКАРО́Н** *м.* (Дзісеншч.). ***Локшына*** *ж.* (Семяховічы).

**ПАДСКРЭ́БІШ** *м.* (Дзісеншч.). ***Пошкрыбу́ха*** *ж.* (Семяховічы).

**ПЕРАПЕ́ЧКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Сковоро͡удных*** *м.* (Семяховічы).

**ПІРО́Г** *м.* (Дзісеншч.). ***Пэро͡уг*** *м.* (Семяховічы).

**САЧЭ́НЬ** *м.* (Дзісеншч.).

**СУХА́Р** *м.* (Дзісеншч.). ***Суха́р*** *м.* (Семяховічы).

**СЬЛІЖ** *м.*, **СЬЛІЖЫ́** *мн.* (Дзісеншч.).

**ТАЛАКНО́** *н.* (Дзісеншч.). ***Толокно́*** *н.* (Семяховічы).

**ХЛЕБ** *м.* (Дзісеншч.). ***Хліб*** *м.* (Семяховічы).

### Ежа мясная

**ВАНТРАБЛЯ́НКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Мо́чная коўбаса́*** (Семяховічы).

**ВЕРАШЧА́КА** *ж.*, **ВІРШЧА́КА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Тушо́нка*** *ж.* (Семяховічы).

**ВЯНДЛІ́НА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Вітчына́*** *ж.* (Семяховічы).

**ЗДОР** *м.* (Дзісеншч.). ***За́таўка*** *ж.* (Случчына), ***зато́ўка*** *ж.* (Семяховічы).

**КВА́ШАНІНА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Квашаніна*** *ж.* (Семяховічы).

**КІЛБАСА́** *ж.*, **КІЛБА́СЫ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Коўбаса́*** *ж.* (Семяховічы).

**КУМПЯ́К** *м.*, **ШЫ́НКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Кумпя́к*** *м.* (Лозічы, Семяховічы), ***лопа́тка*** *ж.* (Семяховічы).

**МЯ́СА** *н.* (Дзісеншч.). ***Мя́со*** *н.* (Семяховічы).

**ПАЛЯНДВІ́ЦА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Паляндры́ца*** *ж.* (Лозічы).

**ПОЛСЬЦЬ САЛАНІ́НЫ** (Дзісеншч.). ***Пульць са́ла*** (Семяховічы).

**СА́ЛА** *н.* (Дзісеншч.). ***Са́ла*** *н.* (Семяховічы).

**САЛАНІ́НА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Слы́жка*** *ж.* (Семяховічы).

**САЛЬЦАСО́Н** *м.* (Дзісеншч.). ***Сольцасо́н*** *м.* (Семяховічы).

**СЕКА́НКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Багу́к*** *м.* (Семяховічы).

**ЯЁЧНЯ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Яёчня*** *ж.* (Семяховічы).

**Ежа зборная**

**КВАС** *м.*, **ПО́ЛІЎКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Квас*** *м.* (Семяховічы).

**ПО́ЛІЎКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***По́лыўка*** *ж.* (Семяховічы).

**РАЎГЕ́НЯ** *ж.* (Дзісеншч.).

**РУ́ЛІ** *мн.* (Дзісеншч.).

**САЛАДУ́ХА** *ж.* (Дзісеншч.).

**СОК** *м.* (Дзісеншч.). ***Сок*** *м.* (Семяховічы), ***со͡ук*** *м.* (Семяховічы).

**ХАЛАДНІ́К** *м.* (Дзісеншч.). ***Холодны́к*** *м.* (Семяховічы).

## [ДУХОЎНАЯ КУЛЬТУРА]

### [АДМЕТНЫЯ ДНІ НАРОДНА-ЦАРКОЎНАГА КАЛЕНДАРА]

**АСЯНІ́НЫ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Дэды́*** *мн.* Памінальныя дні два разы на год: вясной, каля Вялікадня, і восенню, перад Піліпаўкай. (Лозічы, Семяховічы).

**ВЯЛІ́КДЗЕНЬ** *м.* (Дзісеншч.). ***Вэлы́кдэнь*** *м.* (Лозічы, Семяховічы).

**ДАЖЫ́НКІ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Дажы́нкі*** *мн.* (Семяховічы).

**ДАСЕ́ЎКІ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Дасі́ўкі*** *мн.* (Семяховічы).

**ЗАВО́РКІ** *мн.* (Дзісеншч.).

**ЗАЖЫ́НКІ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Зажы́нкі*** *мн.* (Семяховічы).

**ЗА́МАЛАТКІ** *мн.* (Дзісеншч.).

**ЗА́ПУСТЫ** *мн.* (Дзісеншч.). ***За́пускі*** *мн.* (Семяховічы).

**ЗАСЕ́ЎКІ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Засі́ўкі*** *мн.* (Семяховічы).

**КАЛЯ́ДЫ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Коля́ды*** *мн.* (Семяховічы).

**КУПА́ЛЬЛЕ** *н.* (Дзісеншч.). ***Купа́льны Йіва́н*** (Семяховічы).

**НО́ВЫ ГОД** (Дзісеншч.). ***Но́вы год*** (Семяховічы).

**ПАСТЫ́** *мн.* (Дзісеншч.). ***Вэлы́кі поуст*** (Семяховічы), ***Пылы́паўка*** *ж.* (Семяховічы), ***Пэтро́ўка*** *ж.* (Семяховічы), ***Спа́саўка*** *ж.* (Семяховічы).

**РА́ДАЎНІЦА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Дэды́*** *мн.* (Семяховічы).

**ТАЛАКА́** *ж.* (Дзісеншч.). ***Талака́*** *ж.* (Семяховічы).

**ТРО́ЙЦА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Тро͡уйца*** *ж.* (Семяховічы).

### [АБРАДЫ]

**БАРЫШЫ́** *мн.* (Дзісеншч.). ***Бары́ш*** *м.* (Семяховічы).

**ВЯСЕ́ЛЬЛЕ** *н.* (Дзісеншч.). ***Вэсі́льле*** *н.* (Семяховічы).

***ДЗ́ЕВЫЧ-ВЕ́ЧЭР*** *м.* Паненскі вечар перад вяселлем; развітальны вечар як у маладухі, так і ў маладзёна. (Лозічы).

**ЗАРУ́ЧЫНЫ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Зару́чыны*** *мн.* (Семяховічы).

**ПАГО́ДЗІНЫ** *мн.* (Дзісеншч.). [***Погоды́ца***] *зак. Погоды́лыса* (Семяховічы), [***помыры́цца***] *зак. Помыры́лыса.* (Семяховічы).

**ХАЎТУРЫ** *мн.* (Дзісеншч.). ***По́хороны*** *мн.* (Семяховічы), ***хаўту́рыны*** *мн.* (Лозічы).

**ХРЭ́СЬБІНЫ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Хрысты́ны*** *мн.* (Лозічы, Семяховічы).

### [НАЗВЫ МІФІЧНЫХ ІСТОТ]

**БАЛО́ТНЫ ЧОРТ** (Дзісеншч.). ***Лоза́ты*** *м.* (Лозічы).

**[ДАМАВІ́К]** *м.* (Дзісеншч.). ***Домовы́к*** *м.* (Лозічы).

**РУСА́ЛКІ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Руса́лкі*** *мн.* (Лозічы).

### ТАНЦЫ

**ЗА́ЯЦ** *м.* (Дзісеншч.).

**ЛЯВО́НІХА** *ж.* (Дзісеншч.).

**ПАДУ́ШАЧКІ** *мн.* (Дзісеншч.).

## VI. [АСТРАНОМІЯ. МЕТЭАРАЛОГІЯ]

### [АСТРАНАМІЧНЫЯ АБ'ЕКТЫ]

**БОЛЬШ.[А́Я] МЯДЗВЕ́ДЗІЦА, НАЎМАЎ ВОЗ, ПЯЦІЗЬВЕ́ЗДЗЕ** *н.* (Дзісеншч.). ***Косары́*** *мн.* (Лозічы, Марочна).

**ГВЯЗДА** *ж.*, **ГВЯ́ЗДЫ** *мн.*, **ЗО́РКІ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Зірка*** *ж.* (Марочна), ***зо́ра*** *ж.*, ***зо́рі*** *мн.* (Марочна).

**КАСЦЫ́** *мн.*, **СТАЖА́РЫ** *мн.* (Дзісеншч.).

**МЕ́СЯЦ** *м.* (Дзісеншч.). ***Місяц*** *м.* (Марочна).

**ПАЛЯ́РНАЯ ЗО́РКА** (Дзісеншч.).

**ПО́ЎНЯ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Поўната*** *ж.* (Лозічы).

**СІ́ТЦА** *н.* (Дзісеншч.). ***Ку́пка*** *ж.* (Марочна).

**СО́НЦА** *н.* (Дзісеншч.). ***Со́нца*** *н.* (Марочна).

### [МЕТЭАРАЛАГІЧНЫЯ З'ЯВЫ І ЗВЯЗАНЫЯ З ІМІ ПАНЯЦЦІ]

**АБЛІ́ВЕНЬ** *м.* (Дзісеншч.). ***Голошчы́т*** *м.* (Марочна).

**АБЛО́ЖНІЦА** *ж.*, **АБЛО́ЖНЫ ДОЖДЖ** (Дзісеншч.). [***Зачума́жыць***] *зак. Зачума́жыло.* (Марочна).

**АДЛІЖ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Одлы́га*** *ж.* (Марочна).

**БЛІСКАВІ́ЦА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Блыска́тнява*** *ж.* (Марочна).

**ВЕ́ЦЕР** *м.* (Дзісеншч.). ***Віцёр*** *м.* (Марочна).

**Ве́цер пары́вісты** (Дзісеншч.). ***Віцёр*** *м.* (Марочна).

**ВЕ́Я** *ж.* (Дзісеншч.). ***Кру́ча*** *ж.* (Марочна).

**ВІ́ХАР** *м.* (Дзісеншч.). ***Вы́хор*** *м.* (Лозічы, Марочна).

**ГОЛАЛЁДЗІЦА** *ж.*, ~~**СУХАЛЁДЗЬДЗЕ**~~ *н.* (Дзісеншч.). ***Голодёдзіца*** *ж.* (Марочна).

**ГРАД** *м.* (Дзісеншч.). ***Град*** *м.* (Марочна).

**ГРОМ** *м.* (Дзісеншч.). ***Грым*** *м.* (Марочна).

**ГРУДА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Груда*** *ж.* (Марочна).

**ГУРБА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Грома́да*** *ж.*, ***ку́ча*** *ж.* (Марочна).

**ДОЖДЖ** *м.* (Дзісеншч.). ***Дождж*** *м.* (Марочна).

**Зале́ўныя дажджы́** (Дзісеншч.). ***Спады́*** *мн.* (Лозічы).

**ДУХАТА́** *ж.* (Дзісеншч.).

**ЗАВЕРУ́ХА** *ж.*, **МЯЦЕ́ЛІЦА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Кру́ча*** *ж.* (Марочна).

**ЗАВІ́Й** *м.* (Дзісеншч.). [***Позадува́ць***] *зак. Позадува́ло.* (Марочна).

**ЗА́ЗІМАК** *м.* (Дзісеншч.). ***Зы́мка*** *ж.* (Марочна).

**[ЗАМГЛІ́ЦЦА]** *зак.*, **[НАХМА́РЫЦЦА]** *зак. Замглілася. Нахма́рылося.* (Дзісеншч.). [***Зачума́зыцца***] *зак. Зачума́зылоса.* (Лозічы).

**ЗАМЁРЗЛЫ СЬНЕГ, ШЭ́РАШ** *м.* (Дзісеншч.). ***Зашэ́рэшыўшы сьніг*** (Марочна).

**ЗГОН ЗІМЫ́** (Дзісеншч.). ***Роска́ль*** *м.* (Марочна).

**ЗІМА́** *ж.* (Дзісеншч.). ***Зыма́*** *ж.* (Марочна).

**ЙІМГЛА́** *ж.* (Дзісеншч.). ***Мгла*** *ж.* (Марочна).

**ЙІ́НІЯ** *ж.*, **ЙІ́НІЙ** *м.* (Дзісеншч.). ***Э́ный*** *м.* (Марочна).

**КРУ́ПЫ** *мн.* (Дзісеншч.). ***Крупа́*** *ж.* (Марочна).

**ЛІ́ВЕНЬ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Пролыўны́ д.***[***ождж***] (Марочна).

**ЛІ́ХА** *н.* (Дзісеншч.). ***Кру́ча*** *ж.* (Марочна).

**МАКРАЯ́ДЗЬ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Мокрота́*** *ж.* (Марочна).

**МАРО́З** *м.* (Дзісеншч.). ***Маро́з*** [напісанне?] *м.* (Марочна).

**МО́КРЫ ГОД** (Дзісеншч.). ***Мокроле́то*** *н.* (Марочна).

**МОЧ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Плюха*** *ж.* (Марочна).

**НАВАЛЬНІ́ЦА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Хма́ра*** *ж.* (Марочна).

**ПАВО́ДКА** *ж.*, **РАЗВО́ДЗЬДЗЕ** *н.* (Дзісеншч.). ***Во́дзяно*** *н.* (Марочна).

**ПАГО́ДА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Паго́да*** [напісанне?] *ж.* (Марочна).

**ПА́МАРАКА** *ж.* (Дзісеншч.). [***Зачума́зыцца***] *зак. Зачума́зылоса.* (Марочна).

**ПА́РАНЬНЕ** *н.*, **ПА́РНАСЬЦЬ** *ж.*, **ПРЫПА́РКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Духата́*** *ж.* (Марочна).

**ПА́РАСЬ** *ж.* (Дзісеншч.).

**ПЕРАСУ́ХА** *ж.* (Дзісеншч.). [***Пэрэсо́хнуць***] *зак. Пэрэсо́хло.* (Марочна).

**ПРЫ́ЗІМАК** *м.* (Дзісеншч.). ***Зы́мка*** *ж.* (Марочна).

**ПРЫ́МАРАЗЬ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Пры́морозок*** *м.* (Марочна).

**ПРЭДВЕСЕНЬ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Прыдвісе́ньне*** *н.* (Марочна).

**ПЯКО́ТА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Га́рач*** *ж.* (Марочна).

**ПЯРУ́Н** *м.* (Дзісеншч.). ***Грым*** *м.* (Марочна).

**СЕ́ВЕР** *м.*, **СЕВЯРО́К** *м.* (Дзісеншч.).

**СПАД** *м.* (Дзісеншч.). ***Сьцяг воды́*** (Марочна).

**СУХІ́ ГОД** (Дзісеншч.). ***Су́ша*** *ж.* (Марочна).

**СУШ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Су́ша*** *ж.* (Марочна).

**СЫ́РАСЬЦЬ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Сы́расьць*** [напісанне ?] *ж.* (Марочна).

**СЬЛЯКО́ТА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Сьле́коць*** *ж.* (Марочна).

**СЬНЕГ** *м.* (Дзісеншч.). ***Сьніг*** *м.* (Марочна).

**СЬНЕГ З ВЕ́ТРАМ** (Дзісеншч.). ***Ку́даса*** *ж. Пачала́ся ку́даса.* (Лашы).

**СЬЦЮ́ЖА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Нэго́да*** *ж.* (Марочна).

**ТУМА́Н** *м.* (Дзісеншч.). ***Тума́нь*** *м.* (Марочна).

**ХМА́РНАСЬЦЬ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Хму́рно*** *прысл.* (Марочна).

**ХО́ЛАД** *м.* (Дзісеншч.). ***Хо́лад*** [напісанне?] *м.* (Марочна).

**Акале́ласьць** *ж.* (Дзісеншч.). ***Окамінілое*** *н.* (Марочна).

**Ахаладжа́ласьць** *ж.* (Дзісеншч.). ***Ахаладжа́ласьць*** [напісанне ?] *ж.* (Марочна).

**Замерза́ньне** *н.* (Дзісеншч.). ***Замерза́ньне*** *н.* (Марочна).

**Зледзянéласьць** *ж.* (Дзісеншч.). ***Зледзянéлае*** *н.* (Марочна).

**Змёрзласьць** *ж.* (Дзісеншч.). ***Змэ́рзлае*** *н.* (Марочна).

**Зседáньне** *н.* (Дзісеншч.). [***Помóршчыцца***] *зак. Помóршчылоса.* (Марочна).

**Марóз** *м.* (Дзісеншч.). ***Марóз*** [напісанне?] *м.* (Марочна).

**Скрэп** *м.* (Дзісеншч.). ***Скрэп*** *м.* (Марочна).

**Студжэ́ньне** *н.* (Дзісеншч.). ***Студжэ́ньне*** [напісанне?] *н.* (Марочна).

**Сьцюжа** *ж.* (Дзісеншч.). ***Стýжа*** *ж.* (Марочна).

**Халадáньне** *н.* (Дзісеншч.). ***Халадáньне*** [напісанне?] *н.* (Марочна).

**ЯСАЎКА** *ж.*, **МАЛАНЬНЯ́** *ж.* (Дзісеншч.). [***Блы́скаць***] *незак. Блы́скае.* (Марочна).

## VII. [РЭЛЬЕФ. ГЕАЛОГІЯ]

### [АСАБЛІВАСЦІ РЭЛЬЕФУ]

**БАЛÓТА** *н.* (Дзісеншч.). ***Болóта*** *н.* (Марочна).

**Акнó** *н.*, **балóтнае вакнó** (Дзісеншч.). ***Кáнька*** *ж.* (Лозічы), ***окнó*** *н.* (Марочна).

**Бáгна** *ж.* (Дзісеншч.). ***Багнó*** *н.* (Марочна).

**Балацявіна** *ж.* (Дзісеншч.).

**Бузá** *ж.* (Дзісеншч.). ***Бузá*** *ж.* (Марочна).

**Бяздóньне** *н.* (Дзісеншч.). ***Біздóньне*** *н.* (Марочна).

**Бяздóньніца** *ж.* (Дзісеншч.). ***Біздóнніца*** *ж.* (Марочна).

**Дрыгвá** *ж.* (Дзісеншч.). ***Драгвá*** *ж.* (Лозічы, Марочна).

**Йіл** *м.* (Дзісеншч.). ***~~Віл~~*** *м.* (Марочна).

**Йімшáра** *ж.* (Дзісеншч.). ***Мох*** *м.* Мшыстае балота. (Марочна).

**Прóпасьць** *ж.* (Дзісеншч.). ***Прóпасьць*** *ж.* (Марочна).

**Тарпá** *ж.*, **торф** *м.* (Дзісеншч.). ***Торп*** *м.* (Марочна).

**ВÓЗЕРА** *н.* (Дзісеншч.). ***Вóзэро*** *н.* (Марочна).

**Азяркó** *н.*, **азярцó** *н.* (Дзісеншч.). ***Озэрцэ́*** *н.* (Марочна).

**ГАРÁ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Гарá*** *ж.* (Марочна).

**Абры́ў** *м.* (Дзісеншч.). ***Обры́ў*** *м.* (Марочна).

**Адкóс** *м.* (Дзісеншч.). ***Одкóс*** *м.* Схіл гары ці ўзгорка. (Марочна).

**Бугóр** *м.* (Дзісеншч.). ***Згíрок*** *м.* (Марочна).

**Бугры́стасьць** *ж.* (Дзісеншч.).

**Буй** *м.* (Дзісеншч.).

**Вал** *м.*, **грэ́бла** *ж.* (Дзісеншч.). ***Грэ́бля*** *ж.* (Марочна).

**Валатóўка** *ж.* (Дзісеншч.). ***Скопэ́ц*** *м.* Насыпны курган. (Марочна).

**Вершаліна** *ж.*, **вéршаль** *м.* (Дзісеншч.). ***Вэрх*** *м.* Вяршыня гары. (Марочна).

**Выш** *ж.*, **вышыня́** *ж.* (Дзісеншч.). ***Вышыня́*** *ж.* (Марочна), ***узвыш*** *ж.* (Марочна).

**Гарýшка** *ж.*, **гóрка** *ж.* (Дзісеншч.). ***Гíрка*** *ж.* (Марочна).

**Гары́стасьць** *ж.* (Дзісеншч.).

**Касагóр** *м.* (Дзісеншч.).

**Крýта** *прысл.*, **стром** *м.*, **стрóмкасьць** *ж.* (Дзісеншч.). ***Стрóмко*** *прысл.* (Марочна).

**Кургáн** *м.* (Дзісеншч.). ***Кургáн*** *м.*, ***курганы́*** *мн.* Прыродныя купіны на балотах. (Марочна).

**Пагýрак** *м.* (Дзісеншч.). ***Згíрок*** *м.* (Марочна).

**Падгóр'е** *н.* (Дзісеншч.). ***Пуд горóю.*** Каля падножжа гары. (Марочна).

**Паднём** *м.* (Дзісеншч.).

**Пóкаць** *ж.* (Дзісеншч.). ***Скат*** *м.* (Марочна).

**Пры́гарак** *м.* (Дзісеншч.).

**Пры́слань** *ж.* (Дзісеншч.).

**Склон** *м.* (Дзісеншч.). ***Склон*** *м.* Нахіл. (Марочна).

**Спуск** *м.* (Дзісеншч.).

**Схон** *м.* (Дзісеншч.). ***Скат*** *м.* Пакатасць. (Марочна).

**Схонавáстасьць** *ж.* (Дзісеншч.).

**Узвáл** *м.* (Дзісеншч.).

**Узвыш** *ж.* (Дзісеншч.).

**Узгóр'е** *н.* (Дзісеншч.).

**Узгóрак** *м.* (Дзісеншч.). ***Згíрок*** *м.* (Марочна).

**Уз'езд** *м.*, **усхóд** *м.* (Дзісеншч.).

**Узмёт** *м.* (Дзісеншч.).

**[Формы гары]:**

**Булкавáтасьць г.[ары́]** (Дзісеншч.).

**Г.[арá] стагавáстая** (Дзісеншч.).

**Сталагóр'е** *н.* (Дзісеншч.).

**Стрóмкасьць г.[ары́]** (Дзісеншч.).

**Стугарáтасьць** [напісанне ?] **г.[ары́]** (Дзісеншч.).

**Схонавáтасьць г.[ары́]** (Дзісеншч.).

**Шылавáтасьць г.[ары́], шылагóр'е** *н.* (Дзісеншч.). ***Стрóмка*** *прысл.* (Марочна).

**ДАЛÍНА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Доли́на*** *ж.* (Марочна).

**КАЛÝГА** *ж.*, **ЛÝЖА** *ж.*, **ЛÝЖЫНА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Калю́га*** *ж.* (Марочна), ***лýжа*** *ж.* (Марочна).

**КРЫНÍЦА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Крыни́ц[а]*** *ж.* (Марочна).

**ЛАГЧЫ́НА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Доли́на*** *ж.* (Марочна), ***ложчы́на*** *ж.* (Марочна).

**ЛОГ** *м.* (Дзісеншч.). ***Доли́на*** *ж.* (Марочна), ***ныз*** *м.* (Марочна).

**ЛУГ** *м.* (Дзісеншч.). ***Луг*** *м.* (Марочна).

**ЛУМІНА** *ж.* (Дзісеншч.).

**ПРАТАЛАК** *м.* (Дзісеншч.). ***Проталка*** *ж.* (Марочна).

**РАКÁ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Рыкá*** *ж.* (Марочна).

**Амýт** *м.* (Дзісеншч.). ***Кумá*** *ж.* (Марочна).

**Астрóвіна** *ж.* (Дзісеншч.).

**Астрóў** *м.* (Дзісеншч.). ***Óсстроў*** *м.* (Марочна).

**Атóк** *м.* (Дзісеншч.). ***Цы́піль*** *м.* Паўвостраў. (Марочна).

**Бéраг** *м.*, **берагí** *мн.* (Дзісеншч.).

**Вадаспáд** *м.* (Дзісеншч.).

**Вадаспла́ў** *м.* (Дзісеншч.).

**Вадаста́ў** *м.* (Дзісеншч.).

**Вадаце́ч** *ж.* (Дзісеншч.). ***Прото́к*** *м.* (Марочна).

**Вір** *м.* (Дзісеншч.). ***Выр*** *м.* Вір, водаварот. (Марочна).

**Выбо́іна** *ж.* (Дзісеншч.). ***Вы́бай*** *м.* (Марочна).

**Вы́так** *м.* (Дзісеншч.). ***Вы́ток*** *м.* Пачатак ракі. (Марочна).

**Вяне́ц** *м.*, **вяны́** *мн.*, **вянцы́** *мн.* (Дзісеншч.).

**Дно** *н.* (Дзісеншч.). ***Дно*** *н.* (Марочна).

**Забо́р** *м.* (Дзісеншч.).

**За́віх** *м.*, **за́крут** *м.* (Дзісеншч.). ***Кручо́к*** *м.* Калена ракі. (Марочна).

**За́кля** *ж.*, **заклявіна** *ж.*, **лука́** *ж.* (Дзісеншч.). ***Заці́н*** *м.* Рачны заліў (лугавое адгалінаванне ракі). (Марочна).

**Зале́ў** *м.* (Дзісеншч.). ***[Залы́ць]*** *зак.* *Залыло́.* *зак.* (Марочна).

**Зано́с** *м.* (Дзісеншч.). ***Зано́с*** *м.* Месца на рацэ, занесенае пяском. (Марочна).

**Зато́к** *м.* (Дзісеншч.). ***Зато́п*** *м.* (Марочна).

**Зато́ка** *ж.* (Дзісеншч.). ***Зато́к*** *м.* Заліў. (Марочна).

**Зато́р** *м.* (Дзісеншч.). ***Запо́р*** *м.* Запруда. (Марочна).

**Кары́та р.[акі]** (Дзісеншч.).

**Латока́** *ж.* (Дзісеншч.).

**Нано́с** *м.* (Дзісеншч.). ***Нано́с*** *м.* Бераг ракі з нанесеным пяском. (Марочна).

**Надо́ньне** *н.* (Дзісеншч.). ***Подэ́нкі*** *мн.* (Марочна).

**Паро́г** *м.* (Дзісеншч.).

**Пато́п** *м.* (Дзісеншч.). ***Пото́п*** *м.* (Марочна).

**Перасмы́к** *м.* (Дзісеншч.). ***Пэрэ́спа*** *ж.* Перашыек. (Марочна).

**Перато́к** *м.* (Дзісеншч.).

**По́плаў** *м.*, **поплава́** *мн.*, **по́плавы** *мн.* (Дзісеншч.). ***Зато́п*** *м.* Нізінныя лукі па берагах балотных рэк. (Марочна).

**Про́рва** *ж.* (Дзісеншч.). ***Проры́ў*** *м.* Прарыў застаялай вады. (Марочна).

**Разво́дзьдзе** *н.* (Дзісеншч.). ***Наводне́ньне*** *н.* (Марочна).

**Рачча́ліна** *ж.* (Дзісеншч.). ***Погно́й*** *м.* (Марочна).

**Рачча́ль** *м.* (Дзісеншч.). ***Погно́й*** *м.* Старое ~~зарослае~~ рэчышча ракі. (Марочна).

**Роў** *м.* (Дзісеншч.). ***Рыў*** *м.* (Марочна).

**Ука́ў** *м.* (Дзісеншч.). ***Просьць*** *ж.* (Марочна), ***прысьць*** *ж.* (Марочна). Лодачны шлях па балоце нацяньні. (Марочна).

**Ры́тва** *ж.* (Дзісеншч.). ***Вы́бай*** *м.* (Марочна).

**Рэ́чка** *ж.* (Дзісеншч.). ***Ры́чка*** *ж.* (Марочна).

**Смык** *м.* (Дзісеншч.).

**Сплаў** *м.* (Дзісеншч.). ***Сплаў*** *м.* (Марочна).

**Стру́га** *ж.* (Дзісеншч.). ***Стру́га*** *ж.* (Марочна), ***рука́ў ракі́*** (Марочна).

**Стругавіна** *ж.* (Дзісеншч.).

**Цёк** *м.* (Дзісеншч.). ***Сьцёк*** *м.* Плынь ракі. (Марочна).

**РАЎНІ́НА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Роўні́на*** *ж.* (Марочна).

**РО́ЎНЯДЗЬ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Раўні́на*** *ж.* (Марочна).

**РУЧЧЭ́Й** *м.* (Дзісеншч.).

**СА́ЖАЛКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Сажо́лка*** *ж.* (Марочна).

**СТАЎ** *м.* (Дзісеншч.). ***Стаў*** *м.* (Марочна).

**ТАЛ** *м.* (Дзісеншч.). ***Прота́лка*** *ж.* (Марочна).

***ХРА́ПА*** *ж.* Замёрзлы бруд. (Дубнавічы).

**ЦАТАВІ́НА** *ж.* (Дзісеншч.).

## [ГРУНТ І ЯГО СКЛАДНІКІ]

**ВАПЕНЬНІЦА** *ж.* (Дзісеншч.).

**ГЛІ́НА** *ж.* (Дзісеншч.).

**Глей** *м.* (Дзісеншч.). ***Глынь*** *ж.* (Марочна).

**Глі́на бялюга** (Дзісеншч.).

**Глі́на сіву́ха** (Дзісеншч.). ***Сыву́ха*** *ж.* (Марочна).

**Глі́на скалі́стая** (Дзісеншч.).

**Глі́наўка** *ж.* (Дзісеншч.).

**Гляі́стасьць** *ж.* (Дзісеншч.).

**Жыжэнь** *м.* (Дзісеншч.).

**ГРУНТ** *м.* (Дзісеншч.), **ЗЕМЛЯ́** *ж.* (Дзісеншч.).

**Гр.[унт] камяні́сты** (Дзісеншч.).

**Гр.[унт] скалі́сты** (Дзісеншч.).

**ЖАРСТВЯ́К** *м.* (Дзісеншч.).

**КАМЕНЬ** *м.* (Дзісеншч.). ***Ка́мінь*** *м.* (Марочна).

**Асе́лак** *м.* (Дзісеншч.).

**Вапеньнік** *м.* (Дзісеншч.).

**Дзіка́р** *м.* (Дзісеншч.).

**Кром** *м.* (Дзісеншч.).

**Песча́нік** *м.* (Дзісеншч.).

**Плітня́к** *м.* (Дзісеншч.).

**Скала́** *ж.* (Дзісеншч.).

**Ска́лка** *ж.* (Дзісеншч.). ***Кра́мень*** *м.* (Марочна).

**Тачы́льнік** *м.* (Дзісеншч.).

**Шара́к** *м.* (Дзісеншч.).

**КРУША́К** *м.* (Дзісеншч.).

**ПАДЗО́Л** *м.* (Дзісеншч.).

**Падзо́ліца** *ж.* (Дзісеншч.).

**Сіву́ха** *ж.* (Дзісеншч.).

**Суглей** *м.*, **суглінак** *м.* (Дзісеншч.).

**ПЯСО́К** *м.* (Дзісеншч.). ***Жо́ўкрэнец*** *м.* (Дубнавічы), ***пысо́к*** *м.* (Марочна).

**Жарства́** *ж.* (Дзісеншч.).

**Жасьціна́** *ж.*, **жэсьць** *ж.* (Дзісеншч.).

**Жаўця́к** *м.* (Дзісеншч.). ***Жо́вэнык*** *м.* (Марочна).

**Жвір** *м.* (Дзісеншч.).

**Пёх** *м.* (Дзісеншч.).

**Пухле́ц** *м.* (Дзісеншч.).

**Пяшчура́** *ж.* (Дзісеншч.). ***Пысчуга́*** *ж.* Сыпкі пясок. (Марочна).

**Сіва́к** *м.* (Дзісеншч.).

**Сіпе́ц** *м.* (Дзісеншч.).

**Су́пясак** *м.* (Дзісеншч.). ***Су́пысок*** *м.* (Марочна).

**ШАРА́К** *м.* (Дзісеншч.). ***Шара́к*** *м.* (Марочна).

**Ку́па** *ж.* (Дзісеншч.). ***Ку́па*** *ж.* (Марочна).

**Тарпа́** *ж.* (Дзісеншч.). ***Торп*** *м.* (Марочна).

**Чарназём** *м.* (Дзісеншч.). ***Чэрнозём*** *м.* (Марочна).

### [ВЫКАПНІ]

**БРУШТЫ́Н** *м.*, **ЯНТА́Р** *м.* (Дзісеншч.).

**ВА́ПНА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Ва́пно*** *н.* (Марочна).

**ГА́ЗА** *ж.*, **КАРАСІ́НА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Га́за*** *ж.* (Марочна).

**КРЭ́ЙДА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Крэ́йда*** *ж.* (Марочна).

**МАРГЕЛЬ** *м.* (Дзісеншч.).

**СОЛЬ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Сіль*** *ж.* (Марочна).

### [МЕТАЛЫ, СПЛАВЫ]

**ВО́ЛАВА** *н.* (Дзісеншч.). ***Олыво́*** *н.* (Марочна).

**ЗО́ЛАТА** *н.* (Дзісеншч.). ***Зо́лото*** *н.* (Марочна).

**ЗЯЛЁЗА** *н.* (Дзісеншч.). ***Залі́за*** *н.* (Марочна), ***залі́зо*** *н.* (Марочна).

**МЕДЗЬ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Мі́дзь*** *ж.* (Марочна).

**МО́СЕНДЗ** *ж.* (Дзісеншч.).

**СЕРАБРО́** *н.* (Дзісеншч.). ***Сры́бро*** *н.* (Марочна).

**ЦЫН** *м.* (Дзісеншч.). ***Цынк*** *м.* (Марочна).

**ЧЫГУ́Н** *м.* (Дзісеншч.). ***Чыгу́н*** *м.* (Марочна).

## VIII. [РОЗНАЕ. АГУЛЬНАЎЖЫВАЛЬНАЯ ЛЕКСІКА]

***БАРЫ́Ш*** *м.* Выпіўка з нагоды заверанай умовы якой-колеч справы эканамічнага значэння. (Лозічы).

**КІРМА́Ш** *м.* (Дзісеншч.). ***Сьвято́к*** *м.* (Лозічы), ***ярмарок*** *м.* (Сернікі).

**РЫ́НАК** *м.* (Дзісеншч.). ***Ярмарок*** *м.* (Лозічы).

**БАЛО́ТАМ** *прысл.* (Дзісеншч.). ***Боло́том*** *прысл.*, ***просьць*** *прысл.* (Семяховічы).

***ПЛЫЦЬ*** *ж.* Балотная лодачная дарога. (Качановічы).

**РАКО́Й** *прысл.* (Дзісеншч.). ***Рэко́ю*** *прысл.* (Семяховічы).

**СУХАПУ́ЦЬ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Суходо́л*** *м.* (Семяховічы).

**СЬЦЁЖКА** *ж.* (Дзісеншч.). ***Стэ́жка*** *ж.* (Семяховічы).

**ВЫ** *выкл*[1]. (Дзісеншч.). ***Вы́тэ*** *выкл.* (Піншчына).

***ГОРА́З*** *прысл.* Надта добра. (Купяцічы).

***ГОРА́ЗНЫ*** *прым.* Надта добры. *Дай тобі, Бо́жа, гора́зное сча́сьце, гора́зное здаро́ўе!* (Купяцічы).

**ДАЛІБО́Г** *выкл.* (Дзісеншч.). ***Прысяйбо́гу*** *выкл.* (Піншчына).

**ЗЯВА́ЦЬ** *незак.* (Дзісеншч.). ***По́дых*** *м.* (Дубнавічы), ***позеха́ць*** *незак.* (Азарычы).

**ЙІСЬЦІ́** *незак.* (Дзісеншч.). ***Йітымэта***, ***йітымэтэ*** *незак. Пойчаса йітымэта. Нэ йтымэтэ.* (Дубнавічы).

**КАЛІ́** *прысл. А калі́ ж я магла́ гэ́та зрабі́ць? Не было́ ча́су.* (Дзісеншч.). ***Око́ч*** *прысл. Око́ч я гэ́то зробы́ла?* Сернікі.

**ЛЕ́ПШЫ** *прым. Ле́пшая.* (Дзісеншч.). ***Хоры́йшы*** *прым. Хоры́йша.* (Дубнавічы).

**МАСТА́ЦТВО** *н.* (Дзісеншч.). ***Мысьлі́ўство*** *н.* (Сернікі).

**МЕЦЬ** *незак.* (Дзісеншч.). ***Ма́ты*** *незак.* (Піншчына).

***МОСКА́ЛЬ*** *м.* Расійскі салдат. (Лозічы).

**[ПАЙСЬЦІ́]** *зак. По́йдзем. По́йдземце.* (Дзісеншч.). [***Пойсці́***] *незак. Пуйдэмо. Ходзі́мото.* (Дубнавічы).

**ПРЫ́СТАНЬ** *ж.* (Дзісеншч.). ***Пры́стань*** *ж.* (Семяховічы).

**[РАБІ́ЦЬ]** *незак. Ро́бім.* (Дзісеншч.). [***Робі́ць***] *незак. Робі́мо.* (Дубнавічы).

***ТОВА́Р*** *м.* Стада свойскай жывёлы. (Лозічы).

**ЗАПІ́САВАЦЦА** *незак.*, **ЗАПІСА́НЬНЕ** *н.*, **УПІ́СКА** *ж.* [***Запісацца***] *зак. Запіса*[*л*]*іса.*

***ЦЬВІ́НТАР*** *м.* Месца ў абгароджы царквы. (Лозічы).

*І. У. Галуза*

## "РУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК" А. В. ЯРУШЭВІЧА

### Асобныя факты з біяграфіі А. Ярушэвіча

А. В. Ярушэвіч – багаслоў, гісторык, педагог, дзеяч культуры. Пра Апанаса Вінцэсевіча вядома столькі ж, колькі застаецца пакуль не высветленым. Вельмі шмат матэрыялаў па яго біяграфіі ўдалося адшукаць і сістэматызаваць Сяргею Астанковічу. Напрыклад, М. Казлоўскі ў кнізе "Памяць", прысвечанай гісторыі г. Маладзечна і Маладзечанскаму раёну, адносна даты і месца нараджэння А. Ярушэвіча ўказвае наступнае: "1850-я гады", "паходзіць з Міншчыны" [7, с. 125]. С. Астанковіч прыводзіць зусім іншую інфармацыю з дакладнай спасылкай на "Царкоўны веснік"

[1] Вызначэнне аўтарам падрыхтаваных матэрыялаў дадзенага абазначальнага сродку як выклічніка з'яўляецца сумніўным, калі трымацца фармальнага аблічча слова.

1897 г.: "нарадзіўся ў 1867 г. у сям'і псаломшчыка Літоўскай праваслаўнай епархіі (Віленскай губерні)" [1, с. 385]. Той жа даследчык вельмі падрабязна вывучыў перыяды атрымання адукацыі Апанасам Вінцэсевічам: так, ён вучыўся ў царкоўна-прыходскай школе, Віленскім духоўным вучылішчы (1877–1881), Літоўскай духоўнай семінарыі (1881–1888), Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі (1889–1893) [1, с. 385–387; 2, с. 215]. У апошняй установе А. Ярушэвіч пачаў працаваць над кандыдацкай дысертацыяй, якая была скончана ў 1895 г. і надрукавана ў 1896 г. пад назвай *"Ревнитель православия князь Константин Иванович Острожский (1461–1530) и православная Литовская Русь в его время"* [16]; абарона адбылася ў лістападзе 1897 г. у Санкт-Пецярбургскай акадэміі [1, с. 389; 2, с. 215].

Працаваў Апанас Вінцэсевіч у Віленскім духоўным вучылішчы (1893–1894), у Смаленскай духоўнай семінарыі (1894–1899), у мужчынскім (выкладаў лацінскую мову) і жаночым (навучаў рускай і ўсеагульнай гісторыі) духоўных вучылішчах у Вільні з 1899 па 1905 г., у Віленскай дырэкцыі народных вучылішчаў (1906–1907 гг.) [1, с. 387–388]. З 1907 да 1920 г. [6, с. 26] ён займаў пасаду дырэктара Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі (да таго ж выкладаў там педагогіку). У 1914 г. было надрукавана даследаванне А. Ярушэвіча *"Молодечно и его учебные заведения: к пятидесятилетию Молодечненской учительской семинарии – 1864–1914"* (Вільня, 1914) [17], у якім асвятлялася гісторыя горада Маладзечна, семінарыі, апісваліся заняткі, жыццё семінарыстаў і інш. У 1915 г., па прычыне Першай сусветнай вайны, семінарыя была пераведзена ў г. Смаленск.

Пасля 1920 г. ніякіх звестак пра А. Ярушэвіча, яго сям'ю пакуль што не знойдзена. Невядомая і дата яго смерці. М. Казлоўскі называе 1926 г., суправаджаючы такі факт пытальнікам [7, с. 125]. Аднак у 1924 г. (25 чысла, месяц напісаны неразборліва) у Інбелкульт, Усеваладу Ігнатоўскаму, быў дасланы ліст ад удавы А. Ярушэвіча, у якім Вольга Мікалаеўна просіць дапамогі, улічваючы яе цяжкае матэрыяльнае становішча: *"Многоуважаемый Всеволод Макарьевич! Извините, что обращаюсь к Вам письменно, лично приехать в Минск вторично не имею средств: мои дети оба безработные, а племянница занята в Рогачёве на педагогических курсах. Не откажите сообщить, могу ли я надеяться на получение какой-либо пенсии, как вдова школьного ответработника Ярушевича, прослужившего 28 лет в Белоруссии? Пригодились ли сочинения моего мужа ... Или они уже негодны, как западавшие? Не могу ли я просить Наркомпрос, если сочинения не приняты, переслать мне их по адресу: Рогачёв... для передачи Ольге Николаевне Ярушевич"*[1] *[13, л. 187–188].* Сапраўды, па ўспамінах былога семінарыста Маладзечанскай гімназіі В. Нафрановіча вынікае, што А. Ярушэвіч дажываў у галечы: *"Жыццё яго ў апошнія гады было цяжкае. Я апошні раз яго бачыў на кватэры, калі ён падбіваў у нейкіх скуратоў падноскі пад свае вельмі ўжо зношаныя чаравікі"* [9, с. 136].

У канцы другога ліста ўдавы А. Ярушэвіча была зроблена памета ад 12.08.1924 г.: *"Паведаміць по данному Вами заявлению о предоставлении Вам персональной пенсии Наркомсобес постановил запросить Рогачёвский* [неразборліва] *и секцию науч. раб. Рабпроса. По вырешению вопроса о пенсии рукописи будут возвращены"* [13, л. 188]. Таксама ў Цэнтральным навуковым архіве захоўваецца просьба Інбелкульта ў Наркамсабес пра прызначэнне пенсіі Вользе Ярушэвіч: *"Прилагая при сём ходатайство вдовы Ольги Фёдоровны* [тут памылка: Мікалаеўны], *Наркомпрос просить о назначении ей пожизненной персональной пенсии в виду выдающихся педагогических и научных заслуг её мужа, Афанасия Викентьевича Ярушевича, б. Директора Молодечненской учительской семинарии, а также вследствие потери ею, Ольгой Ярушевич, трудоспособности"* [13, л. 157].

З гэтага ліставання можна зрабіць выснову, што Апанаса Ярушэвіча не стала ўжо да 1924 г.

### Слоўнікавая праца А. Ярушэвіча

Пра філалагічны бок дзейнасці А. Ярушэвіча вядома надзвычай мала. Як сцвярджае М. Казлоўскі, А. Ярушэвіч *"запісваў беларускія народныя песні, а таксама мясцовыя звычаі і абрады"* [7, с. 125–126], або ўдакладнена ў нарысе "Галасы разбуджаных птушак": *"запісваў сам і прасіў навучэнцаў запісваць беларускія песні розных жанраў, а таксама мясцовыя звычаі і абрады",*

[1] Арфаграфія і пунктуацыя прыведзены ў адпаведнасці з сучаснымі нормамі.

*"у прыватных размовах не цураўся роднага беларускага слова, аздабляючы яго рознымі прыказкамі, прымаўкамі, трапнымі выслоўямі"* [6, с. 26].

Відавочна, што гэта інфармацыя ўзята з нарысаў Г. Каханоўскага "Адчыніся, таямніца часу" – з успамінаў семінарыста В. Г. Нафрановіча пра свайго дырэктара: *"Звычайна сам-насам гутарку вёў толькі на беларускай мове. ...Ведаю, што А. В. Ярушэвіч працаваў над слоўнікам беларускай мовы. Ён нам даваў заданні запісваць дома словы бытавой лексікі"* [9, с. 135–136], а таксама згадак М. Шакуна пра аднагодку і сябра М. Чарота, які таксама вучыўся ў Маладзечанскай семінарыі: *"Ужо ў Цітве мы ўсе звалі Міхася Кудзельку «паэтам»... Вельмі магчыма, што на любоў да беларускага слова ўплывалі практычныя заданні дырэктара семінарыі А. В. Ярушэвіча, які прасіў запісваць словы для яго будучага слоўніка беларускай мовы"* [9, с. 143].

З успамінаў таго самага семінарыста В. Нафрановіча вынікае наступнае (што паўтараецца М. Казлоўскім [7, с. 126] і М. Камінскім [8]): *"Пазней стала вядома, што сапраўды А. В. Ярушэвіч у 1918 годзе завяршыў работу над «Расейска-беларускім слоўнікам»... Прынесла гэты каштоўны рукапіс у Інстытут беларускай культуры жонка Апанаса Вінцэсевіча"* [9, с. 136].

У газеце "Вольная Беларусь" за 1917 г. была змешчана нататка пра г. Смаленск, у якім, па меркаванні С. Астанчука [1, с. 394–395], карэспандэнт Валадзюк акрэсліў дзейнасць Апанаса Вінцэсевіча: *"Адзін педагог напісаў школьны падручнік па гісторыі Беларусі на расійскай мові, дадаўшы да яго добра зробляную карту Беларусі. Падручнік ужо пайшоў да друку і мае выйсьці у г. Могілёві. Той жа самы аўтор працуе ціпер над слоўнікам беларускім. Шчасьць Божа! Нам патрэбны кніжкі. Няхай пішуць іх на якой хочуць мові, абы праўда і шчырая любасьць да бацькаўшчыны водзіла іх рукою"* [5, л. 4].

З ліста Вольгі Ярушэвіч, які датуецца 1924 г., высвятляецца, што тая передала ў Інбелкульт наступныя працы мужа: *"Беларускі слоўнік і граматыку", "Педагогіку і псіхалогію для пачатковых вучылішчаў"* [13, л. 157]. Ні граматыкі, ні падручніка па гісторыі з картай, ні падручніка па педагогіцы і псіхалогіі пакуль не адшукана. Магчыма, пад "Беларускім слоўнікам" маецца на ўвазе "Русско-белорусский словарь" А. Ярушэвіча, што захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь [14].

Цікава, што пасля таго, як удава А. Ярушэвіча перадала "Беларускі слоўнік" У. Ігнатоўскаму, то праца мужа стала выкарыстоўвацца тагачаснымі мовазнаўцамі. Так, адной з крыніц укладання "Беларуска-расійскага слоўніка" (поруч са слоўнікамі І. Насовіча, М. Гарэцкага, М. Байкова і М. Гарэцкага, А. Сержпутоўскага, Я. Ціхінскага, У. Дабравольскага, выданнямі Беларускай навуковай тэрміналогіі) М. Байкоў і С. Некрашэвіч згадваюць наступную працу: *"А. Д. Ярушэвіч. Беларускі слоўнік (рукапіс; зьмешчаны беларускія словы без перакладу"* [4, с. 4]. І лексемы, узятыя з рукапісу слоўніка Апанаса Вінцэсевіча, было прынята падаваць пад пазнакай *"Яр."* [4, с. 4]. Але з'яўляюцца пытанні: 1) чаму няправільна напісаны ініцыялы А. Ярушэвіча, у прыватнасці імя па бацьку: *Д.* замест *В.*, 2) чаму і ўдавой, і складальнікамі "Беларуска-расійскага слоўніка" праца А. Ярушэвіча называецца "Беларускі слоўнік", хоць па змесце гэта руска-беларускі слоўнік?

У прадмове да "Расійска-беларускага слоўніка" слоўнік А. Ярушэвіча ўжо не згадваецца, хоць, улічваючы змест працы (пераклад з рускай на беларускую), і павінен быў займаць адно з першых месцаў [10, с. III–VIII]. Калі прыгадаць, што С. Некрашэвіч і М. Байкоў падрыхтавалі гэта выданне ў 1925 г., то можна дапусціць наступнае меркаванне С. Астанковіча: *"многія словы былі запазычаныя з рукапісу* [А. Ярушэвіча] *і пры стварэнні "Расійска-беларускага слоўніка" тых жа аўтараў, які выйшаў Менску ў 1928 г."* [1, с. 395], аднак пацверджання думкі няма.

Яшчэ адна згадка пра слоўнік Апанаса Вінцэсевіча належыць М. Камінскаму, які ў кароценькай нататцы ў газеце "Літаратура і мастацтва" за 1961 г. зноў "адкрывае" гэту яго працу: *"У Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі БССР знойдзены цікавы рукапіс на 422 старонкі. Напісаны ён, мяркуючы па арфаграфіі, не пазней 1918 г. ... Устаноўлена, што Апанас Вікенцьевіч ... працаваў над складаннем слоўніка і правапісу беларускай мовы. Пасля смерці Ярушэвіча жонка нябожчыка ў сярэдзіне 20-х гадоў перадала яго рукапісы ў слоўнікавую камісію Інстытута беларускай культуры"* [8].

Ва ўсіх наступных працах [9; 7; 6; 1] паўтараецца толькі вядомая раней інфармацыя пра "Руска-беларускі слоўнік" Апанаса Вінцэсевіча.

Важна пры гэтым звярнуць увагу на некалькі фактаў. Так, А. Ярушэвіч у адказе Мацвею Любаўскаму (1899 г.) на рэцэнзію сваёй дысертацыі называе беларускую мову "наречием": *"...различію между бѣлорусскимъ и малорусскимъ нарѣчіями"* [15, с. 12]. У петраградскім часопісе "Чырвоны шлях" у 1918 г. была змешчана рэцэнзія А-ча на "Руска-беларускі слоўнік" М. і Г. Гарэцкіх. Дадзены подпіс быў расшыфраваны Янкам Саламевічам, па інфармацыі В. У. Скалабана [11, с. 16], як крыптонім А. Ярушэвіча. У гэтай працы таксама беларуская мова – гаворка: *"...белорусского языка (собственно – наречия)"* [3, с. 28].

У рэцэнзіі была дадзена надзвычай рэзкаадмоўная характарыстыка слоўніка Гарэцкіх. І галоўнай хібай была названа "ўзмоцненая паланізацыя" беларускай мовы, "польская кароста" на ёй: *"Радетели нашей родины ... ищут оснований не в древнем западнорусском языке грамот и актов Литовско-Русского государства, не черпают из бесконечной сокровищницы русского чудного языка, а почему-то всё более и более заимствуют из запасов панских дворов, из испорченного польского говора охмистрынь, экономов, ловчих и вообще челяди, панков и панов нашей родины, давным-давно отрёкшихся от своего белорусского корня..."* [3, с. 28]. Падсумоўваючы, Апанас Вінцэсевіч пажадаў братам Гарэцкім *"отрешиться от ополяченного языка Янки Купалы"* [3, с. 28]. Становіцца відавочным, што Апанас Ярушэвіч – гэта чыстай вады заходнярус, для якога беларуская мова мае выключна навуковую цікавасць як помнік культуры. Згодна з сістэмай поглядаў, сфармуляваных П. Струвэ, *"адзіная расійская культура ёсць канстанта, менавіта праз яе адбываецца азнаямленне беларусаў і ўкраінцаў са скарбамі сусветнай культуры, таму належыць прызнаваць правы мясцовых моў і культур толькі на ступені этнаграфізму"* [12, с. 134].

Такім чынам, умоўна з 1907 г. Апанас Ярушэвіч, з этнаграфічнай цікавасці, збіраў сам і з дапамогай вучняў беларускія словы і разнастайныя фальклорныя матэрыялы, што тычацца Беларусі. І ў 1918 годзе (верагодней за ўсё) закончыў укладанне "Беларускага слоўніка" (ці "Руска-беларускага"?). Да 1924 г. айчынныя мовазнаўцы ім не карысталіся. Калі ўдава А. Ярушэвіча перадала слоўнік У. Ігнатоўскаму, то матэрыялы адразу ж былі ўжыты для стварэння перакладнога "Беларуска-расійскага слоўніка". Да 1961 г. пра працу А. Ярушэвіча ніхто не згадваў, славазбор ніхто не апісваў, пакуль зноў не з'явілася нататка М. Камінскага пра "цікавы рукапіс". Такі адметны лёс перакладнога слоўніка правакуе пытанні: чаму за шэсць год ён не трапіў у Навукова-Тэрміналагічную Камісію, у Інбелкульт; чаму за шэсць год, ва ўмовах найпільнейшай патрэбы ў акадэмічным слоўніку жывой беларускай мовы, ён не быў выдадзены; чаму пра гэты слоўнік на дзіва мала не тое што інфармацыі, а нават проста згадак?

### "Руска-беларускі слоўнік" А. Ярушэвіча: склад і асаблівасці ўпарадкавання

Слоўнік Апанаса Ярушэвіча захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, у фондзе 311 "Калекцыя дакументаў вучоных Беларусі". У адпаведнасці з заканадаўствам уладальнікам правоў на названы аб'ект інтэлектуальнай уласнасці з'яўляецца Нацыянальны архіў. Паміж ім і Цэнтрам даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры ў 2017 г. была заключана дамова, згодна з якой быў атрыманы дазвол на перадрукоўку слоўніка ў поўным аб'ёме, а таксама на яго апрацоўку і падрыхтоўку да выдання. Апрацоўка абазначае ўзнаўленне без аніякіх змен, што тычацца зместу слоўніка.

### Агульная колькасць лексем

На тытульным лісце дакумента змешчаны надпіс *"Рукапіс Апанаса Вінцэсева Ярушэвіча № 2. Расейска-беларускі слоўнік"*; па почырку можна меркаваць, што пазнаку зрабіў Б. Эпімах-Шыпіла. Памета "№ 2" абазначае, што гэта другі экзэмпляр, хутчэй за ўсё, прынесены Вольгай Ярушэвіч у Інбелкульт. Слоўнік, відавочна, чытаў Б. Эпімах-Шыпіла, пра што сведчыць невялікая колькасць правак чырвонай ручкай па тэксце слоўніка.

Лексемы ў слоўніку запісаны пераважна ў алфавітным парадку ручкай чорнага колеру; кожная старонка зверху пранумаравана. Унізе злева алоўкам і іншым почыркам падпісана агульная колькасць рускіх рэестравых адзінак, а справа – колькасць (заўсёды меншая) тых лексем, да якіх зафіксаваны беларускі адпаведнік. Напрыканцы змешчаны спіс з 461 адзінкі пад назвай *"Оригинальныя, рѣдкія и непонятныя слова"*, пераважная большасць якіх зараз з'яўляецца агульнапашыранымі: *адріна, амаль, аповесьць, асалода, вейка, воукалак, гаротный, ганэбный, глеба* і пад. [14, л. 411–422]. Безумоўна, падлік быў праведзены з мэтай ацэнкі агульнага аб'ёму слоўніка. Таксама магчыма, што лексемы з дакладным перакладам на беларускую мову былі асобна падлічаны для таго, каб аплаціць працу складальніка ці перавесці грошы яго сям'і (або прызначыць памер пенсіі ўдаве).

На аснове гэтых вылічэнняў ва ўсіх нататках, нарысах, даследаваннях адносна аб'ёму слоўніка А. Ярушэвіча паўтараецца наступная інфармацыя: *"у гэтым слоўніку – больш 12 тысяч рускіх слоў, з іх 9505 слоў маюць пераклад на беларускую мову"* [8; тое ж у 7, с. 126; 1, с. 395; с. 6, с. 26]. Пры гэтым не браліся пад увагу наступныя факты.

Частка рэестравых рускіх лексем сапраўды была пакінута Апанасам Вінцэсевічам без перакладу. У такіх выпадках пры апрацоўцы да рускай лексемы дадаваліся толькі граматычныя паметы: **ВЫЛЕТ** *м.* Але ж пасля многіх загаловачных слоў А. Ярушэвіч ставіў знак -"-, які абазначае *"тое самае"* адносна вымаўлення беларускай адзінкі. Пры падрыхтоўцы да друку аднолеленыя адпаведнікі былі запісаны ў квадратных дужках:

**АДМИНИСТРАЦИЯ** *ж.* [адміністрацыя] *ж.*

**АРАБСКИЙ** *прил.* [арабскій] *прым.*

Да вялікай колькасці беларускіх лексем аўтар прыводзіў аднакарэнныя прыметнікі, назоўнікі, дзеясловы і інш., што ўпісваліся побач без суадноснай рускай пары, напрыклад: *Аустрыя* і *аўстрійскій; аустрыяцкій.* Звычайна такія словы браліся А. Ярушэвічам у касыя рыскі: *бедный* і *беднаватый, Вільня* і *вілянскій, выбірацца* і *выбрацца, вырасьці* і *вырастаць, узрастаць, выцярці* і *выцярецца, губэрнія* і *губэрнатар, губарнатар, губэрскій, гусь* і *гусыня, давясьці* і *давадзіць* і многія іншыя. У падобных выпадках аднаўляўся адпаведнік з рускай мовы з мэтай захавання ўсяго зафіксаванага лексічнага матэрыялу:

**ГУБЕРНИЯ** *ж.* губэрнія *ж.*

**[ГУБЕРНАТОР]** *м.* губэрнатар, губарнатар *м.*

**[ГУБЕРНСКИЙ]** *прил.* губэрскій *прым.*

Да таго ж многія словы паўтараліся ў А. Ярушэвіча на розных старонках: *без, бросаться, бросить, взаперти, волочить, вскочить, вылезть, вырывать, высота, вытерпеть, гадина, двойной, детский, детство, доброжелательный, догнать, дойти, дорасти* і інш. У розных артыкулах на адну і тую ж рэестравую адзінку былі прадстаўлены фанетычныя і лексічныя варыянты беларускіх адпаведнікаў: **ВЗАПЕРТИ** *нар.* ўзаперці *прысл.* і **ВЗАПЕРТИ** *нар.* ўзапярці *прысл.*; **ВЫТЕРПЕТЬ** *сов.* выцярпець *зак.* і **ВЫТЕРПЕТЬ** *сов.* выцярпець *зак.*, вытріваць *зак.*; **ДЕТСТВО** *ср.* дзяцінства *н.*; маленства *н.* (Гарэцкі) і **ДЕТСТВО** *ср.* маленкосьць *ж.* Пры падрыхтоўцы да друку ўсе варыянты аб'ядноўваліся, напрыклад:

**ВЗАПЕРТИ** *нар.* ўзаперці, ўзапярці *прысл.*

**ДЕТСТВО** *ср.* дзяцінства *н.*, маленкосьць *ж.*; маленства *н.* (Гарэцкі).

Такім чынам, пры падліку справа лексемы са знакам тоеснасці вымаўлення, а таксама беларускія аднакарэнныя без рускага адпаведніка не ўлічваліся. Не ўлічваліся і тыя словы, што былі запісаны паўторна. У выніку атрымліваецца, што рэестравых лексем каля 14 тысяч, і толькі каля адной тысячы адзінак пададзена без перакладу на беларускую мову.

### Лексічнае напаўненне

**1.** Пры выбарцы матэрыялу ў слоўнік Апанас Вінцэсевіч прытрымліваўся тых установак, якія ў якасці крытыкі выклаў у рэцэнзіі на слоўнік Гарэцкіх, а менавіта: 1) *"змяшчаць найгалоўнейшыя карнясловы"*, *"найгалоўнейшыя карані: видеть, ведать, жить, знать, крепкий і г. д., аж да есть, ехать)"*, а не *"самыя рэдкія, мясцовыя словы"*, 2) пры зборы матэрыялаў арыентавацца на *"агульна-*

*беларускую гаворку, беларускага цэнтра (Барысаў – Ігумен – Мінск)"*, 3) *"чэрпаць з бясконцай скарбонкі рускай мовы"*, а не *"з запасаў польскіх двароў"* [3, с. 28].

У сувязі з чым да найбольш ужывальных рускіх лексем прыводзяцца агульнапашыраныя беларускія адпаведнікі, зафіксаваныя пераважна на Маладзечаншчыне. Важна адзначыць, што рэестравыя адзінкі прыводзяцца вялікімі групамі аднакарэнных: *раскол*, *расколка*, *раскалывать*, *расколоть*, *раскалываться*, *расколоться*, *раскольник*, *раскольничий* і пад.

У рэестры фіксуецца шмат уласных назоўнікаў: гэта і імёны (*Александэр*, *Гануля*, *Антось*, *Змітро*, *Ўладзімір*), і назвы гарадоў (*Варшава*, *Вітэбск*, *Волхав*, *Гродня*), краін (*Гэрманія*), рэк (*Бярэзіна*, *Вілья*, *Дзвіна*, *Днепр*) і мораў (*Балтыцкае мора*), свяшчэнных кніг і святых (*Біблія* і *Богородица*) і інш.

**2.** Асобныя зафіксаваныя беларускія словы суправаджаюцца паметамі *"п."* ці *"польск."*, што азначае паланізм: анёл *польск.*; да многіх лексем такую пазнаку прывёў сам Б. Эпімах-Шыпіла: баріла *н.* {*польск.*}, пэнкнуць *зак.* {*польск.*}, безвонтпліва *прысл.* {? *польск.*}, шпалер *м. польск.* і многія іншыя.

**АЛЛЕЯ** *ж.* прісад *м.*, шпалер *м. польск.*

Падобныя паметы дырэктар Слоўнікавай камісіі паставіў і пры іншых запазычаных і не характэрных для беларускай мовы лексемах:

**[ЖЕЛАТЬ]** *несов.* БЕЗУМНО ЖЕЛАТЬ бажаць *незак.* {*украінск.*} (Гарэцкі)

**ОБОРВАННЫЙ** *прич.* абарваный {?} *дзеепрым.* {*руск.*}, {абадраны} *дзеепрым.*

**3.** Нязначная частка беларускіх адпаведнікаў суправаджаецца ўказаннем лінгвістычнага пашпарта: *Дз.* і *Гор.* М. Камінскі расшыфраваў гэтыя паметы як *"адзнаку, дзе сустракаюцца: у гарадской ці вясковай гаворцы"* [8]. Значыць, згодна з пазіцыяй даследчыка, *"дз."* – гэта дзеравенскае, аднак у А. Ярушэвіча лексема *деревня* перакладаецца як *вёска*, а *деревенский* – як *вясковый* [14, л. 60]. Пры перакладзе лексемы *раскаяние* Апанас Вінцэсевіч прывёў беларускі адпаведнік *каіне* з яметай *Гор.* Гэту лексему Б. Эпімах-Шыпіла падкрэсліў чырвоным і падпісаў: *"німа у Гарэцка[га?]"* [14, л. 302]. Значыць, памета *Гор.*, хутчэй за ўсё, абазначае прозвішча братоў Гарэцкіх (у тагачасным напісанні), а памета *Дз.* – магчыма, Дзісенскі рэгіён, адкуль маглі быць семінарысты, якія збіралі словы для А. Ярушэвіча. Таму названыя пазнакі аформлены як лінгвістычны пашпарт наступным чынам:

**АГОНИЯ** *ж.* кавенчіння *н.* (Гарэцкі)

**АККУРАТНО** *нар.* яквуратна *прысл.* (Дзісеншч.)

### Адметнасці ўпарадкавання лексічнага матэрыялу

Слоўнік А. Ярушэвіча выдаецца галоўным чынам як архіўны помнік лексікаграфічнай працы пачатку XX ст., у якім з пункту погляду сучаснай навукі могуць быць недакладнасці, якія захоўваюцца.

**1.** Пры апрацоўцы матэрыялу націскі ў рэестравых лексемах і іх адпаведніках не прастаўляліся; яны былі захаваны толькі ў тых адзінкавых лексемах, дзе ўказаў сам скаладальнік: *бяднóта*, *беднатá*, *драніца*, *кріжóк*, *мэ́тлік* і інш.

**2.** Цвёрдыя знакі на канцы слоў у рускім і беларускім варыянтах былі зняты, як і сімвал *Ѣ* (*яць*), улічваючы правядзенне рэформы рускага правапісу 1917–1918 гг. і тое, што слоўнік быў закончаны А. Ярушэвічам у 1918 г. Сімвал *і* ў рускім тэксце быў заменены на *и*, а сімвал *и* ў беларускім тэксце слоўніка – на *і* адпаведна; сімвал *ѳ* (фіта) (*Аѳанасий*) – на звычайнае *ф*.

У асобных рускіх загаловачных лексемах заўважаюцца памылкі (*аладьи*, *атава*, *безвремянье*, *в роде*, *на веки* і інш.); у апрацаваным варыянце такія адзінкі падаюцца згодна з правіламі сучаснай арфаграфіі.

**3.** Перадача галосных *а/о* ў пераднаціскных і паслянаціскных складах, *е/я/і* ў перад- і паслянаціскных складах у А. Ярушэвіча вельмі непаслядоўная, што можна тлумачыць, хутчэй за ўсё, вялікай колькасцю інфармантаў з розных рэгіёнаў: *небарак, нібарак*; *недбалый, нідбалый*; *беженец,*

*бежанец*; *ўзбярежже*; *сьнежень*. Варта ўлічыць і магчымыя памылкі пры запісе дыялектнага матэрыялу семінарыстамі. У сувязі з гэтым ніякіх правак адносна сістэмы галосных у працы не праводзілася. У любым ненаціскным становішчы па ўсёй працы быў захаваны гук *о*, пра правільнасць чаго сведчаць шматлікія аўтарскія запісы, напрыклад, *багацтво*, *брацтво* і *зернятка*, *зернятко*. Назоўнікі на *-ньня* ніякага роду (*базыканьня*, *брынканьня*, *душаньня*, *увядзеньня*, *шлуньня*) складаюць значную частку ад агульнай колькасці падобных слоў, і беспадстаўна меркаваць, што аўтар зрабіў памылку.

Зацвярдзелыя зычныя ў слоўніку А. Ярушэвіча перадаюцца пераважна як мяккія, што, у прынцыпе, не характэрна асноўнаму масіву гаворак беларускай мовы, за выключэннем мяккаэрых: *айчізна*, *атдудырівацъ*, *атшіб*, *непрінадный*, *паляўнічій*, *редзь* і многія іншыя. Замест спалучэння *шч* часцей падаецца складальнікам літара *щ*: *Беларущина*, *ніўмірущій*, *панщіна*, *торжіще*, *щадный*. Усе такія выпадкі былі пакінуты без змен.

У зусім нязначнай частцы беларускіх лексем А. Ярушэвіч піша літару *ў* у пазіцыі пасля галоснага. Улічваючы, што гэта сістэмная асаблівасць беларускай мовы і што ў некаторых выпадках Б. Эпімах-Шыпіла выпраўляў у рукапісе А. Ярушэвіча *у* на *ў* (*ніу{уў}корный*, *здзіу{уў}*), то пры апрацоўцы ў гэтых пазіцыях аднастайна ўжываецца *ў*, яно пішацца ў квадратных дужках: *бала[ў]нік*, *парабко[ў]скій*, *бязпра[ў]ный*. Хутчэй памылкова напісанае аўтарам спалучэнне *ти* або *ть* у беларускіх адзінках было аформлена як *[ц]і* і *[ц]ь*: *а[ў]та[ц]іп*, *валачі[ц]ь*.

Пазіцыйная мяккасць пераважна ўказвалася складальнікам (*узлесьсе*, *валаданьне*, *вяртаньне*, *атраджэньня*). Пры яе адсутнасці адзінкі пакідаліся ў аўтарскім запісе: *безчассе*, *блысканне*, *бріллянт* і інш.

Прыстаўкі на *-з-* у рускай частцы (*безконечный*, *безкорыстный*, *возстание*) падаюцца згодна з фанетычным прынцыпам; у беларускай частцы (*безчассе*, *безхацінец*, *бязпуцце*) пакінуты без змен, як і *аб-* і *ап-*, *ад-* і *ат-* (і іх фанетычныя варыянты): *атдавацъ*, *атдацъ*, *атступіцца* і многія іншыя.

**4.** Адзінкава, улічваючы адрознае значэнне беларускіх адпаведнікаў (а таксама іх часцінамоўную прыналежнасць), слоўнікавы артыкул разбіваўся на некалькі:

**ДА** *част.* але *часц.*, ага *часц.*, так *часц.*

**ДА** *союз* ды *злучн.*

Калі складальнік у рэестравай частцы пазначаў устойлівае (пераважна фразеалагічнае) словазлучэнне, то, згодна з тагачаснай традыцыяй, яно цалкам захоўвалася як загаловачнае: *анютины глазки*, *бить баклуши*, *брать верх* і інш.

**АНЮТИНЫ ГЛАЗКИ** браткі *мн.*

Калі ж падавалася свабоднае словаспалучэнне, то яно пераносілася ў слоўнікавы артыкул, дзе ў якасці рэестравай была вынесена сэнсава галоўная лексема:

**ВЕТЕР** *м.* [вецер] *м.*, ветрыска *м.* ВЕТЕР СУХОЙ сухавей *м.* ВЕТЕР СЕВЕРНЫЙ сівер *м.*

**ВРЕМЯ** *ср.* час *м.*, пара *ж.*, гадзіна *ж.*, хвіля *ж.*, хвіліна *ж.* В ТО ВРЕМЯ тога часу. ДО СЕГО ВРЕМЕНИ дачесна *прысл.*; дагэтуды *прысл.* (Гарэцкі). ДО ТОГО ВРЕМЕНИ датуль *прысл.* ДО ЭТОГО ВРЕМЕНИ дагэтуль *прысл.*

Калі ж такая лексема не была папярэдне зафіксавана А. Ярушэвічам, то пры апрацоўцы аднаўлялася і пазначалася квадратнымі дужкамі:

**[ВЫЗВОЛЯТЬ]** *несов.* ВЫЗВОЛЯТЬ ИЗ БЕДЫ выраблядь з бяды

**[ГОНТОВЫЙ]** *прил.* ГОНТОВЫЙ ГВОЗДЬ ганталь *м.*

Гэта было зроблена для зручнасці пошуку патрэбных адзінак. Як бачна з прыкладаў, у асобных выпадках два і больш аўтарскіх слоўнікавых артыкулаў былі аб'яднаны ў адзін, улічваючы аднолькавае загаловачнае слова.

Пры фразеалагічных словазлучэннях унутры слоўнікавага артыкула быў дададзены сімвал ◊:

**БЕСНОВАТЬСЯ** *несов.* шалець *незак.*, ◊ з галавы схадзіць

**ГЛАЗ** *м.* вока, око *н.* ЗА ГЛАЗА з{'}ачі *прысл.* (Гарэцкі) ◊ ГЛАЗ НА ГЛАЗ сам-насам *прысл.* ◊ ПРОСТЫМ ГЛАЗОМ голым вокам

453. Сушко Акуліна Сцяпанаўна, 1901. *Хвылы́на Ко́рзына*, жонка.
454. Сушко Віктар Якаўлевіч, 1934. *Віт́я Ко́рзын*, сын.
455. Сушко Сцяпан Якаўлевіч, 1935. *Сьцё́па Ко́рзын*, сын.
456. Сушко Іван Якаўлевіч, 1943. *Ів́ан Ко́рзын*, сын.
457. Брыч (Саха́шчык) Марыя Сцяпанаўна, 1913. *Ма́ня Бусько́ва*, гаспадыня.
458. Саха́шчык Надзея Іванаўна, 1940. *На́дя Бусько́ва*, дачка.
459. Пашке́віч Аляксей Максімавіч, 1936, зяць.
460. Ваўру́к Фама Патапавіч, 1867. *Хома́,* гаспадар.
461. Ваўрук Ірына П., 1898. *Кру́гла*, жонка.
462. Ваўрук Марыя Фамінічна, 1908. *Ма́ня Хомына́,* дачка.
463. Ваўрук Вольга Фамінічна, 1929. *Го́лька Хомына́,* дачка.
464. Ваўрук Віктар Фаміч, 1938. *Віт́я Хомы́н*, сын.

***Хутар Боро́вышча-Грабы́на***

465. Брыч Якаў Лаўрэнавіч, 1901. *Ко́тэль*, гаспадар.
466. Брыч Аляксандра Паўлаўна, 1904. *Шу́ра Ко́тылёва*, жонка.
467. Брыч Кацярына Якаўлеўна, 1930. *Ка́тя Ко́тылёва*, дачка.
468. Брыч Дзмітрый (*Дзімітрый*) Лаўрэнавіч, 1914. *Міт́я Ко́тылёв*, брат.
469. Гу́рын Рыгор Лявонавіч, 1900. *Грэ́шынька*, гаспадар.
470. Гурына Ірына, 1898. *Ярына Грэ́шынькова*, жонка.
471. Гурына Лідзія Рыгораўна, 1932. *Ліда Грэ́шынькова*, дачка.

***Хутар Лысы́шча***

472. Саха́шчык Павел Кліментавіч, 1911. *Зэ́йда*, гаспадар.
473. Бу́хта Цімафей Нічыпаравіч, 1904. *Пэ́рэць*, гаспадар.
474. Бухта Кацярына Д., 1904. *Ка́тя Пэ́рцёва*, жонка.
475. Бухта Васіль Цімафеевіч, 1930. *Ва́ся Пэ́рцёв*, сын.
476. Бухта Лявон Цімафеевіч, 1934. *Лёня Пэ́рцёв*, сын.
477. Талата́й Ірына, 1861. *Ярына Горышкова*, цешча.
478. Бу́хта Рыгор Данілавіч, 1906. *Се́ндзя*, гаспадар.
479. Бухта Ірына Герасімаўна, 1908. *Ярына Се́ндзіна*, жонка.
480. Бухта Надзея Рыгораўна, 1937. *На́дя Се́ндзіна*, дачка.
481. Бухта Якаў Рыгоравіч, 1939. *Я́ша Се́ндзін*, сын.
482. Бухта Павел Рыгоравіч, 1942. *Па́шка Се́ндзін*, сын.
483. Бухта Рыгор Рыгоравіч, 1945. *Гры́ша Се́ндзін*, сын.
484. Бухта Марыя Рыгораўна, 1947. *Ма́ня Се́ндзіна*, дачка.
485. Радзько́ Кацярына С., 1895. *Ка́тя Родько́ва*, гаспадыня.
486. Радзько Акуліна, 1929. *Хвылы́на Родько́ва*, дачка.
487. Радзько Вольга, 1932. *Го́лька Родько́ва*, дачка.
488. Радзько Віктар, 1937. *Віт́я Родькы́в*, сын.
489. Радзько Надзея, 1939. *На́дя Родько́ва*, дачка.
490. Папе́ня Сцяпан Іванавіч, 1884. *Бараба́н*, гаспадар.
491. Папеня Яфіма (*Яўхіма*) Лукінічна, 1882. *Хы́ма Бараба́нова*, жонка.
492. Папеня Васіль Сцяпанавіч, 1923. *Ва́ся Бараба́нов*, сын.
493. Папеня Рыгор Сцяпанавіч, 1926. *Гры́ша Бараба́нов*, сын.
494. Папеня Уладзімір Сцяпанавіч, 1928. *Воло́дя Бараба́нов*, сын.
495. Папеня Анастасія Сцяпанаўна, 1932. *На́сьця Бараба́нова*, дачка
496. Папеня Ганна Сцяпанаўна, 1934. *Нюра Бараба́нова*, дачка.
497. Папе́ня Іван Сцяпанавіч, 1904. *Ів́ан Бараба́н*, гаспадар.
498. Папеня Вольга, 1914. *Го́лька Бараба́нова*, жонка.
499. Папеня Мікалай Іванавіч, 1932. *Ко́ля Бараба́нов*, сын.
500. Папеня Канстанцін Іванавіч, 1934. *Ко́сьця Бараба́нов*, сын.

501. Папеня Марыя Іванаўна, 1936. *Ма́ня Бараба́нова*, дачка.
502. Папеня Валянціна Іванаўна, 1938. *Ва́ля Бараба́нова*, дачка.
503. Папеня Ганна Іванаўна, 1940. *Нюра Бараба́нова*, дачка.
504. Папеня Алена Іванаўна, 1942. *Олэ́ня Бараба́нова*, дачка.
505. Папеня Ніна Іванаўна, 1944. *Ніна Бараба́нова*, дачка.
506. Папеня Вера Іванаўна, 1947. *Ве́ра Бараба́нова*, дачка.
507. Папеня Галіна Іванаўна, 1948. *Га́ля Бараба́нова*, дачка.
508. Папе́ня Тэкля Сідараўна, 1903. *Коха́на*, гаспадыня.
509. Папеня Якаў Васільевіч, 1927. *Я́ков Коха́ный*, сын.
510. Гра́нік (Папеня) Ірына Осіпаўна (*Восіпаўна*), 1936. *Arýна Коха́на*, дачка.
511. Гранік (Папеня) Галіна Осіпаўна (*Восіпаўна*), 1943. *Га́ля Коха́на*, дачка.
512. Калю́ціч Васіль Паўлавіч, 1907. *Бас*, гаспадар.
513. Калюціч Таццяна (*Тацяна*) Іванаўна, 1907. *Басы́ха*, жонка.
514. Калюціч Васіль Васільевіч, 1931. *Ва́ся Ба́сов*, сын.
515. Калюціч Іван Васільевіч, 1937. *Іва́н Ба́сов*, сын.
516. Калюціч Лідзія Васільеўна, 1939. *Лі́да Ба́сова*, дачка.
517. Калюціч Віктар Васільевіч, 1945. *Ві́тя Ба́сов*, сын.
518. Бу́хта Ціхан Нічыпаравіч, 1900. *Пэ́рэць*, гаспадар.
520. Бухта Ганна Клімаўна, 1902. *Га́нна Пэ́рцёва*, жонка.
521. Бухта Ніна Ціханаўна, 1927. *Ні́на Пэ́рцёва*, дачка.
522. Бухта Віктар Ціханавіч, 1929. *Ві́тя Пэ́рцёв*, сын.
523. Бухта Якаў Ціханівіч, 1933. *Я́ша Пэ́рцёв*, сын.
524. Бухта Пелагея Ціханаўна, 1936. *По́ля Пэ́рцёва*, дачка.
525. Бухта Аляксандр Ціханавіч, 1942. *Шу́ра Пэ́рцёв*, сын.

***Хутар Бу́да***

526. Брыч Якаў Тарасавіч, 1902. *Борэ́ць*, гаспадар.
527. Брыч Марыя Дзмітраўна (*Дзімітраўна*), 1904. *Ма́р'я Борцёва*, жонка.
528. Брыч Надзея Якаўлеўна, 1931. *На́дя Борцёва*, дачка.
529. Брыч Пелагея Якаўлеўна, 1932. *По́ля Борцёва*, дачка.
530. Брыч Анастасія Якаўлеўна, 1934. *На́сьця Борцёва*, дачка.
531. Брыч Тарас Якаўлевіч, 1940. *Тара́с Борці́в*, сын.
532. Аляксе́йчык Анастасія С., 1869, цешча.
533. Саха́шчык Анастасія Тарасаўна, 1905. *Ныго́да*, гаспадыня.
534. Сахашчык Марыя Якаўлеўна, 1928. *Ма́ня Ныго́да*, дачка.
535. Сахашчык Іван Лукіч, 1924, зяць.
536. Калю́ціч Карп Карнеевіч, 1885. *Ю́нда*, гаспадар.
537. Калюціч Алена Максімаўна, 1895. *Олэ́ня Ю́ндына*, жонка.
538. Калюціч Алена Карпаўна, 1924. *Олэ́ня Ю́ндына*, дачка.
539. Калюціч Марыя Карпаўна, 1926. *Ма́ня Ю́ндына*, дачка.
540. Калюціч Раіса Карпаўна, 1931. *Ра́я Ю́ндына*, дачка.
541. Калюціч Ганна Карпаўна, 1937. *Нюра Ю́ндына*, дачка.
542. Бу́хта Якаў Нічыпаравіч, 1900. *Трусь*, гаспадар.
543. Бухта Параска, 1903. *Пара́ша Тру́сёва*, жонка.
544. Бухта Канстанцін Якаўлевіч, 1929. *Ко́сьця Трусь*, сын.
545. Бухта Ціхан Якаўлевіч, 1932. *Ты́хон Трусь*, сын.
546. Бухта Пётр Якаўлевіч, 1942. *Пе́тя Трусь*, сын.
547. Скіру́к Алена Кірылаўна, 1910. *Олэ́ня Ры́жого*, гаспадыня.
548. Скірук Любоў Сцяпанаўна, 1932. *Лю́ба Ры́жого*, дачка.
549. Скірук Мікалай Сцяпанавіч, 1936. *Ко́ля Ры́жого*, сын.
550. Скірук Галіна Сцяпанаўна, 1943. *Га́ля Ры́жого*, дачка.

551. Крук Марта П., 1875. *Ма́рта Ры́жого*, маці.
552. Саха́шчык Анастасія Паўлаўна, 1889. *Басы́ха*, гаспадыня.
553. Сахашчык Іван Сцяпанавіч, 1922. *Іва́н Басы́шын*, сын.
554. Сахашчык Наталля (*Наталя*) Сцяпанаўна, 1923. *Ната́ля Басы́шына*, нявестка.
555. Сахашчык Уладзімір Іванавіч, 1945. *Воло́дя Басы́шын*, унук.
556. Крук Іван Пятровіч, 1915, гаспадар.
557. Крук Аляксандра Сцяпанаўна, жонка.
558. Крук Уладзімір Пятровіч, 1927, брат.
559. Крук Мікалай Пятровіч, 1935, брат.
560. Мулькé віч Рыгор Рыгоравіч, 1923. *Гры́ша Ма́шкын*, гаспадар.
561. Мулькевіч Малання (*Маланя*) Лявонаўна, 1924. *Мала́ша Гры́шы Ма́шкыного*, жонка.
562. Мулькевіч Віктар Рыгоравіч, 1944. *Ві́тя Ма́шкын*, сын.
563. Мулькевіч Наста Сільвестраўна, 1885, маці.
564. Мулькé віч Еўдакія Ціханаўна, 1924. *Варша́ўка*, гаспадыня.
565. Мулькевіч Рыгор Рыгоравіч, 1945. *Гры́ша Варша́ўчын*, сын.
566. Мулькевіч Ярына Ф., 1885, сьвякруха.
567. Мулькé віч Лука Цярэнціявіч, 1881. *Мы́цько*, гаспадар.
568. Мулькевіч Ефрасіння (*Ефрасіня*) Мікалаеўна, 1882. *Прузы́на Мы́цькова*, жонка.
569. Мулькевіч Надзея Лукінічна, 1925. *На́дя Мы́цькова*, дачка.
570. Мулькевіч Пелагея Лукінічна, 1930. *По́ля Мы́цькова*, дачка.
571. Мулькевіч Ніна Лукінічна, 1935. *Ні́на Мы́цькова*, дачка.
572. Мулькé віч Анісся (*Анісся*) Нічыпараўна, 1915. *Вылі́чкына*, гаспадыня.
573. Мулькевіч Сцяпан Сцяпанавіч, 1943. *Сьцё́па Вылі́чкын*, сын.
574. Вялі́чка Ярына Данілаўна, 1885, маці.
575. Мулькé віч Ганна Сідараўна, 1902. *Пэ́здычыха*, гаспадыня.
576. Саха́шчык Марыя Васільеўна, 1922. *Ма́р'я Сы́рыкова*, гаспадыня.
577. Сахашчык Ніна, 1944. *Ні́на Сы́рыкова*, дачка.
578. Камé нда Еўдакія Рыгораўна, 1902. *Ду́ня Оксе́нтого*, гаспадыня.
578. Каменда Пелагея Аксенцьеўна, 1927. *По́ля Оксе́нтого*, дачка.
579. Каменда Трафім Аксенцьевіч, 1922. *Тро́ша Оксе́нтого*, сын.
580. Каменда Васіль Аксенцьевіч, 1932. *Ва́ся Оксе́нтого*, сын.
581. Каменда Валянцін Аксенцьевіч, 1937. *Ва́лік Оксе́нтого*, сын.
582. Каменда Дамініка Аксенцьеўна, 1929. *До́мка Оксе́нтого*, дачка.
583. Сні́тка Васіль Ігнацьевіч, 1901. *Сьні́тко*, гаспадар.
584. Снітка Мар'я Андрэеўна, 1901. *Ма́р'я Сьні́ткова*, жонка.
585. Снітка Васіль Васільевіч, 1921. *Ва́ся Сьні́тков*, сын.
586. Снітка Ганна Васільеўна, 1923. *Ню́ра Сьні́ткова*, дачка.
587. Снітка Анастасія Васільеўна, 1927. *На́сьця Сьні́ткова*, дачка.
588. Снітка Мікалай Васільевіч, 1929. *Ко́ля Сьні́тков*, сын.
589. Снітка Ніна Васільеўна, 1936. *Ні́на Сьні́ткова*, дачка.
590. Снітка Ігнат Пятровіч, 1874. *Сьні́тко*, бацька.
591. Губарэ́віч Уладзімір Карпавіч, 1928. *Воло́дя Ры́звын*, гаспадар.
592. Губарэвіч Ганна Варфаламееўна, 1884. *Ры́зва*, маці.
593. Губарэвіч Надзея Лукінічна, 1928. *На́дя Ры́звына*, жонка.
594. Губарэвіч Надзея Уладзіміраўна, 1947. *На́дя Ры́звына*, дачка.
595. Брыч Васіль Фядосавіч, 1908. *Сюх*, гаспадар.
596. Брыч Усціння (*Вусьціня*) Осіпаўна, 1908. *Густы́мня Сю́ха*, жонка.
597. Брыч Ганна Васільеўна, 1937. *Ню́ра Сю́хова*, дачка.
598. Брыч Васіль Васільевіч, 1944. *Ва́ся Сю́хов*, сын.
599. Брыч Кацярына Якаўлеўна, 1886. *Сю́ха*, маці.

600. Ігна́тчык Трафім Н., 1874. *Ныкру́тчык*, гаспадар.
601. Ігнатчык Ефрасіння (*Ефрасіня*) І., 1887. *Прузына Ныкру́тчыкова*, жонка.
602. Майбаро́дзін Мікалай Ягоравіч, 1904. *Майборо́дін*, зяць.
603. Майбародзіна Ефрасіння (*Ефрасіня*) Трафімаўна, 1905. *Прузына Майборо́діна*, дачка.
604. Майбародзін Павел Мікалаевіч, 1928. *Па́вэл Майборо́дін*, унук.
605. Майбародзін Аляксей Мікалаевіч, 1924. *Алёша Майбородін*, унук.
606. Майбародзін Мікалай Мікалаевіч, 1926. *Ко́ля Майборо́дін*, унук
607. Майбародзін Аляксандр Мікалаевіч, 1930. *Шу́ра Майборо́дін*, унук.
608. Майбародзін Анатоль Мікалаевіч, 1935. *То́лік Майборо́дін*, унук.
609. Майбародзін Валянцін Мікалаевіч, 1938. *Ва́лік Майборо́дін*, унук.
610. Майбародзіна Раіса Мікалаеўна, 1946. *Ра́я Майборо́діна*.
611. Брыч Андрэй Аляксеевіч, 1900. *За́ець*, гаспадар.
611. Брыч Яфіма (*Яу́хіма*) Трафімаўна, 1901. *Хы́ма За́йцёва*, жонка.
612. Брыч Іван Андрэевіч, 1929. *Іва́н За́йцёв*, сын.
613. Брыч Мікалай Андрэевіч, 1933. *Ко́ля За́йцёв*, сын.
614. Брыч Рыгор Андрэевіч, 1936. *Гры́ша За́йцёв*, сын.
615. Гу́рын Рыгор Усцінавіч (*Вусцінавіч*), 1861. *Бу́кса*, гаспадар.
615. Гурына Фядосся (*Хвядося*) Данілаўна, 1861. *Бу́ксыха*, жонка.
616. Лаша́к Нічыпар Гарасімавіч, 1877. *Балахта́й*, гаспадар.
617. Лашак Антаніна Тарасаўна, 1877. *Анто́ля Балахта́ёва*, жонка.
618. Калю́ціч Нічыпар Нічыпаравіч, 1911. *Балахта́й, Ніке́ша, Мыкэ́ша*, сын.
619. Калюціч Марыя Фёдараўна (*Хведараўна*), 1912. *Ма́ня Балахта́ёва*, нявестка.
620. Калюціч Віктар Нічыпаравіч, 1935. *Ві́тя Балахта́ёв*, унук.
621. Калюціч Мікалай Нічыпаравіч, 1941. *Ко́ля Балахта́ёв*, унук.
622. Бухаве́цкі Лука Мікалаевіч, 1901. *Цэ́лка*, гаспадар.
623. Бухавецкая Аксіння (*Аксеня*) Якаўлеўна, 1891. *Оксэ́ня Цэ́лка*, жонка.
624. Сцяпаню́к Арцём Маісеевіч, 1880. *Артём,* гаспадар.
625. Брыч Наталля (*Наталя*), 1888. *Ната́ля Артёмова*, жонка.
626. Сцяпаню́к Таццяна (*Тацяна*) Арцёмаўна. *Та́ня Артёмова*, дачка.
627. Сцяпанюк Васіль Арцёмавіч, 1926. *Ва́ся Артёмов*, сын.
628. Вядзе́рчык Еўдакія Трафімаўна, 1925. *Ду́ня Мачко́ва*, гаспадыня.
629. Вядзерчык Іван Іванавіч, 1922, муж.
630. Бацу́к Адарка Фёдараўна (*Хведараўна*), 1906. *Да́рка Совына́,* гаспадыня.
631. Бацук Канстанцін Варфаламеевіч, 1928. *Ко́сьця Бутроме́ёв*, сын.
632. Бацук Дамініка Варфаламееўна, 1933. *До́мка Бутроме́ёва*, дачка.
633. Бацук Вера Варфаламееўна, 1935. *Ве́ра Бутроме́ёва*, дачка.
634. Бацук Мікалай Варфаламеевіч, 1939. *Ко́ля Бутроме́ёв*, сын.
635. Саха́шчык Нічыпар Варфаламеевіч, 1896. *Ку́ндэль*, гаспадар.
636. Сахашчык Аксіння (*Аксеня*) Тарасаўна, 1887. *Оксэ́ня Ку́ндылёва*, жонка.
637. Сахашчык Вольга Нічыпараўна, 1925. *Го́лька Ку́ндылёва*, дачка.
638. Сахашчык Алена Нічыпараўна, 1927. *Олэ́ня Ку́ндылёва*, дачка.
639. Сахашчык Уладзімір Нічыпаравіч, 1929. *Воло́дя Ку́ндылёв*, сын.
640. Сахашчык Мікалай Нічыпаравіч, 1934. *Ко́ля Ку́ндылёв*, сын.
641. Сахашчык Аляксей Нічыпаравіч, 1936. *Алёша Ку́ндылёв*, сын.
642. Сахашчык Варфаламей Нічыпаравіч, 1938. *Бутроме́й Ку́ндылёв*, сын.
643. Бацу́к Павел Фядосавіч, 1896. *Па́вышъ*, гаспадар.
644. Бацук Адарка Піліпаўна, 1897. *Да́рка Па́вышова*, жонка.
645. Бацук Марыя Паўлаўна, 1928. *Ма́ня Па́вышова*, дачка.
646. Бацук Мікалай Паўлавіч, 1935. *Ко́ля Па́вышов*, сын.

***Хутар Бoрóк***
647. Барабáн Сцяпан Барысавіч, 1907. *Дзік*, гаспадар.
648. Барабан Ганна Давыдаўна, 1906. *Гáнна Дзíкова*, жонка.

***Хутар Горá***
649. Сахáшчык Іван Сідаравіч, 1911. *Лагóта*, гаспадар.
650. Сахашчык Марыя Пятроўна, 1911. *Мáня Лагóтына*, жонка.
651. Сахашчык Раіса Іванаўна, 1931. *Рáя Лагóтына*, дачка.
652. Сахашчык Уладзімір Іванавіч, 1935. *Волóдя Лагóтын*, сын.
653. Брыч Іван Аляксеевіч, 1909. *Зáець*, гаспадар.
654. Брыч Еўдакія Рыгораўна, 1910. *Дýня Зáйцёва*, жонка.
655. Брыч Віктар Іванавіч, 1939. *Вíтя Зáйцёв*, сын.
656. Брыч Галіна Іванаўна, 1942. *Гáля Зáйцёва*, дачка.
657. Брыч Карп Кірылавіч, 1867. *Карпýсь*, гаспадар.
658. Брыч Рыгор Карпавіч, 1915. *Гры́ша Карпусíв*, сын.
659. Брыч Марыя Сцяпанаўна, 1923. *Мáня Карпусéва*, нявестка.
660. Брыч Сяргей Рыгоравіч, 1945. *Сірóжа Карпусíв*, унук.
661. Брыч Лявон Лявонавіч, 1903. *Лéвка*, гаспадар.
662. Брыч Анастасія М., 1903. *Настáся Лéвкына*, жонка.
663. Брыч Рыгор Лявонавіч, 1929. *Гры́ша Лéвкын*, сын.
664. Брыч Лідзія Лявонаўна, 1930. *Лíда Лéвкына*, дачка.
665. Брыч Мікалай Лявонавіч, 1933. *Кóля Лéвкын*, сын.
666. Сахáшчык Лука Усцінавіч (*Вусьцінавіч*), 1895. *Малéвіч*, гаспадар.
667. Сахашчык Вольга Віктараўна, 1901. *Гóлька Малéвічова*, жонка.
668. Сахашчык Лука Лукіч, 1922. *Лукáш Малéвічов*, сын.
669. Сахашчык Іван Лукіч, 1924. *Івáн Малéвічов*, сын.
670. Сахашчык Канстанцін Лукіч, 1927. *Кóсьця Малéвічов*, сын.
671. Сахашчык Надзея Лукінічна, 1928. *Нáдя Малéвічова*, дачка.
672. Сахашчык Віктар Лукіч, 1929. *Вíтя Малéвічов*, сын.
673. Сахашчык Елізавета (*Лізавета*) Лукінічна, 1931. *Лíза Малéвічова*, дачка.
674. Сахашчык Пелагея Лукінічна, 1932. *Пóля Малéвічова*, дачка.
675. Сахашчык Марыя Лукінічна, 1933. *Мáня Малéвічова*, дачка.
676. Сахашчык Ганна Лукінічна, 1935. *Нюра Малéвічова*, дачка.
677. Сахашчык Ніна Лукінічна, 1943. *Нíна Малéвічова*, дачка.
678. Гýрын Варфаламей Мікалаевіч, 1908. *Мáрточка*, гаспадар.
679. Гурына Марта Барысаўна, 1910. *Мáрточка*, жонка.
680. Гурына Надзея Варфаламееўна, 1938. *Нáдя Мáрточкына*, дачка.
681. Гýрын Андрэй Антонавіч, 1926, гаспадар.
682. Гурын Канстанцін Антонавіч, 1929, брат.
683. Гурына Анастасія Антонаўна, 1931, сястра.
684. Гурын Сяргей Антонавіч, 1934, брат.
685. Крук Якаў Фаміч, 1897. *Горбáтый*, гаспадар.
686. Крук Кацярына Маркаўна, 1904. *Кáтя Горбáтого*, жонка.
687. Крук Мікалай Якаўлевіч, 1924. *Кóля Горбáтого*, сын.
688. Крук Вольга Якаўлеўна, 1928. *Гóлька Горбáтого*, дачка.
689. Крук Васіль Якаўлевіч, 1930. *Вáся Горбáтого*, сын.
690. Крук Ліда Якаўлеўна, 1932. *Лíда Горбáтого*, дачка.
691. Крук Сяргей Якаўлевіч, 1935. *Сірóжа Горбáтого*, сын.
692. Крук Іван Якаўлевіч, 1937. *Івáн Горбáтого*, сын.
693. Крук Рыгор Якаўлевіч, 1941. *Гры́ша Горбáтого*, сын.

694. Крук Валянціна Якаўлеўна, 1945. *Ва́ля Горба́того*, дачка.
695. Крук Ганна Якаўлеўна, 1864, маці.
696. Саха́шчык Якаў Кліментавіч, 1906. *Клем*, гаспадар.
697. Сахашчык Анастасія Н., 1902. *На́сьця Клё́мова*, жонка.
698. Сахашчык Яўген Якаўлевіч, 1931. *Жэ́ня Клё́мов*, сын.
699. Сахашчык Таіса Якаўлеўна, 1936. *Та́ся, Таі́са Клё́мова*, дачка.
700. Сахашчык Зоя Якаўлеўна, 1938. *Зо́я Клё́мова*, дачка.
701. Сахашчык Таццяна (*Тацяна*) Якаўлеўна, 1942. *Та́ня Клё́мова*, дачка.
702. Брыч Анастасія Сцяпанаўна, 1910. *Тю́ныха*, гаспадыня.
703. Брыч Кацярына, 1932, дачка.
704. Брыч Уладзімір, 1935, сын.
705. Ло́гвін Елізавета (*Лізавета*) Нічыпараўна, 1921. *Саве́та*, гаспадыня.
706. Логвін Сідар Лукіч, 1915, муж.
707. Логвін Лявон Сідаравіч, 1938. *Лё́ня Саве́тын*, сын.
708. Логвін Пелагея Сідараўна, 1944. *По́ля Саве́тына*, дачка.
709. Логвін Сідар Сідаравіч, 1943. *Сы́дор Саве́тын*, сын.

***Хутар Соку́льськэ***

710. Брыч Іван Васільевіч, 1907. *Му́ха*, гаспадар.
711. Брыч Зіновія Данілаўна, 1906. *Зі́ня Му́хына*, жонка.
712. Брыч Даніла Іванавіч, 1933. *Да́нік Му́хын*, сын.
713. Брыч Вольга Іванаўна, 1935. *Го́лька Му́хына*, дачка.
714. Брыч Рыгор Іванавіч, 1940. *Гры́ша Му́хын*, сын.
715. Бацу́к Алена Андрэеўна, 1905. *Полові́нка*, гаспадыня.
716. Бацук Іван Данілавіч, 1924. *Іва́н Полові́нчын*, сын.
717. Бацук Марыя Данілаўна, 1933. *Ма́ня Полові́нчына*, дачка.
718. Бацук Надзея Данілаўна, 1935. *На́дя Полові́нчына*, дачка.
719. Бацук Віталь Данілавіч, 1943. *Віта́лік Полові́нчын*, сын.
720. Кныш Іван Раманавіч, 1934. *Кныш*, гаспадар.
721. Астапчу́к Марта Максімаўна, 1914. *Марта Максё́мова*, гаспадыня.
722. Астапчук Іван Мікалаевіч, 1937. *Іва́н Максё́мов*, сын.
723. Брыч Анастасія Максімаўна, 1907. *На́сьця Максё́мова*, сястра.
724. Брыч Нестар Пятровіч, 1906. *Нэ́сьцёр*, гаспадар.
725. Брыч Ганна Антонаўна, 1909. *Га́нна Нэ́сьцёрова*, жонка.
726. Брыч Якаў Нестаравіч, 1929. *Я́ша Нэ́сьцёров*, сын.
727. Брыч Вольга Нестараўна, 1933. *Го́лька Нэ́сьцёрова*, дачка.
728. Брыч Васіль Нестаравіч, 1940. *Ва́ся Нэ́сьцёров*, сын.
729. Каме́нда Сцяпан Кірылавіч, 1917. *Марсю́та*, гаспадар.
730. Каменда Надзея Кірылаўна, 1927. *На́дя Марсю́тына*, сястра.
731. Каменда Леанід Кірылавіч, 1932. *Лё́ня Марсю́тын*, брат.
732. Каменда Марыя Антонаўна. 1924. *Ма́ня Марсю́тына*, жонка.
733. Саха́шчык Якаў Іванавіч, 1907. *Шуля́к*, гаспадар.
734. Сахашчык Вольга Васільеўна, 1920. *Шулячи́ха,* жонка.
735. Бу́хта Ефрасіння (*Ефрасіня*) Нупрэеўна, 1908. *Прузи́на Лэ́йбына*, гаспадыня.
736. Бухта Анатоль Васільевіч, 1931. *То́лік Лэ́йбын*, сын.
737. Бухта Юрый Васільевіч, 1934. *Ю́рко Лэ́йбын*, сын.
738. Бухта Андрэй Васільевіч, 1936. *Андри́й Лэ́йбын*, сын.
739. Бухта Васіль Васільевіч, 1938. *Ва́ся Лэ́йбын*, сын.
740. Бухта Вольга Васільеўна, 1941. *Го́лька Лэ́йбына*, дачка.
741. Бу́хта Іван Антонавіч, 1910. *Бо́бка*, гаспадар.

742. Бухта Марта Сідараўна, 1911. *Ма́рта Бо́бчына*, жонка.
743. Бухта Віктар Іванавіч, 1933. *Ві́тя Бо́бчын*, сын.
744. Бухта Аляксей Іванавіч, 1938. *Алёша Бо́бчын*, сын.
745. Бу́хта Мікалай Фёдаравіч (*Хведаравіч*), 1903. *Мыкола́й Лэ́йбын*, гаспадар.
746. Бухта Ірына Нестараўна, 1903. *Ары́на Лэ́йбына*, жонка.
747. Бухта Еўдакія Мікалаеўна, 1929. *Ду́ня Лэ́йбына*, дачка.
748. Бухта Ніна Мікалаеўна, 1932. *Ні́на Лэ́йбына*, дачка.
749. Бухта Надзея Мікалаеўна, 1938. *На́дя Лэ́йбына*, дачка.
750. Крук Аляксандр Андрэевіч, 1909. *Козёл*, гаспадар.
751. Крук Вера Лукінічна, 1918. *Ве́ра Козло́ва*, жонка.
752. Крук Аркадзь Аляксандравіч, 1942. *Арка́дій Козлы́в*, сын.
753. Саха́шчык Карп Фаміч, 1898. *Карпу́сь*, гаспадар.
754. Сахашчык Ганна Данілаўна, 1898. *Га́нна Карпусёва*, жонка.
755. Сахашчык Іван Карпавіч, 1924. *Іва́н Карпусів*, сын.
756. Сахашчык Пелагея Карпаўна, 1928. *По́ля Карпусёва*, дачка.
757. Сахашчык Вольга Карпаўна, 1931. *Го́лька Карпусёва*, дачка.
758. Крук Сцяпан Андрэевіч, 1904. *Козёл*, гаспадар.
759. Крук Праскоўя, 1908. *Пара́ша Козло́ва*, жонка.
760. Крук Вольга Сьцяпанаўна, 1928. *Го́лька Козло́ва*, дачка.
761. Бухаве́цкі Мікіта Амялянавіч, 1875. *Буховэ́цькый*, гаспадар.
762. Бухавецкая Ніна Мікітаўна, 1925. *Ні́на Буховэ́цька*, дачка.
763. Бухавецкая Пелагея Мікітаўна, 1927. *По́ля Буховэ́цька*, дачка.
764. Мулькe̕віч Раман Данілавіч, 1890. *Лоша́к*, гаспадар.
765. Мулькевіч Анастасія Фёдараўна (*Хведараўна*), 1890. *Наста́ся Лошако́ва*, жонка.
766. Мулькевіч Марыя Раманаўна, 1922. *Ма́ня Лошако́ва*, дачка.
767. Мулькевіч Марта Раманаўна, 1924. *Ма́рта Лошако́ва*, дачка.
768. Мулькевіч Вольга Раманаўна, 1930. *Го́лька Лошако́ва*, дачка.
769. Мулькевіч Надзея Раманаўна, 1933. *На́дя Лошако́ва*, дачка.
770. Мулькевіч Аляксандра Раманаўна, 1935. *Шу́ра Лошако́ва*, дачка.
771. Брыч Рыгор Пятровіч, 1910. *Му́ха*, гаспадар.
772. Брыч Палага Сцяпанаўна, 1914. *Пола́я Му́хына*, жонка.
773. Брыч Пётр Рыгоравіч, 1933. *Пе́тя Му́хын*, сын.
774. Брыч Пётр Васільевіч, 1890. *За́ець*, гаспадар.
775. Брыч Марта Мікалаеўна, 1888. *Ма́рта За́йцёва*, жонка.
776. Брыч Марыя Пятроўна, 1924. *Ма́ня За́йцёва*, дачка.
777. Саха́шчык Васіль Лукіч, 1919, зяць.
778. Сахашчык Раіса Васільеўна, 1942, унучка.
779. Сахашчык Васіль Васільевіч, 1945, унук.
780. Сакало́ўскі Сцяпан Сямёнавіч, 1872. *Та́тко*, гаспадар.
781. Сакалоўская Марыя Іванаўна, 1887. *Ма́р'я Та́ткова*, жонка.
782. Сакалоўская Вольга Сцяпанаўна, 1924. *Го́лька Та́ткова*, дачка.
783. Сакалоўскі Якаў Сцяпанавіч, 1930. *Я́ша Та́тков*, сын.
784. Сакалоўскі Канстанцін Сцяпанавіч, 1932. *Ко́сьця Та́тков*, сын.
785. Сакалоўская Анастасія Сцяпанаўна, 1935. *На́сьця Та́ткова*, дачка.

**Літаратура**

Шур, В. В. Беларускія ўласныя імёны. Беларуская антрапанімія і тапаніміка: дапам. для настаўнікаў / В. В. Шур. – Мінск: Мастац. літ., 1998. – 240 с.

*П. І. Кулік*

## ГАЛОЎЧЫЦКІЯ МЯНУШКІ

*Антонюк Пеця.* Быў брыгадзірам у калгасе. Разумны, паважаны чалавек.

*Бабын Пеця.*

*Балабуха Іван, Ванька.* Быў кіроўцам першай калгаснай аўтамашыны ГАЗ-51, якую ён дабіў праз некалькі гадоў. Пасля быў брыгадзірам паляводчай брыгады. Дэбашыр і п'яніца.

*Баландюк Іван.*

*Балаховіц*, прыкладна 1942 г. н. Прыдуркаваты і глухаваты тып.

*Барадуля Міша.*

*Баракота Марычка.* Жыла на хутары каля маёнтка Мухі.

*Барбара.* Па імені жанчыны ў родзе.

*Бартось.*

*Батэцькый.*

*Бацко Іван.*

*Бобына Яша.* Дзеці: *Іван, Пеця.*

*Бовшук.* Жыў у Закарчме. Адзін з іх быў кульгавы. Яго дражнілі: *"Бовша, адна нага карочча, друга довша".*

*Бомсь Федзя.*

*Бонька Пятро.*

*Борма.* Брыгадзір. Жыў на Копанех.

*Бочка* (Кулік Іван Сідаравіч) 1908 г. н. Першую жонку звалі Ганна, яна памерла ў 1956 г. Другая жонка *Воля Казэльцёва.* Дочкі ад першага шлюбу: Нюра і Ліда, сыны: Фёдар і Васіль (брат Івана Сідаравіча Нікіціна жыў каля *Апцызныка*). Як узнікла родавае прозвішча Бочка? Сусед аднойчы добра пад'еў і ляпнуў, што ён наеўся і стаў, як бочка. З таго часу і ўвесь яго род і сталі называць *Бочкамі.*

Бацьку Івана Сідаравіча звалі Маісей. У Галоўчыцах яго імя перарабілі і сталі зваць яго *Місій.*

*Бочка Сёма.*

*Брашыўка Мыхалко, Толя. Мыхалко* павесіўся праз дзяцей, бо яны заўпарціліся і не давалі згоду на яго жаніцьбу.

*Брэкавіця Васіль.*

*Брыж (Рубаныk).* Прозвішча Кулік. Жыў насупраць Пятра Мухі.

*Брытан Мыколай.*

*Бугай Матвій.*

*Будык Коля.*

*Бульба Васіль.*

*Бурачок (Бурак) Вася, Павел.* Прозвішча *Ляўковіч.*

*Бусынь.*

*Бырдун.*

*Бырэзлянка.* Жонка *Кылюха.*

*Бэбіль Сцёпа.* Сын *Прiськы.* Іх ужо даўно няма, памерлі.

*Бэк Іван.*

*Бэрко Слава.*

*Бэцьман Сеня.*

*Ваврук.* Мянушка дадзена па прозвішчы. *Ваврук* Васіль Андрэевіч – настаўнік пачатковых класаў у Галоўчыцах. Жонка Надзя.

*Ваврын.* Мянушка пайшла ад імя. Жыў каля Мікалая Галушкі. Памёр прыкладна ў 1950 г.

*Варашыло.*

*Вуць Гандрый.*

*Вылёнда Васіль.* Сын Коля і дачка.

*Вырóвэць Коля.* Хутчэй за ўсё, нехта ў родзе віў вяроўкі.

*Вырчýк Іван.*

*Галýшка Сцяпан, Пецям Коля, Анатоль, Грыша.* Магчыма, продкі паходзілі з Украіны і часта елі, як мяркуецца, нацыянальную ўкраінскую страву *галушкі.* На гэта ўказвае і прозвішча *Чопко.*

Цёця Ліда, другая жонка Сцяпана. Дзеці: Ніна, Толя, Грыша, Пятро Коля. Ніна выйшла замуж за *Цёда Грышу.* Пасялілася на сённяшняй сялібе прыкладна ў 1948 г.

*Ґан Вера і Лёня.* Лёня, 1931 г. н., прыгажун. *Ґанова* хата знаходзілася паміж хатамі *Васі Зайчыка і Рыгіра Лявінчыка*, не даязджаючы да *Лявінчыка* метраў 40. У бацькі Лёні было трое дзяцей. Лёня – самы малодшы. Яшчэ адзін брат, 1927 г. н., кудысьці з'ехаў. З Нінай, сястрой, ажаніўся *Сцяпан Чэйка.* Лёня пасля арміі працаваў на Данбасе. Яго забілі і выкінулі з цягніка.

*Гандры́йчык Іван.*

*Гóнот.* Першы брыгадзір у Галоўчыцах.

*Грыцю́к Вéрка.*

*Грыць Сцяпан.* Ад імя пералётнай птушкі. У галоўчыцкіх балотах гнездавалі тры пароды дзікіх птушак: *качка, чэка і грыць.* Птушку *грыць* назвалі па яе спевах. Яна сапраўды спявае "*гры́цю*".

Гэта мянушка *Каплавухага* (Чапко Сцяпана. Яго дом быў паміж дамамі Барбары і Мікалая Чапко).

*Гуды́ло Зося. Гудылі* жылі ў *Дóўгым*, на ўсход ад *Дóўгого* прыкладна за 15 км. Хаты стаялі паміж балот на касе ў рад з захаду на ўсход.

*Гýліх.*

*Даны́ло – Сёма, Іван, Валодзя.* Прозвішча Макарчук. Валодзя жыве ў Мінску і ажаніўся з настаўніцай Кацярынай з Татарновіч.

*Дáрыч.* Хутчэй за ўсё, мянушка паходзіць ад прозвішча. Волька Дарычова выйшла замуж за расіяніна Пятра Сакалова. Сакалоў быў працавітым, але шмат піў. У Волькі яшчэ была сястра, прыкладна 1935 г. н.

*Дзік.*

*Драй Гаврýсь.*

*Дубэ́нька Валодзя.*

*Дýдар Пеця.*

*Дудáрчык Іван.* Жыў на хутары за 1,5 км ад канала.

*Дýсьтыха.* Гэта дачка майго дзядзькі Карпа, забітага немцамі ў вёсцы Галік. Яны жылі ў Папругах каля Солтуса.

*Дыльдýк Коля.* Прозвішча Андрановіч.

*Дымы́ччык Антон.* Яго дачка Паліна, сын Сцяпан. Прозвішча Маерка.

*Жукóўскі Коля.*

*Жур Мікалай.* Люты праціўнік не толькі савецкай улады, але і ўсіх жыхароў вёскі. Жур спрабаваў адпомсціць усім, хто яго калі-небудзь пакрыўдзіў. Ён яшчэ прыгаворваў: "*Гэта табе за тое, а табе – за гэта*". Магчыма, савецкая ўлада да вайны ў яго нешта адняла.

*Зáйчык Маня.*

*Званéр.* Мянушка "прыстала" з-за таго, што гэты чалавек у галоўчыцкай царкве званіў у званы. Жыў насупраць царквы. Драўляная званіца знаходзілася побач з царквой за 7–8 м на захад ад яе.

*Кавáлык.* Прозвішча Кулік. Жылі на рагу вуліцы *Закарчма* ў цэнтры вёскі.

*Кагáн Мікіта.* Жыў на *Копанéх* па суседстве з *Выраўцéм.* Быў вельмі неахайны чалавек. Заўсёды хадзіў гразны, нікчэмны. Гаспадар быў нікудышні. Касіў дрэнна. Дзяцей у яго не было. Памерла жонка. Вася Тожык пасватаў з *Ямніка* дзяўчыну, якая не была замужам. Мікіта стаў больш бадзёрым, адмыўся, з'явіўся касцюм. Стаў мужык мужыком. І пайшлі ў іх дзеці.

*Кажýшка Федзя.*

*Казёл Вася.*

*Казубы́ха Ганна.* Жыла ў Галоўчыцах. Вясной 1950 г. у 50 год выйшла замуж на хутар у Корсунь.

*Казэ́лыць Іван, Андрэй, Яша.*

*Какýдырка Жэня.*

*Капытýля Коля.* Жылі яны ў Закарчме.

*Калáмбуз Іван.* Яны жылі ў Папругах каля медпункта. Прыкладна ў 1948 г. у іх згарэла хата.

*Каплавýхі Сцяпан* Чопко (Чапко). Мянушку яму даў *Пэхта* за тое, што ў яго былі моцна адтапыраныя вушы.

*Картóшка Сцяпан, Цімоша, Цьміна, Маруся.* Прозвішча Якоўчык. Сцяпан не галаўчак. Ён прыйшоў у прымы з Асіповіч. Сын Цімоша працаваў кіроўцам у калгасе. Бацьку Сцяпана Картошкі забілі немцы як бы выпадкова: з пераезду ў Асіповічах выстраліў немец з вінтоўкі і патрапіў у яго.

Жонка Сцяпана *Картóшкі* – Наталля са *Шнáйдырыва.* Сцяпан і Наталля хутка памерлі пасля смерці Івана Бочкі. Маруся з'ехала ў ЗША, выйшла замуж і там засталася.

*Кацáп Іван.* Магчыма, продкі былі з Расіі. Раней такой мяшушкай называлі расіян, а месцамі называюць і зараз.

*Кацюбá.*

*Кáчор Лёня.* Лёня жыў каля *Пэхты.* Бацьку звалі Панас. Панас памёр прыкладна ў 1951 г. Лёня быў самым моцным з мужыкоў. Ён мог за дзень скасіць гектар травы, асабліва калі трава вільготная. Лёс сына склаўся няўдала: яго забілі і павесілі ў Корсуні ў туалеце на аўтастанцыі.

*Кáчор Фёдар і Ганна.* Ганна – маміна сяброўка. Жылі на *Копанéх.* Сын Федзя, мой аднагодак. Прозвішча Сілюк.

*Кладоўшчы́к Косця.*

*Кóсар Волька.*

*Кóтык Вася.*

*Кравэ́ць Мыхáлко.* Яго жонка *Настася.*

*Крук Каця.*

*Кýгач Коля.*

*Купэ́ць Коля.*

*Куць Вася.*

*Кы́люх Надзя. Мама бырэ́злянка.*

*Кырдзій.*

*Кырычóк Іван.*

*Кышýк Іван і Ярына.* Мая прабабка часта крычала на курэй: *"Кіша".* Спачатку *Кіша* дражнілі бабулю, а пасля гэта мянушка перайшла на ўсю нашу сям'ю.

*Лáзур Сёма, Я́нык.* Прозвішча Бобрык.

*Лахмáтка Жэня, Алёша.*

*Лукір'я.* Прозвішча Кулік. Хатка жанчыны, як і сама згорбленая Лукір'я, маленькая. Хатка знаходзілася каля Івана Бочкі. Дзед Трафім памёр у 1952 г. у сакавіку, а Лукір'я – пасля 1958 г. У 1958 г. яна была яшчэ жывая.

Трафім рабіў саламяныя капелюшы. Ён усё лета сядзеў на прызбе і плёў капелюшы. Трафім нарадзіўся ў 1870 г., быў у Амерыцы. Ад яго можна было даведацца шмат цікавага. *"Мараканьскі зарібок",* – казалі ў Галоўчыцах, калі нехта атрымліваў вялікія грошы. Лукір'я была добразычлівай і спачувальнай жанчынай.

*Лы́сы Грыша.*

*Лэ́вко.*

*Лявíнчык.* Напэўна, прозвішча пайшло ад імя Лявін.

*Лявóн Верка.*

*Мадрызóн.*

*Мазэ́па.* Хутчэй за ўсё, мянушка пайшла ад імя Мазэ́па.

*Майно́ Іван.* Жыве ў Папругах.

*Малёваныць.*

*Марко́ Вася, Іван, Валодзя.*

*Матага́нчык Ко́літка.*

*Матэ́йко Надзя.*

*Мардві́н.* Магчыма, што продак быў родам з Мардовіі.

*Мона́х Жэня.*

*Му́ляр.*

*Муту́н.* Мянушка ад слова *мутыты* 'лгаць'. Відаць, што нехта ў родзе быў ілгуном.

*Му́ха Якаў* і яго дзеці *Сцёпа, Вася.* Другі *Му́ха* быў першым старшынёй калгаса ў Галоўчыцах. Яго дом спалілі прыкладна ў 1950 г. з-за яго жорсткасці. Тых, хто падпаліў, не знайшлі. Згарэў партбілет. За гэта *Му́ху* знялі з пасады.

*Мынту́з.* Жонка Ганна. Дзеці *Шура, Феня, Кузьма.* Відаць, ад назвы дробнай рыбкі. Такой мянушкай людзі хацелі падкрэсліць дробязнасць чалавека.

*Мыха́сь Іван.*

*Мэ́ндыль Іван, Ніна, Рая.*

*Нюнька Коля.* Стары *Нюнька* быў выдатным шаўцом. І вось аднойчы, хутка пасля вайны, прыйшла да яго бедная жанчына і пачала прасіць сшыць ёй боты:

*– Ох, мій Нюнічка, мій соколыку, то пошый міні чобуты. Ой, пошый! Ой, пошый!*

Нюнька, як мог, цярпеў, а жонка Нюнькі не вытрымала і злосна заўважыла:

*– Послушай, жэншчына! У майго мужа і імя ёсць!*

(Справа ў тым, што ў вёсцы называць чалавека па яго мянушцы заўсёды лічылася вельмі крыўдным).

*Ова́да Вольга.* З'яўленне мянушкі звязана з французскім прозвішчам Овада. Вольга была замужам за Сакаловым. Сакалоў быў вельмі працавітым, але шмат піў. Закадзіраваўся, але затым зноў пачаў піць. Гэта і стала прычынай, што ён павесіўся. Было яшчэ дзве дачкі. Вольга дажыла свой век адна.

*Огоро́днік.* Пасля арганізацыі калгаса *Огороднік* займаўся калгасным агародам, які знаходзіўся на поўдзень ад школы.

*Оны́сько Саня.*

*Опцы́знык Вася.*

*Охнюк Хвэ́дор.*

*Панк Пеця.*

*Паўлючка.*

*Пачы́сньк Саня.* Мянушка пайшла ад слова *пачосы. Пачосы* – гэта лён нізкай якасці. Ён выкарыстоўваўся на выраб мешкавіны.

Пасля вайны *пачы́снькы* на гужавых перасовачных прыёмных пунктах збіралі сыравіну другой якасці для параапрацоўкі на цэлюлозу. *Пачо́сы* – гэта непатрэбныя льняныя і баваўняныя тканіны. *Пачыснькы* выкрыквалі розныя зазыўныя словы, таму пра іх склалі трапны выраз: *"Онучы, пачосы, кажухы, калошы".*

*Півінь Матвей, Валодзя.* Жыў насупраць Яська.

*Пілі́паўска Волька.*

*Піцюк Пеця, Данік.* Данік ажаніўся на Лідзе *Чэрке.*

*Полэ́сына Цімоша.*

*По́нталь Саня, Валя.* Жылі каля *Пэхты.*

*Потра́кач Валодзя.*

*Промо́тор Коля.*

*Прыбышэ́нка Маня.*

*Пры́ська.*

*Пудзымэ́ныць Федзя.*

*Пэ́лько Коля.*

*Пэ́рыць Вася, Саня.*

*Пэ́тык Грыша.*

*Пэ́хта Хвылы́на.* Сыны Аркадзій і Сцяпан. Яе хата была апошняй справа ў *Сы́ныывычах*, калі ісці да канала, па ўскрайку *Трыпавы́нык.* Меў паэтычныя задаткі, але не склаўся як паэт, вялікі жартаўнік.

*Рабо́чы.* Жылі яны каля Солтуса на выгане.

*Радывін.* Хутчэй за ўсё, мянушка пайшла ад імя *Радзівон. Радывін, дэ хто с... там і він.*

*Рак Сцёпа.*

*Рачко́.*

*Ро́гусь.* Адзін з актыўных прапаведнікаў-баптыстаў у Галоўчыцах.

*Ру́баньк (Брыж).*

*Ру́ський Яша.* Магчыма, продкі паходзілі з Украіны, дзе жывуць русіны (*руськие*).

*Ры́жы.* Жылі каля школы. Толькі адна сям'я была для свайго часу перадавой і магла прэтэндаваць на ролю галоўчыцкай шляхты. Двое хлопцаў з гэтай сям'і паступілі хутка пасля вайны ў ВНУ. Мая сястра Таццяна была трэцяй. У Брэсцкае педадагічнае вучылішча яна паступіла ў 1950 г. Галоўчыцкая разумовая галеча сыкала ўслед, што паступайце, вучыцеся, але ўсё адно вам не дадуць працы па спецыяльнасці. Але калі галаўчукі пачалі паступаць у ВНУ і тэхнікумы масава, а пасля сталі атрымліваць працу па спецыяльнасці і добры заробак, скептыкі канчаткова зажурыліся і замоўклі, змагаючыся за выкананне плана ў 125 працадзён у год і нават яго перавыкананне.

*Ры́кля.*

*Ры́мар.*

*Рэ́знікаў.* Нетутэйшы калгасны актывіст пачатку 1950-х гадоў.

*Сандэ́ль (Сяндо́) Надзя. Сяндо́*, прыкладна 1930 г. н., быў у калгасе пастухом коней.

*Севяры́н Алёша.*

*Семяню́к Пятро.*

*Скаку́н Пеця.*

*Смусь Валодзя, Пеця, Слава, Аляксандр.* Слава ў калгасе быў электрыкам.

*Со́голь Іван, Ніна.* Жылі каля баптысцкага дома.

*Со́лтус (Слава).* Быў солтусам пры немцах у 1941–1944 гг.

*Спудкабэ́рыць Пятро.* Прозвішча Чапко. Быў савецкім актывістам, падчас вайны яго сусед Жур Мікалай здаў Пятра немцам. Немцы прыехалі і забілі ўсю яго сям'ю і спалілі хату. Гэта было летам. Сям'ю расстралялі на *Копане́х* каля сядзібы Бобрыка. У 1948 г. на гэтай сядзібе пасяліўся Ярошык Каленік.

*Стовпэ́ць Валодзя.*

*Сунду́к Коля.*

*Ся́ндо Аляксандр.* Калгасны конюх.

*Талаха́н Іван.*

*Тань Коля.*

*Тарасю́к Ліда.*

*То́жык Вася.* Дзеці Ніна і Пеця. Прозвішча Сенкевіч. *Вася Тожык* скончыў жыццё самагубствам. Яго спрабаваў ўратаваць Вася Шнайдыр (Макарчук), але не здолеў.

*То́мба Вася, апцызнык.*

*Трымбу́к Іван, Сцяпан, Пеця.* Пеця Трымбук быў прасвітар у баптыстаў, памёр у 2009 г. Сцяпан вучыўся са мной у школе.

*Трусь Саня.* Мянушка, хутчэй за ўсё, пайшла ад назвы свойскай жывёлы – труса.

*Тубылны́ха Маня.*

*Тэ́піль.*

*Фысю́к Волька.*

*Харашу́ха Насця.*

*Харыто́нык Саня.*

*Цёд Грыша.*

*Цыбу́лнык.*

*Цы́цка.* Сахацкія. Яны жылі на рагу ў пабеленай хаце на скрыжаванні вуліцы *Сы́нывычы* і вуліцы, якая вядзе на *Копані.* Пасля гэты дом выкупіла санітарка.

*Цю́рых Ліда.*

*Че́рка Ганна, Ніна, Ліда.* Ад прозвішча Чыр.

*Чолове́чко Грыша.* Мянушку атрымаў праз свой малы рост, бо быў не больш за 1,5 м.

*Чума́к Іван, Хвэ́дур.* Хутчэй за ўсё, продкі былі з Украіны. У перакладзе з украінскай мовы *чумак* азначае ‘рамізнік’. Чумакі вазілі кухонную соль з Украіны ў Беларусь.

*Чырыпо́к Грышка.* Чалавек са своеасаблівай гаворкай, хутчэй за ўсё, калека, які жабраваў.

*Чэ́йка.* Ад прозвішча Чайка.

*Ша́бас.* Жыў каля *Мыхасе*, злодзей і бандыт.

*Шаблы́чка Саня, Толя.* Прозвішча Краўчук. Саня стаў доктарам фізіка-матэматычных навук. Жыве ў Маскве.

*Шво́раб Пракоп.* Жыў на хутары, а пасля перасялення ў вёску – насупраць Дома малітвы. Здаецца, прозвішча ў яго Новік.

*Шмэд Вася.* Жыве ў Папругах, акардыяніст.

*Шмэр Лёня.*

*Шна́йдыр Мыха́лко.* Жонка Ядвося, дзеці Сцёпа, Вася, Ганна. Жылі каля *Пры́ськы.*

*Што́ліх Люба.*

*Шту́ман (Шту́маныха).*

*Шыльмэ́н Саня, 1945 г. н. Шыльмэныха Маня.*

*Ю́рко Вася.* Муж *Фені Мынтузовыї.*

*Юшчу́к.* Жылі ў *До́ўгым* на хутары з левага боку, калі ісці да канала. Там жа жыла сям’я *Гудыла.*

*Які́мычко Валодзя.*

*Ярошчы́к Кале́нік.* Дзеці Ніна, Пеця, Коля. Сам Каленік паходзіць з Асіповіч. Жыў на хутары за ўрочышчам *Бі́ганый.* Там, за Чорным Ровам, знаходзіліся Асіповіцкія хутары.

*Я́сько Лёня.* Прозвішча Ясько. Лёня скончыў жыццё самагубствам. Бацька Лёні, Ясько, працаваў вартаўніком магазіна, быў вельмі адукаваным, шмат чытаў, але пры гэтым быў, па вясковых мерках, вельмі нядбайным гаспадаром. Напрыклад, ён ледзь не кожны год крыў дах толам замест таго, каб пакрыць рубероідам, шыферам ці гонтай.

*Ж. С. Сіпліваня, І. І. Бубновіч*

## ТРАДЫЦЫЙНЫЯ І СУЧАСНЫЯ ЗАОНІМЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Клічкі жывёл, або інакш заонімы, з’яўляюцца важнай часткай анамастычнай прасторы Гродзеншчыны. Па меркаванні некаторых даследчыкаў, заонімы займаюць прамежкавае становішча ў сістэме іншых уласных імён [1, с. 42]. Намінацыйныя прыкметы клічак і іх унутраная форма адлюстроўваюць этнічную інфармацыю, схільнасць жыхароў нашага рэгіёна ў працэсе называння арыентавацца на чалавека, яго рэчавае акружэнне. Як слушна падкрэсліў В. І. Супрун, клічкі маюць «антрапонімападобны характар, што выяўляецца на лексіка-семантычным, структурна-граматычным і функцыянальным узроўнях» [2, с. 60].

У свядомасці носьбіта мовы клічка жывёлы нярэдка ўспрымаецца як адбітак знешнасці, характару, разумовых якасцей самога чалавека. Нездарма клічкамі надзяляюцца звычайна свойскія жывёлы (сабака, кот, конь, карова, каза, певень ці інш.), якія цесна звязаны з жыццём людзей. Праўда, апошнім часам стала дастаткова модным прыручаць і больш экзатычных жывёл нак-

шталт чарапахі, шыншылы і пад. Традыцыйна ж спадарожнікамі жыцця чалавека лічыліся тыя прадстаўнікі жывёльнага свету, ад якіх ён меў пэўную спажывецкую карысць. Але толькі матэрыяльнымі крытэрыямі значэнне жывёл у жыцці чалавека не абмяжоўваецца. Нельга ігнараваць ролю жывёл у выхаванні, псіхічным развіцці чалавека і г. д. Таму найменні фаўны можна разглядаць як пласт лексікі, па сродках якога акрэсліваецца канцэптасфера таго ці іншага народа.

Утварэнне ўласных назваў жывёл (а для іх абазначэння мы выкарыстоўваем тэрмін "заонім") выклікана не толькі дзеяннем моўных заканамернасцей. На наш погляд, з'яўленне заонімаў – гэта яшчэ і вынік практычнага вопыту асэнсавання свету камунікантамі, а значыць, феномен экстралінгвістычны. «Клічкі жывёл цесна звязаны з навакольнай рэчаіснасцю, бо ў сістэме назваў гэтага тыпу ўвасоблены нацыянальна-культурныя і гістарычныя звесткі, а свет рэпрэзентуецца з пазіцый яго бачання чалавекам» [3, с. 54].

На думку П. Т. Паротнікава, у аснове клічак жывёл выяўляюцца тыя самыя прынцыпы намінацыі, якія характэрны і для мянушак людзей [4, с. 211]. Для заонімаў уласцівы ўсе асноўныя функцыі ўласных імён: намінатыўная, ідэнтыфікуючая, дыферэнцыйная і інш., а ў штодзённым маўленні заонімы выконваюць вакатыўную функцыю [2, с. 56].

Вывучэнне структурна-семантычнай арганізацыі заонімаў паказала, што гэта, як правіла, клас матываваных назваў. Выключэнне тут могуць складаць намінацыі, якія ўяўляюць сабой запазычаныя лексічныя адзінкі накшталт *Бёрлік, Фокс, Шрэк.* Даўнейшыя клічкі ў пераважнай большасці з'яўляюцца семантычнымі дэрыватамі, што ўзніклі ў выніку пераасэнсавання агульнавядомых апелятываў (*Варона, Кветка, Жук, Зорка, Ластаўка* і г. д.), радзей – антрапонімаў (*Алеся, Васіліса, Грыша* і пад.). Перанос назвы звычайна адбываецца на падставе падабенства па знешнім выглядзе, дзеяннях, ладзе жыцця жывёл. Гэты спосаб намінацыі пашыраны і ў сучаснай заанімії Гродзеншчыны.

Значная ў колькасных адносінах частка заонімаў матывуецца суфіксальнымі ўтварэннямі ад назоўнікавых (*Рагуля, Хвосцік, Квятуля*) і прыметнікавых асноў (*Рыжык, Лыска, Пярэста*). Апрача таго, у гродзенскіх гаворках выяўлены клічкі са структурай словазлучэння (*Кароткая Нага, Рванае Вуха, Камісар Рэкс* і пад.).

Як сведчаць назіранні, падставай для ўзнікнення клічак жывёл могуць служыць розныя прыкметы. Так, нярэдка заонімы адлюстроўваюць колер поўсці жывёлы (*Маліна, Рыжы, Рыжык, Рудзік, Пярэста, Чарныш, Сіва, Сіўка*), якасць поўсці (*Пушысцік, Пушок, Лыска*), рост, памер (*Малыш, Пухлік*), іншыя адметнасці знешняга выгляду (*Лялька, Рагуля).* Матывацыйнай базай індывідуальнай назвы жывёлы выступае і саматычная лексіка (*Рагуля, Хвост, Хвосцік*).

У аснове прынцыпу намінацыі – адметнасці паводзін жывёл: злосць, зацятасць (*Люты, Люцыфер*), спакойны характар (*Мірны*), рухавасць (*Шустра, Жулік*), адданасць свайму гаспадару (*Верны*) і інш.

Час нараджэння знайшоў адбітак у найменнях тыпу *Марта, Марціна.* У якасці клічак замацоўваюцца афіцыйныя і гутарковыя варыянты ўласных імён людзей (жаночых: *Марфута, Манька, Марфа, Машка, Мальвіна,* мужчынскіх: *Марцін, Матвей, Кеша*), імён па бацьку (*Міхалыч*).

На аснове пэўных асацыяцый, звязаных са звычкамі ці знешнім выглядам жывёл, клічкамі становяцца фаўністычныя найменні (*Мартышка, Мурашка, Мушка, Жук, Перапёлка, Сокал, Орлік, Ластачка*), назвы флоры (*Астра, Рабіна, Маліна, Роза, Розачка, Чага*).

Клічкі могуць суадносіцца з намінацыямі прадуктаў харчавання (*Пончык, Шпрот, Кекс, Ледзянец*), побытавых рэчаў (*Мяшок*), музычных інструментаў (*Жалейка*), абстрактных паняццяў (*Бой, Пабеда*), прыродных з'яў (*Гром, Туман*), з лексікай, што абазначае сацыяльнае становішча (*Бос, Лорд, Маркіз*), прафесію, род заняткаў чалавека (*Воін, Матрос*).

Сярод клічак апошняга дзесяцігоддзя на Гродзеншчыне намі адзначана пашырэнне запазычаных імён (*Бэці, Рэт, Том, Фокс),* назваў міфічных персанажаў (*Сірэна, Люцыфер, Чорцік*), герояў мастацкай літаратуры, мультыплікацыйных і мастацкіх фільмаў (*Чабурашка, Бім, Віні Пух, Кузя, Том, Шрэк*). Гэта сведчыць, з аднаго баку, пра рост культурнага ўзроўню гаспадароў жывёл, а з другога – пра паступовыя змены ў сістэме клічак, замену спрадвечна беларускіх найменняў іншамоўнымі, што выклікана ўздзеяннем экстралінгвістычных фактараў.

У семантычнай структуры шэрагу клічак адзначаецца эксплiцытна выражаная канатацыя, якая выяўляе адносіны гаспадароў да гадаванцаў, напрыклад, *Любімчык, Мілка, Барсік, Квятуля, Красаўка, Ластачка.*

Сабраны на Гродзеншчыне і прааналізаваны фактычны матэрыял сведчыць, што прынцыпы намінацыі жывёл, як і людзей, адпавядаюць агульнабеларускім тэндэнцыям, аднак праяўляюцца і рэгіянальныя адметнасці. Найперш гэта выкарыстанне ў сістэме клічак мясцовых дыялектных назваў, напрыклад, лексема *вогер* у гродзенскіх гаворках мае значэнне 'жарабец, стаеннік', слова *бонк* (*бонак, бонка*) – 'авадзень' і інш. На Гродзеншчыне ў якасці клічак нярэдка ўжываюцца ўсечаныя формы субстантываваных прыметнікаў (*Боса, Бела).* Часам праз клічкі адлюстроўваюцца стасункі насельнікаў рэгіёна з прадстаўнікамі суседніх краін (*Літоўка, Цыган*).

Ніжэй змешчаны клічкі жывёл, зафіксаваныя на тэрыторыі Гродзеншчыны. Аднак падобныя заонімы маюць пашырэнне ва ўсіх беларускіх гаворках.

**АГАНЁК** *м.* Клічка малога шчаняці. *Наш Аганёк зана́тта вясёлы. Хіба, цалюткі дзень праспа́ў.* Путрышкі Гродз.

**АЛЕ́СЯ** *ж.* Клічка пярэстай каровы. *Сёньня Але́сю сваю ле́два адагна́ла ат са́жалкі.* Ігнатава Навагр.

**АНФІ́СА** *ж.* Клічка маладой кошкі з поўсцю трох колераў. *Анфіса на́ша бы́ля-што е́сьці ні прыву́чана. Ёй малако́, мя́са дава́й, а да бу́льбы ці яко́й ка́шы ні пады́дзя.* Уселюб Навагр.

**АРЦІМО́Н** *м.* Клічка калматага чорнага сабакі. *Арцімо́н Зэ́нькаў нікóга чужóга ні патпу́сьціць да сібе́.* Путрышкі, Сапоцкін Гродз.

**А́СТРА** *ж.* Клічка рабой каровы з бурымі плямамі на галаве. *Учо́ра А́стра ўле́зла ў Паўлю́чкаў гаро́т, кры́ку было́ на ўсю ве́ску.* Капачы Маст.

**БАГІ́РА** *ж.* Клічка вялікага злога сабакі. *Стары́ зноў пусьціў па дро́ці праз уве́сь сад Багі́ру. Дзе́ці бу́дуць бая́цца да гру́шы падысьці.* Ярошычы Навагр.

**БА́РСІК** *м.* Клічка маленькага сабакі. *Ба́рсік не́дзе ў пры́мен уляце́ў, ве́дая, віда́ць, што нашко́дзіў.* Капачы Маст., Ганчары Свісл.

**БЕ́ЛА** *ж.* Клічка рабой каровы з белай галавой. *Бе́ла ніґды да ха́ты ні ідзе́ сама́, заўсягда́ трэ́ба ісьці́ сустрака́ць.* Казіміраўка Гродз.

**БЕ́ЛКА** *ж.* Клічка прыгожай, бурай масці каровы, якая дае шмат малака. *Бе́лка ўпяро́т тако́й нараві́стай была́, а як цяля́ прывяла́, паспакайне́ла.* Рэпля Ваўк.

**БЕ́ЛКА** *ж.* Клічка пушыстай рудой кошкі. *Я сваю Бе́лку ў ха́ту ні пуска́ю, на́тта шкадлі́вая, ніч́оґа на стол ні пакладзе́ш.* Ганчары Свісл.

**БЕ́ЛКА** *ж.* Клічка рудога калматага сабакі. *Мы на́тта бая́ліса, што на́ша Бе́лка не́дзе прапа́ла. Мо, с ты́дні два ні было́ даха́ты.* Лозкі Дзятл.

**БЁРЛІК** *м.* Клічка кацяняці. *Кацяня́ мае́ ўну́кі гэ́дак празва́лі. Ка́жуць: "Бёрлік". Мы таќіх іме́наў ні зна́лі.* Азёры Гродз.

**БІМ** *м.* Клічка сабакі белай масці з чорным вухам, доўгімі лапамі. *Бім дзіце́й лю́біць, на іх на́ват ні брэ́ша.* Свіслач, Струбніца Маст.

**БО́БРЫК** *м.* Клічка кацяняці. *Мы з А́няй на агаро́д ідзе́м, і Бо́брык за на́мі ляці́ць.* Капцёўка Гродз.

**БОЙ** *м.* Клічка паляўнічага сабакі. *Анто́навіч Бо́я паве́ў выгу́льваць не́дзе за гаражы́.* Гродна.

**БО́НКА** *ж.* Мянушка спакойнай каровы, якая дае тлустае малако. *Бо́нку мне кума́ прадала́. Каза́ла, дзе́ці памага́ці ні хо́чуць, а анно́й ба́бі ця́шко ўпраўля́цца.* Дакурнішкі Ашм.

**БО́НЯ** *ж.* Клічка хамяка. *Дзе́ці на ле́та ўну́ка прывязьлі́. А ён с хамяко́м прые́хаў. Ка́жа ўсім: "Гэ́та мой Бо́ня!"* Свіслач.

**БО́РКА** *м.* Клічка быка, названага ў гонар гаспадара. *Бо́рка стаў та́кі здаро́вы, што бо́язна да яго́ патхо́дзіць. Яго́ ра́зам с каро́вамі і выпуска́ць ні патрэ́бна.* Казіміраўка Гродз.

**БОС** *м.* Клічка наравістага і неспакойнага шчанюка. *Тры шчаню́чкі паяду́ць ды ляжа́ць, а гэ́ты ўсё шны́рыць, бурчы́ць.* Лозкі Дзятл.

**БО́СА** *ж.* Клічка невялікага сабакі з чорнай пушыстай поўсцю, белымі лапамі. *Бо́са ку́ры ду́шыць, трэ́бо ланцу́х караце́йшы рабі́ць.* Капачы Маст.

**БУКЕ́ТКА** *ж.* Клічка каровы чорна-белага колеру. *Буке́тка ні лю́біла жанчы́н. Даі́ць яе́ хадзі́ў дзет.* Шынкаўцы Шчуч.

**БУЛЬДО́ЗЕР** *м.* Мянушка ката, які моцна бурчыць, калі спіць. *Я сваго́ Бульдо́зяра на но́ч на двор выкіда́ю, бо ён нікóму спаць ні дась́ць.* Дакурнішкі Ашм.

**БУ́РА** *ж.* Клічка першацёлкі. *Бу́ра ні хо́ча хадзі́ць з радо́ўкаю.* Уселюб Навагр.

**БУ́СЯ** *ж.* Клічка хамяка, у якога маленькія вочкі. *Бу́ся хоць і ні малы́, а́ля во́чы зусім мале́нькія ма́я.* Капцёўка Гродз.

**БЭ́ЦІ** *ж.* Клічка маладога сабакі пароды чыхуахуа. *На́сьціна Бэ́ці пастая́нна брэ́ша.* Гродна.

**БЯЛЯ́НКА** *ж.* Клічка цялушкі светлай масці. *Бяля́нку даўно́ трэ́було ат каро́вы аткі́нуць, яна́ ка́жны раз малако́ вы́сьсе.* Казіміраўка Гродз.

**ВАСІЛІ́СА** *ж.* Клічка маладой каровы, дадзеная паводле імя гаспадыні. *Васілі́са была́ до́бра каро́ва, спако́йна, і малако́ харо́ша ад яе́ ме́лі. А́ля ба́цька захварэ́ў, дык прышло́са прадава́ці каро́ву.* Азёры Гродз.

**ВА́СЬКА** *м.* Клічка ката шэрай масці. *Ва́ська лю́біць спаць каля мало́га на ло́шку.* Сухінічы Маст.

а таксама ў народных гаворках Украіны: *пр'ӑсти* (Нікалаенка). У польскай дыялектнай мове дзеяслоў *прáсці* і яго шматлікія дэрываты бытуюць амаль на ўсёй тэрыторыі: *prząść, prząść, prząści, prasty, prządły, przędzą, przędzenie, doprząść, naprząść, oprząść, poprząść, sprząść, uprząść, wyprząść, prządać, naprządać, uprządać, wyprządać, prządać, prządywać, prządnie, naprządnie* (Фалінска). У маўленні мясцовых жыхароў Беларусі ў разглядаемым значэнні выяўлена таксама некалькі рэгіянальных назваў, фармальна адрозных, але сэнсава тоесных эквівалентаў слова *прáсці.* Гэта абазначальныя сродкі з коранем *смык-* (*-ч*): *смы́каць* (Кругл., Мат. Маг.) і *насмы́чыць* 'напрасці': *Трэ́ба было́ шпу́лю насмы́чыць* (Астр., СПЗБ). Іншыя лексемы зарэгістраваны адзінкава: *ты́льчыць: Яна́ ты́льчыць мы́чку* (Беш., Каспяровіч). Гаворкам Навагрудчыны вядомы рэгіяналізмы *суслі́ць* (СРЛГ) і *піры́ндзіць* 'вельмі тонка прасці': *Ня піры́ндзі так то́нко, ні́ткі бу́дуць рва́цца пры сука́нні* (ЖНС). Пералічаныя намінацыі з улікам звестак пра іх у іншых славянскіх мовах варта лічыць уласнабеларускімі.

Сыравінай для прадзення з'яўляецца *кудзе́ля* 'скрутак ільнянога ці канаплянага валакна, прыгатаваны для прадзення на прасніцы ці самапрадцы'. Найменне *кудзе́ля* выкарыстоўваецца ў дыялектнай мове на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Па сваіх вытоках слова *кудзе́ля* ўзыходзіць да прасл. ***kǫdělь (*kǫdelь)** < ***kǫ** + **dèl (del-)** (ЭСБМ, 5, ЭССМ). Лён, прыгатаваны для прадзіва, мае розную якасць, што абумоўлівае, натуральна, існаванне адпаведных абазначальных сродкаў для перадачы featuring рознагатунковасці кудзелі. Так, лексема *вярхо́ўе* 'кудзеля самага нізкага гатунку' адзначана лакальна ў цэнтральных беларускіх гаворках (Круп., Бярэз., СЦБ). Як вызначаюць этымолагі, назва *вярхо́ўе* ўзыходзіць да прасл. ***vьrxovьje** 'вярхі чаго-н.' (ЭСБМ, 2). У аснове намінацыі *вярхо́ўе* ляжыць перанос назвы з адной рэаліі на другую (назоўнік *верх*, г. зн. валакно першага (верхняга) ачосу лёну). Граматычна адрозная форма – назоўнік з коранем *верх-* у множным ліку *вярхі́* засведчана на Мядзельшчыне: *Як ране́й, то напрадзе́ш вярхо́ў і навчо́ш сьці́рак і ану́ч у ла́пці* (СЦБ). Іншую ступень дыферэнцыяцыі якасці кудзелі рэпрэзентуе лексема *радня́ніца* 'кудзеля з адходаў пры трапанні лёну', якая выяўлена на тэрыторыі Зэльвенскага раёна (Сцяцко). У гаворцы Стаўбцоўшчыны засведчана слова *зрэ́бніна* 'грубая кудзеля, якая аддзяляецца пры трапанні лёну' (СЦБ). Назва *зрэ́бніна* ўзыходзіць да дзеяслова ***jьz-greb-ati** з суф. ***-ije**: ***jьzgrebije** з далейшай стратай між зычнымі **-g-** і пачатковага **jь-** (ЭСБМ, 3). Беларускі арэал намінацыі *кудзеля* працягваецца за яе сучаснымі межамі. Так, лексемы *куде́ля, куде́лина* 'ачасаны лён, чыстае льняное валакно' пашыраны на тэрыторыі Расіі (СРНГ, Громаў), занатавана слова ў дыялектах Польшчы: *kądziel, kudziel, kądziela, kudziela, kudela, kądziola* (Фалінска), а таксама ў народных гаворках Украіны: *куде́л'а, куд'іл', ку́д'іл'* (Нікалаенка).

Працэсу прадзення папярэднічаюць, як вядома, іншыя падрыхтоўчыя дзеянні. У прыватнасці, перад тым, як прымацаваць кудзелю да прасніцы, яе неабходна *скруці́ць.* Для абазначэння гэтага дзеяння існуе шэраг лексічных адзінак, якія неаднастайна распаўсюджаны ў абшары беларускіх народных гаворак. У прыватнасці, *вярце́ць* ужываецца ў гаворках усходняй зоны (ЛАБНГ, СЦБ); *вярну́ць* фіксуецца ў асобных гаворках паўднёва-заходняга дыялекту (Бар., Рэч., Нараўл., ЛАБНГ, Мат. мін.-мал.); *чыні́ць* пашырана ў паўночна-заходняй зоне (ЛАБНГ, СПЗБ); *гарну́ць* вядома паўднёва-заходняму дыялекту, акрамя Гродзеншчыны, і заходнепалескім гаворкам, акрамя захаду Брэстчыны; *круці́ць* – спарадычна агульнае, за выключэннем арэала заходнепалескіх гаворак (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. апыт.); *скру́чваць* выкарыстоўваюць у Астравецкім, Ашмянскім, Смаргонскім раёнах з непасрэдным працягам гэтага арэала на тэрыторыю Віленшчыны (СПЗБ); *рабі́ць* ахоплівае Гродзеншчыну, Брэстчыну, а таксама Салігорскі, Любанскі, Лоеўскі раёны (ЛАБНГ); *дзе́лаць* адзначаецца ў Смаргонскім, Шчучынскім, Бялыніцкім, Быхаўскім раёнах (ЛАБНГ); *ката́ць* зафіксаваны ва ўскраінных гаворках Віцебшчыны (Гарад., ЛАБНГ); *кача́ць* – у Хоцімскім раёне (ЛАБНГ); *ска́чаваць* – адзінкава ў мазырскіх гаворках (Рэч., ЛАБНГ); *гато́віць, стро́іць* утвараюць кропкавы арэал у паўночна-заходняй зоне (Мёр., ЛАБНГ).

Неабходнымі прыладамі для прадзення з'яўляюцца *прáсніца* і *верацяно́.* Намінацыя *прáсніца* 'драўляная прылада для прадзення воўны, льняной і пяньковай кудзелі' бытуе ў народных гаворках на тэрыторыі паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў, а таксама на тэрыторыі

Беластоцкага рэгіёна (Мат. ЛАБНГ, СПЗБ, Хрэстаматыя 2009, НЛГ, ЛП, Мат. Гродз., Ніканчук, Бялькевіч). Згодна з матэрыяламі этымалагічных слоўнікаў, найменне тыпу *прасніца* ўзыходзіць да прасл. ***pręsti, *prędǫ** < i.-е. *** prędti** < ***(s)p(h)rend(h)-** + суф. **-n-**, **-ic-** (ЭСБМ, 10). Спарадычна ў гаворках усходняй зоны адзначана лексема *праслiца* і дэмінутыў *праслінка* (Мат. ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Мат. Маг., Бялькевіч, Шатэрнік). Назва *пралка* і яго ацэначная форма *пралушка* характэрны для палескага рэгіёна, як адзінкавыя яны зафіксаваны ў гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту (Сен., Чашн., СПЗБ, Мат. Гом., Ніканчук, Мат. апыт.). У межах гаворак Усходняга Палесся выяўлена намінацыя *прадка* (Нараўл., Мат. Гом.), ва ўскраінных сярэднебеларускіх гаворках паўднёва-ўсходняга берага – *прала* (Гом., НЛГ). Лексема *праліца* вядома ў паўночных гаворках Віцебшчыны (Верхнядзв., Рас.) і ў гаворцы Кармянскага раёна (СПЗБ, Мат. Гом., Шаталава).

Сінанімічнае па значэнні лексеме тыпу *прасніца* найменне *потась* і яго фанетычныя адпаведнікі *потэсь, потюсь, поцюсь, потас, поцяс, поцесь, поцясь* ужываюцца ў гаворках паўднёвага рэгіёна (Мат. ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, ТС, НЛ, ЖНС, НС, Н. сл.-сць, Ніканчук), а таксама ў беластоцкім арэале: *Потюс хітаецце, прасті кепсько* (СПЗБ). Слова *поцесь* (*поцясь*) засведчана на тэрыторыі паўднёвай Гродзеншчыны і паўночнай Брэстчыны (СПЗБ, Сл. Гродз., Мат. Гродз.), а таксама адзінкава ў віцебска-магілёўскіх гаворках (Дубр., Н. сл.-сць). Гэты абазначальны сродак у фанетычным абліччы *подюс* пашыраецца на тэрыторыю заходнепалескіх гаворак: *До подюса прыв'язуют кудэлю. В подюсовы дынныщчэ, дэ сыдыты* (Кам., ДСБ). Па звестках этымалагічных крыніц, намінацыя *потась* запазычана з польск. **pocieś** 'прасніца', што ўзыходзіць да ***potesь,** вытворнага ад ***tesati** (ЭСБМ, 9). Шматлікія лексічныя сродкі, структурна тоесныя ці адрозныя ад абазначальнага сродку ў форме *прасніца*, занатаваны ў рускіх народных гаворках: *прясница, пряслица, пряслeница, пряслиница, пряселка, прясельница, прясенка, пряслице, пряха, пресница, пряжка, прялка* (СРНГ, Громаў), а таксама ўкраінскіх: *пр'адᵐка, пр'аха, пр'алка* (Нікалаенка). Найменні *прасніцы* ў польскіх дыялектах прадстаўлены абазначальнымі сродкамі *przęślica, poteś, pocieś, pocius* (Фаліньска).

Назва *верацяно* 'прылада для скручвання нітак у працэсе прадзення' вядома многім народам свету з даўніх часоў. У канцы XIX – пачатку XX ст. *верацяно*, як і раней, заставалася дамінуючай прыладай прадзення. Дадзеная намінацыя ўжываецца ў беларускай дыялектнай мове на ўсёй тэрыторыі, а таксама на абшары гаворак Віленскага і Латгальскага рэгіёнаў (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Янкова, Бялькевіч, Мат. апыт.). Фанетычны варыянт слова *верацяно* ў абліччы *вірцяно* адзначаны адзінкава ў гаворцы магілёўскага структурнага тыпу: *Нымытала поўныя вірціно нітык. Іна на сыныпрадку прадзе, а ні на вірцяно* (Крыч., Бялькевіч). Этымолагі мяркуюць, што намінацыя *верацяно* ўзыходзіць да прасл. ***verteno** 'верацяно'. Гэта ўтварэнне ад і.-е. кораня ***u̯ert-** 'вярцець' з поўнай ступенню вакалізму (ЭСБМ, 2). У форме *веретено* дадзенае слова ўжывалася ў старажытнарускай і старабеларускай мовах (СРМ). У сучаснай беларускай літаратурнай мове яно мае форму *верацяно*. Намінацыя *веретено* пашырана ў рускіх народных гаворках (СРНГ, Громаў). На тэрыторыі Украіны адзначаны аналагічныя лексемы, адрозныя толькі якасцю рэалізацыя гукаў: *веᶦреᶦтеᶦно, веᶦреᶦтено, веᶦреᶦт'оно* (Нікалаенка). Значная колькасць лексічных адзінак, але найперш з уласцівымі ім фанетычнымі адрозненнямі, выяўлена ў польскай дыялектнай мове: *wrzecionko, wrzecionka, brzecionko, wrzecionki, wiercionko, wrzocionko, wrzeciono, wzėciono, wrzecieno, rzeciono, wereteno, wrzeciony, brzeciono* (Фаліньска). Рэгіянальная назва *шакаль* адзначана толькі на Віленшчыне: *Шакаль рабілі з дзерава і гэтым прали лён* (СПЗБ). Сярод іншых назваў верацяна ў гаворках беларускай мовы зарэгістраваны як адзінкавыя фіксацыі *крутавіла* (< круціць) і *качалка* (< качаць) (Петр., Светлагор., Мат. Гом.).

Для назвы *верацяно* з пражай у дыялектнай мове існуе намінацыя *ручайка* 'верацяно з наматанымі на яго ніткамі'. Лексема *ручайка* пашырана на ўсім моўным абшары Беларусі, акрамя ўсходняй часткі Віцебшчыны (ЛАБНГ, СПЗБ, НС, ЛП, З нар. сл., НЛ, Мат. Гом., Мат. дыял. сл., Мат. мін.-мал., Бялькевіч, Каспяровіч, Ніканчук, Кучук). Асаблівая па структуры, з наяўнасцю ініцыяльнага ***к-***, назва засведчана ў Дзятлаўскім раёне – *кручайка* (СРЛГ). Этымалагічна слова *ручайка* звязваецца з прасл. ***rǫka** (> **rǫka**) + **-aj-**, **-ък-** (ЭСБМ, 11). На тэрыторыі Беларусі існуюць

шматлікія лексічныя адзінкі, якія на ўзроўні словаўтварэння аб'ядноўваюцца з назоўнікам *руќа*. Гэта найменне *рукаватка*, вядомае ў асобных раёнах паўночна-ўсходняга дыялекту (Верхнядзв., Глыб., Чашн., Докш., Круп., СПЗБ, НС), і *рукаятка*, зафіксаванае ў гэтым жа дыялекце на Полаччыне (ЛАБНГ, Мат. апыт.). Галоўным чынам адзінкава складаныя ці структурна простыя словы з коранем ***руч-*** адзначаюцца ў гаворках паўднёва-ўсходняй зоны: *аднару́чка* (Чэрык., Стол., Ельск., ЛАБНГ, Мат. Гом., Бялькевіч), *адно́ручка* (Маз., З нар. сл.), *аднару́шнік* (Краснап., Бялькевіч), *аднору́чак* (Браг., З нар. сл.), *нару́шнік* (Мсцісл., Краснап., ЛАБНГ, Бялькевіч), *зручні́к* (Мсцісл., Бялькевіч). У межах паўднёва-заходняга дыялекту ўжываюцца такія намінацыі, як: *адкі́дзіч* (Свісл., Чэрв., ЛАБНГ, Сл. Гродз. Мат. мін.-мал.), *адкі́дзік* (Уздз., Чэрв., СЦБ, Мат. мін.-мал.), *адкі́дач* (Жытк., Петр., ЛАБНГ, Ніканчук), *о́дкідка* (Івац., Лун., НС, Ніканчук), *во́дкідак* (Старадарож., СПЗБ, НС). У аснове матывацыі гэтых найменняў ляжыць функцыянальная прыкмета па дзеянні (назвы з коранем ***кід-*** ад дзеяслова *адкіда́ць*). Беларускім народным гаворкам у гэтым значэнні характэрны і адзінкавыя дыялектныя найменні, у прыватнасці: *наві́ўка* (< навіваць) – Гродз. (Сл. Гродз.), *мата́чка* (< матаць) – Маст. (СПЗБ), *трысцэ́нь* (< трысціць) – Арш. (Бялькевіч), *верацэ́нь* (< вярцець) – Мсцісл. (Бялькевіч), *абіча́йка* (< віць) – Мядз. (Мат. мін.-мал.).

Вялікае *верацяно́*, на якое звіваюць пражу з двух-трох *верацён*, у беларускіх народных гаворках мае назву *пачы́нак*. Намінацыя *пачы́нак* бытуе на ўсёй тэрыторыі Беларусі, акрамя усходнемагілёўскага рэгіёна (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, ДСБ, НС, НЛ, З нар. сл., Н. сл.-сць, МС, Мат. дыял. сл., Мат. Гом., Шатэрнік, Ніканчук, Мат. апыт.). Лексема *пачы́нак* мае праславянскія вытокі: ***po-** + ***čęti** (< і.-е. ***kent**) + **-in-** + **-ъk-**. Украінскае *почи́нок* выступае са значэннем 'поўнасцю запоўненае верацяно', рускае курскае *почи́нок* 'тс', польскае паморскае, сілезскае *poczynek* – 'вялікае верацяно з пражай', 'звітая пража з аднаго або з некалькіх верацён'. Такім чынам, указаны абазначальны сродак належыць да корпуса агульных усходнеславянска-польскіх лексічных набыткаў. Наконт ***пача́ць, пачына́ць*** вядома: напрадзеная пража была нібыта асноваю будучага палатна, пачаткам – для асновы з пачынкаў звівалі ніткі ў клубкі, а для ўтоку – у маткі на матавіле (ЭСБМ, 8). У беларускіх народных гаворках засведчана пэўная колькасць уласнабеларускіх назваў у адносінах да верацяна з пражаю, у прыватнасці: *пачы́нка* (< пачынаць) (Астр., Гом., СПЗБ, Мат. Гом.), *пача́так* (< пачынаць) (усх.-маг. р., Бяроз., Драг., Івац., Лун., Калінк., ЛАБНГ, ЛП, Бялькевіч, Шатэрнік, Мат. апыт.), *даві́ванка* (< давіваць) (Стол., Жытк., Маз., Лельч., Мат. Гом., Мат. апыт.), *прыві́ванка* (< прывіваць) (Лельч., Мат. ЛАБНГ). У рускай дыялектнай мове рэпертуар лексічных адзінак, адрозных суфіксальнымі фармантамі ад беларускіх найменняў, неістотны. Сярод іх: *почи́нок: Я еще не допряла починка; твой починок невелик* (СРНГ); *поча́ток: В початок три рушника смотано; матка смотрит, большой початок принесла* (СРНГ); *почи́ныш* (СРНГ). На тэрыторыі паўночна-ўсходняй Беларусі зафіксавана некалькі цікавых назваў з коранем ***прос-***: *про́сцень* – Віцебскі раён (Нікіфароўскі), *про́снік, просьнь: Дзёсяць про́снікоў, проснёв напря́ла* (Насовіч). На астатняй тэрыторыі Беларусі гэта лексема не выяўлена. Слова *про́сцень* пашырана ў гаворках заходняй часткі Расіі: *про́сень* 'верацяно; верацяно з намотанымі ніткамі'; *про́стень* 'верацяно, звычайна з пражаю'; *про́стень* 'поўнае верацяно пражы'; *про́стень* 'вялікае верацяно з пражаю, зматанаю з двух іншых верацён': *Повноё веретено пряжи извеку называют простень* (Громаў, СРНГ). Улічваючы арэал пашырэння лексем з коранем ***прос-*** на беларускім моўным абшары, можна меркаваць, што гэта перыферыя іх лакалізацыі.

Сваёй разнастайнасцю ў беларускіх народных гаворках вылучаюцца лексічныя сродкі, прызначаныя для наймення жанчыны, якая займаецца прадзеннем лёну. Самым распаўсюджаным з'яўляецца слова *пра́лля*, якое мае статус нарматыўнага. Гэта лексема бытуе ў дыялектнай мове амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі, акрамя заходнепалескіх гаворак і гаворак паўночнага ўсходу Віцебшчыны (ЛАБНГ, Мат. АЛА, СПЗБ, ЛП, Мат. Гродз., Мат. Гом., Мат. дыял. сл., Шатэрнік, Бялькевіч, Юрчанка 1969, Шаталава). Яе фанетычны варыянт *пра́ля* і дэмінутыў *пра́лейка*, рэалізацыя якіх цалкам адпавядае гукавым заканамернасцям гаворак паўднёва-заходняга дыялекту, засведчаны ў маўленні жыхароў усходу Гродзеншчыны, паўднёвага захаду Міншчыны, а таксама Рэчыцкага і Мазырскага раёнаў (ЛАБНГ, Мат. АЛА, НЛГ). Назва *пра́йля* як адзінкавая за-

натавана ў гаворках паўночна-заходняй зоны (Брасл., СПЗБ). На тэрыторыі іншых дыялектных зон таксама выяўлены шматлікія найменні з коранямі ***прал-***, ***прад-***, у прыватнасці: *прáлка* (Асіп., Бял., Мат. АЛА; Карм., Мат. Гом.), *прáльня* (Беш., ЛАБНГ; Стол., ТС), *прáльніца* (Дзятл., Слон., СПЗБ; Кобр., ЛАБНГ), *пpáxa* (усх.-пал. р., Ніканчук), *прáдка* (паўдн.-усх. з., Стаўбц., ЛАБНГ, Мат. АЛА, СПЗБ, ЛП, НЛ, Ніканчук, Кучук), *прадóха* (Стол., Жытк., Мат. АЛА, ТС), *прадýха* (Шум., Воран., Лун., Жытк., Лоеў., ЛАБНГ, Мат. АЛА, ТС, Мат. Гродз., Ніканчук), *прáдуха* (Лельч., Ельск., Ніканчук), *папрадýха* і *папрýдуха* (зах. з., цэнтр. Палессе, ЛАБНГ, Мат. АЛА, СПЗБ, Сл. Гродз.; Мсцісл. р-н, Бялькевіч; Бярэз., Асіп. ЛАБНГ), *пóпрадніца* (Раг., Рэч., ЛАБНГ, Мат. АЛА, СПЗБ, НС). Найменне *прадзёха* занатавана ў гаворках Шумілінскага і Чачэрскага раёнаў (Мат. АЛА, СПЗБ), *прадзéльніца* ахоплівае тэрыторыю заходнепалескіх гаворак з пашырэннем на ўсходнепалескі арэал (Калінк.), як адзінкавае адзначана ў Гарадоцкім раёне (ЛАБНГ, Мат. АЛА, СПЗБ, ЛП, НС, Шаталава, Ніканчук). Форма *прадзéнніца*, а таксама фанетычна і акцэнталагічна адрозныя ад яе *прадзéльніца*, *прáдзільніца* распаўсюджаны ва ўсходнепалескім рэгіёне (Жытк., Ельск., Мат. АЛА, ЛП), адзначаецца яна і ў гродзенскай групе гаворак паўднёва-заходняга дыялекту (Зэльв., Мат. АЛА, Мат. Гродз.). Намінацыя *прáльшчыца* спарадычна выступае ў дыялектнай мове амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі, акрамя Заходняга Палесся (ЛАБНГ, Мат. АЛА, Мат. Гом.). У беларускіх народных гаворках у дадзеным значэнні фіксуюцца і адзінкавыя назвы: *прáчка* (Круп., ЛАБНГ), *пóпрадка* (Кобр., Мат. АЛА), *папрáдушніца* (Стол., ЛАБНГ), *прáдзільніца*, *прáжніца* (Ельск., Мат. АЛА, ЛП), *тонкапрáха* (Віц., Мат. АЛА), *тонкапрáлля* (Гом., НЛГ), *тонкапрáдніца* (Краснап., Бялькевіч), *санапрáдка* (Бял., Мат. АЛА), *прадýн* (Добр., Мат. Гом.), *прáднік* (Ганц., Мат. АЛА). Як відаць з разгледжанага матэрыялу, усе аднакарэнныя намінацыі, у тым ліку і складаныя словы, з'яўляюцца ўласнабеларускімі. Структурна простыя лексемы адносяцца да прэфіксальна-суфіксальных утварэнняў ад старажытнага дзеяслова *прáсці.* У сучаснай беларускай літаратурнай мове слова *прáлля* з'яўляецца размоўным, хаця яно і пашырана на ўсёй тэрыторыі Беларусі, а найменне *папрáдуха* выступае з паметай устарэлае (ТСБМ, 4).

Словы, якія абазначаюць жанчын, што займаюцца прадзеннем кудзелі, зафіксаваны ў народных гаворках Расіі, Украіны, Польшчы. Так, на тэрыторыі Расіі адзначаны: *пря́ха*, *пря́хонька, пря́чиха, пря́чища, прячи́ха*, *пря́сница, прядеѝ, пряди́льщица, прядéйка* (СРНГ, Громаў). Лексемы са значэннем 'жанчына, якая прадзе кудзелю' шырока ўжываюцца ў гаворках Украіны: *пpáxa, пр'áха, пр'áдка, прáдка, прáдуха, прáдниц'а, прáдница, пради́лниц'а, пр'ад'іл'ни́ц'а, прадíл'ніца, прадíлніца, прадéл'н'іца, прад'íл'шчица, пóпрадка, прадýха, прад'éл'ніца, прáл'а, пради́л'ниц'а, прад'íл'ниц'а, прадн'íца, прáдн'іца, прад'éл'ница, прáлка, пр'áдніц'а, тонкопр'áдуха* (Ніканчук). У польскіх народных гаворках занатаваны наступныя варыянты: *prządka, prządarka, prządaczka, prządnica, priacha, sprządka, priadka, priadkinia, prządniczka, prietka* (Фаліньска). Намінацыйныя адзінкі *papr'aduxa (po-), pr'attka' (pr'ontka), pr'yetka, paprande'la (po-), prad'uxa, pra'elńica (-ća)* выяўлены ў беларускіх гаворках на тэрыторыі Беласточчыны (АУГБ, 1).

Семантычна тоесны вышэйпералічаным абазначальным сродкам варыянт *кудзéльніца* ўтварае кампактны арэал на тэрыторыі Гродзеншчыны і на поўначы Брэстчыны, ён таксама спарадычна ўжываецца на Гомельшчыне (ЛАБНГ, Мат. АЛА, СПЗБ, НЛ, Сцяцко). На Брэстчыне вядома і форма *кудзяльніца*, якая адрозніваецца ад слова *кудзéльніца* не толькі націскам, але і прадуктыўнасцю выкарыстання: гэта адзінкавая фіксацыя (Кобр., Мат. АЛА). Намінацыя *кудзéльніца* распаўсюджана і на беларуска-польскім паграніччы (СПЗБ). Дастаткова кампактную, але абмежаваную тэрыторыю займае намінацыйны сродак *скудзéльніца* (Карэл., Навагр., Дзярж., Капыл., ЖС, НС), спецыфіку якога складае пачатковае **с-**. Адметнасць формы дазваляе меркаваць аб асаблівасці яе матывацыйнага забеспячэння або характары ўтварэння. У Бярозаўскім раёне была зафіксавана назва *пакудзéльніца*, яна працягвае сваё распаўсюджанне і на тэрыторыі Беластоцкага рэгіёна (СПЗБ, Мат. АЛА). Паводле вядомага даследчыка А. М. Трубачова, намінацыі з суфіксам **-ьніца** з'яўляюцца вытворнымі ад прасл. ***kǫdělь** (ЭССМ). Слова *кудзéльніца* ў рэестр нарматыўных слоўнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы не ўключана, хаця ў народнай мове яно вядома на даволі вялікім абшары гаворак. Лексема *кудéльница*

адзначана ў рускіх гаворках (СРНГ), а таксама ў народных гаворках Польшчы, дзе выступае ў двух словаўтваральных варыянтах: *kądzielnica*, *kądzielaczka* (Фалінсьска).

Такім чынам, праведзены аналіз фактычнага матэрыялу паказаў, наколькі багаты і разнастайны корпус намінацыйных лексічных сродкаў, які характэрны тэматычнай падгрупе слоў з агульным семантычным аб'ёмам 'прадзенне лёну'. Значная колькасць намінацый, якія абазначаюць розныя этапы дадзенага працэсу, яго выканаўцаў, прылад, з дапамогай якіх парадкуюцца кудзеля і ніткі, маюць праславянскае паходжанне. Гэта сведчыць аб старажытнасці такога хатняга рамяства. Даволі вялікую групу складаюць лексічныя адзінкі, якія адносяцца да ўласнабеларускіх утварэнняў.

**Спіс асобных скарачэнняў**

Громаў – Громов, А. В. Словарь: лексика льноводства, прядения и ткачества в костромских говорах по реке Унже: учеб. пособие / А. В. Громов. – Кострома: Инфопресс, 2012. – 118 с.

Дзендзялеўскі – Дзендзелівський, Й. О. Ткацька лексика українських говорів Закарпатської області УРСР / Й. О. Дзендзелівський // Studia slavika. – 1967. – Т. 13.

Лысенка – Лисенко, П. С. Словник поліських говорив / П. С. Лисенко. – Київ, 1974.

Мат. АЛА – Матэрыялы Агульнаславянскага Лінгвістычнага атласа.

Мат. апыт. – Матэрыялы, сабраныя ў час экспедыцыйных выездаў.

Нікалаенка – Ніколаенко, І. О. Лексика традиційного ткацтва в українських східнослобожанських говірках / І. О. Ніколаенко. – Луганськ, 2005.

Ніканчук – Никончук, М. В. Матеріали до Лексичного атласу української мови (Правобережне Полісся) / М. В. Никончук. – Київ, 1979.

Нікіфароўскі – Никифоровский, Н. Я. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности / Н. Я. Никифоровский – Витебск, 1895.

СРНГ – Словарь русских народных говоров. – Л.; СПб.: Наука, 1965–2015. – Вып. 1–48.

СРМ – Словарь русского языка XI–XVII вв. – М.: Наука, 1975. – Вып. II; 1976. – Вып. III.

ТСБМ – Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. – Мінск, 1980. – Т. 4.

Фалінсьска – Falińska Barbara. Polskie słownictwo tkackie na tle słowiańskim. – Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdansk: Zakł. Nar. im. Ossolińskich: Wydaw. PAN, 1974. – T. 1: Słownik polskich gwarowych nazw tkackich. – 416 s.

Фасмер – Фасмер, М. Этимологический словарь славянских языков: в 4 т. / М. Фасмер; под ред. и с предисл. Б. А. Ларина; пер. с нем. и доп. О. Н. Тубачева. – М.: Прогресс, 1964. – Т. I: А–Д. – 563 с.; Т. II: Е – Муж. – 1967. – 672 с.; Т. III: Муза – Сят. – 1971; Т. IV: Т – Ящур. – 1973. – 856 с.

Черных – Черных, П. Я. Историко-этимологический словарь современного русского языка / П. Я. Черных. – М., 1994. – Т. 1, 2.

*А. М. Лапцёнак*

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ВЫШЭЙШАЙ СТУПЕННЮ ПАРАЎНАННЯ Ў МАТЭРЫЯЛАХ ГАЗЕТЫ "НАША НІВА"

Газета "Наша Ніва" стала адным з выданняў, на старонках якога ў пачатку XX ст. адбывалася фарміраванне і выпрацоўка норм новай беларускай літаратурнай мовы. Адметнай рысай мовы газеты з'яўляецца неаднароднасць, варыянтнасць, разнастайнасць сродкаў у выражэнні моўнага зместу, што ахопліваюць усе моўныя ўзроўні – ад графіка-арфаграфічнага да марфалагічнага. Сінтаксічныя асаблівасці нашаніўскіх тэкстаў прыцягвалі ўвагу навукоўцаў, але яшчэ не вывучаны ў поўнай меры, таму і сталі прадметам даследавання ў дадзеным артыкуле.

Агульнавядома, што нацыянальная моўная спецыфіка яскрава выяўляецца ў правілах спалучэння слоў, у заканамернасцях утварэння розных відаў і тыпаў словазлучэнняў. Мы звярнуліся да канструкцый, у якіх галоўны кампанент – прыметнік або прыслоўе вышэйшай ступені параўнання, яны пераважна маюць параўнальна-супастаўляльнае значэнне. Вывучэнне такіх словазлучэнняў дазволіць высветліць заканамернасці і шляхі станаўлення канструкцый у беларускай мове, прасачыць дынаміку сінтаксічнай нормы, што ў цэлым паспрыяе лепшаму разуменню структурна-семантычных асаблівасцей мовы.

Словазлучэнні з прыметнікамі і прыслоўямі ў формах вышэйшай і найвышэйшай ступеняў параўнання дастаткова ўжывальныя ў мове газеты, у якасці галоўнага кампанента адзначаюцца пераважна формы простай вышэйшай ступені параўнання: *...я [Юзюк Федаровiч] напишу, як рабиць квас другога сорту, цытрыновы,* ***далёка даражэйшы ад хлебнаго*** [1907, № 20, с. 8[1]]; *Чыстых хмарак валаконца / Стали у кружочэк /* ***Вышэй лесу****, проци сонца / И спляли вяночэк* [1908, № 18, с. 7. Якуб Колас. Усход сонца]. Адзначаюцца таксама аналітычныя формы, якія ўтвараюцца пры дапамозе слоў *больш / болей, менш / меней* і прыметніка ці прыслоўя: *...народ робіцца* ***больш сьвядомым і абычайным*** [1910, № 30, с. 463]; *...zachodniaja paławina Rasiejskaho hasudarstwa* ***bolej kulturnaja i hramatnaja*** [1910, № 25, с. 372]; *7 жніўня дзень быў* ***меней шчасьлівы*** *для французоў* [1914, № 32, с. 1]; *Калі-б наш беларус быў ня* ***меньш культурны****, як амэрыканец, яго прыймалі бы у Амэрыку вельмі ахвотна* [1913, № 3, с. 1].

Сустракаюцца таксама аналітычныя формы, дзе ўжываецца прыметнік у форме вышэйшай ступені: *...****Болей лепшые і разумнейшые*** *людзі... пачалі барукацца за аздараўленьне ад атруты* [1914, № 27, с. 4]. Сёння такія спалучэнні ацэньваюцца ў літаратурнай мове як некадыфікаваныя.

Сродкі сувязі форм вышэйшай ступені параўнання з залежнымі кампанентамі прадстаўлены на старонках газеты больш шырока, чым у сучаснай літаратурнай мове. Сярод параўнальных спалучэнняў адзначаны беспрыназоўнікавыя словазлучэнні з родным склонам, прыназоўнікавыя словаспалучэнні з прыназоўнікамі *за, ад, над, праціў*, а таксама канструкцыі са злучнікамі *як* і *чым*. Параўн.: *І за час гэты жонцы-малодцы* ***Горэй рэдзькі*** *агорк [Савасьцей] быў зусім* [1913, № 3, с. 2. А. Паўловіч]; *Ешчэ* ***лягчэй за ваду*** *улетучываецца спирт* [1907, № 27, с. 4]; *...работа* ***цяжэйшая ад мураваньня*** *с цэглы* [1912, № 6, с. 2]; *Як мы ўжо пісалі, пасылкі з адзежаю у армію можна пасылаць і* ***цяжэйшые як 12 фунтоў*** [1914, № 41, с. 4]; *Цяпер з усяе Расеі дый з нашага краю пішуць фабрыканты, што праца рабочых куды* ***болей спорна, чым даўней бывала*** [1914, № 43, с. 1]. Такая разнастайнасць карэлюе з дыялектнымі дадзенымі: у беларускіх гаворках прадстаўлены ўсе названыя спалучэнні са ступенямі параўнання.

У межах асобнага кантэксту сродкі сувязі галоўнага і залежных кампанентаў могуць камбінавацца: *Расея выдае на ваенные справы с кожнай сотни даходу ў 5 разоў* ***больш за Англию*** *и ў поўтрэця раза* ***больш, як Немцы и Франция*** [1908, № 4, с. 4]; *У Нямеччыне падводных лодкаў* ***ня больш 30****. Яны* ***горшые ад лодкаў*** *хаўрусьнікаў* [1914, № 38, с. 2].

У "Нашай Ніве" вельмі пашыраны спалучэнні з залежным кампанентам у родным склоне без прыназоўніка, якія выражаюць параўнальныя адносіны. У якасці галоўнага кампанента намі былі адзначаны толькі прыслоўі вышэйшай ступені параўнання: *Вучыцель ... першы і* ***горэй другіх*** *адхварэў* [1914, № 7, с. 3]; ***Цямней****, беларус ты* ***ночки асенняй*** */ И шчасьце-ж такое ты маеш* [1907, № 27, с. 1. Янук Купала. Вучыся!..]; *...ёй [беларускай мове] адводзилося самае незавидное мейсцо:* ***далей мужыцкаго задворка, далей убогих мужыцких палёў*** *не сьмела прахадзіць мужыцкае простае слова* [1908, № 17, с. 4]; *...брат, каторы сто раз* ***больш мяне*** *працуе,..* [1913, № 33, с. 3. Максім Беларус. Родные карэні]; *...каб чэлавек мог здаволіцца толькі ядой, ён не лічыўся-б* ***вышэй другіх стварэньнёў*** *на зямлі* [1913, № 21, с. 1. Змітрок Бядуля. Не адным хлебам]; *Гэты попел [ад спальвання торфу] вельми карысна сыпаць на сенажаци, паля: ён* ***лепш усякаго гною*** [1908, № 7, с. 5]; *Раны* ***менш грашака*** *можна і не замазываць* [1910, № 10, с. 168]. У якасці залежнага кампанента адзначаюцца назоўнікі і займеннікі, якія могуць падпарадкоўваць азначэнні.

Часам такія спалучэнні выражаюць прасторавыя або колькасныя адносіны, апошнія канструкцыі значна пашыраны ў газеце. Для іх характэрна пераважна колькасна-іменнае спалучэнне ў якасці залежнага кампанента, а галоўнага – звычайна словы *больш / менш* і іх варыянты: *...месцамі панакручвала гурбы* ***вышэй стрэхі*** [1913, № 11, с. 2]; *...ў палови дзярэўца* ***(нижэй сукоў)*** *абмажце яго сырой глиной* [1907, № 25, с. 4]; *Мужыки дык* ***болей сутак*** *дрыжали на марози пад голым небом* [1907, № 4, с. 8]; *Ня трэба забываць, што земля кружыцца з аграмаднай*

---

[1] Пры прыкладах-ілюстрацыях з газеты пазначаюцца год, нумар і старонка згодна з картатэкай мовы "Нашай Нівы". Калі прыводзіцца ілюстрацыя з мастацкага твора – дадаткова аўтар і назва твора.

*скорасьцю – **больш 26 вёрст** пралетае ў сэкунду* [1910, № 1, с. 8]; *...**bruski** pawinny być hrubyje **nia mienš 1 wierška*** [1910, № 2, с. 30]; *На сабраньне прышло **болей 140 чл**...* [1913, № 7, с. 3]; *Хаўрусы даюць сваім членам **больш 20 тысяч рублёў** ашчаднасьці* [1913, № 3, с. 2].

Менавіта да беспрыназоўнікавых спалучэнняў з родным склонам узыходзяць некаторыя ўстойлівыя выразы *больш таго, скарэй усяго* і пад., зафіксаваныя на старонках газеты. Яны пераважна ўжываюцца ў значэнні пабочных: *У жыцьці чалавека самые нецікавые драбніцы йграюць вялікую роль. **Болей гэтаго** – перэкручываюць ўсё жыцьцё да гары нагамі,..* [1915, № 7, с. 2. Змітрок Бядуля. Рабая сучэчка]; ***Скарэй ўсяго** яму [Мікалаю] здавалося, што на плечах у яго быў кацёл* [1913, № 30, с. 2. Тарас Гушча. Родные зьявы]; *Dalej kubły napatkaŭ Adzin **bolš druhoha**...* [1910, № 12, с. 198. Albert Paulowič. Sprytny cyhan].

Нельга лічыць, што беспрыназоўнікавыя параўнальныя канструкцыі з родным склонам ужываюцца ў беларускай мове пад уплывам рускай, як сцвярджаюць некаторыя даследчыкі. Як бачым, яны шырока выкарыстоўваюцца на старонках газеты, для якой моўнае пытанне было надзвычай важным. Такія спалучэнні ўласцівы і беларускім гаворкам, яны адзначаюцца пераважна на ўсходняй тэрыторыі краіны, а таксама ў Цэнтральнай Беларусі як сінанімічныя да прыназоўнікавых канструкцый [5, № 225]. Паводле Я. Карскага, яны здаўна фіксуюцца ў беларускіх пісьмовых помніках, былі пашыраны і ў маўленні [6, с. 351]. Але з часам прадуктыўнасць такіх спалучэнняў змяншалася, пра што пісаў і даследчык: у тагачасным маўленні часцей выкарыстоўваліся прыназоўнікавыя спалучэнні [6, с. 401].

На ўжывальнасць роднага склону пры параўнальнай ступені ўказваў і Я. Лёсік, які падтрымліваў ідэі моўнага пурызму, але навуковец таксама адзначаў тэндэнцыю да перавагі прыназоўнікавых канструкцый над беспрыназоўнікавымі [8, с. 142; 9, с. 189]. У беларускай граматыцы 1966 г. пазначалася, што «канструкцыя сучаснай літаратурнай мове ўласціва ў нязначнай меры, прычым сустракаецца яна галоўным чынам у творах першай палавіны XX ст.» [4, с. 145]. У граматыцы 1985 г. яны ацэньваюцца як размоўныя [1, с. 93], а сёння беспрыназоўнікавыя спалучэнні з родным склонам часам вызначаюцца як адхіленне ад літаратурнай нормы [13, с. 14].

Такім чынам, значна пашыраныя ў пачатку XX ст. беспрыназоўнікавыя параўнальныя канструкцыі з родным склонам з цягам часу былі адсунутыя на перыферыю. У цэнтры аказаліся прыназоўнікавыя спалучэнні, якія на старонках "Нашай Нівы" таксама займалі значнае месца.

Дастаткова ўжывальныя спалучэнні з прыназоўнікам *за* і назоўнікам або займеннікам у вінавальным склоне. Такія канструкцыі адзначаюцца ў розныя гады выхаду газеты, у ролі галоўнага кампанента выступаюць як прыметнікі, так і прыслоўі, спалучэнні выражаюць супастаўляльна-параўнальныя адносіны: *Anhličanka... **šybčej za rybu** idzie i na wadzie, i pad wadoj...* [1910, № 23–24, с. 356. Jadwihin Š. Listy z darohi]; *...мае [чэшскі народ] высокую культуру і стануў нават **вышэй за сваіх суседзёў – Чэскіх Немцоў*** [1910, № 13, с. 214]; *Jana [sumatrskaja tabaka] **raniej za druhije gatunki** daśpiewaje* [1911, № 2, с. 23]; *І твае бязлюдные балоты здаваліся мне **мілей за вырайную (тропікаву) зелень** каўказскіх далін* [1913, № 42, с. 2. Сцепан Зенчэнко. Да роднай Беларусі]; *Такі **разумнейшы за ўсіх жыдоў шамойскіх** быў [Зроіл]...* [1913, № 33, с. 3. Максім Беларус. Родные карэні]; *Алеж пэрсицки Парлямэнт ешчэ **байчэйшы за нашу першую Думу**...* [1906, № 6, с. 7]. Залежны кампанент – аб'ект параўнання – часта мае свае залежныя члены, і такім чынам структурна спалучэнні ўскладняюцца. Прадстаўлены таксама словазлучэнні з залежным займеннікам, які мае абагуленае значэнне і можа паясняцца ў бліжэйшым кантэксце: *Zboža usielakaho majeto čuć-čuć **bolej za toje**, što nam samym patrebno* [1911, № 2, с. 21].

Часта ў якасці залежнага кампанента адзначаецца займеннік *увесь (уся, усё, усе)*, у гэтым выпадку спалучэнні выражаюць значэнне найвышэйшай ступені: *"...што **гібчэй за ўсё**"... Чалавечэ сумленьня* [1914, № 18, с. 2]; *Ciapier japonski narod **razumniej za ŭsich*** [1910, № 23–24, с. 356].

Дастаткова ўжывальныя ў газеце і канструкцыі з прыназоўнікам *ад* і назоўнікам або займеннікам у родным склоне: *У бровары Гатоўскаго фабрыкант выгнаў работника... за тое, што ён быў **смялейшы ад других*** [1906, № 7, с. 7]; *А ведаю я, што мядзьведзь палахлівы, але ж и я ня надта каб **ад яго смялейшы*** [1907, № 10, с. 6]; *...наша песьня ні чым **ня горэй ад украінскіх***

***і велікарускіх*** [1914, № 18, с. 2]; *Усе грэцкіе трагедыі, – найвялікшые трагедыі **лепш ад каторых** не было ні раньш, ні пазьней* [1914, № 26, с. 3. Максім Богдановіч. Шаман]; *Эт, будзе яна [дачка] хлеб зарабляць мо **лепей ад нас** ешчэ...* [1913, № 28, с. 2. Змітрок Бядуля. Ашчасьлівіла]; *У кожным павеци выбарных ад мужыкоў ды мешчаноў назначэна па стольки, каб их **меней** было **ад дваранских*** [1907, № 15, с. 7]; *Świečka była mała čут **mienša ad mialona** – pałki, kataraj kruciać žorny* [1911, № 27, с. 345. T. Hušča. Dzialićba].

Колькасць выпадкаў ужывання ў “Нашай Ніве” спалучэнняў з прыназоўнікам *за* і прыназоўнікам *ад* прыкладна роўная. Пра раўнапраўны характар ужывання дзвюх канструкцый у нашаніўскі перыяд можа сведчыць і выкарыстанне іх у адным сказе: *Jon [spieй moj] **hłybiej za more**, / jon **wyšej ad hor**, / jon **ciamniej ad chmary**, / jon **światlej ad zor*** [1911, № 3, с. 37. Zmitrok Biadula. Moj spieй]. Раўнапраўны характар іх функцыянавання адзначаецца і сінтаксістамі пачатку стагоддзя. Так, абодва словазлучэнні пазначаны ў манаграфіі Я. Лёсіка “Сынтакс” [9, с. 141–142; с. 214], як сінанімічныя яны падаюцца і ў “Формальным сынтаксе” [11, с. 87]. Але з часам, відаць, пашыранасць спалучэнняў з прыназоўнікам *ад* змяншалася. Неаднолькавы характар ужывання ўласцівы спалучэнням у гаворках. Так, канструкцыі з прыназоўнікам *ад*, як і з прыназоўнікам за, адзначаюцца на ўсёй тэрыторыі, але колькасна саступаюць ім [5, № 225].

Канструкцыя з прыназоўнікам *ад* – нарматыўная ў сучаснай літаратурнай мове, але яна адзначаецца шматлікімі даследчыкамі-сінтаксістамі як ужывальная з рознымі агаворкамі. Аўтары-складальнікі “Граматыкі беларускай мовы” 1966 г. пісалі, што на той час канструкцыя была мала пашыраная, і выпадкі яе ўжывання назіраліся пераважна ў першай палове XX ст. [4, с. 145–146]. А. І. Наркевіч дапускае ўжыванне такіх словазлучэнняў пад уплывам вусна-размоўнага стылю [10, с. 225]. У “Беларускай граматыцы” аналізуюцца толькі спалучэнні з прыслоўямі вышэйшай ступені параўнання з прыназоўнікамі *за, ад* і *да*, аднак апошнія два маюць прасторавае значэнне, а не значэнне параўнання: *далей ад палатна чыгункі, бліжэй да гэтай брамы* [1, с. 92]. Але ў сучаснай мастацкай літаратуры спалучэнні прыметніка ў форме вышэйшай ступені параўнання з прыназоўнікам *ад* ужываюцца дастаткова шырока [3].

На старонках газеты зафіксавана таксама спалучэнне з параўнальнымі адносінамі з прыназоўнікам *над* і займеннікам у вінавальным склоне: *Што-ж **лепшаго над тое**, як даць жыцьцё чэлавеку* [1914, № 24, с. 3. Добранец. Жэртва]. Аўтар твора Добранец (сапр. Іван Аўчыннікаў) з'яўляецца ўраджэнцам Смаленшчыны, дзе, паводле дыялектных дадзеных, падобныя спалучэнні не адзначаюцца [7, с. 95]. Яны ўласцівы іншым рэгіёнам, так, канструкцыі з прыназоўнікам *над* спарадычна ўжываюцца ў гаворках поўдня Беларусі [5, № 225]; у дапаможніку “Беларуская і руская дыялекталогія” пад прыкладамі пазначаны Пастаўскі і Ашмянскі раёны [2, с. 161]. Але гэта канструкцыя непрадуктыўная. Паводле даследавання І. С. Козырава, у беларускай мове параўнальныя звароты з прыназоўнікам *над* здаўна выцясняюцца канструкцыямі з прыназоўнікам *за* [7, с. 95].

Абмежаваны характар ужывання такіх словазлучэнняў у сучаснай беларускай мове засведчаны і ў тэарэтычных працах. Падручнік «Формальны сынтакс» як сінанімічныя падае словазлучэнні з прыназоўнікамі *за, ад* і *над*, але сярод прыкладаў прадстаўлены толькі першыя два: *Быў ён мудрэйшы за ўсіх людзей – Быў ён мудрэйшы ад ўсіх людзей* [11, с. 87]. У граматыцы 1966 г. удакладняецца, што спалучэнне з *над* выкарыстоўвалася зрэдку пад уплывам гаворак [4, с. 148]. П. П. Шуба ў “Тлумачальным слоўніку беларускіх прыназоўнікаў” у канструкцыях з кампаратыўнымі адносінамі дае пры прыназоўніку *над* паметы *размоўн.* і *абл.* [12, с. 68], а ў “Беларускай граматыцы” 1985 г. такія словазлучэнні не адзначаюцца зусім [1, с. 92]. Згодна з дадзенымі корпуса беларускай мовы, такія спалучэнні адзінкава ўжываюцца і ў мастацкай літаратуры – у творах В. Быкава, В. Чаропкі, У. Федасеенкі і інш. [3].

У газеце прадстаўлена таксама спалучэнне з родным склонам і прыназоўнікам ***процуў/проці/ проци***: *Паны скаржацца, што спирт сёлета **танней проци леташняго**...* [1908, № 25, с. 6]; *Гэтак сама **меней** выехало людзей **проці леташняго** і ў красавіку і маю* [1914, № 25, с. 3]; *Пасевы жытние и яравые блишчали трохи **лепей процуў леташних*** [1908, № 15, с. 5].

Спалучэнні з прыназоўнікам *проці* і параўнальнымі адносінамі ўласцівы беларускай мове, аднак яны таксама малаўжывальныя. У тэарэтычнай літаратуры такія спалучэнні з вышэйшай ступенню параўнання адзначаюцца толькі ў манаграфіі Я. Карскага без прыкладаў-ілюстрацый [6, с. 401], а таксама ў граматыцы 1966 г. як малапрадуктыўныя [4, с. 146].

Вельмі пашыраныя ў "Нашай Ніве" сінтаксічныя канструкцыі, дзе аб'ект параўнання ўводзіцца пры дапамозе злучнікаў *як* і *чым*.

У параўнальных спалучэннях са злучнікам *як* прыметнікі ў форме ступені параўнання прадстаўлены не вельмі шматлікa, выкарыстоўваюцца таксама аналітычныя формы параўнання: *Далёкае неба! Синяе неба! Што ёсць на свеце* ***дзіўнейшэ, як ты?*** [1906, № 6, с. 4. Якуб Колас. Думки у дарози]; *Ведама, што дараги тавар* ***менш даступны*** *людзям,* ***як танны*** [1908, № 7, с. 2]; *Праца цёмнаго работника куды* ***менш карысна, як святлейшаго*** [1908, № 4, с. 4]. Значна часцей галоўны кампанент словазлучэнняў – прыслоўе, а аб'ект параўнання пераважна выражаны назоўнікам: *Плацили, ведама надта танна и страшна ашуквали новозэландцоў – так што дзесяцина зямли абышлася им крыху* ***даражэй, як рубель*** [1907, № 8, с. 4]; *Японские рабочые прыехали ў Амэрыку и пачали зьбиваць цану амэрыканским рабочым, беручыся рабиць шмат* ***танней, як амэрыканцы*** [1907, № 22, с. 8]; *Лубиновые зерната многа маюць у сабе пажывы, – гэтульки, а нават крыху* ***болей, як авёс*** [1908, № 26, с. 4].

Часам аб'ект параўнання – гэта прыназоўнікавая канструкцыя з акалічнасным значэннем: *...цэны так наганялі, што ўсё прадавалася ешчэ* ***даражэй, як у магазыне*** [1914, № 38, с. 3]; *...рэка Бяроза разліваецца, мастоў* ***бліжэй як у Бабруйску*** *німа...* [1910, № 14, с. 227–228]; *...перэсяленец будзе засуджэны амэрыканскімі судамі* ***ня меней, як на год*** *турмы...* [1910, № 4, с. 231].

Пашыраны і параўнальныя спалучэнні, звязаныя злучнікам *чым*. У якасці галоўнага кампанента такіх канструкцый адзначаюцца як сінтэтычная, так і аналітычная форма параўнання прыметніка або прыслоўя*: Патрэба спаць была* ***мацнейшая, чым страх*** *сьмерци...* [1908, № 8, с. 4]; *Ня дзіва, што яны [рабочые ў Беластоку] тут* ***сьмялейшые, чым дзеколечы****, і дружна стаяць адзін за аднаго* [1914, № 28, с. 3]; *Справа была вось якая: радзіла Магдуся дачку і, здаецца, гэта ешчэ* ***лепей, чым добра****: будзе памочніца пад старасць* [1913, № 28, с. 1. Змітрок Бядуля. Ашчасьлівіла]; *Ізноў тысячы нашых выежджаюць за Урал, у Сібір, у невядомые ім стэпы, шукаюць там лепшай долі,* ***болей абаспечэннаго і шчасьлівейшаго жыцьця чым тое****, каторае маюць на бацькаўшчыне* [1913, № 14, с. 1]. У якасці залежнага кампанента такіх спалучэнняў выступаюць розныя часціны мовы, якія часам патрабуюць сэнсавага ўдакладнення.

Сёння спалучэнні з параўнальнымі адносінамі і злучнікамі *як* і *чым* пашыраныя і з'яўляюцца літаратурнай нормай.

Пры формах вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў і прыслоўяў у якасці залежных ужываюцца таксама прыслоўі і часціцы пры выражэнні адносін меры, ступені якасці*: Жывёла ад сечкі тлусьцее, а і корм* ***шмат марнейшы*** *– не ідзе у глум* [1910, № 6, с. 99]; *Жыцьцё* ***шмат шырэй, шмат багацей*** *за ўсё тое, што змешчаецца ў вузкім кругазоры селяніна* [1914, № 13, с. 1]; *I nie dumałosia jej [Hanulcy], što na świeci bieda nie maje kanca, što može być* ***ješče ciažej*** [1911, № 3, с. 42. Jadwihin Š. Harotnaja]; *Заходні край* ***куды байчэй*** *жывець, як цэнтральная Расея!* [1912, № 24, с. 3. А. Ў. Край с пяцьцю націямі]; *Каб людзи самы аб сабе думали, каб на Бога не складали ўсяго клопату, то б яно* ***неяк лепш*** *жылося* [1907, № 21, с. 6]; *А да таго, старгаваўшы зямлю, эўропейцы адмерывали сабе, кольки хацели, без усяких каморникоў – адмерывали* ***дужа болей****, як плацили* [1907, № 8, с. 4].

Пры выражэнні адносін меры і ступені ў якасці залежнага кампанента могуць выкарыстоўвацца і колькасныя спалучэнні: *У нас на вуліцах калі бывае такі пыл, што скрозь яго не відаць ня толькі зорак, але і хат, то трэба ведаць, што гэты наш пыл* ***у сотні разоў сцісьлейшы і цяжэйшы****, чым комэта* [1910, № 1, с. 8]; *Кожны знае, што и малатарни* ***ў некольки разоў скарэй и лепей*** *малоцяць збожэ, як раней малацили цапами* [1907, № 25, с. 2]. Адзначаны і ўстойлівыя выразы са значэннем меры і ступені ў якасці залежнага кампанента: *Засцянковы шляхциц,* ***ани на макулинку ня меншы*** *гаратник ад мужыка* [1906, № 7, с. 8].

Такім чынам, можна зрабіць наступныя высновы. У тэкстах “Нашай Нівы” дастаткова ўжывальныя канструкцыі, у якіх галоўны кампанент – прыслоўе або прыметнік вышэйшай ступені параўнання, у газеце прадстаўлены як сінтэтычныя, так і аналітычныя формы. Такія словазлучэнні маюць параўнальна-супастаўляльнае значэнне, адзначаны таксама канструкцыі з прасторавым, часавым, колькасным значэннем, са значэннем меры і ступені. Пры выражэнні параўнальна-колькасных значэнняў найбольш пашыраныя беспрыназоўнікавыя канструкцыі з родным склонам, спалучэнні з прыназоўнікамі *за* і *ад*, са злучнікамі *як* і *чым*. Адзначаюцца словазлучэнні з прыназоўнікамі *над* і *процi*. Такія спалучэнні захаваліся і ў сучаснай беларускай мове, але маюць адметную прадуктыўнасць.

**Літаратура**

1. Беларуская граматыка: у 2 ч. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. М. В. Бірыла, П. П. Шуба. – Мінск, 1986. – Ч. 2: Сінтаксіс. – 327 с.

2. Беларуская і руская дыялекталогія: дапам. для студэнтаў філфакаў ВНУ / В. А. Гуліцкая [і інш.]. – Мінск: Вышэйш. шк., 1992. – 248 с.

3. Беларускі N-корпус: корпус беларускай мовы [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://bnkorpus.info/korpus.html#search&corpusType=MAIN&wordsOrder=PRESET&w0.grammar=A..C....&w1.word=%D0%BD%D0%B0%D0%B4. – Дата доступу: 09.03.2018.

4. Граматыка беларускай мовы: у 2 т. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. К. К. Атраховіч (Крапіва), М. Г. Булахаў, П. П. Шуба. – Мінск: Навука і тэхніка. – Т. 2: Сінтаксіс. – 756 с.

5. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы / Акад. навук Беларускай ССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1963.

6. Карский, Е. Ф. Белорусы: в 3 т. / Е. Ф. Карский; коммент. В. Н. Курцовой. – Минск: БелЭн, 2006. – Т. 2, кн. 2: Язык белорусского народа. – 512 с.

7. Козырев, И. С. Из истории развития предлогов при форме сравнительной степени в белорусском и русском языках / И. С. Козырев // Вопр. языкозн. – 1972. – № 2. – С. 90–98.

8. Лёсік, Я. Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы / Я. Лёсік // Я. Лёсік. 1921–1930: зб. тв. / уклад., прадм. і камент. А. Жынкіна. – Мінск: Выд. Логвінаў, 2003. – С. 113–156.

9. Лёсік, Я. Сынтакс беларускае мовы / Я. Лёсік. – Выд. другое, перароб. – Менск, 1926.

10. Наркевіч, А. І. Сістэма словазлучэнняў у сучаснай беларускай мове: структурна-семантычнае апісанне. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1972. – 336 с.

11. Чудовіч, В. Формальны сынтакс / В. Чудовіч, С. Дружылоўская. – Менск: Бел. дзярж. выд-ва, 1930. – 152 с.

12. Шуба, П. П. Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў / П. П. Шуба. – Мінск: Нар. асвета, 1993. – 168 с.

13. Яўневіч, М. С. Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы: падруч. для студэнтаў філал. спецыяльнасцей / М. С. Яўневіч, П. У. Сцяцко. – Мінск: Аверсэв, 2006. – 286 с.

*Ю. Л. Хвіланчук*

## СТАН І НЕКАТОРЫЯ АСАБЛІВАСЦІ БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАСТОЦКАГА РЭГІЁНА ПОЛЬШЧЫ

Гаворкі ўсходнеславянскага тыпу, што знаходзяцца ў пагранічнай паласе паўночна-ўсходняй Польшчы, ужо на працягу доўгага перыяду сістэматычна вывучаюцца навукоўцамі. Сярод навуковых прац, прысвечаных моўнай праблематыцы Беластоцкага рэгіёна, вылучаюцца найперш працы польскіх даследчыкаў прафесара Эльжбеты Смулковай [6], Ніны Баршчэўскай [1], Базыля Сегеня [9], Міраслава Янковяка [4], Станіслава Глінкі [3], М. Кандрацюка [5], Ганны Багроўскай [2] і інш. Разам з тым унікальны ў моўных адносінах памежны рэгіён прыцягвае ўвагу лінгвістаў далёкага замежжа. Асабліва актыўна ў апошні час гаворкі гэтага рэгіёна даследуюцца амерыканскім лінгвістам Куртам Вулхайзерам, які вывучае маўленне польска-беларускага пагранічча з пазіцыі сацыялінгвістыкі [7]. Большасць навуковых прац вышэйадзначаных і іншых навукоўцаў прысвечана аналізу дыялектных фанетычных, марфалагічных, лексічных асаблівасцей, пытанням

тапаніміі беларуска-польскага памежжа. Менш за ўсё вывучаліся сінтаксічныя аспекты беларускіх гаворак польска-беларускага памежжа.

Адзіным на сённяшні час сінтаксічным апісаннем дыялектнай мовы Беласточчыны з'яўляецца даследаванне Базыля Сегеня "Прыназоўнік у сістэме адной усходнеславянскай гаворкі Беласточчыны" [9]. У манаграфіі навуковец адлюстроўвае сінтаксічныя рысы перыферыйнай гаворкі Беласточчыны ў этымалагічным і семантычным аспектах. Аналізу падвяргаюцца прыназоўнікавыя словазлучэнні, даецца дэталёвае іх апісанне, а таксама вызначаюцца суадносіны з прыназоўнікамі перш за ўсё беларускай літаратурнай мовы. Але вывучэнне сінтаксічных асаблівасцей праводзілася даследчыкам лакальна: толькі на аснове адной з гаворак Беласточчыны – гаворкі в. Трывежа, якая знаходзіцца на сучасным беларуска-ўкраінскім памежжы. Астатняя тэрыторыя беларуска-польскага памежжа засталася па-за ўвагай лінгвіста. Таму ў дадзеным артыкуле будзе вызначаны сучасны стан тых беларускіх гаворак Беласточчыны, якія спецыяльна манаграфічным чынам даследчыкамі яшчэ не апісаны. Гэта гаворкі з вёсак Ліпавы Мост, Боркі, Залукі, Калодна, Сухінічы, Слойка, Бараўшчызна, Белы Луг, Крушыняны, Рудакі і інш. Найперш будуць прааналізаваны некаторыя марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці гэтых гаворак. Дадзенае даследаванне з'яўляецца асабліва актуальным на сённяшні час, паколькі з сярэдзіны XX ст. беларускія вучоныя не прымалі ўдзелу ў дыялекталагічных экспедыцыях на тэрыторыі Беластоцкага рэгіёна і таму не мелі адпаведнай факталагічнай базы.

Збор матэрыялу для даследавання на гэтай тэрыторыі, а найперш аўдыязапіс узораў сучаснага маўлення мясцовага насельніцтва праводзіўся ў рамках рэалізацыі сумеснага беларуска-польскага міжнароднага навуковага праекта "Даследаванні па дыялекталогіі польскай і беларускай моў". Запісы ўтрымліваюць найноўшую каштоўную рознааспектную лінгвістычную і этнакультуралагічную інфармацыю, а таксама цікавыя звесткі экстралінгвістычнага характару і з'яўляюцца жывымі гукавымі "сведкамі" стану беларускай гаворкі пачатку XXI ст., распаўсюджанай па-за межамі сучаснай Беларусі. Самыя рэпрэзентатыўныя аўдыязапісы, зробленыя падчас палявых даследаванняў у Беластоцкім рэгіёне, увойдуць у склад Нацыянальнага гукавога дыялектнага фонду беларускай мовы. У перспектыве расшыфраваныя запісы ў выглядзе апрацаваных тэкстаў разам з навуковымі каментарыямі да іх складуць хрэстаматыю "Беларускія гаворкі Беласточчыны". Такое выданне будзе карысным для скрупулёзнага навуковага вывучэння асаблівасцей гукавога ладу, сістэмы словазмянення, структуры словаўтварэння, лексічнага складу і ўстойлівых выразаў, адметнасцей сінтаксісу, а таксама мікратапаніміі рэгіёна.

### Моўная сітуацыя і нацыянальнае вызначэнне: паводле ацэнак інфармантаў

Праведзеныя палявыя даследаванні ў Беластоцкім рэгіёне далі магчымасць адзначыць, што сучасная моўная сітуацыя ў гэтых вёсках досыць своеасаблівая. Першасны аналіз дыялектнага матэрыялу сведчыць, што ў абследаваных населеных пунктах у якасці пануючай мовы зносін сярод насельніцтва старэйшага пакалення з'яўляецца на сёння беларуская мова, якая маркіруецца мясцовымі жыхарамі як "простая мова". Але людзі гэтага рэгіёна часта двух-, а то і трохмоўныя. У залежнасці ад сітуацыі маўлення яны могуць размаўляць як на беларускай, так і на польскай, рускай мовах. Асноўнымі захавальнікамі шматмоўя ў гэтым рэгіёне з'яўляюцца прадстаўнікі старэйшага пакалення. Малодшае пакаленне, па словах інфармантаў, у асноўным размаўляе папольску, але добра разумее беларускую мову. Традыцыя шматмоўя тут даволі глыбокая. Яшчэ да вайны жыхары гэтага рэгіёна ведалі і вучылі польскую, беларускую і рускую мовы.

*<...> Мае́ радны́я так гавары́лі, і так я. Я ўжэ то́жэ се́мдзесят два лет ма́ю. Ужэ́ не малада́я. Ну але́ што ж? Так гавары́лі і так мы гаво́рым. На́шы радзі́целі так гавары́лі. Але, як дзесь трэ́ба, так па-по́льску гаво́раць* (Бародзіч Любоў Пятроўна, 1944 г. н., в. Сухінічы).

*<...> Научы́лася, по-по́льску і па-белару́ску чыта́ла, і па-ру́ску прачыта́ю. То́лько піса́ць ужэ́ тру́дно. Я з гэ́тых шко́льных ксёнжок любі́ла чыта́ць і ўсе чыта́ла. І научы́лася так чыта́ць. Ну о, тако́е о жы́це было́* (Майсак Марыя Міхайлаўна, 1933 г. н., в. Залукі).

<...> *Яшчэ́ як я хадзіла, то навуча́лі язы́к белару́скі і ру́скі* (Віткоўска Юзэфа Владыславаўна, 1947 г. н., в. Сухінічы).

<...> *Мы папро́сту гаво́рым. Мае́ ўну́чкі па-по́льску гаво́рацъ. Молоды́я ўсе па-по́льску ўжэ. З Белару́сі по́льская я. Мы по́льскія белару́сы. Тако́е жы́це. І поля́ке по-на́шаму гаво́рацъ стары́я. Молоды́е – то па-по́льску. Мо́ва называ́ецца на́ша папро́сту.*

***– Дык мова ваша называецца папросту?*** *– Папро́сту, бо то ні чы́сто белару́ская* (Парфенюк Галіна Канстанцінаўна, 1939 г. н., в. Сухінічы).

<...> *Мо́ва на́шая така́я тро́ху праста́я. Бо ўжэ ма́ю пра́ўнучку, то ўжэ та́я па-по́льску гаво́рыць* (Бародзіч Любоў Пятроўна, 1944 г. н., Сухінічы).

Да сённяшняга часу структура беларускіх гаворак у гэтым рэгіёне захавалася найлепшым чынам яшчэ і па прычыне падтрымкі з боку дзяржавы, бо дагэтуль тут ёсць беларускія школы, працуюць грамадска-культурныя таварыствы.

Этналінгвістычная сітуацыя ў гэтым рэгіёне залежыць у многім яшчэ і ад рэлігійных фактараў. Носьбіты беларускіх гаворак могуць належыць і да каталіцкага, і да праваслаўнага веравызнання. У залежнасці ад гэтага яны маюць розную нацыянальную самасвядомасць і рознае стаўленне да мовы. Большасць інфармантаў праваслаўнага веравызнання аднеслі сябе да беларусаў.

<...> *– У нас усе́ праваслаўныя. Гэ́тыя нае́здныя ты́лько што павыбыдо́ўвалі да́чы – каталікі.*

*Мы ў По́льшчы ро́джаны, але́ правасла́ўныя. Ке́дысь спіс такі́ быў: правасла́ўныя з каталіка́мі. Мой дзе́дко запіса́ўся – белару́с, а я – по́льска. Ек като́лік, ну то ўжэ по́льскі. У нас тут нема́ ра́зніцы жэ ты по́льскій, а я ру́ска. Не гэ́тoго, Сла́ва Бо́гу. Але́ ест такі́ места́ не любя́шчыя – у другі́х вёсках* (Чабан Марыя Уладзіміраўна, 1928 г. н., в. Боркі).

<...> ***– У вёсцы жывуць і праваслаўныя, і каталікі?***

*– Ужо́ цепе́р католіко́ў больш ек правасла́ўных, мо́жа, напала́м. Ту́та ўсе паме́шаны.*

***– Раней болей каго было: праваслаўных ці каталікоў?***

*– Ра́ней правасла́ўных бо́лей. Шэсць ро́дзін было́ то́лькі каталіко́ў. А ціпе́р мно́го. Ну я ве́даю мой уну́к то́жэ катал́ічку узя́ў. Але́ не перайшо́ў, заста́ўся правасла́ўным. А як да́лей бу́дзе, хто ёго́ зна́е.*

***– А Вы сябе лічыце кім: беларускай?***

*– Я й сама́ не зна́ю, як назва́ць. У По́льшчы жыву́, але́ ж я не паля́чка – правасла́ўная* (Майсак Марыя Міхайлаўна, 1933 г. н., в. Залукі).

Такім чынам, сучасная моўная сітуацыя на Падляшшы характарызуецца суіснаваннем і выкарыстаннем дзвюх моў – беларускай і польскай. Асноўным сродкам зносін прадстаўнікоў малодшага пакалення з'яўляецца польская мова. Старэйшае пакаленне выкарыстоўвае беларускую мову, якая па выніках лінгвістычнага заніравання адносіцца да заходняй, ці гродзенска-баранавіцкай, групы гаворак паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы. Большасць інфармантаў старэйшага пакалення лічаць сябе беларусамі, але роднай называюць не канкрэтна беларускую мову, а мову "папросту", што хутчэй указвае на сацыяльную ці мясцовую ідэнтычнасць. Некаторыя інфарманты старэйшага пакалення гаварылі, што мовай "папросту" карыстаюцца толькі ў зносінах паміж сабою.

## Некаторыя марфалагічныя асаблівасці мясцовых беларускіх гаворак

Мову жыхароў гэтага рэгіёна характарызуюць наступныя марфалагічныя рысы:

1) дзеясловы першай асобы множнага ліку абвеснага ладу заканчваюцца на ***-мо***: *Сто́іць гэ́то мле́ко, смята́ну адберэ́**мо**, то на ма́сло, а вжэ з мле́ка рабілі сыр* (Боркі); *Ра́но вы́лье**мо**, а ўве́чары даста́нем* (Боркі); *Пасты́ по́сці**мо*** (Боркі); *Ва́ры**мо** ў Кра́сную субо́ту кілба́ску, хлеб. Кілба́ску са́мі ро́бім* (Боркі); *Мя́со ме́ле**мо**, кру́ці**мо** – і ў кішке́, і ба́рдзо сма́чное* (Боркі); *Ро́бі**мо**, прыпраўля́е**мо** гэ́то мя́со: пе́рац, соль, маіра́нэк такі́, ба́рдзо пахнёнцо, пе́рцы не адзі́н, а кі́лька: го́ркі, сало́дкі пе́рац* (Боркі); *Рашчыня́е**мо**, пато́м другі́ раз ме́сім* (Боркі);

2) захаванне канцавога галоснага ў форме інфінітыва: *Ніц не можна гаварыці, бо добро* (Боркі); *Ну і тэды прышоў тады такі час, што можно было гэто ўсё здаці* (Боркі); *Не можна наракаці, не можна (Боркі); Ніц не даюць перавозіці* (Боркі); *Кедысь трэба было за польскіх часаў па два лет седзеці у адной клясе, то два лет у трэці, два лет – у чвартуй* (Боркі); *Кедысь трэба было ўсё меці* (Боркі); *І так жыці цэлы час* (Боркі); *Дзяцей было шасцёра, і мусілі яны рабіці* (Боркі);

3) устойлівай рысай гаворак Падляшша выступае саканне – цвёрдасць зычнага гука [с] у зваротным постфіксе дзеясловаў. Сярод цвёрдых варыянтаў постфікса часцей выкарыстоўваецца варыянт *-са*: *Ужо ціпер у нас много набудаваласа з меса* (Залукі); *А цяпер, то парабіліса ўжэ паны, што наймаюць* (Залукі); *Усе уехалі у горад, пабудаваліса* (Сухінічы);

4) характэрнай марфалагічнай асаблівасцю гаворак Падляшша з'яўляецца наяўнасць канчатка ***-е (-э)*** у назоўнікаў множнага ліку: *Грыбы жоўтыя, пліске* (Боркі); *І кветке садзілі, і ачышчалі тэе могілкі* (Боркі); *Мясо мелемо, круцімо – і ў кішке, і бардзо смачное* (Боркі); *І лажке былі дзеравяныя, і міске, а саганы то не такія былі як тэраз, а такія алюмінавыя былі саганэ* (Боркі); *Бураке, морква, цыбуля, картошка, маліны маем сваё, памідоры, малачай, канюшына* (Сухінічы); *Чорныя ягады, маліны растуць у лесе, грыбэ – чырвонагаловікі, куркі, пліскі, рыдзы, масляке* (Сухінічы). Паводле дадзеных ДАБМ (карта 95), гэта асаблівасць сустракаецца ў паўднёва-заходнім дыялекце, у зоне, што пашыраецца з усходу на захад, з цэнтральна-заходняй Беларусі да польскай мяжы. У Атласе ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны гэта асаблівасць характэрна гаворкам паўночна-ўсходняй часткі пагранічнага рэгіёна.

Такім чынам, пералічаныя дыялектныя рысы суадносяць гаворкі гэтага рэгіёна з групай гродзенска-баранавіцкіх гаворак.

### Некаторыя сінтаксічныя асаблівасці мясцовых беларускіх гаворак

Аналіз сінтаксічных рыс сведчыць пра тое, што дыялектная мова Беластоцкага рэгіёна ў арэале беларуска-польскага памежжа ў галіне сінтаксісу захавала асаблівасці беларускага маўлення. Пацверджаннем гэтага з'яўляецца ўжыванне такіх канструкцый, як: ***вывезці на Сібір***: *Потым троха беды былі, бо маей мамы брата жонку з шасцёра дзецьмі вывезлі на Сібір* (Слойка); ***працаваць на землях***: *Раней на землях працавалі* (Боркі); ***хадзіць у цэркву***: *У цэркву хажу спяваю* (Сухінічы); ***садзіць у агародах***: *Нават у агародах садзілі* (Боркі); ***шыць з палатна***: *Шылі сваё сырнікі з палатна* (Боркі); ***жыць з дзедком***: *Як мы з дзедком жылі, было пяцёра дзяцей* (Боркі); ***пайсці замуж***: *Потым ужо мама пашла замуж* (Сухінічы); ***служыць праз нядзелю***: *У нас бацюшка тылько служыць праз нядзелю* (Сухінічы) і інш. Дадзеныя канструкцыі з'яўляюцца агульнабеларускімі сінтаксічнымі адзінкамі, якія актыўна ўжываюцца не толькі на абследуемай тэрыторыі, але і выкарыстоўваюцца ў маўленні на тэрыторыі Беларусі і характэрны для беларускай літаратурнай мовы. Наяўнасць такіх агульных сінтаксічных з'яў у беларуска-польскім кантактным арэале сведчыць пра канвергентны напрамак развіцця моўных сістэм на ўзроўні сінтаксісу. Але паколькі сінтаксіс словазлучэнняў беларускай і польскай моў мае свае асаблівасці, то немагчыма гаварыць толькі пра канвергентны шлях развіцця дзвюх моўных сістэм. У дадзеным моўным арэале адначасова дзейнічаюць і канвергентны, і дывергентны вектары моўнага развіцця.

Наяўнасць польскага ўплыву на беларускае маўленне гэтага рэгіёна заўважаецца ў выкарыстанні такіх канструкцый, як: 1. ***Урадзіла двое дзеці*** *файных* (Калодна); *Сем лет у адном пакоіку* ***дзеці гадавала*** (Калодна); *А я кажу: "То ж мы* ***маем дзеці****"* (Калодна); *Яны нас* ***узывалі*** *на кілька* ***дні*** (Боркі), *Кедысь старыя людзі* ***не мелі гроша*** (Боркі), у якіх адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі ўжываюцца ў форме вінавальнага склону. 2. *Ужэ я* ***маю восемдзесят восем лет*** (Боркі); ***Васемнаццаць лет мела была***, *як пашла замуж* (Сухінічы); *Я ўжо* ***мела ісці*** *далей* ***на дзярэўню*** *з маладзежжу* (Калодна).

Разам з тым, паколькі даследуемая тэрыторыя адносіцца да перыферыйнай у адносінах да асноўнага масіву беларускай мовы, то для яе характэрна захаванне некаторых архаічных моўных з'яў і з'яўленне шэрагу інавацый.

У дыялектнай мове Беластоцкага рэгіёна былі зафіксаваны наступныя архаічныя сінтаксічныя канструкцыі. Гэта беспрыназоўнікавыя канструкцыі з творным склонам, якія былі характэрны для старажытнай мовы ўсходніх славян: 1) беспрыназоўнікавыя канструкцыі з **творным інструментальным** тыпу: ***Сярпáмі жáлі*** *кéдысь* (Боркі*), Тэ́раз усё* ***машы́намі*** *тýтай* ***рóбяць*** (Боркі); *Цяпéр* ***трактарáмі гарýць*** (Залукі); ***Éздзілі фýрамі*** (Залукі); *Што цяпéр, цяпéр рабóту не прыраўня́еш да даўнéйшай рабóты, бо калíсь і* ***касáмі кíсілі****, збірáлі,* ***снапавязя́лкамі*** *пóтым* ***жáлі*** (Сухінічы); *А тэ́раз усё* ***машынóво*** *усё* ***рóбіцца*** (Сухінічы); *Я сядý на рóвэр і* ***рóвэром éду*** (Сухінічы); ***Оўтóбусом звóзяць*** (Сухінічы). Дадзеныя словазлучэнні сустракаюцца ва ўсіх абследаваных населеных пунктах і, згодна з дыялектнымі матэрыяламі Беластоцкага рэгіёна, яны з'яўляюцца пануючымі сярод іншых сінтаксічных сродкаў выражэння значэння сродку, прылады дзеяння. Творныя беспрыназоўнікавыя канструкцыі пашыраны, па матэрыялах ДАБМ, і ў беларускіх гаворках паўднёва-заходняга дыялекту, што з'яўляецца пацверджаннем канвергентнага вектара развіцця моўнай сістэмы ў беларуска-польскім кантактным арэале на ўзроўні сінтаксісу.

Для астатніх беларускіх гаворак характэрна ўжыванне прыназоўнікавых канструкцый тыпу *ехаў на кані, на возі* (ДАБМ, карта № 222). Некаторыя даследчыкі лічаць, што канструкцыі з прыназоўнікам **на** ў значэнні сродку перамяшчэння развіваюцца ў сучаснай беларускай мове і яе дыялектах пад уплывам рускай мовы [10];

2) творныя беспрыназоўнікавыя канструкцыі **са значэннем часу**. Напрыклад, ***Вайнóю*** *нáша хáта* ***згарэ́ла*** (Залукі); ***А я зімóю ўпáла****, а цэ́лу стóпу вы́круціла* (Калодна), ***Зімóй*** *рабілі кóшыкі* (Сухінічы); ***Зімóю*** *– чаты́ры разы́ ядá* (Слойка). У адрозненне ад творных беспрыназоўнікавых канструкцый са значэннем сродку, прылады дзеяння, часавыя словазлучэнні з беспрыназоўнікавым творным меней прадуктыўныя. Паводле інфармацыі "Нарысаў па беларускай дыялекталогіі" часавыя беспрыназоўнікавыя канструкцыі з прыслоўямі тыпу *зімою, летам, вясною* выкарыстоўваюцца пераважна ў дыялектным маўленні гаворак усходніх раёнаў Беларусі [8, с. 321].

У гаворках Беластоцкага рэгіёна значэнне часу, а дакладней дзеянне ў адносінах да стану або тэрміну працякання ці здзяйснення передаецца пераважна пры дапамозе прыслоўяў, якія ўтварыліся ў выніку адвербіялізацыі форм вінавальнага або меснага склону назоўнікаў (якія абазначалі прамежак часу) з прыназоўнікам *у:* ***Прыéхаў ён увéчар*** (Калодна); ***Урáнку устаём****, снядáнне ямó* (Сухінічы); *Як* ***увéчары*** *вéльмі* ***пахнёнца*** (Сухінічы) або неадвербіялізаванымі адпаведнымі формамі назоўнікаў: *Сястрá* ***ў вайнý не лечы́лася****, мéла тры гóдзікі, як захварэ́ла на гáйна маты́гу, і вы́круціла ёй нóжку* (Калодна); ***Ён прыéхаў у субóту*** (Калодна); *Ну, і рашы́лі, то былá недзéля, пагавары́лі і* ***рашы́лі ў панядзéлак*** *éхаць шлюб браць, на закс* (Калодна); ***Пóтым*** *бáцюшка* ***прыяжджáе ў*** *Вéльку* ***Субóту*** *і свéнціць пасвянцóўку; благаславíць людзéй усíх.* (Сухінічы). Такім жа чынам час працякання дзеяння выражаецца ў большасці гаворак на тэрыторыі Беларусі.

Характэрным для носьбітаў беларускай мовы Падляшша з'яўляецца выкарыстанне часавых канструкцый тыпу: *Сям'я́ былá такáя, як* ***за таé пóльскей*** *у нас, то* ***мéла*** *брáта і сястрý* (Калодна); ***За таé*** *нáшай нóвай* ***пóльске****, пеесятыя гады́, то* ***трэ́ба былó*** *жы́та* ***здаць*** *і мяса здаць* (Калодна); *Кéдысь трэ́ба былó* ***за пóльскіх чáсаў*** *па два лет* ***седзéці*** *у аднóй кля́се, то два лет у трэ́ці, два лет – у чвáртуй* (Боркі); *Кéдысь тýтай Бобкóвы Груд* ***быў*** *ек* ***за пóльскіх чáсоў*** (Боркі), якія абазначаюць час дзеяння ў адносінах да існавання пэўных з'яў у прыродзе або грамадстве. Словазлучэнні такога структурна-семантычнага тыпу ўжываюцца і ў беларускім дыялектным маўленні на тэрыторыі Мінскай, Гродзенскай, Брэсцкай, Гомельскай абласцей, а таксама часткова Віцебскай і паўднёва-заходніх раёнаў Магілёўскай вобласці [8, с. 322]. Для астатняй беларускай тэрыторыі час дзеяння ў адносінах да існавання пэўных з'яў у прыродзе або грамадстве абазначаецца пры дапамозе канструкцый з прыназоўнікам **пры** і адпаведным назоўнікам у месным склоне: *гэта было пры цару, пры савецкай уладзе завёў гаспадарку, гэта было пры маёй памяці* [8, с. 322].

Сітуацыя шматмоўя ў Беластоцкім рэгіёне стварае ўмовы для ўзнікнення ў самой кантактнай зоне лакальных інавацый, якія звычайна выходзяць за межы кантактнай зоны. Адной з такіх

інавацый з'яўляецца, напрыклад, выкарыстанне прыназоўніка **для** ў сістэме як беларускіх, так і польскіх гаворак у канструкцыях са значэннем аб'екта, у дачыненні да якога выяўляюцца якія-небудзь якасць, стан, дзеянне. Напрыклад: *Сын **пабудаваў** ужэ, то **для дачкі, для сястры аддáсь** гэту хату. І тэра ўнучка сказала: бабцё вуй **оддал** мяшкане **для мамы**, а мама не хцё, я бэндэ рэпоравала і я одрамонтую, і я бэндэ з бабцё мешкаць* (Калодна); *Та аднаму было чатыры лет – меншай Тані, а **для Міхала было ужэ шэсць лет*** (Сухінічы). Прычыны з'яўлення падобных інавацый тлумачацца наяўнасцю балтыйскага субстрата на тэрыторыі Беласточчыны.

### Літаратура

1. Barszezewska, N. Język białoruski w Polsce – historia i stan obecny / N. Barszezewska // Acta Polono-Ruthenica. – T. XIV. – Olstyn, 2009. – S. 339–351. *Яе ж.* Barszezewska, N. Kilka przykładów wpływu języka polskiego na składnię gwar białoruskich i ukraińskich Białostocczyny / N. Barszezewska, J. Głuszkowska // Rozprawy Slawistyczny, 1997. – T. 12: Ze studiów nad gwarami wschodniosłowiańskimi w Polsce. – S. 171–174. *Яе ж.* Barszczewska, N. Język regionu białowieży – analiza językowa i socjolingwistyczna // Беларуска-польскія культурна-моўныя ўзаемадачыненні: ад гісторыі да сучаснасці: зб. навук. арт. / Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр дакслед. беларус. культуры, мовы і літ., Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; навук. рэд. В. М. Курцова [і інш.]. – Мінск: Беларус. навука, 2016. – С. 27–40. *Яе ж.* Баршчэўская, Н. Сітуацыя беларускай мовы ў Польшчы / Н. Баршчэўская // Belarusika=Albaruthenica. – Мінск, 2012. – Кн. 32. – С. 342–353 *і інш.*

2. Bagrowska, A. Białoruskie wyrażenia typu "Pajšći u̯ hryby" / A. Bagrowska // Slavia Orientalis. – Warszawa, 1963.– R. XII. – № 2. – S. 271–277.

3. Glinka, S. Granica językowa i przykład zrożniecowania fonetycznego gwar białoruskich Białostocczyzny / S. Glinka // Sprawozdania z prac naukowych Wydziału Nauk Spolecznych PAN. – 1960. – R. III. – S. 5.

4. Jankowiak, M. The Western dialectal zone of the Belarusian language as an example of Polish-Belarusian sociohistorical relations / M. Jankowiak // Beiträge zum 19. Arbeitstreffen der Europäischen Slavistischen Linguistik (Polyslav) / ed. E. Rubio Gutiérrez, E. Kislova, E. Kubicka // Die Welt der Slaven. Sammelbände 60. – Wiesbaden, 2016. – S. 101–107. *Яго ж.* Jankowiak, M. Gwary białoruskie na Litwie jako przklad białoruska-polskich kontaktów językowych / M. Jankowiak // Беларуска-польскія культурна-моўныя ўзаемадачыненні: ад гісторыі да сучаснасці : зб. навук. арт. / Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр дасслед. беларус. культуры, мовы і літ., Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; навук. рэд. В. М. Курцова, Н. А. Снігірова. – Мінск : Беларус. навука, 2016. – С. 112–123.

5. Kondratiuk, M. Zależność nazw geograficznych Białostocczyzny od fizjografii na przykładzie nazw typu Jałówka / M. Kondratiuk // Acta Baltico-Slavica. – Białystok, 1964. – № 1. – S. 259–266.

6. Smułkowa, E. O polsko-białoruskich związkach językowych w aspekcie czasowym i terytorialnym / E. Smułkowa // Białoruś i pogranicza Białorusi. Studia o języku i społeczeństwie. – Warszawa: Wyd-wo Uniw. Warszawskiego, 2002. – S. 293–305. *Яе ж.* Smułkowa, E. Pogranichna Białorusi w perspektywie interdyscyplinarnej / Памежжы Беларусі ў міждысцыплінарнай перспектыве / red. nauk. Elżbieta Smułkowa i Anna Engelking. – Warzawa: DiG, 2007. – 511 s. *Яе ж.* Smułkowa, E. Sytuacja socjolingwistyczna i proces konwergencji języków na Brasławszczyźnie w świetle badań terenowych (1997–2007) / E. Smułkowa // Brasławszczyzna. Pamięć i współczesność. – T. I: Historia regionu. Charakterystyka socjolingwistyczna. Świadectwo mieszkańców; red. E. Smułkowa. – Warszawa: Wyd-wo Uniw. Warszawskiego, 2011. – S. 101–140 *і інш.*

7. Вулхайзер, К. Канвергентныя і дывергентныя інавацыі ў беларускіх гаворках Беласточчыны і Гродзеншчыны: сацыялінгвістычнае даследаванне ўплыву пагранічча / К. Вулхайзер // Замежная мовазнаўчая беларусістыка на міжнародных з'ездах славістаў: зб. дакл. (да 15 Міжнар. з'езда славістаў) / уклад., прадмова, камент. Г. А. Цыхуна; Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр дасслед. беларус. культуры, мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. – Мінск: Беларус. навука, 2013. – С. 175–193. *Яго ж.* Вулхайзер, К. Сацыялінгвістычныя аспекты дывергентнага развіцця беларускіх гаворак сучаснага польска-беларускага пагранічча / К. Вулхайзер // Беларуская мова: шляхі развіцця, кантакты, перспектывы: матэрыялы III Міжнар. кангр. беларусістаў "Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый", Мінск–25 мая, 4–7 снеж. 2000 г. / рэдкал.: Г. Цыхун (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Беларус. кнігазбор, 2001. – С. 185–199.

8. Нарысы па беларускай дыялекталогіі / пад рэд. Р. І. Аванесава. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1964. – С. 296–363.

9. Сегень, Б. Прыназоўнік у сістэме адной усходнеславянскай гаворкі Беласточчыны / Б. Сегень; Ун-т у Беластоку, філал. фак. – Беласток: Выд-ва Ун-ту ў Беластоку, 2001. – 232 с.

# ТЭКСТЫ З БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

## *ГАВОРКІ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*Т. А. Грачыха*

### ТЭКСТЫ З ГАВОРАК ТАЛАЧЫНСКАГА РАЁНА

***Расказвае Ф. Ф. Іўчанка, 1928 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Зарэчча Талачынскага раёна ў 2010 г.*

Ця́шкае было́ жыццё, асаблі́ва калі́ вайна́ на́чалась. Хто ня ві́дзеў вайны́, той не паймéць людзéй, пераня́ншых яé. Я яшчэ́ малы́ быў і сёстры маé то́жа. Забра́лі нас нéмцы ў Герма́нію. Малалéтнімі ўзьнікамі лічы́ліся мы. Працава́лі ў нéмцаў на гаспада́рцы. Éсьці нам не дава́лі, éлі ра́зам з жывёлай, калі́ ўсыпава́лі, каб хазя́ін ня ві́дзеў.

А нéяк вы́падак са мной зда́рыўся: хацéў напі́цца вады́ з вядра́, што нёс ко́ням. А хазя́ін уба́чыў, вы́скачыў з ха́ты і як далбану́ў па галавé ві́ламі. Ду́маў – памру́, алé папа́ўся нéйкі жа́ласьлівый фашы́ст. Адцягну́ў мянé к сябé і вы́хадзіў. Алé ўсё ро́ўна та́я га́дзіна забра́ла мянé. Біў ду́жа балю́ча, а я ўцяка́ў і хава́ўся на сенава́ле. Сясьцёр пачці́ ня ві́дзеў. По́тым вы́звалілі нас, павéзьлі на Радзі́му. Не маглі́ нара́давацца! Да, паўзрасьлéлі мы ху́тка!

А за́раз ма́ркі, éўры прысыла́юць, льго́ты нéйкія да́лі... За мара́льный ушчэ́рб, каб іх! Лепш ня ба́чыць гэ́тых гро́шаў у во́чы і не паражыва́ць то́е, што мы паражы́лі. Хай усё бу́дзе до́бра!

***

***Расказвае В. С. Іўчанка, 1932 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Зарэчча Талачынскага раёна ў 2010 г.*

Быва́ла по́йдзем за гуся́тамі... А далёка трэ́ба было́ ісці́! Цераз рэ́чку пярo ́йдзем, гусяня́так пазьбіра́ем і го́нім іх дадо́му. Пано́ву цераз рэ́чку лéзем, гуся́так пераця́гаваем. Ра́каў нало́вім, аж паўню́ткае вядро́. А яны́, зара́за, куса́юцца! Дадо́му пры́йдзем, а там яшчэ́ квакту́ха зь ціпля́ткамі ў дварэ́ хо́дзіць. Іх накармі́ць та́кжа трэ́ба.

У нас яшчэ́ было́ тры хлявы́. У адны́м тры каро́ўкі стая́ла. Дык быва́ла ўсёй сям'ёй прыхо́дзілася іх цы́ркаць. У другі́м хлявé парсючкі́ жылі́. Насячэ́ш ім у нач о́ўках крапі́вы, яшчэ́ чаго́-нéбуць, і да іх, а яны́ вылa ́зіюць, га́ркнеш ім: "Аю́с у хлеў!"– і яны́ слу́хаюць. У трэ́цім хлявé – кабы́ла з жарабёнкам. Ры́жынькій такі́, спры́тны жарабё быў!

Ай, шмат чаго́ было́: і ку́ры былі́, і ву́ткі, тры саба́кі, каты́, халéра іх пабяры́, ко́лькі іх было́! Вось як жылі́ ранéй у дзярэ́ўні, ні то́е, што за́раз! І ў мянé ўжэ́ то́лькі ку́рачкі, саба́ка і ко́цік. Стара́я, ця́шка!

У нас тут мясьці́ны прыго́жыя. Там расту́ць бальшу́шчыя дубы́, лі́пы. Лéтам лі́пы як начну́ць цьвісьці́, ат пчо́лаў спа́су нямá. Да́чнікаў мно́га і пчо́лаў у іх мно́га. Рас пайшла́ на ву́ліцу, а пчо́лаў як паналяцéла! Ста́ла адма́хівацца. Дык чуць уратава́лася. А ў мянé, хваро́ба б яé пабра́ла, алергі́я на пчалі́ны яд. Цэ́лаю нядзéлю по́тым до́ма праліжа́ла. Паўспу́хла ўся.

А яшчэ́ во́зера ту́така недалёка ёсьць, каля́ крухма́льнага заво́ду. Ранéй до́браe во́зера было́, чы́стае. А цяпéрака сюды́ выбра́сваюць ачысны́я з гэ́нага заво́ду. Да яго́ падайсьці́ нямá як, стра́шна смярдзі́ць. А дзéткі малы́я ды часі́най п'я́ныя лéзуць купа́цца, з ахво́таю на́ват. І лéблядзі з малéнькімі лебмядзя́тамі жыву́ць. Сёлета іх было́ ажно́ шэсьць штук. Няда́ўна двух пту́шачак забі́лі, каб ім!..

***

***Расказвае М. П. Млявая, 1934 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Новая Яблынька Талачынскага раёна ў 2010 г.*

Як маладáя былá, ішчó у дзéўках хадзíла, дзвінáццаць гадóў былó, вышывáла. Вышывáла храстóм, красíва палучáлася. Мáма мне нíткі куплялá на кірмашэ́ ў Талóчыне, на я́йкі мінáла. Нíткі мулінэ́ называ́ліся, ды й ціпéр такíя ёсьць. Вышывáла храстóм сурвэ́ткі, кáпы, узóры самá прыдýмывала, бо дзе ішчó узя́ць. Рáзам з дзéўкамі сваíмі вышывáла. У прыдáнае сабірáлі, так уш палóжана былó.

Гадóў у дзéсяць ужó наўчы́лася шыць ды вышывáць, бо к вясéллю ўсё гатóва далжнó быць, а зáмуш мы ш тады́ рáна выхóдзілі. На бальшы́х кускáх мацéрыі тóжа вышывáла. Усё склáдывала ў скры́ну. Як вышывáлі, то ўсе рáзам пéсьні піялі рáзныя, кап жаш весялéй былó.

Даўнéй усé зáмуш вóсінню ішлí, лéтам нéкалі былó. Дзéўкі хадзілі ў малíны, пазéмкі, грыбы́ мачы́лі, сушы́лі, зóлкі сабірáлі. Бáцька гарэ́лку стрóіў, адны́м слóвам, да вясéлля гатóвіліся, а зімóй пасьцíліся, нільзя́ зáмуш.

Мéсяцы за тры да вясéлля да дзéўкі сваты́ прыяжáлі. Свáцця нáнач аставáлася, глядзéла, якáя дзéўка былá. Пóсьлі прашчáльны вéчар быў. Да жаніхá мáльцы з гармóнікам прыхóдзілі. Маладýха з дзéўкамі тóжа сабірáліся. Вясéлле назáўтра былó. Свáддзю гулялі тры дні.

***

***Расказвае К. Я. Шкураценка, 1935 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Новая Яблынька Талачынскага раёна ў 2010 г.*

Да вайны́ ў шкóлу я не хадзíла. Сь сястрóй дóма сядзéла. На печ ушы́юся і сяжý, а там і вайнá. У вайнý паслá гусéй. Аднагó рáзу ганý сь сястрóй гусéй, чýю, страля́ць началí паліцáі. Стáлі мы іх прасíць, а яны́ падýмалі, што парцізáны мы. Пáпку рэпрэ́сіравалі. Пасьля́ вайны́ пайшлá ў шкóлу. Сем клáсаў кóнчыла, а там плацíць нáда тры́ста рублéй. Яшчэ́ год павучы́лася і ўсё там. На дваíх грóшы ў мáмкі не былó. Сястрá ўчы́лася. Я тады́ маладóй былá, зáмуш зайшлá і пайшлá на фéрму рóбіць.

***

***Расказвае М. І. Чурыла, 1930 г. н., адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Славені Талачынскага раёна ў 2010 г.*

Нас у мáціцы былó двóе: я і мой брáцік. Яшчэ́ двóе маíх братóў памéрла, ім і гóда не былó – Сірóшкам і Сáшкам звáлі. Мáтка нáдта хвóрая бы́ла – працавáць мнóга не магла́. Усё на нас з брáтам. Ры́кавак пасьлí. Лéтам дóбра шчэ былó, а ўвóсені нáтта халóнна, нóгі мéрзлі, бо без абýтку ў пóлі хадзíлі.

Бáцька аднóйчы кудá-та паéхаўшы быў, а мы, як заўсёды, на пáскі. А калí гавя́ду дамóй прыгнáлі – убáчылі, што мáці памéрла. Якóе гóра нам тады́ былó.

У вайнý бáцька партызáнам стаў, а я брáта глядзéла. У мянé адзíнай з акóліцы ры́каўка засталáся. Галóднымі не хадзíлі. Зімóй нáша карміцілка памéрла. От тады́ ця́жка стáла. Бáцька з вайны́ так і не вярнýўся. Мянé муш узя́ў. Хоць і піў трóхі, алé дóбра жылí – грэх скáрдзіцца. Брат тош ажанíўся. Усё дóбра. Жывéм. Дзéці ўсе павырастáлі, і ўнýкі ўжо не адстаюць. А я рáдасная, на іх глéдзеўшы.

## *ГАВОРКІ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*Т. М. Трухан*

# ТЭКСТЫ З ВЁСКІ КАМЕННАЯ СЛАБАДА ІЎЕЎСКАГА РАЁНА

***Расказваюць М. А. Каваленка, 1925 г. н., Г. А. Шакаль, 1929 г. н. і І. А. Сабалеўская;*** *запіс зроблены ў 2011 г.*

### Жыццёвыя ўспаміны

Мы ні зна́лі калхо́за, мы пражылі́ – калхо́за ні зна́лі. Мы рабі́лі на сябе́ ўсё врэ́мья. Былі́ за По́льшчай, та́то зямлі́ шмат меў. Абзада́чылі, і прапа́ла й зо́лата і зло́ты. Абзада́чыў шэ́йдзесят ці пійся́т чаты́ры гакта́ры. Было́ чацьвяры́х іх: два браты́ і дзьве сёстры. Адзі́н про́дае на зло́ты, а другі́ зо́лата хо́чэ. Яны́ прадава́лі зе́млю, зо́лата ні хаце́лі, а хаце́лі зло́тамі. І трэ́ба вы́мяніць э́тэ зо́лато на зло́ты. І вот так пе́рад са́май вайно́й, ужэ́ зада́так, му́сіць, даў на е́ту зе́млю, і пе́рат са́май вайно́й вы́мяняў усе́ зо́лата на зло́ты. Вайна́ – і прапа́лі зло́ты. Ён сказа́ў: я ўжэ гэ́та ні перажыву́. Ца́рскіе гро́шы прапа́лі і по́льскіе э́тые прапа́лі. Але́ часьці́ то гавары́лі, маглі́ б і забі́ць, усе́ зна́лі, што ў ба́цькі зо́лата. Маглі́ ў вайну́ і забі́ць. А так усе́ зна́лі, што вы́мянялі і прапа́лі, то й ні чапа́лі. У та́та наґа́н быў, купі́ўшы, бая́ўся. Та́та до́бра жыў не́калі: двое ко́ней дзяржа́лі, во́сім каро́ў, аве́чкі. А мы та́ды да вучо́бы гэ́тай ні было́ на́та. Але́ та́та зямлю купля́ў. Нас пяцёх было́, мы малы́е былі́, мне было́ трына́ццаць гадо́ў, як та́та памёр. А тады́ ж на зямлю ўсё ква́пілі гэ́та. Па два гакта́ры даў і за́муш паддава́ў. Шэсь гекта́раў – фу́тар, дзя́лка была́, сь сенако́сам, с усі́м. Дзьвена́ццаць хат было́, а с фута-ра́мі, а футара́ расьця́гнены – сто пяць дамо́ў было́ па пяць кіло́матраў. І сядно́ шчыта́ўся фу́тар. І шко́ла была́ харо́ша ту́така. А называ́лася дзярэ́ўня Ка́менна Слабада́. А ўжэ като́рыя на футара́х былі́, шчыта́ліся футара́мі. Вот Вані́лаўшчына, яны́ ўжэ былі́ друго́га сельсаве́-та, ґмі́ны былі́. Яны́ і цяпе́рака, так як было́ за По́льшчай, так і цяпе́р яны́ Мі́нскай о́бласьці, а мы Гро́дзенскай. У нас жэж со́псьцьвенась была́. Я ў бальні́цы была́, да раска́звала. Там у пала́це ляжа́ць, а прыхо́дзяць, і мы хадзі́лі, выхо́дзілі, ка́жды сваё раска́звае. Я раска́зваю, як ужэ́ мы калхо́за ні зна́лі і пат По́льшчай жылі́. Ка́жуць: вы куркулі́!

Не ўсе былі́. Бе́дна-прабе́дна жы́лі. А такжэ ўсе пазыча́лі: і жы́та бяжы́ць, і гро́шы па-зыча́лі – усё. А́ле ш та́та быў такі́ справядлі́вы, пазыча́ў. І на вэ́ксалі пазыча́ў. І на той сьвет пане́сьлі, та́ту ні аддалі́. А вэ́ксаль – е́то, як сказа́ць цяпе́р, про́цант, два гакта́ры сенако́су. За про́цант нараза́ць два акта́ры сенако́су. Паку́ль ада́сь дзе́ньгі, дак та́та бу́дзе рабі́ць гэ́ты сенако́с. А ён дзе́сець лет ні аддава́ў. Дзе́сець лет та́та чака́ў. А ты́сячу зло́тых пазы́чыў і сто рублёў зо́лата. А той фу́тар купі́ў. Ён купі́ў за на́шага ба́цькі гро́шы фу́тар. Трэ́бла та́ту купі́ць. Так і ні адда́ў гро́шы, вайна́ – і прапа́лі. На дзіся́ты гот гэ́ты, што та́та пазы́чыў, усё яго́ перахо́дзіла ў со́псьцьвенась. Ён сабра́ў людзе́й і стаў касі́ць, шчэ Сёмуха была́, шчэ ма́-лінька трава́ была́, ён ужэ́, каб заня́ць на дзіся́ты гот, а тут жэ ўсе до́брые та́ту былі́, бо ўсе то пазы́чыць два пуды́, усё прыхо́дзілі, дажы́ць да хло́па было́. Ну а брат, са́мы ста́ршы быў, ён на ро́вар сеў і паехаў. Усе́ ко́сы са́мі паддава́лі, бо зна́лі, што працэ́нт э́та та́таў. Ко́сы пазабіра́ў і пры́ехаў дадо́му. Ка́жэ: вот у сут пада́м на цябе́ за э́та, што бяз врэ́мя сенако́с... І прыля́таў ён, пабая́ўся. Стаў прасі́цца, што зграба́й се́на і бу́дзеш да́лей касі́ць, паку́ль ён ада́сь. І вот вайна́ прышла́...

*Г. А. Шакаль, 1929 г. н.*

Як ба́цька наш жыў ніпло́ха, но мы лу́чча жы́лі. Усе́ ж тады́ то́лька на ко́нях, а цепе́р ужэ́ дзе́ці на машы́нах. Мы ў ла́пцях хадзі́лі. Пасьля́ вайны́ ўсё спа́лена было́, і наш дом спалі́лі. На дном во́зі вы́ехалі. Абла́ва была́, мы хава́ліся. Тут і аэрадро́м быў, самалёты апушча́ліся. Яўрэ́яў былі́ сагна́ўшы. А як захо́дзілі бальшаві́кі, дак яны́ ж у яўрэ́яў, гэ́та сто́лька было́

мацяр'ялу. Салдáты стáлі хватáць усё з магазíна, тадыʹ яныʹ на брáта кáжуць: бярыʹ, бярыʹ рулóны, ну рашчытáемся, як бýдзем жыць. Пабаяʹўся, трóху браў, пабаяʹўся. У сóрак пяʹтым вайнá кóнчылася, а мы прыéхалі ў сóрак трэʹцім із Бáкштаў. У аднóй хáце ўсе жылí.

Тýтака быў лясьнíк Сабалéўскі, чагó ён да Стáся патчапíўся, пярýнстваягó знáе. Ужэʹ ж зруб зрубíў, мýсіць, дáжэ накрыʹта былá хáта, і прыéхаў участкóвы, лясьнíчы, éты Сабалéўскі. Мéраюць éты зруп, падáлі ў сут, тадыʹ дзьвéсьце сóрак прысудзíў сут. Нашлí лíшняга лéсу ў эʹтай хáці. Абмярáлі, вышчыʹтвалі там.

*М. А. Каваленка.*

Áле ш тадыʹ ўсе галóдные былí, тадыʹ ўсе ні мéлі капéйкі. Кáждаю нядзéлю éзьдзілі ў Бáкшты ці хадзíлі. Уся́ маладзёж былá дóма, как ест, і ў нас, і ў Бáкштах. Тут быó – укрыʹта ýліца, і ўсе зьбірáліся ў Бáкшты. Тут ад нас аддáў бáцька вучыʹцца шыць, а мы ш бяс тáты і бяс брáта астáліся. Тут хáтку нéйкую зьляпілі былí адныʹ: сястрá старэʹйшая, янá былá, мáма і я. І гэʹдак ужó. Палатнó аддавáлі, аддавáлі якóе палатнó. Мáма ткáла палатнó. А ўсе ж гóлые былí ды бóсые. А нам тадыʹ ўжо с Амэʹрыкі стáлі слаць, алé ж, мýсіць, с Амэʹрыкі стáлі слаць, то ўжэ ў хáтцы эʹтай сядзéлі. Мáміны два братыʹ і дзьве сястрыʹ былí ў Амэʹрыке. Мáма і клýнак зьвязáла, хацéла éхаць у Амэʹрыку. Мáма былá ў Нéськаве, а тáта тут. Ну і тáта, як пашóў, кáжэ, за ноч Шыбýк, бо фамíліе Шыбýк былó дзявóча, кáжэ, Шыбýк, як нагаварыʹў тáмака, мáма ўжэ адлажыʹла ту Амэʹрыку. А так і паéхала янá ўжэ ў Амэʹрыку. Тыʹе і паéдуць і варóчаліся. Шмат паварóчаліся. Яé сьвéкер тóжэ быў у Амэʹрыке, на зáрабаткі éзьдзіў. Вот гэʹтак, як і цяпéр. Тадыʹ пры царýбыло свабóдна. Вот цяпéр, каб дáлі свабóду, то паўяжджáла б мнóга.

*Г. А. Шакаль.*

Андрэʹй, як ён? Што праграʹму вядзé? Малáхаў сказáў: ні нáда выхóдзіць за іастрáнца, выхóцьце за сваíх. А то паéхала на Кіпр, дзе той Кіпр, выʹшла за грэʹка, пяць гадóў пражылá з грэʹкам і ўжэ тýтака разьляцéліся, а ён дзíця эʹтэ ўзяў, не аддаé. І вот эʹта перадáча былá, скáзаў, не аддáм. Суд прысудзíў за ёй, і ўсе на перадáчы, што рэбёнак далжóн з мáцярай быць. Ты прыяжджáў, пажáлуста, абшчáйся зь ім, но рэбёнак з мáцярай. Што рашáць – нівядóма. Ці памóжа перадáча эʹта, ці памóжа Андрэʹй эʹты?

*М. А. Каваленка.*

Áле мáла зямлí, як нéкалі, ні былó на чум двум быць. А як ён пазнакóміўся? Былá аднá за партнíху ўчыʹлася ў Бáкшты, і ён да яé прыяжджáў. А мы картóшку даставáлі, яныʹ выʹшлі, я о пóмню. Насíлі мы на плячáх во гэʹту картóшку ў падвáл, а тадыʹ бáцька ягó хадзíў, ракíту круцíў. І гéтую ракíту, і яныʹ папрасíлі начавáць – начавáлі. А тадыʹ ж палядзéлі, што адныʹ дзяўчáта і мáці, тóлька нас дзвёх, сястрá ўжо былá зáмужам пашлá. І тут сусéтка з Бакшт былá, і ён да гэʹтай сусéткі, пагаварыʹў зь ёй, і сусéтка кáжэ, што ой, за ім ні прападзёт, як прыʹдзе, што за такíе старáцельные. А мы і арáлі, і касíлі – усё сáмі рабíлі. Яныʹ раз, дрýгі раз нек хадзíлі, па ахóці зайшлí, я кудзéлю прáла. Прáла нéшта, яныʹ зайшлí. Ён з дрýгам сваíм, а тадыʹ, мýсі, ёй ужэʹ жаніхá ён прывёў тóжэ. Вот гэʹтак во і сышлíса. А ўжэ гадыʹ падышлí. Áле ш год цягнýлі, ішчэʹ я год аглядáлася. І ў свáтах быў. Свáта ён прывóдзіў з Бакшт, удвýх прыéхалі. Прышóў, на стол бутыʹлку: я сват прыслáны, каб быў стол заслáны, во як тыʹе размóвы. Абвяʹзваюць і бутыʹлку, а тýтака шчэ на размысьлéне дýмалі. Як сватыʹ пастáвяць бутэʹльку, то трэʹба маладóй ужэʹ абвязáць палацéнцам. І тадыʹ прыяжджáць стаў, прыяжджáць, áле ўсё аткладáла. То там касíць трэʹба, то сянавáць шчэ сéна трэʹба. Усё дýмалася, што дзе... А тадыʹ ўжэ гадыʹ падышлí. Любíў працавáць, любíў. Чатыʹры гадыʹ шчэ былá і янá зáмуж пашлá, Áня, во па-сусéцку. Аднá – двáццаць кілóматраў, аднá – у Прыбалцíке, аднá ў Пóльшчы былá. Янá на Сібíры былá тáя, сáма стáрша. Янá з двенáццатага гóда. Яé на Сíбір былí выʹвезьлі. Яныʹ палякáмі падалíся і ў Пóльшчы. Яныʹ маглí дадóму варóчацца, ён ужэʹ баяʹўся бальшавікóў éтых мужыʹк. На вайнý ўзялí, ён у плен папáў, а с плéна тадыʹ ўжо... Пры царý і тáта быў пяць гадóў у плянý ў нéмца. Éсьлі б ён ні Пóльшча тут былá, а бальшавíкі заняʹўшы, ягó ж тóжэ саслáлі б пóсьле. А то ж во пéсьня: ішлí два салдáты з Гермáнскага плéну дамóй...

*Г. А. Шакаль.*

Паку́ль вы́палю печ, усё тут ухаджу́ся, і паку́ль се́на разьбіва́ць, зьлята́ю ў я́гады. Так любіла ж зьбіра́ць. А тады́ пасяну́ем, за тры́ццаць капе́як я́гады́ зьбіра́лі, здава́лі. А жылі́ ж во ўдзьвёх, і каб табе́ паказа́ў, ско́лька мы ўдзьвёх зямлі́ абрабля́лі. Па со́рак коп жы́та ўдзьвёх. Жжа́лі і ў ко́пы паста́вілі. Яна́ больш ара́ла, а так, дзе лю́дзі се́ялі, то ўжэ і прасілі. Я дак ужэ́ цяпе́р хачу́ даць тро́хі сабе́ спо́куй. Паду́май, То́ма, былі́ ўдзьвёх, ту́така быў сенако́с, не́калі ж куска́мі сенако́с быў. Мы ўдзьвёх грэ́блі гэ́та, які́х тры́ццаць коп нагрэ́блі і знасі́лі, То́мка, знасі́лі. І мы панасі́лі е́тые ко́пы, знасі́лі і се́лі ўжо, пла́калі, ужо́ далі́ся нам. Зна́еш, То́ма, знасі́лі е́тые ўсе ко́пы, е́та бы́ло сыбо́тай, паго́да, сухе́нькае се́на, сухе́нька, да ўжэ так наму́чыліся! Прышлі́ дадо́му і ра́нінька, ра́нінька ма́ма ка́жэ: і-і-і, дзяўча́та, хма́ра адгэ́туль падыма́ецца, грымі́ць, бу́дзе дошч. Яна́ тут паляце́ла да сасе́да, ужэ́ папрасі́ць скі́даць стох. Ён атказа́ўся і ні пашо́ў. Как пашо́ў дошч, как пашо́ў... Вада́ заняла́ ко́пы, то́лькі вяршкі́, то́лька вярхі́. С чо́ўнам е́дзем, з ло́дкай па сенако́сі. І тады́ вада́ спа́ла. Па се́мдзісят со́так садзі́лі карто́флі. Тут аднаго́ каня́ і ўжэ садзі́лі карто́флі. Аднаму́ да абе́ду, другому́ с абе́ду. Ні адгіна́ючыся са́дзім цэ́лы дзень удзьвёх карто́флю, адзі́н заграба́е. Я бы́стра садзі́ла, я шы́пка вы́пру, тады́ ўжэ за гра́блі і іду́ памага́ць загрэ́баць. Што ш ты ду́маеш: сто́лька карто́флі ні адгіна́ючыся э́та папаса́дзім... Мне цяпе́р, як е́та маладзёж гаво́рыць, мяне́ нарву́е. Нарву́е, што яны́ хо́чуць?

*М. А. Каваленка.*

Я яму́ по́маш ака́звала: дзе падзе́ржаць, дзе зрэ́заць. А мне ўсяраўно́: до́ску паста́віць, сьце́нку ло́жыць, яму́ трэ́ба до́ску папхну́ць, як пі́лою, а быва́е зашчэ́міцца пі́ла́ мато́рна. Сяраўно́: і жэ́рткі, і жэ́рткі... Во прые́хаў арфава́ць да нас. Ха́та закры́та была́, сюды́ прышо́ў, яны́ пашлі́ да нас, уно́сілі ўсё, а я па жэ́рткі пае́хала, во агаро́т там гарадзі́ць. Усю́ды была́. Во вазі́лі Мар'я́ну, вы́купілі лес, вы́гараўшы быў, дзяля́нка была́. Да на ба́ню, ці там пляц быў даста́ўшы. Каб ба́цько жыў, хоць там сто́ражам быў бы, дак кама́нда была́, а так, як памёр ба́цька, то ... Мы ўсю́ды ўдваі́х. Як гэ́та Булёніха была́, Ма́нька з Багда́нам, так і я. То́лька ўжэ застро́іў во́тку гнаць. Усё: і вады́ нальём, усё. А тады́ ён ужэ́ ідзе́ дадня́. І дроў падгату́е, і смалячо́к, тады́ ўстае́ ра́на ўжэ, ён ране́й без мяне́. Ён тады́, як пры́дзе, пасьпі́ць. А яна́ ка́жэ: вот, ты шэ́пчэш, як Ва́ня ля́жэ спаць. А вядо́ма ж, я ве́даю, што ён по́йдзе з двух часо́ў. Ну тады́, як пры́дзе ўжэ, тады́ я і ўдзень каро́вы папаю, дзве каро́вы дзяржа́лі. Было́ ўсяго́! Дзе́рава часа́ў, як ба́ню ста́вілі. Шну́ра падбі́ць, трэ́скі за і́м усе́ папрыбіра́ць. На ха́ту часа́ў, на хлявы́. Як лясхо́з заня́ў, было́ ж ужо́ калхо́знае, шчыта́лася зямля́, ён сто́ражам быў, Ва́ня, ужэ́ с саўхо́за. Зруб рубі́ў і плані́раваў там масьця́рскую, і ду́маў бальшу́ю ба́ню. І тады́ ж лесхо́з заста́віў убра́ць. А куды́ ўбра́ць? Пад лясхо́зам. І мы паста́вілі тут.

*Г. А. Шакаль.*

За Ста́сям, са Ста́сям былі́, і я как пайду́ ў Лячы́нскі бор, далёка, ды іду́ лі́ніяй па ле́сі. Там дзьве кана́вы былі́, чэ́раз дзьве кана́вы перайду́. Па брушні́цы хадзі́ла, бо тут ні было́. Цепе́р у нас і тут яны́. І-і-і, таку́ю даль! Дзе мяне́ д'я́блы ні насі́лі. Е́то ж ты паду́май, дзяржа́лі ж скаці́ну, ужэ́ й дзе́ці, ні ве́даю, ско́ка той А́ні было́. Вы́палю печ, каро́ву падаі́ла, всё. І паку́ль се́на разьбіва́ць, я зьлята́ю, я́гад набяру́. А тады́ на сенава́не. Так любіла лес, што да ўжас. А про́шлы год ўжэ пашла́ з мале́нькім э́тым вядзёрачкам і сё: ні смагла́ сабра́ць, пло́ха, і іду́. А пляма́ніца е́дзе: цёця, а што ж вы с пусты́м вядзе́рачкам? – Ні смагла́, ні смагла́ сабра́ць. І гэ́тай во то́жэ вы́шла сьці, вы́шла ісьці́, пло́ха мне. Што рабі́ць? Вярну́цца? Хай яны́ здо́хнуць я́гады! Не, а тады́ такі́ пашла́. А яны́ блі́зінька во тут во, блі́ска-блі́ска. Ну, я б ужэ́ ні пашла́, але́ ду́маю, мо́жа вы зьісьці захо́чаце. Ну так ваду́ папі́ць. Трэ́ба было́ і зрабі́ць. У мяне́ ест брусьні́ка і чарні́кі дабаўля́ю. У мяне́ ка́жды раз буты́лка ў халадзі́льніку ляжы́ць.

Прывёс малака́: ёй трохлітро́вы сло́ік і мне. Яна́ прыно́сіць малако́ і ка́жэ: прыдзі́, прыдзі́, ужэ́ ж Мазу́ра пры́ехаў. Кажу́: ні пайду́. А сяраўно́, як я пайду́, хачу мёду, яны́ мёд закру́чваюць. Я ні пашла́. Прыхо́дзіць ён сюда́. Дак то́жэ паўлітро́ву ба́начку гэ́ты сын ужэ́ налі́ў мне. Харо́шы мёд.

***

І вот лясьнíчы э́ты с машы́ны стаíць во тут во пе́рат кла́дбішчамі. Ну я ш такí чалаве́к: паздаро́валася, што, кажу́, рэ́жаш лісíчкі. Ён сеў і мы зь ім разгава́рвалі. А што ж Віцька Баярчуко́ў? Ён ка́жэ: яго́ вы́гнаў лясьнíчы. Ну я тады́ гавару́, што да. Ён прыхо́дзіў да мяне́ во́ткі, дала́, кажу́, яму́ буты́лку. Шчэ гро́шэй прышо́ў. Ён ка́жэ: ба́бушка, што дала́ – ні ду́май, э́та ні з дабра́. Я прайшо́ў тако́е. Я з бо́гам, я набо́жны, бо прыслу́жваў у касьце́ле ён да дзевяці клас. Зна́яце што: з-за бацько́ўскія грахí да́жа вну́кі атвяча́юць – ён мне так. Разу́мны хлапе́ц. Хто во э́ты ба́цька быў? І зло́дзей быў, такí быў врэ́дны. Бог зна́е. У ўну́чкі до́чка інвалíдка, у друго́й то́жэ. Нільзя́. Дабрата́ пабяжда́е зло. А то мно́га рабíла, но мне то атплацілі о-о-о. Гэ́таму во (паказвае на суседа) хадзíла, тры нядзе́лі даíла каро́ву, яна́ ў бальнíцы з дзіцям была́, а каро́ва така́я брыку́шчая была́. Ён стаíць с кало́м, я аднэ́й руко́й, э́та што́-та ні не́рвы былí, зачэ́м? І праз тры нядзе́лі, а пато́м ён мне так атплаціў. І гэ́тым то́жэ хадзíла, як ужо́ ў іх так случы́лася. Тры нядзе́лі то́жэ хадзíла даíць каро́ву. Тады́ ўжэ наву́чыла э́тага Лёшку. Го́ніць каро́вы, кажу́, Алёша, ні пайду́. Свае́ дзьве і іх ісьцí даíць е́ту каро́ву, ні пайду́, вучы́ся сам даíць. Дзе ш ты, жа́лка і каро́ву, і всё. Падаíла свае́, прыхо́джу, сядзíць ён пат каро́вай. Я наддаíла тро́ха, тады́ кажу́: Алёша, садзíся і цяга́й, ні бо́йся, ні адарве́ш цы́цкі. Хадзíла і навучы́ла яго́ даíць э́ту каро́ву.

***

Бох ес на сьве́це! Ён брат мой дваю́радны э́ты во, у мале́нькай ха́цы быў. І ён пасьля́ гэ́тай мае́й дабраты́, Ста́севай... Ён, зна́еш што, прыдра́ўся, што Стась зу́бы яго́ сы́ну вы́біў. Бо́жэ, каб ён дзе быў Стась? Вот вынь душу́, разарвíся, што ні вінава́т. Ну вызыва́юць у міліцыю. Ён з е́тым хлапцо́м е́дзе. Акра́з было́ на́шы Грамнíцы, сьве́чкі ў касьце́ле сьве́ньцілі. А людзе́й жэ тады́ было́ каля аўто́буса! Ну мы стаíм і ён. І ён пе́рад усíмі люцца́мі (людзьмі): во баньдзíт, вы́біў зу́бы. Стась ні сло́ва. Маўчы́м. Пае́халі. Я ў касьцёл пашла́, купíла сьве́чку ў касьце́ле і ўкле́нчыла, і ду́маю: Бо́жэ, узьвíць таку́ю лож. А Стась у міліцыю пашо́ў. Ён дава́й дака́зваць. Ні мы гадзíлі, ні мы чэво́. Но ён, сьледавацэ́ль, вы́слушаў, што врот, што врэ. Дак ён ка́жэ зра́зу, што кало́м даў, а по́тым, што во́тку нёс і канíстрам, як бы яму́ ўжэ даў вы́піць, і канíстрам е́тым у зуб. Сьле́давацель ка́жэ: а што ты? А ён ужэ́ заду́маўся. Сьле́давацель спо́йсаў яго́ і всё, і закры́лі э́та дзе́ла. А мы ш по́сьлі гэ́тага, што ён э́так цяга́ў, што э́так нас наказа́ў – усё! Карто́флю ўсю во́сень разво́рваюцца, сало́му малацíлі, і прышла́ на па́лцы яго́ ўжо жо́нка, про́сіць: памажэ́це сало́му, дош нахо́дзіць. Усю ноч і малацíць памага́лі, і сало́му зграба́лі. Пашлí! Ой, ка́жэ, Алíна карто́флі памо́жэ капа́ць. І сын то́ё разышо́ўся, паку́ль мне карто́флю капа́ць. Мо́жа я і дурна́я, а мо́жа і ні дурна́я.

Тут яны́ ўжэ стары́е, удваíх. Ужэ́ ш ты ўе́зьдзіўся, Бох с табо́й! Гэ́тым Алёшка дава́ў каро́ву, каро́ва на быка́ пачапíлася, на э́тага Алёшку і, як яна́ кíнулася, злама́ла пазвано́чнік каро́ва. Ён нідара́зьвіты быў. Ну што? Яны́ стары́е, ён нідара́зьвіты, каро́ва ляжы́ць. Я прышла́. Стась ка́жэ: хо́чэш, а ноч, а но́ч-то ме́сячная, хо́чэш, запражу́ каня́ – едзь нака́звай дачцэ́. То́мачка, запро́х каня́ – но́чка. Пае́хала я напраму́ю. Вы́ехала – ні сьлядо́чка зімо́й. А як вы́ехала я туды́ ўжэ пад іх кіло́матры два – сíня, разьлíўшыся вада́. Ні знаць, дзе рэ́чка, дзе што – і-і-і. Магла́ ш каня́ павалíць у вадзе́, магла́ і сама́ прапа́сьці. Конь плю́ху-плю́ху – по́йдзе, і я тады́ ўжэ аж да гэ́тай дачкí яго́. За яе́, і наза́д ўжо зь ёй. Ужэ́ ж правíднела. Ён (Стась) ка́жэ: хоч, запрагу́ каня́, ець! Но э́та ты паду́май? Я тады́ хрышчу́ся, жагна́юся: Бо́жачка мíлы! Мне Бог за ўсю маю́ дабрату́...

Ён то́жэ Стась быў до́бры. Ён мно́га што ні хо́ча. Прышла́ цётка яго́, до́брая цётка была́ Ста́сева, радна́я цётка, і яна́ ні про́ціў была́. Яна́ прышла́ да нас. Мы ўжэ с Ста́сем стро́ілі э́ту ха́ту, се́лі вячэ́раць. Я кажу́: цётачка, ні зна́ю, чаго́ яны́ ўжо гэ́дак на мяне́, нічо́га, кажу́, ні хачу́, каб яны́ мае́ ла́скі папатрэ́бавалі, а каб я ні атказа́ла. Во так во і цёццы. Дак яна́: ну што ты гаво́рыш? Кажу́: я ні кляну́, то́лька, каб мае́ ла́скі папатрэ́бавалі. І то́чна. І прышло́ся:

забалéў Стáсевай сястры́ ўнук. А цéмра, а тут жэ вадá разлівáлася на Бáкшты, мост благí быў. Янá нóчы стýкае. Янá пашлá ні да нас, да Мáні пашлá, Мáня нарóчна атказáлася. Прыхóдзіць, стáла во тут во ў парóзе і с плачóм. Ён на рабóце ў Кляцíшчы быў, а яны́ ўдзьвёх, і э́ты забалéў мáльчык. Янá: мóжа Стась, мóжа п ты па врачá зьéздзіў ці што? Я стаю: янá ж дзьвярэ́й ні аткрывáла, ні аткрывáла ні дзьвярэ́й, нічавó! Я пашлá, ён сьпіць, во туды́ ў спáльню. Кажý: Стась, прыгнýлася, на ягó кажý. Пашлá янá, кажэ́, на тры! Всё. Кажý: Стáська, Стась! Ён падымáецца, запрагáе канá. Што ж ты дýмаеш, такóй цéмрай! Óсень. А там вадá былá разьлíўшыся, і ён па тэй вадзé паéхаў, прывёз врачá і за ноч атвёз э́тэ дзіцá ў бальніцу. Как ты маглá! Я дабрá чалавéку нікагдá ні забýду. Хто блáга зрóбіць, я забываю, хто дóбра зрóбіць, да сьмéрці пóмню. Прайшлó – я й забы́ла. Я ж малюся кáжды дзень пóсьле нáшай віны́. Трэ́ба атпускáць. І ўсім паатпускáла. Но, алé ш усé і шáпку зьнялі. А я не атказáла, а я не атказáла. Я не саграшы́ла.

***

Бáбы мужы́к пры апарáце, вы́піўшы быў, апáрыўся. Янá прышлá. Я памаглá ёй, калхóзнэ сéна пааставáлася, нагрэ́бці. Ну ён у бальніцы, якрáз і Валóдзя быў. Я кажý: Стáська, Стáська, завязí, кажý, я́к-та сéна. Ён з Валóдзем паéхалі, наклáлі воз і прывéзьлі э́та сéна, і янá тады́ всё.

Двóе стары́х і пéньсіі ні палучáлі. А скацíнкі дзяржáлі. Палю буракí, а ён, карóвы э́тые пашлі, а ён далёка. Кідáю э́тые буракí палóць і за э́тые карóвы, і загнáла дадóму туды́ да Сабалéўскіх. Жáлка! Стары́! Ён жа ні мóжа!

Ніхтó ні паслýхаў. Прыéхалі тут скацíну забірáць. Здавáць, но ні мóгуць сáмі. А лабáта, у іх скацíна былá лабáтая. Німá ш і на рóгі злажы́ць э́тэ, бяз рох. І зноў Стáська. І пашóў Стась туды́ і пагрузілі э́ту скацíну. Дык кáжэ: от, пашóў памагáць, ён пагрузíў... Ён жэж сільны быў, ён жэ ж дýжы быў. Дый кáжа: как жэж э́та Натáшка плáкала пат хáтай, дык плáкала ўсяднó, як я прыéхаў спіцыя́льна забірáць, янá ні с э́тым смы́сьле, янá плáкала, што астаюцца без нічóга. А ямý ўжэ, кáжэ: усяднó, як спіцыя́льна прыгнáў машы́ну забірáць. Што ён тóжэ рабíў людзя́м дабратý! Бóжэ!

***

На цэ́лую хáту ў нас конь быў такí сíльны, бальшы́. Дак янá (сястра) прышлá: кум, дзéці хрысьціў. Аднó – то хрысьцíў, другóе ні хацéў. Прышлá янá на другóе дзіцá прасíць. Ён: нет, нет! А янá пашлá да другóга, хацéла кýма ўзяць другóга, пашлá, дак гэ́та кáжа бáба: ксянзы́ дзяцéй ні хры́сьцяць. А сы́на яé празвáлі Ксёнз, бо ён васімнáццаць дзяцéй хрысьцíў э́ты, хлóпцам быў, і маé дваíх хрысьцíў. Дак ягó Ксянзóм ужэ́: Ксёнз, Ксёнз. Ён нікóму не атказáў э́ты Юзаф. Дак янá кáжэ: ксёнз дзяцéй ні хры́сьціць. І прыхóдзіць да нас. Стась: нет, ні паéду. А я: Стась, Стась, Бог зь нім, ну давядзí да вéры! Ты гэ́тага ні сагрэ́шыш! Паслýхаў і паéхаў.

***

Усé сéлі ўмéсьце. Вядóма ж, сям’я́ вéлька. Тáта кáжа: пры сталé далжнó быць, как у пасьцéлі. Паéлі, что хоч. Сказáў, дак нам жа такí сьмех. Я ўжэ віджу, што я ні вы́дзяржу. Я лы́жку паклáла і на печ. А ён тут мянé за нагý. А мáма: ні чапáй ты, ні чапáй. Ён то, прáўда, ні чапáў бóлей. Ён нáта ні біў, ён пасáдзіць вот так: ні лжы, ні крадзí! Рас салгáла, то тóжэ пасадзíў каля сталá мянé: пачамý, ты прáўду гавóрыш, былó гэ́та? Я кажý: не. А чамý ты салгáла? Ну, э́та Юзэ́фа там мянé навучы́ла, сказáла салгáць і я салгáла. Ну ні бýду біць, но пóмні, штоб нікадá больш ні лгáла! Васпíтваў ён прáвільна. Ён казáў: хто лжот, тот крадзёт. Как чалавéк гол, так і óсьцер. Как ён бéдны, дак ён і óстры. Як багáцьце – ён сабражáе і всё. Тáта быў дóбры і мáці. Тут у нас на хýтары бéдна-бéдна жылí. Яны́ ўлéзьлі да жыдóў у магазін і абакрáлі. Рулóны ж былí, во такíе рулóны, мацяр’я́л. І яны́, у нáшай адры́нцы былó сéна, адры́нка былá, і сéна былó, і ў э́тай адры́нцы схавáлі на фýтары. Янá ні тут ні дóма, а былá

там, фу́тар у на́с, шэсь гекта́раў было́. Пае́халі па се́на – і е́тые руло́ны. Зра́зу сабразі́лі, хто і чыё, но не бра́лі. Се́на ўзя́лі, а гэ́та аста́вілі. Яны́ забра́лі. Гэ́тые жыды́ разаблачы́лі хто і прые́халі да гэ́тага чалаве́ка, ён бе́дна жыў. Забра́лі ўсю скаці́ну яго́. А тот акра́з быў у Ба́кштах. І прадаюць гэ́ту скаці́ну яго́ па дзяшо́ўкі. Та́та вы́няў дзе́ньгі і аткупі́ў гэ́тым гэ́тые каро́вы, аткупі́ў. Вярну́лі ж яны́, вярну́лі. І та́та так зрабі́ў. Яны́ тады́ ўжэ сястру́ за куму́ ўзя́лі.

***

У нас ха́та была́ харо́ша, і бра́ма зро́бляна така́я із ґа́нкам і пакра́шана за По́льшчай. У та́та быў пісталёт, разрашэ́ньне было́. А тады́ прышлі́ ўжэ бальшавікі́ і сказа́лі, зна́лі, што ў та́та ес, прыказа́лі здаць у сільсавет. Ён здаў. Э́та ўжэ брат, та́та ў саракаво́м памёр, брат здаў. А тут усе́ ў дзярэ́ўні зна́лі, што так. І далажы́лі. Ну і як парціза́ны паяві́ліся, што ест. Прыхо́дзяць но́чы парціза́ны і нахо́дзяць е́та пісталёта ў бра́та. А дзе ж он во́зьме, як яго́ нет. Яны́ свой пісталёт рас – і на печ, дастаюць і яму́ пад нос: во, во, а ты – не. А тады́ ён дагада́ўся, што ў нас быў дзепута́т, і ён пры гэ́тым дзепута́це здава́ў ра́зам. Ну і яны́ павялі́ яго́. Ён да дзепута́та пашо́ў, патвердзі́ў, што то́чна здаў, тады́ ачапі́ліся, а так к сьце́нке ста́вілі.

Як зайшлі́ бальшавікі́, прапа́ла сто́лька гро́шай, якра́з нядзе́ля была́, ну дак нядзе́ляй е́лі. А сасе́тка ўляце́ла, ка́жэ: дзя́цька, бальшавікі́ ў Еве́нцы. І-і-і, ён як еў, лы́жку палажы́ў: я гэ́тага ні перажыву́, ні перажыву́ – сто́лька гро́шай прапа́ла. Забале́ў – рак пе́чані. А тады́ ско́лька вазі́лі. До́ктар сказа́ў: вязі́це на край сьве́ту, ніч́ога ні памо́жа. І ў со́рак чаты́ры гады́ ён памёр. А я са́ма ме́ньшая была́, сястра́ е́зьдзіла ў Вало́жын у бальні́цу, ка́жэ: ніко́га так ні шкаду́ю, як... Я ўжэ са́ма ме́ньша была́. А тады́ ўжэ каза́ў: хай бы мяне́ на Сібі́р аднаго́ паве́зьлі, каб я... Ну жыць хаце́ў. Шчэ ж усе́ ні ўпара́тку, то́лька адна́ была́ за́мужам, і брат жана́ты быў. А тут ужэ́ ж нам пака́зваюць, што нас вывóзіць бу́дуць. Неспако́йна было́ на то́е врэ́мя. У нас усё: і малата́рні, і вaскі́, і бры́чкі – усё. А ко́ні... Вы́праж така́я была́, э́тые званкі́. А тады́ зімо́ю ў вазо́к э́та ўжэ сястра́ з бра́там. Атпра́віў ён у васку́ і пат шастуны́ пад э́ці. Пае́халі яны́ на гуля́нку, а там на тэй гуля́нцы, як вы́пілі, завялі́ буч і пабі́ліся. Пабі́ліся, мно́га там дзяло́ў нарабі́лі. Тады́ ён ка́жэ: ну вот, вы́правіў як пан́ят, а встрэ́ціў як парася́т. Усяго́ было́. Ён быў пяць гадо́ў у Герма́ніі ў пляну́ ў не́мцаў. Ён і падва́л такі́ зрабі́ў пат ха́тай, як у не́мцаў. Прышо́ў с плёну і ду́маў, што ма́ма ту́така гало́дная, што тут го́лат. Усе́ ж зна́лі, што на Расі́і такі́ го́лат. А прышо́ў, а ў ма́мы запасы жы́та і сухаро́ў. І тады́ ён дава́й ха́ту ста́віць. І лю́дзі ішлі́, ён таго́ жы́та плаці́ў. І сьві́раны, і хлявы́, і гу́мна – усе́. Шыбуко́м зва́лі, усе́ ж паны́ яго́ ўважа́лі. Ён у́мны быў, ён быў ніабразо́ваны. Тут шко́лы ні было́. І ён з гібо́інам ґмі́ны і зь лясьні́чым, ён у э́тай ра́дзі не́йкай быў, і сказа́ў: я атпушчу́ сваёй зямлі́ для шко́лы. А лю́дзі ўсе: а багаты́р, а ён нас хо́ча да то́рбы даве́сьці! Ну ўсім жа людзя́м даў шарава́рку, адбыва́ць шарава́рку, ну ні зна́ю – э́та даро́гу рабі́ць ці што – шарава́рка. І ка́ждаму там па два дні ці паско́лька адрабі́ць. Ну а э́та да́лі ка́ждаму чалаве́ку вы́весьці сто́ка ле́су на шко́лу. І ніко́га ж ён ні загна́ў. Таку́ю шко́лу атстро́ілі! Нас жэж было́ і дзяўча́ты. Мог паста́віць убо́ршчыцай та́мака ў шко́лі. А ён жа паста́віў са́мых бе́дных і за сто́ража, і за цехні́чку, каб убіра́лі, каб старажава́лі, каб яны́ палуча́лі гро́шы. Ён хаце́ў дабро́ зрабі́ць. У тры́ццаць сёмым го́дзі яе́ высьве́нчвалі – фэст быў, фэст. Там была́ така́я бальша́я шко́ла. Кла́сы, а тады́ пачака́льня, дзе разьдзява́ліся, а другі́ канёц было́ для вучыцяле́й. У дзьве зьме́ны вучы́ліся. У ка́ждай сям'і́ было́ ж пасто́лька дзяцей. А шчэ ж па пяць кіло́матраў хадзі́лі ў э́ту шко́лу. Учы́целька тут была́. Тут было́ лясьні́частва пастро́енае. Яна́ хадзі́ла два кіло́матры ка́жды дзень у шко́лу. Адна́, у две зьме́ны ўчы́ла, адна́. Яна́ йдзе ўжэ, а мы, як увідзім, што яна́ зь ле́су выхо́дзіць – скарэ́й за па́рты, се́лі за па́рты. Як яна́ ўвахо́дзіць, зра́зу падыма́емся: дзень до́бры, па́ні. І абра́зічак так во быў, жаґна́емся і гаво́рым малі́тву. Тады́ се́лі – уро́к. Уро́к прахо́дзіць, пасьля́ ўро́ку зноў малі́тва. Ну е́сьлі во так павярну́ў галаву́, яна́ во так во то́льки (стукае пальцамі па стале). Му́ха праляці́ць. І я ні чу́ла, каб э́та ж мы, і бо́льшые хадзі́лі, каб э́та мы вы́ляцелі гуля́лі, ці като́рэ дзіця́ ма́та загну́ла – э́та ні было́. Мяня́лі кні́шкі, дзяржа́лі нас два гады́ ў трэ́цім, бо мно́га ж, ні пасту-па́лі, і два гады́ ў чацьвёртым. Э́та ўчы́цельніца была́ с Ке́льцаў. Там шчэ знаць падмуро́ўка.

**Балагольня**

У Гарадзішчы ні было́ яўрэ́яў. У Гаратку́. Ну я е́та ні зна́ю: аны́ ж да вайны́ жылі́. О! На е́там ме́сьці была́ яўрэ́йскі дом зае́жджы, дзе я пастро́іўся. І тут от, як мой агаро́т, ме́траў мо дзе́сяць, тут яшчэ́, і там, як кане́ц забо́ра, то́жа ха́та стая́ла, патаму́ шта як се́ялі карто́шку, дак тут ві́дна, што страе́нія было́.

А тут, гаво́раць, быў дом зае́жджых, балаго́льня. Тады́ ж ні было́ аўто́бусаў, а е́зьдзілі з Глу́ска ў Бабру́йск, на ко́нях. Е́дуць з Глу́ска, тут нач́уюць: тут як той шыно́к быў. А я ні зна́ю, чаго́ там Карчма́ называ́юць: а е́та, ка́жуць, Карчма́ ко́лісь была́. І пае́халі ў Бабру́йск. З Бабру́йска наза́ўтра е́дуць – сюда́ заяжджа́юць, тут паядзя́ць, пап'юць, пераначу́юць – і пае́халі на Глуск.

**Гліняны заводзік**

Пры мне быў заво́дзік [*смяецца*]. Гаршкі́ круцілі. Гліня́нныя. О недалёка тут во! Пры мне – дваёх [там працавалі]. Мі́ша Ца́рык, сасе́т мой (он там ха́тка), і Фе́дзя Зубе́ц. Шу́рыка, зна́я[э]ш, Зубца́, не? Ну яго́ ба́цька! Ба́цька быў заве́дуюшчым, а е́ты – памо́чнікам. О-о, красі́выя[э] гаршкі́ круцілі яны́!

Я хадзіў туды́, глядзе́ў. Но там на́да аддзе́льная глі́на. С э́тай кра́снай глі́ны ні[э] зро́біш. На́да, кап така́я я[і]на́, сі́вая глі́на – глей, як называ́юць. Я хадзіў туды́ да іх. І як цехнало́гія? Бярэ́ на палу́ там расьсьцілае – у йіх цалафа́на ні было́, – да не́кі як брызе́нт. Ён глі́ну туды́ е́ту ло́жыць, і тро́шкі змо́чыць вадо́ю, і тады́ такі́ дзяравя́нны малато́к, і ён яго́ б'е. І так б'е е́ту глі́ну, разьбіва́ет, што палучае́цца, як ма́сла, што ні́дзе каб ні аднаго́ ні ка́мушка, ні е́та[о]го – нічо́га. Пато́м така́я про́валака ў йіх была́, бярэ́, така́я от, як струна́ ў гіта́ры, то́нянькая, сьліма́к называ́лі (такі́ о і такі́ высато́ю). Ён [г]э́таю про́валкаю праразае й праразае[а]! Е́та цехнало́гія така́я – у мі́не́ п не хваці́ла б і цярпе́ньня! І ўсё. Зрабі́ў ён: ужэ́ зна́я[э], да кандзіцыі яко́й.

А тады́ ў яго́ тут крух такі́, крух, но яны́ ра́зныя быва́юць (ка́жды па-сво́я[э]му), ну тут крух такі́, тады́ сто́йка, а тут крух о такі́ от – па́льцаў на чатыры таўшчыно́ю. Ён сабе́ сядзі́ць тут, ўзяў, які́ табе́ трэ́ба, глады́ш е́ты зрабі́ць і́лі гаршчо́чак. "О-от, зрабі́ця[э] мне на паўтара́ лі́тра!" Ён бярэ́ з глі́ны – рас, рас, рас, на паўтара́, на е́ты крух ве́рхні, рас – палажы́ў, нага́мі – круць. І ён кру́ціцца, рука́мі бярэ́, і ў яго́ расьце́, расьце́, расьце́. А тады́ вы́цягня, тады́ туда́ па́льцы – і кру́ціць. Пра́ма як валшапство́!

У гаршку́ ва́раць е́сьці, а ў глады́ш – малако́.

Маглі́ такі́я (от у мя[і]не́ был, дак ціпе́р яго́ німа́ ўжэ – дачка́ забра́ла), ну па зака́зу зрабі́ць, такі́ нападо́біі каўка́скіх е́тых куўшыно́ў, тако́я вот. Абы́чьна рабі́лі гаршкі́ і гладышы́. Мо́жа на паўлі́тра зрабі́ць, мо́жа на лі́тру зрабі́ць, мо́жа і бо́льшы. А гаршкі́ – дак мо́жа і такі́ зрабі́ць! І зро́біць, тады́ е́таю струно́ю – рас, абрэ́заў яго́ с е́тога кру́га і астаро́жна на по́лку. Ста́вяць. Панастаўля́юць, зайдзе́ш – дак йіх там, по́лак е́тых, мо ў сем этажэ́й. Стаі́ць пасрадзі́ні жале́зная е́та пе́чка, і палі́лі пе́чку, каб яны́ вы́сахлі.

А тады́, як вы́сахнуць, у го́рн сажа́лі. Такі́ горн вялі́кі, такі́ от кру́глы, бальшы́. І зьні́зу па́ляць дро́вы. Ну там унізу́ печ, а горн навярху́, і там такі́я ды́ркі круго́м, як ка́жуць, у паталку́ пе́чы е́тай. І от па́ліць пашці́ су́ткі, а то й больш, наве́рна. Быва́е, дымі́ць і дымі́ць. Там тако́я зда́ніе зро́блена, каб жа дошч і ўсё е́тае. І ён па́ліць, ён выпа́львае (я ні зна́ю ско́лька). Зьве́рху закрыва́я[э] ра́знымі чарэ́п'ямі е́тымі (бой жа есьць, дак чарэ́п'ямі закрыва́юць е́тае ўсе) і па́ліць, пака́ е́тыя аш не[і] набе́ла нака́ляцца, ўсе гаршкі́. А тады́ – ўсё, ту́шыць, і астыю́ць. Астыю́ць – і ўсё. Ён тады́ выні́мая[э] іх атту́ль. У скла́т.

А тады́ тра́ктар прыяжджа́я[э] (абы́чьна тра́ктар с прыцэ́пам) – і цэ́лы прыцэ́п нагру́зяць. Гру́зяць ні ў я́шчыкі, ні ў чо́га, про́ста так укла́дваюць, укла́дваюць, а яны́ ўме́юць укла́дваць іх – і ўсё. І павязьлі. А куда́ яны́ вазі́лі? Ну, яны́ вапшчэ́-та ад Глу́ска рабі́лі.

У мяʲне́ ж было́ е́тых гладышо́ў да е́тых гаршко́ў ра́зных! А пато́м жа перад вы́палкай йіх жа паліва́юць йіᵃшчэ́. Таѓ жа ён што – глі́на і глі́на! А такі́ парашо́к йім (я ні зна́ю, як ён называ́ўся) бяру́ць тады́, як яны́ павы́сахнуць, бяру́ць абыкнаве́ннаю верацёнкаю ма́слам ілі такі́м афто́лам, сма́звая е́ты гаршчо́к усрадзі́ні і туды́ парашо́к сы́пля. Патрасе́, патрасе́ – і ўсё, і ў сто́рану. А тады́ як выпа́льваюць, е́ты парашо́к расплаўля́ецца – і палуча́ецца такі́ блеск. І крэ́пасьць палуча́ецца. Як сьцяʲкло́м усё раўно́ палуча́ецца. От і ўсё.

### Святы і кірмашы

Ра́ньша тро́хі сабіра́ліся, як я прые́хаў, а пато́м, менш людзе́й як ста́ла, менш-менш, да ціпе́р, наве́рна, не...

Хадзілі на Каля́ды, хадзілі, шчадрава́лі. А йшчэ ніда́ўна Ко́рабавыя тут хадзілі то́жа, ужэ́ як мая́ паме́рла, то яны́ да міне́, па-мо́яму, і не прыхо́дзілі. Прыхо́дзілі! Прыхо́дзілі, дак е́та яны́ хадзілі на Ста́ры но́вы гот, на чаты́рнаццатаᵒго.

А так тут, па зако́ну, як яшчэ́ ў старыну́, зна́чыць, у Гаратку́ на Кузьму́-Дзямя́на было́, патаму́ шта э́та кірма́ш быў. Патаму́ шта гавары́лі: на Кузьму́-Дзямя́на е́та цэ́ркву залажэ́ніе было́. У Гарадзі́шчы – Міко́ла. А які́ Міко́ла, йіх жа два: адзі́н вясе́ньні і асе́ньні. А я ні зна́ю, на яко́га Міко́лу, ну, там, в о́пшчэм, ужэ́ стары́х е́тых ніко́га німа́ ні аднаго́. У Кныша́х то́жа, а які́ ш пра́зьнік быў? Пры мне яшчэ́ ста́рыя лю́дзі атмяча́лі, а ўжэ пато́м – ніхто́ ніч́ога.

### Бабкі-шаптухі

Была́ ў Гаратку́ Меᵃдвятко́ва, ба́ба Ульля́на, о́чань харашо́ лячы́ла. Яна́ магла́ іспу́х, і ро́жу, і шчэ там які́еᵃ-то.

Цёшча мая́ шапта́ла то́жа до́бра! Памага́ла.

О, тут о І́гар ха́та забра́ў: была́ стара́я така́я. Ён у про́шлым гаду́ зьнёс яе́, туды́ забра́ў, на то́й Гарадо́к. Ба́ба Ма́ша. Яна́ до́бра лячы́ла ўсё. Яна́ і ат уку́са зьмяі́ загава́рвала да́жа. Дак усё гавары́ла мае́й: “Мару́ся, прыдзі́, ты уме́еᵃш пі́саць (а яна́ ніᵊ ўме́ла пі́саць, ну што ба́пка стара́я?), дак ты прыдзі́, перапі́шаш – і бу́дзе табе́ е́та, патаму́ шта ты ў бацько́ў пе́рвая”. А на́да пе́рвай ілі пасьле́дняй е́та перадае́цца. Дак мая́ ўсё сабіра́лася, сабіра́лась – так ба́ба Ма́ша і паме́рла, яна́ не запіса́ла.

Вот я зна́ю, што е́та і Міᵊдвядко́ва лячы́ла харашо́.

У Кныша́х до́бра лячы́ла ро́жу Луке́р’я. Яна́ да́жа і мне лячы́ла. Мне о́сеньню прышло́ся: карто́шку капа́лі, шо́-та памы́ў ру́кі хало́днай вадо́й, а о́сень ужэ́ по́зьняя была́, а мы до́ма капа́лі карто́шку. І мне наза́ўтра рука́ о так от, як разьнясло́ – і ўсё. А я на матацы́кле тады́ е́зьдзіў, по́шту вазі́ў, мне быў мі́нскі матацы́кл. І прые́хаў у Кнышы́ туды́, ну німо́жна: агнём гары́ць і кра́сная, распу́хшая. І пе́ньсію якра́з е́тай ба́бі Луке́р’і. Яна́: “А шо э́та ў ціᵃбе́, галубо́к, з руко́й?” Кажу́: “Ні зна́ю, цётка Луке́р’я, шо тако́я”. Яна́: “Дава́й палячу́!” – “Лячэ́ця”. І яна́ не́шта мне шапта́ла, шапта́ла, шапта́ла на руку́ е́ту і крысці́лася. Ну, яны́ абы́чьна перахры́сьцяцца, е́тыя шапту́хі. А пато́м узяла́ таку́ю адну́ рукаві́цу, вярхо́нку абыкнаве́нную, паду́ла, паду́ла: “Адзява́й!” Ты зна́яᵊш што, паку́ль на матацы́кле прые́хаў с Кнышо́ў дадо́му, у міᵃне́ о́пухаль палаві́на спа́ла! Яна́ гаво́рыць: “Е́сьлі як што, дак за́ўтра да міᵊне́ зайдзі́, бо е́та, – гаво́рыць, – тры ра́зы на́да”. Я наза́ўтра, то́жа сераўно́ ж у Кныша́х, яна́ на агаро́дзі, карто́шку там то́жа капа́ла. Я пашо́ў пра́ма на агаро́т да яе́. Гавару́: “Ба́ба Луке́р’я, о, ба́чыцеᵃ што!” – “А дава́й я йшчэ́ табе́ пашапчу́!” Яна́ йшчэ пашапта́ла. “То́лька, – ка́жа, – рукаві́цу не зьніма́й, каб го́лаю руко́ю, ну, як е́дзеш, за руль да дзе́ржышся”. І ўсё – два ра́зы. А на трэ́ці рас паглядзе́ла – ка́жа, ўжэ ні на́да.

[Рукавіца вярхонка] е́та сьпіᵊцо́вачная така́я, абыкнаве́нная, палатня́нная, што даю́ць гру́шчыкам там, хто што но́сіць, я́шчыкі, такі́еᵃ рукаві́цы.

І Дзяᵊшчэ́ніха. Ва́рка Дзяшчэ́ня, у Турка́х. То́жа до́бра лячы́ла. Та́я мне іспу́х палячы́ла. Я ўжэ стары́ чалаве́к, мо́жна сказа́ць, іспуга́ўся быў. Яна́ міне́ палячы́ла адзі́н рас – і ўсё.

Чагó янá мне сказáла тады́: “Тóлька абяшчáй мне, тóлька не$^{і}$ выпалня́й, а абешчáй мне, што кýпіш буты́лку вóткі”? Чагó янá мне так сказáла? А то я ні$^{э}$ мох, як тóлька к вéчару – і ўсё, мне спаць хóчацца, млóсна штó-та о так о. А я знáю, што я спугáўся тады́ здóрава. Ну, я гаварý: “Дóбра, бáпка, куплю́”. Янá мне тóжа пашатáла, пашаптáла, шчэ на вадý пашаптáла, змы́ла éта ўсё, рукý так э́та лёгенька. Назáўтра мне лýчша, і лýчша, і лýчша – і ўсё. Я гаварý: “А чагó вы прáвую мне рукý мы́лі, мне ж рукá ні э́тат вот...” А янá кáжа: “Так трэ́ба”.

### Магазінны хлеб

Хлеп быў [у магазіне]. Быў хлеп, і прывóзілі я$^{і}$шчэ́ бéлы хлеп. Такíя сáмыя бýлкі, тóлька ўжэ пшанíчныя. Дак тóжа, ну ні тó, што батóн, канéшна, дак былí рáды і тамý. І шчэ былí такíя: бéлая, ну такая, як і абы́чьная, вéльмі хлеб éты бéлы быў, і так – рас, на тры éтыя. Яé мóжна было́ хóчаш аднý ўзяць – рас, адламáў, янá рóўня$^{э}$нька адлóміцца, як сераўнó прылéплена аднá да аднагó. Ну дак ніхтó ж ні браў тады́, каб аднý éту! Ва ўсіх сéм’і былí, тут вазьмí э́ту бýлку хлéба бéлаго, дак за рáс сéлі – зьéлі сямьёю. Я ні знáю, чагó тады́ было́ э́та пры КПСС (капаэсэ́с). Дзяржáлі і карóў, і дзяржáлі і сьвінéй...

## ЖЫЦЦЁВАЯ ДАСВЕДЧАНАСЦЬ

### Як ставіў хату

Крóквы – éта страпíла. Пóдруп – э́та пéрвы сáмы вянóк. А ты, ш$^{т}$о, хóчаш хáту пастрóіць, мóжа [*смяецца*]? А я й сам ні знáю: як дзе пачýў, так я і гаварý.

Не-е, патóм фундáмент. Да ў мі$^{а}$нé тады́ цэ́менту ні было́, дак так фундáмент такí зрóблены, як нáда ўжэ перадзéлваць даўны́м-даўнó, алí ж я ўжэ ні хачý. У мянé от чаты́ры кáмні такíе здарóвыя, на éтых камня́х патóм фундáмент паддзéлаў, пракапáў трóхі. Канéшна, дзе фундáменты высóкія$^{э}$ былí. Да затó ў мі$^{а}$нé лéсу ні хватáла, дак і хáта нíская. Ну што мне закамáндавалі, я ж ні знáю, бáцька мой ні стрóіўся! Хацá ён дóбры плóтнік быў. Бáцька мой стóляр быў, ён ўсё рабíў, но ні стрóіўся. Ні было́ так. Фундáмент заклáдваюць мне іс Глýшы.

Зруп рабíлі. Знáчыць, у сьвятóм углý, тут, на пéрвам вянкý, рóбяць на углý я́мку такýю: тапарóм вы́дзяўбая, вы́дзяўбая я́мку. Тудá закамáндавалі мне сóлі і хлéба палажы́ць. Я: “Ну, – гаварý, – як трэ́ба”. А, гавóрыць, калí есьць грóшы, так... Тóлька не бумáжныя – жалéзныя. А ў мі$^{а}$нé такíх ні$^{э}$ было́, а быў адзíн палцíньнік: рáньша, я ні знáю, калí éта, да вайны́ йшчэ, былí палцíньнікі, ся$^{э}$рэ́браны прытóм, яны́ сярэ́браныя былí. Дык я гаварý: “У мянé палцíньнік сярэ́браны”. – “Давáй сюдá”. От яны́ закамáндавалі тады́ маéй (а мы жылí тут ужэ́, чэраз дарóгу, у éтай, в óпшчам ні$^{э}$ ў Гарадзíшчы): “Дай чы́стую трáпачку”. Мая́ пашлá там с$^{э}$ь якóя$^{э}$-та маце$^{і}$р’я́ла атрэ́зала. Яны́ гавóрацць: “Такí от, як насавы́ платóчак, нівялíчкі во”. Яны́ éта ўсё пры нáз завязáлі і ў éту я́мку палажы́лі. Éта от на éтам прадóльнам палéні пéрвам, а тым – накры́лі. І гавóрацць: “Éта табé бýдзя шчáсьця ў хáці”.

І пашлí ўжэ дáльша лажы́ць. Крóквы пастáвілі. На крóквы прыбíлі: пашóў ў лес адзíн, там ёлачку такýю вы́ся$^{э}$к, прыбíў ёлачку. А éта, каб лю́дзі віздзя$^{і}$лі, што магары́ч пастáвіў за йíхну рабóту, што канéц рабóты. Так дагавары́ліся да óкан: зрóбяць – магары́ч трэ́ба стáвіць. Так, пéрвы пóдруп – магары́ч. Ну іх трох чалавéк было́, яны́ і нíсільна і пілí, патамý шта рабíць нáда было́ ім. Да óкан – другí. Óкна прашлí – трэ́ці. І крóквы – чацьвёрты. І тады́ рашш$^{ч}$óт. І ўсё. Ну, я аддáў за éты зруп тры́ста рублéй тады́.

– *Чым страху накрывалі?*

– Ґантóю. Аднá ў аднý. А патóм ужэ́ шы́ферам, дак я ўжэ і гóнту не$^{і}$ зьнімáў. Ну цяжóлая кры́ша сíльна. Ґóнта ў тры рады́ кры́тая. Алé ж на мóй век хвáціць!

[Падлогу] рабíў срáзу. Мне йшчэ далí лéсу, дак я дóскі ў Глýшы пілíў. А éта сам рабíў! Ўсё, ўсё, ўсё!

## Як рабіў печ

*– А печ хто рабіў?*

– Тóжа сам! Кап ты былá пячнік [*смяецца*]! Як дзе гліну [бралі]? Во ў нас кар'ер глінянны рáдам. С кірпічá, канéшна ж. Глíна ш нáда. Ты знáеш, скóлька я пя<sup>э</sup>чэй перарабіў? Я тóлька аднамý тваймý дзéду Грышу не<sup>і</sup> рабіў. Не, я цепéр... Магý даць мáсьцера табé. О Кóля! Óчэ<sup>а</sup>нь харóшы кацáпчык! Óчэнь харашó рóбіць. А я ўжэ не, я ўжэ даўнó не раблю. Ён знáя. Начынáя рабіць ат фундáмя<sup>э</sup>нта. У цебé ш фундáмент есьць. Грýпкі німá ў ця<sup>і</sup>бé, тóлька печ, а печ с плітóю. Ну дак се раўнó.

Éта начáў рабіць, я ні знáю, як янó па-наýчнаму назывáецца. Дадзéлаў да прыпячка, да прыпячка дашóў, начынáяш пот [под] лажыць у пéчы. Но, каб жа гаршчóк не перакуліць, нáда ш рóўненькі каб быў, як паркéт éты лóжаць, чы плітка. І ўсё. Патóм начынáя<sup>э</sup>ш сьцéнкі рабіць і свот, іли, як кáжуць, паднябéньне. От зрабіў. А тады ў пáзухі éтыя: налажыў гліны, камнéй, камнéй, камнéй палажыў. Бýдзеш паліць, кáмні нагрэюцца – цяпло дóбра дзéржаць. І ўсё – і пашлó далéй! Тут палажыў ужэ чарэнь, навéрх палажыў – і пашóў кóмін! Гэта прастóя дзéла.

Я перарабіў Гарадзішчы. На вáшай ýліцы ў Луцэі аднóй рабіў. Нáдзі Кóлевай тут рабіў, Траянóўскаму рабіў тут, Сьвéці рабіў і грýпку, і печ, Нáдзі Кóля<sup>э</sup>вай тóжа грýпку і печ рабіў. Я тут у Гараткý мáла, а так па дзі<sup>э</sup>раўнях мя<sup>і</sup>нé. Я многа ў Жалвінцы і ў Барысаўшчыні. Ў Макрáнах рабіў. А патóм дзé-та прыяжджáлі аж у Фальвáрку. Дзе той Фальвáрак? Дзé-та за Мáкавічамі туды. Там тóжа рабіў. І туды, у той старанé, ў Навасёлках тóжа рáбіў. Да бóжа, хіба ўспóмніш цяпéр?

## Вазы і вазкі

Брычка – эта дзе éдзя начáльства. Як це<sup>і</sup>пéр таксі. Былі рáзныя: такі пéнкны нацягваўся, а то абычьна такі аткрыты пóлнасьцью. Ну, на расóрках, каня ýпраж. Бáцька мой на éтай брычкі éзьдзіў. Ýпраш пóлнасьцью: éта нáда, кап тыя рáзныя<sup>э</sup> на саедзінéніях бляхі былі начышчаныя, кап блісьцéлі. І ўзьдзéчка тóжа: там рáзныя<sup>э</sup> бýсінкі éтыя от і ўсё.

<sup>ў</sup>вос назывáўся абычьны, што вазілі сéна, картóшку – о так о ўсё вазілі. <sup>г</sup>эта вос. Аднакóнны быў: адзін конь запрагáўся, дзьве аглóблі – і каня стáвілі.

А паракóнка – той сáмы <sup>ў</sup>вос, тóлькі два кані, і ён бóльшы. Ён намнóга бóльшы. Тóжа так о сáмае<sup>а</sup> вазіць сéна, салóму. Рáньша ж ні былó машын, усё ш кóньмі рабілі.

Зімóю сáні былі. Тóжа былі аднакóнныя, і выязныя сáні, і паракóнныя. Паракóнныя<sup>э</sup> – эта дышаль, і с аднóй стараны конь, з другóй стараны конь запрагáецца – і паéхаў. І папрóбуй пастáў каня, пэ<sup>і</sup>рамяні, калі конь хóдзіць ўсё ўрэмя с прáвай стараны дышла, папрóбуй пастáў на лéвую – ні паéдзя<sup>э</sup>ш. Абычьна конь дóлжан стаяць, знаць.

## Як запрагаць каня

У бáцькі быў [конь] да вайны. Шо, запрагáць каня? Хамýт, лéйцы, абрóць іли узьдзéчка, сядзёлка. Сядзёлка на сьпінý надзяéцца і там пад жывóт паджымáецца на éта, а патóм зацягваецца, у сядзёлкі там такія – ýха есьць. Чэрассядзéльнік зацягваюць, за аднý аглóблю і за другýю цапляюць, каб як конь ідзé ці бяжыць, каб янó – во, не баўтáліся, аглóбля-то ж ямý шыю крýціць сюды-туды, а янó рóўна дзéржыцца.

У вазý вось, калёсы, білы – закладніцы éтыя, іли драбінкі. Ну, драбінка як лéсніцкі такія нападóбіе. А што ішчэ ў вазý? Бáрчык, а кудый каня чапляюць. Бáрчык – éта ў паракóнкі. Стальвáга назывáецца. Стальвáга, аднá, знáчыць, такáя пераклáдзіна, знáчыць, тут адзін бáрчык цапляецца, а тут другі бáрчык цапляецца, кáждаму каню ш éта трэба, каб прыцэплены быў. Ну, а куюць каня паткóваю, канéшна (*смяецца*)!

**Нарыхтоўка сена**

На́да было́ скасі́ць уча́стак, гекта́р, пе́ршы ўкос у саўхо́с здаць, а ата́ва, што вы́расьце$^{а}$, тады́ табе́. І йшчэ за ата́ву заплаці́ць на́да было́.

*– А дзе сена на дзве каровы бралі?*

– А дзе папада́ла: і картапля́нік жа́лі, э́ты йшчэ зялёны. Тады́ ж карто́шка: не́шта по́зна се́ялі і по́зна капа́лі, дак йшчэ і батва́ зялёная была́, дак жа́лі да сушы́лі. Да круго́м, дзе па бало́тах, дзе ў ле́сі. Хто дзе стара́ўся.

**Як ставіць стог**

*– А стог ставілі?*

– А як жа! У міне́ было́ тут во (там ішчэ́ сталбы́ стая́ць), така́я шо́па была́ на чатыро́х сталба́х: туда́ кры́ша падніма́лася і апуска́лася. Вот туда́ таптáлі, а пато́м ішчэ́ і два так, кала бо́ку, сташкі́. Кала бо́ка, кала е́тай шо́пы, кала яе́ стая́лі два сташкі́. Пато́м ужэ́ ста́ла ле́хча, а пато́м ужэ́, як ні ста́лі што́-та тут касі́ць, ста́ла раскі́двацца пры е́тай ужэ́, дак было́ касі́ ско́лька хо́чаш. Ну, а пе́рвае ўврэ́мя – о-о-о, як саўхо́с...

Насі́льшчыкі былі́, ба́бы грэ́блі ко́пы, насі́льшчыкі былі́. Такі́я насі́лы – ме́траў па пяць, о, две насі́лы, жэ́рткі. Прыхо́дзіш, капа́ стаі́ць – так, рас, рас, падбі́ў пат капу́, адзі́н сьпе́рэдзі, другі́ ззáдзі за е́тыя, і капу́ панясьлі́ к сто́гу. Там падава́льшчык падае́ на стох, а таптáльшчык таптáў. І за е́та за ўсё таптáльшчыку са́ма больш плаці́лі. А ішчэ́ і жанчы́на была́, като́рая по́сьля: капу́ падня́ў, бывáе$^{а}$, астае́цца се́на – дак яшчэ́ жанчы́на была́, падграба́ла тут і перано́сіла на другу́ю капу́.

Ро́ўнянька [каб было зверху?] забіва́лі сьце́жар – жэ́ртка така́я, кап цэ́нтар дзяржа́ў. І ўсё. Ён то́пча, пато́м распуска́я, распуска́я, шы́ра, шы́ра, ну сматра́ ско́лька коп там, а пато́м начына́я так, а пато́м пашло́ на сужэ́ніа$^{э}$, на сужэ́ніа$^{э}$, на сужэ́ньня. І да са́маго вяршка́ туда́. Каб не$^{і}$ зацяка́ў, так палуча́ецца.

*– А як ён адтуль злазіць?*

– Хай сабе́ і начу́я$^{э}$! Вяро́ўку тады́ перакі́дваеш і́лі ста́віш насі́лу е́ту, ён дзе́ржыцца і спуска́ецца. І́лі вяро́ўку. Бо тут жа хадзі́лі і абмяра́лі е́ты стох: высату́ і аб’ём. Па акру́жнасьці. Брыгадзі́р [хадзіў]. А як жа? На́да ш абме́рац, ско́лька тут. Ну яны́ ме́ралі на кубаме́тры, а пато́м перавó́дзілі ў то́ны. А так насі́лу паста́віў, дак ён дзе́ржыцца за насі́лу, а не – дак той вяро́ўку ту́ю перакі́ня, дак дзе́ржыш вяро́ўку атсю́ль, а ён там спуска́ецца, с той старны́. Хі́ба ты ні ві́дзіла тако́га?

**Як адбельвалі палатно**

У мя$^{і}$не́ самапра́тка он на чардаку́ стаі́ць! Я ні зна́ю, да вайны́ то́жа купля́лі, наве́рна, у каго́ што б было́. Ну, пра́лі абы́чьна палатно́. Пра́лі палатно́, яго́ пато́м адбе́львалі. Тка́лі, а тады́ адбе́львалі.

Я ні зна́ю, не́шта кала рэ́чкі мачы́лі, так $^{у}$о шарава́лі: бяру́ць ўдваёх – і шару́юць. Пато́м на расу́ выкла́двалі, расьсьціла́лі е́та палатно́: яно́ во тако́е вот шырыно́ю было́, ну, а дліно́ю да́жа, я табе́ скажу́, ме́траў, мо́жа, пятна́ццаць о так от, мо дзе́сяць, я ні по́мню. Бо мы любі́лі басяко́м бе́гаць па е́таму палатну́, як расьсьце́люць. Яго́ на ноч ні забіра́лі, ніч́ога, каб расо́ю я$^{і}$шчэ́ пе$^{і}$рае́ла. І палуча́ецца, я ні зна́ю ча́го, бе́лае-бе́лае. Е́та зь які́х ні́так я$^{і}$шчэ́, зь яко́й, як ка́жуць, зь яко́га льна. Бо там было́ і лён, як жа ён называ́ўся, ну са́мы лу́чшы вы́хат, пато́м зь е́та$^{о}$во атрэ́п’я яшчэ́, што трапа́лі лён, йішчэ́ астава́лася – там і то́я пра́лі, мяшкі́ тады́ тка́лі. На мяшкі́ там, на ўсё е́та.

## З чаго шылі

Мая́ ма́ма то́жа тка́ла. Шы́ла і руба́шкі, і ўсё. Я то́лька зна́ю, чаго́ ні́жняе бяльё шы́лі, но нам, малы́м, ні шы́лі, патаму́ што мы ішчэ́ й ні зна́лі, што тако́я й трусы́. А які́я штаны́ пашы́юць ці пераш ы́я ізь яко́га німе́цка$^{о}$го там чы... Што нахо́дзілі, то й валя́лася е́та$^{о}$го абмуньдзірава́нія ра́зно$^{а}$го по́сьля. Дак а шы́лі, дак чаго́ купля́лі ў магазі́ні, каза́лі: пе$^{э}$ркáль. Так, тут нарука́ўнікі шы́лі бе́ля$^{э}$нькія і варатні́к. От тако́я было́.

## Самагонны апарат

Чаму́ ні было́ [самагоннага апарату]? Ну ні ва ўсі́х. Тады́ дама́шнія$^{э}$ апара́ты ніхто́ ні$^{е}$ рабі́ў – быў лясны́ апара́т. У чалаве́ка быў апара́т. Рабі́лі бра́гу, вазі́лі і гна́лі. Яму́ плаці́лі: от, дапу́сьцім, шэсьць вёдзер залі́ва́еш і́лі пяць вёдзер – зна́чыць, буты́лка яму́. Ён ні браў пе́рвую, фтару́ю. Трэ́цюю. Пачаму́ трэ́цюю – я ні зна́ю. А зь вядра́ выхо́дзіла, дапу́сьцім, тры буты́лкі. Дак тады́ ш ні зна́лі ніхто́ ні са́харнай е́тай, што ця$^{і}$пе́р ро́бяць ды тра́вяцца. Тады́ жы́та, про́са прара́шчвалі на со́лат і карто́шка. І ўсё.

[Склад самагоннага апарату] Не$^{і}$ скажу́, а то ты прадасі́! І мі$^{а}$не́ прые́дуць і бу́дуць пыта́ць: атку́ль ты зна́е$^{а}$ш? Пе́чка, кіпяці́льнік. У тваéй ба́бы ко́лісь, Ма́ні, была́ пе́чка (як у йі́х ха́та была́ ні перадзе́лана, йшчэ ста́рая, ві$^{а}$ра́нды ш там ні было́, така́я пако́шаная-перако́шаная была́, э́та пато́м яны́ ўжэ перастро́ілі яе́, ужэ́ пры мне) о така́я, як самава́р. Зна́чыць, сюды́ па́ліш дро́вы, сюды́ залі́ва́я$^{э}$ш во́ду. Ну, я́сна, труба́ выхо́дзіць. Тут стаі́ць бражні́к, куды́ бра́гу залі́ва́я$^{э}$ш. І трубу́ атсю́ль, с э́та$^{о}$го кіпяці́льніка, туда́, атту́ль друга́я выхо́дзіць, на сушапа́рнік. Нат сушапа́рнікам стаі́ць тарэ́лка, я$^{і}$на́ ў тарэ́лку, а пато́м – і атту́ль цячэ́ [*смяецца*]!

Са́мая сма́чная – трэ́цяя! Таго́ і паме́р бра́лі трэ́ці. Ну, я, як стро́іўся, гнаў. А што? Тады́ яна́ па два рубля́ была́, дак папро́буй зарабі́ два рубля́, калі́ я ў лясьні́частві рабі́ў, дак со́рак во́сім рубле́й палуча́ў. Ды мая́ пач$^{ш}$тальёнам со́рак два палуча́ла ў то ўрэ́мя. А стро́іцца на́да ж было́, дзі$^{а}$це́й, і жыць на́да. Так до́бра, як прые́хаў с Карэ́ліі, у мі$^{а}$не́ была́ зана́чка гро́шай.

## Як рабіў брагу

Я$^{і}$е́ е́сьці так ні$^{а}$ бу́дзеш! А ты мі$^{а}$не́ прадасі́ я$^{і}$шчэ́, а мо́жа, ты шпіё н [*смяецца*]? Ну ў мі$^{а}$не́ ў само́га быў такі́ нівялі́чкі, я да́жа і ў ха́ці гнаў. Ну як рабі́лі? Жы́та, дапу́сьцім, і́лі пшані́ца до́бра, про́са о́чэнь харашо́ то́жа, ячме́нь до́бра йшоў на е́та. Мо́чыш ско́лька там – вядро́-два. Замачы́ў на су́ткі. Смaтра́ дзе: дзе кала пе́чы, дзе... ну, на́да, кап у цёплам было́. Пато́м ваду́ э́ту зьлі́ва́еш – і ўсё, і накрыва́я$^{э}$ш. То́лька мяша́ць трэ́ба, яно́ грэ́ецца і прараста́я$^{э}$. От прарасло́, і тады́ разасла́ў – сушы́ць на́да. Вы́сушыў, а пато́м мало́ць на́да. Змало́ў. От як змало́ў, тады́ ва́рыш карто́шку. І з вадо́ю ў бо́чку, е́тат со́лат туда́. І карто́шку таўчэ́ш. І ўсё. І так чыгуно́ў шэсь$^{ць}$, во́сім зва́рыш, е́та$^{о}$во со́ладу туда́. Асту́жвая$^{э}$ш, каб мо́жна было́ дро́жджы пусьці́ць, ні запа́рыць йі́х. І ўсё – і тады́ туды́ дро́жджы, і яно́ ро́біць. Тры-чаты́ры дні атрабо́тала – і гані́.

А ца$^{і}$пе́р, зна́еш што, ціпе́р я лу́чша ў магазі́ні куплю́, чым дзе самаго́нкі е́тай. Так яно́ ні на́да, но як яно́ есьць, так яно́ і есьць! Ну, а цяпе́р навучы́ліся ўжэ с са́хару. Са́хару, што? Са́хар разьвёў, дражджэ́й туда́ – і го́няць напраму́ю што́-нібуць. Там і пашло́. Там сіву́хі да чо́рта ра́знай.

## Як каўбасы рабілі

Яна́ [жонка] гато́віла фарш, ну туды́ ш на́да ж ра́зных прыпра́ваў: се́кцу, пе́кцу, часначку́, цыбу́лькі, як той жыд гавары́ў. Усяго́ е́тага. Ну, пато́м жа ш кі́шкі чы́сьціць на́да, чы́сьціць, сядзі́ць усё, каб... Яна́ ж вы́шкрабе$^{а}$ йі́х, дык яны́ о-онь як цалафа́нчык то́нянькі такі́, празра́чныя палуча́ецца. Пато́м фа́ршам е́тым набіва́лі – і ўсё. Лажы́ла, ў нас така́я дзе́жачка

была́ дзерaвя́нная нівялікая (яна́ ўжэ рассо́хлася даўно́), яна́ туды́ лажы́ла іх. І пра́сам, памо́яму, рабіла да́жа які-та, і туда́. Яны́ там тро́хі пабу́дуць (я ні зна́ю ўжэ, ско́лькі яна́ е́тым заніма́лася), ну а пато́м к вясьне́, як ужэ́ со́нца начына́е падніма́цца вы́шай грэць, іх, зна́чыць, на жэ́рдачыку і пад кры́шу, кап патсо́хлі.

## Сальцісон і тушонка

Сальцісо́н рабілі. От той кіньдзюх са́мы, жалу́дак, чы́сьцяць. От і́лі крывя́нкі рабілі. О́чынь ўку́сна!

Тушо́нку рабіла. Паабраза́еш, паабраза́еш [галаву], а е́тыя ко́сьці пасёк, пасёк, а тады́ суп ва́рыць, дак туды́. [Вушы, нос] на хало́днае, но́жкі то́жа. Э́та халадзе́ц. А хвост ў са́мае пасьле́днюю о́чарaць іспо́льзавалі. [Выкідвалі?] А зачэ́м? Ляжы́ць там, ён жа чы́сты, ўсё ж вы́чышчана, ўсё ж вы́мыта, і пасьле́дні пато́м, як ужэ́ халадзе́ц ва́рыць, пасьле́дні там с э́тавo$^{а}$. От з галавы́ до́бра, з касьце́й, халадзе́ц то́жа. І туды́ пасячэ́, пасячэ́ ме́лка хвост. Тады́ ўсе ко́сткі е́тыя выкі́дваe$^{а}$ш – і ўсё. Ма́ла лі што, он хвост, ну ён жа чы́сты.

А з гэ́тага рабілі сальцісо́н ўсё ўрэ́мя то́жа. Зва́рыць яго́, наб’е́, а пато́м ло́жыць на сто́л, накла́дваеш ка́мень. До́-обры грузі́шча, на́да ш яго́ ўжаць, каб е́та. Харашо́. Ўсё сваё было́. А тады́ ў магазі́ні і ні было́ нічо́га.

## Свая капцільня

Пато́м у мі$^{а}$не́ капці́льня была́. Свая́ капці́льня. У міне́ ўот ў е́там гаду́ раскі́даў то́лька бо́чку ту́ю. Така́я бо́чка, така́я высато́ю, о-о така́, дубо́вая. І там ме́траў чаты́ры то́пка была́. І па тру́бах пад зямлёю ішо́ў дым сюды́ ў бо́чку. Тады́ капці́лі калба́сы е́тыя. Туды́, зна́чыць, сьцёгна, маглі́ лапа́ткі капці́ць, е́та й са́ла, кусо́к асо́бенна паччаро́вак і́лі бру́ха. То́жа на́да бы́ла ўсё патсу́шваць е́та – і ў капці́льню. У мене́ ў капці́льні – о-о-о, ты што, пашці́ ўся у́ліца капці́ла! Ба́ба Та́ня, Кі́рычыха, тады́ Ю́лік, сын яе́ то́жа, тады́ Шу́ра Барано́ўская (тут жыла́), пато́м Ко́сьцік Каро́ль ажно́ с то́га Гаратка́ прыно́сіў...

Дак так, у́трам устаю́, ў шэсьць часо́ў і́лі полшасто́га, зна́чыць, нясу́ ўсё з віра́нды ў капці́льню, ве́шаю і начына́ю капці́ць. Та-ак, мне на рабо́ту на́да было́ к адзі́наццаці, зна́чыць, прыхо́дзяць жанчы́ны е́тыя: зна́чыць, я іду́ на рабо́ту – яны́ ко́пцяць. А што ж я бу́ду рабі́ць? Я прыяжджа́ю з рабо́ты, гавару́: “Ве́чарам прыхо́цьце, – я гавару́, – до́бра у́трам, – кажу́, – тралява́ў, ве́чарам вы бу́дзеця$^{э}$ насі́ць”. Так, к ве́чару прыхо́дзяць, ужэ́ по́зна, ўжэ пашці́ цямне́ць начына́я$^{э}$, і ў ве$^{і}$ра́нду як наве́шаюць ў ві$^{э}$ра́ндзі, па у́ліцы ні прайдзе́ш – за́пах такі́!

Ну, а капці́лі больш такі́мі садо́вымі дзя$^{э}$рэ́ўямі: там абраза́еш я́блыну, гру́шу, ну і ядло́вец. Харашо́ было́! А пато́м на кане́ц Ве́ра, ба́ба, Сьве́ціна ма́ці, то́жа ш яны́ ўсё ўрэ́мя капці́лі тут у мі$^{а}$не́, а пато́м ужэ́ зака́нчваецца капчэ́ніе. Ну э́та трэ́ба дзе́-та тры дні, е́сьлі такі́я$^{э}$ о́каракі, сьцёгна харо́шыя, бальшы́я, то і чаты́ры дні на́да. А дро́вы там ні трэ́ба! Там от е́та тако́я$^{э}$, пашо́ў у ле́с, але́шыну сыру́ю вы́ся$^{э}$к, на́да, каб яно́ агнём не гарэ́ла, каб яно́ то́лька тле́ла. От. Бярэ́ш ядло́ўцу, туды́, як ужэ́ жа́ру нагары́ць тро́хі, ядло́ўцу туды́, яго́ сьсячэ́ш наме́лка, туды́ накі́даў, накі́даў і е́тымі прылажы́ў – і ўсё! І яно́ дымі́ць. А туды́ ўжэ пашці́ хало́дны дым выхо́дзіць. А так яно́ ш гара́чым, так яно́ спа́рыцца. І тады́, як на збор ша́пак е́тых, ты́я бабу́сі сабіра́юцца, та́я чацьвёрку, та́я чацьвёрку – і сядзі́м, начына́ем ана́ліз зьніма́ць! Про́бу.

Я ка́жды гот капці́ў. Ка́жды гот.

## Як жонка рабіла сыры

О́чэнь про́ста. Мо́жэш э́та с тво́рагу аджа́ць, а то мая́ вары́ла я$^{і}$шчэ́. А як? Малако́ на́да сьве́жае было́ і тво́рах е́ты, на гас ста́віць, а ні было́ га́за, дак на кірага́зі яшчэ́. І вот туды́ тво́рах, лье малако́ ў кастру́лю і тво́рах туда́ ло́жыць, ло́жыць, ло́жыць, мяша́е, мяша́е, каб ні прыгарэ́ла, да йішчэ́ не́шта дабаўля́е туды́, які́е-то сьпе́цыі – ўсё. Ну, а пато́м, як ён зва́рыцца

(ну, ско́лька ва́рыць, я ўжэ ні зна́ю, я́сна, ён кіпі́ць, калі́ вары́ць трэ́ба), вылівáе ў кліно́к, такі́ мяшо́чак быў клі́нам, – і ўсё. Зьве́рху завя́звае[а] і апя́ць ло́жыць на якýю там до́стачку, сьпецы́льныя такія былі́ вот (я рабі́ў с фане́ры), і наве́рх накрывáе – і гнёт. І ён вы́кісьнецца – о́чэнь ўкýсна. Ну э́та мно́га рабо́ты. Так іс тво́рагу як зрабі́ць, так э́та про́ста тваро́жны, а той о́чэнь ўкýсны. Палучáецца жо́ўцянькі. А йшчэ́ туды́ ш і жаўто́к дабаўля́е. Соль там, ну я ні зна́ю е́та. Ўсё было́.

### Як збіваў масла

Ма́сла бі́лі сваё то́жа. Ў ме[а]не́ маслабо́йка і ця[э]пе́р есьць, магý паказа́ць. Другі́ рас не́скалька рас – і ма́сла зьбі́та! А другі́ рас бýдзяш часо́ў тры таўчы́, таўчы́! Ка́жуць, ат пары́, як пара́ яка́я, ад луны́ заві́сіць. А другі́ рас ся́дзеш, мая́, пака́ бліны́ ў пе́чы пячэ́: "Бі ма́сла!" Я ся́ду, рас, рас, рас, міну́т дзе́сяць-пятна́ццаць – гато́ва! А другі́ рас – і бліно́ў напячэ́, і пасьне́даем, і шчэ сяжу́ б'ю, тады́ кажу́: "Ну цябе́ і з ма́слам е́тым!" Яна́ сама́ садзі́цца да таўчэ́, таўчэ́, таўчэ́, таўчэ́! Ну, зна́я[э]ш, я ні зна́ю, чаго́ так палучáецца. Ну, гаво́раць, е́та ат пары́, яка́я пара́.

### Пра грыбы і як іх гатаваць

Магу́ ўгасьці́ць і цябе́! Бараві́кі. Бараві́ко́ў ма́ла што́-та ці[а]пе́р расьце́. Ра́ньша было́ бараві́ко́ў! Есь бараві́к, като́ры ў бярэ́зьніку расьце́, ён бе́лыя шля́пкі. Беразьня́к. І́лі падбяро́завік. Ну іме́ю в віду́ падбяро́завік, е́та называ́юць і краснагало́вік – падбяро́завік. А падбяро́завік-бараві́к, ён зь бе́лаю шля́пкаю. Паддýбнік, у яго́ така́я шля́пка кары́чневая, кары́чневая пра́ма. Ну і абыкнаве́нны ў сасно́вым ле́сі[э] бараві́к, бывáя і сьве́тлая шля́пка, бывáя і чо́рная. Ну, паддýбнікі, яны́ больш растýць: ко́рань о такі́, а шля́пка нівялі́кая.

Ну што, сырае́шкі, ну я іх ні[э] бяру́: яны́ сі́льна кро́хкія. Яны́ ўку́сныя, но сі́льна ло́мяцца. Ры́жыкі растýць, аба́пкі, ну падасі́навікі е́тыя са́мыя, лісі́чкі, като́рых выдзіра́юць із за́вязью на зда́чу.

Кабы́лы. А яны́ пахо́жыя па фо́рме такі́я, як ры́жык, то́лька кары́чнявыя такі́я. Яны́-то [ў]фку́сныя на ўкус, но іх ско́лька ні мачы́, ско́лька ні вары́, ўсё вада́, як чарні́ла, кары́чнявая. Яны́ так на ўку́с як на бязры́б'е, так і яно́... Да я іх знаў, ко́лісь, як шчыта́ў, дак мо со́рак сарто́ў іх знаў, но тут яны́ ўсе не[і] растýць.

Сабіра́ў да́жа е́тыя... О-о, гаркýшы ўку́сныя! Дак шо́-та не растýць пасьле́дняе ўрэ́мя ў нас. Гаркýшы – о, сяго́дня пасалі́ў, наза́ўтра мо́жна е́сьці с карто́шкай! Э́та вы мо́чыцця, я – во: прышо́ў, прынёс йіх, яны́ ш то́нянькія такі́я, прынёс, у тас і́лі ў ва́нну – ўсё, два часа́ які́я памо́клі, ўсё, ваду́ зліва́ю і́лі іх выця́гваю, так, другóю вадо́ю перапаласка́ў, перапаласка́ў – і ўсё, у кастру́льку – і со́лі. От ка́жацца го́рькі, а от чараз но́ч, наза́ўтра к ве́чару, дапу́сьцім, еш, атлі́чна!

Гру́зьдзі. Гру́зьдзя трэ́ба до́ўга мачы́ць. Но не́катарыя пу́таюць: срыпі́ца есьць і гру́сьць. Яны́ адзіна́кавыя пашці́, то́лька грузда́ атрэ́ш – у яго́ ды́рачка ў карню́ (пра́ўда?) і тут така́я туды́ я́мка, а іскрыпі́цу – ко́рань цэ́лы, без е́таго, ён бо́лей то́жа так закру́чаны зьве́рху, ажно́ тут як жаўтава́ты, і зь яго́ бе́лае малако́ аш ка́пае. І ту́ю скрыпі́цу ско́лька ні салі́ – і ні́чо́га не палу́чыцца, яна́ гніе́, як ка́ша ро́біцца. А грусьць – ён цьвёрды.

Ну ры́жык. Ры́жык – э́та есьць ры́жык.

[А цяцеры?] Есьць, но я іх даўно́ то́жа ні ві́дзяў. А йіх – о-о, дак што цяце́ру ўзяў, пачы́сьціў, пачы́сьціў, там зьні́зу е́та абадра́ў, на скавараду́ – мо́жаш жа́рыць.

[Зонцікі?] О, ўку́сныя. Я ні прапуска́ю. Мая́ гато́віла, і я то́жа гато́ўлю. Я ні зна́ю, які́х прыпра́ў дава́ць. Узя́ў, апчы́сьціў, апчы́сьціў яго́, памы́ў – ды і ўсё, у муку́ абы́чна, да яшчэ́ ў яйцо́, тады́ ў муку́ – і на скавараду́. Ма́сла. Во – аб'ядзе́ніе! То́чьна!

А ры́жыкі не про́бавала жа́раныя? То́жа так жа са́ма. Бя[э]рэ́ш ры́жык, то́жа ў яйцо́, у муку́ – і на скаваро́тку. І бу́дзяш е́сьці – не пайме́ш, чы то мя́са, чы то рып. О́чань да́жа ўку́сна.

Ну яно́ адзіна́кава пашці́ што, то́лька валну́шку на́да выма́чываць і на́да зьніма́ць зьве́рху е́тую, во́ўну, як то ка́жуць. Чаго́ яна́ валну́шка? Патаму́ шта як тро́шкі пажыла́я, дак там та-

ко́я, як ва́та, навярху́. Во е́та во зьняў, зьняў, і ў яе́ бе́лы сок, ён гарэ́ніць. Но яе́ то́жа два дні памачы́ў – і салі́. О́ча$^{э}$нь ўку́сныя, я то́жа іх бяру́, е́сьлі мно́га, патаму́ шта дзьве-тры ні бу́дзяш мачы́ць. Ра́ньша йіх мно́га было́.

У ме$^{і}$не́, дапу́сьцім, у по́грабі ры́жыкі і цяпе́р стая́ць, ну наве́рна, яны́ ўжэ е́тат... У бачку́, пад гнётам, шчэ я́к-та мо ў нача́лі ме́сяца хадзі́ў браў, дак ужэ́ тро́хі ме́хкава́тыя ста́лі, але́ шчэ...

А я далёка не хажу́, як расту́ць, як на ры́жыкі сезо́н, дак о пайду́ сюды́ і набяру́. Я ў про́шлым гаду́ мо пяць карзі́н прыпёр, шчэ й Ната́ша с Са́шам прыяжджа́лі, дык яны́ то́жа мо чаты́ры ці пяць карзі́н набра́лі, дак дадо́му. Ры́жыкі до́бра салёныя, салі́ць харашо́.

Я ўжэ і ні по́мню, якія яны́ [грыбы]! Ра́зныя$^{э}$ тут, хвата́е$^{а}$. Зялёнкі былі́, по́дзеленкі, плю́сы. Апе́нкі. Ну, апе́нкі – е́та ўжэ по́зьнія. Ў про́шлым гаду́ ні было́, а ў запро́шлым гаду́ хадзі́лі мы, Лары́са Сьве́ціна была́ прые́хала, і я, і Сьве́та, туды́ о, хадзі́лі на Заўві́жжа.

Дак ў про́шлам гаду́ мы хадзі́лі, і́лі е́та запро́шлам? Ап'я́т, за апя́тамі туды́, на Заўві́жжа на то́я. Ды я йіх не люблю́ сі́льна, яны́ ўку́сныя, но як ні мый, як ні што рабі́ – ўсё ця́гнецца е́та сьлісь. А ры́жыкі як пасо́ліш, то ўжэ э́та красата́! Зу́бы трэ́ба мець до́брыя то́лька!

Так ўсё есьць, на ўсё трэ́ба... Я ж, бы́ла, пайду́, о, хадзі́ў на Рымо́ўшчыну́! Там маладнякі́ былі́ – баравікі́-баравікі́ расьлі́! Я па двэ́сьце штук, да й больш, прыно́сіў! У мі$^{э}$не́ така́я была́ карзі́на ўо здаро́вая, дак я пру-пру карзі́ну е́тую, да вазьму́ яшчэ́ рэ́мень са штано́ў зьніму́, да ў ру́чкі, да на плёчы. Далёка было́ хадзі́ць, но там расьлі́. Ну ця$^{э}$пе́р лес пастарэ́ў. Яно́ й тут, было́, расьлі́ баравікі́, як лес быў маладзе́йшы, цяпе́р ўсё.

Бы́ла, пайду́ ў шэсьць часо́ў утра́, дак я прыду́ ў чаты́ры то́лька дня дадо́му. Пака́ зайдзе́ш, а па ле́се ж на́да, э́та ш яны́ не$^{і}$ сядзя́ць во што, шука́ць трэ́ба яго́!

**Пра ягады**

На бало́ці клю́ква. Журaві́ны, о! Брусьні́ка. Ў про́шлым гаду́ ні хадзі́ў, а так хадзі́ў [па журавіны]. Мая́ хадзіла то́жа, тады́ не́шта ў бало́тах ва́ды́ мно́га было́, дак яны́ до́бра расьлі́. А цепе́р я адзі́н, я зна́ю ме́ста, так мы ўот з Лары́саю хадзі́лі ў запро́шлым гаду́ (ў про́шлым гаду́ йіх ні было́, патаму́ што су́ха было́ сі́льна, а яны́ ш у бало́ці ў сухо́м ні бу́дзя расьці́), дак хадзі́лі. А адзі́н я... Э́та ш зна́еш, калі́ бу́дзя? Мо ў акцябрэ́ дзе́-та во. Вы́дзяруць, вы́дзяруць [да кастры$^{ч}$ніка]! Зялёную, патаму́ шта на зда́чу, а я зялёную ні хачу́, я хачу́, каб... Адзі́н баю́ся. Е́та на́да дзе́-та кане́ц сенцябра́.

Я ні зна́ю, дзе мы хадзі́лі, дак там ніхто́ ні быва́ў яшчэ́. Но там на́да іці́ па шасе́, е́та два кіламе́тры, а тады́ ў лес, і на бало́та, і ў са́мы кане́ц бало́та туды́, там па бало́ту пашці́ што кіламе́тр на́да іці́ туда́. Мы хадзі́лі з Лары́сай. Я там абнару́жыў быў, адзі́н хадзі́ў. А ця$^{э}$пе́р, зна́еш, чаго́ баю́ся? У мене́ ш па се́рцу фтара́я гру́па. А йдзі адзі́н – і тромп атско́чыць, то й запрэ́, і ўсё, і бу́дуць шука́ць тады́. Дак я адзі́н ні хачу́. Я і ў грыбы́ як хаджу́, дак ўот сюды́ блі́ска, патаму́ шта нільзя́...

Чарні́ка. В э́тым гаду́ ма́ла. Маро́зы былі́ е́тыя да́льнія. Буякі́. Галубі́ка. У нас на Гро́дненшчыне скажы́ буя́к, дак там вапшчэ́ во́чы вы́трашчаць! А скажы́ дурні́цы – і ўсе зна́юць! І́лі п'яні́цы. Ўсе зна́юць.

А так больш тут ну што! Ажы́на дзе-нідзе́. Ну есьць малі́на. Он за Турка́мі малі́на харо́шая была́, там дзяля́нкі былі́ рэ́залі. Адно́ ўрэ́мя дак мы хадзі́лі туды́ са сваёю, то́жа па вядру́ сабі́ралі малі́ны. Но яны́ дзе на дзяля́нках, а так у тако́м ле́сі ну яно́ есьць, но яны́ ж ме́ленькія.

**Пра пчол**

*– А пчол вы трымалі?*

– Я – не. У маго́ сва́та былі́ пчо́лы, он жыў тут во, дзе Э́ма жыве́, зна́яш, за Э́маю. Э́та мой сват жыў там, у яго́ былі́ пчо́лы.

Ну про́ста гаво́раць: ма́йскі, лі́пеньскі, верасо́вы. Вот у ве́расьні цьвіце́ ве́рас у ле́сі – вот верасо́вы мёт. Ма́йскі – е́та то́е са́мае, што крушына́ цьвіце́. Лі́павы мёт са́мы харо́шы.

Магу́ і табе́ даць папро́баваць. У мі$^{э}$не́ есьць, у міне́ зяць на да́чы дзе́ржыць пчо́лы. Ў э́тым гаду́ ма́ла ў яго́: два то́лька ульлі́. Ў про́шлым гаду́ было́ шэсьць, дак шо́-та прапа́лі чаты́ры за зі́му.

А тут дзяржа́лі: ў Васіле́ўскага мно́га было́ пчол, у Сярге́йчыка (э́та ш то́жа мой сват, он ніддалёка там ад вас жыве́, дзе Іва́н Сямёнавіч, ра́дам: от Іва́н Сямёнавіч, а сюды́ яны́, а тады́ е́та Ку́лява ха́та ўдоль даро́гі стаі́ць, а тады́ Э́дзік, о, дак там Сярге́йчык жыў). У яго́ мно́га пчол было́ то́жа. У Марціно́віча о́чынь мно́га было́ пчол, мно́га-мно́га дзі$^{а}$ржа́лі. А тут Калішэ́віч (Сьве́цін мужы́к, як жылі́ там про́ціў магазі́на яны́) там дзяржа́ў то́жа. І ў сва́та маго́ былі́. А тут на на́шай старане́ не было́ ні ў каго́.

*– Як глядзець за пчоламі?*

– Я сва́ту памага́ў! Мя$^{і}$не́ адна́ ні ўкусі́ла! І ў зя́ця ў про́шлым гаду́ быў, ён то́жа ста́віў магазі́ны. Дык я дымаро́м е́тым пшы́каў, ды́мам, а ён там ста́віў магазі́н. Зьнімá́я кры́шку, магазі́ны е́тыя ста́віць: ста́віць я́шчычак бяз дна, без ніччо́га і там такі́я ўзянькія ра́мкі, о такі́я дліно́ю. Ста́віць магазі́ны е́тыя – і ўсё: яны́ но́сяць мёт. Пчала́ лю́біць у ульлю́ каб дзе вы́шай мёт аткла́дваць, а ўжэ як вы́шай – тады́ ні́жай і ні́жай ле́зе$^{а}$. Быва́я$^{э}$, ўво́врэмя як ні праве́рыць, дак і пацячэ́ аж у ву́лей з е́тых магазі́наў.

Я памага́ў і сва́ту тут. “Пайдзе́м, – ка́жа, – паглядзі́м пчол!” Падгле́дзім. Падгле́дзім! Е́та паглядзе́ць, ско́лька там мёду. Зьнімá́я кры́шку – я дымаро́м. Ні рукаві́ц, ніччо́га, то́лька се́тка е́та і хала́т. Бе́лыя ш хала́ты сьпецы́льныя. І ён астаро́жна бярэ́, рамку́ падня́ў, паглядзе́ў: ма́ла яшчэ́, – ста́віць на ме́ста. А дзе ўжэ по́ўныя ра́мкі, ён вынімá́я йіх, а на то ме́ста – пусты́я. І ўсё.

*– А зімой як глядзець?*

– Так на зі́му ж мёт астаўля́юць. Да-а. Бяру́ць мёт, а ўжэ дзе́-та с ыю́ля і́лі а́ўгуста ужэ́ мёт, шо́-та зяць гавары́ў, браць нільзя́. Ужэ́ яны́ са́мі на зі́му запаса́юць. Ну а пато́м зімо́ю, як цёплая паго́да, дапу́сьцім, плюсава́я бу́дзя, плюс тры там чы што, ён падгля́двае іх апя́ць: адкрыва́я, зьнімá́я ўцяплі́цяль е́ты і глядзі́ць, шо ў ра́мках – есьць чы не. Е́сьлі ў ра́мках канча́ецца, ва́раць са́хар, сіро́п ва́рыць, налівá́я абыкнаве́нную паўлітро́вую ба́нку і завя́звая ма́рляю, тако́ю густо́ю, мо ў два сла́і, абвя́звае$^{а}$ – і аста́віць ўверх дном. Там тако́я сьпецыя́льнае$^{а}$ атве́рсьція ў йіх у патало́чку есьць. Ён паста́віў – і ўсё, яны́ чэраз ма́рлю е́ту піта́юцца. Да́жа як вясна́ зацяжна́я, дак і два ра́зы ста́віць, ва́рыць сіро́п е́ты.

Я ні зна́ю, е́та я відзі́ў, як зяць мой ро́біць, я ж ні пчэлаво́т. Быва́я, дзе ска́жаш то, што я расказа́ў, дак ска́жуць: э, ду́рань не́йкі, ён ніччо́га ні зна́я$^{э}$! Но зяць так ро́біць мой. Ён і мне хаце́ў у про́шлым гаду́, гавары́ў, што: “Я вам прывязу́!” Я га$^{ва}$ру́: “Вязі́, я бу́ду глядзе́ць іх”. У йіх там, на е́тых да́чах, ўзя́тку німа́ до́брага: ім дзе́-та на́да на по́ля ляце́ць, шука́ць, дзе што расьце́, пчо́лам е́тым, патаму́ шта ў йіх там адзі́н то́лька яло́вы лес, і ніччо́га: ні крушыны́ німа́. Тут жа крушына́ як начне́ цьвісьці́, дак у ле́сі сто́лька, да чаро́муха, да ўсё е́та! А там етаго́ нямá́. Я гавару́: “Прыво́зь да мі$^{а}$не́”.

А ў э́тым гаду́, у каго́ пчо́лы есьць (там на том Гаратку́ есць у каго́-та, як у клуп іці́, там есьць пчо́лы, у́льлі стая́ць, дзе Яўме́н жыў), а ў е́тым гаду́ ў Дварцы́ грэ́чка пасе́яна. Грэ́чневы мёт – о-о-о, харо́шы!

**Пра звяроў і гадаў**

Ра́ньша да нас ласі́ о да са́май даро́гі прыхо́дзілі. Глядзе́лі [мы] – і ўсё. Сьві́сьнеш – ён сабра́ўся і пашо́ў. Цепе́р ні відно́.

Вужо́ў і е́тых зьме́яў відзя́ў. Ў е́тым гаду́ ў ле́сі я ма́ла хадзі́ў – ні відзя́ў, ні відзя́ў вапшчэ́. А $^{в}$ужа́ відзя́ў ў сібе́ вясно́ю на агаро́дзі, дак я гнаў, гнаў яго́. Я і ў ле́сі як відзя́ў, я ні біў іх: яны́ сабе́, я сабе́. Дак я яго́, узя́ў па́лку ды гнаў, гнаў туды́, да сара́я ажно́, па агаро́дзі гнаў: “Ідзі́ ў лес, табе́ ні ме́ста”.

## МЯСЦОВЫЯ НАЗВЫ І МЯНУШКІ

### Мясцовыя назвы

Во éты лес во называéцца Крамéц. А я ні знáю [чаму так]. Кóлізь дзет Віктар у Гарадзíшчы жыў, дак я спрáшываў. Ён гаварыў, шчэ з не$^{і}$запáмятных врэмён, што, кáжа, я не пóмню, тут якíе-то крáмы былí жыдóўскія. Крамéц.

Там Бéлы Брот. Не, éта дарóга. Рáньша, éта вот гóды два тóлька вады́ німá, а так цэ́лае лéта, былó, вадá стаяла на том Брадý, апхóдзілі – о, с кóчкі на кóчку па лéсі, с кóрня на кóрань, – апхóдзілі éты брот. А пясóк бéля$^{э}$нькі-бéля$^{э}$нькі ў ём быў. От Бéлы Брот і ця$^{э}$пéр.

Патóм дарóга есьць Аб’éстка. Éта аб’яжджáлі штó-та яны́. А-а, тут дарóгу стрóілі, як éту, гавары́лі, во, дак тудóю аб’яжджáлі. Янá й ці$^{а}$пéр яшчэ́ там такáя есьць, йішчэ́ замéтна дóбра янá. Аб’éстка.

Цепéр от не$^{і}$ знáю, чагó называéцца ся$^{э}$накóс Ваўчкí.

Тады́ там есьць за Бéлым Брóдам, такáя паляна былá, Мíшава Стóйла.

Ваўчкí, знáчыць, Падваўчкí яшчэ́ есьць. Далéй, далéй яшчэ́ туды́.

Агá, о-о! Дзе вáша хáта, то чэраз рэ́чку Гаткí. А чамý яны́ Гаткí? Гаткí – éта ся$^{э}$накóс. Чэ$^{а}$раз Гаткí пе$^{а}$райдзí, касíлі рáньша, чэраз Гаткí éтыя перайдзí ў лес, там, прáўда, кажýць, Гóркі, на Гóрках. Éта ў лéсі такáя паласá гóрачак такíх, ну як табé сказáць? Ну гóркі есьць гóркі. Яны́ нівялíкія, ну кругóм балóта, тут гóркі такíя.

Бéлая балóта. Балóта, а чамý янó Бéлае, інцярэ́сна. Дзе торф, кáжа, дабывáлі рáньша? На Бéлам балóці. Як на Бéлам балóці мóжа торф быць? Прáўда.

А вот я ні знáю, аткýль дзі$^{а}$рэ́ўня тáя – Туркí? Ш$^{т}$о, там тýркі жылí, ці што? Бáба éхала, Вáрка (янá ў Туркáх жылá), у Карчмé галасýя. Тады́ ш аўтóбусаў ні хадзíла, да й лехкавýшак éтых у кáждого ж ні былó. Астанавíўся шафёр: “Што, бабýся?” – “Падвязí!” – “Куды́?” – “Да турэ́цкай граніцы!” Ён кáжа: “Я туды́ ні éду!” – “Дак я табé, – кáжа, – пакажý, дзе турэ́цкая граніца!” Яны́ даéхалі, а там указáцелей ішчэ́ ні былó, Туркí-Кнышы́, як éхаць на Глуск. Янá: “Ну вот тут, тут астанавí!” А ён гавóрыць: “Дак мы ж да Тýрцыі ні$^{э}$ даéхалі $^{йі}$шчэ́!”

От там прóціў вас, чэраз рэ́чку, як жа янó, а-ай! Не, éтых се$^{а}$накóсаў там па éтам ні былó! Ой, як жа э́та, ні Пакýп’е, а як-то, ну там кýпіны сíльна былí.

А Палóм дак éта вот тут пóля$^{э}$! Інцярэ́сна, мо калі-нíбýць лясны́ палóм быў? Ламáла лес? О пóле, éта што éдзеш, э́та Палóм.

Ну, тут Галінéвічышын сат. Ён ужэ́ зарóс, я сабірáю... Памéшчыца тут былá. Э́та йшчэ да вайны́ кóлісь, да савéцкай влáсьці, навéрна. Дак яé, од дзе лясьнíчаства цяпéр, éта яé дом стаяў. Патóм янá (ты, навéрна, не пóмніш, éта не$^{і}$ пры табé былó), кантóра прóціў магазíна былá, ўот янá згарэ́ла. Éта з Галінéвічыха дóма сюды́ нéмцы прывязьлí-перавязьлí, янá там во стаяла. Éта быў Галінéвічышын сат. Ён зарóс, я ціпéр там сабірáю ры́жыкі.

О, Масьцíшча! Éта дарóга па балóту тут. Рáньша, як éтай ні былó, гавары́лі, дак éхалі чэраз Масьцíшча. Ну, тут ужэ́ і ўрóчышча Масьцíшча, патамý ш$^{т}$а там масьцíлі дзе$^{а}$равяныя э́тыя па балóту, кап праяжджáць. Дак Масьцíшча.

От з Масьцíшча на Бéлы Брот па Аб’éсткі. А тады́ ў Карчмý.

Íлі во там есьць за Палóмам такóя ўрóчышча, там яміна такáя, ну ні яміна – балацíна. Там ўсё ўрэ́мя вадá стаяла. “Дзе былá ў ягадах?” – “Там, дзе Паўлá ўбíла”. Э́то да вайны́, э́та я знáю дóбра, бо э́та маéй цёшчы яшчэ́ быў другí мужы́к – Паўлó той. Éтыя вот лíнію стрóілі – жалéзную дарóгу хацéлі зрабíць. Лíнька, як-то гавóраць. А éты Паўлó éзьдзіў ў Завалóчыцы, хлеп вазíў на кані. А там былá балацíна, дак ён перавярнýўся, і э́та бýтка і ўбíла ягó, э́того Паўлá. І цепéр, дзе Паўлá ўбíла, ўсе знáюць!

Заўвíжжа. А чагó? Пóля там, лес, ця$^{э}$пéр лес. А вот пóле былó Заўвíжжа. А чагó?

За Палóмам дзьве паляны былí: аднá – два гектáры, другáя – пяць гектáраў, і цепéр лéсам заралó. Лéдвіны. А для чагó éта Лéдвіны? Хто прыдýмаў такóе?

От лес Рымóўшчына, éта чараз наш Крамéц, чарас Крáсную рэ́чку і тудá чарас сянакóс пад Рымóўцы.

## Мянушкі

Ну-у, я тут па Гараткý-та ні знáю! Хýпішыныя дзéўкі – дак я знáю éта, да я ні знáю ат чагó! Маѝ цёшча раскáзвала (я ж ні тýташні), што хтó-та зь іх, чы дзéда Гры́шы, чы бáбы Мáні, ні гаварыў "кýпіна". Хýпіна. От так $^{у}$от і ўсё. Ну, дак éта ш, кáжацца ж, і ні такóя.

Дак я пазабывáў. Пабірáшка. А я вот ні знáю. Так і бáцьку, гавóраць, звáлі, і дзéда мо йшчэ. Ну няўжэ́? У йіх такí і дом бальшы́, што, ён пабірáўся, выхóдзіць, што лі, ні знáю.

На маём былó два – папáў ў прасáк. $^{У}$от тут, дзе Каралí, Ніна с Кóсьцем (ужэ́ царства ім нябéснае, ім абóім), тут жыў дзет. Дзя́тлік. Знáчыць, пажылы́, жóнка памёршая былá. А я жыў тады́, ішчэ́ як éтыя Лапáнікі купілі хáту, а я жыў у той, прóціў Андрэ́я Данілыча. Ну, як далí пілý ў ля$^{і}$схóс, $^{и}$э́ты дзя́дзя Сáша мі$^{а}$нé папрасіў папіліць дроў. Я гаварý: "Дóбра, прыдý!" А мне нáда былó хоць рублѝ зарабіць – і то дóбра былó! А я пашóў ямý папіліў дрóвы і ўсё. Што ш, завёў пілý – éта ж маментам! Ён, знáчыць, буты́лку пастáвіў на стóл, сядзім. А я ні знáў, як ягó завýць – я гаварý на ягó "дзя́дзя Дзя́тлік", "дзя́дзя Дзя́тлік". Ён рас на мі$^{а}$нé, другí рас паглядзéў, патóм кáа [кажа]: "Знáяш што, ты мінé так ні$^{е}$ называ́й!" Я гаварý: "А што такóя?" Ён гавóрыць: "Мі$^{а}$нé завýць дзя́дзя Сáша, а фамілія маѝ Мéльнік". Я гаварý: "А чагó-та ўсе Дзя́тлік, Дзя́тлік? Я дýмаў, Вáша фамілія такáя". Ён кáжа: "У мінé барóтка". А ў ягó барóтка бéлянькая былá – такáя о, тóчна, як у дзя́тла дзю́ба. Ўот папáў. Я на ягó кажý: "Дзя́дзя Сáша, прасьціця, – гаварý, – но я ні знаў, так разгавáрваюць, Дзя́тлік і Дзя́тлік. Ну, знáчыць, фамілія такáя".

А другí рас папáў, у Вільчы быў. Там нáда штó-та былó мо цéсьцю, ужэ́ слáбы быў. Дак нáда былó там рóцьсьцьвеньнікам наказáць. І гавóрыць: "Зьéзьдзі ў Вільчу, скажы́ Шарэ́ху, кап прышóў". Ну, я на веласыпéт. І сюдóю паўз рэ́чку, там чэ$^{а}$рас Крáсную і чэраз лес у Вільчу. Я ні знáю, дзе той Шарэ́ха жывé. Праéхаў. Ён гавóрыць: "Там, на фтарóм пасёлкі, яны́ там". Аднá ýліца, патóм чарас агарóды другáя ýліца і трэ́цяя. А ён на срэ́дняй éтай ýліцы жыў. Дак я праéхаў пéрвую ýліцу – нікóга німá. Магазін на пéрвай ýліцы, гляжý: закры́ты. Спрасіў бы ў магазіні. На фтарóй ýліцы сядзяць хлóпцы маладыя, кýраць на лáўцы. Іх мо чалавéк пяць былó, там, кампáнія. Я пад'éхаў, малады́ ж быў яшчэ́, паздарóваўся зь йімі. "Хлóпцы, – кажý, – а дзе дзет Шарэ́ха жывé?" Яны́ гавóраць: "Он там, – гавóрыць, – ець туды́, бýдзя чацьвёртая хáта налéва. Тóлька ж, – гавóрыць, ты ні называ́й ягó Шарэ́ха". Я кажý: "А што такóя?" – "Éта ш, – кáжа, – ён так ні лю́біць". А éта, кáжа, ýлічная ягó дразнілка. "А як жа ягó фамілія?" – кажý. Ён кáжа: "Кісьля́к". Фамілія – Кісьля́к, а Шарэ́ха. Спрасí, гавóрыць, спрасí ў другíх – Кісьля́к, дак ніхтó і ні$^{а}$ бýдзя знаць другí рас. А скажы́ Шарэ́ха – ўсе знáюць.

О! Кóля быў Трубá. Кáжуць, за то, што ён тóўсты быў, я$^{і}$к трубá. Кóля Трубá. Скажы́ Гýрын, дак мóгуць і не$^{і}$ знаць. А Трубá – ўсё знáюць.

Знáя$^{э}$ш што, дак срáзу ш і ні ўспóмніш. Гэ́та як патóм, дак на ум пры́йдзе$^{а}$.

Э́та каб тут зь дзéцтва быў, дак пóмніў бы, дак а затó дзéці былí. Мой быў Сáша – Лёня, Цáрыкаў Сáша – Філíпка, Сéкін сын Íгар – Лы́сы, Пінчукóў Сяргéй быў Піня, Жóры Гýрына – Буржýй, Нáдзі Кóля$^{э}$вай Андрэ́й – Кіньдзю́к.

Сабярýцца, тут жа ш у нас разьліў быў, балóта ж э́та былó, касілі – і ваді́ былó! Бы́ла, як замéрзьне, яны́ сабярýцца сюды́ ў хакéй гана́юць. На мі$^{э}$нé: "Дзя́цька Лёня, ідзéця$^{э}$ на варóты!" Бáнку ганя́юць кансéрвную. Я на варóтах стаю. "Ты бýдзяш Піня, Кіньдзю́к, Лы́сы і Філíпка," – та тáя камáнда. Па íмяні нікагó ні называ́лі, тóлька па éтаму. Магó звáлі Лёня: ён на мінé быў пахóж.

# *ГАВОРКІ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*Т. М. Трухан*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

***Расказвае В. Г. Трухан, 1934 г. н.;*** *запіс зроблены ў 2010 г.*

Ну што раскáзваць праз éты куст, што гальé ляжы́ць абы-я́к. Éто Натáша Гарáськавых узялá ў Ніны Антóнавых éтаго сóрту. Я як углéдзяла, які́е ў яé смурóдзіны бальшы́е, крýпные такíе, кажý: “Ох, Натáшка, дасí мне разьвясьцí éтакіх я́гат”. Янá кáжэ: “Бяры́, есь адналéтачкі-пáсыначкі, дак вазьмí, пастáў у слóік ці ў буты́лку, налíй вады́ і пастáў, ніхáй пýсьціць карэ́ньчыкі”. А я гéтак і зрабíла. Пастáвіла, да падымý галíнкі, пагляджý – стáлі ўжэ пускáць карэ́ньчыкі, а я тады́ за іх, да ў зéмлю ўтачы́ла. І палівáла ж, глядзéла. І так прыняліса дóбрэ, і такí прамéнькі кýсьцік быў, харóшы. І былí ўжэ я́гады, а з нідóгляду – нідагле́дзяла. Трэ́ба ж быó хоць самóй ababíць іх, а то ніб́ы падвязáла трóхі кругóм мóтузам éтым, што із нітак, а паéхалі мы з бáцькам у Лю́бань у палíклíніку, а лíўнявы дош як пашóў, дак мы прыéхалі ізь Лю́баня, дак éты мой кýсьцік я́гаткамі ўвесь на сьвéце на зямлí ляжáў. І, ты знáеш, і німóжно вы́прастаць ужэ́ галíнкі. Ужэ́ атрэ́звала хвóсьцікі, сяднó вот на бакí хíляцца, катóрые ўжэ на бакí ляжáлі. А ў Натáшы – настая́шчы, пасьцí як нáша éта вíшня. Алé Ю́ра ўзяў усé кусты́ сваé да óбадам, ні óбадам, а як ён называ́ецца, рызíна ну, што спýшчанэ ўжэ, што знóшанэ, да éтым калясóм, да панадзявáў іх, дак яны́ ўгóру ідýць. І на кáжды куст. Сорт такí, што ўгóру йдуць. І стóлькі разрастáяцца! Вот ля кóраня ні пóўно éтых пáсынкаў, а так нек угóру йдзе, што такí камлáты, харóшы куст. І стóлькі я́гат! Ну крýпные. Яны́ кісьлéйшые, я́гады, за éтые прасты́е о. Éтые драбнéйшые, но éтые слáткіе. За ўсíм нáда ўхот. От нідагле́дзь чагó, любóе, усé на сьвéце. Мурáшкі цяпéр з’ядзя́ць, нітóлькі што. О на парóзе, бáчыш? Лéзуць у дóшку ў якýю, ці ў шчы́льку якýю лéзуць ні то мурáшкі, алé нéйкіе, перахля́біны нéйкіе на мурáшках дóўгіе такíе. Як нарысóванэ, такíе і есь. Я ўжэ бывáе вазьмý вéнічак да пíльнýю, стáне лятáць, дак я па вірáньдзе вéнікам да заб’ю. А кóлькі травíла ўжэ вірáнду, то ні вéдаю, аблівáла éтаю атрáваю. І éтые шчы́лячкі ўсе так смóльно палівáю разóў нéкалькі, ні раз жэ! Пастаю да яшчэ́ падаждý, да із́ноў прыляця́ць, і, кáжацца, па вóздуху знáюць. Ляцíць, пабýдзе трóшкі, віль назáд – і пашлá. Усю́ды на сьвéце. А вот па éтых сьцéшках, як хаджý. Пакрапíла тут на сьцéшцэ, на часнóк пашлí. Пат кáжны часнóк ужэ́ гняздó тáко о крýцяць. І крапíла і па часныкý трóхі павéрху, вотó паўз разóру. Адáле ў картóплі зайшлí. Нек напáсь, éтакаго шчэ чýда ні былó, як цяпéр. І на пасéў ва ўсíх усé. То цыбýля жóўкне, то часнóк жóўкне, то на картóплі. І картапля́нік ні ваўрэ́мя. Ужэ́ чарнéе картапля́нік. Ужэ́ папрыхвáтвало. Ты бáчыш, што арандáтар Кýтняўскі капáе, бо бáчыць, што больш падзяршы́ш, дак прападýць. Ты́мі гадáмі яшчэ́ як са стары́мі хадзíла на рабóту, дак казáлі, бáба там бóльшую часьць аднá былá, анá, як у Цярýшкі іцí, дак вот напрамýю, яны́ жылí там, дзед у яé, янá за бáбу, бáбіла нас, дак усé раскáзвала, што шчэ пры́дзе врэ́м’е, што саранчá зьядáцьме пасéвы, сéяць бýдуць, а ўбірáць ні бýдзе чагó. Вот прышлó врэ́м’е. Лю́дзі-прарóкі, Бох пакáзваў ім па снах і пісáлі. Іáн Прарóк быў, Іáн Красьцíцель напíсано ж, дáжэ ў каляндары́, як прáзьнік Іáн Красьцíцель. Ён сем гадóў жыў на вóстраве, éты Іáн і напісáў сем кніг і раздáў сямём цэ́рквам – вот янó і ідзёт па éтых во, як ім былó ат Бóга пакáзана ўсё. Яны́ па снах усё разьбірáліса і пісáлі éтые кнíгі, і ўсё збывáяцца. Дáжэ ты́мі гадáмі, што казáлі пры́дзе врэ́м’е, éта сáма бáба, што дзед чытáе да раскáзвае бáбе, што паўцéнем бýдзе зблы́таны ўвесь сьвет. Дак ні знáлі, што паўцéне, ні разьбірáліса, што правадáмі.

***

Я водэ́таю, што з адны́м ву́хам, кастру́ляю да вядро́, дак быва́е прашу́ ба́цька, дак ён паднясе́ вады́. Я про́сто па радо́х, дак часны́к атхо́дзіў тро́хі. Е́то, як лі́ўнявы дошч про́йдзе, да ўжэ зямля́ цьвёрда зро́біцца по́сьле дажджа́ да паго́да, дак ужэ́ патшавялю́ тро́хі па́льцамі круго́м ка́жды зубо́к, ка́жду галова́чку. І відно́ зра́зу, што стань от паліва́ць, дак ато́йдзе. Цяпе́р хто яго́ ве́дае.

***

Па капу́сьце паліва́лі, не́йка мо́раш, камары́ ве́льмо напа́двалі. Дак я ду́маю: бу́дзе ву́сянь ці мо е́тые матылі́, да шчэ папраяда́юць і больш капу́сту – палію́. Да е́то паліла́, ні ве́льмо даўно́. Ну ні ве́даю, мо ўжэ ты́дзень і прайшо́ў, а мо шчэ. Пакрапі́ла тут, пакрапі́ла і там – до́бра. Там мо шчэ ле́пша, як і тут. Да, усё ў га́ле лю́біць. Вато́ агарадзі́ў во, прасі́ла про́зьбаю: раскі́даймо, крычы́ць на мяне́. А ты ж ба́чыш, е́то ж я́ўны факт, палядзі́ – там жэ мале́нькімі пасадзіла, а тут жэ вялі́кімі, такі́мі харо́шымі. А што ім? Во́здуху ні хвата́е то́жэ.

***

Падгрэ́баць, дак карэ́не выцяга́ецца, ме́лко паса́джаные. Я ж ба́чыла, як ты садзі́ла с каро́бачэк, дале́ко садзі́ла, ні ме́лянько, ні на ве́рсе. Мо е́тые і краты́ цяпе́р падыма́юць? Ба́чыш, я ш пака́звала табе́ ці Ко́лі – кра́йні рад паднялі́. І на траве́ папрато́чвалі, пападня́то. Ні пака́звай яму́, а то то́лькі ла́зіць да капа́е бясто́лку, дай то́лку німа́. Палажу́ атра́вы. Вот ле́тась панаклада́ла была́, ба́чыш, ско́лькі было́ е́тых куч? А панаклада́ла е́тай сьмярдзю́чай, то яна́ ж дарага́я, мо больш як тры ты́сячы ці чаты́ры. Но яна́ ве́льмо ваню́ча. Вот цяпе́р жэ ні ге́так. Ну яшчэ́ і со́ткі ні се́юцца, то́жэ вялі́ке дзе́ло. Хвата́е саранчы́ е́тае ўся́кае.

***

Гот папа́ў такі́, і карто́шкі е́тые га́ткіе былі́. А то ты́е го́ды шчэ міры́мо было́. Шчэ ш хвата́ло карто́пель. Шчэ вары́ла о. Е́тые мякчэ́йшые і е́сьці іс по́граба, а е́тые цьвёрдые.

***

У нас е́тэ сялко́ ніба́льшо́е, е́то дзявятна́ццаць ха́так было́. Дак яны́ ш ў тры́ццаць во́сьмум гаду́ с хутаро́ў, па хутара́х усе́ жылі́. Яны́ ні прызнава́лі адзі́н друго́го. Там два браты́, там адзі́н, там тры – вот такіе лю́дзі былі́, се́м'ямі сваі́мі. А сюды́ прышла́ – ох, ка́жацца, лю́дзі до́брые, як сває́ лю́дзі. А цяпе́р, е́тые го́ды... Цяпе́р зрабі́ліса ні ты́е лю́дзі. Ужэ́ саўсі́м другі́ наро́д про́ці тых гадо́ў.

Мы от будава́лі, калі́ які́е бярвіно́ палажы́ць, дак ба́цько ото́ вы́йдзе на ву́ліцу, мушчы́ны іду́ць на рабо́ту, папро́сіць, барджэ́й ускі́нуць бярвіно́, і пашлі́ на рабо́ту. А цяпе́р што? Калі́ каго́ пазаві́, наліва́й! Дак што е́то за наро́т! Яно́ к згу́бе йдзе. І до́браго нічаво́ ні бу́дзе з е́таго наро́ду.

***

Не́што напа́ло. Ты́е ж го́ды ні така́я, а то про́сто су́хая не́йка, перасыпа́ецца. Ты ж паліва́ла радзі́ску, і то дзе папрапуска́ла патро́шку, я хаце́ла праліць. Да ўжэ на гуркі́ вы́ліла ту́ю во́ду.

***

Сабра́ласа е́хаць у паліклі́ніку ў Салі́го́рск. Пашла́ на чаты́ры часы́ так бы аўто́бус. Я як на паўчацьвёртаго пашла́ з до́му. Цяпе́р пае́хала на Урэ́чэ, там жэ тро́хі стаі́ць, ажыда́е по́езда аўто́бус, людзе́й забра́ць. Пастаяў, ні ве́даю ко́лькі міну́т, цяпе́рачы се́ла, заеха́ла ў Любань. Я да́жэ папрасі́ла вадзі́цяля, кажу́: мой даражэ́нькі вадзі́цель, мо ўстрэ́ціце

на Салігóрск ісьціме аўтóбус, астанавéце. Мне, кажý, к глазнóй назаўтрэ нáда, штоб ранéй пасьпéць заéхаць ці нáнач, штоб зáўтрэ ўзяць талóн ранéй. Заéхала, пашлá ў кáсу білéт узяць да Салігóрска, ні ўстрэ́цілі аўтóбуса. Спрáшываю касíрша: білéцік мне да Салігóрска. – I на скóлькі ўрэ́м'я? На паўшастóго ідзé аўтóбус. Палядзі! Паўшастóго – ужэ́ якóе врэ́м'е! Каб жэ ён éты маршрýт быў такí, што Любань і Салігóрск. Нет такíх аўтóбусаў. А цяраз Рачэ́нь, там Закальнóе, там чацьвёрты камбінáт, ат Салігóрска камбінáт, да паўз той, да пакýль ён аб'éдзе онё бéлы сьвет. Ён дáжэ ў гэ́ты бок ні éдзе зь Любаня, а éдзе ў той, як Рачэ́нь, усé тыя дзярэ́ўні: Бярóзаўка, Цярýшкі Стáрые, да німáладу кудыі. Я заéхала, вышла на маршрýтку, і, прáўда, ні былó зрáзу. Адáле стáлі людзі зьбірáцца, я сéла на маршрýтку і заéхала к Нáдзі. Захóджу – закрыто. Я пазванíла сасéцэ. Выбягáе дзéвачка. Я дáжэ і Нáдзі сказáла, што выбягла дзéвачка, дак я спрасíла праз цябé, мо бáчыла. Дак я дýмаю: пазванíо да папытáю, мо замячáлі і вы, катóра тут, Нáдзю? Э́то сястрá, кажý. Янá кáжэ: я й бáчыла, дзé-то пашлá рáньшэ. Я вышла. Ну дзе ш ты дзéняса? Сяджý, сяджý на лáўцэ. Адныя сасéдзі, віднó, што рамóнт які рабілі, у я́шчыках згружáлі, дак я дáжэ: ну, кажý, згружáйце, я ся́ду на беражóк на лáўку, да бýду старажавáць вáшых я́шчыкаў. Сяджý, сяджý, патхóдзіць жанчынка, прахóдзіла так: ці янá блíско ля яé жывé, ці янá далéко, ні знáю. Но факт тóе, што знáе, дай кáжэ: а вы сядзіцé éто ўсе. Сяджý, кажý. А яé німá, німá. Я кажý: мо дзе на вакзáле, хазя́ін званíў, што я прыéду. Мо паéхала на вакзáл, да ўстрэ́ціць. Я і самá дýмала: мо дзе к Мíшыку пашлá, к Мáшы? Да пілнýе! Ажыдáю, ажыдáю, сяджý. Дак янá й кáжэ: янá блытаецца абы-дзé, а тады прыдзе пóзно ўжэ, а янá сьвет ашчэ́ ўсе пáліць. Янó éтак і есь. Сядзéла, сядзéла, адáле дýмаю: пайдý пазванíо. Званíла – німá, ні атвячáе, ні аткрывáе. Я зноў вышла, сéла. А патóм праз акнó éтае сасéткі, што дзéвачка, што я кажý званíла к ёй, дак акнó аткрыласо там дáльшэ, рамóнты ж усé, дак янá высадзіла галóўку, да гукнýла: бáбушка, і пакáзвае нíшкам. Дак янá ніўзгóдзе і с таéю сасéткаю, німáладу чагó і што? Махáе рукóю, што прышлá, пакáзвае. Пазнáла, што абýтак стаíць ужэ́. Я прыхóджу, на яé кажý: а дзе ты хóдзіш? Сядзéла, сядзéла, хоць і начýй на лáўцэ, да пóўначы. Дак янá: éто ж хадзíла даўлéне к сасéтцэ. Янá рабíла сястрóю, дак я памéрала – у мянé даўлéне, дак правéрыць, штоб правéрыла, перапраﾠвéрыць, а то мой апарáт мо ніпрáвільно пакáзвае. Янá нáйдзе прычыну скóрэ. Балбатáла там сядзéла. А мо б і да пóўначы, янá б і ні вышла. Дак самá сябé ні бáчыць, а Вáлю, штоб завялá і пасадзíла яé. А самá ні выйдзе нізаштó. Éто на паўвóсьмаго, ці сем дзéсецць аўтóбус якрáз ідзé да паліклíнікі паўз э́ту Маладзёжну. Мне скáжэ ў кóлькі часóў аўтóбус ідзé, а самá ні падымецца. Да каб сказáў, што ты ні мóжэш? А то і наéса, і напрэ́ца. Дак на мянé кáжэ: а ты самá сабé век ні кýпіш нічóго, ні зьясí. А я і нóчы барáначкі скрось кíдаю ў рот і жую. Малéнькіе éтые барáначкі. Янá самá сябé век выглядзела. Янá то па рынках, то к Мáшы, то к Мíшыку. Прыéду к ёй, скаварадá с сáлам застыне, на стóліку стаíць. Аднáжды прыéхала, Кóсьця сабрáўса, янá ўжэ на рынку былá. Бывáе і так: дзе ля магазíнаў прадавáла то я́блыкі, то ігрýшы, то сéмачку, то папярóсы, то тóе-сёе. Я знáю, што сасéдзі раскáзваюць, а так жэ я ні знáю. Прыяжджáю, валасыпéд стаíць ля вірáнды там с тагó бóку ў Кóсьці, кашэ́ль абвя́заны і прывя́заны к багáжніку к валасыпéду я́блык харóшых. Ужэ́ прыгатóвіў вясьці ёй, янá сядзíць прóдае, а ён прыгатóвіў вясьці. А тым чáсам мы прыéхалі. Ну ён трóхі тудá-сюдá. Ён Кóлі трóхі даў я́блык. Я́блыкі навéрно, бо ўжэ пазнавáто, ігрýш мо і ні былó. Дак я кажý: Кóсьця, а чамý ты зуб ні стáвіш? У ягó і зýбы паўпáдвалі éтые жóўтые. Ці ён паўрывáў. Дак ён: усé чáсу німá, трэ́ба стáвіць. А янá казáла: ужэ́ як пам'ёр, дак прышлá бумáшка стáвіць зýбы. Я паéхала ўжэ пóсьле ці мо тады к Нáдзі, да кажý: Нáдзя, чамý ты ні глядзíш Кóсьці? Што такí худы Кóсьця, што адныя кóсьці, я паглядзéла. Я мо нядзéль тры ягó і ні бáчыла. Ты знáеш, ён гатóва і паваліцца. Янá давáй: ой, чагó? Ён спрáўны, у бальніцы ляжáў, дак на ягó кáжуць, што ты ні худы. У бальніцы мóгуць падвясялíць. Сéрцам балéеш, знáчыць жырнаму ні нáда быць. А я кажý: Нáдзя, успóмніш мянé, Кóсьця скарэ́й памрэ́ за цябé. Так янá кáжэ на мянé: хаця́ пры ём ні кажы. О, відзіш, што янá ні бáчыла які ён шкілéт! Тады ўжэ кóсы рве на сабé, да крычыць, да гатóва ўпáсьці ў я́му. Ні бáчыла й людзéй за крык. Ні даў век,

ко́лькі хадзіла па магазі́нах, па ры́нках... Е́тые ж былі́ ма́міны ка́ртачкі́, тало́ны на тра́нты, усе́ ішлі́ і ён то́рбу е́ту цяга́е і цяга́е. Яна́ век то́рбачкі ні ўзяла́ ў ру́кі, а ўсе ён валачы́ў усю́ жысь, паку́ль пакаці́ўса, іс то́рбаю і пакаці́ўса ля пад'е́зда. Ашчэ́ ў мага́зін зайшлі́ да, блі́ско мага́зін, ні ве́льмо й блі́зянько, каб узя́ў на растая́не, дак ці то да Во́лі, ці мо да́лей ат кварці́ры. Яна́ там падзяржа́ла тро́хі ці бра́ла, да дзяржа́ла, лажы́ла ў то́рбу, а ён, вы́шлі з мага́зі-на, а ён за то́рбу і забра́ў нясьці́. Яна́ ка́жэ: я ні даю́. А ён: дава́й, я панясу́. І нёс, нёс то́рбу, ада́ле с то́рбаю бырк. Там то грэ́чкі, то макаро́ны, то бато́на яко́га ці чаго́ – набра́лі то́рбу. Яна́ сама́ сябе́ вы́глядзіць! І нае́ласа ўве́чарэ і дбаць ні дба́е. Е́то такі́е ка́пелькі п'е, як ты, сярдзе́чные, прывязла́ буты́лачку ту́ю. І на мяне́ ка́жэ: купі́ ге́тые ка́плі, ні шкаду́й, да пі. Кажу́: памо́гуць ге́тые ка́плі! Яна́ шанава́ла сябе́ скрось. Спра́ўна! Вот мо тро́хі сьця́гне ў бальні́цы. Так яна́ спраўне́йша была́. Яна́ ш паўбіва́ла і кварці́ры. Яна́ круці́ласа ўсю́ды. У райспалко́ме рабі́ла дваю́радна сястра́ ізра́зу, тады́ паме́рла яна́ то́жэ, дак яна́ ўжэ дава́й кі́дацца к пляма́нікам. Пазаво́дзіла знако́мство. А Ко́сьця глядзе́ў яе́. Ён гарэ́лку го́ніць, яна́ ні абрашча́ла вніма́ня, ён ні зачэ́піць. Ён ты́е ра́зы, як прые́дам, яшчэ́ і сам по́йдзе да пля́шачку прынясе́, паста́віць на стол: на, на. Кажу́: ні хачу́, Ко́сьця! І яна́. Кажу́: а ты бяры́ пі! Дак ты бальна́я, а Во́ля здаро́ва!

Ва́ля (сястра) памага́ла На́дзі. І даставала, і купля́ць пасабля́ла, і ёй адзе́ткі і абу́ткі аддава́ла. Дак На́дзя Мі́шыка атпраўля́ла ў а́рмію, што ты! Вы́дзяласа! Ру́скаго танцава́ла да с прыпе́ўкамі, яна́ хо́рашэ танцава́ла. Да шчэ му́зыку суні́ме, махне́ руко́й, суні́мецца му́зыка, а пато́м пашла́, да шчэ й рука́мі. Дак табе́ кажу́, усе́ то́лькі пазіра́лі: што ты, што ты, вот На́дзя! Дак яна́ ду́мала ге́так і бу́дзе! Ніўсьпе́ла аглéдзяцца, як на сёмы дзяся́так гадо́ў! Які́ сёмы? Ужэ́ сем, да на во́сьмы, с тры́ццаць сёмаго го́да. Е́то Ва́ля с тры́ццаць дзявя́таго. А я е́так ні хачу́. Як Мі́ша Старо́бінскі ка́жэ: вы – са́ма хітрэ́йша. Вы ніко́лі ні мяша́ецяса, ніко́лі ні ска́жаце ні на ко́го: хто п'е, хто ні п'е. То быва́е там: глядзі́ сям'і́, да жыві́ хо́рашэ, то пагамо́ніш жэ па-харо́шаму. А то ўсе вы́думкі не́йкіе: усе́ яна́ ба́чыла, усе́ яна́ зна́е. У Замо́шы сядзе́ўшы, бу́ду каза́ць не́што на Мі́шу ці на каго́, нашто́ яны́ мне, хай разьбіра́юцца. У Мі́шы Але́г і Акса́на. У На́дзі пыта́ла пра Мі́шу. Наве́рно, кварці́ру яны́ палучы́лі. Вазі́ла по́сьцілку шыць вот таку́ю во (паказвае рукой), на дзіва́н палажы́ла. К Тама́ры (Мішына жонка) вазі́ла. У На́дзі ж машы́на свая́, то гаспада́р спадні́цу пашы́е, да ґу́зікі паўшыва́е, а яна́ ні бра́ласа, у яе́ ручна́я машы́на. Дак та́я пашы́ла мо ў тры по́лкі, на дзьве́ ш карава́ці, дак шыро́ко.

***

Мі́шын Але́г у Ста́рых Цяру́шках быў аграно́мам, пасьле́дне врэ́м'е ў Зажэ́вічах. Як я е́ździла ў Зажэ́вічы цётку Га́ну харані́ць, ма́міну сястру́, дак цёткі Га́ны нявéстка, у яе́ ўну́ка бальша́я была́, малада́я шчэ, але́ ёй спанара́віўса Але́г. Ён рабі́ў у Зажэ́вічах аграно́мам, да спанара́віўса. Хаце́ла, штоб ён браў дачку́ нявéшчыну, ну ўну́ку так бы ба́біну. То ні зна́ю. Ён жэ е́ździў вучы́цца, дак яго́ перавялі́ ў Ста́рые Цяру́шкі. Мі́ша й каза́ў тады́, як мы вазі́лі с Ко́ляю ціліві́зар да ба́нкі агурцо́ў, а не́йка была́ ку́ртка ко́жана, ні ку́ртка, а пальто́ ко́жанэ – завязьлі́. Яна́ (жонка) усе́ партня́жыць, то абы-што́ пашы́е. Ку́ртачкі які́е, ці бязрука́вачкі які́е самы́м. Дак Мі́ша каза́ў, што каза́ў Але́г, што трэ́ба гара́ж пастро́іць у Старо́біне. Машы́ну на́да купі́ць. А Мі́ша сказа́ў: жані́цца трэ́ба, а ні гара́ж рабі́ць. Дак ён ка́жэ: дак я ж ні пракармлю́ сябе́ і жо́нку. То ні ве́даю, як яны́ там, хто іх ве́дае! Але́г чарня́вы такі́, высо́кі ро́стам, харо́шы хло́пяц! Ста́ршы сын Мі́ша ў Старо́біне быў. Ён русе́йшы тро́шкі. У Гра́маце пчо́лы гадава́ў. Было́ ж вы́мярзло мо дзе́сяць кало́т пчол, маразы́ бальшы́е. Акса́на (дачка) худзе́нька, то́нянька, а хлапчу́к (сын яе), как уру́бачак. І ру́чкамі, і но́шкамі як пача́ў туды́-сюды́, туды́-сюды́. Мі́ша сьмяе́цца. Ён тады́ заўе́ў мяне́ к Ва́лі. А к Ва́лі прышла́ акра́з Ната́ша (нявестка) уко́лы дава́ць. А я тро́хі тра́нты бра́ла Ва́лі е́тые: то спадні́цы, то Ні́нінае ма́цяры паласа́та не́йка ко́фта, пало́самі, да ду́маю: мо яны́ перашы́юць като́раму, дак я паўкіда́ла там, што бра́ла. Ва́ля ш ляжа́ла, ні падыма́ласа. Ка́жэ: хай бы Ко́ля перакусі́ць даў? А я кажу́: я ма́ло

былá тут, мы пабéдалі, паéлі і паéхалі с Кóляю. Кóлі нáшаго ні былó. Ён заўёз мяне туды́ к Мíшы, да казáў: давáйце к Вáлі завязý? Яшчэ́ ні былó Тамáры с кабавá, дак Мíша кáжэ: янá пры́дзе, рабóту кóнчыць і пры́дзе дамóй, пагуляйце. Я пасядзéла, а тáя давáй барджэ́й сáло жáрыць да яíчкі ўбівáць. – Я пайдý к Вáлі, я там жэ знáю. А ён: і я пайдý, я вас завядý. Я кажý: Míша, ні йдзі, я самá зайдý. А я з гóлымі ж рукáмі ўжэ. І такí ж прыцёхса. Тóчно хацéў вы́піць. А я то кажý: я ні бýду ніякаго абéду, нічóго. Я паéла і паéхала. Кóля той прыéхаў, ужэ́ цямнавáто былó, па мяне.

***

У мяне пытáюць: часнóк у цябé парóс? Кажý: ой, нéйкі ніўдáлы. Дак калíсьці кýма Вáліна дзé-то па Слýцкуй дарóзе, тóлькі цераз Рáткаво, да вéльмо часнóк харóшы быў, а шчэ і часныкý далá.

***

Што ты хóчэш? Яны́ ўжэ пазабывáлі адзíн другóго. Я ты́е рáзы, як прыéхала сюды́, я закалю і па тры́ каўбасé вазíла. Блішчáць, паўчышчáю кíшкі. Усé мáма плáчэ, што трýдзіса да вязéш. Шчэ й умéсьце жылí.

***

Я заéхала ў бальнíцу, дак с Крупéніка жанчы́на, янá метсястрóю рабíла. Éто Нíны Шкýрнікавае дваюрóдна сястрá, пляміница таé Шкýрнікавае жóнкі, сястрынá дачкá. Янá самá на двá каштылí цягáе, а прынясла мне éсьці. І кáжэ: Бох сказáў нáда дзялíцца. Да я вабшчэ́ каўбáсы éтае ні магý éсьці. Янá мне атвярнýла. Я ні магý éсьці. Мне янó ні йдзе. Вот, дак кáжэ, затóе і сéрцэ балíць, што каўбасы́ ні ясí, да сáла ні ясí.

***

Я тады́ зáсаб éзьдзіла. Пéрво ў Нáдзі начавáла, далí ш талóнчык мне. Да тóжэ абы-як папáло. Я папрасíла ўжэ талóн, далí на адзінáццаць часóў. А дóктар закры́ла кабінéт, мо грýпу якýю давáлі, у дзéсяць часоў тáя глазнáя закры́ла, што мне далí талóн – шэ́йсят шóсты, кáжацца, кабінéт. Закры́ла і пашлá з éтымі бумáгамі. Рабóта кóнчана. Я пашлá ў рэгістратýру. Добрэ́, што глазны́я дактары́ на трэ́йцюм этажы́, дак ліфт отó раз і спýсьціса. Да папрасíла ізнóў намяркá, дак мне далí на чацьвéр ужэ́ ці мо на п’ятніцу. Вот і забы́ла. Адáле кáжуць на срэ́ду. Гéта дóктар ні рабíцьме ўжэ, к катóруй мне давáлі. Ужэ́ другí рас назнáчылі другóго дóктара. Я ўзялá намярóк і ні паглядзéла які кабінéт, я дýмала ў гéты сáмы мне. Ажнó гляджý – ужэ́ сéмсят два. Дак я пашлá, да ў гéтум сáмум і сяджý, што ізрáзу былá пéрвы дзень. Сядзéла, сядзéла, ні вéдаю кóлькі часóў. Німá яé. Цяпéр кáжуць: да адзінáццаці яé ні бýдзе. Дак я дýмаю: да адзінáццаці яé ні бýдзе, дак я ж ні ўспéю на свой аўтóбус. Пашлá ў той кабінéт, дак янá кáжэ: а вы ўжэ апаздáлі, ужэ́ ў нас сíчас абéд. Я, прáўда, шакалáдачку éй далá да стáла прасíць. Янá праглéдзяла, дóбрэ праглéдзяла. Зрабíла самá, даўлéне éтэ правéрыла. Ізрáзу сястрá пакáзвала, закрывáла адзíн глаз, другí, а тады́ павялá самá дóктар у кабінéт, даўлéне памéрала, патóм ізнóў сястрá правéрыла нéйкім зялёненькім другí рас. Вы́пісала кáпель, і я ўсьпéла шчэ на аўтóбус свой. А так, што хóчэш? Прáўда, ужэ́ аўтóбуса ні ждáла, дай, Бóжэ, пáмяць. На Загóр’е, як на Грáмату éхаць па гéтум шляхý, яшчэ́ за Грáмату чаты́ры кілóматры Загóр’е, дак на Загóр’е ішóў аўтóбус церас Пагóст. І я ўжэ сéла на гéты церас Пагóст, даéхала да Кýтнява і папрасíла, штоб ля Кýтнява астанавíўса вадзíцяль. І ён астанавíўса напрóціў Урэ́цкае дарóгі. Я отó перайшлá дарóгу і тóлькі сваю тóрбачку пастáвіла папрáвіцца, хýстачку і ўсе, машы́нка йдзе – стоп. І мяне прывязьлí к Нóвай дарóзе. Стаянку нáшу тýю раскíдалі. Тóлькі лáвачка стаíць. Тут далякавáто йсьці тóжэ. Алé прышлá пацíху.

***

Ду́маю: забяру́ е́тые дзьве пла́ці, што валя́юцца, бо іх я выкіда́ць ні магу́. На́дзя каза́ла, што Ва́ля е́тые бе́ленькіе сту́льчыкі абшыва́е, ло́жыць не́што, хало́дные зімо́ю е́тые сту́льчыкі стары́м людзя́м. Пла́це было́ не́йке скро́янэ Ні́нінэ ці чые́? Се́рэ ў мяшэ́чку, там усе́ ў я́шчыку валя́ласо. Ду́маю: забяру́ і то́е пла́це, мо яна́ сабе́ абы-што́ пашы́е. Цяпе́р жэ ў кабаве́ мо́жна пашы́ць хоць і ю́пку яку́ю, дай цяга́й ото́. Яно́ то сьвятлава́тэ, се́рэ. Дак е́то зье́зьдзіла, да ду́маю: пагляджу́ хаця́ сама́, да і пагамо́нім нашчо́т е́таго спо́ру. Ада́ле ўжэ пазнава́то зае́хала, паку́ль зайшла́, паку́ль знашла́, яшчэ́ ж німо́жно дагука́цца. Фо́ртачкі ні аткры́лі, бальны́е або́е. У Ко́лі баля́кі на плячах, на рука́х, усю́ды. Бая́цца скваэьняка́. Яна́ ізно́ў бальна́я. Гука́ла, гука́ла – німо́жно дагука́цца. Яны́ на фтаро́м этажы́, я ду́мала на трэ́йцюм. А тады́, як на то́е, акра́з ідзе́ жанчы́на, тро́хі ў во́зрасьце. Да кажу́: мая́ мі́лянька, мо вы зна́яце Гарле́нкаў но́мер кварці́ры, штоб аткры́ць кварці́ру? А цяпе́р жэ дзьве́ры жале́зные – ні зна́ю. У На́дзі со́рак два, дак по́мню, а іх і ні по́мню. Я і ні быва́ю там. Яна́ прышла́, папрэ́бувала пазвані́ць, не́што абазва́ласа і ёй, ма́біць, сказа́лі е́ты но́мер. І яна́ нажа́ла і аткры́ла мне дзьве́ры. Сьвет бяз до́брых людзе́й ні быва́е. Я пазвані́ла, а яны́ ўжэ спа́лі. Уста́ў, аткры́ў Ко́ля. Дай Ва́лі ка́жэ: Во́ля прые́хала. Та́я Ва́ля ўжэ падняла́са, пасядзе́ла, а Ко́ля е́сьці дава́й дава́ць. А ён і каўбасы́, і сьмята́ны, і памідо́р палажы́ў. Кажу́: сасма́гла, то хаця́ пасядзе́ць. Да з Ва́ляю пасядзе́лі тро́шкі, пагамані́лі. Але́ ге́так і ра́но, я ж пае́хала зара́нь, пе́рвым рэ́йсам. До́брэ, там ідзе́ аўто́бус. Ко́ля мяне́ зау̂ёў на стая́начку, то́жэ ніблі́зянько так ісьці́, як да магазі́на мо. А мо тро́шкі і блі́жэй. Дак зау̂ёў мяне́, на ла́ўцэ пасядзе́лі, пато́м аўто́бус ішо́ў, я се́ла і зае́хала. Прые́хала ў са́мы го́рат. Той жэ ні йдзе да паліклі́нікі старо́бінскі. На астано́ўцэ сышлі́, і ўжэ е́ты ішо́ў гарацкі́ аўто́бус, като́ры да паліклі́нікі хо́дзіць. Се́ла і зае́хала.

***

Паме́рла Улья́на. Га́не ўжэ сказа́лі ці пазвані́лі, Ві́ця ці Раі́са – ні зна́ю хто, мне Зі́на раска́звала. Прыляце́ла ўжэ й Га́на сюды́, ну Ко́ля бы прышо́ў. Мне Во́ля Прымако́вых каза́ла, што я вы́шла на ву́ліцу, дак е́то Ко́ля ўжэ ішо́ў сюды́ ці атсю́ль, да каза́ў: пашла́ ва врамя́нку, лягла́, дый ні ўста́ла. Як ні ўста́ла? Да́жэ скаці́ласа с карава́ці, до́ле ляжа́ла. Пло́хо мо было́, ці прасты́ўшы была́.

Калі́сьці пе́рвую машы́ну купля́ў ён, Ко́ля, дак яна́ ўсе праз гро́шы быва́е гамо́ніць. Яны́ дружы́лі з на́мі німаладу як! Тады́ мо тры ты́сячы ці ко́лькі та́я машы́на сто́яла. Яна́: ну, і ма́ці дала́, Улья́на ты́сячу, але́, што ге́та ты́сяча. А ты́е ж го́ды ты́сяча – е́то вялі́ке дзе́ло было́! Але́ ж ён заробля́ў, лята́ў.

Ён жэ быў у Данба́се ці дзе. Прыу̂ёз адту́ль жанчы́ну. Каб ні Аксе́ня Кірэ́ява, то ён бы зь е́ю ні сышо́ўса. Але́ та́я ўжэ за дзе́ўчыну за ру́ку да сюды́ прывяла́, дай Га́ну ўгавары́ла, да сюды́ прышлі́, да ўжэ нагамані́лі. А та́я пае́хала. Начава́ла ўжэ тут, жыла́. Хло́пец у яе́ есь ізь ім. Не́што каза́лі, што то мо прыяжджа́ла яна́ с хло́пцам у Салі́горск к яму́ на рабо́ту. А ты́е го́ды Улья́на ка́жэ: абы́ ў мяне́ сыны́ былі́, бу́дуць і няве́сткі.

***

Парася́там вазі́ў міцэ́ліі зь Мі́нска ён. І е́зьдзіў з Салі́горскага раёна дале́ко, дале́ко за Старо́бін, дале́ко. Я там была́. Мы з ба́цькам е́зьдзілі яму се́но грабці́. Паткаці́ўса к таму́ шо́фяру, і той даў яму́ се́на касі́ць. І за е́ту машы́ну за калхо́зну атрабля́ць трэ́ба, е́хаць се́но грабці́. Да то́жэ сьпёка о та́ко о, да ў ле́се, ды́хаць ні было́ чым. То́лькі сябе́ ка́жны глядзі́ць.

Яшчэ́ та́я жо́нка таго́ шо́фяра паўшыва́ла і на́валачкі на паду́шкі, як сюды́ адна́ на адну́ лажы́ць. Ты́е го́ды лажы́лі адна́ на адну́ паду́шку, дак так о навы́лят вы́шытэ. Усю́ду шука́ў хе́ўру.

***

А прас пе́ньсію. Мне, каб ішчэ́ сто ты́сяч, е́то, ма́біць, да мільёна з дваі́х, шчэ каб сто ты́сяч нам далі́, дак я больш і ні хо́чу. Ада́ле даю́ць і канца́ німа́, і ні атка́жаса.

***

Сястра́ яе́ ме́ньша На́дзя заве́цца, у Дарасі́н у цёччына́й ха́це жыве́, кварці́ру сы́ну аддала́, да мужы́к бальны́ саўсі́м. Яна́-то хаце́ла пае́хаць туды́ даве́дацца ў Дарасіно́. А е́ты Гардэ́бля на кані́ ў Дарасіно́ е́зьдзіць на рабо́ту. Е́ты Гу́рські ўзяў да Гардэ́блю папрасі́ў, каб яе́ ўзяў на воз, так бы як наза́ўтрэ, да заўёз у Дарасіно́. Ён падручы́ўса. А яна́ ўжэ ці пасьне́дала, ці ні пасьне́дала – ні ве́даю, а пашла́ по́сьцілку ўзяць, засла́ць. Се́но е́тэ, ве́дамо, набярэ́цца. Яна́ пашла́ па по́сьцілку, а ці яна́ ўзяла́ ці яна́ ні ўзяла́ – я ні ве́даю, то там го́пнула ля калөйдзязя, дай ўсё, дай ні прышла́ ў ха́ту. Ён вы́шаў, палядзе́ў, то яе́ ўжэ ні было́. Паку́ль той воз ішо́ў, то яе́ ўжэ ні было́.

Зі́нка ляжа́ла на пе́чы, мо прасты́ўшы то́жэ была́, пазвані́ла ба́цьку. Ён жэ ўсе тру́пку падыма́е, усхапі́ўса, на палку́ ляжа́ў. Зі́нка сказа́ла, што тако́е і тако́е дзе́ло. Ба́цько баржэ́й: у Ґу́рськаго нішча́сьце. Я кажу́, што пам’ёр Ґу́рські? – Не, Га́на паме́рла. Зі́нка ні́чо́го ні сказа́ла, што скажы́, хай Во́ля прыхо́дзіць ці хай ба́бам е́тым ска́жэ, што на сабра́не хадзі́лі, бо яна́ пасьле́дне ўрэ́мье тро́хі хадзі́ла. Це́сьлін е́дзе ату́ль, дак яна́ прые́дзе. Дак атсю́ль ніхто́ на сьве́це ні хадзі́ў, Анто́лька адна́.

***

Пацыка́льнікава заве́душчаю была́, прышла́ ў той сьвіна́р, дай ка́жэ: Ю́ркаўна, сёня Га́на бу́дзе пе́ньсію замо́чваць. А я ні абазва́ласа. Я і зна́ла, што яна́ ні ска́жэ, бо я пазна́ла, што яна́ ні така́я была́. С капцо́ў зе́млю ссыпа́лі вясно́ю, я прышла́ к капца́м, распрану́ласа, у куха́йцэ, хо́ладно шчэ было́, капцы́ ссыпа́лі, вярхі́. Зе́млю ссыпа́лі зь вярхо́ў. Я сваю́ куха́йку палажы́ла на капе́ц і пашла́ другі́ ішчэ́ заняла́, ссыпа́ю. Цяпе́р так: я шчэ ні ссы́пала таго́, яна́ прыхо́дзіць, за куха́йку маю́ с капца́ і атнясла́, і палажы́ла. А я кажу́: а нашто́ табе́ мая́ куха́йка? Палажы́ наза́т, ты ба́чыш, што капе́ц заня́ты? І за рабо́ту свары́ліса, Тама́ра. Яна́ ўгле́дзяла, што ні такі́ і што зямлі́ ніпо́ўно, што ляхчэ́йшы капе́ц, ніскава́ты, дак яна́ хаце́ла, штоб ёй. А хо́чаш, кажу́ на яе́: дак ты с аднаго́ канца́, я з другого – ссыпа́ймо і ге́так. Ні сварыы́ўшыса, ніч́ого. Дак яна́ сабра́ласа і пашла́. За ге́ты капе́ц яна́ і мне ні сказа́ла нічо́го і ўжэ нітака́я была́, як ты́е ра́зы.

Як ста́ла хадзі́ць на сабра́не, дак у мяне́ два пе́сяніки было́, дак у тум меньш намяро́ў, у ге́тум больш. Я ні ве́льмо і хаце́ла браць у Лю́бы, за гро́шы ш, мо два́ццаць рублёў ці ко́лькі? Лю́ба да ка́жэ, е́та, што с Урэ́ча е́зьдзіла, яна́ бра́ла ў Слу́цку, цэ́ркаў стро́ілі, дава́лі, прыво́зілі з Гала́ньдзіі пе́сяніки, про́далі да на цэ́ркаў гро́шы, штоб пастро́ілі цэ́ркаў бапці́сты. Лю́ба ка́жэ: у ге́тае больш намяро́ў. Я ка́жу: ой, як зь мяне́, то хва́ціць е́тых і ма́ло. Ада́ле ду́маю: ой, вазьму́, хай бу́дзе. Да ўзяла́. А Га́на, як прышла́ на сабра́не, да ні было́ ў яе́ пе́сяніка, кажу́: на! Я ні каза́ла, што табе́ на пастая́но, але́, кажу́, на, я табе́ дам пака́ е́ты пе́сянік. Дала́, то хай ён там і бу́дзе.

***

Сабра́не ці Дзень калхо́зьніка ў Дарасі́н. Е́зьдзілі мы ўсе жанкі́: дая́ркі, сьвіна́ркі, усе́. Тады́ я на сьвінары́ рабі́ла, Пацыка́льнікава сказа́ла. Дак Га́на ўжэ́: Ка́ця, ні схоць, е́дзьмо ка мне, віно́ сма́чнэ есь. Я, пра́ўда, да магазі́на дае́хала і пашла́ дадо́му. Дак яна́ ні сказа́ла, вот табе́ і дру́жба! Як харашо́, то харашо́. Дзялі́са, штоб схо́дно, то харашо́. Дзе́сяць разо́ў даў, а рас ні даў – прапа́ло ўсё! Я ты́е ра́зы карто́плі хадзі́ла ўбіра́ць, ма́ло сваё рабо́ты шчэ было́! За машы́ну, што ён се́но прывязе́. У Капачы́ е́зьдзілі, на Лявонавых бало́то е́зьдзілі па се́но. Пае́дзе, се́но прывязе́, дак е́то карто́плі ідзі́ ўбіра́й. Ні каза́ў жэ, са́мі ўсе ішлі́.

## *ТЭКСТЫ З ГАВОРАК СУЧАСНАГА БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКАГА ПАМЕЖЖА*

## ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

*В. М. Курцова*

### ТЭКСТЫ З ШУМІЛІНСКАГА РАЁНА

***Расказвае Г. А. Мясаедава, 1924 г. н., мясцовая карэнная жыхарка в. Кавалеўшчына, адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены ў 2016 г.*

Мне мно́га ўжо, во́сімсят пяць ці во́сімсят шэсьць. У міне́ тры сыны́ і анна́ дачка́. Анна́ дачка́ у Въйва́наві, за Масквой. Во далжны́ [прыехаць], ка́жды гот на машы́не прыіжджа́юць, у яе́ адзін сын ваенны і мужы́к. Ён [муж дачкі] е́зьдзіў на самалёці, але́ ета́ там то́лькі пу бума́гах. Там ён ту́рман [штурман] такі́ быў. Куды́ е́дуць, ён па бума́гах. Ён вае́нны быў то́жа е́ны. [Дачка] у Віцебску бала[1], ён прые́хуў, та́мацька ўжо знако́мілісі і ціпе́р за Масквой, ву Йва́наві жаву́ць. Дык яны́ ка́ждый гот утро́х – сын, ён, мая́ дачка́ (прыжджа́юць). А ціпе́р далжны́ во прые́хаць, як бу́дзіць [у] сы́на йе́нага во́тпуск. А тады́ прые́дуць утро́х. А сыны́ два у Бе́шанкавічах, адзін у Навікі [перабраўся]. Ён быў ту́тацька, гаво́рыць: Ва́ня ся́ньні прые́дзіць.

Я ўжо у вайну́ за каро́вамі туды́ е́зьдзілі. Туды́, ужо́ та́мацька далёка. У По́льшчу ці куды́ туды́ далёка. Я ужо́ дзяўчо́нка была́.

*– Раскажыце, калі ласка, трошкі пра вёску.*

– Ай, было́ мно́га людзе́й. Мно́га было́ ба́бък. Хадзілі мы ў калхо́з. А ціпе́р зьмянілі [злілі] ужо́ мно́га калхо́заў уме́ста. Дык тады́ мы і се́на грабём, усі ба́бы, а ціпе́р ні нны́е ба́бы нет, усі вы́мерлі, анна́ я ешчо́ астала́ся ту́тка, і мушчы́н ста́рых ту́тацька [мала].

У нас ужо́ у дзярэ́ўні німа́ ніко́га. У Карта́вы – ні ннаго́, Бо́ньк і – ні ннаго́, а тут, у Кавале́ўшчыне, усі ба́пкі павы́мерлі, анна́ я то́лькі што, але́ ўжо... То́лькі пла́чу.

Я, як вайна́ ако́нчылася, хадзіла тро́ху у шко́лу. Там бліска была́ шко́ла. Тут жа не́мцы стаялі тры гады́, у дзярэ́ўні ў нас, памно́га іх. А нас сьгна́лі у ванну́ ха́ту, тры́ццаць чалаве́к было́. Во так во на́ры пат столь. Так жылі́, паку́ль на́шы да Бярлі́на як пайшлі́ іх, як пашлі́. А як аттуль ішлі́, дык на́шых усіх пакасіла, пакасіла усіх, у дзярэ́ўнях ма́ла хто аста́ўся.

*– А забіралі маладых у Нямеччыну?*

– О, хава́лісі мы, каб вы зна́лі, пад я́му та́мъцька ці што. А тут с Кавале́ўшчыны забра́лі туды́, там да́льшэ, у дзярэ́ўню. Як выхадны́, тады́ вяду́ць іх.

***

У дзярэ́ўні бува́ла ўсі, бува́ла ўсё ў дзярэ́ўні, ў калхо́зі рабо́талі. І ту́тацька ў дзярэ́ўні у сыбо́ту вічары́нка, усі сабіра́юцца па дзярэ́ўнях хадзілі ўсё. Кругом ту́тацька свае́, так і жанілісі. А ціпе́р хадзя́ін даўно́ памёр, так і жаву́.

***

Е́та Кавале́ўшчына, а то До́ўгіе, на гарэ́, я там жала́, там ба́цька, і ма́тка бала́. Усі памёрлі мае́. Э́та ні ціпе́р, што усё ёсь, а бава́ла ж ні дай бох як жылі́. Я бала́ дзяўчо́нка. Ба́бы йдуць у журавіны, у клюквы. Я набяру́, а несьць ні магу́: ішчо́ ма́лая была́. А набяру́ клю́кву сто́лькі, ско́лькі ба́бы. А та́мъцька – брат мой лі мха жо́нку браў – тады́ я бяру́ та́мка з ба́бамі [журавіны], а ў йіх кіда́ла. Тады́ прадъва́лі. Клю́кву ж бра́лі. Запло́цюць нам. Ціпе́р усяго́ ёсь, усяго́.

[1] Гук, які вымаўляецца ў першым складзе перад націскам ў становішчы пасля цвёрдага зычнага ў адпаведнасці з гукам [ы], у беларускім літаратурным маўленні пры акцэнтаваным галосным гуку [а] акустычна ўспрымаецца як галосны гук [а], але пры гэтым ён не з'яўляецца гукам [а] з характэрным для яго дыяпазонам гучання. Адрознасць яго вымаўлення перадаецца сімвалам α.

Брусьніцы [раслі] вон тáмъцька во відáць, а ціпéр там зърасló. Ціпéрыцька людзéй нет, як бувáла касілі, а ціпéр карóў німá. Бувáла ж у кáждъга карóва, а ціпéр тóлькі у дзярэ́ўні аннá, адзíная. Там адзін жывéць, дачкá, два ўнýкі, дык у іх карóва тóлькі, а так ні ў кóга нет.

Брусьніцы іх жа шы́пка [брацъ], алé мы ў йіх ні хадзілі, ні хадзілі ў брусьніцы, у журавíны, ў éты клю́квы, хадзілі.

**Пра мясцовыя здарэнні**

А ў нас жа – тýтъцька Картáвы нідалёка – тáмацька лес, іш Шумíліна, э́та двáццаць кілóметраў, зь мясьцéчка, аўтóбусам прыіжджáлі бáбы у чарніцы. Ужó дамóў на ўтóбус нáда. Клíчам – німá бáбы анныé. Хадзілі і крычáлі: гу і гу – німá. Прыéхалі ў Шумíліна. Бáбы нет. І дзéці ж у йе. Казáлі шэсьць штук – па гарадáх. Тады́ яны́ іскáлі, іскáлі на другíй дзень. Німá бáбы. Тóжа больш як вóсемсят гадóў, ні нáда ж буló іцьці у лес. Паéхалі, іскáлі, іскáлі – нет. А ў нас тýтъцька зь Віцебска, яны́ на лéта прыіжджáюць, лéхі дзéлаюць, картóшку сéюць. Інá маладáя, ні стáрая, інá ўсё хóдзіць [па лесе]. Хадзіла, хадзіла па чарніцах – ці клю́квы ўжо? Журавíны ўжо? – ай-ё, [наткнулася] на бáбу на тýю. Сядзіць пад ёлкай, éная сýмачка там, усё ужó ніжавáя. Нашлá якрáс тýю бáбу. Ну што? Тады́ дамóў прышлá, пазванілі ў міліцыю. Міліцыя прыéхала за ей, што йна нашлá і паéхала зь íмі. Бáбу тýю ўзялі. Сюды́ прыéхалі к ей, расьпісáлі: аткýль вы, што. Гавóруць: у Віцебску жывём, а тýтацька на бáцькінай хáці, усё тýтка. Напісáлі. Во як.

***

А ціпéр бáба яшчэ́ у нас праʸпáла, во тут у Заручэ́ўі, нідалёка. Ужó стáрая. А бох вéдаіць у гълавé стáла у іййé, вéрна і пашлá. Э́та увóсінь балá. Вóсінь. Зімá во прайшлá. Іскáлі, іскáлі. У йе дзяцéй ні былó. Пляме́ньнікі зь Віцебска на машы́ні прыéхалі. Éзьдзілі, éзьдзілі, іскáлі іé там блíска па лясý німá. А тады́ тóжа во тýтацька, блíзінька. Інá пашлá высікáць, што йна там пáлку нéйкую. “А-ё, – гавóруць, – сýмка ляжы́ць, вадá тýтъцька, адзéжа ляжы́ць, а бáбы нет”. А йдзе бáба? Як інá? Ужó біс пáміці, ішлá кудьí ішлá. А там выдá такáя балá. Прыéхалі пляме́нікі на машы́ні ізь Віцебска, іх мнóга, штук пяць тáмъцька людзéй ўзялі. Хадзілі па тэй, там разьлíта éта, въдá, яны́ дýмалі інá ўтапілася. Палядзíм – адзéжа. Пляме́ньнік ж жóнкай прыіжджáў, [яна гаворыць]: “Во я ей давáла éту кóхту”. Кóхты інá узнáла, усё, і хýстачкі. А йе нет нійдзé. Па вадзé хадзілі цэ́лый дзень, машы́на стаяла. Німá бáбы. І ціпéр німá. Яшчэ́ прыіжджáлі во на днях, німá нійдзé, а кóстачкі мáленькіі былí. Дзе што? А адзéжа éная, хýсткі éные, што даʸвáла ей давáла éта [жонка пляменніка]. А іé ні нашлá, ні нашлí.

*– А жанчыны не баяцца хадзіць па лесе, тут жа, відаць, гадзюк шмат?*

– Éта вужáкі? У нас éта [суседка] во ў гóрадзе, у йе мáтка памёрла, во што во хáтка, дык інá прыжджáіць, я́гады тýтацька кругóм, у хáці. Тýтацька зарасló усё, і яны́, вужакі, тýтацька. І ў мінé на дварэ́ вужáка. А сын мой там ў ліхáх быў, я гаварý: “Сярóжа, Сярóжа, у мінé пáлкі нет”. Прыбéх, забíў. Яны́ ні вужáкі, а вуш нéяк іх называ́юць, дык яны́ тут хóдзюць і па вýліцы.

І во тут калíй-та я вы́шла, а янá тýтъцька на завáлінцы. Ай-ё. Пакýль я за пáлкай – а йе ужó нет. Там зáрась, там і крапíва, там ай-ай. Зарасло ўсё, рас нет нікóга. Ціпéр усягó есь. І сьвíньні бéгаюць, бýльбу ры́юць дáжа, дзе пасéена. Сьвíньні бéгаюць у нáс. Сын вы́шаў рáна. Пашóў вон, а яны́ ўтраíх па дарóзі, пабéглі ўтрох. Яны́ п ры́лі бýльбу ў нас тáмацька, інá зараслá там, я ні знáю. Тады́ сабáка забрахáў, тады́ яны́ пашлí па дарóзі.

А рáньшы – а нягó – дык ваўкí. Тут во Навікí, там жа шкóла балá, а тады́ Гáлі, Запрýдзьдзя хадзілі у шкóлу сюды́. Дзіўчáты пашлí напярóт, а ён, мальчугáн, астáўсі адзíн ці што. Тады́ яны́, дзіўчáты, атыйшлí далёка, чýюць крычы́ць. А воўк на ягó. Яны́ вярнýлісі і крычáлі, дык ён [воўк] пашóў. Ягó завязьлí к Дзíмке, нучувáлі тýтка во, ціпéр ужó хáты тут нет.

***

Ай-ё, ту́тацька ма́ла хто ў вайну́ аста́ўсь. Усі́, усі́ чы́ста [загінулі]. І мой дзі́вір. Адзі́н у Шумі́ліна чаго́ ён там е́зьдзіў на кла́тбішчы у Ла́твіі ка́іцца (кажется), і дзе́віра майго́ ўжо нашлі́. Магі́лу яго́наю. І хамі́лія Міса́едаў, і с Кавале́ўшчыны, там пахаро́нет. Ні прышо́ў.

*– А партызаны тут былі?*

– Ай-ёінька, як то́лькі ве́чар, мая́ ты ро́нніінькая, – я ж у До́ўгіх жала́, ба́цька быў і ма́тка – абы-то́лькі сьцямне́лася, а там лес за дзярэ́ўняй, а яны́ ў лясу́, парцізаны, а ту́тацька блі́ска, кіло́метры два, не́мцы стая́лі. І то́лькі ля́жам: “Аткро́йця, парціза́ны”. Соль, абы-што́ бра́лі. А ў самы́х жа ні было́ со́лі, ніч́ога. Ма́тка: “У нас жа, дзе́ткі, не́тацць [нічога няма]”. А ён вы́няў шо́нпал і ма́тке шо́нпалам, шо́нпалам. І свае́.

*– А партызаны часта прыходзілі?*

– А няго́. Блі́ска. Каро́ў у нас но́ччы пубра́лі. Там жа Дзьвіна́. Каро́ў во́зьмуць у нас ва$^у$ ўсіх і ў Дзьвіну́ на той бок, яны́ і плыву́ць, каро́вы. Там яны́ (партызаны. – *В. К.*) рэ́жуць, і ва́руць, і яду́ць.

А тут улаві́лі парціза́на анно́га. І му́чалі яго́, і бі́лі яго́ та́мацька, і забі́лі. Зямлёй тро́шку прыкры́лі. Туды́ да́лій, кіло́мітраў пяць.

А ту́т-ка кап стая́лі не́мцы, кап ужо́ улаві́лі – усі́м ба [было], і дзярэ́ўню спалі́лі, і пабі́лі, як во у Хаты́нях, усю́давъх было́. Тут гарэ́ла, тут жа даро́га. На́шы атступа́лі, а яны́ смалі́лі, не́мцы. Ту́тацька вы́гърала дзярэ́ўня бала́ сяро́т. Ні дай бох вайны́, ні дай гаспо́ць.

***

Мы былі́ ў анно́й ха́ці, а ў нас быў ста́раста, з на́шай дзярэ́ўні, сусе́т да́жа. Я ж там у ха́це тэй, а не́мцы забіра́лі, яны́ атсъла́юць – тады́ куды́ яны́ е́тых? – малады́х. А той ста́раста узя́ў не́мцам [сказаў], што я та́мацька. Ай-ё-енька. Я дзяўчо́нка, ужо́ ла́нная бала́. А ён сказа́ў, і хамі́лію маю́, сусе́т, сусе́т. А там ішчэ́ сро́сьцьвеньнікі былі́, Бо́ськавы дзьве было́. Тады́ мы так во пат паро́х у я́му і пад масто́м. А ста́раста сказа́ў і хамі́лія і ба́цькавы, і ма́ткавы. Прышлі́, падама́юць до́скі [у іншай частцы хаты], а мы у е́ту ха́ту ўпаўзьлі́, ту́тацька. І та́мацька гы́ркаюць, і гы́ркаюць, іска́лі і ні нашлі́. Узя́лі маю́ ма́тку і ба́цьку у ба́йню запёрлі, што схава́лі міне́. Ну й замкну́лі ма́тку й ба́цьку. А што ж, на́да выхадзі́ць, а што яны́ памру́ць та́мацька. Я пашла́ дзе йі́х мно́га, та́мацька ста́раста, такеі ніпрастэ́і. Пашла́ туды́ я, а ў міне́ во така́я была́ шчо́ка: ту́тацька зуп бале́ў, ліцо́ распо́хла. І така́я я ма́лінькая. Ю́пачку каро́цінькую [адзелі]. Пашла́ к ім, што ма́тку і ба́цьку яны́ ж бы... Тады́ яны́ гы́ркалі, гы́ркалі і: ідзі́ дамо́ў. Тады́ ма́тку і ба́цьку атамкну́лі. Во, во які́ быў ста́раста. А тады́, як прышлі́ на́шы, як іх да Бярлі́на дайшлі́, гаво́руць: скажы́ця, хто, хто быў ту́тацька ста́раста. Яго́ п січа́с (расстралялі), а Бо́га пабая́лісі, ні сказа́лі, быў, паку́ль быў і памёр. Мы ўжо ні сказа́лі.

*– То вашага бацьку і маці ў лазні трымалі?*

– У ба́йні замкну́лі, што іска́лі міня́, ён жа сказа́ў. Яны́ ж ба памёрлі, кап я ня вы́шла. А так я была́: шчака́, зуп во так апо́хлі. Ба́цька мой быў ста́ры, алі́ пасьле́нных мушчы́н бра́лі на другі́х дзераўні́х, і ба́цьку майго́ [ўзялі] ішчо́ як не́мцаў ні было́. Старэ́йшэі, пасьле́ньніе шлі, шлі, а лю́дзі гаво́руць, што вы йдзіцё, ужо́ не́мцы тут. Мой ба́цька ўзя́ў вярну́ўся, а не́скулькі пашлі́. Ба́цька аста́ўся так, а адзі́н там і ні прышо́ў. Тады́ тры гады́ не́мцы стая́лі ш.

**З народных традыцый**

*– Можа раскажыце, як Каляды святкавалі, як варажылі?*

– Варажы́лі, тады́ ж бува́ла варажы́лі. Ай, як мы там варажы́лі... Што-ніб́уць пат галаву́, як спаць, ло́жыш, што-не́буць, ці ваду́ ці што.

Каля́ды хадзі́лі, пе́лі, хто выхо́дзіць, даю́ць што-ніб́уць.

У нас як Пáска, тады́ на другі дзень валачэ́бнікі хóдзюць. З гармóнем, пяюць пад вакнáмі. Хто вынóсіць яíчак, усягó ўжо ім. А яны́ пяюць і ігрáюць.

На Пáску ўсячына былá, рабілі [усялякіх страў]. Што лýччае. Бýлкі пяклí. Яíчкі крáсілі шалухóй. Рашчы́нім нанóч [цеста]. Дрóжджуў трóху, мукí, малакá, а тады́ на зáўтрага замéсіш во так во (паказвае спосаб замешвання. – *В. К.*) і ў печ. [Пяклі] на скъварóдзе ці патэ́ліны такéя былí. Крýглые бýлкі такéя.

Бувáла ш хлéба ні куплялі ж, а такáя дзéжа[э]чка во такáя. Я во так во мішáю, на зáўтрага рашчы́нім на ноч, закíсьніць. Бýльбы туды́, тады́ лýччы. Бувáла такéя стýпы у нас, туўкáч, таўчэ́ш. Мішáю, у пéчы як згары́ць, тады́ ўжо сóдзім хлеп. Былí такíе скаварóды. Я мішáю, а мой Віцька кругóм дзéжа[э]чкі хóдзіць, а тады́ – кулíк галавóй.

Як пяклí хлеп, лісьця якóга ці во сýшыш ат капýсты лісьця, а то мукóй пасы́піш. Хлеп так пяклí, як зьясí той, тады́ яшчэ́.

*– А ці святкавалі вы Купалле?*

– Купáла былó на Йвáна, Івáн ужó атышóў. Як бувáла пу дзіраўня́х. Мы хадзілі, пéлі. Гарáць тáмъцька калясы́ рэзінавые усюдъва, а ціпéрацька ў дзярэ́ўні нет нікóга.

***

У нас балá мáленькая хáтка, нікýды. А тады́ ў вайнý лес навазілі, éлкі ужó во пагнілí. А тады́ ў вайнý наймáлі дваíх шчыт [рабіць] і пéчу.

***

Бувáла, хóдзюць тýтка людзі, éдуць, а ціпéр зьдзéлалі мінірáтары тáмацька (асушылі тэрыторыю. – *В. К.*), во вы́секлі (зарасці) і нíяк ні разьбéруць.

Ціпéр во тут вадá. А як зімá, так замéрзьніць і вады́ нет, тады́ бóчкамі вóзюць. Абы́ марóс, і інá замірзáіць.

***Расказвае Ф. Д. Тарабука, 1937 г. н., мясцовы карэнны жыхар в. Кавалеўшчына, адукацыя сярэдняя прафесійная;*** *запіс зроблены і расшыфраваны В. М. Курцовай у 2016 г.*

Шкóлу я кóнчыў, а тады́ на кýрсы трактары́стаў у Бешанкóвічах шэсьць мéсіцаў вучы́ўся. Тры́ццаць шэсьць гадóў атля́паў на трáктары. На камбáйні гады́ тры атрóбіў, тады́ на трáктары рабóтаў.

Маé бáцька і мáтка былí стáрыі, і мінé за э́тага ні брáлі ў áрмію. Я ні служы́ў. Так я і астáўся тут гурувáць.

Пóсьлі вайны́ я ні жыў, а гу[а]рувáў. Душы́лі людзéй і налóгі, і зáймы – усё. У шкóлу хадзілі, у лапця́х хадзіў шчэ ў шкóлу. Мáтка на кручóк плілá, такíе лёганькіе, зь нíтак, зь лёну нíткі крэ́пкіе, здарóвые, яны́ сáмі прáлі. Тады́ ўжо бýркі нéйкіе стáлі шыць. Тут былá партнáя, насíлі к ей. Тады́ пашы́юць с кáмеры ат машы́ны склéюць чунí такíе, надзівáюць на éтые на бýркі. Чýні нападóбіе калóш, но яны́ нігóжые такíе, нікрасíвые. Шкóла былá у Навікáх.

**З успамінаў пра вайну**

Нéмцы у вайнý тут былí. А людзі? Нас сь пяці хат сагнáлі туды́ вун, мы там жылí, а яны́ у нáшых хáтах. У іх тут кýхня, дзе Івáн жывéць, былá, ім тут гатóвілі. І жэ́ншчыны, вéрна, рýскіе былí, даглідáлі іх. Нéмцы усякіе былí. Я вот пóмню іх тут пяць нéйкіх афіцэ́раў былó ці хто яны́. І машы́ны ў іх тут былí, на дварэ́ стаялі, і я мáлы украў нанóс у іх. Іньцірэ́сна ж вады́ набрáць і тады́. І ён мінé як улавіў, тым шлáнгам як атхадзіў.

***

Там Старана́ зва́лася дзярэ́ўня. І ма́льца аднаго́ – ако́пы не́йкія рыць сабіра́ліся – улавілі. Ско́лькі ён там пабы́ў, дзень-два, уцёк. Тады́ яны́ яго́ улавілі другі́ рас, завязьлі́ туды́, ён яшчо́ ўцёк. На трэ́ці рас улавілі яго́, разьдзе́лі як маць радзіла́, за дзе́рава прывіза́лі. І за ноч камары́ зае́лі. А лю́дзі відзелі, як ён го́лы стая́ў і хаце́лі атвіза́ць яго́, пусьціць. А яны́ паста́вілі часаво́га, штоп ні пуска́ў людзе́й. А людзе́й у нас тут ні палілі.

***

Адзін гот, я як то́лькі стаў трактары́стам, па Дзьвіне́ сільна плыло́ мно́га ле́су, ай-ё. Дык хто там ля Дзьвіны́ жыў, лавілі і ха́ты стро́ілі, ціга́лі. І я ціга́ў на бе́рах на тра́ктары.

По́сьлі вайны́ пло́ха жылі́, ха́ты ста́рыі, дрэ́нныі. І даю́ць у гот два кубаме́тры ле́су і во строй ха́ту з двух, сабіра́й. Далі́ два кубаме́тры, а аста́тняя – дажыда́й. У адны́м гаду́ да́лі два кубаме́тры, у сьле́дуюшчам яшчо́ даду́ць два, і пака́ ты на дом насабіра́іш, пе́рвые кубаме́тры згнію́ць. Ско́лькі гадо́ў э́та на́да сабіра́ць?.. Кубаме́траў два́ццаць на́да на дом. Во дзе́сіць гадо́ў на́да было́ ждаць. Пака́ два кубаме́тры тых ліжа́ць, яны́ згнію́ць. Тады́ ўжо да́лій, бо́лій ста́лі дава́ць, ско́ка табе́ на́да, бяры́. Я сваю́ ха́ту ні будува́ў, я купі́ў на Пара́ччы ха́ту, сабе́ прывёс. Там лю́дзі жылі́, а тады́ не́куды вы́ехалі яны́, а я купі́ў. Ха́та на е́там ме́сьці, дзе ба́цька жыў.

***

Я мно́га гадо́ў ні жані́ўся. Ба́цька з ма́ткай ста́рыі, міне́ б, як ажані́ўся, сра́зу б у а́рмію забра́лі. А так я у а́рміі ж ні служы́ў. Ба́цька памёр, ма́тка астала́ся, тады́ я ўжо жані́ўся. Ста́ры. Тры́ццаць ні было́, мо́жа два́ццаць пяць там.

*– А ваша жонка таксама мясцовая?*

– Тут кіло́метраў шэсьць дзярэ́ўня, Узрэ́ччa. Яна́ жала́ з ма́ткай, адна́.

***

Тут во Не́сьцер жыў. Ён быў на вайне́, ваява́ў, прышо́ў з вайны́. Жыў там далёка на краю́ дзярэ́ўні, а былі́ зі́мы дрэ́нныі, замята́ла там яго́. Як замяце́ць, ні мо́жыць с ха́ты вы́лезьці. Ён ж жо́нкай жыў, дачка́ у вайну́ памёрла, бальша́я ўжо. Ціф ці што. Жо́нка памёрла, ве́рна, гады́ чаты́ры ён адзін тут жыў. Ні стаў відзець, сляпы́ быў. Аднаму́ яка́я йна жызьць. Шчэ ба́ба адна́ жыве́ць, і то́е і то́е зьдзе́лаць [зможа], а мужы́к адзін аста́ўся – дык ета́ так.

***

З вадо́й так: маро́зу нет, у нас харашо́, як маро́с, тады́ замерза́іць. Рас у нядзе́лю у бо́чке прыво́зюць намваду́. Біто́ны ў ка́жнага, набіра́ем і жывём. Дык сабе́ б хвата́ла, но каня́ ш на́да карміць. У нас на дзярэ́ўню да́дзены нам конь: ся́ньні – мне, за́ўтра – табе́. І ко́рмім так: нядзе́лю адзін, нядзе́лю другі́, сьле́дуюшчую нядзе́лю ешчо́. Про́шлую зіму́ утро́х мы карміі́лі, но ціпе́р да́чнікі два прые́хала, яны́ навя́зываць пасабля́юць нам. Жывём пло́ха. Жывёш адзін, во ні людзе́й, ні пагавары́ць ні сь кім ніко́га німа́. То́лькі адно́ развлячэ́нія, як машы́на ідзе́ць па бальшаку́. Палядзіш – і ўсё вісяле́й. А зімо́й во́кны заме́рзнуць, на ла́вачке во тут ня бу́дзіш сядзе́ць, у цюрме́ у э́тай во бу́дзіш сядзе́ць. Плаха́я жызьнь.

***

Тут пасяро́т дзярэ́ўні нямо́жна уе́хаць, ніч́ога. Тут як быў адзін прыдсіда́цель, пяско́м, цікуно́м засы́паў, ніч́ога была́ даро́га. Пясо́к біс ка́мня, жо́ўценькі заве́цца цяку́н. Дык во дзіржа́лася. А там у канцы́ кра́ю з гару́шкі вада́ вымыва́ла ўсё. Там ні тра́ктар, ні машы́на [не пройдзе], ні на каніі ня мо́жна было́ прае́хаць. Дык то́жа сту́калі, сту́калі ў Бе́лы дом, то засы́палі тро́ху там каме́ньчыкамі, ціпе́р ні ву[ы]мыва́я. А та́кжа ні на каніі, ні на тра́ктары і на машы́ні там мо́жна прае́хаць.

Кла́тбішча зарасло́. С хі́ўраля́ ме́сіца нам во дзе́лаюць кла́тбішча.

***

Тут заро́шшы, вужы́ во с кла́дбішча. Сядзі́м с стару́хай тэй во тут во. Не́хта шаве́ліцца пад ла́вачкай. Глядзе́лі, глядзе́лі, дык не́хта шаве́ліцца. Я ўзяў нагой вы́капаў – зьмяёнак такі́ во. Пад ла́вачкай. Я яго́ прыбі́ў, вы́кінуў. Тады́ чэраз нядзе́лю ат кало́нкі зьмея́ паўзёт сюда́ на нас. А тут не́шта дзе́лаў, к асфа́льту туды́, к каліда́ру, зьмяёнак ма́лы паўзе́ць.

*– Скажыце, калі ласка, змяёнак – гэта вуж?*

– Вуж шэ́ры, а то чо́рны такі́. Тут на кла́дбішчы ня то што зьмéі, тут ваўкі́ бу́дуць вадзі́цца. Тут жа было́ заро́шшы, забі́та усё, нільзя́ было́ ні прайці́, нічо́га. Во парэ́залі тро́ху, так ліжа́ць.

***

Во тут ціпе́р бо́йная даро́га зьдзе́лана, а ў Навікі́ хадзі́лі, тут напраму́ю была́ даро́га. Хадзі́лі на ўтару́ю зьме́ну мы, часо́ў у дзе́сіць мо́жа шлі са школы. Хадзі́лі здалёка – з До́ўгіх, з Галь – ма́льцы, дзе́ўкі. І вот: дзе́вак наве́рна штук шэсьць ішло́, і ма́лец зь йімі адзі́н. А пурга́ была́ страшна́я. І е́ты ма́лец аста́ўся закуры́ць, а дзе́ўкі пайшлі́. Дайшлі́ да е́тай, цэнтра́льнай даро́гі, – німа́ ма́льца. Яны́ вярну́лісі: ма́лец ляжы́ць, і воўк над і́мі сядзі́ць. Дык вот, каб яны́ не вярну́ліся, мо́жа б і ўсё было́.

Яго́ как па́лку прыцяну́лі сюды́. І ні шавялі́ўся, і ні гавары́ў, нічо́га – ай-ё. Усю ноч тэ́я дзе́ўкі ціга́лі яго́ у нас у ха́це, калаці́лі. Атыйшо́ў. А то, як па́лка, і ні шавялі́ўся.

### З мясцовых здарэнняў

(пра памерлых)

Памёр мужы́к, Ві́ктар. Памёр, яго́ пахарані́лі, усё зьдзе́лалі. Наза́ўтра[ы]га прыхо́дзюць з До́ўгіх мужукі́, яшчо́ я́му ры́юць. Прыхаджу́ я, гавару́: "Дык што вы, ай-ёй, чаго́й-та так?"

Гаво́руць: жо́нка (памерлага мужчыны. – *В. К.*) памёрла, адну́ ноч, адну́ ноч ні піраначава́ла. "Ну, ні піраначава́ла – капа́йця".

А такі́ ко́нюх быў Трахі́м. Мо́жа тро́ху ў яго́ ня ўсё было́. Не́йкіе ро́сьцьвіньнікі яны́ былі́ с тэй, з До́мнай (так звалі памерлую ўслед за мужам жанчыну. – *В. К.*). Е́ту До́мну ужо́ апусьці́лі гроп у магі́лу. Е́ты Трахі́м, п'я́ны прышо́ў: "Як До́мні рукі́ ні даць, ні папрашча́ўся". У магі́лу ўскачы́ў, падыма́іць гроп папрашча́цца зь ей. А гроп жа забіва́юць гвазда́мі. "Аткры́й мне!"

Тут на дно́га ма́льца гаво́руць: пры́гай ты, вы́куры як-ні́бу́дзь. Ма́ліц той прале́с: "Трахі́м, да вылізя́й ты". Трахі́м як (!) даў – а ў яго́ адна́ рука́ была́ – па сапля́х, так кро́ўю залі́ўся ма́лец у магі́ле ў тэй.

Што дзе́лаць: ні то зака́пъваць, ні то што дзе́лаць. Пасыла́юць зя́ця ужэ э́тай ба́бы: ён жа цібе́ паслу́хаіць, палізя́й.

Е́ты як улёз, ён яму́ як даў, і е́ты кро́ўю залі́ўся. Што дзе́лаць? Мужукі́ гаво́руць: зака́пъвайця і Трахі́ма, і ба́бу е́ту. Ну й на́чалі зака́паваць. На́чалі зака́паць – Трахі́м вы́браўся наве́рх. Тут закапа́лі, ўсё. Узя́лі яго́ зьвіза́лі, а ў яго́ адна́ рука́ была́, а другéй не было́ рукі́. Яны́ ўзя́лі э́ту руку́ прывіза́лі к нагé. Ён шавялі́ў, шавялі́ў, і руку́ э́ту вы́ціпуў. Патхо́дзіць і мужуку́ як даў э́тай [рукой] па сапля́х, мужы́к апя́ць кро́ўю залі́ўся.

Тут памяну́лі, усё зьдзе́лалі, і Трахі́м е́ты – раньшэ́ ш на магі́лы на машы́нах не вазі́лі, на ко́нях, – Трахі́м на каня́ сеў, і ён туды́ у До́ўгіе паéхаў. Прывязьлі яго́ туды́, у До́ўгіе, се́лі за стол памі́наць. Ско́лькі ён там выпі́ў і апя́ць: я руку́ ні даў До́мні, ні памяну́ў, нічо́га ні зна́ю – на́чаў так. І вот мужукі́: на́да яго́ забра́ць і зьвіза́ць. Там не́йкі адзі́н ма́йсьцер нашо́ўся, узя́ў е́ту руку́ зьвіза́ў і к нага́м прывіза́ў. Палажы́лі у каліда́ры яго́ там. Памі́на́юць, хто дамо́ў ідзе́ць, хто там сядзі́ць. Е́ты Трахі́м во́чы зажму́рыў. Трахі́м банька́ўскі быў. Бо́нькі – э́та дзярэ́ўня. Ўсё – ня ды́хаіць ляжы́ць. І вот брат е́тай жэ́ншчыны, што харані́лі: "Памёр Трахі́м", – прыхо́дзіць. А сам ужо́ глух быў. Э́та то́чна было́. Ма́льцы дужа́нскіе раска́завалі. Ляжы́ць

Трахі́м, руќа прывя́зана к нага́м. Ён жа ні памёр, жывы́ быў. Як дзьве рукі́, дык йіх у ме́ста зьвя́заюць і прывя́заюць, адну́ руку́ зна́чыць не́як [прывязаць]. Той глухі́ мужы́к нагну́ўся і ужо́ слу́хаць, ці ды́хаіць. А ён яму́ нага́мі як даў во сюды́, у ліцо́. Кроў пацікла́, і атвалі́ўся тэй мужы́к ні жывы́. А ён [Трахім] быў заро́шшы барадо́й, валаса́мі бальшы́мі. Мужы́к [глухі], што ліжа́ў, ліжа́ў, апо́мніўся. Прыбе́х, згроп нажо́нкі, што аве́чак стрыгу́ць, і ўзяў бараду́ яму́ атрэ́заў. [Гэта] ні анекдо́т, э́та то́чна было́. Ён [Трахім] сьвяты́ быў, у цэ́ркву хадзі́ў, і апусьці́ўся е́тай, барадо́й. Дык як ён [глухі чалавек] яму́ атрэ́заў бараду́, [Трахім] прышо́ў дамо́ў, дзьве нядзе́лі сь пе́чы ні зьлізаў, паку́ль ні атрасла́. Е́та мужукі́ дужа́нскіе каза́лі [было] на на́шых глаза́х.

***

Мы капа́лі магі́лу – у галава́х во ён ліжа́ў (даўнейшая труна. – *В. К.*), а мы во тут капа́лі. Дакапа́ліся да се́да, гроп яшчэ́ стаў у ствалу́. Захаце́лася нам палядзе́ць, што там ёсьць. Узя́лі ло́мам той гроп, ло́мам даску́ прабі́лі. Як палядзе́лі, прынясьлі́ хвана́рык: цёмна ж там, нявідна. Мо́жа, як бі́лі мы гроп е́ты ло́мам, мо́жа там ля яго́ што і было́. Як атбі́лі [то ўбачылі] – шкіле́т, ко́стачкі ліжа́ць, усё нарма́льна. І ат яго́ атвалі́лася ці це́ла, ці мо́жа адзёжа якая́ – чо́рнае[я] не́шта, і валасі́н дзе́сіць длі́нных, як у жэ́ншчын на галаве́. Е́та на маі́х вача́х [было]. Я уча́ставаў, як капа́лі. Я хванары́к з до́му прынёс.

### Камяні як крыжы

Бага́ты чалаве́к (магіла багатага чалавека. – *В. К.*) во тут во быў і абло́жан круго́м ка́мнямі быў, і ніко́га пато́мкаў яго́ных ні́ма́, і ніхто́ ні зна́іць. Вот для іньцырэ́су прайдзіця, палядзі́ця, ско́лькі тут камянёў ляжы́ць. Ране́й на ко́жнаю лажы́лі, а ціпе́р во ніко́га ні́ма́, то́лькі ка́мні во е́та сталі́ся.

– *Камні тут заўсёды і ўсім ставілі?*

– Да. Тады́ ве́рна бе́дна жылі́, ду́жа ні было́ [за што крыж паставіць]. Палядзі́, ско́ка тут ка́мняў. А туды́ ж [далей на могілках] мно́га ка́мняў.

***

Цэме́нт во разламі́ўся, ён жа разва́ліцца. Мне тут нагавары́лі, не́йкі ёсьць – ай, як яго́? – плі́тачный клей. І во е́та залі́ і, гаво́ра, бу́дзіць сто гадо́ў [стаяць]. Ну заказа́ў я ма́льцам, кап прывязьлі́ яго́.

*Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова*

### ТЭКСТЫ З ГАРАДОЦКАГА РАЁНА

***Расказвае Ніна Андрэеўна, 1936 г. н., жыве ў в. Ерахі, ураджэнка в. Лапцёўка Гарадоцкага раёна, адукацыя пачатковая;*** *запіс зроблены ў 2015 г. В. М. Курцовай, расшыфраваны Л. П. Кунцэвіч.*

Я нарадзі́лась у Лапцёўке ў тры́ццаць шасты́м гаду́. У вайну́ былі́ ў Германіі. Ба́цька на вайну́ забра́лі. А мы ўтраі́х з ма́май, два браты́ ў мяне́ было́ і я, і забра́лі у Герма́нію. Зьвязьлі́ у Герма́нію. Апрадзялі́ліся у аннаго́ хазя́іна. Ма́ма каро́ў даі́ла у яго́, а мы так жылі́. Жылі́ у клу́бе на сцэ́не. А хазя́ін атдзе́льна жыў. (Ой, малайцы́, мі́ленькіе, што пріе́халі).

– *А колькі вы там былі?*

– Я ня по́мню, ско́лькі мы там былі́, ці зі́му́, ці ле́та. Ле́та былі́. Там аве́чкі былі́ і пат про́валку ла́зілі. Было́ загаро́джана калю́чай е́тай про́валкай. Мы зьбіра́лі э́ту во́ўну, а ма́тка пря́ла. Ма́тка мая́ ўсё ўме́ла: і кро́сны ткаць, і прясь – усё. І касі́ць, і ара́ць – усё-усё ма́ма дзе́лала. Без ба́цькі астала́ся... Куды́ ку́ры, туды́ і напраўля́лі. Так і наўчы́лася ма́тка. Тады́

мы э́ту во́ўну скублі́ і ма́тка пра́ла, пра́ла верацяно́м. Захо́дзіць не́мка: пфу-пфу (я по́мню вае́та шчэ). Маха́ець руко́й – кінь! Пріно́сіць самапра́лку. Мі́ленькіе, яка́я самапра́лка! Ма́тка напра́ла, навяза́лі спо́так, наско́ў, тады́ як былі́. Тады́ нас атпра́вілі дамо́й. Пріе́халі дамо́й, жылі́ мы ў Лапцёўке. Усе́ дамы́ згарэ́лі ў Лапцёўке. Усе́ да аднаго́. Ні зна́ю, хто спалі́ў, ці не́мцы, ці парці́заны. Жылі́ ў зямля́нке. І ба́ня была́ ў зямля́нке. І ў зямля́нке так і жылі́. Тады́ за ба́цьку палучы́лі гро́шай, тады́ пастро́ілі дом. Ні прышо́ў ба́цька з вайны́. Мы малале́тніе былі́, дак палуча́лі за ба́цьку дзе́ньгі і пастро́ілі ха́ту. Найма́лі людзе́й.

*– Колькі вы класаў закончылі?*

– Была́ тут шко́ла. У том канцу́. Хадзі́лі у чацьвёрты клас, а ў пя́ты на́да было́ ў Каламбі́ры іці́. Кіло́метроў дзе́сець ці адзі́наццэць. Хадзі́лі ка́жды дзень. Я пя́ты клас ня ко́нчыла, кі́нула. Пашла́ у лес рабо́тать у Езяры́шчэ ў лясхо́з. Мы пашлі́ ў лес рабо́таць, рудасто́йку ре́заць. Со́сны валі́ць і па два́ ме́тры ре́заць на́да было́. І клась у кубаме́тры. Тады́ на цёс, на до́скі пілі́лі. Мы паре́жам, зло́жым у кубаме́тры і ўсё. А лясьні́к прі́дзець, прі́мець і ўсё. Калі́ два́ццэць, калі́ тры́ццэць рубле́й палу́чым. Ну а з вайны́ і е́та было́ до́рага. Ні хле́ба ні было́, ні карто́шкі ні было́. Так галадава́лі з вайны́, так галадава́лі. Ба́ла, пуко́ў назьбіра́ем, пуко́ў ат кісьлі́цы. Пукі́ такі́е расьлі́, надзёргаем іх. Ма́тка такі́х напячэ́ць піражко́ў, жуе́ш, жуе́ш – нія́к ні праглаці́ць. Яны́ ня ле́зьлі туды́ усярёд. Кісьлі́ца. Ма́тку заста́вілі у по́ле ганя́ць калхо́зных каро́ў. У по́ле ганя́лі. Ба́ла, паго́нім з бра́там. А які́я мы былі́ тады́ і́шчэ. Раз засну́лі, а каро́вы сышлі́ у другі́й бок. Бе́галі, насі́лу нашлі́. Ай-ёненько! І дамо́й баі́мся йці, што ма́тка забье́ць, і каро́ў не на́йдзем, бе́гаем, як хваці́ць. Уся́к нажылі́ся. Тады́ ў лесхо́зе рабо́тала, паку́ль і за́муж сюды́ вы́шла ў Ерахі́, тут ужэ́ пашла́ ў калхо́з.

*– Раскажыце пра Ерахі.*

– По́сьле вайны́ харашо́ тут было́. Тут было́ мно́га... Туда́, як на гару́ пады́месься, там была́ і шко́ла, і мно́га хат было́. Ла́днага было́ тут хат. У нас у Лапцёўке то́жэ мно́га людзе́й было́.

*– А як так выйшла, што адна хата засталася?*

– От так і астала́ся. Як была́ на канцу́ і астала́ся. У вайну́ Ерахі́ былі́ цэ́лы, а на́ша Лапцёўка уся́ згарэ́ла.

*– Раскажыце, як вы з Лапцёўкі сюды трапілі? Дзе мужа нашлі?*

– Мы ж хадзі́лі на та́нцы тут. У клу́б на Прудзь хадзі́лі. Клуб бальшэ́й быў. І канто́ра там была́, і клуб быў. Там і та́нцы былі́. Там і пазнако́міліcь. Зва́лі яго́ Ге́нька. Сьвякро́ва была́, сьвёкар быў. Сьвёкар ско́ра памёр. Сьвякро́ва ла́днага шчэ пажыла́, тады́ і сьвякро́ва памёрла. Астали́сь удваі́х. Дзе́ці разье́халісі. Сыно́к пашо́ў у а́рмію, а дачу́шка пае́хала ў Ві́цебск вучы́цца. Ско́нчыла фіскульту́рны це́хнікум. А тады́ пае́хала, вы́шла за́муж у Новапо́лацак і там памяня́ла прафе́сію, пашла́ рабо́таць. А сыно́к аста́ўся там, служы́ў у Маскве́ і кала Масквы́ там і ажані́ўся. У іх быў дом і аста́ўся там жыць. Сюды́ прыяжджа́ець. Вот далжо́н пріе́хаць у канцы́ ма́я.

*– Раскажыце, што вы ў лесе збіраеце?*

– У лясу́ і чарні́цы ёсь, і малі́ны ёсь. Малі́ны ёсь во як е́дзеш з Лапцёўкі, во на э́тых дзеля́нках. Такі́е дзеля́нкі, невысо́кі лес, дзе павы́разана. Тут ёсь малі́ны. Сюды́ хадзі́лі ў малі́ны. Я ле́тась ні хадзі́ла ў малі́ны. Паку́ль гаро́д вы́кашу. Ле́тась дачу́шка была́, дак касу́ купі́ў уну́к, што заво́дзіцца, і той касі́ў. Я сагну́ўшы, ні магу́. Пілу́ ту́ю я ні ўдзяржу́. Як пашлі́ дзе́ці ў шко́лу, зьдзе́лалі калідо́р, на́да было́ пакра́сіць. Рабо́тала на фе́рме. Не́калі было́ ўсё. Ну ста́ла кра́сіць. Пале́зла ун ту́ю сьцяну́ кра́сіць за́днюю. Ле́сьніца пае́хала, я звалі́лася да ап ка́мень уда́рылася. Не́калі было́ іці́ ў бальні́цу, а тады́ пашла́, гаво́рáць: на́да е́хаць у Ві́цебск на абсьле́даванне, на́да дзе́лаць апера́цыю. Так ні пае́хала, так і астало́ся. Так і сагну́лася і хажу́ цяпе́рь так.

*– У ягады ўсё роўна ходзіце?*

– Ле́тась ні хадзі́ла, а зале́тась хадзі́ла, і ў чарні́цы хадзі́ла. Ле́тась была́ дачу́шка, дак бе́гала.

*– А ў грыбы ходзіце?*

– У грібы́ хадзі́лі. Тут і казлы́, і баравікі́, і лісі́чкі, і сураве́жкі – уся́кіе. Ёсь грібы́. Грузды́.

*– А ці ёсць у вас польскі баравік? Як яго адрозніць?*

– Ёсь. Гало́ўка яго́ така́я цёмненькая. Ізра́зу віда́ць, дзе бараві́к, а дзе казёл, а дзе сураве́жка. Усё віда́ць. Во́зьмеш, тады́ на́да перамы́ць, атвары́ць, тады́ ядзём.

*– Вы даяркай працавалі?*

– Не, я на сьвінафе́рме. Кіло́метроў трі бу́дзець, хадзілі.

*– Не баяліся рана хадзіць, ваўкі не траплялся?*

– Ні ра́зу. Уну́чачка тады́ падрасла́, нібальшэ́нькая была́, у шко́лу хадзіла. Ба́ла, я пабягу́ на фе́рму, а яна́ паглядзіць – мяне́ нет. І прыбягіць. – А-ё! Ста́ну парася́т карміць, аткрыва́ю хлеў, ай-ё!– і ўхо́дзіць у хлеў. Ці баялася, уну́чачка? – Ба́бушка, бая́лася там, дзе лес, бяго́м бе́гла. А тады́ йдзём атту́ль ціхо́нечка. І яна́ са мно́й ідзе́ць.

*– У вас тут куры ў двары, а ліса не крадзе іх?*

– Мы, міленькая, курэ́й ні дзяржы́м. А ране́й усяк было́, калі вы́пусьцім. Ба́ло, по́йдзеш на рабо́ту, то ду́маеш, ці бу́дуць, ці не, як прі́дзеш. Сава́ лята́ець. Прі́дзець і задзярэ́, зра́зу на ме́сьце. Усё-усё да тла зьесь, да тла. І лісіца хо́дзіць, лісіца кра́дзець. Хаце́ла дзяржа́ць, а тады́ паляжу́ на дваре́ – бе́гаець шашко́, куре́й есь. Гаварю́: не, ня бу́дзем мы дзяржа́ць.

*– А мышы ёсць?*

– Мы́шы ёсь. А міленькая мая́, пае́дзеш на зіму́. Ну аднэ́й астава́цца тут то́жэ ні выхо́дзіць. Пріе́хала васьмо́га ма́рта – нігдзе́ ніко́га нет. Е́тые шчэ ні пріе́хали на́шы, Іва́н ні пріе́хаў, то́жэ ў дачкі ў Гарадку́ быў. Жо́нка памёрла ле́тась, сёлета ўжэ ў дачкі быў. Пріе́хала, дак не́як ні па сабе́. Адна́. Саба́ка забрэ́шэць, ду́маю: крый Бог, хто сту́кнець у акошко.. Не, брэ́шэць, брэ́шэць, уста́ну пагляжу́ – нідзе́ ніко́го нет. Ля́гу, засну́. Сла́ва Бо́гу, нідзе́ ніко́га. А ле́тась уключы́ла цілівізяр, ляжу́. Не́хта крічы́ць. Ну хто? Аткры́ла занаве́саньку, а ён стаіць. А е́та Мішка, сват наш. Пріе́хаў на матацы́кле і сту́каець. Гаварю́: “Мішка, бо́льшэ ня е́зьдзі, я баю́ся. А пріе́дзеш, дак ня лезь цераз барка́н”. Перялёз цераз барка́н і ў вако́шко сту́каець. Тфу, гаварю́, мац тваю так. Харашо́, што свой, а як чужы́й бы. Атлажы́ла, пішо́ў у ха́ту: “Цётка Нінка, дай буты́лку, хачу́ пахмялі́цца”. Да́ла кра́сьненькую, вы́піў і пае́хаў.

*– А самагонку гналі?*

– А-ё, міленькая мая́, а-ё, гналі. Зава́ріш яе́ да са́хару ўсы́плеш. Муку́ аржану́ю мало́лі са́мі у жо́рны. І цяпе́рь жо́рна стая́ць. Сама́ мало́ла. Ба́ла, прі́ду́ з рабо́ты, уно́ччу на́да намало́ць. Но́ччу на́да і памы́ць, і пе́чку вы́тапіць. У трі часы́ ўста́ну, на́да ж быць нагато́ве. Трактар ідзе́ць, людзе́й вязе́ць із Лапцёўкі і нас забіра́ець і вязе́ць у Беравіцы. На́да ж і прібра́ць усё, і каро́ву падаіць, усё. Запа́рілі муку́, тады́, туды́ вады́ ўліёш, джажжэ́й, усы́пеш са́хару. І рабо́таець. Рабо́таець, рабо́таець – атрабо́таецца, тады́ мо́жна гнаць. Біто́н, кры́шка, у кры́шке дзірка. Тады́ дуга́ така́я і бягіць у ту́ю дугу́ самаго́нка. К сва́дзьбе нагна́лі самаго́нкі, дзе́лалі сва́дзьбу. Адну́ і другу́ю.

*– А жыта не прарошчвалі?*

– Угу́, угу́, прараста́ла жы́та, тады́ была́ сало́дкая така́я. Цесь была́ сало́дкая, сало́дкая. І на хлеб мало́лі. Мукі ж ні было́. Ба́ла, наме́леш і хле́ба напяке́ш. Наме́леш, тады́ на́да решато́, прасе́яць. Учы́ніш к начы́. Тады́ с утра́ ўста́неш, замяша́еш яе́ там. Руко́й мяша́еш. Тады́ пе́чку вы́тапіш, зьмяцёш там. Ба́ла, лісту́ дубо́вага нарвеш. Во такі дуб стаіць, шыро́кіе лісьці. Лісьце то́е пало́жыш, да на лапа́ту і ў пе́чку.

*– А бульбу ў хлеб не дабаўлялі?*

– Не, не дабаўля́лі, няўку́сна тады́. Сачні такіе пяклі. То́жэ ўчы́ніш нямно́жка, ні сто́лькі ж, як на хлеб. С утра́ ўста́неш, замяша́еш, а тады́ раската́еш ро́ўненька на сталé, мукі патсы́пеш, раската́еш. Тады́ на скаваро́ду, крайкі загне́ш. Тады́, ба́ла, на э́та це́ста я́гад насы́плеш, чарніц. Ай, міленькая, якіе ўку́сные. На жару́ пяклі. Як дро́ва гаря́ць, тады́ ён гарі́ць, а як дро́ва згаря́ць, на э́тым жару́ яны́ й пяку́цца. Тады́ ой, якіе ўку́сные. То́лькі ш чарніцамі пяклі.

*– А як булкі на Вялікдзень рабілі?*

– Бу́лкі? А бу́лкі замяша́еш, абката́еш так кру́гленька, вот як ла́дка така́я бальша́я. Абката́еш, на лапа́ту – і ў печ бу́лачку. Лісьці́нку падло́жыш туда́. Разьмяцёш там усё чы́сценька,

штоб было́ чы́ста. Спецыя́льна было́... Ба́ла, нарве́ш сасны́ э́тай, памяло́ зва́лі. І сьпяке́цца. І вы́цянеш тады́, і ўсё.

*– А бывала, што ўчыніш, а хлеб ні ўдаўся?*

– Было́ й так, мі́ленькая. Ба́ла, ні патхо́дзіць це́ста да й усё.

*– Усё самі пяклі, не было куплёнага?*

– Не, хле́ба не было́. А тады́ ўжэ ста́ла. На Ключу́ быў магазі́н, прадава́лі тады́ хлеб. Ужэ́ лу́чшэ было́. А то ж не́калі было́, не́калі. Сьвякро́ва за́муж вы́шла у Бедалі́цы. Астала́ся адна́, дво́е дзяце́й, на́да ў шко́лу атпра́віць, хазя́йства, і сьві́нне, і каро́ва, і конь быў. Усё было́. Нія́к было́ ні спра́віцца, дак, ба́ло, хле́ба ку́піш, дак усё скаре́й. Што-ніб́удзь звары́ў, дай пабе́г на рабо́ту.

*– А што к Вялікадню гатавалі?*

– Ай, уся́к было́. Калі́ пост, калі́ жы́рна было́, уся́к.

*– А як вы кілбасы рабілі?*

– У кілба́сы, ба́ла, мя́са атва́ріш палу́чшага тако́га. Кі́шкі памы́еш, прапу́сьціш іх, усё зьдзяре́ш, тады́ яны́ сьве́тленькіе такі́е ста́нуць, а тады́ натка́ем, пасу́шым, тады́ ядзімо́.

*– А з крыві што рабілі?*

– Мы крывя́ные ня дзе́лалі. Мы то́лькі зь мя́са дзе́лалі. Лю́дзі дзе́лалі й крывя́ные, я ня дзе́лала. Не́калі мне было́.

*– А ўнутранасці?*

– Е́та ўсё е́лі, пячо́нку е́лі. Трыбу́х, ба́ла, аблу́пім, сту́шым, так і ядзі́м. У пе́чке сту́шым, лі́сту туда́ пало́жыш, часнаку́, цыбу́лі, са́ла туда́, штоб жы́рный быў і е́лі так.

Ужэ́ тро́хі нічо́га было́, як ужэ́ тро́хі з вайны́ пажылі́. Ста́лі каро́ў дзяржа́ць, ко́ней ста́лі дзяржа́ць. Гаро́ды ж на́да было́ паха́ць, а не на чом было́. Ма́тка сама́ й ара́ла. Застаўля́лі й калхо́зную зямлю ара́ць. Харашо́, што ко́ні былі́ спако́йные. Наш конь быў такі́й спако́йны. Ба́ло, ма́тка пае́дзець і аре́ць. І бу́льбу атво́рвала сама́, а тады́ ўжэ ма́льцы падрасьлі́. Тады́ ўжэ ма́льцы ста́лі памага́ць ма́тке. І цёс ма́льцы пілі́лі з ма́ткай. Пастро́ілі дом, ста́лі жыць. Пераяйшлі́, мо́сту ні было́. Прі́шлі ма́льцы, про́сюць: цётка На́сьця, пусьці́ нас на та́нцы. Ну мо́сту ж нет, ну танцу́йце. На зямлі́ так і танцава́лі. І вальс, і каро́бачку – усё, усё. Гармані́сты ў нас былі́ са́мі, у Лапцёўке ма́льцы былі́. Два гармані́сты было́. Ой, мі́ленькая, як іґра́лі харашо́. Страда́ння пе́лі. Ну усё, усё: каркавя́к, ре́чаньку, падаспа́нь. Нет ма́льцаў, дак дзе́ўка з дзе́ўкай танцава́лі. Ці́ха, спако́йна. У нас у Лапцёўке ні дра́ліся. А так, ба́ла, завяду́цца на та́нцах і дра́цца. Усяго́ было́. А на́шы ма́льцы былі́ спако́йныя, ні ра́зу ні бі́ліся, нічо́га.

*– А якія звяры ў вас тут ёсць?*

– Ваўка́ ві́дзяла. Адзі́н раз бе́гла, насі́ла я́гады ў Езяры́шча прадава́ць, чарні́цы. Бягу́, так бягу́, баю́сь, каб ні апазда́ць, цемнаты́ баю́ся. То́лькі за Сьцюдзёнку забе́гла, тут така́я гара́ пасярёд ле́су. То́лькі на гару́ забе́гла – і воўк. Ай, мі́ленькіе маі́, я рятў́нку: ай-ё, гад, ай-ё, гад. Зьвярну́ў тро́ху. Я бяго́м. То́лькі прабе́гла тро́ху, і лю́дзі іду́ць: “Ці ві́дзяла, бабу́ля, ваўка? – Ві́дзяла. – І мы во тут ві́дзялі”. А шчэ далёка да Лапцёўкі, я бяго́м, я бяго́м. Ну, пра́ўда, больш ня ві́дзяла. Бая́лася тады́. Ён ці іх правадзі́ў, ці мяне́ правадзі́ў. Ён мо́жэць навалі́цца, дак і разарве́ць. Э́таго-то ў нас ні было́. Ба́ла, ле́там пасём, дак пріхо́дзіць воўк. Крі́чім рятў́нкі, тады́ ўцяке́ць. Ба́ла, аве́чак укра́дзець.

*– А ласі ёсць?*

– Ласі? Хо́дзяць ласі́. Ну лось нічо́га ня зьдзе́лаець. Ён людзе́й баі́цца. Ня чу́ць было́, каб пріхо́дзіў. Другі́ раз су́чка бре́шэць, дак ні па сабе́. Адна́. Ле́тась была́ дачу́шка, дак так харашо́, ня ві́дзяла, калі́ ле́та праляце́ла.

*– Раскажыце, як сена рыхтавалі, як сушылі.*

– Ай, мі́ленькіе мае, ай-ё. Як у Ерахі́ перайшлі́, у Ерахах ста́ла жыць, у нас тут травы́ нет, трава́ ўся далёка. Да́лі там пад Халаме́рьем, мне і Ва́льке, што ря́дам жыве́ць. Пашлі́ мы туда́ глядзе́ць. Ну, трава́ харо́шая, но на́да касі́ць. Ну нанялі́ трактарі́стаў, вы́касілі, а на́да ж яе́ зґресь і перяве́сь. Ну ґряблі́. Ґрябём, ба́ло, у ку́чы, у капёшкі, а тады́ перявязе́ць на кані́. Так

і жылі. На зямлю клáлі капёшкі, і ўсё, а тады́ прівязём дамóй, перясýшым і на мéсто: ці ў стог ці ў пýню.

*– А каб стог не зацёк, што рабілі?*

– Анічóга. Завяршы́м макýшачкай во так і стаíць. Навéрх нічóга, нічóга. Я на стог ня лáзіла, ён, бáла лáзіць на стог, а я падаю. Тады́ адзін гот во так стагавáлі, падавáла на стог і мáма мая́ прішлá. Сядзіць да й гавóріць: Нінка, што ты дзéлаеш, на стагý ж лéгчэ, чым пат стагóм. Ну я ні магý, як ён падаéць.

*– А во там валяецца кірпіч, што там было?*

– А, там фéрма былá, і сьвíньне былí, карóвы былí, і цяля́та былí. Бальшáя фéрма былá, ну, я ні рабóтала на фéрме, я рабóтала у палявóсьцьве на кані.

*– У Ключы стаіць помнік, а што гэта за помнік?*

– Пóмнік э́ты пóсьле вайны́ пастáвілі, а я ні знáю, міленькая, чагó ягó пастáвілі, ні знáю. Вáлька казáла, што убірáлі адзін гот, застáвілі іх убірáць. Перад Пéрвым Мáем ці перад Дзевя́тым. Стая́ў, стая́ў пáмятнік на гарýшачке.

*– А як у вас з вадой?*

– А ў мянé калóдзесь. Там яны́ вы́капалі. Нам туды́ хадзіць далёка, а тут на берагý ў нас быў ключóк, хадзілі ў бéрех во тут у нізінке. Зімóй замяцéць, па сьнягý не прайці, ніяк не прінéсь. Тады́ стáлі прадавáць кóльцы, купілі кóльцы да й вы́капалі вой дзе, у агарóдзе. Чы́стая вадá, укýсная вадá, сáмі вы́капалі і кóльца пастáвілі, і зьдзéлаў верьх. Так і стáлі жыць, а то былó плóха з вадóй.

***Расказвае А. М. Нікалаева, 1925 г. н., адукацыя 5 класаў, ураджэнка в. Пруды, апошнія гады жыве ў в. Халамер'е;*** *запіс зроблены В. М. Курцовай у 2015 г., расшыфраваны Л. П. Кунцэвіч.*

Янá [суседка] даўнó ўжо, дзьвянáццэць гадóў, як жывéць. А я чаты́рі гóда ў áўгусьце бýдзець, як я тут жывý.

*– Раскажыце, як былі маладыя, як хадзілі на вячоркі.*

– А скóлькі мы былí малады́я. У сóрак пéрвым гадý вайнá. Я з двáццаць пя́тага гóда раждзéнія. Скóлькі мне былó? Мянé дýжа й ні пускáлі на тáнцы. Я сідзéла дóма ў бáцькі да ў мáткі. Два браты́ былó ў мянé. Аднагó брáта ў парцізáнах нéмцы ўбілі, стáршага. Атря́д ішóў нямéцкій і ўбілі. Ну што... жылí, рабóталі. Я маладáя насíла пóшту. З Вóбалі, дзéсець кілóметраў ат нас. Кáжны дзень хадзіла на пóшту. Хацéла ў Ленінгрáд, а прісядáцель бáцьке сказáў, што... (а нáда былá спрáўка), пусь парабóтаець, панóсіць пóшту, тады́ я дам спрáўку ей. А там былí ў мянé цёткі ў Ленінгрáдзе. Пакýль я зарабáтывала éту спрáўку, тут вайнá. Так і ня зьéхала я у Ленінгрáд у éты.

*– А пошту насілі праз лес і нікога не баяліся?*

– Не, а тады́ ні былó звярéй і такíх кустóў ні былó. Э́та ж цяпéряцька зараслó, а тады́ ж былó чы́ста, глáдка ўсё. Не, не бая́лася. Бывáла, бáцька патхóдзіць пад мянé, а то браты́ падхóдзюць, éсьлі запаздáю я. Бывáла, запáлюць агні у Вóбалі, а дзéсець кілóметраў іці, тады́ патхóдзюць пад мянé.

*– Калі ў вас Дзяды адзначаюць?*

– Трыццáтага мáя бýдзе Трóйца. У субóту хóдзюць, у васкресéньне. У нас у субóту, а тут у Халамéр'і – у васкресéньне.

*– Ці ўпрыгожвалі вы хату на Тройцу, ці ставілі май?*

– Рáньшэ стáвілі, а сейчáс – не. А рáньшэй стáвілі. У варóтах, бывáла, пастáвюць бярéзнік, на вакнáх, на паталóк паттóрнуць, а сейчáс – не.

*– А куды тады той бярэзнік дзявалі?*

А я ні знáю, я ня пóмню кудá.

*– Як кароў выганялі, падганялі такім прутком?*

– Э́та зь вéрбы. У Вéрбнае васкресéньне пасьвяшчáюць вéрбу і э́тай вéрбай тады́ ў пóле карóў прагания́юць. Вéрбачкай. Я ні прагания́ла, э́та мáтка, бывáла, прагания́ла, дак я ні знáю. Прагания́ем карóў, тады́ сабірáемся пьём. Замáчываем.

*– А песні якія спявалі?*

– Уся́кіе. І мацю́жные.

*– А танцы вы якія танцавалі?*

Ні ціпе́ряшніе, как ра́ньшэй. О ра́ньшэй! Кадрыля́, леньцея́ танцува́лі. І кракувя́к, і страда́ньне – уся́кіе. І вальс. Но бо́льшэ леньцея́. Е́та ма́льцы, быва́ла, ста́нуць і танцу́юць, дзе́вак пріглаша́юць. У мо́дзе было́ леньцея́ і кадрыля́ бо́льшэй. Плясалі.

*– А чым музыкантам плацілі?*

– Сваі ма́льцы ў нас музука́нты былі́ і пла́ты ні бра́лі. У ей мужы́к гарманіст быў. У ма́льцах, быва́е, ігра́ець усё, а пла́ту ні браў ён.

*– Як былі малыя, у якія гульні вы гулялі?*

– А ў якія мы гу́льні? Я ма́ленькая была́. Быва́ла, ма́тка по́йдзець на рабо́ту, а я гря́дкі палю́, дай усё. Не́калі было́ гуля́ць. Па васкрсе́ньням бе́галі так, не́як ні ва што ні ігра́лі. Так, быва́ла зьбе́ремся. А тады́ ўжэ як пабо́льшалі, ішчэ́, мо́жэ, й хадзіла ў шко́лу ў чацьвёрты, така́я пу́ня была́ пуста́я. Быва́ла ў той пу́ні зьбіра́лісі і учы́лісі пляса́ць. Ребя́та йшчэ былі́.

*– Як лён садзілі, што з ім рабілі?*

– Я э́та по́мню. Лён се́ялі, тады́ мя́лі яго́, пря́лі. Мачы́лі, там ко́пані павы́капаны былі́. Такіе бальшы́е. Там мачы́лі лён е́тат. А тады́ пря́лі, а тады́ тка́лі, да шы́лі руба́хі да штаны́.

*– А не выбельвалі?*

– Выбе́львалі. Быва́ла, ма́тка сьце́лець, скуты́ [‘кавалак палатка даўжынёй каля 10 м’] называ́лісі, на по́лі. А як яна́ іх, ці атва́рівала, ці апшпа́рівала, я ня по́мню е́тага. Быва́ла, на по́жні, а яны́ тады́ бе́лые-бе́лые такіе. Тады́, быва́ла, і руба́хі шы́ець ма́тка, і штаны́ – усё. І пасьце́лі тка́лі.

*– А самі вы не ткалі?*

– Я тка́ла пълавікі, а то́е я ні тка́ла, ні зна́ю.

*– А з чаго палавікі ткалі?*

– С тря́пак. Жылі́ харашо́. Ду́жа лю́дзі ста́рые: Ай, як ра́ньшэ жылі́ харашо́! А мне ду́маецца: сейча́с лу́чшэй, чым ра́ньшэй. Січа́с лу́чшэй жыву́ць, чым ра́ньшэй. Січа́с што: знасіў, пашо́ў купіў, надзе́ў і ўсё. Ні на́да ні прясь, ні ткаць, ні шыць, нічо́га.

*– А як вы хлеб пяклі?*

– Ну, жо́рна былі́ такіе. Ну, і ме́льніца была́ ў нас на Ключы́. Ме́льніца была́, дзе роў бальшэ́й. Хто вазіў на ме́льніцу, а хто ўручну́ю мало́лі. Дзе́жкі былі́. Хлеб э́тат учыня́лі да мясілі і пяклі́ са́мі. Сма́шны быва́ла. Як сьпяке́цца бу́лка ў пе́чцы, така́я румя́ная, пады́мецца. Такій уку́сны хлеб быў!

*– А ў вас яшчэ пяклі нейкія сочні?*

– Сачні́? Сачні́ пяклі́. Э́та як хлеб. Тады́ ат хле́ба адбіра́лі і пяклі́, і пріпека́лі. Карто́шка зва́ріцца, натру́ць ее́, малака́ туда́, яйцо́, і сачэ́нь э́тат пума́жуць – ды у пе́чку. Ён як пріпяке́цца сачэ́нь э́тат, то такій уку́сный то́жэ. У пе́чку, перевара́чіваеш яго́ там, штоб ні згаре́ў. Ду́жа былі́ ўку́сные сачні́.

*– А ці рабілі вы начынку з ягад, з чарніц?*

– Не, не. Е́та называ́лісі крепа́нікі [пірагі з ягаднай начынкай унутры]. Крепа́нікі то́жэ так. Учы́нюць, заме́сюць, накрі́плюць варе́ньем ці я́гадамі. Ні крепа́нікі, а калі́ткі [пірагі з ягаднай начынкай зверху] называ́лісі, во. З я́гадамі, і пясо́чкам пасы́плюць зьве́рьху. Калі́ткі – е́та зве́рьху я́гады, а крепа́нік – усярэ́дку, так яго́ абдзе́лаеш, абдзе́лаеш, усрядзі́не там е́та, та́я начы́нка. Ра́ньшэ ўся́чыну дзе́лалі.

*– А з кабана што рабілі?*

– А с кабана́ што... Са́ла салі́лі, мя́са. Калба́сы сваі дзе́лалі. Кішку́ е́ту ат парсюка́ вы́мыеш яе́. Мя́са накры́шыш, туда́ і часнаку́, і лу́ку і па́льцам піха́лі туда́, у е́ту кішку́. І така́я была́ ўку́сная калба́ска. Кала пе́чкі, кала чала́ [уваходам у печ] ве́шалі. Яна́ там завя́нець, засо́хнець э́та калбасі́на.

*– А к Вялікадню што рабілі?*

– Я́йца кра́сілі, піро́г пяклі́. Ма́тка пякла́. А як я, ужо́ куплёнае ўсё было́, ні пякла́ я. Ма́тка, быва́ла, як спяке́ць піро́г, звёрьху яйцо́м пума́жэць, тады́ блісьці́ць э́тат піро́г. Ай, Го́спадзі, уся́чына.

*– А што гэта за царквушка ў вас?*

– Е́зьдзіць к нам ба́цюшка. За́ўтрэ Узьнясе́ньне, два́ццэць пе́рваго. Там у цэ́ркві краси́ва, харашо́. Яна́ то́лькі гадо́ў пяць тут.

*А раней у Халамер'і была царква?*

– Была́, была́. До вайны́ была́, а цепе́рь е́ту ма́ленькую пастро́ілі. До вайны́ была́, там кала кла́дбішча стая́ла яна́. Цэ́рква стаі́ць, а малі́цца не́каму. Ста́рые ня ўздо́леюць, а малады́е ня хо́чуць. Ма́ла хто хо́дзіць.

*– А бальніца ваша старая?*

– Бальні́ца на́ша харо́шая. Там і врач харо́шы Міхаіл Абра́мавіч.

***

***Т. Т. Гаўрылава, 1946 г. н.***

*– А ці адрозніваецца ваша гаворка ад гаворак вёсак, якія ўжо да Расіі адносяцца?*

– Там уж саўсе́м друго́е гаво́раць. Як па-ру́ску. Я сама́ з Расі́і, з Лу́тна, э́то пад Не́вель. Там па-ру́ску гаво́раць, а тут ужэ́ друго́е. Э́та Белару́сія.

*– А святы святкуюць так, як і тут? І на могілкі ходзяць?*

– Такса́ма, як і тут. І на мо́гілкі хо́дзяць. Што мы хо́дзім у сыбо́ту тут, што і яны́ там.

*– А як вы трапілі сюды з Лу́тна?*

– Ўлюбілася ў свайго́ Нікала́я. Ён е́зьдзіў ка мне, у нас былі́ та́нцы, а мы туда́ хадзілі, дай пазнако́міліcі. І вы́шла за́муж за белару́са ў Ярыгіна. Муж тады́ у́мер, я аста́лась адна́. І вот тады́ купілі мне э́ту ха́ту. І я перяе́хала. Быў у мене́ сын, у а́ўгусьце пахараніла, со́рак дзе́вець лет.

***

*– Алена Мікалаеўна, раскажыце, колькі вы класаў кончылі?*

– Да вайны́ хадзіла ў пя́ты клас, а тады́ пабе́гла за ма́льцам і кінула хадзі́ць. Тады́ ж бедната́ была́, не так, як цепе́рь, пакіда́лі такі́е дзяўчо́нкі, і я кінула. І ні пашла́. Ба́цька як ні хаце́ў, штоб я браса́ла шко́лу! А ўсёраўно́ бро́сіла і ўсё. Хадзіла ж с Пру́ду. Мая́ й ха́та стаі́ць на Прудзе́. Мо́жа, яна́ ўжэ там разарёная. Стаі́ць ішчэ́, по́лу нет, пе́чку ў пяре́дней разабра́лі, абшы́ўку абадра́лі. Быў абшы́тый дом. Стаі́ць ішчэ́. Ну я прадала́ яго́ зада́рам. Тут купіла, а там прадала́.

*– А чаго вы выехалі адтуль?*

– Я ж адна́ там жыла́ ў дзяре́ўні, адна́ жыла́.

*– А ці прыходзілі да вас звяры?*

– Ка мне ніхто́ ні пріхадзі́ў, сьві́ньні дзі́кіе пріхадзілі, а мядзьве́дзя я ня ві́дзяла. Ваўкі́, быва́ла, вы́юць. К ха́ты [к хаце] ні патхадзілі, не. Жыла́-жыла́ адна́, а даку́ль я бу́ду адна́ жыць? Ня ўздо́лею ва́ды прыне́сь. А ту́така племя́нік у мене́. Гаво́рыць: цётка, я нашо́ў табе́ ха́ту, купля́й, переежджа́й. Так я купіла, і вот бу́дзець у а́ўгусьце чаты́ре го́да, як я сюда́ переéхала. Там адна́-адна́ жыла́. Быва́ла, як дзень – нічо́га, а як ноч – бу́тта жу́тка мне. Ну ніхто́ ні пасту́каўся ні но́ччы, і днём ні пріхадзілі. Ахо́тнікі, быва́ла, но ні беспако́ілі яны́ мене́.

*– А на каго яны палявалі?*

– На сьвіне́й. Сьвіне́й, ласе́й білі. Там жэ лес, дак там уся́кіх зьвере́й было́.

*– А ласі могуць на чалавека напасці?*

– Не, ласі́ ня тро́галі людзе́й. У нас там была́ фе́рма, а я дая́ркай рабо́тала, і быва́ла лось пріздзець недалёка ат фе́рмы, на гаре́ стаі́ць дай усё. К людзя́м не патхадзі́ў. І ня чуць было́, што там лось на чалаве́ка накі́нуўся.

*– А ці праўда, што ў вашых мясцінах мядзведзь жыве?*

– Я ня відзела, а гаварілі, што жывець. Ішчэ я жыла там, дак відзелі, што хадзіў мядзьведзь. Ну я ня відзела ні разу, ні знаю.

*– А дзе вы ў вайну былі? Ці стаялі немцы?*

– Стаялі і немцы, і парцізаны. У нас бальшый пасёлак быў. Хазяінаў сто, наверно. І спалілі немцы. А Ключ знаеце? Людзей усіх парастрелялі с Ключа немцы. У Езярішча пасагналі і растрелялі. Я маладая была, дак я ні знаю.

*– А ў Германію не забіралі маладых дзяўчат?*

– Забіралі. А я ў Германію ні пупала, а пупала ў гарем ваенный. [?] А дакументы ні сахраніла. Усюды была: і ў Смаленске была, і ў Вязьме была і ў Маскве была – усюды была. А дакументы ні сахраніла, дак так мне нічога за ета. Гарем – 51-й наш быў.

*– І што вы там рабілі?*

– Была пуцёвая брігада, была страіцельная брігада. Я была ў страіцельнай брігадзе. У Смаленске строілі мы вакзал, а жылі ў землянках. Знаю, што нас там семнаццэць дзевак было ў землянке той. Нары адны былі, а тады ўтарые, і я навярьху спала. Тады вышла я замуж, у палажэніі стала. Тады ён прівёз мене сюды к бацьке на Пруд. Тутака я радзіла. Прісылаець ён мне ціліграму: пріежай срочна, у Смаленске далі нам кварціру. А бацька мяне не пусьціў. Я яму і пісаць ні стала, нічога. Тады вышла за другога тутака.

*– І як пражылі з ім?*

– Пражыла, як і ўсе. Харашо і плоха – усяка. І работаў, і ў чарку глядзеў – усяка было. Ну а пражылі век. Тады ён памёр. Ужо дваццэць два гады, як я ялаўкай хаджу. Дваццэць два гады адна жыву. Дваццэць восім гадоў зь ім пражыла. Ён бы і жыў бы, і ні памёр бы, а сросьцьвеніку сена прівёз, а той напаіў яго сьпіртам, што машыны прамываюць. Як напаіў тым сьпіртам, так у яго ўсярёдке ўсё перегарела й памёр.

**Пра лясныя дары**

*– Раскажыце, а якія ягады вы збіралі ў лесе?*

– Брусьніца, суніца на палянах і маліна расьцець, клюква, пьяніцы. Пьяніцы – ета за дзерявушкай ува мху. І чарніка ува мху, і брусьніка, і пьяніка ета. Эта за дзерявушкай тутака.

*– А грыбы якія вы збіралі?*

– Тута грібы ўсякіе. І сыравежкі...

*– А апенькі?*

– Апенкі? Ну мы іх век ні бралі. Смарчкі есь, мы тожэ ні бралі. Грузды такіе бальшые растуць. Мачылі іх. Умякнуць у дзежке там ці ў бачку зь недзелю, тады перамыем іх, да пасолім, да крышкай і камнем націсьнем. О як мачылі.

*– А якія яшчэ грыбы бралі?*

– І сыравежкі, і подугрёбы. Подугрёбы такіе бальшые грібы. Харошие грібы, крепкіе такіе. І казялкі, нада іх лупіць. Масьлята называюцца яны. Ваўнухі. Мачылі іх, атмачывалі. Зь недзелю памякнуць ілі скольки. А падасінавікі сушылі. І на печку раскладалі, і на нітку да на сонцэ. На сонцы сушылі. І баравікі так.

*– А абабкі?*

– Абабкі мы ні бралі. Грібоў хватала, абабкі – эта ўжэ апасьледніе грібы. Мы іх ні бралі.

***

*– А ці багата было яблык у садах?*

– Багата. А як называліся? А чорт іх... У нас куплёные яблыні былі. А січас я ні знаю ці ёсь яны ці не. Я ні паглядзела, як езьдзілі на Майскіе.

*– А як захоўвалі яблыкі?*

– Усяка. Бывала, у яшчык, саломкай перяложым іх. Пад койку ставілі яшчык этат, штоб ні замёрзлі яны.

## Што расло на агародзе

*– А што вырошчвалі на агародзе?*

– Усяка вырáшчвалі: і агурцы́, і памідóры, і маркóўку, і капýсту, і лук, і часнóк, і рэ́дзьку. Гарбузы́ вырáшчвалі, а цепéряка і кабачкí. У менé ужэ́ і сейчáс памідóры зацьвітаюць. У мáрце сéялі, у хáце расьцілі расáду, а тады́ ў менé такі парнічóк – вы́садзілі і ўжо зацьвітаюць. І даўнó садзілі памідóры. Э́та цепéрь плёнка, а рáньшэ ж плёнак не былó. То якім тряпкам накры́еш... У менé ўжэ агурцы́ ўсхóдзяць. Тóжэ пад плёнкай. І лук зелянéець. Тóка маркóўка ня ўсхóдзіць і бурачкі ня ўсхóдзяць штó-то.

*– А ці былі ў вас вішні?*

– Вішні? Былí і вішні. У менé вóдзека вішаніна. Сьлíвы у Івáна былí, ранéтка. Мáленькіе такíе, слáткіе.

*– Вы садзілі памідоры, а ці сьпелі яны на агародзе?*

– Ой, як вы́сьпеюць – крáсные, крáсные. Сьпéюць, сьпéюць.

*– Але тут жа ў вас холадна, лета кароткае?*

– Накрывáлі. Усё высьпявáла. І фасóль высьпявáла. Ой, грядкі маé вы́палюць кýры.

*– А многа ў вас курэй?*

– Я ні дзяржý, нет у менé курéй. У Тамáры кýры.

*– Што вы вырошчвалі на сваім агародзе ў маладосці?*

– Памідóры, гуркí, цыбýля, буракí, мóркву. Гарбузы́ садзілі.

*– Гарбузы для сябе ці для скаціны?*

– І сабé, і для скацíны. Кабачкí садзілі.

*– Вы садзіце гэта без плёнкі?*

– Не, і гуркí пасадзіла пат плёнку, і памідóры пат плёнку.

*– Вы іх прадаяце?*

– Ну ні знáю, вот скóлькі ўнýчачцы, вýчыцца ў Навапóлацку, казáла: бáба, мне кінь. Ні знáю, скóка янá вóзьмець. Астальны́е ні знáю, куды́ дзець.

*– А раней, яшчэ ваша маці таксама пад плёнку памідоры садзіла?*

– Міленькая, памідóры тады́ ні садзілі. Плёнкі ні былó, і я знáю, што мы ні садзілі. А гуркí садзілі. Гуркí садзілі. А плёнкі ж ні былó, дак, бáло, мáтка пасóдзіць, дак як дзень начынáецца, так скарэ́й бягíць палівáць. Баíцца, што марóз, а тады́, говóрац, як пальéш, дак яны́ аты́йдуць. Так і садзілі. Пóмню, у Лапцёўцы мы садзілі, гуркí садзілі, а памідóры – не.

*– А рэдзьку, капусту?*

– Садзілі. Я ня пóмню, калí садзілі капýсту, ну садзілі капýсту. Бáла, качаны́ вы́растуць о такíе. Ай-ёненько, якíе былí качаны́, а крéпкіе.

*– Дзе ж вы іх хавалі?*

– А мы рéзалі на капýсту. І рязніца [шынкоўка] ў нас былá такáя, такáя рязніца, і я́шчычэк такíй быў. І бáла, рéжаш. Тады́ капýсту так заквáсім і стаíць.

*– А што гэта за шэрая капуста?*

– Е качаны́ ня бéлые, а бýтта краснавáценькіе такíе.

*– У вас тут кругом сады, а куды яблыкі дзявалі?*

– Я́блыкі, бáла, калí ні зьядзём, дак сьвіньня́м ці карóве аддадзём. Усé éлі. І карóва éла, тóлькі давáй.

*А ні мачылі ў бочцы?*

– Не, не, у бóчку ні мачы́лі. Капýсту ў бóчку клáлі, а я́блыкі – не.

*– А грушы ў вас растуць?*

– Ні знáю, у нас ні былó ігрýш. Ні знáю, ці ёсь у кагó грýшы, ці не.

*– А вішні не вымярзаюць?*

– Не, і сьлíвы не. Сёлета во цьвіця́ць сьлíвы, ай-ёненька! Удзéнь усё бéла-бéла. Калí марóз ні памарóзіць, во сьліў бýдзець. І я́блынька во éта мая́ усяя-уся́ ў цьвітáх. Ці памарóзіць марóз –

ні зна́ю. Усо́хлі я́блыні. Не́каму абраба́тываць іх. На́да наво́зам апклада́ць, штоб было́ чы́сьценька тут. Наво́зу нет. Ці трі ці чаты́рі я́блыні зрэ́залі, усо́хлі.

*– А вішні не ўсыхаюць?*

– Не, ві́шні не, і сьлі́вы не. Ну ня ду́жа ўсыха́юць. Во тут ля ха́ты было́ мно́га сьліў, дак усо́хлі. Сухі́е убра́лі, а е́та цяпе́рь тро́ху расту́ць.

*– Тут жыве толькі дзед Іван і вы?*

– Ва́лька і Та́нька. Во́йдзе Ва́лька, а Та́нька – утара́я ха́та ат то́га кра́ю. Пе́рвая ха́та – е́та да́чнік прыяжджа́ец зь Ленінгра́да, а та́я – Та́нька. Усё зараста́ець, было́ ўсё віда́ць, чы́сьценька, акура́тненька, а цяпе́рь усё зараста́ець. І е́ту, Та́нькі ха́ту, зь Езяры́шча не́йкі купі́ў. То́жэ прыяжджа́ець. Не жыве́ць, а прыяжджа́ець. Тут Апа́тавы на гары́ жылі́ про́ці Іва́на, дак то́жэ купе́ц прыяжджа́ў, а ні купі́ў. Тут Дзямі́давы, у Гарадку́ жыву́ць, ні ў Гарадку́, у Ві́цебску. Пріежджа́юць то́жэ. Тут Ва́лька, тут е́тат Андре́й, Іва́н. Уну́чка яго́ная, Іва́нава.

Уну́к яго́ па ўну́чцы пріве́з не́шта, я ў ляха́х [градах] была́, устанаўля́ець. Ду́маю: го́спадзі, што́йта ён устанаўля́ець? Я ду́мала, што ўстанаўля́юць ат цілівізяра. Вы што ат цілівізяра ўстънаўля́еце? – Не, мы ўстанаўля́ем антэ́ну. Не бярэ́ць у нас антэ́на, дак мы купі́лі, заме́ст антэ́ны е́ту ўстанаўля́ем. Бу́дзець цілівізяр рабо́тыць, тады́ бу́дзець е́та стая́ць, а ні бу́дзець, тады́ ні зна́ем, што нам дзе́лаць. Ні рабо́таець цілівізяр ат антэ́ны. Пріста́ўку, каза́ў, на́да купля́ць, а дзе ту́ю пріста́ўку купля́ць?

***Расказвае Т. Т. Гаўрылава, 1946 г. н., адукацыя 8 класаў, ураджэнка в. Лутна Невельскага раёна, з 1964 г. жыве ў в. Халамер'е;*** *запіс зроблены В. М. Курцовай у 2015 г., расшыфраваны Л. П. Кунцэвіч.*

– Сюды́ перее́хала і жыву́. Мужыка́ пахарані́ла.

*– Колькі класаў кончылі?*

– Во́сім.

*– У якім годзе нарадзіліся?*

– У со́рак шасты́м. Э́та цепе́рь я Гаўры́лава, а была́ Сіняко́ва. С шэйіся́т чацьвёртага го́да я ў Белару́сіі жыву́. Цепе́рь майго́ Лу́тны нет, там і ха́ты нет, нічаво́. Ма́ма мая́ ў Не́велі пахаро́нена, там сестра́ ў мене́ жыве́ць. Ма́му пахарані́лі, ну а я тут. Е́зьдзім, то яна́ ка мне, то я к ей.

*– Чаму пасля васьмі класаў далей не вучыліся?*

– А вот ні зна́ю. Наве́рна пашла́ на рабо́ту, ду́ра была́.

*– А дзе работалі?*

– У палявო́сьцьве, як дзе́ўкай была́. А як пашла́ за́муж, пашла́ на фе́рму. Год я атрабо́тала ў паляво́сьцьве, а пато́м пашла́ на фе́рму. І атрабо́тала на фе́рме тры́ццэць тры го́ды і шэсь ме́сяцаў.

*– А дзеці дапамагалі?*

– Памага́лі, і мужы́к. І до́ма было́ хазя́йство – і каро́ва, і парасёнак, і сьвінама́тка. Кагда́ яна́ начне́ць парасі́цца, тагда́ я кала яе́ і сяжу́ там су́ткам. Я іх абціра́ю і тады́ к сьвіні́, кагда́ пасо́сяць, я іх адбіра́ла. Там ча́сік прайдзе́ць, я апя́ць пад яе́.

*– А вялікі быў прыплод?*

– Быва́ла, і па дзьвяна́ццаць, і па чаты́рнаццэць. Быва́ла, й па шэсь. Уся́к.

*– Колькі часу яны павінны быць каля свінні?*

– Ну ме́сяцы два. Кагда́ ужэ́ такі́е ла́дные ста́нуць, тады́ прадаём. Зра́зу ат сьвіні́ прадаём і ўсё. І себе́ кіда́ем.

*– А карова была?*

– Да, каро́ва, і конь, і сьвінама́тка, і сабе́ двое́ парася́т дзяржа́лі. І цялёнка дзяржа́лі да во́сяні. Уся́ка было́.

*– А праблемы з сенам не было?*

– Не, не. Нам давáлі пáйкі. Сьпярвá касілі ў саўхóз, а патóм выдзяля́лі пáйкі себé. Мы касілі, сушы́лі, дамóй вазілі, то на пóлі стох зьдзéлаем. А тады́ как падмéрзьнець, та дамóй вóзім.

*– А як трэба рабіць стог, каб не зацякло?*

– Я на стагý ні рáзу ні былá, я ні маглá там быць, усё быў мой хазя́ін. Я ямý падаю, а ён там лóжыць. Зьдзéлаеш э́ту пáлку, ўбівáеш і там кругóм пáлкі кладзéш. Ну я на стагý ні былá, я ня ўмéю. Я емý падавáла на стох, а ён ужэ сам складáў. Ну й нічóга ні прамакáла ні рáзу.

## Пра мясцовае наваколле

*– Тут азёры кругом, якая рыба водзіцца?*

– Ну от у нас тут вóзера, то шчýка. Лю́дзі лóвяць, прадаю́ць і мы купля́ем. Платвá тóжэ тут. А так я ні знáю. Рыбакі лóвяць і сéткі стáвяць ціхóнька, штоп ніхтó ня відзеў, ніхтó ня слы́шаў. Паймáюць, тады́ нóсяць. Шчýкі па тры́ццэць ты́сяч, а платвá па пятнáццэць.

*– А якія ягады ў вас тут растуць?*

– Я ні хадзіла тут. Там как жылá, там хадзілі мы. Туды́ за дзерявýшку. Тудá хадзілі мы ў чарніку, тудá за рякóй. Чарніка былá, мнóга чарнікі, і брусніка.

*– А што вы рабілі з брусніц?*

– Мачы́лі. Варéнье тóжэ варілі із брусьніц. З бáні прыдзéш, такýю кісьленькую зьдзéлаеш, так папіць харашó. Ціпéрь нічавó.

*– А грыбы якія бралі?*

– Падасінавікі, баравікі, сыравéжкі, мачóнікі. Мачóнікі кáк-та я і ні ўмéла іх дзéлаць. Мачóнікі іх бéреш і замáчываеш кáк-та, ну я іх ні рáзу ні дзéлала. Баравікі сушы́лі, падасінавікі сушы́лі. Ну а цепéрь малады́е ўсё ўмéюць, усё ў бáнкі. І баравікі, і паᵞдасінавікі – усё э́та ў бáнкі. Мы тадá ў бáнкі ні дзéлалі, у вядрó. І варéнье вары́лі па вядрý. Паᵞнавáрім э́тага чарнічнага, тады́ зіму ядзім. Двóе ребя́т былó, с сьвякрóвай жылá.

*– Ладзілі?*

– Уся́ка былó. І лáдзілі і не лáдзілі. З мáткай уся́ка бывáець, а з сьвякрóвай жэ... зь нявéсткай... Што там гавары́ць. Я ў сóрак шастóм радзілася. Былá ў мянé сестрá тры́ццаць дзевя́тага і брат сóрак пéршага. Яны́ ва врéмя вайны́ і памёрлі. А прішóў пáпа з вайны́, тады́ от менé зьдзéлалі і сестрý. Сестрá с пяцідзеся́тага.

*– А можа помніце, як месцы называліся, куды ў ягады хадзілі?*

– Ой, хадзілі мы за дзерявýшку, а як мéста называéцца, ні знáю. У мох хадзілі. Там былó мнóга чарніц ва мху. І за ключ хадзілі ў я́гады у чарніцы тóжэ. Усю́ды хадзілі. Ну а касілі... Былі Лýткі, Зáдніца, Перявéс, Рабакóўка, Зáлеж. Там касілі. Ужэ́ ўсё забы́лі. Там ужэ́ усё пазараслó. І тóе мéсто ні узнáў бы – і тýю Зáдніцу, і Зáлеж.

*– А чаму так называлі – Задніца?*

– А мы ні знáем, чагó так называлася Зáдніца тáя.

*– У вас тут нізкая мясцовасць, вужы, гадзюкі ёсць? На двор не прыходзяць?*

– Ужы́ выхóдзяць. Зьмей, прáўда, ня відзім, а ужэ́й відзім. Сяраўнó нялю́ба. Я іх ні разьбірáю, ці уж ці зьмяя́. Сёраўнó зьмяя́. Паўзéць – ну і Бог с табóй – паўзі. Ні магý забівáць. Дýмаю: паўзі з Бóгам, я цябé ні трóгаю і ты мянé ня трóгай.

***Расказвае В. Р. Нужова, 1936 г. н., адукацыя 8 класаў, жыве ў в. Лапцёўка;*** *запіс зроблены ў 2015 г. В. М. Курцовай, расшыфраваны Л. П. Кунцэвіч.*

У дзярéўне такéй чарапіцу éта ўжо дóрага. Яны́ зімавáць бýдуць у нае, жыць бýдуць усё врéмя. Íрку я знáю, анá ні хазя́йка, éйны мужы́к. Яшчó астáўшы брат мужукá у Ленінгрáдзе, Лёнька.

*– Брат Іры паралізаваны? Ён гаворыць?*

– Паралізава́ны. Гаво́рыць пло́ха. Ён жыў у Ленінгра́дзе. Усё ўрэ́мя. Дзяце́й у яго́ ні было́, а тады́ яны́ разышлі́ся ж жо́нкай. І піў ён, і біў жо́нку. А тады́ ён зьёзьдзіў ажно́ у Карпа́ты. Дзе ты́е Карпа́ты? Дзе́-та на залаты́х пріісках быў. Дзе е́та, як е́та заве́цца? Ні зна́ю. Зо́йка мне званіла, а яна́ Зо́йке есь гато́віць, Íра. Там і ўбіра́ець, і сьціра́ець ей усё, і ба́ню ей то́піць. Во́сімсят трі Зо́йке э́тай, да яна́ мне раска́звала. У яго́ ж гражда́нства ні было́, яна́ яму́ гражда́нства вы́хадзіла, Íра бра́ту. А тады́ пе́ньсію вы́хадзіла. Яму́ было́ то́лькі чаты́ріста ты́сяч, а цяпе́рь яму́ дааба́вілі, палуча́ець мільён трі́ста. Дзе́-та быў на залаты́х пріісках, і туды́ яна́ трі ра́за піса́ла, і ніхто́ ні атвяча́ець, как у бо́чку. Тады́ ўжэ яна́ ряшы́ла: бу́ду піса́ць Пу́ціну пісьмо́, штоб была́ бо́льша яму́ пе́ньсія. А ў яе́ то́жэ пе́ньсія нібальша́я, я ні спрасі́ла. У яе́ дзьве дзе́ўкі ёсь. А ў дзе́ўках ребя́ты ўжэ ёсь. Вот э́ты пріяжжаў ка мне́ за марко́ўкай. Даста́лі марко́ўкі і падхадзя́шча даста́лі марко́ўкі, мо́жа, вядра́ і трі. Яна́ была́ сьве́жая харо́шая, а тады́ паляжа́ла зь нядзе́лю... Я э́тай Зо́і пазвані́ла: скажы́ ты Са́шке, пусь пріяжджа́е забіра́ець краля́м. Яна́ гаво́ріць: харашо́, харашо́, ён дзе́-та ізгарадзь таро́дзіць ленінгра́дцам у Бедаві́цах. З Ленінгра́да далжны́ былі́ прие́хаць, таму́ сягоні ні вы́йдзець, Ва́ля, мо́жэ, за́ўтре. Я гавар́ю: ну пусь хоць за́ўтре пріяжжа́ець. А тады́ яго́ нет і нет, а ён ні рабо́таець, гро́шэй нет. Я пазвані́ла: Зо́я, скажы́ пусь пріяжжа́ець, я яму́ без гро́шэй адда́м. Што ж яна́ згніе́ць, ці я яе́ вон вы́кіну, ці яго́ кралі́ зьядзя́ць. Пусь кро́лікі зьяду́ць. А краля́ купля́ў, ці ні чаты́ріста ты́сяч плаці́ў. У Віцебск на база́р е́зьдзіў. Краля́ хто́-та з Халаме́р'я яму́ даў, а та́я кральчы́ха, што купі́ў, тро́е то́лькі радзі́ла яму́. І яшчо́ бу́дзець ско́ра, каза́ў. Ён тады́ пріяжжа́ў за марко́ўкай ка мне́, дзе́сець ты́сяч дава́ў мне. Я гавар́ю: ні на́да, ні на́да, Са́ша, у цябе́, мо́жэ, гро́шэй і на хле́б нет, но кінуў о там на стале́, на дваре́ і паехаў.

***

*– А ці ёсць у вас семя фасолі? Ці можна ў вас купіць?*

– Я магу́ вам даць.

*– Там нейкая хата вялізная.*

– Ха́та ў яе́ есь, Апа́таў жыў.

*– А кім ён быў?*

– Ён у нас хлеб вазі́ў, шафёрам. Зь ей, з сваей жо́нкай удваі́х. Така́я машы́на была́ бу́дка, такі́е по́лачкі і такі́е я́шчыкі. Наве́рно, бу́лак па два́ццэць у я́шчыку. І яна́ памага́ла яму́ э́тые я́шчыкі.

*– І адбудаваў такую харміну?*

– Да, таку́ю харо́міну. Ён там жыў па тэй старане́, дзе та́я Нінка жыве́ць, як ат вас е́дзеш, то напра́ва. Тут у яго́ сястра́ жыла́. Сястра́ за́мужам ні была́. Дзяву́шчая. І яны́ ў э́тай ха́це ўсе жылі́, а тады́ ні зна́ю. Ребя́т у яго́ мно́га. Ну ні мно́га – трі ма́льца да дзе́ўка – чаты́рі было́. От дзе́ўка задаві́лася у іх малада́я. З ба́цькам што́-та ні ла́дзіла. Ён такі́й ба́цька быў, што як ска́жэць – як атрэ́жэць. Ён ужэ́ сваё сло́ва ні памяня́ець. Усё па-яго́наму было́. Дак яна́ ма́ла зь ім жыла́. У ей плахо́е было́ зре́ніе, яна́ какі́й-то інвалі́д была́ ці трэ́цей ці ўтаро́й гру́пы. Яна́ шата́лась па калхо́зам, мо́жэ, яна́ й вы́піць любі́ла. Я яе́ ма́ла зна́ла. Так яна́ ня до́ма й задаві́лась. Раз і за́муж выхадзі́ла, ребя́т у яе́ ні было́. Ба́цька с ма́ткай жылі́, а тады́ ста́рые былі́, гадо́ў, мо́жэ, па дзевяно́ста было́, і сын і́хній ста́ршы ўжэ пашо́ў на пе́ньсію зь Віцебска. І ён іх уха́жываў. Тады́ ба́цька памёр, астала́ся ма́тка адна́. Яны́ тады́ ма́тку забра́лі ў Віцебск. Э́та ўжэ ні ста́ршы сын, а сре́дні сын забра́ў. А ха́ту так і кі́нулі, забі́лі. А ле́тась пріяжа́ў, дак, наве́рна, прадае́ць яе́. Но ён до́рага хо́чэць за яе́. Такі́й разгаво́р быў. Там Іва́н жыве́ць адзі́н, жо́нка памёршы. Дак мы зь ім перезва́ніваемся. Мой хазя́ін і ён рабо́талі ў падсо́чке. Дак мы ка́к-то здружы́ліся. Жо́нка яго́, бывала, ка мне ўсё прихо́дзіць, Нінка. І памага́лі ско́лькі раз нам парасёнка ре́заць, ма́льцы мае́ ня ўме́лі. Былі́ за хазя́інам, за ба́цькам, а тут удру́г так случы́лась, што памёр, і парсюка́ заре́заць не́каму. Дак я гарю

на сы́на: сядзь на лісапе́т і едзь к Іва́ну, табе́ Іва́н заре́жэць прі́едзець. Дак от так мы і дружы́лі. Цепе́рь ён мне пазво́ніць, і я яму́ пазваню́. Гаварі́ў, што э́та ба́ба ўжэ памёрла, у яе́ ні так і ста́рый дом. Гадо́ў мо́жэ ці тры́ццэць яна́ ў ім жыла́. І радня́ есь у Езяры́шчы е́таму Апа́таваму. І яны́ сазва́ніваліся. Дак бу́тто пятна́ццэць мільёнаў узя́лі за ту́ю ха́ту. Пріяжжа́лі із Мінска, паглядзе́лі, ну цяпе́рь іх нет. Я ў Люды спра́швала, ці жыву́ць да́чнікі, ці купілі ха́ту? А яна́ гаво́ра: нікаво́. Раз, ка́жа, ві́дзяла, як прі́ехалі, сказа́лі, што пае́дзем афармля́ць, усё. А цяпе́рь ужэ́, гаво́ріць, іх нет. Наве́рна, ні бу́дуць яны́ яе́ браць.

*– А вы за сваю хату сколькі хочаце?*

– Я хачу́ хоць адну́ ты́сячу до́лараў. Тады́, як пазвані́лі, што пятна́ццэць мільёнаў, дак ён гаво́ріць: ого́, нашлі дзяшо́ўку такую. Апа́таў э́тат. Відна, ён за сваю, мо́жэ, хо́чэць два́ццэць. Пятна́ццэць ма́ла. Я сваю за ты́сячу аддала́ б. Мо́жэ, хто купі́ў бы. У мяне́ нікакі́х дакуме́нтаў. У мене́ адна́ зало́ўка жыве́ць у Віцебску, а адна́ ў Не́ўлі, і э́та ха́та перяпі́сана на не́вельскую. Э́та перебале́ла інфа́ртам, не́вельская, дак яна́ сільна сла́бая. Яна́ е́зьдзіла яе́ навяшча́ць і ат тэ́й яна́ прівязла́ мне завяшча́ніе. Дачка́ мне прівязла́. Гаво́ріць: цёця Ра́я пріхадзіла на рабо́ту і прівязла́ табе́ завяшча́ніе ат цёці Га́лькі, на.

*– Ці многа у вас ў вёсцы людзей з прозвішчам Нуждова?*

– Мно́га было́, а цяпе́рь павы́мерлі.

## З успамінаў пра родную вёску

*– Чаму ваша вёска называецца Лапцёўка?*

– Наве́рна, ла́пці дзе́лалі.

*– Вялікая была вёска?*

– Ай, яка́я вялі́кая была́ дзяре́ўня. Людзе́й было́ – страх! І ўсе памёрлі. Хто памёр, а малады́е вы́ехалі. Рабо́ты нет, жыць жэ ж на́да ка́к-то.

*– У якім годзе вы тут нарадзіліся?*

– Я ня тут нарадзі́лася. Я нарадзі́лася, така́я дзяр́эўня была́, як прае́дзеце Студзёнку, тут была́ дзяре́ўня Альхо́ўка, а тады́ нас ссялі́лі ў Ка́йкі. Мы жылі́ кала са́май даро́гі, а то сьсялі́лі ў Ка́йкі, там жэ лес. Круго́м, круго́м быў лес, і ўсіх туды́ сьсялі́лі. І там ужэ́ ўсе вы́мярлі, адзін аста́ўся. Адзі́н то́лькі да́чнік з Ленінгра́да, купі́ў до́мік. У яго́ есь і сын у Ленінгра́дзе, і жо́нка, а ў яго́ што́-та зь лёгкім, дак ён ужэ́ гадо́ў пятна́ццэць жыве́ ў Ка́йках. Жыла́ ішчэ́ адна́ жэ́ншчына, яна́ тро́ху храма́ла на адну́ но́жку, ей во́сімсят шэсь гадо́ў было. Дак удваі́х яны́ жылі́. Та́я ба́ба была́ с Ка́ек, а ле́тусь яна́ памёрла і нашлі́ яе́ ў калідо́рчыку. Пляме́ньніца ўха́жывала, жыве́ць у Азяры́шчы, за ей. І ка́ждае у́тро яна́ у во́сім часо́ў званіла ей. У во́сім пазваніла, яна́ ей ні атве́ціла. У дзе́сець ні атве́ціла, у дзьвяна́ццэць – не, у два часы́ пазваніла, яна́ апя́ць ні атве́ціла. Тады́ яна́ прі́ехала. Прі́ехала і нашла́ яе́ ў калідо́ры.

## З дзіцячых успамінаў

*– У вайну вы дзе былі?*

– У Ка́йках. Ба́цька у мяне́ ра́на памёр, мне было́ трі го́дзіка. У яго́ было́ ціф. Мы жылі́ з ма́ткай. Нас было́ чэ́цьвера. А тады́ яна́ вы́шла за́муж. Нямно́жка ён пажы́ў зь ёй, ён быў з Ка́ек, адзін ме́сяц, і куда́-то змата́ўся. Дак от у мяне́ яшчо́ брат есь, жыве́ць у Віцебске. Жо́нка яго́ то́жэ памёрла, двое дзяце́й. Ну дзе́ці ўжэ ўзро́слые. А ішчэ́ ў Ка́йках у мяне́ быў брат жана́ты. Ён то́жэ памёр. Перш жо́нка памёрла, а чараз чаты́рі ме́сяцы і ён памёр. Страда́ў адзін, там ужэ́ ні было́ і людзе́й, то́ка адна́ э́та жэ́ншчына, што памёрла. І ві́дно так, што ат ску́кі. Ён быў паралізо́ваны трына́ццэць лет, пло́ха хадзі́ў, рука́ яго́ пло́ха дзе́йствавала адна́. І ён усё бива́ла пла́чэць. Я гавару́: хадзі ты ка мне́, бу́дзем удваі́х с табо́й жыць. А ён: ні магу́ ха́ту сваю кі́нуць. А тады́ по́сьле яго́ і дачка́ што́-та задаві́лася. Аста́ўся мальчы́шка да й мужы́к.

*– А вы з вайны што-небудзь памятаеце?*

– Ну што я пáмятаю. Ну скóлькі мне было? Мóжэ, гадóў сем, я пóмню нéмцы нас выганя́лі.

*– Кайкі спалілі?*

– Ну спалíлі там нéскалька дамóў, ну ня ўсе. Знáю, што йшлі мы нóччу, сабірáліс ў какýю-то бáню. Нóччу дож такí ліў, тáя бáня цяклá, мы ўсе прамёклі, а тады́ ў цемнатý ішлí ў лес скрывáцца. Там у нас былí вы́капаны зямля́нкі, і ў тых зямля́нках мы й жылí. І зімóй жылí. Такíе былí нáры зьдзéланы. На нáрах спáлі, грýбачка стая́ла, тапíлі. І галóдные былí, і халóдные. Былá ў мянé стáршая сястрá, Люба звáлі яé, дак янá чуць і ні памéрла. Ангíна мýчыла яé, чáста балéла. А тады́ зáмуж зайшлá, мáльчыку былó тры гады́ с палавíнай. Мужы́к дýжа плахí быў, біў яé, увёз яé ў Гóрлаўку, там янá й утапíлася. Пашлá бяльлё паласкáць і ні прішлá. Мальчы́шке былó трі гады́ с палавíнай, астáўся. Мáма мая́ éзьдзіла харанíць з брáтам, ёй ягó ні аддáў, а тады́ атвёз к сваёй мáццэ. Так мáтка ягóная расьцíла, мóжэ, гады́ трі, а тады́ ён апя́ць жанíўся. Тóжэ ўзяў дзяўчы́ну, завýць Любай. С тэй дзярéўні са сваéй. Ён астáўся ў Старадýбе жыць. І тут жыў. А тады́ мáльца тагó ажанíў, свáдзьба былá. І мáчаха э́та завялáся з ягóным сястрáм [сёстрамі]. Я ні былá, мáтка ні ўзялá, я тады́ тóлькі на рабóту ўстрóілася ў рэстарáн. Мáтка гавóрыць, што з рабóты ўвóляць за прагýлы, а рабóты тады́ ні былó, рабóты дзяржáліся. Тады́ ў ягó стаў інфáрт, і памёр бáцька тагó мáльца. А той жанíўся, жыў, ужэ́ ребя́та ўзрóслые былí і ўзяў тóжэ кíнуў жóнку. Забалéў штó-та, прівязлá ягó жóнка на аперáцыю, а там мушчы́на ляжáў. У ягó жóнкі ні былó, а хадзíла дачкá мужыкá э́таго, ухáжывала. І ягó ўхáжывала. А жóнка лáднага жылá, Мінск далёка ж ат Старадýба. І так сазнáліся. У гэ́тай бáбы мужыкá ні былó і сыйшлíся. Сейчáс у Нéсьвіжы жывéць. А там два мáльцы бальшы́х, дак яны́ éзьдзяць у зáрабаткі ў Масквý, а жóнка рабóтаець у бібліяцéке.

*– А колькі вы класаў кончылі?*

– Сначáла ў Кáйках какýю-то шкóлу нам зьдзéлалі, тры клáсы там кóнчылі і хадзíлі ў Езяры́шча. У Езяры́шчы бальшáя былá шкóла кала рéчкі. Там дзірэ́ктар шкóлы быў мушчы́на. Хадзíлі, бумáгу дрáлі з вот такíе я́шчыкі, як шчас кардóнные. На такéй бумáге пісáлі. А пісáлі – такíе рýчкі былí сь пярóм, макáлі ў чарнíльніцу. А сýмкі шы́лі с палатнá зь бéлага. Такýю ля́мку прышы́юць к мяшóчку і ўсё. Цераз плячó і пашóў. А кнíшкі, што шкóла давáла, а не дак сабірáліся удзьвю́х, утрёх на аднý кнíшку. Я кóнчыла сем клáсаў. Тады́ нáда былó éхаць учы́цца, а мáтка кáжэць: куды́ ты паéдзеш, хто цябé бýдзець кармíць? Нáда ж у гóрад éхаць, за кварцíру плацíць. Пріéхала цётка, мáткіна сястрá с Калінінгрáда да мянé забрáла туды́. Там я нямнóга ў яé пажылá. Тóжэ мужы́к гарéлку піў, біў яé. У яé ў самаé дзьве дзéўкі былó і сьвякрóў зь éю жылá. І біў яé, і стреля́ў яé. Янá таргавáла ў магазíне, цётка. Ну і я зь ей. А магазíн бальшы́й, смéшаны. Там і абувáньне, і надзявáньне, і прадýкты, і часы́, во э́та мéлач. Дак я э́ту мéлач прадавáла. Пама́ду, адзікалóны, духí, ну а янá э́та, што на вясáх вéшаюць. Бывáла, тýфлі якíе пакажý ці якóе плáце сьнімý пакажý. Два гады́ пажылá я ў ей. Не. Жыць там плóха. І яé ребя́т нáда былó ня́ньчыць, і нáда былó сьцірáць і ў кварцíре ўбірáць. І сьвякрóў стáрая бáбка былá ня дýжа харóшая. Усё ёй ні так, усё ёй ні э́так. Сабрáла сваé манáткі да й пріéхала. Устрóілася ў рестарáне, рабóтала, сем гадóў атрабóтала, а тады́ во сюды́ зáмуж зайшлá. А тут жэ зáмуж прішлá, нáда былó касóй касíць травý. Бáла, дзьвянáццэць тон нам дадýць с хазя́інам. І мы сь цёмнага да цёмнага ў пóлі. Ядýць і камары́, і авадні́, і сьляпні́. А вады́! Былí такíе лугí, што во так вя́зьлі. Бывáла, вярёўку расьцéлеш, сéна там скóлькі налóжыш да цераз плячó да к стагý нóсіш.

*– А як называліся пасцілкі, у якіх сена насілі?*

– У вярёўках мы насíлі. Дзéлалі такíе стажáрішча павы́ше, ён такíе кóлышкі забьéць, загнéць іх, штоб вадá ні былá, штоб сéна ні атпівáлась. І нóсім удваíх. Зьбéгаем у рéку, памы́ем трóху éтых аваднёў, што апкусáлі, саднíць усё, усё гарíць. Тады ж ні былó такíх пшы́калак. Ай-ё, прíдзеш дамóй, усю ноч скýблішся [чэшашся, дзярэшся]. І нóгі аб'ядýць, і ліцó аб'ядýць, і рýкі, а ýтрам у пяць часóў устаём, пéчку тóпім, дзяржáлі ж скот. Што я зарабáтывала? –

Сóрак рублéй у мéсяц. А дзяржáлі па двóі сьвінéй, карóву, курéй. Аднагó парсюкá сабé рéжам, а другóга прададзíм. Ребя́т былó двóе. Мáлец і дзéўка ў мянé ёсь. Нáда ж былó надзявáць і учы́ць.

*– А каня не дзяржалі?*

– Не, былó ў нас саўхóзных мнóга канéй, брáлі ў саўхóзе. Такáя жызь былá, плахáя жызь. Ужэ́ двáццэць два гадкí жывý аднá.

**Пра маладосць**

*– Як вы пазнаёміліся са сваім мужам?*

– Во тут барáкі стая́лі, чаты́ры бальшы́х барáкі зьдзéланы з дасóк. І тут былí эвакуíраваные, ці як іх называ́лі. Ці э́та былí забрáны куды́ лю́дзі. Тут у іх і магазíн быў бальшýшчы у Студзёнке, і былá хлебапякáрня свая́. А во там дáльшэ, як паéдзеш, не даяжджáя мастá, там дарóга. Там быў завóд. Смалакýр. Там тóжэ бальшáя дзярéўня былá. Там ужэ́, навéрна, дамы́ разваліўшы, там, мóжэ, і пакрáлі дамóў скóлькі. Ці ёсь там хоць адзíн дом, я ні знáю. Там зараслó нéдзе ўжо. Я даўнó былá, нічóго ні знáю. Мы ў ты́е барáкі на тáнцы хадзíлі, малады́е ж былí. Бáла, нáда к пяцí часáм на рабóту ў Езяры́шча йцí. Я на кýхні рабóтала помпóварам, нáда былó ім гатóвіць, сёраўнó на тáнцы. У дзьвянáццэць прыдý, трóху прыля́гу, а тады́ ўстаю ў тры часы́, пакá зайдý ж. А бая́лася нóччу, дак брáта будзíла, дак брат вадзíў. Мянé завядзéць, тады́ назáд пры́дзець, а тады́ к двум часáм ідзéць у шкóлу на ўтарýю сьмéну.

***

Свайгó мýжа ўстрэ́ціла я ў Студзёнке ў барáках на тáнцах. Ён с áрміі прішóў, і тут танцувáлі, ну і пазнакóміліся. Звáлі ягó Леанíд. Два гады́ атхадзíлі ці палтарá да й сышлíсь. Свáдзьба харóшая былá. Былá перш у мянé свáдзьба, у Кáйках, мáтка дзéлала. А тады́ ў іх свáдзьба былá. Чаты́рі гады́ са свякрóвай атжылá, а тады́ ўжэ э́ту хáтку пастрóіў. Э́ту ды вантýю. Так і жылí. А тады́ як надýмаў, што ребя́ты прíедуць – спаць нéдзе, узя́ў э́ту лéтную спáленку зьдзéлаў. А тады́ гавóріць: лéтам, а зімóй? Тады́ ўзя́ў прыдзéлаў тýю хáту. І тóлькі што ўсьпéў накры́ць. Ні франтóны ні зашы́ў, нічавó. Ні пол, ні паталóк, ні акóн. Усё за пéньсію дзéлала самá. Ніхтó дáжэ рубелькá ні памóг. Дзéці тóжэ сáмы для сябé былí. Ажаніліся, дзéці пашлí. Усё сь пéньсіі. У я́гады хадзíла, у грібы́ хадзíла, здавáла усé падря́д. І баравікí, і падасíнавікі, лісíчкі брáлі. Лісíчкі дарагíе былí. Баравікí ня óчэнь. Там нáда былó іх дзялíць на мнóга сартóў, ёсь галóвы бéлые, ёсь галóвы кары́чневые.. А лісíчкі ўсякіе брáлі: і мáлые, і бальшы́е, усé падря́д.

*– У вас тут многа баравікоў бывае?*

– Бывáе, от лéтась – ай, баравікóў скóлькі! Ідзéш так па дарóге і с аднагó, і з другóга бóку ўсё баравікí. Усё баравікí сядзя́ць. І лісíчак мнóга былó лéтась. Я́гад мáла былó, чарнíкі. Сёлята далжá быць чарнíка. І я́блыкі, бо цьвітýць сады́.

*– А дзе любяць расці баравікі?*

– А па мшку. Ай мнóга дýжа суравéжак. Як пры́дзем у лес усё крáсна, крáсна. Яны́ крáсные бывáюць і жóўтые. Мы ня бéрям, тóлькі паглядзíм на іх. Кагдá мне бы́ла хадзíць, як я рабóтала? Хадзíць нéкалі былó. Выхаднóга ж ні былó ў саўхóзе. І васкресéнье рóбілі, і ў субóту рабóталі. А пóсьле рабóты пакá хазя́йство прíбереш, пакá пасьцірáеш. У дзьвянáццэць часóў тóлькі спаць лажы́лісь і ў пяць уставáлі. Дýмала, век я э́тай пéньсіі ні даждý. Я й ні дажыдáла яе, а во скóлькі гадóў аджылá. Ужэ́ бýдзець сéмсят дзéвець гадóў. Я ўжэ вóсім гадóў хажý во так сагнýўшы с кійкóм. А сядзéць ні магý. Во сёні схадзíла, дачкá лех надзéлала прыяжжáла, садзíлі памідóры, баімся, штоб ні зьмёрзьлі. Дак мы іх дзьвюм плёнкам накры́лі і тря́пкам навéрьх накры́лі. У нас нет э́тага,.. хто нам ягó бýдзець дзéлаць. Шчас пашлá, тря́пкі э́ці вéцер памахáў, дак я апя́ць налажы́ла.

*– Раней тут вашы бацькі садзілі памідоры?*

– Не, яны́ ні садзілі памідо́ры, адні́ агурцы́ садзілі, карто́шку, сьвяклу́ садзілі. Так, кой-што́. Цыбу́лю. Плёнак тады́ ні было́. Быва́ла, агурцы́ пасо́дзюць, такíе раўкí паглу́бжэ зьдзе́лаюць, прыкры́юць мшком [імхом], а тады́ нало́жуць, дра́лі драні́цы, што ха́ту кры́лі – такíе дашчэ́чкі ву́зенькіе. Паглядáем, як яны́ ужэ ста́нуць выла́зіць, тады́ ўжэ і мох дало́й, і дашчэ́чку э́ту дало́й. І так расьлí. Агурцо́ў было́! Ай, страх! Было́ дзява́ць не́дзе. Ско́ту сякём. А цяпе́рь бывáе, што днём жара́, а но́ччу маро́з і хо́лад. І про́шлы год так. У мяне́ ўзышла́ фасо́ля, сто́лькі было́ насо́жана. І ўзышла́ мая́ фасо́лька. І маро́зу ні было́, а во така́я была́ золь. І яна́ зь нядзе́лю пастая́ла, а на другу́ю павалíлася і чо́рная ста́ла. І ўсё, і прапа́ла. Жале́ла. І сёлята апя́ць ра́на пасадзілі, на́да было́ яе́ садзіць, мо́жа, у канцы́ ма́я. А дачка́ дзе́-та чу́ла, што як то́лькі хо́лад, фасо́ль ідзе́ць у зямлю́. Наве́рьх ні йдзець, раз хо́лад, а ў зямлю́ йдзець. Апя́ць бальшу́ю гря́дку пасе́яла. Я не́як люблю́ фасо́ль. Другí раз так паварю́ яе́. Вазьму́ да замачу́ на ноч, яна́ разбу́хнець. Мы ж яе́ су́шым, а так яна́ бу́дзець пле́сьнець. А тады́ вазьму́, у мяне́ така́я есь ча́шачка з ву́шкам. Туды́ яе́ да пасалю́, да вадзі́чкай налью́, яна́ пакіпíць, пакіпíць, тады́ вазьму́ дабаўлю апя́ць кіпято́чку, накры́ю, ды ў во́льную пе́чку, як таплю́ ру́скую. Яна́ разва́рiцца, я тады́ люблю́ яе́, ем. Ніч́ога ні дабаўля́ю, про́ста так по́сную. І суп варю́. Мая́ няве́стка дзе́лаець сала́т. Ні зна́ю, што яна́ туды́ дабаўля́ець яшчо́. А дачка́ ня лю́біць, суп ня лю́біць. Яна́ гаво́рiць до́ўго ва́рiцца на газу́. Яна́ рабо́таець у бальні́цы санітá́ркай. Учíлась на каньдзíцера, а каньдзíцеры такíе, што ў дзьве зьме́ны на рабо́ту хадзíла. С утра́ хадзíла і с абе́да. Нядзе́лю так, нядзе́лю так. А як ле́та, на́да брaць о́тпуск на свой шчот. Бу́лачкі ты́е, пiражкí нікаму́ ні на́да. Ребя́т атпу́сьцюць, шко́льнікаў і э́тых рабо́чых распу́сьцюць. Яна́ дзяўчо́нку радзíла, атсядзе́ла дзякре́т трі гады́ да й пашла́ ў бальні́цу. Убіра́ець кабіне́ты ўрачэ́й, ужэ́ мо́жэ гадо́ў пятна́ццэць. Усё на адно́м ме́сьце. Гаво́рiць: вот бу́ду ўвальня́цца, рабо́ту харо́шую найду́, а тады́, гаво́рiць, ду́маю: вот перяйду́ на другу́ю рабо́ту, вот сакрашчэ́ніе, мяне́ пе́рвую і сакраця́ць. І я й е́ту рабо́ту ўпушчу́. Прывыка́еш жа к адно́й рабо́це. А зяць на стро́йке рабо́таў, цяпе́р рабо́ты нет на стро́йке ў Віцебске. Шчас дарагíе кварцíры, кíнулі стро́іць, дак е́зьдзюць у Смале́нск. Ну яны́ ні ў за́рабаткі, а як у камандзіро́ўку іх атпраўля́юць. Там дамы́ стро́яць. І íхнае нача́льства ўсё е́зьдзіць зь íмі. А сын рабо́таець вахцёрам. Тры́ццаць пяць гадо́ў атрабо́таў на заво́дзе на цівілізіо́ннам. А так дайшло́, што і пяцьсо́т ні хо́чуць плацíць за ме́сяц. Усё там пазакрыва́лі, дзе якóе што было́. А ён цілівíзары э́ці вазíў на та́чке цэ́лы дзень. То на́да на та́чку нагрузíць, то на́да с та́чкі згрузíць. Ба́ло так зама́рiваўся, а што там пяцьсо́т тых. А кварцíра каперацíўная, на́да было́ плацíць шчэ крэдзíт. А тут ужэ й ма́лец падро́с, на́да й ма́льца вучы́ць. А ён ні паступíў бясплáтна, а ў пла́тнае. Так ён перяйшо́ў вахцёрам, рабо́тае трі гады́. І рабо́та яму́ нра́віцца. А што́-та íхнюю арганіза́цыю другéй арганіза́цыі передаю́ць. І ён валну́ецца.

*– Вы ў лесе жывяце, а ці прыходзяць звяры якія-небудзь?*

– Прíхо́дзяць. Во так раз дзяўчо́нка была́ ма́ленькая маéй дачкí. Там сядзíм, яна́ во ляжы́ць так са мной. Гаварю́: гля́нь ай-ёнька, ско́лькі ў мяне́ пакрыва́лаў. А мы памы́ем да і ўсё. Я зíму́ю ў бу́рках, я іх ні зьдзяю́, мост хало́дны ў ха́це. Во так ляжы́м зь ёй, а тады́ яна́ гаво́рыць: Ба́ба, хто́-та на бальшаку́ такíй чо́рный? – Я ні зна́ю, уну́чка, глядзí-ка ты харашэ́нька. А тады́ глядзíм – каба́н прíшо́ў і хо́дзіць па бальшаку́ ўзад-упярёд, узад-упярёд. Прагу́ліваецца. А лíса́ дак о сюды́ прíхадзíла саўсíм. Яна́ к куря́м хо́дзіць, а я куре́й ні дзяржу́. На́да загарадзíць агаро́ды, штоб ні дра́лі, а то к людзя́м жэ по́йдуць. Ду́маю: ні бу́ду я іх дзяржа́ць, ну іх к чо́рту. Лось прíхадзíў.

*– Ён жа шкоды не прыносіць?*

– Ну ўсёраўно́ ка́к-то дзíка, зьверь жэ. Тагда́ былí навазíлі дроў зь ле́су. Тут такíе бальшы́е машы́ны, што са́мі сябе́ гру́зюць, а яны́ ж у лясу́ там ні разьве́рнуцца. Тра́ктарам сюды́ во́зяць і тут у ку́чы скла́дваюць зімо́й, а тады́ машы́на патхо́дзіць і сама́ сябе́ гру́зіць. І вот, ба́ла, як на ву́ліцы ста́нець о так, як усе́ прíбе́руцца, на у́ліцы ма́ла каго́, цілівíзар глядзя́ць. Я гаварю́: Ната́ша, ба́ба пашла́ ў дро́вы. Гляжу́, дзе па́лка танéйшая. Так ні прíнясу́, дак вазьму́

вярёўкай завяжу́ дай прівалаку́. А яна́: ба́бушка, я цябе́ ні пушчу́, каба́н прі́дзе і цябе́ зьесь, што я тады́ адна́ дзе́лаць бу́ду. Кажу́: ну, пашлі́ ўдзьвюх. – Не, я баю́ся. Дні два мяне́ ні пуска́ла, а тады́ ўжо прывы́кла. Цяга́ла. Пад адну́ мы́шку, пад другу́ю і іду́. Усю во́сень, пака́ і сьнег ста́нець глыбо́кій цяга́ю. Купля́ць до́рага, а пе́ньсія ў мяне́ нібальша́я – два мільёны.

*– А багата людзей зімуе тут?*

– Пяць чалаве́к застае́цца нас тут. Вот я адна́, і яшчо́ дваі́х з мужыка́мі. Пяць чалаве́к нас. І зіму́юць, і ле́туюць. Ну быва́ла ле́там хто прые́дзе. Да́чнікі кой-какіе прі́едуць.

### Пра народныя духоўныя традыцыі

*– Калі ў вас прыбіраюць магілкі?*

– Магі́лкі ў нас прібіра́юць к Ра́даніцы, к Па́ске і во цепе́рь – к Тро́йцы. Трі ра́за на гаду́ ўбіра́ем. У нас кла́дбішчэ далёка, у Езяры́шчы, дак мы ўжэ ні зьі́йдзем. Я і свайго́ хазя́іна туды́ зьвязла́. Ён бале́ў, у яго́ быў інфа́рт абшы́рны. Ён прасі́ў мяне́: пахараніі мяне́ там, к ма́тцы ж ты по́йдзеш убіра́ць, дак заадно́ й на маю́ магі́лачку прі́дзеш. У адну́ агра́ду і палажы́лі. У мяне́ там ба́цька, ба́ба і сястра́. Тут блі́жэ у мяне́ брат, бра́тава жо́нка, а тады́ мне ме́ста кі́нута. І мужы́к мой, а тады́ яго́ная ма́тка кала яго́.

*– Я бачыла, што на Віцебшчыне, як хаваюць, накрываюць труну чым-небудзь, і ў вас так?*

– Не, у нас так ня ро́бяць. Есь така́я цюль, у нас пакры́юць, ліцо́ закры́юць, а тады́ е́тай ба́цюшкінай наве́рьх і кры́шку закры́юць. На кры́шку не. Зра́зу зяме́льку кіда́юць.

*– Што абавязкова павінна быць на памінальным стале?*

– Куцця́. Куцьцю́ мы ро́бім зь рі́су. Хто дабаўля́ець ізю́м, а ў каго́ нет, дак і так. Яго́ штоп ні развар́іць, штоп такі́й рассы́пчатый быў. Перш-на́перш ста́вюць на стол, а тады́ ўся́чына: і халадзе́ц, і сала́ты, і катле́ты, і карто́шку ту́шуць. Блі́ны пяклі́, а тады́ пясо́чкам пасы́плюць.

*– А жур?*

– Дак жур жэ во мо́жна зварі́ць с хло́пушак [аўсяных шматкоў]. Хло́пушкі памачы́ць, а тады́ іх аццадзі́ць. Хле́ба кі́неш кусо́чэк, кап паткі́с. Ён жэ няўку́сный, як ня кі́слы. А тады́ на друшля́к яго́ і з э́тай ю́шкі. То́лькі яго́ на́да мяша́ць, ён прігара́ець. Мно́га рабо́ты зь ім, на́да стая́ць кала яго́, ні атхадзі́ць. Ён німно́га пакі́піць і гато́ў. Жур на стол ні ро́бяць, по́ліўку ро́бяць. То́жэ так, як блі́ны. То́лькі ўжэ на́да мука́ ржана́я. Зьдзе́лаць тако́е це́ста, яно́ тако́е полужы́дкае, штоп тро́ху закі́сла. А тады́ вада́ закі́піць – і туда́ яго́, то́жэ на́да мяша́ць, штоп камкі́ ні былі́. Хто ва́ріць із мя́сам, і сьмята́ну кладу́ць.

*– Гэта абавязковая страва на памінальным стале?*

– Не, хто дзе́лаець, хто ня дзе́лаець.

***

*– Як у вас даўно святкавалі Каляды?*

– Не, у нас ду́жа не сьвя́ткавалі Каля́ды. Так, быва́ла, ребяці́шкі прібягу́ць, і я, как была́ дзяўчо́нкай, дак хадзі́ла. Накра́сішся, ці углём, ці чым нама́жася і ідзе́ш. Абяза́цельна на́да было́ што-ні́будзь дава́ць к каму́ ні прі́дзеш. Хто яі́чкі дае́ць, хто са́ла, у каго́ што ёсь. Хто хлеб, хто канфе́ты. К нам да́жэ ў Ка́йкі хадзі́лі. Ба́ло, пад вакно́ прі́дуць з балала́йкай, з гармо́шкай, там святкава́лі ду́жа, а ў нас не, ня прі́нята. Ну вот к пра́зьніку усягда́, у нас так было́ заве́дзена, хто бе́дный, таму́ но́сюць. От у каго́ каро́вы нет, малако́ нясу́ць і тво́раг, там і яі́чкі, калі́ куре́й ты ні дзяржы́ш. Так адна́ аднэ́й памага́лі.

*– А як Вялікдзень быў, то што рабілі?*

– Ну то́жэ прінасі́лі. Хто малака́ прінясе́ць, е́сьлі нет каро́вы. Яі́чкі, е́сьлі нет куре́й. Яны́ і шчас даю́ць, прі́но́сюць дзяся́так яі́ц.

*– А раскажыце, як вы пірагі пяклі?*

– Я пірагі́ ма́ла пякла́, не́калі было́ печ. Як рабо́тала, кагда́ там было́ печ ты́е пірагі́. Ліш бы есь зварі́ць. Мы ні пірагі́ пяклі, а такі́е.. маі́ ребя́та лю́бяць, як ста́нуць чарні́цы, ягады. Тады...

шчас кефір, а мы сырапе́ня [сыракваша], як у нас была́ каро́ва, называ́лі. І туды́ тро́ху пясо́чку ўсы́пеш, со́лькі, быва́ла, яе́чка туда́ шчэ ўвабье́ш і тако́е зьдзе́лаеш це́ста, не густава́тае, таку́ю як ляпёшачку зьдзе́лаеш і туды́ дзьве ло́жкі я́гад і во так зажме́ш то́е це́ста, пахло́паеш. Пе́чку то́піш і тады́, ба́ла, перад чало́м. Яны́, ба́ла, тады́ з малако́м. У мяне́ вот і ўну́чка: ба́ба, зьдзе́лай мне такі́х піражко́ў. А тады́ я прылаўчы́лася, ўну́чке дзе́лаю, як бліны́ тако́е це́ста, ну ні так то жы́дкае і на скаваро́ду, бальша́я така́я скъваро́да, узальлю́, а тады́ наве́рх варе́ньня і́лі я́гад чарні́ц і перед чало́м напяку́. Яна́ тады́ ре́жэць э́ты блін цэ́лы дзень і з малако́м. Ба́ба, бу́дзеш печ тапі́ць, пякі́ мне такі́й блін. С капу́стай рабі́ла. Капу́сту на́да жа́ріць, а тады́ начыня́ць. А яшчо́ мае́ ду́жа любі́лі тво́раг з яйцо́м. Яйцо́ зва́ріш і с тво́рагам уме́сьце. Хво́раст такі́ пяклі́, жа́рілі ў ма́сьле у по́снам. На малаке́ разьвядзе́ш, туды́ яйцо́ ўвабье́ш, са́хару пабо́льш, штоб сало́дкае было́, і зьдзе́лаеш такі́м фігу́ркам, а тады́ ма́сло кіпі́ць расьці́цельнае – і туда́, паве́рнеш ві́лачкай. Ві́дзіш, што ўжэ жо́ўценькіе са ўсех старо́н і выця́гіваеш. І на кла́дбішчэ бярём, і до́ма. Яе́шню ра́ньшэ варі́лі, а тады́ ні стаў ніхто́ яе́ есь. Трі яйцы́ ўзабье́ш, як мі́сачка нібальша́я, а як пабо́льшэ, то чаты́рі, і со́лькі, каб не пересалі́ць, тады́ малачко́м разьвядзе́ш – і ў пе́чку у во́льную. І яно́ зва́ріцца с тако́й жо́ўтай пе́начкай. Мукі́ ні дабаўля́лі. Ребя́та так любі́лі. Ба́ла, ма́ленькіх сваі́х ребя́т кармі́ла.

*– А бульбу як гатавалі?*

– А бу́льбу то́жэ. Дро́ва гаря́ць – і к драва́м. Мы ні гато́вілі ў кастрю́льках, а такі́е чыгункі́ ў нас былі́ і па два с палаві́най, і па паўтары́. Цяпе́рь жэ яны́ стра́шно сто́юць. Дзьве́сьце ты́сяч чыгуно́к паўтары́ лі́тры. А ў кастру́лі я ня ўме́ю варі́ць. Яна́ абгарі́ць, папро́буй тады́ яе́ атчы́сьціць. У чыгунку́ ўсё ўре́мя варі́лі. З бу́льбы і камы́ рабі́лі, і мак... яго́ ж цяпе́рь запрешча́юць, а, ба́ла, ж мак паха́лі [‘сеялі’], мак вы́сьпеець, аббе́рем яго́, вы́сушыш, такі́е сту́пкі былі́ ў нас дзерявя́нные, таўкачо́к такі́й быў. У сту́пке дно было́ аббі́та жале́зьзем і таўкачо́к жале́зьзем аббі́т. І, ба́ла, яго́ патаўчэ́ш там мя́кенька, а тады́ карто́шку растаўчэ́ш і яго́ туды́. І так е́лі. А то карто́шку растаўчо́м з малако́м, а тады́ туды́ па́ру яе́ц увабье́ш і на скаваро́ду вы́лажым і про́ці агня́. І то́е яйцо́ там зва́ріцца, і тады́ яна́ со́пкая така́я, ўку́сная бу́льба ат яе́ц. А мо́жна ў пе́чку ў чыгунку́ ўста́віць на жаро́к. Я другі́ раз дак на газу́, прігара́ець, дак паме́шываю, як захо́чацца мне. А бо́льшую часть сухамя́ткі. Ча́ю. Ляню́ся. А што мне адно́й. Как сям’я́ пріе́дзе, тады́ шчэ. Сям’і́ ж на́да што-не́будзь і зварі́ць.

**Пра свойскія прысмакі**

*– Што рабілі з мяса, як забівалі кабана?*

– Дзе́лалі і каўба́сы, і тушо́нку тушы́лі. Такі́е бальшы́е чыгуны́ у вядро́, паўтара́ вядра́, мя́са наре́жэш туда́ і то́лькі што пріпра́ву пало́жыш: пе́рец чо́рный, ліст лаўро́вый і скаваро́дай накрі́еш э́тат чыгу́н, пе́чку нато́піш жа́рка, жар разгребе́ш – і яго́ туды́, к жа́ру. Мя́са э́та ўвапре́ець, а тады́ такі́е калато́вачкі есь з зу́бчыкам с сасны́, яго́ ўсё ўме́сьце і тады́ ў ба́нкі наклада́ем у літро́вые, кры́шкам і зака́тываем. А тады́ ўсю зі́му. А каўба́сы. Кі́шкі мы́лі, на ре́чку хадзі́лі, там скаблі́лі. Мы́лі ў двух, у трёх вада́х, а тады́ во така́я тру́бачка, туды́ ўста́віш, а ў каго́ ўжэ зьдзе́ланы, што к мясару́бке, така́я труба́. Кішку́ надзе́неш на э́ту трубу́ і кру́ціш, і яна́ начыня́ецца. Тады́ су́шым. А пад чало́, пе́чку вытапля́ем, а там у нас такі́е жардзі́нкі ў ка́ждай, тря́пачкі вісяць ру́кі выцірацць ці што. І на э́ту жардзі́нку. Дні два-трі, а так жэ яны́ заплесьняюць. На́да, штоб вы́сахлі. Начыня́лі і трібу́х, а тады́ яго́ лажы́лі дасо́чку, а на дасо́чку ка́мень. Туда́ ўсё: і лёхкае, й пячо́нку, і мя́са. Трібу́х называ́лі.

*– А крывянку рабілі?*

– Ай, не. Ба́ла, зяць: ну пайдзём парасёнка ре́заць. С сы́нам. Ён мяне́ ніяк ні заве́ць, а на вы. І ні ма́тка, і ні па ба́цьке, ніка́к, а на вы. Гаво́ріць: да́йце мне што-ні́бу́дзь, штоб кроў сабра́ць. А я: не, не, Ві́цька, мы кроў э́ту ня бу́дзем сабіра́ць, мы есь яе́ ні бу́дзем век. А ён, ба́ла, сабе́ забе́ріць, а тады́ зва́ріць там у кастру́льке на газу́. Мы ні ра́зу ні сабіра́лі, гі́дзіліся э́тай кро́ві. А цяпе́рь во купля́юць. Я ні бяру́ крыва́ўку [крывянку], а і Ра́йка бе́рець сасе́дка, і Алёна. Саба́кам да ката́м. А мо́жа і са́мі яду́ць, ні зна́ю. Я лі́веркі, дак і то ма́ла калі́ куплю́.

***

Саба́ка ў мяне́ ёсь, дак дачка́ атту́да пріво́зіць аб'е́дкі. Там, дзе яна́ рабо́таець, у дзе́цкай бальніцы, што ні даяда́юць, дзе́вак про́сіць, като́рые на ку́хні. Хлеб пасу́шыць прівязе́ць, там аста́ткі які́е. Ну і я тут хлеб купля́ю, а то кру́пы такі́е ме́ленькіе. Ка́шу варю́. Крычу́: ён мне ні на́да, э́та прівёз да́чнік э́тат мі́нскій, пріпёр яго́. У мяне́ быў саба́чка, і майго́ саба́чку зьеў воўк. У бу́дкі во сядзе́ў саба́ка, я у́трам прінясла́ есь, ай-ё, саба́кі нет. А ён нікуда́ ні хадзі́ў, такі́ саба́чка быў зьмі́рный. Я пла́кала. Снача́ла ду́мала, у нас есь сем кіло́метраў дзяре́ўня, ужэ́ Расі́я. Ду́мала, што мо́жэ ў Расі́ю пашо́ў. Дзень-два дажыда́ла, усё яго́ нет. А тады́ тут гаво́ріць: да не, яго́ воўк зьеў. Я тады́ пла́кала па і́м. А тады́ ўжэ пережыла́, атвы́кла, а ён тады́, ні́чога не спрасі́ўшы, і пріпёр мне э́тага саба́ку із Мі́нска. Ну тады́ ма́ленькій быў, дак ішчэ́ яму́ ма́ла было́ на́да карміць, а цяпе́рь ён ужэ́ бальшу́шчы, ён ста́ры саба́ка. Яму́ на́да жратвы́.

*– А як вы цяпер ратуецеся ад ваўкоў?*

– А ніка́к. Быва́е, сын жале́ець, дак яку́ю паве́шаець кра́сную тря́пку кала яго́най бу́дкі. Воўк баіцца кра́снага. А як жа, на ахо́ту хо́дзяць, флажка́мі абстаўля́юць кра́снымі.

Хо́ладна ў ха́це. Я й у́трам таплю́, я й ве́чарам таплю́. Мно́га баю́сь тапі́ць зара́з. Калі́ такі́ ве́цер, як сяго́нні, дак ён усё вы́калаціць. У той ха́це й ні жыву́. Там абтыка́ю ўсё круго́м на зіму́. То цалафа́нам, то газе́тай, каб ве́цер ня ду́ў ка мне́ сюды́. Нейк гады́ два ці трі по́сьле хазя́іна тапі́ла. А тады́ як ста́лі дро́вы дарагі́я, дроў ні набра́цца, ду́маю: а чаго́ я бу́ду тапі́ць, я туды́ ні хажу́, мне там і дзе́лаць не́чага. У пя́тніцу тро́ху пратапі́ла да ў субо́ту. Дачка́ пріяжжа́ла там спа́ла. Сын тут, а яна́ ўжэ на сваём ме́сьце, яна́ туды́ ніко́га ні пуска́е. Сын на мяне́ руга́ецца: сьпі кала шчыта́ зімо́й. Я кажу́: Са́шка, ні магу́ там спаць. Я там і ні засну́ на тэ́й крава́ці. На́да спаць на сваей, дзе я прівы́кла.

*– Вы казалі побач вёска расійская. Як яна называецца, і ці вы туды хадзілі?*

– Кавалі́ха называ́ецца. Як забале́ла ў мяне́ каро́ва, прівазі́лі ветврача́, ён і сам пріяжжа́ў. Лячы́ў, лячы́ў мне э́ту каро́ву, а тады́ гаво́ріць: зна́еш што, табе́, наве́рна на́да к ба́пке схадзі́ць. Сам мне так і сказа́ў. А тут якра́з з Езяры́шча... Там даро́гу дзе́лалі, і аўто́бус вазі́ў ім яду́, у абе́д прівазі́ў. Дак я тады́ на то́м аўто́бусе туды́ зьеду, пака́ пад'яду́ць рабо́чыя, штоб пасу́ду яму́ забра́ць. Тады́ апя́ць зь ім наза́д. Там была́ учы́цяльніца, яна́ з Вархо́ў сюды́ за́муж ішла́, дак ма́тка е́йная стару́шка. Яна́ ўзяла́ яе́ атту́да з Вархо́ў. Ці зна́ла яна́ што ці ні зна́ла? Ну каро́ве мае́й ні палу́ччала ні́чога. І гавора́ць і лю́дзі к е́й хадзі́лі і е́зьдзілі, у каго́ які́е бале́зьні былі́. Не палу́ччала. У яе́, наве́рна, гвозд быў ці што.

*– А як яна магла цвік праглынуць?*

– С траво́й. Тады́ ў нас ларёк онь дзе быў, там жэ й я́шчыкі былі́, такі́е во ско́бкі ў я́шчыках. А яны́ ж, бывала, йду́ць сьцяго́й і скубу́ць, і скубу́ць. А я́шчыкі яна́ ж на двор выкі́дываець, ну і ні наро́чне ж, з я́шчыка вы́скачыць. Наве́рна, і папа́ў ей так гвозд. Так мы яе́ й зда́лі.

*– У Кавалісе чым-небудзь гаворка адрозніваецца?*

– Адро́зьніваецца. Яны́ ка́к-то гавора́ць ні то па-белару́ску. У іх какі́е-то і пра́зьнікі ёсь у іх сваі́, ні такі́е. Я ні была́ ў іх на пра́зьніках, ну зна́ю, што ў іх ні так, як у нас. Цяпе́рь там ніко́га нет, адзі́н мужы́к жыве́ць. Ні мужы́к, а ма́лец. Жыў з ба́цькам да з ма́ткай, тады́ ма́тка памёрла, ну дзьве сястры́ ў яго́ ёсь, жыву́ць у Віцебске. Дак пріяжжа́юць на выхадны́е сюды́ к яму́. А ён сі́льна вы́піць лю́біць. Ён рабо́таў у Гарадке́, і што́-та яму́ папа́ла ў глаз. Яму́ вы́нялі глаз, ня вы́лечылі, а вы́нялі, і ён цяпе́рацькі е́зьдзіць, пе́ньсію палуча́ець. Ён ра́ньшэ ў Гарадо́к е́зьдзіў, а цяпе́р пераве́ў у Езяры́шча. Тады́ як пае́дзець, дак трі дні нет. Ба́цька памёр, ма́тка памёрла, і ён тады́ прівёў сабе́ жэ́ншчыну, таку́ю пью́шчую, як ён. А тады́ прі́ехалі сёстры да вы́гналі ту́ю ба́бу. Хаце́лі яго́ забра́ць, там у іх да́ча ёсь кала Ві́цебска, на да́чу, штоб ён там жыў. А ён, наве́рно, пабы́ў там зь нядзе́лю, дай кі́нуў. Пріе́хаў апя́ць у сваю ха́ту. У Студзёнке ёсь такі́й адзі́н жыве́ць. Яму́, наве́рно, ужэ́ гадо́ў се́мсят і ні жана́ты. Жыў з ма́ткай, а ма́тка памёрла. Ён то́га зна́ець, к то́му зае́дзець, там но́чку пакуця́ць. Тот то́жэ лю́біць вы́піць. А тада́ пракуці́ць, тада́ гало́дны сядзі́ць. Я ні зна́ю, як ён жыве́ць, як прапье́цца.

***

*– А вы за мяжу гуляць хадзілі?*

– Не, мы хадзілі ў Гу́лькі, у Езяры́шча хадзілі ў клуб, там быў раённы такі клуб, мно́га маладзёжы сабіра́лась. Во ў бара́ках быў клуб, і сюды́ ў Лапцёўку пріхадзілі. І сілы былі́. Ба́ло, прі́дзеш і на рабо́ту по́йдзеш ні спа́ўшы. І ўсё было́ до́брэ, а цяпе́рь нікуда́. У Студзёнке людзе́й было́ мно́га, ай-ё, страх. А цяпе́рь там то́лькі лясьні́к жыве́ць ж жо́нкай. Ім па дзевяно́ста гадо́ў. А сын у іх жыў у Днепрапятро́ўске, быў машані́стам, по́езд вадзі́ў. Дак яны́ кварці́ру прада́лі. Цепе́рь сын тут жыве́ць, іх уха́жываець, а жо́нка жыве́ць у Ленінгра́дзе з дачко́й. Там дзяўчо́нка нібальша́я, у сад во́дзіць, с са́ду прі́во́дзіць. Калі́ быва́ець ле́там пріяжжа́ець, калі́ агаро́д паха́ць, у я́гады. І дзяўчо́нку прі́во́зіць с сабо́й сюды́ у Сьцюдзёнку.

Я ўсё хаце́ла зьдзе́лаць хоць завяшча́ньне на ха́ту. Пусь бы было́ для ўся́каго слу́чая. Быва́е памру́, дак ні ў ко́га ніякі́х дакуме́нтаў. Во я хацёнку прадаю, дак тут была́ яка́я-то ба́ба атазва́лася. Уну́чка мая́, дачкіна́, яна́ ўжо два гады́ на медсястру́ ву́чыцца. Аста́лась дзе́вяць ме́сяцаў яшчо́ вучы́цца. Дак яна́ прапусьці́ла яе́ (пра продаж хаты) ў інтэрнэ́т. Дак яка́я-та жэ́ншчына зь Мі́нска з ва́шага звані́ла. Гаво́ріць: у нас ёсь да́ча ат сьвякро́вы аста́ўшы. У Не́ўлі на беряжку́ о́зяра до́мік. А мужы́к ня хо́чэць там быць. Мужыку́ на́да така́я дзяре́ўнязаглу́шыца, штоп нікаво́ ня ві́дзець. Хо́чуць у таке́й дзяре́ўні пажы́ць. І пазвані́ла э́тай То́ні ў сільсаве́т. У яе́ тут сяструшка [дваюрадная сястра] жыве́ць у Мішу́ціне адна́, а друга́я ў Маке́еве, дак хаце́ла б сюды́ к ім паблі́жэй. А То́ня ж зна́е, што мая́ сьвякро́ва памёршы, дак яна́ мне пазвані́ла сюды́: ці прадае́ш ты? Я гавару́: прадаю. Дак от мне пазвані́ла ба́ба та́я да гаво́ріць: А ці навяла́ ты дакуме́нты какі́е на ха́ту? Я гавару́: мі́лая мая́, а куды́ я сайду́ во така́я? Мне е́слі машы́ну наня́ць. С Азяры́шча чалаве́к... У мяне́ э́та няве́стка, ей апера́цыю дзе́лалі, яна́ ня мо́жэць, селязёнку вы́нялі. Яна́ на валасіпе́дзе ня мо́жэць е́зьдзіць, дак наніма́ець там шафёра. Сто пядзіся́т ты́сяч, што завязе́ць у Езяры́шча. І ў васкрасе́нье за е́й прие́дзець, апя́ць сто пядзіся́т. Дак на́да трі́ста ты́сяч адда́ць. А ў Віцебск дзе́сець ты́сяч, што зье́хаць. Э́то паду́май, а? Абнаглеўшы дзя́дзька, зна́е, што на́да. Ну яна́ ре́дка е́зьдзіць, мо́жэ разы́ два ці трі ў год.

*– Чаму вёска называецца Ламаносава?*

– Іспрадве́ку так называ́ецца. Ре́чка яе́ перегара́жываець, че́рез мост. Мы на э́тым баку́ маста́, а яны́ на то́м баку́. А там то́жэ ніко́га нет. Сёлета зімава́ла два чалаве́кі. Ну там тре́ці яшчо́ ёсь адзі́н, то́жэ ма́лец. Ён маёй дачкі́ раве́сьнік, па со́рак сем гадо́ў ім. Ён ні жані́ўся ні ра́зу. То́жэ ба́цька з ма́ткай былі́ ста́рые, ба́цька быў паралізо́ваны, і ён іх уха́жываў, дак яму́ там не́скалькі плаці́лі. А цяпе́рь зье́зьдзіў разо́к у Ленінгра́д, тут знако́мы пріяжжа́ў, забра́ў яго́ каму́-та да́чу реманці́раваць. Дак ні зна́ю, пра́ўда ці ні пра́ўда, гаво́рацць, бу́тто заро́біў дзе́сець мільёнаў. Ён там быў пашці́ два ме́сяцы. Дак от там Іва́н Ціто́ў, яго́ жо́нку паралізава́ла. Яе, наве́рна, трі ра́за паралізава́ла ці чаты́рі ўжо. Шчэ с наября́ ме́сяца. Мы е́зьдзілі на флюраграфі́ю. Ён е́зьдзіў, а е́й пло́ха. Ён там і вы́піў падхадзя́шча, наве́рна, з друзья́м, то́жэ даўно́ ві́дзяўся. І сра́зу ско́рую вы́зваў, як прие́хаў. І вот як забра́лі яе́ ў Віцебск, так і сяго́ні там. Ужэ́ вро́дзі чаты́рі разы́ яе́ трахану́ла. Там ужэ́ дачка́, яе́ дачка́ рабо́таець ко́жаным врачо́м, дак там наняла́ і сядзе́лку ей, і масажы́ста, дак яна́ сюды́ яе́ і не вязе́ць.

*– А Халамер'е так заўсёды называлі?*

– Наве́рна, я то́чна ні зна́ю. Сюды́ прішла́ у підзіся́т дзевя́тым гаду́. Было́ мне два́ццэць трі го́ды.

*– Там Пляханава, а як раней яго называлі?*

– Там жэ й Бедаві́цы ёсь, Плеха́нава ун туды́, дзе магазі́н, за мост. А тады́ во дзе кла́дбішча, на го́рку, як пады́месся, Уша́рына дзяре́ўня. Усё падзе́лена. А Ярыгіна, во дзе жыве́ць э́тат, што з ва́мі быў Віта́лік. А тут Пруд, дзе твой брат жыве́ць, а ты там на Ключэ́, а за масто́м дзерявушка. І ўсе пустэ́е.

*– А некалі ў Лапцёўцы і школа была?*

– Шко́ла была́, онь там была́, дзе пасьле́дні дом, як е́дзеш у Ламано́сава. Там дом стая́ў, шко́ла стая́ла.

*– Можа, успомніце, як называюцца мясціны вакол вёскі?*

– Ерахо́ўськія лугі́, там касі́лі, і скот там па́сьцілі. Называ́лісь так, як дзе якіе дзерявýшкі былі́. Ра́ньшэ ж яны́ ма́лые былі́, а тады́ сьсяля́лісь, дзе́лалі бальшу́ю. Я сюды́ прішла́, тут сі́льна гу́ста былі́ ха́ты, адна́ кала аднэ́й. І ребя́т было́! Така́я ў нас была́, Піка́ліха мы зва́лі, яна́ ў Студзёнке была́, у пяка́рні хлеб пякла́, як былі́ бара́кі. Зва́лі Піка́ліха і Піка́ліха, дак у яе́ сем штук было́. І ма́льцы былі́, і дзе́ўкі. У яе, быва́ла, шум, гум. О там, дзе ларёк, там то́жэ да́чніца купі́ла зь Віцебска, дак яна́ е́зьдзіла, паку́ль мужы́к быў. А мужы́к любі́ў вы́піць, а тады́ паехаў у да́льняе сле́даванне, на бальшэ́й машы́не, атту́ль прі́ехаў, гро́шэй зарóбіў, вы́піў крéпка дай пашóў на мóре там дзé-то ў Віцебске, дай на берягу́ мóря й памёр. На сóнцы ляжа́ў. Цяпе́рь яна́ машы́ну прадала́, і ма́ла када́ пріяжа́ець. Бе́рець с сабо́й лісапе́т у по́езд, а тады́ с Езярі́шча на лісапе́це. Калі́ ў грібы́ раз прі́едзець, калі́ разо́к прі́едзець у я́гады за ле́та. То́жэ рабо́таець у дзе́цкім саду́, дак і не́када. А тут падру́гі ёсь, дзьве сястры́, яны́ двайня́ты, дак у э́ту ха́ту ўсё пріяжжа́юць, яны́ рабо́таюць паштыльёнам, дак ім то́жэ выхадны́ – васкрасе́ньe й панядзе́лак, дак у я́гады як прі́едуць – начу́юць. Яна́ іх не пуска́ець, дак яны́ купі́лі свой замо́к і замыка́юць, а другі́ ключ сасе́дке даю́ць, штоб хазя́йка зале́зла, як прі́едзець. Прі́едуць у субо́ту, а у́трам бягу́ць ра́на у васкрасе́ньe. І васкрасе́ньe сабіра́юць, і панядзе́лак. То́лькі по́сьле абе́да е́дуць. І яны́ іх ні ва́ряць, нічо́га, так вязу́ць. Я ду́маю, яны́ шчарві́веюць за э́та вре́мя, така́я жара́. Мы дак сваé ва́рім. То ў ба́ні, у мянé пліта́ там, а не дак на кірпіча́х. На кірпічы́ пало́жым кружо́к і кацёл бальшы́ – вядра́ паўтара́. Быва́ець, што ра́зам прі́едуць зяць да сын, тады́ ўжэ ва́рюць уме́сьце, а тады́ ўжэ дзе́люць. І ўсім хапа́е.

***Расказвае Е. Ф. Крывацкая, 1926 г. н., адукацыя 6 класаў, жыве ў в. Сцюдзёнаўка;*** *запіс зроблены ў 2015 г. В. М. Курцовай, расшыфраваны Л. П. Кунцэвіч.*

Кні́жку напіса́ў бы, як зь дзе́тства му́чыліся. Е́та ж на́да. Так го́ладу нацярыпе́лісь. А сюды́ прівязьлі́... Тут жэ паёк хле́ба быў. І пра́ўда, нас вязьлі́ с тэ́й дзяўчы́най і хлеб зь Віцебска вязьлі́. І мы ўзя́лі ды па бу́лке зьéлі. На́да ж зьесь бу́лку хле́ба ўсухамя́тку. Прівязьлі́, і ён стаў здава́ць, той мужы́к. А-а, вы зьéлі хлеб. А што ты зьдзе́лаеш, зьéлі, па бу́лке хле́ба мы зьéлі.

*– А на танцы маладая хадзілі?*

– У нас у бара́ках там была́ спецыя́льна ко́мната. Мы нікуды́ ні хадзі́лі. І Сурвіно́, і Лапцёўка, і Ка́йкі – усі́ сюды́ пріхадзі́лі. А ігра́ў тут музыка́нт Кіры́ла да й сын яго́ны. Іх нет уж, памёрлі.

*– А ці плацілі ім?*

– Не, я ня по́мню, ра́зьве ма́льцы якіе плаці́лі.

*– А якія танцы танцавалі?*

– Ну такіе: кадрэ́ль, каркавя́к дай по́лька яка́я, ну такіе старі́нные. Ні так, як цяпе́р – зы́баюцца. А тады́ ж на́да было́ шу́стрым быць. Шу́страму на́да ўсю́ды быць, і на рабо́це. Тады́ ў нас у леспрамхо́зе маладзёжы было́ мно́га. І дзе́вак было́ мно́га, а ніхто́ ж у брыга́ду ні браў іх. А я да та́я дзяўчы́на мы ўсё з мужыка́м [мужыкамі]. І грузі́лі, і ўсё дзе́лалі. Ро́білі. Во цяпе́р дарабля́ла на пе́ньсію, ні хвата́ла гадо́ў. Я у патсо́чке атро́біла два́ццэць сезо́наў, а ён, ма́сьцер, пі́саў на жо́нку. Ба́ла, прые́дзець касі́р: што ты тут сядзі́ш, табе́ ж на пе́ньсію ско́ра. А я ду́маю: прыно́сіць распі́савацца. А ў іх дзьве ве́дамасьці ці як. Як цоп на пе́ньсію йці – нет. Год быў, што адзі́н дзень. Ну хто е́та бу́дзець так ро́біць, што адзі́н дзень? Сво́лач. Смалу́ я выбіра́ла ў падсо́чке. Выбіра́ла два́ццэць сезо́наў, а за два́ццэць сезо́наў то́лькі год і два ме́сяцы ста́жу пашло́. Я ж ні зна́ла. А тады́ ўжэ зьня́лі яго́, е́тага ма́сьцера да ста́ла така́я Бажні́цына, жэ́ншчына, дак яна́ мне ўжо тро́ху тады́ патцягну́ла – сем гадо́ў. Да тут год. У лесхо́зе ро́біла: мётлы вяза́ла да хваю́ сабіра́ла, а тады́ пайшла́ ў леспрамхо́з дарабля́ць. Хваю́ сабіра́лі і вазі́лі мало́лі на муку́. Ну ла́пкі, ме́ленькіе ла́пкі такіе. Мётлы вяза́ла, а цяпе́р мёт-

лы не нáда, цяпéр пластмáсавые, а тады́ ж нáда былí мётлы. А тады́ ў леспрамхóзе дарóбіла. Нáда былó больш ішчэ́ рóбіць, а я... Скот жэ дзяржáлі. Пакýль рóбіла ў леспрамхóзе, карóва здóхла. Пакýль сідзéлі... Прáўда, я два дні тóлькі сідзéла, у мянé па двáццэць рублéй за дзень вы́шчыталі. А ён сідзéў нядзéлю, пакýль янá здóхла. Во, як кінуць на людзéй? А тады́ ўжэ нáда былó шчэ рóбіць – цёлка былá пагóнная [прыдатная для выпасу ў стадзе]. Ну як кінуць? Апя́ць здóхнець. Так ужэ́ я кінула. Пашлá на пéньсію – тóлькі дзéсецць гадóў насабірáла. А тады́ ўжэ, слáва Бóгу, нéйкі мушчы́на прыслáў, што ішчы́ дзе якíе спрáўкі. Я палучáла підзісят два рублí. Тады́ ўжэ калхóзнага мне чаты́ры гады́ да на дзяцéй па тры гады́. От цяпéр у мянé двáццэць два гады́ стаж. А ў патсóчке во папрóбуй атрóбіць. Вядрó такóе са смалóй нóсіш. Ішчó як нізка, а то былó высóка лéйка, па лéсьніцы. Валакéш вядрó і лéсьніцу валакéш, і нож тот валакéш. Тады́ на лéсьніцу на э́ту ўзьлéзеш, жалабóк тот пачы́сьціш, з лéсьніцы зьлéзеш, прыёмнік тот вы́калупаеш у вядрó, апя́ць на лéсьніцу лéзеш, нáда падвéшаць. Кала аднэ́й сасны́ скóлькі пля́шэш. І ён во такí гад быў. А хто знаў? Каб янá сказáла, а то вéдамасьці прывóзіць, распíсаваемся, бярóм грóшы. А як цоп – нічóга нет. І дзе ты́е вéдамасьці дзéлісь, дзе якóе што? Мне ужэ́ вóсімсят дзéвецць гадóў. Мáма пражылá мéньшэ, вóсімсят адзін год. Тóжэ ей былó... Вялá карóву ў пóле, а карóва пабéгла да яé завалíла. Завалíла і валаклá мáму, у яé сатрасéньне мазóк, лóпнула жы́лка ў мазгáх. І янá ўжэ тады́ ні сабражáла. Вóсімсят адзін год аджылá. Бáцька памёр у вóсімсят трэ́цім, а дачýшка мая́ да мáма – у вóсімсят чацьвёртым гадý. О так і жывём. А цяпéр сын прыéхаў с Сéвера, здарóўя дýжа нет. Дак от ягó (бацьку) звалóк, памы́ў у бáні, тады́ я пашлá, прышлá нявéстка, пацёрла сьпінý трóху.

**Баньшчыкі**

*– А венікамі парыцеся?*

– Не, я ўжэ ні пáруся атвéку. Як прыдý ў бáню, усё пазакры́ю і бáню аткры́ю. Я скарэ́й, скарэ́й трóху тут галавý памы́ю і скарэ́й надзявáюся. Мне былó, сы́на шчэ ні былó. Дзéда э́тага... пашóў, памы́ла трóху. Чуць прыцягнýла. Тут грязь кругóм, а ён ня мóжэць іці, а я ні магý цягнýць. Тады́ прывялá на калідóр, да як брáзну. Пастая́ла, пастая́ла, а тады́ ягó ў хáту прыцягнýла. А ён жэ пакýль ішóў зьмёрз, тады́ вады́ нагрэ́ла, да грэ́лку налілá ямý. Ён заснýў, і ўсё. А я пашлá і сазнáньне пацярáла ў бáні. І там тады́ пóўзала. І хто б мянé спасáў? Ён ляжы́ць, я ягó прымкнýла. А я пóўзала, пóўзала, чуць да дзьвярэ́й дапóўзала, аткры́ла дзьвяры́ну, вады́ халóднай лінýла трóху. А тут уся́ ў гразí на палý пóўзаўшы. Трóху надзéлася, прышлá. Во як. І зімóй адны́. Каб ні мы зь дзéдам, яé б ні былó дзярэ́ўні.

***

О там смалакýр [смалакурня]. І дамы́ харóшые былí, разабрáлі ўсё на дрóва, перавязьлí, папілíлі. Там смолзавóд назывáўся, смалý гнáлі. От такíе як ат сасны́ пні, тады́ éтые пні ўзрывáлі дзінамíтам, тады́ рэ́залі, тады́ вазíлі. І такí бальшы́ кацёл, чан загружáлі і тады́ палíлі. І зь éстых пнёў смалá выцякáла. І вот э́ту смалý. Кýды́ янá нáда былá. А цяпéр, навéрна, усё хíмія замяшчáець. Цяпéр і патсóчкі нет, ніхтó ня рéжэць, тóжэ, навéрно, хíмія. І тады́ ягó разабрáлі. І тут бы разабрáлі, і сьвéту éтага ні былó б, э́та што мы зь дзéдам удваíх гарбéлі. Ды тут ішчэ́ адзін жывéць, дак ён ужэ́ саўсéм. Сьпíўся, дак ён саўсéм дурны́. Ну алé тады́ ён трóху нам памагáў. Бáла, вады́ прінясéць. А цяпéр ён ужэ́ саўсíм, сам сябé ні абслугóўваець. Дак от раз пріéхалі, сьвет хацéлі абрéзаць, стоўп ужэ́ вы́капалі, а хазя́ін ішчэ́ быў нічóга. Пашóў да гавóрыць: што вы дзéлаеце. А éтат, што напрóці дом, рабóтаў у электры́часцьве, інжынéрам, канчáў у Ленінгрáдзе. Дак от і сьвет ішчэ́ трóху задзяржáўся, і мы тут. Во ўнýчка пріéхала з ребя́тамі, харашó. Бéгаюць па вýліцы, ні машы́ны, нічóга нет. І вóздух такí харóшы, кругóм зéлень. Так харашó ім.

*– А вы самі ткалі?*

– Э́та с кусóчкаў панашы́та. Дачкá былá ў швéйнам. Дак янá катóрые абрэ́зкі, нягóжыя янá прывязéць, а я тады́ іх абрéжу, абрéжу да во панашы́ла. Палавíкі ткáла тут. Дак тады́ ж,

бывáла, лён пáшуць [прыбіраюць], вóзюць машы́ны, нагрýзюць плóха, а яны́ цярáюцца э́тые снапы́. Дак падбірáлі, сушы́ла да мя́ла, да прáла, да й ткáла. Палавікóў наткáла былá мнóга. Даўнó мáма ткáла. Мне нéкалі былó ткаць. Я былá бóльша, а брат быў на вайнé, а бáцька тóжэ. І дроў жэ нет. А ў нас лéсу нет, такíй хмызьнячóк. Дак я зімóй паéду, насякý тóга, а мáма ўжэ пéчку затóпіць, тады́ падбягíць мне памагéць. Дрóвы былí на мне, касíла. І ўсё былó на мне. Па сéмсят сóтак скáшывала, як былá травá харóшая. А éсьці што? – Бýльбіна. Э́та дóма. А тут мы касíлі далёка, за вóсім, за дзéсецць кілóметраў, у лясý. Ён лясьнікóм быў, дак там абхóд быў, там ямý давáлі касíць. Дак от папрóбуй. Дóма вы́берасься – пагóда. Пакýль я тудá заéду – вóблака найшлó і налíў. Ну што? Апяць заварáчывай аглóблі дамóй. Так і касíлі. І скот дзяржáлі. У мянé ляжы́ць пíдзісят ты́сяч на кнíжке ды у дзéда, і ў дачкé двáццэць пяць. Во скóлькі скóту дзяржáлі. А нащтó былó? Цяпéр во безрабóтные мужыкí хóдзяць, а мы што. Стóлькі дзéняг насабірáлі! І дачкý зарéзалі, і грóшы прапáлі. І што цяпéр? І здавáлі карóў, і быкóў дзяржáлі, і сьвінéй здавáлі – усягó.

*– А што рабілі, як свінню рэзалі?*

– Каўбáсы дзéлала. Я дзéлала ўжо каўбáсы і ім тудá пасылáю ў той Кагалы́м. І сáла, й каўбáсы, і тушóнку. Там жэ тады́ тóжэ нічóга ні былó на Сéверы. Хто тады́ хацéў. Э́та цяпéр камерсáнты, дак яны́ кудý хóчэш зьвязýць, ім ліш бы грóшы. А тады́ ж камерсáнтаў ні былó. Пасылáла. Па тры кілагрáмы каўбасы́ ў трохлітрóвых бáнках. Абжáру ў пéчы, тады́ сáлам залівáю і пасылáю. Бывáла, ім высылáю, прыéдуць, тут ядýць, а цяпéр не. Пасьлéднюю дзяржáла сьвíнку, купíла й зра купíла. Янá ўзялá да й здóхла. Я ў бальнíцу ляглá, а яны́... І здóхла. І грóшы прапáлі, і ўсё.

*– А ваш муж быў на вайне?*

– Не, ён быў у Гермáніі. Ягó тады́ забрáлі, як забірáлі. І ягó забрáлі. Ён там быў дзé-та. Ня быў на вайнé. А скóлькі там пагíбла!

***

От такí ён старамóдны быў. Ну пашóў бы ў калхóз. – Ні пашóў. Тады́ ямý ў другíм мéсьце дáлі éтат хýтар. І я тады́, бывáла, карóву вядý па дарóжке, напасý. Туды́ і аттýль. А бáбы брéшуць на цётку. Што карóва наéсца, як бóчка, а íхные ў калхóзе там стáдам. Што яны́ там? І вот тады́ знáю, што былá гразá. І такáя гразá былá, што ўсё. Я вот такí рябёнак і с карóвай у пóлі аднá. Нідзé нікóга нет. І тады́, як далá гразá тáя, у мянé атняліся нóгі. Прáма атняліся нóгі. Я ўжэ дамóй ні магý прыцí. Тады́ дзяцька прыéхаў на канí, мянé пасадзíў на тóга каня́, а карóву вядзéць. А я ні рáзу ні сядзéла на том канí. Чуць дамóй ён мянé прíвёз. От атняліся нóгі, газóй адбíла і ўсё. А што былó абувáць? Цяпéр сапагí, а тады́ ж ні былó. Мóжэ, якíе лáпці былí, ці што. І я як застудзíла нóгі. І аднá нагá ўжэ ў мянé былá карóч [карацейшая], аднá длінéй, аднá карóч. А тады́ ўжэ хто мáме пасавéтаваў... Узялá янá мянé, кірпічы́ну éту палёную у вадý у пасýду какýю-то ўстáвіць, а тады́ мянé апхінáлі éтым адзіялам, і я там. І атышлá нагá. І вот éтым срэ́ствам яны́ мянé і спаслí. Мáма мянé кірпічóм éтым і вы́лячыла. Тады́ ж тазóў ні былó, ну ў якýю шáйку ці дзéжку кірпічы́ну тýю лажы́лі. Як астывáіць вóздух, тады́ ішчó падлíюць туды́ жáркей [гарачай] вады́ на кірпічы́ну. Я тады́ распáрваюся і на пасьцéль і ўкрýчваюся. І вот э́тым спаслí. І так во жывý з нагáмі.

***

Дзя́дзькі [дзядзьку] тóжэ прышлóся. Былó пяць братóў, і ён адзін дзя́дзька служы́ў за ўсíх пяць братóў. Па пяць гадóў. Ён ужэ́ прышóў дамóй гадóў сóрак былó ямý ці мóжэ больш. Во як былó раньш. Дак ты́е жылí... А тады́ прышóў – ямý ўжэ хáта, аддáлі тýю бáцькіну. Стáранькая такáя былá. Ён так і жыў. Тады́ лéсу тóжэ ні былó, стрóіцца нéчым, так ён і жыў у тóй хáце. Э́та ж нáда былó за ўсíх братóў атслужы́ць! Ой, Гóспадзі! Як успóмню... Як бы ўмéла пісáць, дак бы ўжэ якýю кнíжку напісáла. Цяпéр ужэ́ ўсё, нічóга ні нáда.

***

Я зна́еш, дзе жыла́ ў вайну? – Се́нненскі раён, Хадча́нскі сільсаве́т, дзерэ́ўня Рубе́жніца. Там я жыла́ ў вайну́, а тады́ ўжэ по́сьле вайны́ ў калхо́зе была́, а тады́ с калхо́за да́лі напраўле́ньне на трох чалаве́к у Віцебск у ДСК – у домастраі́цельны камбіна́т. Дак вот я і дзяўчы́на, і мушчы́на ішчо́ быў. Дак у яго́ ба́цька у Віцебске, дак ён яго́ аста́віў там, а мы зь дзяўчы́най сюды́. Нас прывязьлі́ на загато́ўку ле́са. Э́та было́ ў со́рак сядзьмы́м гаду́ ўво́сень. Дзяўчы́на та́я год адбыла́ сваё дай вярну́лася туды́ ў Віцебск, у ДСК то́е, а я сабе́ нашла́ дру́га тут. Вот мы й аста́лісі.

*– А ў школу вы хадзілі?*

– Я шэсь кла́сы ко́нчыла да вайны́, а ў вайну́ ні было́. А по́сьле вайны́ ні было́ вазмо́жнасьці хадзі́ць. Ба́цькі ні было́, а нас было́ пя́цера. На́да было́ ў калхо́зе ро́біць. Не бу́дзеш ро́біць – гаро́д адбяру́ць. А тады́ ж то́лькі з гаро́да жылі́. Што там па́лачку ту́ю заро́біш? – Нічо́га. Дак от ні прышло́ся мне. Шэсь кла́саў ко́нчыла да вайны́ і ўсё.

## Кулак

Тут, каб усю біягра́фію, дак кніжка нізьве́сна яка́я была́ б. Ско́лькі му́кі я пацярпе́ла, ой! Ба́цьку раскула́чылі. Ён да жані́цьбы ў по́ле ганя́ў, а тады́ жані́ўся да от такі́ трудзя́га быў. Ма́ма каза́ла: нікада́ малака́ ні е́лі нізьліва́нага. Малако́ зьліва́лі, ма́сла вазі́лі ў Віцебск прадава́ць, зямлю купля́ць. Во які́ ён бага́ч быў. Конь быў, да дзьве каро́вы, да сьві́ньне. А яго́ раскула́чылі і пасадзі́лі. Дзе́сець гадо́ў да́лі за свой мазо́ль. І ха́та была́ бальша́я – на школу ўзя́лі. А нас астало́ся пя́цера ребя́т, дак да́жэ с-пад пала́ вы́сыпалі бу́льбу, вы́граблі. Усё-усё падабра́лі. І скот. Вясна́ прі́шла́, дак мох цяга́лі да калату́ху ва́рілі. А ўжо к Па́ске прышло́ся... ма́ма дзе́-та там качарго́й бу́льбіну вы́капала, да сьпякла́ на скаваро́дзе заме́ст яйца́. Во яко́е было́ го́рэ. Во як мы жылі́. Ба́цьке дзе́сець гадо́ў за свой мазо́ль. Нічо́га ні дзе́лаў, які́ ён бага́ч быў? Ён тро́ху гра́матны быў, дак ён піса́ў там каму́ ў Маскву́. Пяць гадо́ў сьня́лі. А такі́ трудзя́га быў, ро́біў, дак тры гады́ і шэсь ме́сяцаў атсядзе́ў, а то́е ў зачо́т, што ро́біў пастаха́наўскі. Прышо́ў. А ма́ме, што дзе́лаць з на́мі? Адзі́н памёр, ма́лый э́тат. Каро́вы ні было́, а ма́ма радзі́ла по́сьле ба́цькі, малака́ ў грудзя́х ні было́. Быва́ла, зьбе́гаець к ба́бе, к ма́тке сваёй, малака́ прынясе́ць. А які́е мы былі́ ня́нькі? Па пяць, па тры гады́. Кі́нець нам э́тага ребянёнка, а сама́ ў калхо́з. Дзень се́на су́шыць, а на ноч малаці́ць. А мы ня́ньчым. Мы хоць па ло́жке зьядзі́м, паку́ль то́му мало́му, дак мы... Так ён вёўся, вёўся й памёр. Тады́ яна́ раздала́ нас і паехала на Ўкра́іну. Пае́халі мы на Ўкра́іну, а ма́ма ніграма́тная, і вот ні зна́ю, дзе мы там былі́. На не́йкей ста́нцыі былі́. І там яна́ рабо́тала. А жыць дзе? Дак не́йкая жэ́ншчына пусьці́ла. Нас тро́е, яна́ забра́ла бо́льшых. Пат крыльцо́м у э́тай ба́бы жылі́. Тады́ дава́й хварэ́ць мы жаўту́хай. На́да е́хаць наза́д, а е́хаць не́шчэм наза́д, прадала́, што сваё. Прые́халі ў Віцебск, і яна́ мяне́ к цётке, ба́цькінай сястры́, другу́ю – к ба́бе, а сын бо́льшы быў. Устро́ілася, дзе до́скі пі́люць. Во так му́чалісь. Тады́ ба́цька прышо́ў. А жыць дзе? Ма́ма дзе рабо́тала, да́лі дасо́к. Вы́капаў зямля́нку на гарэ́. Жылі́ ў зямля́нке. Во яка́я жызь была́. А тады́ вайна́ ста́ла. А куды́ дзе́цца? Пяць чалаве́к, е́сьці што́-та на́да. Пае́халі к ба́бе апя́ць, к ма́мінай. Там зі́му перазімава́лі, а тады́ ў сваю дзярэ́ўню. А што? Ха́ты ні было́, а клець така́я аста́ўшыся была́ і хало́дная пастро́йка – пу́ня, ток. А ў таку́ там была́ ёўня, хлеб сушы́лі. Дак ба́цька ўжэ там абдзе́лаў ту́ю ёўню, і мы ўжэ там жылі́. А тады́ ўжэ дзялі́лі э́та калхо́знае ўсё. Хлеб дзялі́лі. Ба́цьке, сямья́ ж бальша́я, паўно́рмачкі то́лькі да́лі. Хто там быў, таму́ но́рма, а ў каго́ бо́льшая сям'я – паўтары́ но́рмы. Ну і тады́ яны́ э́та жжа́лі і злажы́лі ў таку́. Палаві́на дзярэ́ўні была́ свабо́днай, а палаві́на – не́мцы. Там такі́е не́мцы былі́ задры́паные дзе́сець чалаве́к. Ну й насабіра́лі мальчы́шэк у палі́цыю. Два браты́ было́, адзі́н нача́льнік палі́цыі, а другі́ ў палі́цыі.

### Партызаны

Тады́ парцізáны прышлí. Дак палíлі ж бы начáльніка да паліцáя, дак не, спалíлі нас. Прышóў к нам у ток. А мы што? Бáцькі ні былó. У пóле бáцька нанЯ́ўся апЯ́ць ганЯ́ць. А што дзéлаць? УзЯ́лі да кíнулі ў éта жы́та й загарéлась éта жы́та. Скóлькі там былó тагó жы́та! А мáма радзíла. Ну што тады́... радзíлі, як былó. Ну скóлькі той дзяўчóнке былó? Вяснóй радзíла. І мáма як спужáлася і ня мóжэць éтага рабянёнка хоць вон вы́нясьці. Бáбу, чэ́цьвера ребЯ́т, мужы́к на фрóнце і тýю спалíлі. Парцізáны называéецца. Тады́ ўжэ ноч стáла. Бáцька прыгнáў с пóля. Усё згарéла. Што былó выкíдываць? І тады́ такí куст быў кала éтага вóгнішча, паслáліся трóху, што як былó, і ляглí ў радóк спаць. А наляцéў нóччы самалёт. Мóжа нямéцкі, мы ні знáем. Як начáў страчы́ць. Э́то так лáдно, што мы ні папáлі пад э́ту вóчарадзь, а так бы ўсíх нас і пакасíла. І бóмбы кідáў, ну мóжэ мéтраў сто підзісЯ́т ат нас. Там такíе Я́мішчы – хáта ўлéзець. Во як былó. Ну вот якíе парцізáны былí? А паліцáі засталíся. Дзяўчы́на былá, учы́ла ребЯ́т. За што яны́ яé растралЯ́лі? За то, што начáльнік палíцыі хадзíў к ей. Дак ягó ж ні растралЯ́лі, а дзяўчы́ну тýю растралЯ́лі. Тады́ і хазЯ́ін яé чуць ні згарéў, дак атцягнýлі, казáлі.

### Паліцай

Тады́ пóсьле вайны́, як асвабадзíлі нас, паліцáй éтат, а мы жылí па-сасéдству, ён атступáў. Нáда ён нéмцам быў! Шэ́сьцера ребЯ́т, сядзьмы́м бярéменная, і ён ужэ́ нóччы канЯ́ запрóг, паéхаў атступáць. А тады́ чэраз некатóрае ўрэ́мя вярнýўсь. Камý ён нáда? Тут нáда быў, як сваíх глушы́ў [здаваў, выдаваў немцам]. Бывáла, паéдзець... Тады́ што былó браць у людзЯ́х? Тады́ ж ні вядзёр ні былó, ні бачкóў з вайны́, адны́ бóчкі дзеравЯ́нные. Бывáла, вязýць цэ́лы воз бóчак. Паéдуць яны́ ўжо грáбіць. Тады́ ўжэ як нас асвабадзíлі, бéглі салдáцікі, спрáшвалі стáрасту, хацéлі распрáвіцца. Ну ніхтó ня вы́даў. Тут Рубéжніца, а тут Савýшы – кілóметр. І яны́ забéглі, éтые салдáцікі, наляцéў самалёт, свой. І пакасíў éтых салдáцікаў. Дак вот тады́ зрáзу сем чалавéк харанíлі тут у Савýшах, а астальны́х вазíлі ў Хóдцы. Вот і свой самалёт. А тады́ ўжэ, як асвабадзíлі, нáда былó на прыпíску йцí. Ну а дзе ён дзéнецца? Бывáла нóччы дóма, а на дзень... У нас лéсу ні былó, а ўжо жы́та бальшóе, хадзíў у жы́та. На прыпíску нáда былó йцí, і вот ён пашóў. Дак вот ні знáю, ці як ён туды́ йшоў, ці як назáд с Сяннá йшоў. Там у нас васімнáццэць кілóметраў ат Сяннá, ягó хтó-та там і забíў, э́тага паліцáя. А брат, што начáльнікам быў. Як ён дакумéнты сахранíў, і быў ён у ваéнным. Ён ужэ́ ваéнны, фóрма ў ягó. А тады́ ўжо мáма раскáзвала. Мальчы́шкі ж ягó запóмнілі, як ён éзьдзіў. І хтó-та папáўся з éстых мальчы́шэк у áрмію як дапрызы́ўнік. І ягó там разаблачы́лі. Мальчы́шка ўжэ пайшóў к начáльству, і ягó разаблачы́лі. Дак казáлі: разьдзéлі і ў адны́м бяльлí павéшалі пéрад салдáтам [салдатамі]. Во як. А мы гóлад цярпéлі. Як бáцьку забрáлі – гóлад, тады́ ў вайнý нічóга ні былó. Згарэ́ла жы́та, бáцька ўжэ хадзíў зь мяшóчкам прасíць па мíластыні, запахáць зямлю́. А éсьці што? Што éсьці? У вайнý былó так і пóсьле вайны́. Во як.

***

*– Раскажыце, як з мужам пазнаёміліся, як замуж ішлі?*

– Пазнакóміліся, шэсь мéсяцаў падружы́лі трóху да й стáлі жыць. Тут былí ўсЯ́кіе, ну а ён такí быў рабацЯ́га, да ня піў, ня курíў. Ну я й сагласíлася. Так мы й асталíся жыць. А тады́ там леспрамхóз там за мастóм быў, былí барáкі чаты́ры. А тады́ леспрамхóз э́ты ліквідзíраваўся, а куды́ дзéцца? Ягó, прáўда, прыглашáў мáйсьцер, куды́-та ён паéхаў і ягó зваў, раз ён трудзЯ́га такí быў. (Ён во ляжы́ць, як рабёнак, ні панімáець нíчóга. А я ішчó... Дак вот сягóні шчэ нічóга ні éла, таблéтак мнóга вы́піла, дак рвóта былá ўсё ўрэ́мя.) Так мы й асталíся. А тады́ хáту э́ту, стáлі стрóіцца. Тóлькі тры сóтачкі зямлí дáлі. Ну што мы хáту э́ту пастáвілі, тут во дарóжка былá, вóйдзе сарáй. І ўсе тры сóткі. А тады́ ўжэ пóсьле. Скóлькі мы тут

му́чыліся! І ў лясу́ паха́лі, бу́льбіну яку́ю. На́да ж жыць было́, а тады́ ўжо да́лі, разрашы́лі пятна́ццэць со́так. Пяску́ то́га да́лі. Во так і жывём. І дачку́ схарані́ла тры́ццаць адзі́н год. Ці лёгка мне?

*– Ці пяклі самі хлеб?*

– Пяклі́ хлеб. Така́я была́ бо́чачка, учы́нім, на пе́чку, паква́сім тро́ху, а тады́ наза́ўтрэ заме́сім да й у пе́чку. Пяклі́ хлеб харашо́. Было́ ўсяго́. Зра́зу ж то́жэ ні было́, тады́ ўжэ не́як, як Маленко́ў стаў, ці хто ён. Тады́ тро́ху ста́ла. А то ж ні мукі́ ні было́, ба́ла, макаро́н бра́лі, разма́чывалі да бліны́ пяклі́.

*– А вы макароны рабілі?*

– Макаро́н рабілі с крухма́лу, такі́й харо́шы макаро́н. А цяпе́р я ні дзе́лаю, у мяне́ жалу́дак плахі́ ўжо стаў. Ужэ́ во́сімсям дзе́вець гадо́ў, што ж.

*– Вам тут не страшна, ваўкі не прыходзяць?*

– Ваўкі́? Да наве́рна былі́. Тут пат хлязо́чкам было́ два кро́лікі, сьне́гу навалі́ла, дак кро́лікаў падаві́ў. Я́шчык э́ты сьцягну́ў сюды́ на пол і кро́лікаў падаві́ў. Ну воўк і́лі ўжэ саба́ка які́. Но́ччы. І два яно́ты было́, ўжэ прыхадзілі. Адзі́н зімо́й прышо́ў, а другі́... Я во тут што́-та дзе́лала кала стала́ ні так даўно́. Паляжу́, ку́ры бягу́ць, і ён за і́мі. Я зра́зу дагада́лась, што е́та яно́т. Як саба́ка, такі́ лахма́ты. Я ку́ртку схваці́ла да пабе́гла. Напуга́ў курэ́й. А ку́ры э́ты жо́ўтые, яны́ ні лята́юць ду́жа, е́та бе́лые, дак яны́... Здо́хлі тады́ шту́кі два, ну ён ні задра́ў. Я вы́скачыла, да я яго́ прыбіла то́га яно́та. Ён жа жыву́чы. Я наці́снула яго́ бачко́м і на бачо́к налажы́ла. Сын прышо́ў дабіва́ў. А ўво́сень прыхо́дзіў, што курэ́й да́віць. Ня крот, а тхор. Дак то́жэ ён яму́ па́стку паста́віў. А со́вы – нет спасе́ньня. Курэ́й бес канца́ дзяру́ць. Про́шлы год, наве́рна, шту́кі дзьве задра́лі. На ву́ліцу нільзя́ вы́пусьціць. Каб жэ папада́лі плахі́е, а то харо́шые, што кладу́цца [нясуцца]. Ка́жны год шту́кі дзьве, а то і бо́льшэ задзяру́ць.

*– А лісы прыходзілі?*

– Ну ліс ішчэ́ ні было́. Шчэ́ ня ві́дзела. Яно́таў два было́, і во́ўк. Ну як без курэ́й? Во пае́хаў дзе́вець штук купі́ў. Ну кладу́цца. Ні цыпля́та, а такі́е, што кла́лісь.

***

Як стро́ілісь? Тады́ ўжэ тро́ху ба́цька зажы́ўся, а зра́зу я ім памага́ла нало́г плаці́ць, а тады́ ўжэ ён даў нам тры ты́сячы. Заплаці́лі за е́та, што зрубі́лі. Хазя́ін сам лес э́тат апцяса́ў і зь і́мі то́жэ памага́ў. А іх было́ пяць чалаве́к. Дак вот тры ты́сячы мы адда́лі за э́та, што яны́ зрубі́лі нам ха́ту, а тады́ астально́е ўсё сам дзе́лаў. Пе́чку наніма́лі дзе́лаць, ужэ́ перадзе́лывалі. Э́та ўжэ друга́я. Э́та ўжэ другі́ пячні́к дзе́лаў. Дак ён тут як зьдзе́лаў нам, дак ні прыступі́цца. А тады́ ён пае́хаў, дак мы зь дзе́дам усё раскапа́лі да па-но́ваму. Як налажы́ў кірпіча́! Там шыро́ка, сташць на загне́це, кру́ціцца. Трубу́ зьдзе́лаў у палаві́на пе́чкі. Пае́хаў, а мы зь дзе́дам усё разабра́лі да па-но́ваму злажы́лі. Тады́ як прые́хаў, дак ужэ́ зь дзе́дам трубу́ туды́ вы́веў. І шчыт перакладалі. Палажы́лі нам, ну ён, пра́ўда, гарэ́ў, тады́ згарэ́ў. Мы разабра́лі, дзед гаво́рыць: бу́дзем прымяча́ць, дзе які́ дымахо́д. Прымяча́лі і са́мі злажы́лі, і харо́шы шчыт быў. Са́мі злажы́лі, ішчо́ й дачка́ памага́ла.

## Дачка

Така́я дзе́ўка была́, ру́кі залаты́е. І шы́ла, й вяза́ла. Яна́ атняла́ мне ўсё. Яе́ ж мо́жна было́ і ня ре́заць. Э́та ж пра́кціка ім на́да была́. Што яны́ яе́ палажы́лі. О, папро́бавала б дзе́сець кіло́метраў ат вакза́ла пашці́ да Студзёнкі. А яна́ ж прахадзіла пяшко́м. І атсю́ль хадзі́ла. А яны́ яе́ палажы́лі і заре́залі. Я пае́хала тот дзень туды́. Ай, ма́ма, паме́рла! Го́спадзі! Я пае́хала, тот дзень пае́хала, а яе́ ўжэ нет жывэ́й. А папро́бай зь дзяре́ўні прі́ехаць у Мінск. Што там на́йдзеш? Дак от я да бальні́цы да тэй дабра́лася, а там дзяўчы́на адна́. Яна́ каза́ла, што ў яе́ така́я са́ма хваро́ба, як і ў мае́й дачкі́. Мне, гаво́ріць, ні ста́лі дзе́лаць. Ну яна́ там

